

# Злая зорка

Раман

Где стол был яств,
там гроб стоит.
*Г. Р. Дзяржавін*

## Раздзел 1

## Чаканне радасці

### I

Жаніўся Глеб. Маці хвалявалася. А бацька праяўляў спакой, той уласцівы яму спакой, падсолены ironiяй, які ціхмяную і сапраўды спакойную – не ў прыклад мужу – Вольгу Андрэеўну абураў і злаваў. Такое абурэнне ігрой мужа ў абыякавасць за трыццаць гадоў сямейнага жыцця апаноўвала яе не многа разоў, ды і калі тое было – у маладосці, калі яна не спазнала яшчэ ўсіх таямніц мужавай душы, не раскусіла, што ў большасці выпадкаў гэта сапраўды была ігра, забава яго. У другой палавіне іх шлюбу, калі падраслі сыны, такое, бадай, не здаралася; і за ironiяй яна бачыла яго бацькоўскі клопат.

А тут такая падзея – жаніцьба сына, малодшага! Першае вяселле ў сям'і, а яму жарцікі, смяшкі, ды яшчэ пасля таго, як сам жа бязлітасна нагрузіў яе – перанёс вяселле з рэстарана ў свой дом.

Не, не перанос вяселля, не мужавы жарты ў адрас маладых, сватоў расстроілі яе, а непадробная абыякавасць да Барысавай тэлеграмы, што прыляцець ён можа толькі на два дні, на пятніцу і суботу. Дурное начальства – не можа адпусціць афіцэра – і якога афіцэра! – на братава вяселле. Ізноў-такі не спакой мужаў да такой кароткай пабыўкі сына ўзбунтаваў Вольгу Андрэеўну, а яго нежаданне перанесці вяселле з нядзелі на пятніцу. Не абышлося без крутой размовы. Яна не ўяўляла вяселля без Барыса. Як так? Прыляціць ён на два дзянькі напярэдадні вяселля, калі ўсе будуць у клопатах, калі і налюбавацца на яго не будзе хвіліны... Упартасць мужава была тым больш незразумелая, што Ірына і Глеб з радасцю згадзіліся наблізіць вяселле.

Калі Вольга Андрэеўна, атрымаўшы тэлеграму (было гэта ў сераду), пазваніла Ірыне ў паліклініку, дзяўчына ледзьве не заспявала. Тут жа пазваніла бацьку, каб прыслаў машыну, і ўвечары з'ездзіла ў Прыпяць. А пакуль не ходзіць паром, трэба было зрабіць добры круг. Але што такое і паўтары сотні кіламетраў, калі ёсць прычына пабачыць жаніха, прывезці яму звестку пра набліжэнне вяселля!

Усе за перанос вяселля, адзін бацька – са сваімі жартачкамі: «Што, не церпіцца ім? Дык упэўнены: шлюбнай ночы яны не чакалі».

Між іншым, жарт гэты пакрыўдзіў Вольгу Андрэеўну, бадай абразіў: як бы дакор ёй, першы за жыццё, бо яна таксама некалі не дачакалася шлюбнай ночы. І за Глеба было крыўдна, лічыла малодшага сына чысцейшай душой, такім жа ідэалістам, як сама.

Але як ні ведала Вольга Андрэеўна мужа, на гэты раз яна памылялася, калі лічыла, што спакой яго і абыякавасць да падзеі, якая мае адбыцца, натуральныя. Не, Уладзімір Паўлавіч хваляваўся, можа, не менш, чым яна, маці, толькі па-мужчынску, умела хаваючы свае пачуцці. Ды і дзіўна было б, калі б старшыня райвыканкома размяк ад звычайнай жыццёвай падзеі – жаніцьбы сына. Лічыў так. І, аднак жа, хваляваўся. Спачатку высмейваў сябе за гэта лагодна, пасля – бадай са злосцю: «Рассіропіўся, стары дурань».

Звычайна свой ранні працоўны дзень пачынаў з таго, што з галавой акунаўся ў клопаты — званіў у вобласць, у калгасы, выклікаў загадчыкаў аддзелаў, кіраўнікоў прадпрыемства, службаў. З некаторымі жартаваў, іншых уедліва прабіраў — раённых чыноўнікаў, асабліва ў сферы жыццезабеспячэння. Аднойчы яму на партканферэнцыі ўжо выказвалі, што ён па-рознаму адносіцца да людзей — да тых, што робяць на зямлі, і да тых, што сядзяць у канторах ці стаяць за прылаўкамі магазінаў. А сам, маўляў, дзе сядзіш — не ў канторы? Аднак ніхто не пасмеў кінуць камень, што і ён з той жа катэгорыі — чыноўнікаў. Пры ўсім сваім іранічным стаўленні да іншых і да сябе ён папрок адмёў бы. Іранізаваць мог. Але работу яго — не чапай, пра дзейнасць сваю ён меў асобную думку.

У тую раніцу, на здзіўленне супрацоўнікаў, Уладзімір Паўлавіч нікога не выклікаў і нікуды сам не званіў, коратка адказваў на званкі, без жартаў.

Выбівала са звычайнага рытму не само хваляванне — без яго Пыльчанка не жыў,— а тое, што душэўны шквал яго нязвыклы, незнаёмы. Ён не мог нават зразумець прычыну. Ад чаго такая бура? Самому факту жаніцьбы сына ён радаваўся. Перанос вяселля? Але яго больш абурыў першы перанос — не па жаданні Вольгі ці Глеба ці хітруна Пустахода, будучага свата.

З Пустаходам яны лёгка і весела абгаварылі ўсе дэталі ўрачыстасці яшчэ тыдні два назад, паклікалі дырэктара рэстарана, зрабілі заказ. А гадзіны праз дзве-тры пазваніў Сінякоў.

«Вы што — думаеце рабіць вяселле ў рэстаране?»

«А дзе ж яшчэ?»

«Са спіртным?»

«А якое вяселле без чаркі? Народ асудзіць, Пятро Міхайлавіч!»

«Народ! Забылі, у які час жывём? З работы захацелі вылецець? Ды вы... бог з вамі, каб аднаму вам знеслі галаву. Райком падведзяце... Лепшага старшыню калгаса выб'еце нам з сядла. А Глеб ваш не промах».

Пыльчанку перахапіла дыханне. Ад абурэння. Якое хамства! У чым Глеб не прамахнуўся? Выходзіць, падбіраў багатую нявесту? Такая сакратарова думка пра яго сына бадай абразіла.

І Пыльчанка секануў фамільярна:

«Лічы, Пятро Міхайлавіч, што Глебу нявесту я выбіраў. Мядок Пустаходаў мне падабаецца».

Сакратар засоп у трубку — навучыўся разумець падтэксты ў Пыльчанкавых словах, часта нібыта і далёкія ад тэмы дыялога. Збавіў ход: «Справа гаспадарская. Мая задача — папярэдзіць».

«Добра. Будзем піць дома, за зачыненымі дзвярамі»,— зноў жа, як кажуць, па вачах: мог Сінякоў выпіць, грэшныя абодва, але ён, Пыльчанка, любіў пагуляць адкрыта, а Пятро Міхайлавіч і да антыалкагольнага закону рабіў гэта пад коўдрай. Але гэта, мабыць, не дайшло. Сінякоў добразычліва засмяяўся ў трубку.

«Раю яшчэ адно. Не рабі шуму на Першамай».

«Чаму?» — ужо зусім шчыра здзівіўся Уладзімір Паўлавіч.

«Моладзь не зачыніш. А дом ваш на бойкім месцы. Людзі дэманстраваць будуць, а савецкая ўлада гарэлку п'е, гуляе».

«Не гулянка гэта, а вяселле. Народная традыцыя. Якой не адна тысяча гадоў. А што да людзей, то, калі мы сядзем за стол, яны таксама будуць за сталамі. І даю вам слова, што піць будуць не райспажыўсаюзаўскі квас, хоць мы і забаронім перадсвяточны продаж. Вось тут... у сувязі з нашай мудрай пастановай... вы маеце рацыю: мне і маім гасцям лепш выпіць да свята».

Вось так і пераносілі вяселле — усё бліжэй і бліжэй. На радасць маладым.

Магчыма, гэта і ўзбунтавала Уладзіміра Паўлавіча — што ён усім уступаў. Але калі яшчэ і з-за Барыса трэба ламаць парадак... Барыс ламаў хаду падзей усё жыццё. Любімчык яго, першынец, з малых гадоў выкідваў конікі і нямала папсаваў нерваў і маці і яму.

Два гады назад выкінуў «каронны нумар» — папрасіўся ў Афганістан. За год, пакуль ён лятаў на баявыя аперацыі, маці пастарэла на дваццаць гадоў — не спала, не ела.

Вярнуўся з ордэнам. Прыехаў на пабыўку — узбунтаваў усю моладзь райцэнтра, ён, бацька, радуючыся пабыўцы сына, жыў са страхам, як бы старшы лейтэнант не ўліп у аван-

туру. Кажуць, дзіця такі зрабіў адной вароне. Але замнога матак стараліся, каб ажаніць яго са сваімі дочкамі, таму, мабыць, і не знайшлося той, разумнай, якая ўгаманіла б яго. Усе дурніцы — для Барыса. Яго легкадумнае, зняважлівае стаўленне да дзяўчат вельмі засмучала маці.

Зусім іншы характар у Глеба. Пяць гадоў назад, калі толькі ён прыехаў сюды, сын-студэнт напрасіўся паездзіць з ім па раёне, паглядзець, як жывуць палешукі. Абедалі ў старшыні калгаса Пустахода, на пасецы, на беразе Прыпяці. За гаспадыню была дачка Івана Іванавіча, студэнтка медінстытута. І вось: ён вучыўся ў Кіеве, яна — у Мінску, сустракаліся тут на канікулах, па святах. Шэсць гадоў вернасці. Не па-сучаснаму. Чаго добрага, такія ідэалісты сапраўды маглі чакаць шлюбнай ночы. Вольга ў захапленні ад такой вернасці. А ён, грэшны, каб даведаўся, што сын такі нявіннік, напэўна, перастаў бы паважаць яго. Яму больш імпануе гуляка Барыс, па вачах анёл, а па спрыту разбойнік. Сам быў такім, Вольга і цяпер часам шпіляе за яго даўнія-даўнія грахі.

Уладзімір Паўлавіч усміхнуўся гэтым думкам і ўспамінам, яны развесялілі яго, такімі вось думкамі можна выраўняць свой настрой.

Уласна кажучы, чаму ён так заводзіцца? Утаймуйся, Валодзя! Але... нялёгка зразумець настрой іншых людзей, няпроста, выходзіць, растлумачыць прычыны і свайго ўласнага настрою. Раздражнёнасць, нават такую — беспрычынную, скіраваную на чужых і блізкіх, ён яшчэ можа зразумець, нешта падобнае здаралася і раней. А вось адкуль такая трывога? Здаецца, радавацца ды радавацца трэба. Дык не ж. Хіба не радасць жаніцьба Глеба, прылёт з Закаўказзя Барыса? Нават вясна павінна настройваць на радасць. Тыдзень стаіць не красавіцкая — чэрвеньская пагода. Спякота ўдзень, цяплынь уначы. Устань паглядзі — і ўбачыш, як расце трава, распускаюцца дрэвы. Учора яшчэ на каштанах былі набрынялыя карычневыя пупышкі, а сёння вунь проста на вачах выстрэльваюцца зялёна-ружовыя лісточкі — ажно вочы слепяць.

Уладзімір Паўлавіч стаяў перад адчыненым акном, глядзеў на каштаны, якія праз дзень-два кронамі заслоняць плошчу,

зацямняць кабінет так, што ў хмарныя дні прыходзіцца ўключаць святло. Іх чысцілі, падразалі, але каштан – не таполя, грунтоўнай абрэзкі не любіць, старшыня забараніў абкарнаць іх так, як таполі на другім баку плошчы – адны ствалы тырчэлі, як пасля бамбёжкі. Безумоўна, хутка выганіць маладыя парасткі, разрастуцца зялёныя шары, але цяпер на такія дрэвы глядзець непрыемна, не памагаюць яны выраўнівацца настрою. Іншая справа – каштаны, яшчэ большая любасць – чаромха. Глядзеў уніз з другога паверха і... пераконваў сябе, што бачыць, як растуць пяшчотныя лісткі. Такое ўглядванне ў дрэвы і кусты, разважанні пра адвечныя цуды прыроды на нейкі час адцягвалі думкі ад клопатаў сямейных, рабочых, нават пераставала брыдка смактаць сэрца незразумелая трывога. Красуй, прырода, красуй, радуй людзей! Радуйся і ты, Уладзімір Паўлавіч! Жэніцца сын! Сёння. Каб ён быў звычайны чалавек, дык варта было б памагчы жонцы. Але ён дзяляга, чыноўнік, бюракрат, а не чалавек. Вольга пакрыўдзілася за пазаўчарашнюю размову, таму і не папрасіла ніякай дапамогі ад яго. Хатняй. Можа, ад таго і на душы пагана. Праўда, ён патурбаваўся, каб памагчы ёй. Заказаў закусь у рэстаране. Пазваніў Пустаходу, папрасіў прыслаць адну з нявесціных сясцёр памагчы Вользе Андрэеўне.

«У цябе там гаспадынь хоць адбаўляй, а ў жаніха – адна маці. Хацеў кухара паслаць – адмовілася».

Сват адгукнуўся на просьбу з разуменнем. Але разважыўшы, Уладзімір Паўлавіч падумаў, што наўрад ці ўхваліць Вольга яго ініцыятыву, напэўна, не ў традыцыі гэта – прасіць такой дапамогі ў бацькоў нявесты, заклікаць на падрыхтоўку вяселля кагосьці з іх боку, тым больш сястру нявесты.

«Трэба пазваніць Вользе, каб не ўздумала адаслаць назад дзяўчыну. Жаночыя дзеянні немагчыма прадбачыць. Пакрыўдзяцца Пустаходы».

Трэба. Але чамусьці не хацелася званіць, і гэта таксама раздражняла і выбівала з душэўнай раўнавагі.

Увайшла сакратарка, паклала на стол пошту і гэтак жа нячутна выйшла – ні крокаў, ні скрыпу дзвярэй. Нават гэта раздражняла. Раней Ліда хадзіла ў чаравічках на высокіх

абцасіках, і яму падабаўся стук яе абцасікаў, ні ў каго з супрацоўніц такіх не было — што музыка, ён пазнаваў яе крокі далёка на лесвіцы, у калідоры. І раптам Ліда перайшла на нейкія вельмі ж мяккія басаножкі. Ён не адразу ўгадаў прычыну, пакуль не сказала яго намесніца Кацярына Панасаўна, што Ліда цяжарная.

Ён здзівіўся са сваёй нездагадлівасці, пакпіў з гэтай нагоды ў прысутнасці Вольгі: «Моцна ж я пастарэў, калі не дапяў сваёй сівой галавой да такога адкрыцця». І на другі ж дзень сказаў дваццацігадовай сакратарцы — Лідзія Сяргееўна, збянтэжыўшы маладзічку.

А цяпер нядобразычліва падумаў: «Бегае, што мыш».

І наконт дзвярэй — сам упікнуў гаспадарніка, што яны «спяваюць». Падначаленыя пастараліся, каб дзверы сталі абсалютна бясшумнымі. Зноў, выходзіць, блага: ніякага скрыпу. Добра, што з вуліцы — гама гукаў. Празвінеў у недалёкай школе званок, хлынуў лівень дзіцячых галасоў, смеху. І толькі гэта пацешыла. Падумаў: «У такія незвычайна цёплыя дні — у поле б іх, дзяцей, у лес». Прыгадаў, як прагульваў урокі сам і як часта гэта рабіў Барыс. Во сарвігалава! Здзівіўся, калі сын пайшоў у ваеннае вучылішча і прыжыўся там. Праўда, калі вярнуўся з Афганістана і прыехаў на тыдзень дадому, то насцярожыў і спалохаў нават бацьку, здалося, што ў ім як бы нешта зламалася. Весялосць яго стала нейкай нервовай і, можа, нават цынічнай. Хацеў пацешыць сына рыбалкай, але хутка ўбачыў, што былы заўзяты рыбак сумуе. Расчараваў. Справы раёна лётчыка мала цікавілі. І ўвогуле палітыка. Адны жанчыны цікавілі. Гэта шакіравала маці. Як ёй хацелася, каб Барыс ажаніўся! Працаўніца зводніцтва, яна ператварылася ў сваху, сама знаёміла сына то з адной, то з другой дзяўчынай. Наіўная жанчына. За дзесяць дзён, якія былі адпушчаны Барысу на пабыўку, і ў наш час нялёгка ажаніцца. Ды і што б гэта быў за саюз? Мусіў нават цыкнуць на жонку:

«Ты знаёміш, а ён, зладзюга, ламае ім жыццё. Пасаромейся, праведніца!»

Радаваў Глеб — сваім пастаянствам. З урокаў не ўцякаў, дзяўчат не мяняў. І любоў яго да прыроды, як, напэўна, і да

Ірыны, расла, мацнела. У маленстве, у юнацтве рыбачыў, як усе яны, Пыльчанкі, але без асаблівага імпэту, стрымана, а потым стаў паступова зацятым рыбаком, прафесіяналам, прафесарам. Можа, таму пасля інстытута і папрасіўся сюды – у Прыпяць і на Прыпяць. Не, сюды дамогся накіравання з-за Ірыны і з-за маці – каб быць бліжэй да дому. Вось і напярэдадні вяселля недзе рыбачыць са сваімі сябрамі-атамшчыкамі. Хоць якая рыбалка па такой вадзе! Рака яшчэ не ўвайшла ў берагі. Рыба гуляе на лугах.

Думы мае, думы, ліха мне з вамі! Што гэта вы так апанавалі сёння? А трэба пазваніць Сабаленку: чаму ўчора, па зводцы, у яго знізіўся надой? Хоць – каму гэта трэба? Інерцыя. Гаворым столькі слоў аб гаспадарчай самастойнасці, аб разліку, а апякаем па дробязях. Сабаленку, як і іншым старшыням, дырэктарам, малако гэтае і мяса спаць не дае, а мы іх падганяем, тузаем. Недарэчна тое, што, першы, безумоўна, даўно пазваніў сам, а можа, і з'ездзіў ужо, бо любіць ранішнія вылазкі – каб ніхто не спаў і каб дакорам было ўсім іншым: я, маўляў, паўраёна аб'ездзіў, а вы сядзіце. Аднак усё роўна спытае: а што там у Сабаленкі? І паспрабуй не адказаць – станеш нядбайным вучнем строгага настаўніка. Сказаць, можа, нічога і не скажа, але што падумае – вядома. І гэта абражала Уладзіміра Паўлавіча – што пра яго думае Сінякоў. Па логіцы, па розуму, усё павінна быць наадварот: Пятро павінен быць яго вучнем – і па ўзросту, і па вопыту. Добра, што ў яго хапае вытрымкі і ён даўно навучыўся гонар свой і ўсе іншыя пачуцці зацiскаць у кулак. Кукіш у кішэні – непрыгожы жэст, але ён памагае абараніцца ад начальства вясёлай іроніяй. Аднак якая цяплынь напярэдадні Першага мая! Дзеці на школьным двары ганяюць мяч у адных майках. Шчаслівыя. А яму зараз трэба ісці... на галгофу.

Уладзімір Паўлавіч глянуў на гадзіннік над дзвярамі. Некалі ён быў супраць таго, каб у кабінеце вешалі гадзіннік. А пасля ацаніў ноўства: памагае эканоміць час. Глянеш на гадзіннік, на ручны гэтак зазіраць не заўсёды ёмка,– і гаваркі наведвальнік, асабліва з падначаленых, здагадваецца, што трэба закругляцца – старшыня чалавек заняты. Стрэлкі

імкліва набліжаліся да лічбы 10. Пятніца – прыёмны дзень. Вось-вось трэба спускацца ўніз, у прыёмную, дзе яшчэ дзве гадзіны назад, як адчыніліся дзверы, тоўпіліся людзі, займалі чаргу. Некалі, маладзейшы, Пыльчанка любіў прыёмы – цікава было ўнікаць у чалавечыя характары. Апошнім часам баяўся іх, настрою свайго – сарвацца баяўся. Нідзе і ніколі ён не адчуваў сябе такім чыноўнікам і бюракратам у горшым сэнсе гэтага і без таго абразлівага вызначэння, як у час прыёму прасіцеляў. І нідзе ён не адчуваў гэтак сваё бяссілле, безуладдзе, бо нідзе ў такім канцэнтраваным выглядзе не выступалі сацыяльная няроўнасць, несправядлівасць. Нават там, дзе абавязкова трэба памагчы чалавеку, у старшыні не хапае ні сродкаў, ні правоў.

Амаль чвэрць стагоддзя, як ён працуе – у камсамоле, у партыі, у Саветах. Друк, тэлебачанне крычалі аб росквіце, дабрабыце, шчасці, і сам ён гаварыў такія ж прамовы і – што парадаксальна! – у маладосці верыў у сацыялістычны рай, хоць штодня бачыў навокал людзей, якія туліліся ў бараках, жылі на дваццаць, трыццаць рублёў пенсіі, а ў калгасах жанчыны неслі з такоў збажыну ў халявах ботаў, у навалачках, абвязаўшы імі свае худыя целы, падцягнутыя жываты. Усе неслі. Усе кралі. І не таму, што дрэнныя людзі, зладзеі, а таму, што не спадзяваліся на аплату, за якую можна карміць дзяцей. Вялікім дабром стала гарантаваная аплата. Але ўсё роўна сяло, зямля не прываблівають, уцякаюць людзі, хоць у Беларусі, яшчэ, як кажуць, Бог начуе. Цяпер ад сялян менш за ўсё клопатаў, больш – ад гараджан (а які гэта горад – тое ж сяло!), аднак статус людзей іншы і патрабаванні іншыя.

Цяпер, урэшце, пачалі гаварыць праўду аб умовах жыцця. Галоснасць дала людзям смеласць, настойлівасць. На мінулым прыёме рабочы мэблевай фабрыкі, расчараваны, шыбануў у старшыню не словы – каменне:

«Сам ты заняў даміну на сем пакояў на дваіх з жонкай, а мае дзеці ў падвале».

Пакояў чатыры, але не ўпікнеш за перабольшанне, не станеш даказваць. Ды і што дакажаш! Пасля падобных прыёмаў адчуваў такі душэўны разлад, такую фізічную стомленасць, што ўстрывожыўся за здароўе сваё.

Нічога асаблівага не здарылася. Аднак прыёмаў пачаў баяцца. Дакараў сябе, Вольгу папрасіў, каб уплывала, і яна ўплывала – усё жыццё настойвала, ідэалістка і гуманістка, на дабрыню, на дапамогу людзям. І, аднак, ён знаходзіў зачэпкі, апраўданні, каб перакінуць прыёмы на намеснікаў. «Яны маладыя, ім трэба вывучаць жыццё». Але нехта паскардзіўся Сінякову, што старшыня не вядзе прыёмаў, ці са сваіх нехта шапнуў, інфарматараў хапае.

Сёння ўважлівая прычына. Пайсці і сказаць: «Людцы дарагія! Сына жаню. Сёння вяселле. Хіба мне да прыёму?»

Такую прычыну ўважаць.

Але не сказаў – не хапіла духу. Занадта многа людзей чакала яго. Каб менш. Параіў аднаму, даўняму надакучліваму прасіцелю, пайсці да старшыні – загулі, нядобра загулі, агрэсіўна, раней так не рэагавалі. Дэмакратыя! Увайшоў у прыёмны кабінет. Няўважліва павітаўся з сакратаром выканкома Дар'яй Селівонаўнай Гаплік. Распаўнелая жанчына з дзівосна маладым, проста дзявочым тварам (а ў яе дачка нявеста!) сядзела за асобным столікам, разлажыўшы добры дзесятак востра заточаных алоўкаў, пісала толькі алоўкамі, ручак не прызнавала. Не сказаць, каб Гаплічыха, як яе называлі, была адметным работнікам, але Уладзімір Паўлавіч любіў свайго сакратара, нават ленасць даравяў, бо бяскрыўдная нейкая яна, не раздражняла – як дзіця. Асабліва падабалася хітрая незалежнасць Дашыных поглядаў, разважанняў; прыкідваецца наіўнай, быццам не разумее, а выказвае жорсткую праўду. Начальства вышэйшае, камісіі розныя неаднойчы ўпікалі старшыню: «Адукуй ты свайго сакратара. Яна што – і людзям такое можа ляпнуць?» Можа. Даша ўсё можа. Гарадская легенда. Некалі яна ашаламіла яго, калі выпхнула з кабінета інваліда-п'янюгу, які разбушаваўся, надавала ў спіну мяккіх кухталёў, і той не агрызнуўся нават. А каб паскардзіўся – скандал. Але на Дашу ніхто ніколі не скардзіўся, яна была свая – не бюракратка. Уласна, за гэта і цаніў яе старшыня. Жанчына разумела, што чалавеку сёння не да яе вачэй і языка, хоць часта пачынала справу з таго, што расказвала вясёлыя гарадскія навіны. Адкуль толькі ведала? Не баба, а прэс-цэнтр. Але гэтым яна як бы давала зарадку, настройвала на пэўны лад.

На гэты раз пачала з іншага, сур'ёзна:

— Хочацца вам, Уладзімір Паўлавіч, займацца сёння?

— Хочацца? Гэтым,— ён кіўнуў на дзверы,— мне ніколі не хочацца займацца. Але... трэба...

— Трэба,— спачувальна ўздыхнула сакратар і ўсё ж паспрабавала стварыць настрой: — Значыцца, жэніцца Глеб?

— Жэніцца.

— А я марыла пасватаць яму сваю Зою.

— З Ірынай у іх даўняя любоў.

— Ведаю.

— Дык чаму ж марыла?

— А ў наш час ніхто не верыць у такую дваранскую вернасць. Барыс прыляціць?

— Абяцаў. Маці не дачакаецца. Пасватай Барысу сваю Зою. Можа, атабарыцца лятун.

— Барыса — баюся. Дай яму зачэпку — будзеш кусаць локаць пасля. Вы такім не былі ў маладосці, як Барыс?

Ох, хітруня! Завядзе зараз у зялёны гай.

— Кліч. Хто там?

Першай увайшла жанчына з двухгадовай дзяўчынкай на руках, перад сабой упіхнула, як са спадніцы вытрусіла, хлопчыкаў-двайнятак гадоў па чатыры. Была яна маладая, хіба трохі больш за трыццаць, але выцвілая ўжо, змарнелая. Добрая знаёмая, даўняя і, бадай жа, самая цяжкая наведвальніца. Ва Уладзіміра Паўлавіча моцна ўпалі градусы настрою, калі ўбачыў яе. У прыёмнай не бачыў, мабыць, прыйшла пазней, але натуральна, што яе прапусцілі без чаргі.

— Галя! — строга сказала Дар'я, якая адчыніла наведвальніцы дзверы, запрашаючы.— А дзяцей навошта валачэш? Ану, хлопцы, назад!

— А я хачу, каб вы паглядзелі на іх. Глядзі, якія яны ў мяне слаўненькія,— адказала гулліва Галя.

Хлопцы, аднак, былі не з палахлівых — схаваліся за маці, адзін смешна грымаснічаў, паказваў цётцы язык. Але Дар'я схапіла іх за каўнерыкі і, мякка шлёпнуўшы крыўляку па попцы, выставіла за дзверы, уладна крыкнуўшы:

— Бабы! Паглядзіце дзяцей!

Вяртаючыся да стала, паглядзела на наведвальніцу збоку і ахнула:

— Галя! Даўно не бачыла цябе! Зноў? Што ты сабе думаеш?

— А мы з табой, Селівонаўна, любім гэтую работу. Толькі ты разумная: дваіх радзіла — і хопіць. А я так разагналася, што ніяк не магу спыніцца.

Дар'я засмяялася Галінаму жарту. Уладзіміру Паўлавічу было не да смеху. Што ён скажа гэтай жанчыне, у якой пяцёра дзяцей — вунь якіх! — і чакаецца шостае. Зноў карміць абяцаннямі? Колькі можна? Ды і час не той. Вунь як распісаліся журналісты! Але не газет ён баіцца — сумлення свайго. Дзякуй Богу, не закарэла яшчэ зусім, цепліцца.

— Дык што вы мне скажаце, таварыш Пыльчанка? — апусціўшы малую на падлогу, пад стол, спытала Галя.

Уладзімір Паўлавіч сціснуў галаву далонямі — як спалохаўся, што яна расколецца.

— РАПА здае дом, і ў вас працэнты...

— Не ў мяне — у гарвыканкома.

— Я ж не маленькая, старшыня. Вы мне два гады абяцаеце, а цяпер адсылаеце да таго, хто нічога не вырашае ды і гаварыць з людзьмі не ўмее. Ягор гэты ваш,— у голасе жанчыны зазвінелі гнеў і слёзы.

Ах, было не было!

Старшыня падняўся з крэсла, як бы намерыўся прачытаць уголас урачысты акт ці прыгавор.

— Добра, Быхоўская. Праз месяц будзеш у кватэры. У гэтым рапаўскім доме. Тры пакоі. Большай няма.

— Праўда? — усміхнулася жанчына.— Не будзе яшчэ адна абяцанка?

— Слова камуніста!

У Дар'і расшырыліся вочы: насмешлівы, як і яна, старшыня ніколі не рабіў такіх узнёслых заяў. Дзе ён возьме тую кватэру?

А Галя як пакланілася — падхапіла малую, загадала ёй:

— Скажы дзядзю дзякуй.

Дзіця памахала ручкай.

– Дзякуй вам, Уладзімір Паўлавіч. Сёння я паверыла вам. Прабачце, першы раз,– і засмяялася, адступаючы да дзвярэй, як бы спяшаючыся выйсці, каб не аднялі радасць.– Віншую вас.

– З чым?

– А як жа! Сын жа жэніцца.

– Дзякую, Галя... Фёдараўна.

– Фядосаўна.

– Прабачце.

– Ой, што вы! Хіба ўсіх запомніце! Дык я прыйду...

– Праз тыдзень. Па ордэр.

– Ой! – вырваўся ў яе радасны спалох.

Выйшла яна – адразу ў дзверы сунулася непаголеная фізіяномія мужчыны. Гэтага таксама ведалі, і Дар'я строга кінула яму:

– Пачакай! Запросяць цябе.

Уладзімір Паўлавіч здзіўлена паглядзеў на свайго ўладнага сакратара. Іншым разам пажартаваў бы, але сёння не да жартаў.

– Дзе вы возьмеце гэтую кватэру?

– Забяру тую, што аблюбаваў сабе другі.

– Так вам і аддадуць!

– Дарагі памочнік мой! Ты дрэнна чытаеш газеты. Адраджаецца лозунг: «Уся ўлада – Саветам!»

– Лозунг адраджаецца, ды ўлада не прыходзіць. З'ядуць яны вас.

– Я, Дашанька, так задубянеў, што мяне не раскусіць. Слухай, пазвані ты Кацярыне, няхай яна падменіць мяне. Не тым галава занятая. Наабяцаю тут... на радасцях. Пайду да вяселля рыхтавацца. А то Андрэеўна мая запарылася.

Самае цяжкае – прайсці міма людзей, якія чакалі прыёму; ведаў, што намеснікамі не задаволеныя, кожнаму давай старшыню – не ніжэй. А старшыня – не Ісус Хрыстос, адным боханам не накорміць пяць тысяч.

Мімаволі ўцісну ў галаву ў плечы, не глядзеў на людзей. У патыліцу ўдарылі словы:

— Зноў уцякае наш дабрадзей.

— Бюракрат!

— А што яму да нас?..

— Зажраўся.

— Не пайду я да гэтых тоўстых баб. Яны толькі ўздыхаюць, як апоеныя коні.

— Гэта Каця... А Селівоніха, зараза, дак тая яшчэ і прабірае. Мяне гультаём абазвала. Работніца, такую яе! Задніцу адрасціла...

Апошнія словы Уладзімір Паўлавіч пачуў ужо на вуліцы, праз адчыненае акно.

## II

Дадому ісці не думаў. Рушыў на другі бок плошчы — у райком. Вясёленькая ў яго размова адбудзецца зараз! Але загадаў сабе: не адступаць! З'ядуць? У наш час з-за кватэры не з'ядуць, пабаяцца. Пасля, канешне, будуць есці. Непрыемна гэта, не ў яго характары, ён умеў з партыйным кіраўніцтвам жыць дружна, хоць часам для гэтага даводзілася ахвяраваць прынцыпамі. Але тут няма куды адступаць. Галя гэтая чакае шостае дзіця.

«Урэшце, можа, я ратую цябе, Іосіф Лявонцьевіч, ад газетчыкаў».

Угледзеў на другім краі плошчы жонку, выходзіла з завулка, што вёў на аўтобусную станцыю. Здагадаўся, куды бегала — да гомельскага аўтобуса. Можа, зрабіць выгляд, што не ўбачыў сваю палавіну? Але не стрымаўся — пайшоў насустрач.

— Ты чаму гуляеш?

— Пытаеш, як рабаўладальнік,— такім папрокам Вольга Андрэеўна яўна хацела стаіць пэўную збянтэжанасць, хоць ніколі не хавала мацярынскіх пачуццяў.

— Не бегай да кожнага аўтобуса. Ён з неба зляціць.

Маці глянула ў яснае неба з трывогай, так глядзела заўсёды пасля таго, як Барыс падаўся ў лётную школу. Але тут з палёгкай уздыхнула: сёння ён не ў небе — у наземным транспарце.

Спяшаецца. Адкуль толькі яго чакаць? З Гомеля? З Кіева? З Мазыра? У Барыса заўсёды неспадзяваныя маршруты.

– Не помніш, калі «Ракета» з Кіева?

– Пустаходам звані, паўз іх дом ходзіць. Дарэчы, я папрасіў Івана, каб прыслаў адну сваю прыгажуню памагчы табе.

– Тамара ўжо тут.

Здзівіўся такой хуткасці і ўзрадаваўся, што жонка прыняла дапамогу натуральна, не запярэчыла.

– Аператыўны ў нас сваток, нідзе не марудзіць.

– Дзіўны ты, Валодзя. Прыём зноў узваліў на Кацярыну? Лаюць цябе людзі, што ты ўцякаеш ад прыёмаў.

– Я іду выбіваць кватэру тваёй пратэжэ.

– Другога дня ты не знайшоў? Сапсуеш сабе настрой.

– На вяселлі наладжу. А жаніх у цешчы? Гонару не мае. Маці памог бы. Свістун! Не можа наглядзецца на сваю цацу.

– Не завадзіся, Валодзя.

Другога сакратара ў райкоме не было. Уладзімір Паўлавіч, які прыйшоў з ваяўнічай рашучасцю, бадай узрадаваўся, што не трэба вось так, з наскоку, псаваць настрой маладому работніку, які, дарэчы, падабаўся шчырасцю і адкрытасцю. Урэшце, не гарыць, неабавязкова ў такі дзень нарывацца на непрыемную размову.

Зайшоў да першага.

Пятро Міхайлавіч, звычайна стрыманы і не вельмі ўважлівы да людзей, сустрэў надзіва ветліва, ціснуў руку, як імяніннiку. Гэтак жа следам за ім вітаўся і сакратар райкома камсамола Сяргей Плечка. У адказ на іх звышветлівасць Пыльчанка стараўся настроіць сябе на іранічны лад. Каторы раз паспрабаваў па выглядзе першага адгадаць, чаму старшыні калгасаў ды і раённыя работнікі далі яму мянушку Лорд. Хто першы? Па якой рысе знешняй ці па характару? Не мог знайсці такой рысы. Нармальны чалавек, культурны, адукаваны, скончыў універсітэт і ВПШ. Трымаецца проста. І выгляд нармальны. Сярэдняга росту, спартыўна падцягнуты, толькі рана пасівелы – у сорак гадоў. Кпілі некаторыя, што фарбуецца сакратар. Уладзімір Паўлавіч спачатку

нават паверыў зубаскалам, што Пятро па гадзіне сядзіць у цырульні: вельмі ж акуратна прычасаная густая сярэбраная чупрына. Але за два гады сумеснай работы не бачыў яго ў цырульні ні ў сваім гарадку, дзе ўсе на вачах, ні ў Гомелі, ні ў Мінску, куды нярэдка ездзілі разам. Хто ж яго прычэсвае так? Жонка, ці што?

Аднак чаму ўсё ж Лорд?

Вось каму лёгка прычапіць сто мянушак, дык гэта Плечку. Хлопец не вызначаецца розумам, але выдзяляецца адзеннем: заўсёды, зімой і ўлетку, у цёмных касцюмах, старанна адпрасаваных, вычышчаных (пасля палявых дарог!). Плечка заўсёды чысценькі, прылізаны, але, павітаўшыся з ім, Уладзімір Паўлавіч адчуваў жаданне памыць рукі.

Адзін Плечкаў талент падабаўся — адменны танцор, арганізатар ансамбля танцаў, народных і сучасных — крыўляцкіх; ансамбль славіўся ў вобласці, і начальства, не толькі камсамольскае, цаніла сакратара райкома. Плечка ганарыўся гэтым: не аднымі лекцыямі прыцягвае моладзь.

— А мы тут з Сяргеем гаварылі пра вас. Кажу яму: во выпадак арганізаваць сапраўднае камсамольскае вяселле,— сказаў Пятро Міхайлавіч.

— Казаў я Ірыне. Махнула сваімі нафарбаванымі вейкамі: «Вы што — жартуеце?» — перакрывіў Плечка дзяўчыну.— I сябру свайму Глебу сказаў. Дык той яшчэ горш здзівіўся: «Жартуеш, Сяргей?» Якія жарты? Я арганізаваў бы ім такое вяселле, што прагрымелі б на ўсю рэспубліку. Тэлебачанне запрасілі б. Інжынер, які вучыўся ў Кіеве, працуе на Украіне, і наш урач, з мінскага інстытута. Саюз непарушны! Заўтра ў Прыпяць паплылі б, на чаўнах...

— Гэтага, дарагі таварыш, і баімося — грому. Асабліва Вольга Андрэеўна...

Першы засмяяўся.

— Дзе танцаваць будуць? — спытаў Плечка.

— Хацеў наслаць памост у двары, ды Андрэеўна баіцца, каб не распісалі...

— Правільна баіцца,— сказаў Пятро Міхайлавіч і ўздыхнуў: — Пісак развялося...

Літаральна тыдзень назад рэспубліканская газета пляснула па раённым кіраўніцтве за свінакомплекс, што будавалі за два кіламетры ад Прыпяці.

— Можна на асфальце танцаваць перад домам. Хочаце, арганізую?

Плечка яўна напрошваўся ў госці. Глеб, выходзіць, не запрасіў яго. Хутчэй не Глеб — Ірына, разам з Вольгай яны доўга сачынялі спіс гасцей. Уладзімір Паўлавіч глянуў на спіс адным вокам, карэкціраваць не стаў, жартам папрасіў пакінуць рэзерв для яго асабістых запрашэнняў.

Што-што, а танцы Плечка наладзіць, а гэта важна: менш часу будуць сядзець за сталамі, прыкладвацца да чарак. Цяпер бойся, каб хто не напіўся, а то станеш без віны вінаватым, запішуць — і слова не дадуць для апраўдання, размовы на бюро абкома кароткія, а яго ўліковая картка і без таго запэцканая — за нарыхтоўку кармоў, за школы. Не хапала яшчэ за парушэнне антыалкагольнага закону.

— Значыць, дамовіліся, Сяргей,— за табой танцы.

Плечка заззяў:

— Уладзімір Паўлавіч! А можа, усё ж камсамольскае?

— Калі ты не ўламаў Ірыну і Глеба, то, думаеш, я змагу? Ёсць нада мной маршал — жонка. А яна іх саюзніца. Ды і не толькі яна. Галоўны завадатар Пустаход. А ты ведаеш, які гэта народнік. Ён — за ўсё старое. І вяселля хоча па-старому.

Першы засмяяўся. Старшынь адсталых калгасаў ён не крытыкаваў так, як перадавога Пустахода: куркуль, аднаасобнік! З раёна стараецца вырваць больш, а як раёну памагчы — сіратой прыкідваецца, беднячком. Але і любіў гэтага чалавека — не працячок, можа зліслівіць начальству, гурочкаў, мядку прывезці, але ніколі ні перад кім не выцягваецца. Такога можна вініць ва ўсіх грахах, але не паважаць нельга.

— Праўда, што Пустаход прастольнае свята арганізоўваў? Фэст у фестываль ператвараў?

Было такое: хацеў Іван гадоў колькі назад храмавае свята свайго сяла — даўнюю ўсеагульную п'янку, на якую з'язджалася паўраёна, узяць у свае рукі. Але гэтая стыхія аказалася

мацней за яго кіруючую сілу. Героя каштаваў яму ўдзел у фэсце з найлепшымі намерамі, ды яшчэ ў прыдачу і вымовы.

Маладзёжны важак пайшоў да сябе — на першы паверх.

Кіраўнікі раёна засталіся сам-насам.

Адносіны паміж імі былі, можна лічыць, найлепшымі, за два гады ніводнай сур'ёзнай сутычкі. Пятро ніяк не пераходзіў на «ты» і вымушаў «выкаць» і яго, Уладзіміра Паўлавіча, а гэта было нязвыкла, з ранейшымі першымі ён быў на «ты» ледзьве не з першага дня сумеснай працы. На людзях адносіны іх выглядалі натуральнымі, а ў размове адзін на адзін Пыльчанка адчуваў тую субардынацыйную афіцыйнасць, якая перашкаджала поўнай даверлівасці, сяброўскай.

— У вас прыём сёння?

— Прыём. Але я прыняў аднаго чалавека і ўцёк. Зноў уцёк...

— Не трэба было пачынаць. Сёння вам не да прыёмаў.

— Але гэтаму чалавеку я зрабіў дабро. Лічы, даў кватэру. Быхоўскай...

Мнагадзетную сям'ю ведалі ўсе кіраўнікі. І ўвогуле Пятро Міхайлавіч трымаў пад партыйным кантролем размеркаванне ўсяго жылля, не толькі гарадскога, але і ведамаснага.

— І дзе вы ўзялі яе, кватэру?

— Аддамо тую, што прызначалі другому,— кіўнуў на дзверы ў прыёмную.— Будзе сацыяльна справядліва. Памажыце пераканаць Іосіфа Лявонцьевіча — ён чалавек разумны. Няхай пажыве годзік у старой хаце. Папаліць брыкетам. Людзі маладыя, не перапрацуюцца. Ваду падвялі, газ прывозяць.

Першы лёгка свіснуў.

— Мудрае рашэнне.

— Вы гэта — з ірoніяй?

— Ды не. Сур'ёзна. Разумею ваш крок. У нагу з часам. Усё — для народа. А нас, бюракратаў, у куток, як вінаватых вучняў.

Падняўся, падышоў да адчыненага акна. Пастаяў там. Выбіў такт пальцамі па падаконніку. Сказаў на вуліцу:

— Іосіф... ён, канешне, мудры. Але давайце дамовімся... Я за вашу ідэю. Але пераконвайце яго самі... без мяне. Няхай

не думае, што гэта мая ідэя. Мне з ім працаваць. А ўсе мы людзі... чалавекі... і ўсё чалавечае, высокае і нізкае, сядзіць у нас... моцна сядзіць... Прыватнік сядзіць...

«Не Іосіф мудры, ты — мудры,— падумаў Уладзімір Паўлавіч.— Але філасофія твая страусавая. Хаваеш галаву, але не забывайся, што задніца ўсё роўна тырчыць».

Ніколі раней ён не думаў так пра Сінякова, так злосна, раздражнёна. Спрачаўся неаднойчы. У думках часам крыў мацюком, але ўсё гэта было натуральным — рабочымі адносінамі. Чаму ж раптам такое абурэнне? Не думаў жа, што першы ўзрадуецца і прыйдзе ў захапленне ад яго рашэння, яго смеласці. Па сутнасці, чакаў такой рэакцыі, хіба толькі па форме інакшай. Не, справа не ў форме. Узлавала не тое, што першы хоча ўхіліцца ад вырашэння нялёгкай справы. Абурыла перакананне, што нейтральным, як абяцае, не застанецца, перад заступцам сваім будзе добранькі і ўсё ўзваліць на яго сівую галаву. Безумоўна, з баталіі гэтай ён выйдзе пераможцам — час працуе на яго! Дзеці Быхоўскіх уселяцца ў кватэру. Але лягчэй жыць яму ад гэтага не стане. А ён жа ўмеў працаваць без вострых канфліктаў. Умеў уступіць — нахабніку, дурню. Але тут уступіць нельга! І гэта выводзіла з душэўнай раўнавагі.

Сакратар, хітруган, не стаў мусоліць кватэрнае пытанне — маўляў, дробязь, эпізод, і перавёў размову на ўчарашнюю зводку сяўбы. Яна радавала. За тыдзень так падсохла, што можна ўжо выходзіць на суглінкі, на тарфянікі, пясчаныя палі паўсюдна засеяныя, бульбу пасадзілі.

— Яшчэ тыдзень такога надвор'я — пасеем кукурузу. Будзе ў нас збожжа, Уладзімір Паўлавіч. І будзе ў нас Амерыка — па малаку і мясу.

Першы жыў гэтай ідэяй. «Хрушчоўская» — жартавалі ў раёне. Асабіста з'ездзіў у Днепрапятроўск, дамовіўся з Інстытутам кукурузаводства, які распрацаваў новую тэхналогію сяўбы, сеялкі з праграмнай наладкай. Купіў там элітнае насенне. Ідэяй жылі ўсе. Пыльчанка, старэйшы за іншых, трохі спачатку праяўляў скепсіс, але яго пераканаў Іван Пустаход. Практычны старшыня калгаса ледзьве не маліўся на

першага. Пашанцавала раёну, лічыў. А гучала гэта дакорам яму, Пыльчанку. Па праторанай Сіняковым дарозе Пустаход двойчы ездзіў у інстытут, прывозіў дактароў і кандыдатаў навук. Украінцы памагалі па-брацку.

Але на гэты раз Уладзіміра Паўлавіча не зацікавіла і кукуруза.

Сакратар угледзеў гэта.

— Бачу, вам не да спраў сёння.

— Ды не,— як бы сумеўся старшыня.— Справы ёсць справы. Паеду па раёне.

— Памажыце лепш жонцы.

— Не. Баюся. Баюся — пасварымся. Сапсуем адно аднаму настрой. Я ніколі не лез у жаночыя справы. І вам не раю.

Пятро Міхайлавіч засмяяўся.

— Каб гэта можна было зрабіць. Хто вас узвінціў? Быхоўская?

— Ды не. Яна прыйшла з дзеткамі. Я дабрэю, калі гляджу на дзяцей.

Уладзімір Паўлавіч не выходзіў таму, што належала выканаць яшчэ адну місію — запрасіць Пятра Міхайлавіча на вяселле. Самае простае. Але пасля гісторыі з кватэрай адчуў тую аддаленасць, якая не дазваляла вось так па-свойску, пасяброўску запрасіць таварыша па рабоце на сямейную ўрачыстасць. У нейкі міг нават бліснула думка: «А на д'ябла ён мне!»

Але ведаў, што Вольга асудзіць яго ўчынак — ці мала што здараецца ў рабоце! Ды і Пустаход не зразумее. Да таго ж успомніў, што тут жа пры ім, пры Пятру, запрасіў свістуна Плечку, да якога ўвогуле адчуваў антыпатыю. Падумаеш, госць!

У такой сітуацыі без запрашэння нельга пакінуць кабінет. А як гэта лепш зрабіць? Гулліва? Сур'ёзна? Калі ўскладняюцца адносіны з чалавекам, пачынаеш думаць, як з ім гаварыць, мімаволі ўзнікаюць дыпламатычныя нюансы, чаго Пыльчанка не любіў.

— Пятро Міхайлавіч. Мы з Андрэеўнай будзем рады бачыць вас з Палінай Антонаўнай за нашым сталом. І маладыя даручылі мне...

Сказаў, як ношку зваліў. Можна і развітвацца. Але сакратар не спяшаўся дзякаваць. Прайшоўся па кабінеце, закурыў. Цяпер, калі пачалі многа паказваць Сталіна, Пыльчанка раптам адкрыў, што і маладыя работнікі тыпу Пятра пераймаюць яго ігру.

Угледзеў гэта ў абкоме, у Саўміне. Прасачыў за сабой: ці не іграе сам гэтак жа? Сказаў неяк Вользе, яна засмяялася: «Не, не бойся. У цябе хутчэй хрушчоўскі стыль. Ты – народнік». Парадавала, жонка! Выходзіць, свайго стылю ў паводзінах, у працы ён так і не выхаваў за столькі гадоў.

Пятро Міхайлавіч падышоў да акна, зноў выбіў знаёмы такт.

– Вы думаеце, мне трэба быць?

Дзіўнае пытанне. «Што я думаю – на жаль, не магу сказаць».

– Вельмі прасіў Пустаход. Іван не зразумее... Ды і людзі... Што скажуць пра нашы адносіны?

«А вось гэта я дарэмна».

Сакратар павярнуўся, глянуў весела, задаволена.

– Для вас гэта важна – што скажуць?

«Пайшоў ты!»

– Дзіўная завядзёнка: пра адносіны людзей меркаваць па тым, ці ходзяць яны ў госці адзін да аднаго.

Уладзімір Паўлавіч узлаваўся:

– Чаму дзіўная? Добрая народная традыцыя! Нам толькі і засталося, што разбурыць і яе. Адвучыць людзей хадзіць у госці. Сябраваць... Кожны будзе піць у адзіночку. І паміраць у адзіночку. Можна і на пахаванне не прыходзіць...

– Ну-ну, завяліся. Не ведаў, што вы бываеце такім. Вам сёння трэба быць добрым, шчаслівым.

– Я выканаю вашу мудрую параду,– і павярнуўся да дзвярэй, не развітваючыся, хоць гэта было звыклым: за дзень могуць яшчэ ўбачыцца неаднойчы.

– За запрашэнне – дзякую. Я падумаю...

Уладзімір Паўлавіч выйшаў з цяжкім пачуццём – нешта блізкае да абразы. Бадай здзівіўся, што адмова ад яго запрашэння – на вяселле сына! – можа так балюча раніць. Дзіўна,

аднак, тое, што злосці на Сінякова не было. Злаваў на сябе і на Вольгу.

Куды ж падзець сябе ў гэты незвычайны дзень, не павясноваму спякотны? Спыніўся пасярод плошчы на паўдарозе ад райкома да райвыканкома, паглядзеў у бязвоблачнае неба і супакоіў сябе тым, што падумаў пра Барыса. І пра Глеба. Во яна, сапраўдная радасць,– мець такіх сыноў! Жаніць іх.

III

Вользе Андрэеўне спачатку не спадабалася, што муж запрасіў ёй на дапамогу сястру нявесты. Лічыла гэта не толькі парушэннем этыкету, але і як бы нейкім уніжэннем перад сватамі. Старшыня райвыканкома не можа знайсці памочнікаў жонцы, каб падрыхтаваць вяселле! А сапраўды гэта няпроста, не маючы блізка сваякоў. Прыехала, праўда, Валодзева сястра Ганна, але жанчына пенсійнага ўзросту, хваравітая сялянка, згатаваць простую страву можа, а сервіраваць стол – куды ёй. За дарагую талерку баіцца ўзяцца. «Ой, Волечка, яшчэ разаб'ю. Больш тонкую пасудзіну, чым чыгунок, ты мне не давай».

Уладзімір Паўлавіч мог і хацеў дамовіцца з кухарам і з афіцыянткамі, але яна лічыла, што рабіць гэта нельга: вазьмі за самую высокую аплату, а людзі скажуць бог ведае што; гарадок, што сяло, усе пра ўсіх ведаюць, а тым больш пра старшыню. І сваіх, з бібліятэкі, не адважылася прасіць – рабочы дзень, ды яшчэ перадсвяточны, калі і на рабоце і дома поўна клопатаў. Перад святам у магазіны нешта «выкінуць», і жанчыны будуць млець у чэргах. У Вольгі Андрэеўны перад чэргамі быў прымхлівы страх, яна абыходзіла іх за вярсту. Хацела стаяць там, як усе, але баялася, каб не сказалі: бач, дэмакратка якая! Знойдуцца такія, што і ў твар могуць кінуць: «Ці не з-за твайго мужа мы душымся тут?»

З чорнага хода ў магазін ні разу не зайшла, катэгарычна адмаўлялася. Муж часам жартаваў, часцей злаваў: «Я, значыцца, магу з торбамі, хаваючы вочы, выходзіць?!» Канча-

лася найгоршым: прадукты прывозіў шафёр, прычым купляў іх у суседнім райцэнтры, дзе старшынёй райспажыўсаюза быў даўні добры знаёмы Косця Екельчык, яшчэ ў камсамоле разам працавалі. Абставіны перамагалі, яны мацней за пакуты сумлення. А перад вяселлем сама вымушана была паехаць да «вялікага дзяльца» Косці, каб закупіць прысмакі, якія той выбіваў на абласной базе спецыяльна для іх вяселля, так, прынамсі, тлумачыў, падкрэсліваючы, што для старых сяброў ён гатовы на ўсё. Адзінае супакаенне, што Екельчык не падначалены Пыльчанку.

Запрашэнне дачкі Пустаходаў бянтэжыла і па іншай прычыне: і сам Іван і Марыя Пятроўна паведамленне аб тым, што рэстаран адмяняецца, сустрэлі яўна з задавальненнем.

«Мы сапраўднае вяселле закружым»,– сказала свацця. Безумоўна, што ім! У старшыні калгаса зусім іншыя магчымасці, чым у старшыні райвыканкома. Але думка гэтая ўкалола самалюбства. Без абывацельскага гонару яна, сціплая бібліятэкарка, аднак жа ёсць матчын гонар, ды і проста чалавечы. Не, пазайздросціць не грэх не матэрыяльным магчымасцям старшыні калгаса, а яго сям'і. З такой сям'ёй можна наладзіць бог ведае што! Чатыры дачкі, нявестка, цётка, сёстры, пляменніцы – паўвёскі радні. А яна, па сутнасці, адна. Але і адна павінна зрабіць тое, што там робяць, можа, дзесяць жанчын, калі не больш. З-за гонару і жаночай упартасці і адмовілася ад кухара і ад афіцыянткі. Адна дык адна. Няхай асудзяць, няхай пахваляць – яе адну. Урэшце, усё гэта глупства, умоўнасці. Галоўнае, што Глеб жэніцца і нявеста яго падабаецца ёй. А яшчэ... сама не прызнавалася сабе, што жыве не столькі вясельнымі клопатамі, колькі чаканнем Барыса.

І – дзіўна! – з'яўленне памочніцы памагло яшчэ ў большай ступені пераключыцца з кухні на чаканне сына.

Прыехала Тамара – малодшая Пустаходава, студэнтка універсітэта. Яе Вольга Андрэеўна ведала менш, чым іншых. Ды і з другімі яна пазнаёмілася нядаўна, не лічачы Ірыны і самога Пустахода. Валодзя, канешне, ведаў усіх, бо часта ездзіў у калгас, абедаў у старшыні. А яе толькі разы два звазіў на пасеку, але дачок на тых абедах не было, толькі

3. Зак. 2388.

Мар'я Пятроўна. З дочкамі, сынам, нявесткай, унучкамі яна пазнаёмілася, калі Глеб абвясціў аб сваёй жаніцьбе, і яны паехалі ўсе трое — жаніх, бацька, маці — у сваты, так гэта не без іроніі называлі сын і муж, хоць ёй было не да жартаў, не да іроніі, яна ехала вельмі сур'ёзная і нязвыкла хвалявалася.

Сям'я Пустаходаў не магла не падабацца. Галавой у доме, камандуючай, як жартаваў бацька, была не добрая, ласкавая гаспадыня, а іх старэйшая дачка, Ліза, даярка, маці траіх дзяцей, гаваруння, што, аднак, не шкодзіла ёй быць хітрым палітыкам. Мужа свайго, механіка, яна трымала пад пятой, сама так казала, і ён не пярэчыў, хоць з-пад улады, як высветлілася, выходзіў нярэдка. Дом іх, палац у параўнанні са старой бацькавай хатай, збудаваны на бацькавай сядзібе, у канцы гарода, на беразе кароткай рачулкі з маляўнічымі вербамі. Хлеў, свіран, лазня — новыя, дыхтоўныя, хоць і пачарнелыя ўжо — былі агульныя; хлеў не пуставаў: каровы трымалі і сам старшыня і сям'я дачкі, былі і свінні, качкі, куры.

Пыльчанка яшчэ тады, калі механік будаваўся, упікнуў Пустахода: «Такі дом, які ўпрыгожыў бы вуліцу, схавалі ў кусты». «А гэта мая гераіня, з ёй не зладзіць, не пераканаць, чыста бабская ўпартасць»,— з асуджэннем гаспадара і гонарам бацькі апраўдваўся старшыня.

Між іншым, прыгнечаны жонкай механік на абедзе напіўся і чапляўся да Уладзіміра Паўлавіча: дайце яму свабоду!

«А хто не дае яе?»

«Вы! Раённыя бюракраты».

Старшыня паспрабаваў пажартаваць:

«Табе савецкая ўлада не падабаецца?»

«Не падабаецца!» — на поўным сур'ёзе выгукнуў п'яны.

Пустаход пачырванеў. Ліза падхапілася: «Ану, даражэнькі, ходзьма са мной. Я займуся з табой палітграматай!»

Іх дванаццацігадовы сын Ваня задрыгаў нагамі і зарагатаў: уявіў «палітграмату».

Віктар Ёрш трохі паяршыўся, але не столькі па ўедлівым патрабаванні жончыным, колькі ад знаёмага цесцевага са-

пення — прыкметы гневу — мусіў пакінуць багаты стол, дзе было да чаго прыкласціся і ў час антыалкагольнай кампаніі.

Другая сястра Паша — выхавацельніца дзіцячага сада, няўдачніца, развядзёнка, ціхмяная і плаксівая; Вольга Андрэеўна ўбачыла пасля абеду, як Паша плакала ў кухні. Зайздросціла сёстрам?

Трэці — сын Антон, аграном, увесь у бацьку — меў не толькі знешняе падабенства, але і голас, і жэсты, і характар. «Тыповы паляшук»,— сказаў пра яго Уладзімір Паўлавіч.

Пасля — Ірына. Прыгажэйшая за сясцёр. Адна хіба рыса яе характару насцярожвала Вольгу Андрэеўну — залішне ўладная, самаўпэўненая. Такія добра працуюць, але і на рабоце і ў сям'і імкнуцца верхаводзіць. А маці не хацелася, каб яе сынам камандавала жонка, яна добра ведала мяккасць Глебаву. Гэта не Барыс, тым не пакамандуеш. Хоць жонкам падабаюцца і такія.

Тамары на тых агледзінах не было. Прыводзіла пасля Ірына — пазнаёміць будучых свёкраў яшчэ з адной сястрой сваёй.

Спачатку трохі не спадабалася, што Тамара праз дзесяць хвілін пасля таго, як надзела квяцісты рабочы фартушок, які, дарэчы, прывезла з сабой, адчула сябе гаспадыняй на кухні, у доме. Але потым спрыт яе, уменне пачалі захапляць не толькі Вольгу Андрэеўну, але і сялянку Ганну. Любая работа гарэла ў яе руках. Асабліва здзіўляла, што на кухні рабіла не па-сялянску, а так, быццам прайшла кулінарную школу.

— Дзе ета ты, Томачка, вырасла? — ахала Ганна.

— А над Прыпяццю. Гледзячы на ваду.

— У вас усе такія?

— Ого! Я самая няўдалая! Ліза наша... паглядзелі б вы на яе! Агонь-баба — кажа яе Віктар.

Вельмі спадабалася Вользе Андрэеўне, як далікатна, хітра хваліць Тамара сясцёр, перш за ўсё Ірыну. Больш пра слабасці іх расказвае. Але якія яны прывабныя, слабасці гэтыя, у яе перадачы! Ведаць іх свекрыві не пашкодзіць, бо памогуць хутчэй і глыбей пазнаць характар нявесткі. Яўна на гэта разлічвае Тамара. Адкуль у дзевятнаццацігадовай дзяўчыны такі практыцызм? Псіхолаг!

Ганну проста заваражыла Тамарына весялосць. Рабіла яна ўсё пад песенькі. І не пад крыклівыя, сучасныя, што гучаць з тэлевізара, а пад душэўныя, свойскія, палескія, украінскія.

Тобі було легка, мати,
Між своіми вибирати.
Ти вышла за мого ненька —
Я ж люблю чужого Йванка.

Ад такіх песень Ганна і плакала і смяялася.

Бакалы расстаўляе — і выбівае на іх сваімі ненафарбаванымі (што адзначыла Ганна) ногцікамі музыку. Яна, старая баба, баіцца сваімі «граблямі» ўзяцца за гэты бакал, што пераліваецца вясёлкамі. А дзяўчына, праціраючы, круціць іх на адным пальцы. Во цыркачка! Шмат што ўмела, а чаго не ведала — дапытвалася, цікаўная, усё хацела ведаць.

— Вольга Андрэеўна, як я вас павінна называць?

— Як — як?

— Ну, па-народнаму, па-вясковаму. Кім вы мне даводзіцеся? Свякроў сястры. Я вам? Сястра нявесткі.

Вользе Андрэеўне трохі няёмка стала, што, прачытаўшы гару кніг, яна не ведае гэтага, а напэўна ж у народзе ёсць назвы ўсім сваяцкім сувязям. І Ганна перабрала ў памяці нямала найменняў сямейнай піраміды і сама ж, пасля разважанняў, заключала: не тое.

Зачаравала памочніца і гаспадыню і сястру. Калі Тамара спявала ў зале старую сумнаватую вясельную песню, акампануючы рытмічным звонам посуду, Ганна па-сялянску проста сказала:

— Во такую б жонку шалапуту твайму. Яна б аб'ездзіла гарачага скакуна — добрага малайца.

Вольга адразу нават пакрыўдзілася на залоўку: з кім параўноўвае сына яе!

— Яго Афганістан аб'ездзіў. Падумай, у якім ён пекле пабываў.

— Няўжо ўціхамірыўся? Чаму ж ён не жэніцца, чарцяка? Колькі дзевак пакрыўдзіў!

— А можа, яны яго крыўдзілі?

– Скажаш ты, Волечка. Каб дзеўкі крыўдзілі такога ліхача!..

– Ты не знаеш цяперашніх дзяўчат.

– А чым жа яны паганыя? Вунь Тамара...

– Яна ў добрай сям'і расла.

– А праўда, добрая сям'я?

– Мне спадабалася. І Валодзю. Ён заўсёды хваліў Пустахода. Парадаваўся, калі даведаўся, што Глеб і Ірына страчаюцца.

– Дваццаць гадоў, кажаш, старшынёй? І не краў?

– Ганна! Як ты пра людзей думаеш! Для цябе што ні кіраўнік, то злодзей. Хіба так можна!

– Не я так думаю. Людзі. Вунь у нас... колькі іх перабыло, старшынь. А можа, адзін толькі чэсны чалавек быў. Дык і таго пасадзілі, бо для людзей стараўся, начальству не дагадзіў.

Так, звычайная жаночая размова, аб усім патроху. Але ў першую чаргу пра дзяцей. Маткі заўсёды гавораць пра дзяцей. А тут нагода такая: вяселле. Але Вольга Андрэеўна больш думала не пра Глеба, хоць і турбавала трохі яе, што праз якія пяць-шэсць гадзін у загс ехаць, а жаніх невядома дзе. Нядобра, калі ў нявесты. Атрымліваецца: нецярпліва чакае. Але ведала: Глеб не спозніцца, у гэтага хлопца арганізаванасць і дысцыпліна ў крыві, як і ў яе. Думала яна пра Барыса, але ўжо не столькі пра тое, дзе ён, якім транспартам дабіраецца, а пра іншае. Засела ў галаве Ганніна жаданне, каб Барысу такая жонка, як Тамара. Трэба ж, каб выпадковыя словы гэтак узбунтавалі і без таго неспакойную душу яе. Пачала ўглядацца ў дзяўчыну. Не такая прыгожая, як Ірына, але ж па ўсім відаць – гаспадыня. Аднак з характарам, як бацька яе. Якраз такая і трэба Барысу – верная, разважлівая, клапатлівая, адважная; у лётчыка жонка павінна быць гэтакая ж смелая, як ён сам. Пераканала сябе, што Тамара валодае ўсімі гэтымі і многімі іншымі добрымі якасцямі. Дзіця зямлі, дзіця народа! І марыла ўжо пра другое вяселле. Злавіла сябе на гэтым, засмяялася: як малая! Для вяселля трэба, каб маладыя пакахалі адно аднаго. А потым – ці добра гэта, каб браты ажаніліся з сёстрамі? Успамінала выпадкі з жыцця, з літаратуры.

Падступала да Ганны, каб непрыкметна спытаць у яе, як у народзе ставяцца да такіх шлюбаў, быццам справа вырашаная ўжо. Але спахапілася: здагадаецца Ганна, пра што яна думае. Не асудзіць, але ўсё ж сорамна выносіць на людзі, няхай і залоўцы, такія фантазіі свае. А Тамара ажно збянтэжылася ад такой увагі да сваёй персоны з боку Ірынінай свекрыві.

— Вольга Андрэеўна, што вы так глядзіце на мяне?

— Любуюся табой, дачка.

Успыхнула дзяўчына — ад пахвалы ці, можа, ад звароту такога, хоць зварот як зварот, натуральны.

— А я спалохалася. Можа, што не так раблю.

— Усё вельмі так робіш. Гэта цябе мама навучыла?

— Хутчэй — Ліза. О, вы не ведаеце нашу Лізу! Яна па руках мяне біла, калі я што не ўмела. Баюся дадому прыязджаць — тут жа пагоніць каровы даіць. У пяць гадзін раніцы. Я да дзвюх танцавала. Спаць — паміраю. А яна за нагу цягне. Мама з ёй сварыцца: дай малой паспаць. Для мамы я ўсё яшчэ малая. А ведаеце, чым я палохаю яе, Лізу? Вы не грэблівая? Жабамі. Я для практыкі пачала жабак пры ёй трыбушыць. Дык яна тыдзень бачыць мяне не магла, прабачце, выварочвала яе. Во я паспала! Нашы смяяліся. Дзіўна гэта. Яна ж усё ўмее, Ліза. Качцы галаву скруціць і выпатрашыць. Свінню асмаліць і разабраць. Карове памагчы ацяліцца пры самай цяжкай сітуацыі, калі цялятка мёртвае... А вантробы жабіныя не можа бачыць.

— А я курыцу не магу зарэзаць. І кулінарнічаць развучылася. Засталіся ўдваіх з мужам. Ён рэдка калі абедае дома. І я ўсухамятку ці ў сталоўцы. А сёння ў мяне з рук валіцца. Іншыя клопаты ў галаве... Канешне, вяселле. Радасць. Але прызнаюся табе... Ірыне не кажы... усю раніцу не пра вяселле думаю... не пра Глеба. Пра Барыса. Як ён дабіраецца.

— Гэта каторы ў Афганістане?

— З Афганістана ён, дзякуй Богу, вярнуўся. На Каўказе цяпер.

— Вольга Андрэеўна! Страшна гэта, калі сын ваюе?

— Што ты, дзяўчынка мая, не тое слова — страшна. За год я ніводнай ночы не паспала па-чалавечы... пасівела. Часам

Валодзю... Уладзіміра Паўлавіча ненавідзела, што ён можа спаць... храпіць на ўвесь дом.

– Навошта нам была гэтая вайна?

– Вось гэтага я табе не скажу, хоць усё перачытала, усё праслухала... кожную вестачку замежнага радыё лавіла. Галасы іх. Ніколі раней не слухала... Пыльчанка ажно злаваў: «Што гэта цябе на палітыку пацягнула?» Пацягне, – і нечакана для самой сябе: – А Барыс падабаецца табе?

Тамара зачырванела. І Вольга Андрэеўна ўзрадавалася гэтаму: значыць, не абыякавая, значыць, няма ў яе каханага і яна, як кожная дзяўчына, думае пра будучага абранніка, а думкі такія, помніла сваю маладосць, салодкія і страшныя. А тут яшчэ і рамантычна, незвычайна: лётчык, герой, брат сястрынога мужа, і знаёмства адбудзецца ў дзень Ірынінага вяселля.

Вольга Андрэеўна – чалавек шчыры і просты. А тут хітравала, рабіла псіхалагічны націск: разоў колькі вярталася да размовы пра Барыса. А ўрэшце, яна проста не магла не гаварыць пра яго. Не было б Тамары – гаварыла б з Ганнай, сама з сабою.

Уладзімір Паўлавіч як у ваду глядзеў: Барыс спусціўся з неба.

Звыклы тут шум самалётаў: блізка ваенны аэрадром, ды і сельгасавіяцыя базіруецца побач. Таму Вольга Андрэеўна не звярнула ўвагі на верталёт, які прагрымеў над домам. А Тамару зацікавіла: чаму ён кружыць? Там у іх, над Прыпяццю, так нізка авіяцыя не лятае, кажуць, таму, што атамная блізка.

Верталёт ваенны, з зоркамі, сеў за гародам, на асушаным тарфяным балоце. З яго саскочыў чалавек у лётнай форме, з чамаданам, памахаў пілотам рукой, і машына ўзвіхрыла пясок – былое балота даўно ператварылася ў пясчаны пляц.

Тамара здагадалася: ён! Чула ад сястры пра брата яе нарачонага, чула ледзьве не легенды пра Барыса.

Сказаць маці і сустрэць самой? Хацелася незвычайнага, сюрпрызаў – і для Вольгі Андрэеўны і... для сябе.

Пайшла насустрач.

Брамка з гарода ў поле зачынена на ржавы замок, з восені не адчыняўся. Барыс з лёгкасцю ката перамахнуў цераз плот. Але ўскапаная на зіму зямля была яшчэ грузкая, і ён чарпануў яе чаравікамі. Выскачыў на адной назе на сцежку. Зняў чаравік, выціраў яго насоўкай.

Тамара наблізілася, баючыся пырснуць смехам. Весяліла яе не тое, што ён ускочыў у гразь, а як хітра і гарэзліва ён назірае за ёй, незнаёмкай, на бацькавым гародзе: быццам бы глядзіць міма, на дом, а на яе — як глядзяць на незнаёмага чалавека на гарадской вуліцы, але яна адчувае, што ўся ўвага яго скіравана на яе. Ажно няёмка зрабілася, што яна, дурніца, як школьніца, вытыркнулася наперад у кароткім халаціку, фартушку, выставіўшы каленькі. Якое мела права сустракаць яго раней за маці? Цяпер ёй было сорамна. А ён... акцёр, аднак...

— Усё-такі пасадзіў Пыльчанка ў балота. А хваліўся, што ўсе балоты асушыў. Мог бы і дывановую дарожку палажыць.

Гаворыць ёй так, быццам яны сто гадоў знаёмыя і бачыліся гадзіну назад.

— Каб жа ведалі... Маці бегае на аўтобусную станцыю.

— Ха! Буду я ездзіць на разбітым аўтобусе.

— Ого!

— Што — ого? Але чакай... Дай экіпіравацца. Стаю на адной назе, як бусел.

Абуў чаравік, выцер рукі, перагарнуўшы насоўку, кінуў яе на мяжу. І раптам зрабіў спалоханыя вочы.

— Я спазніўся? О Божа! Так ляцеў!..

— Куды?

— На вяселле.

— І прыляцелі.

— А ў доме — маладая гаспадыня. Кланяюся табе. Па законах продкаў я павінен пацалаваць братаву жонку,— і, расставіўшы рукі для абдымкаў, рушыў да Тамары.

Яна адступіла і пагразіла пальцам.

— Па законах продкаў жонку брата нельга цалаваць.

— Ды ну? Недасканалыя законы. Мусульманскія.

— А па-другое, я — не жонка. Я — сястра Ірыніна.

Барыс спыніўся.

— Ба-ба! А я, лапух, не здагадаўся. Пачакай, запушчу камп'ютэр, вылічу — якая. Шчаслівы атамшчык пісаў вашы імёны,— шчоўкнуў языком, як кнопкай уключальніка.— Выдаю... Тамара!

Дзяўчыне стала весела, што Барыс адгадаў яе імя, хоць гэта і няцяжка, калі Глеб апісваў сясцёр, іх узрост.

— У такім разе я павінен абавязкова пацалаваць цябе.

— Вы кожнае знаёмства пачынаеце з пацалунка?

— А як жа! Ваюем за тое, каб усё чалавецтва цалавалася. А яно не хоча...

Здаецца, жарт, звычайная маладзёжная балбатня, іронія з філасофіі міратворчасці, характэрная для яе ўзросту, для яе студэнцкага асяроддзя. І яна гатовая была адказаць у тым жа стылі. Ды тут убачыла, як раптам змяніўся гэты вясёлы чалавек, знікла яго гарэзлівасць, жаданне блазнаваць, няхай ненадоўга, на міг, але выразна выявілася, як на змену лёгкім і вясёлым думкам прываліліі, што валуны, цяжкія, чорныя. І Тамара, чулая душа, зразумела яго, бо ведала, дзе ён ваяваў, каб чалавецтва цалавалася. І яна нечакана для сябе абняла яго.

— Не трэба, Бора, не трэба.

— Не трэба,— пакорліва згадзіўся ён, ласкава пагладзіўшы яе плечы. Цеплыня яе ўлілася ў сэрца, і ён адчуў спакой і радасць, тую незвычайную радасць, якую не ведаў ужо даўно, якую сніў хіба — калі сніў маці, дом там, у Афганістане.

— Хадзем да маці, яна чакае.

— Так, хутчэй да мамы.

— Мы забылі чамадан. Я вазьму...

— Я вазьму. Ён малы, але цяжкі.

— Мы, Пустаходы,— не слабое племя. Кожная з нас вартая траіх мужчын — так бацька кажа.

— Але не забывайся, што я — афіцэр. Хіба я магу дазволіць?

Барыс вярнуўся да плота, лёгка падняў чамадан.

— Зробім маці сюрпрыз? Каб вы... сапраўды з неба спусціліся.

— Давай на «ты». Мы ж, лічы, родныя ўжо.

4. Зак. 2388.

— Не. Маці нельга палохаць. Ты пачакай у двары, а я падрыхтую Вольгу Андрэеўну.

Тамара прыбегла ў дом, на кухню.

Вольга Андрэеўна глянула на яе, здзівілася.

— Як ты свецішся, Тома! Даўно не бачыла, каб чалавек так свяціўся. Само сонца. Ад чаго?

— Хочаце сюрпрыз? Заплюшчыце вочы.

— Не палохай мяне, дзіця,— не адразу сцяміла жанчына, шукаючы адгадку такой дзявочай радасці.— Старыя баяцца сюрпрызаў.

— Не. Вы заплюшчыце вочы.

Чаму і не пагуляць бібліятэкарцы дзіцячай бібліятэкі ў дзіцячую гульню? І яна са смехам закрыла твар далонямі.

Тамара адчыніла дзверы і за руку ўвяла на кухню Барыса. І Вольга Андрэеўна праз растапыраныя пальцы ўбачыла, як сын і дзяўчына па-змоўшчыцку пераміргнуліся.

Маці кінулася да сына. Абняла яго, цалавала, выцірала слёзы і смяялася. Але варухнулася ў яе раўнівае пачуццё ад таго, што дзеці так хутка пазнаёміліся і так хутка змовіліся рабіць ёй сюрпрызы. Асудзіла Тамару: залішне па-сучаснаму. Сыну не кінула такога папроку, хоць даўно ведала яго спрыт на знаёмства з дзяўчатамі. О маці! Паўгадзіны назад ёй хацелася, каб Барысу падабалася Тамара, пераканала сябе, што толькі такая жонка можа даць шчасце яе сыну, засцерагаць яго ад неразумных дзеянняў, учынкаў. А цяпер раўнавала. Не спадабалася нават тое, што яны так хутка і лёгка перайшлі на «ты». Унюхала яго мужчынскія слабасці за пяць мінут!

Насцярожана, да ганебнага падглядвання, чаго не рабіла нават тады, калі семнаццацігадовы Борка ціскаў сваіх аднакласніц, сачыла за адносінамі сына і сястры нявесткі. Яны разам, ахвотна і ўмела, пачалі памагаць ёй гатаваць і накрываць сталы. Трохі супакоілася, калі пераканалася, што ніякіх глупстваў не толькі ў дзеяннях, але і ў размове не дазваляюць сабе ні яе перарослы сын, ні маладзенькая студэнтка. Але ўсё роўна засталіся рваныя шматкі пачуцця: быццам бы яна пайшла на непрыстойнасць, калі марыла пра іх збліжэнне. Гэта трохі азмрочвала яе настрой, які пасля таго

як дачакалася Барыса, мог быць што гэты вясновы дзень — без адзінай хмурынкі на небе яе душы.

## IV

Уладзімір Паўлавіч не паверыў, што Глеб паехаў рыбачыць. «На пасеку твой жаніх з доктаркай забраўся»,— кінуў ён жонцы. Вольга Андрэеўна абразілася. Па-першае, за сябе: другі раз муж напамінае пра яе даўняе. Па-другое, за сына: не такі Глеб, Ірына таксама. Ды і логікі няма. Калі б яны жылі да вяселля, то навошта ім забірацца ў патаемнае месца за суткі да шлюбнай ночы? А калі захоўвалі сябе да ўзаконення свяшчэннага саюзу, дык тым больш не зробяць такога глупства перад самай урачыстасцю.

Адплаціла мужу:

«Вы што, даярак возіце на пасеку, што знаеш усе выгоды?»

А між тым Глеб сапраўды рыбачыў усю ноч — у адстойніках станцыі, у цёплай вадзе, у зоне, куды дапускаліся толькі свае работнікі. Рыбачылі цэлай брыгадай. Намеснік па гаспадарцы з нагоды вяселля дазволіў ім нават парыбачыць у запаведным адстойніку, дзе разводзілі рыбу для сваёй рабочай сталоўкі. Усе разумелі, што ў Прыпяці пры вясновай вадзе за рыбай не ўгонішся.

Адтуль, з Прыпяці, і прыехаў Глеб з рыбай і сябрамі. На двух «Жыгулях».

Старому Пыльчанку ажно не спадабалася, што ў калгас пойдзе такі картэж. Меркаваў абысціся сваімі дзвюма машынамі. А з калгаса ў раён далучацца машыны нявесціных сваякоў, іх паўвёскі і нямала на колах; шыкануць, як і сам Іван, любяць; мужыкі, а замашкі шляхецкія. А вакол людзі — у полі, у сёлах, тут, у райцэнтры. І адразу паляціць: вунь як жэняць дзяцей начальнікі! А час такі, што і пісака з сатырычным пяром можа апынуцца не толькі ў ліку зайздросных разявакаў, але і сярод гасцей. Вып'е тваёй гарэлкі і цябе ж распіша. Але думка такая не занепакоіла, а развесяліла — вясёлы час! Ды і

настрой добры адразу змяніўся, узняўся, як толькі ў кабінет, дзе ён схаваўся ад наведвальнікаў, пазваніў Барыс. Змяніў голас, паспрабаваў разыграць:

– Таварыш Пыльчанка? З Саўміна звоняць. Што гэта ў вас малако пацякло ўніз? Фантанам... Фантанам павінна біць! А то па вас ударым.

Пазнаў па першых словах. Хіба можна не пазнаць сына!

– Бора! Чортаў ты сын! Адкуль ты?

Ведаў, што з дому, спытаў так – для радаснага ўзрушэння. Дзіўна, ажно сэрца заскакала ўпрысядкі. Здзівіўся. Ніколі так не радаваўся прыезду сыноў, прымаў падзею са спакоем, які крыўдзіў Вольгу. Здаецца, нават тады не ўзрадаваўся, калі Барыс прыехаў на пабыўку пасля звароту з Афганістана. Гэтак жа пазваніў яму на работу, і ён, бадай, спалохаўся той раз: якім ён стаў, яго любімы сарвігалава, на якога неаднойчы некалі прыйшлося паднімаць папругу?

– Машына не трэба?

– Верталёт падавай.

Пачуў у трубцы дзявочы смех.

– Не тлумі галаву. Дома?

– Мне да цябе бегчы цалавацца? Ці сам з'явішся абняць свайго блуднага сына?

– Мне такі прыйдзецца сёння закрыць сваю кантору.

– Закрывай, закрывай. Малако само пацячэ. А маме трэба наша дапамога. Праўда, тут ёсць адна добрая фея, якая ўсё ўмее. Але намі трэба кіраваць. Без кіраўніцтва мы што без шкалы прыбораў. Крывім лінію. Не тую вышыню трымаем. А куды ты жаніха дзяваў?

– Можа, нявесту сцеражэ.

– А што – нявесту трэба сцерагчы? Во туркі! Красці нявест пачалі. Дажыліся браткі-беларусы!

Чуў усплёскі Тамарынага смеху.

– Не смяшы дзяўчыну.

– Я смяшу? Яна – мяне.

– Глядзі, донжуан. Не забывайся.

– Што ты, бацька! Хіба я не джэнтльмен? Афіцэр вялікай Арміі! У нас больш гонару, чым у Андрэя Балконскага.

— Ведаю я твой гонар.

— Дрэнна, бацька, думаеш пра паветраныя сілы.

— Паветраныя таксама бываюць ветраныя.

— Ха! Пазнаю цябе. Без мараляў ты не можаш? Як цябе трываюць падначаленыя? Перабудоўвайся! Наступае дэмакратыя. Нават да нас даходзіць. Знаеш, які начальнік палітаддзела ў нас стаў? Бацька родны. Цалуе нас, сынкоў. А мы пра яго анекдоты сачыняем.

Уладзімір Паўлавіч не мог адарвацца ад трубкі — так прыемна было слухаць сынаў голас, яго вясёлую балбатню. Не змяніўся Борка. Усё той жа. Калі лётную школу скончыў, пахваліўся, з гонарам, не адзнакамі, а тым, што трымаў першынство па сядзенні на гаўптвахце. Маці жахнулася. А яго рассмяшылі такія сынавы заслугі. Пасля Афганістана Барыс не спадабаўся: жарты яго сталі злоснымі, крыўднымі для людзей. А цяпер яны зноў ранейшыя — лёгкія, без падтэкстаў, гульня слоў, калі на любую заўвагу ён можа адказаць бяскрыўднай тырадай, прыкладам з жыцця, з літаратуры, анекдотам. Дрэнна, калі весялосць Барысава ад таго, што ён паспеў ужо прыкласціся да пляшкі ўпотай ад жанчын. Мінулы раз яшчэ і гэта ўстрывожыла — што абыякавы раней да спіртнога Барыс пачаў выпіваць і адкрыта, і — што яшчэ горай — употай. У гэтыя «разліўныя» дні трэба не спускаць з хлопца вачэй. Вось чаму трэба хутчэй дадому.

Бясшумнай мышкай шмыгнула па кабінеце сакратарка, спачатку цень яе ўбачыў. Сказаў Барысу:

— Скажы маці, што адна нага мая ў кабінеце, а другая ўжо дома. Сігаю сямімільна.

Палажыўшы трубку, радасна паведаміў памочніцы:

— Барыс прыехаў,— і пажартаваў: — Прыйдзецца табе, Ліда, дазволіць мне зрабіць прагул. Гуляць дык гуляць!

— Вас не трэба было сюды пускаць сёння.

— Во гэта праўда.

Каля дома дагнаў яго Глебаў картэж, які не спадабаўся: замнога будзе шыку!

Вось адкуль пачынаецца паказуха — з вяселля. У радавога інжынера-энергетыка. Да таго ж адчуў рэўнасць да Глеба: ён

пад'ехаў да дома першы і першы цалаваўся з братам. На вуліцы. І як бы сапсаваў бацьку сустрэчу з Барысам. Знаёміліся Глебавы сябры. А бацька стаяў збоку, як далёкі сваяк. У прысутнасці чужых людзей абняў сына скупа, па-мужчынску і слоў тых не сказаў, якія намерваўся сказаць, спяшаючыся дадому.

Хлопцы мітусіліся. Выцягнулі з багажніка цэлы мяшок рыбы.

Вольгу Андрэеўну рыба проста спалохала, яна шчыра прызналася:

– Не люблю я чысціць рыбу.

– Бацька ў нас майстра! Бацька! – весела крычаў Барыс.

Драбяза, а нядобра кранула Уладзіміра Паўлавіча, бадай пакрыўдзіла. Сапраўды, на рыбалцы, на пікніках над Прыпяццю, якія да мінулага года нярэдка рабілі, ён быў душой кампаніі: і рыбак адменны, і кухар – лепшага майстра па юшцы не было, ды і гуляка вясёлы, кампанейскі. А тут яго раптам на ролю памагатага – рыбу чысціць. Дажыўся.

Але, урэшце, гэта сапраўды дробязь – рыба. Горш іншае. Уладзімір Паўлавіч быў не толькі тамадой у кампаніі, але арганізатарам і кіраўніком любога пачынання, любой справы. Інакш не мог. Прывучыла работа, абавязкі гаспадара. Ён не прэтэндаваў на першую ролю ў арганізацыі вяселля, у якім, безумоўна, пераблытаюцца і народныя традыцыі, добрыя і прымітыўныя, старасвецкія, і тое новае, у якім больш дурнога, нудоты, чым сапраўднай весялосці – для душы і маладых і гасцей. Тут Пустаходаў не пераплюнеш, асабліва Лізу, яна з агледзін – галоўны рэжысёр. І аднак... ва ўсякім разе, да аб'яднання з Пустаходамі, у сябе дома, па законах людскіх і боскіх, кіраваць вясельным цырыманіялам належала яму, бацьку. Так лічыў. Але і тут яго паслалі «рыбу чысціць». Усё разыгрывалася па іншым сцэнарыі, якога ён не зацвярджаў. І што дзіўна – рэжысёрам і тут, у яго доме, была юная Пустаходзіха – Тамара.

Уладзімір Паўлавіч любаваўся дзяўчынай – як яна камандуе не толькі жаніхом, але і яго сябрамі, з якімі толькі што пазнаёмілася, і... Барысам. І яны паслухмяна выконваюць усе яе загады. Барыс, яго свабодалюбівы, упарты, непакорлівы,

непаслухмяны, свавольны, часам цынічны старэйшы сын, ходзіць следам за дзяўчынай, як ягнё. Цуд і ганьба! Гэта не кратое што не падабалася, а неяк ушчамляла самалюбства, кранала сямейны гонар, ці што.

Вось табе і Пыльчанкі. Зацуглялі іх Пустаходы. Тамара нават адзявацца жаніху памагла — устаўляла ў сарочку запінкі, завязвала гальштук, ніхто з хлопцаў не ўмеў завязаць прыгожа гальштук.

— Нам трэба ехаць па нявесту? — запытаў Уладзімір Паўлавіч у жонкі.

— Не. Бацькам жаніха не трэба.

— Ты ўпэўнена? Спытай у Тамары.

— Тамара вышэйшы аўтарытэт? — іранічна, але, бадай, раўніва сказала Вольга Андрэеўна.

— Выходзіць, што так. А мы з табой — апошнія спіцы. Кожнае мерапрыемства павінна мець план-сцэнарый...

— Зацверджаны табой?

— Не шпігнуць ты не можаш. У даным выпадку — табой. Калі табе і тваім дарагім Пустаходам захацелася спектакля, то я павінен ведаць сваю ролю ў ім: калі выйсці, дзе стаць і што сказаць...

— Будзь бацькам. Галоўная роля. Добры бацька ў любым спектаклі на месцы. Рэпеціраваць яму не трэба.

Гэта пачуў Барыс, які ўвайшоў на кухню, і засмяяўся:

— Мудрая ты ў нас, мама.

Тамара вырашыла па-свойму, што ехаць Уладзіміру Паўлавічу трэба. Глеб і Барыс падтрымалі яе.

Старэйшы сын нагадаў матчыны словы:

— Бацька ўсюды на месцы.

Урэшце і самому яму хацелася ўбачыць вясельны спектакль ад пачатку да канца і сыграць у ім калі не галоўную ролю, то не заставацца статыстам. Бо адыдзеш убок — і забудуцца на цябе, пасля не здолееш упісацца ў ансамбль акцёраў.

Тамара пазваніла сваім:

— Едзем!

Адно слова — ніякіх тлумачэнняў.

Барыс зарагатаў:

— Во лаканічнасць! Табе трэба ў нас служыць. Нам патрэбны такія каманды. А то іншы цягне гуму. Пакуль выцадзіць, я паўсотні вёрст адмахаю.

Уладзімір Паўлавіч пазваніў у гараж:

— Падавай, Змітро, машыну.

Шафёр спытаў:

— Дзве?

— Хопіць адной,— быццам адна машына нешта значыла ў картэжы, у тым, што пойдзе з калгаса ў райцэнтр.

— Давай, бацька, дзве,— сказаў Глеб, які апынуўся побач.

І ён паслухмяна згадзіўся:

— Добра. Давай дзве.

І ўзлаваўся — на сябе, на Змітра, які добра ведаў, колькі машын трэба, на Глеба. Усе сёння камандуюць ім, і ўсім ён саступае — не па характары сваім. Але раздражнёнасці баяўся, змрочнага настрою баяўся, бо ў апошні год часам упадаў у апатыю, абыякавасць; палохаўся гэтага — прыкметы старасці.

Тамара ведала, што дома Ліза не дасць ёй камандаваць, хоць месца ў сямейным рангу яна трымала не па ўзросце, бадай, трэцяе — пасля бацькі і Лізы. Ды на гэтым этапе вяселля роля сувязной — ці не галоўная. Дзяўчына ўгаварыла Глебавага сябра Платона Куленіча павезці яе на пяць мінут раней. Барыс памкнуўся з ёй, але тут дзяўчына зразумела, што недарэчна ёй з'явіцца з братам жаніха, інтуітыўна адчувала, што такое парушэнне рытуалу асудзяць не толькі бабкі яе і цёткі, але і Ліза — галоўны рэжысёр.

Персанальная машына старшыні ўзначаліла картэж. Прывычка маладога шафёра: другім ці трэцім ён трымаўся, калі ехалі з высокім начальствам. Можа, так і рушылі б, але да машыны выскачыла ледзьве не спалоханая Вольга Андрэеўна, кінула мужу:

— Не ўздумай жа ехаць першы, а то за жаніха палічаць.

Зноў ім камандуюць. Як малым. Пры шафёру.

Але сапраўды мог ірвануць першы, бо было жаданне адарвацца ад вясельнага картэжу. Яшчэ ад аднаго глупства папярэдзіла жонка — ад недазволенай хуткасці, бо маладыя ад яго не адсталі б. Яшчэ не хапала ў аварыю ўляцець.

— Дрэнна ты пра мяне думаеш.

— Добра я пра цябе думаю.

За горадам Уладзімір Паўлавіч на нейкі час забыўся на вясельныя клопаты. Радавалі прасторы палёў. За гэтыя дні густа пайшла зяляніна, азіміна раскусцілася, загусцела, здаецца, відаць, як калышацца яна — не ад ветру, бязветрана, ад гонкага росту. Узышоў ячмень. Удалечыні працуюць бульбасаджалкі, ужо ўзнімаюць пыл. Не пашкодзіў бы і дожджык, незацяжны, кароткі і дружны, майскі. Але падумалася, што дождж можа сапсаваць урачыстасць. Аднак жа і на вяселлі дажджу радуюцца: на шчасце, на багацце. А багацце — гэта ўраджай. Аднак хто цяпер думае пра ўраджай? Але там, куды яны едуць, думаюць. Любіў ён людзей, якія працуюць на зямлі. Таго ж Пустахода, упартага чорта, якога, бывала, не ўламаць, калі што не так, як яму хочацца, хіба на бюро райкома пераконвалі. Цікава, як ён будзе паводзіць сябе, калі яны парадняцца? Нічога. З разумным чалавекам заўсёды можна знайсці агульную мову.

Пасля пералеску зноў пацягнуліся прасторы поля — як вокам кінуць. Асушаныя тарфянікі. Пад шматгадовымі травамі. «Мой малочны палігон» — называе яго тутэйшы старшыня Пятро Бацюта, выхаванец Пустахода. З гэтым вучнем цяжэй, чым з настаўнікам. Залішне шырока разумее перабудову і дэмакратыю. Гэтаму не загадаеш завесці на мясакамбінат лішнюю галаву, каб выцягнуць раённы план. Эканаміст і законнік. Грабе пад сябе. Але і Бацюту ён любіць: нямнога такіх гаспадароў, асабліва маладых. Гэта добра разумее Сінякоў, робіць стаўку на Бацюту, падтрымлівае нават экстрэмізм яго, але рашэнні праводзіць па-старому і лоўка ўзвальвае іх на яго, сівога каня. Хітруны маладыя! Дыпламаты!

Дзіўна, што жаніх не спяшаецца — павольна вядзе картэж першая машына, у якой Глеб, Барыс, дружкі. Не прывык старшыня так разважна ездзіць, заўсёды падганялі справы і час, якога не хапала. А, між іншым, добра, што можна палюбавацца полем і вясной. Ці любуюцца хоць маладыя? Няхай бы напоўніліся рамантыкай, паэзіяй. Сыны яго. Ці засталася яна, паэзія, у іх душах пасля таго, як адзін панюхаў пораху і

пабачыў кроў, а другі без малага два гады сядзіць на атамным рэактары? Як здарылася, што ён ніколі не пагаварыў з імі на гэтую тэму? Ладна, Барыс... калі яго бачыць? А Глеб жа штотыдзень прыязджае дадому. Усё тыя ж праклятыя справы не пакідаюць часу ні на сардэчныя размовы з жонкай, ні на філасофскія размовы з сынамі.

«Робаты мы».

На краі сяла іх сустрэла Тамара. Спыніла картэж.

– Выкуп маеце?

– Каму плаціць? Табе? Ух ты, прыватніца! – смяяўся Барыс.

– Не мне. Там перагарадзілі вуліцу... хлопцы і дзяўчаты.

– Выкупімся.

– Чым? Грашыма? Грошы нікому не трэба.

– У вас што – камунізм?

– Віно трэба. І цукеркі. Не дадумалася я. І нашы не сказалі.

Тамара дастала з «жыгулёнка» з украінскім нумарам вялікую торбу з віном і гарэлкай.

– Во, майце. Што б вы рабілі без мяне!

– Без цябе мы нулі.

У завулку, дзе дом старшыні, тоўпіліся людзі, май жа, уся рабочая сіла сяла, бо стаялі хлопцы, дзяўчаты, маладзіцы і старыя жанчыны. Пасярод вуліцы – стол, засланы белым абрусам. Пыльчанка не мог падкаціць на машыне да гэтай жывой загарадзі. Загадаў шафёру спыніцца воддаль. «Жыгулі» прашмыгнулі за «Волгай», у якой жаніх пад'ехаў да людзей.

Зайгралі два ці тры баяны. Воклічы. Смех. Натоўп абкружыў машыны. І Уладзімір Паўлавіч не бачыў, як ішла «купля – продаж» нявесты. Цікаўнасць яго не знікла, хацелася пабачыць, як гэта адбываецца. Але ж... пасада і мінулагодняя пастанова. Яны вымусілі адлучыцца ад урачыстасці, адысці ў бок ад народа. Разумеў, што раздражняцца не да месца. Можаш не ўдзельнічаць, але паводзь сябе па-бацькоўску. Аднак усё роўна настроіўся супраць свата: наладзіў спектакль у рабочы час, калі ідзе сяўба! Ведаў, што жанчынам няма яшчэ чаго ў полі рабіць, даволі трактарыстаў і апаратараў сеялак.

Але псіхалогія кіраўніка — заразная рэч, і на вяселлі сына на першым плане думкі пра сяўбу. Не, хітраваў сам з сабой. Не ў сяўбе справа, не за сяўбу ім з Пустаходам могуць запісаць — за традыцыю. Ад гэтага было брыдка, мацнела раздражнёнасць.

Павольна паўз хаты і платы наблізіўся да натоўпу. Там усталяваліся ўжо адносны парадак і цішыня. Людзі адступілі ад стала, утварыўшы жураўліны клін. На стале стаяла батарэя пляшак, выходзіць, не толькі з тае торбы, якую перадала жаніху Тамара. Гэта яшчэ больш настроіла супраць Пустахода.

«Ох, нарываецца Іван на вымову».

Глеб з дружкамі па рэжысуры Тамары частавалі людзей вінам і гарэлкай. Дасціпныя маладзіцы яўна рабілі «скаромныя» пажаданні, бо выбухнуў смех.

На шчасце, на Пыльчанку не звярнулі ўвагі, хоць ведалі многія, выкупу не патрабавалі — далікатныя людзі, і ён непрыкметна мінуў небяспечную зону. З Іванам сутыкнуўся тварам у твар. Нават не пазнаў свата. Новая генерацыя старшынь — багатыя людзі, інтэлігенты. На рабоце адзетыя пазнаму, але на пленумы, сесіі, нарады прыязджаюць, што тыя дыпламаты,— у дарагіх касцюмах, у модных сарочках, імпартных гальштуках. Адзін Пустаход нязменна іграў мужычка, нават тады, калі ехаў у Гомель ці Мінск. Клятчастая байкавая кашуля, пакамечаны пінжачок, зімою — у валёнках з галёшамі, вясной і ўвосень — у ботах. Былы першы неаднойчы прабіраў яго за гэта: «Кулак ты, Іван Іванавіч».— «Я ў балотах жыву».— «Якія балоты! У цябе асфальт пралажаны, а ты ў дзедаўскіх галёшах у райком ездзіш. Пасаромейся людзей».

А тут паўстаў перад Пыльчанкам элегантны мужчына. Высокі, па-маладому стройны (хоць увогуле Пустаход сутуліўся), адзеты ў цёмна-шэры, вельмі ладна падагнаны касцюм, шэры, з чырвонымі палоскамі — у тон касцюму — гальштук. Нават галава змянілася — добра прычэсаныя чорныя валасы з сівізной на скронях; мабыць, раней ён не стрыгся ў добрых цырульнях, а тут пастрыгся ў Гомелі ці ў Мазыры. А вусы

нафарбаваў, ці што,– не такія пракураныя, як звычайна. Пустахода часта пыталі: «Іван, як табе ўдаецца не сівець? На такой рабоце! І пры тваім цыганскім аблiччы».

Пастараўся Пустаход прыхарошыць сябе да вяселля дачкі! Адчувае ўрачыстасць! А ён, Пыльчанка, у штодзённым касцюме, няхай сабе і нядрэнным, але ж ёсць лепшы, аднак прынцыпова адмовіўся надзець яго, хоць Вольга і настойвала.

— А я падумаў, цябе Бацюта перахапіў, што не відаць нідзе.

— Баяўся выкуп плаціць. Аднак арганізаваў ты вадапой, я табе скажу. Вадзічку святую з Прыпяці браў? Сяло сабраў.

— А ты засеў, як камандуючы, у тылавым акопе і назіраеш ход аперацыі.

— Нагоніць нам Сіняк сінякоў.

Пустаход бліснуў цыганскімі вачамі.

— Уладзімір Паўлавіч! Каго ты баішся? Гаўно твой Сіняк перад такімі зубрамі, як мы з табой.

— Сівы ты зубр, а выстаўляешся, як п'яны заяц. Сёння ты смелы, а на бюро штаны будуць трэсціся.

Пустаход засмяяўся:

— Будуць. Але... не бойся!..

— Маё становішча зразумей. Мяне пацягнуць вышэй... на бюро абкома.

— Уладзімір Паўлавіч! Я ж цябе ведаю смелым чалавекам.

— Не забывайся пра кампанію. Я баюся кампаній. Па шапцы я атрымоўваў, як правіла, у час кампаній. Некалі, малады і гарачы, я выступіў супраць круглых кароўнікаў. Недурны быў чалавек першы, а картачку мне запэцкаў. «За што, Іван Мацвеевіч?» — «За непавагу начальства. Любі, Валодзя, начальства». Гумарыст быў твой цёзка.

— Цяпер наадварот: ідзе пристрэлка па начальству. І яно забіраецца ў бліндажы.

— Вось туды, у «бліндаж», і пойдзе сігнальчык пра твой вадапой. Не думай, сігнальшчыкі і ў цябе ёсць.

— Ды ёсць.

— Што там у цябе на чарзе па сцэнарыі?

— Не бойся. Царкоўнага абраду не будзе. Паабедаем — і ў дарогу. Маглі, між іншым, і ў сельсавеце запісацца. Тут ты праўду кажаш: лішні шум нам з табой без патрэбы.

— Я згодзен быў на любы варыянт, ты знаеш. Але Ірына і яе саюзніца Вольга...

— Саюзніц у яе многа. Любяць мае бабы пашумець. Лізу выдавалі — тыдзень гулялі. Ад таго, кажуць, і сям'я добрая. А ўрэшце — чаму і не пагуляць? Народ мудры: умеў працаваць, умеў і святкаваць. Якія вяселлі былі!

Моладзь яшчэ шумела каля стала. Заліваліся баяны. Нейкая маладуха сыпала жартаўлівыя частушкі. Але сталыя людзі разыходзіліся: спектакль завяршаўся. Сваякі ці запрошаныя заходзілі ў Пустаходаў двор.

З'явілася нявеста. Да таго не відаць яе было, што Уладзіміру Паўлавічу спадабалася. Паслядоўнасць рытуалу не помніў, але, па яго логіцы, сустракаюць жаніха без нявесты, няхай спачатку «купіць» яе. Наіўна, але паэтычна.

Будучая нявестка даўно падабалася Уладзіміру Паўлавічу. І прыгажосцю сваёй. І сур'ёзнасцю — да жыцця, да навукі. Харошы ўрач расце. А ён, сталы чалавек, бацька, гаспадар, больш за ўсё цаніў у моладзі сур'ёзнае стаўленне да справы. Гэтакі ж і Глеб — улюбёны ў энергетыку. Барыс, дык той усё лае, авіяцыю сваю ў тым ліку. Але гэта, відаць, таксама праява сур'ёзнасці — усё крытыкаваць, ва ўсім сумнявацца. Не пустое гэта адмаўленне, хоць часам разважанні старэйшага сына, афіцэра, здаваліся непатрыятычнымі і трывожылі: уліпне ў гісторыю са сваім характарам.

Ірына ўразіла хораша. Ён чамусьці і ўявіць не мог яе ў традыцыйным вясельным убранні. А яна і выйшла не ў ім — у строгім касцюме з парчовай тканіны, як бы вышытай срэбрам. Простая і прыгожая прычоска, прастата такая вельмі ж пасуе цёмным валасам. На твары ніякай касметыкі. Простыя і правільныя рысы, усё як бы ў вымеранай прапорцыі. Акрамя вачэй. Угледзеўся ў іх і ўбачыў, што яны розныя па колеры: левы кары, правы блакітны. Папракнуў сябе і Вольгу: як мы дрэнна глядзім у вочы людзям. Вольга яшчэ тады, калі Глеб прывёў дзяўчыну пазнаёміць з маці, спытала ў мужа з

заклапочанасцю: «Табе не здаецца, што яна трохі касая?» Глупства, дарагая жонка! Прыгледзься пільна! Такія вочы здольныя заваражыць мяне, старога.

Аблічча не кідкае, простае, славянскае — вельмі даспадобы Пыльчанку, не любіў лялечных твараў. А вочы — як у іншапланецянкі з фантастычных фільмаў. Дзіўна, як яны ўпачатку не ўбачылі іх разнаколернасці? Можа, таму, што не свяціліся яны тады так. А тут ззялі ад шчасця. Дай жа Бог, каб яны ззялі заўсёды!

І яшчэ адно ўсхвалявала, па-іншаму ўжо. Бачыў ён Ірыну ў плаццях, у белым халаце, і заўсёды яна выглядала па-дзявочы танклявай, хоць ёй і не васемнаццаць, а дваццаць чатыры. А тут здалося, што спадніца ёй як бы цеснаватая, так шчыльна абцягвала па-жаночаму шырокія клубы.

«Няўжо цяжарная?» — мільганула думка. Урэшце, што дзіўнага? Не юнакі. І столькі гадоў сустракаюцца. Нават хораша ўсхвалявала, што ў хуткім часе ў яго з'явіцца ўнучка ці ўнук, першы. Па ўзросце сыноў даўно ўжо мог быць дзедам. Няхай парадуецца маці, што стане бабуляй,— падумаў з гумарам, але і з уедлівасцю: паглядзі на свайго цнатліўца! Трохі і яго драпнула за жывое, што нявеста не дачакалася законнай шлюбнай ночы. Во праклятыя забабоны! І ён гатовы абвінаваціць у першую чаргу дзяўчыну, як у дзедаўскія часы. Але стала яму сорамна: перадавы, называецца, чалавек! Тут жа падрыхтаваў свой сарказм у размове з жонкай, калі раптам і яна выкажа сваё расчараванне ці хаця б здзіўленне. Не, нявестка ў іх — што трэба. Аблавуху Глебу дастаўся скарб.

Уладзімір Паўлавіч любаваўся Ірынай. Спадабалася, як яна паводзіць сябе ў вясельным тлуме. Яна — у ім, як староннi чалавек, назірае збоку, не без іроніі — на хваляванні маці, сясцёр сваіх Лізы і Тамары; гэтыя — у бацьку: любяць кіраваць. Хоць тут, дома, Іван Іванавіч паводзіць сябе бадай гэтак жа, як і нявеста. Не, нявеста іранічная, а бацька сур'ёзны, нявеста незалежная і нічыіх каманд не прызнае, да гэтага, мабыць, прызвычаіліся ў доме, бо нават Ліза і Тамара ў адносінах да сястры не ўжываюць «адміністрацыйна-камандны тон»,— з гумарам адзначыў Пыльчанка. А Іван Іванавіч, наадварот,

напрошваецца на іх загады, здаецца, ажно радуецца, што ім камандуюць.

Уладзімір Паўлавіч пажартаваў:

— Ніколі не думаў, што так любіш падначальвацца.

— Дык прывучылі ж.

— Хто? Жанчыны?

— Ды не. Вы, начальнікі.

Пыльчанку падабаліся іх адносіны. Цяперашнія. Яны і раней былі найлепшымі, сяброўскімі. Пяць гадоў назад, знаёмячыся з раёнам, ён толькі ў гэтага старшыні згадзіўся паабедаць, выпіць чарку. Зблізіліся, калі даведаліся пра ўзаемную прыхільнасць дзяцей. І ўсё ж Пустаход заўсёды ўмеў трымацца субардынацыі, непрыкметнай, разумнай. А абвясцілі дзеці аб маючым адбыцца шлюбе, і зруйнаваўся нябачны бар'ерчык, сваяцтва замацавала добрую і верную мужчынскую дружбу сталых людзей — тую дружбу, якая дае шчасце ў свеце, дзе прыходзіцца азірацца. Пры такіх адносінах можна давяраць адзін аднаму ўсё — думкі, сумненні, прагнозы. Не ўсе людзі маюць гэты дарунак — такую дружбу.

Мінута выпала для размовы.

І тут жа Ліза загадала:

— Схадзі, бацька, у мой дом, прынясі піва са склепа. Маіх жаніхоў ад баяна не адарвеш,— гэта яна пра мужа і сына.— Уладзімір Паўлавіч, ідзіце ў хату, пасядзіце, танцаваць жа не будзеце.

— Не, лепш дам гапака. А то яшчэ і мяне прымусіш піва варыць.

Ліза весела засмяялася:

— Во не дадумалася! Трэба было вас на востраў паслаць... А то мае партыйцы пабаяліся. Сама грэлася каля цяпельца.

— Гнала?

— Дык спажыўсаюз ваш... колькі выдзеліў? Слёзы. Па кроплі на горла. А ў гэтыя жлукты трэба па вядру.

— Пасаджу я цябе сутак на пятнаццаць.

— Не пасадзіце. Надоі ўпадуць.

Застаўся ў двары з паважнымі старымі сваякамі, незнаёмымі, пэўна, з-за Прыпяці, з Украіны, калі меркаваць па іх вымаўленні.

Двор Пустаходаў здзівіў. Не бачыў раней, каб у звычайным сялянскім двары, дзе трымаюць каровы і свінні, можна было навесці такі парадак. Дарожкі пасыпаны жоўтым рачным пяском, вільготным. Палівалі, ці што? Сцяна хаты між акон, ганак упрыгожаны вярбой і бярозай з ружавата-зялёнымі лісточкамі. Як на Сёмуху. І пахла незвычайна. Чым? Немагчыма вызначыць. Чысцінёй. Вясной. Святам. Юнацтвам. Але далёкім, забытым юнацтвам. Пах такі ажно ўсхваляваў. Пажартаваў Пустаходу:

— Адэкалонам ты не пырскаў тут? Смачна пахне.

— Гэта з кухні.

Можа, і з кухні. Але ў яго двары так не пахне, хоць чысценькі дворык заўсёды, гарадскі, курачка хіба суседская заглядвае ды галубы. А ўрачыстасці ніякай. Можа, цяпер толькі зразумеў жончыны перажыванні, турботы і сваю эгаістычнасць. Яна, нябога, тыдзень мыла і прыбірала. Адна. А ён кпіў. А дарэмна. Толькі тут сцяміў: свята — гэта яшчэ і парадак вось такі, і пахі — не смажаным, а нечым асаблівым, невызначальным, ад чаго п'янееш, як у вінным склепе.

Пустаход, між іншым, сказаў:

— Сёння паабедаем у маёй хаце. А заўтра гуляць будзем у Лізінай. Прасторы больш. А калі будзе такі дзень, то на беразе рэчкі сталы паставім. Гуляць дык гуляць.

— Купецкія ў цябе замашкі, Іван.

— А каго мне баяцца? Я з калгаса куранятка не ўзяў. Усё сваё, сваім трудом вырашчана.

— А цябе скупярдзяем лічаць.

— А гэта і добра, што так лічаць.

Адкрываўся Пустаход новымі гранямі. Не толькі ён адзін — уся сям'я, працоўная, дружная. Радавала сваяцтва з такой сям'ёй. Але разам з тым нешта і трывожыла. Мабыць, незадаволенасць сабою, сваім стаўленнем да вяселля, як бы не заўсёды сур'ёзным, начальніцкім, ці што. Паглядзеў на Пустаходаў, хоць і вяселле яшчэ, па сутнасці, не пачалося, і захацелася шмат што паправіць дома. Як там спраўляецца нябога Вольга? Мудрая яна! Не так блізка, як ён, знаёмая з сям'ёй нявесты, але адразу адчула, як яны адносяцца да

замуства дачкі і сястры і якое вяселле хочуць і здольны наладзіць.

Адшумела моладзь, адстукала абцасамі на асфальце. Сціхлі баяны.

У двор выйшла Марыя Пятроўна ў святочным плацці, да гэтага многа разоў снавала паміж хатай і адрынай у рабочым фартуху. І зноў да мужа:

— Запрашай, Ваня, гасцей.

— А не Ірыне гэта трэба зрабіць?

— Не, не Ірыне. Табе, бацька,— высунулася з адчыненага акна ўсюдыісная таўстуха Ліза.— Ірыну мы схавалі.

Сапраўды, Ірыны нідзе не было відаць. І застолле праходзіла без нявесты.

Уладзімір Паўлавіч не ведаў гэтых традыцый. Мясцовыя, ці што? Палескія? Бачыў у дзяцінстве, у маладосці вясковыя вяселлі, але, здаецца, нявесту нідзе не хавалі. Хоць які этап вяселля ён бачыў? Пэўна, пасля загса. А тут жаніха і яго дружкоў, бацьку частуюць да «вянчання». Логіка тут ёсць: абедаюць госці нявесты. Набілася іх поўная хата, нямала прыезджых — Ірыніны сябры з Мінска, Тамарыны — з Гомеля, сваякі з навакольных вёсак, з блізкіх і далёкіх гарадоў. Клан Пустаходаў магутны.

Жаніха яўна збянтэжыла, што нявесты няма за сталом. Хоць яму, здаецца, растлумачыла Тамара — шаптала на вуха.

Уладзіміру Паўлавічу падабалася Ірына, яе самаўпэўненасць, незалежнасць, і не падабаўся ўласны сын. Разгублены нейкі. Праўда, Глеб ніколі не вызначаўся незалежнасцю — такой, як у яго, бацькі, як у Барыса. Глеб — у маці, з яе заўсёднымі сумненнямі, аглядкамі на людзей — што тыя скажуць.

«Будзе ў жонкі пад пятой,— непрыязна падумаў Уладзімір Паўлавіч пра сына.— Ужо без яе не можа».

Але кранала іншае: адарваны ад нявесты, Глеб прыліп да брата, не адступаў ні на крок, глядзеў на Барыса ўлюбёна, як, напэўна, глядзеў бы на Ірыну.

Глеб не піў. Барыс прымушаў яго:

— Ды выпі ты чарку. Для смеласці. А то пабаішся нявесту пацалаваць.

Тамара, што сядзела за бакавым сталом, па-мацярынску пагразіла Глебу пальцам:

– Я яму вып'ю!

Насмяшыла гасцей.

– Во камусьці дастанецца піла. У такой не вып'еш.

– Тома! Цябе трэба выбіраць старшынёй таварыства цвярозасці!

– А што? І не памыліліся б.

– Уладзімір Паўлавіч! Што, так і будзем жыць без «святых слёз»?

– Свае гнаць будзем. Слёзы. І яны такі будуць святыя.

– У нас учора прывезлі віно, дык усе сеялкі на полі спыніліся. А трактары каля сельмага апынуліся. У чаргу выстраіліся. Во цырк быў!

– А чым жа перакрыць непаступленні ў бюджэт?

Задавалі пытанні, якія ўжо амаль год хвалявалі старшыню райвыканкома. Расказвалі факты, эпізоды, легенды, анекдоты, якія ён даўно ведаў, кожны, хто прыходзіў да яго, з раённых работнікаў ці сяльчан, лічыў сваім абавязкам, сур'ёзна ці жартаўліва, расказаць аб антыалкагольнай кампаніі. І амаль усе з вывадам: не тое робім! Ён, стары зубр, таксама перакананы, што робім не тое. А што было б тое? Народ співаўся. Але закон не спыніў гэтую бяду – гоняць самагонку, п'юць усялякую заразу. А бюджэт сапраўды трашчыць.

Устрывожыўся, угледзеўшы, што гэтак жа непрыкметна, як многія госці – мужчыны, куляе Барыс. Астатнім, у горшым выпадку, садзіцца за руль аўтамашын ці трактара, а яму – за штурвал рэактыўнага самалёта. Наперадзе ўсё вяселле, а ў яго ўсяго два дні звальнення.

Ведаў характар сына: яго папярэджанне ў любой форме настроіць Барыса на пратэст. Яго забароны гэты наравісты жарабок ніколі не выконваў, усё рабіў наадварот, маці часам слухаўся, асабліва пасля яе слёз.

Як жа на яго ўздзейнічаць? Ёсць адна сіла – жаночая.

Паклікаў да сябе Тамару, зашаптаў ёй на вуха:

– Томачка, дзіця маё, зрабі добрую справу: вазьмі шэфства над Барысам. Каб лішняе не выпіў, а то ён хлопец завадны.

Тамара залілася чырванню, збоку нехта мог падумаць, што стары Пыльчанка сказаў нешта скаромнае. Не, залілася чырванню ад радасці: бацька хлопца як бы блаславіў яе на тое, чаго ёй хацелася самой,– быць побач з Барысам, апекаваць яго.

## V

Скупы Пустаход здзіўляў размахам. Разгуляўся купец. На просьбу свата – як бы менш машын ішло ў райцэнтр – зрабіў выгляд, што не разумее – чаму?

– А што, яны ў нас крадзеныя, машыны?

– Ды ты маё становішча зразумей. І сваё.

– Уладзімір Паўлавіч! За вяселле народ не асудзіць.

І рушыла кавалькада з дванаццаці ўпрыгожаных стужкамі, лялькамі, вярбой «Волг», «Жыгулёў», «Масквічоў».

У райцэнтры людзі не толькі праводзілі картэж здзіўленымі позіркамі, але нямала хто з разявак падаўся следам да загса – і з тых, хто ведаў, чыё вяселле, і з тых, каму карцела даведацца.

Але картэж – драбяза. Сюрпрыз чакаў і Пыльчанку і Пустахода ў самім Доме шлюбаў, на збудаванне якога старшыня райвыканкома патраціў нямала энергіі, хоць пасля адкрыцця ні разу сюды не заглядваў.

У цеснаватай зале рэгістрацыі (большую плошчу невялікага дома аддалі пад залу прыёмаў, дзе да мінулага года за здароўе маладых шумна пілі шампанскае) за сталом, накрытым чырвоным сукном, пад гербам рэспублікі стаяла не былая яго сакратарка, цяперашняя загадчыца загса Клаўдзія Іванаўна, якая яшчэ ўчора павучала шэфа наконт акта рэгістрацыі, а... сам Сінякоў. Сапраўды, сюрпрыз. Хоць, уласна кажучы, чаму здзіўляцца? Даўно заведзена, не ў адных іх, што запіс шлюбаў вялі члены выканкомаў – лепшыя людзі горада і раёна, ветэраны, перадавікі вытворчасці. Чаму не можа аднойчы выканаць гэтую місію сакратар райкома? Ганарова. Уласна кажучы, Уладзімір Паўлавіч здзівіўся хіба на міг. Ведаў,

што Пятро Міхайлавіч любіць рабіць нечаканыя дэмакратычныя хады. Разумна ён вызначыў свой удзел у сямейнай урачыстасці таварыша па рабоце. Хітра і разумна, не адмовіш. За стол не сядзе – не той час. А павіншуе маладых першы. Выступіць у асаблівай ролі. Гэтая роля першага развесяліла Пыльчанку. Не роля. Выгляд Пятра Міхайлавіча, апаясанага гербавай стужкай, па-дзяржаўнаму ўрачыстага і сур'ёзнага побач з маладзенькай асістэнткай. Асабліва цешыла, што смелы на любых трыбунах, самых высокіх, малады сакратар тут не вельмі ўпэўнены, трохі нават разгублены; асістэнтка-суфлёр падказвала яму. Аднак, здаецца, ён не паўтарае яе бяздумна, шукае сваіх слоў, але працэдура незвычайная, нязвыклая, свае не прыдумаеш, і вылазіць з глыбінь памяці прачытанае ў літаратуры, убачанае ў кіно.

– Глеб Пыльчанка! Ці жадаеш ты ўзяць у жонкі Ірыну Пустаход?

– Жадаю.

– Ірына Іванаўна, ці жадаеце вы стаць жонкай Глеба Уладзіміравіча?

– Вельмі жадаю,– не без гумару адказала Ірына.

Напэўна, гэта рассмяшыла Барыса, а следам за ім іншых. Іх вясёлы настрой вывеў са скаванай афіцыйнасці Пятра Міхайлавіча. Ён набыў упэўненасць гаспадара. Асістэнтка прашаптала яму далейшыя словы. Ён таксама засмяяўся:

– Дрэнны з мяне пастар. Галоўнае чуць не забыўся. Абмяняйцеся пярсцёнкамі. А далей што?

– Распісацца ў кнізе.

– Правільна. Без роспісаў які дагавор аб вечным саюзе! У народзе рэгістрацыю так і называюць – распісацца. Так, Уладзімір Паўлавіч? Вы ў нас галоўны цырыманіялмайстар.

Распісваючыся ў кнізе, маладыя павярнуліся да прысутных. Глеб падпісваўся сур'ёзна, засяроджана, павольна – ці не поўнасцю прозвішча, імя, імя па бацьку?

Ірына каротка махнула пяром – як на рэцэпце – і падарыла бацькам і гасцям гарэзлівую ўсмешку, якая не спадабалася Лізе – несур'ёзна! Але спадабалася свёкру: пры ранейшых сустрэчах Глебава абранніца здавалася залішне сталай.

Ажно не — вунь якая гарэза! Не любіў Уладзімір Паўлавіч, калі маладыя занудамі робяцца.

«Поп» спытаў у асістэнткі:

— Цалавацца маладым трэба?

— Абавязкова трэба,— адказала Ірына і першая кінула рукі на плечы мужу.

— Ух ты, як салодка! — выгукнуў Барыс, моладзь запляскала ў далоні, засмяялася.

Пятро Міхайлавіч жартаўліва пагразіў ім пальцам:

— Парушаеце парадак. Вядзіце сябе, як у царкве.

«Недурны ж чалавек,— падумаў Пыльчанка пра свайго партыйнага кіраўніка,— а бывае фармалістам».

Цяпер ён, бадай, быў удзячны сакратару, што той рызыкнуў узяць на сябе такую незвычайную місію. І калі не лічыць некаторай няўпэўненасці ўпачатку, праводзіць акт рэгістрацыі не фармальна, не шаблонна, як, напэўна, зрабіла б гэта загадчыца загса. Спадабалася і віншавальная прамова Пятра Міхайлавіча. Трохі хіба даўгаватая, але без штампаваных блокаў — так, Сінякоў неаднойчы крытыкаваў работнікаў, якія сапраўды заштампаваліся да брыдкасці і не бачаць гэтага, не разумеюць. І сарказм да іх не даходзіць. Ён, Пыльчанка, сам небязгрэшны, зацэментаваліся блокі і ў ім, але ён умее пазнаваць штампы, на хаду вылоўліваць і разбураць іх ці, па магчымасці, разбаўляць вясёлым прыкладам, жартам, анекдотам.

— Што пажадаць вам, маладыя? Спачатку просьба. Да цябе, Глеб. Упікнуць цябе, што ты працуеш у суседняй рэспубліцы, мне не дазволена, я — інтэрнацыяналіст. Ды і станцыя атамная, гонар нашай энергетыкі. І нам дае ток. Але паколькі гэта не за гарамі і я так часта бачу цябе дома, не вывозь ад нас урача. Ты знаеш, у раёне іх не хапае. Ірына Іванаўна, спадзяюся на ваш патрыятызм. Усе Пустаходы — патрыёты свайго раёна. Так, Іван Іванавіч? Няхай жа і Пыльчанкі прыжывуцца тут. Няхай жа ножкі вашых дзяцей узнімаюць пылок гэтай благаславёнай пладавітай зямлі, якая будзе багацець з кожным годам, з кожным ураджаем. Добрага ж ураджаю вам!

І тут з-за спін гасцей вынырнуў Сяргей Плечка з нечым груваcткім, цяжкім, загорнутым у паперу.

— Дазвольце мне, Пятро Міхайлавіч?

— А можна мітынгаваць у загсе? — звярнуўся сакратар да работніцы.

Тая разгубілася, пачырванела, не ведаючы, што адказаць. Даўно заведзены рытуал і без таго парушаны.

— Усё можна, што не забараняецца законам,— упэўнена адказаў Плечка.

— Ух ты! Які камісар! — іранічна выгукнуў Барыс.

Партыйны сакратар падтрымаў камсамольскага:

— Ну, калі так, то давай. Дзе ж і разгарнуцца камсамолу, як не на вяселлі.

— Не даюць разгарнуцца. Не разумеюць.

— Слаба ты выхоўваў Уладзіміра Паўлавіча, Івана Іванавіча, калі дзеці іх адмаўляюцца ад камсамольскага вяселля.

«Вясёленькі Пятро, усё роўна як паабедаў у Івана,— гэтак жа весела падумаў Уладзімір Паўлавіч.— І спектакль гэты адрэпеціраваны. Без яго згоды Плечка ці вылез бы, хлопчык абачлівы».

Сяргей паставіў на стол пакунак, прыгладзіў непакорлівыя валасы і пачаў пафасна:

— Дарагія Ірына і Глеб! Сёння ў вас знамянальны дзень, які павінен запомніцца вам на ўсё доўгае, доўгае жыццё. Сёння вы стварылі новую савецкую сям'ю — пярвічную ячэйку нашага грамадства...— і пайшоў-пайшоў кідаць гатовыя блокі. Аб іх адказнасці перад дзяржавай, партыяй. І перад камсамолам — каб не адрываліся ад яго і тады, калі...— Дзеці вашы павяжуць чырвоныя гальштукі... Перадайце ім баявую эстафету!..

Адчуваючы па нервliving нервознасці старэйшага сына, што той можа не вытрымаць і пракаменціраваць выступленне Плечкі не толькі бяскрыўдным «які камісар!», Уладзімір Паўлавіч строга прашаптаў яму:

— Не псуй абедні, Барыс.

— Што ты, бацька! Я глухі і нямы. Мяне ж выхавала армія.

І, аднак, не выканаў свайго абяцання.

— А цяпер, дарагія нашы маладажоны, прыміце сціплы, але сімвалічны падарунак ад райкома камсамола.

Плечка тэатральным жэстам разарваў на пакунку паперу. Вачам гасцей адкрыўся бюст Карла Маркса, чорны, чыгунны. Добры бюст. Добры падарунак у любой іншай сітуацыі. Але тут...

Уладзімір Паўлавіч сам траха не ахнуў ад здзіўлення.

Але гэта зрабіў Барыс:

— Ух ты! Во гэта барада! Камсамольская.

І што падпаліў бікфордаў шнур смеху. Выбухнуў смех, што ў вясельным застоллі пры дасціпным сваце. Але заўсёды дарэчы там, за сталом, тут смех сапсаваў урачыстасць. Нават Плечка разгубіўся. Пятро Міхайлавіч пасміхнуўся, але твар перасмыкнула — незадаволены сакратар.

Малайчына Глеб: сур'ёзна, шчыра дзякаваў — цiснуў даўняму таварышу руку. І ўсміхаліся яны адзін аднаму хораша, прыязна, па-сяброўску.

Глеб падхапіў бюст, падняў яго высока, паказваючы гасцям, перадаў дружку-ўкраінцу. Вярнуў сваёй сур'ёзнасцю сур'ёзнасць іншым.

Калі госці высыпалі з будынка загса на вуліцу, пад спякотнае і пад вечар сонца, Пыльчанка затрымаўся, каб падзякаваць Сінякову.

— Няма за што. Вы зразумейце, Уладзімір Паўлавіч, на вяселле, якое ў вас... не таму, што баюся, але... час не той. Аднак застацца ў баку ад сямейнай урачыстасці вашай не мог. Думаю, усё нармальна. Што за вяселле без смеху. Праўда?

— Дзякую, Пятро Міхайлавіч.

— Гэта ваш такі востры? Лятун?

Абразіла «лятун», расказваў жа яму пра старэйшага сына неаднойчы, бо першы сам любіў расказваць пра сваіх дзяцей, школьнікаў.

Паправіў:

— Ваенны лётчык. Капітан.

— Афганец?

— Ваяваў там.

— Гэтыя хлопцы яшчэ сябе пакажуць. Аднак раю вам папярэдзіць яго: каб незнарок сам не накалоўся на свае дасціпы.

«Пайшоў ты са сваім папярэджаннем!» — бадай прымхліва ўзлаваўся Уладзімір Паўлавіч, але тут жа і ўтаймаваў сябе: няўдзячна гэта з яго боку, урэшце, папярэджанне правільнае, бо і ў самога жыве боязь за Барыса. Каб хто ведаў, якой яна была да Афганістана! Якраз Афганістан прытупіў яе — пераканаў сябе: ардэнаносец, капітан, не будзе выкідваць конікі.

Разышліся з найлепшымі пажаданнямі адзін аднаму: першы ў нядзелю намерваўся з'ездзіць да бацькоў у дальні раён.

Здараецца ж так, што сустрэнуцца двое і з першага позірку пакахаюць адно аднаго ці пасябруюць — вадой не разліць. А іншыя раптам без усялякай прычыны адчуюць узаемную непрыязь. Ніякая навука не адкрыла закон такога душэўнага прыцягнення ці адштурхоўвання. Закон, важнейшы за Ньютанаў.

Не, Барыс не адчуў непрыязі да Плечкі ў загсе, так, забаўны для яго эпізод, яшчэ адно пацвярджэнне камсамольскага дагматызму, з якога ён даўно здзекаваўся, за што меў добрыя праборкі ад камісараў. Забыўся б ён на сакратара ў вясельным тлуме, хіба ў часці ўспомніў бы і расказаў таварышам, надаўшы эпізоду з падарункам патрэбны для смеху камізм, перш-наперш каб пазлаваць намесніка начальніка палітаддзела па камсамолу, якога не любіў. Але Плечка з'явіўся на вяселле.

Барыс здзівіўся і спытаў у маці:

— А гэта што за сваяк?

— Глеб сябруе з ім.

— Разумны інжынер, а сябруе з дурнямі.

Вольга Андрэеўна насцярожылася, бо ведала сынаў характар: каго не палюбіць — бяда, некалі так было з настаўнікам хіміі, адны двойкі сын прыносіў, прыйшлося ўмешвацца і бацьку і дырэктару.

— Барысок, сыне мой, прашу цябе: не заводзься. Тут жа амаль усе незнаёмыя табе людзі. З нявесцінага боку і я многіх не знаю. Прымай людзей такімі, якія яны ёсць. Табе ж на заданне з імі не ляцець.

— Мама! А чаму ў цябе такі спалоханы выгляд? Ды ты знаеш, які я стаў? Мяне можна на хлеб намазваць, як масла.

— На хлеб не намазвайся, але не задзірайся, калі ласка. Людзі вып'юць...

— І я вып'ю.

— А табе нельга. Пры тваёй прафесіі...

— Мама! Не курыш, не п'еш — здаровенькім памрэш,— пажартаваў, засмяяўся, але тут жа пасур'ёзнеў.— А здаровым паміраць крыўдна. Вельмі крыўдна, мама.

Вольга Андрэеўна ўяўляла яшчэ тады, у бяссонныя ночы, што сын перажывае там, на чужой зямлі... над чужой зямлёй... Успаміны таго часу да вострага болю ўдарылі ў галаву. Як ёй хацелася прылашчыць сына, сагрэць і цела яго і душу. Але вакол людзі. Снуюць жанчыны, нявесціна радня, цяпер памочніц многа, і некаторыя трохі нават бестактоўна перарабляюць яе работу, па-свойму сервіруюць сталы. Але гэта яе не крыўдзіць, да гэтага яна абыякавая. Няхай робяць што хочуць, ніхто не жадае зрабіць горш, усе хочуць — лепш, але ў кожнага свой густ. Яе радасць вышэй за гэтыя бытавыя клопаты. Нават адчувала няёмкасць перад маладымі, што найбольшая яе радасць — ад прыезду Барыса, а не ад жаніцьбы Глеба. У нейкія моманты здавалася, што ўсе яе клопаты, уся яе цяжкая праца, ад якой свінцом наліваліся ногі,— у гонар Барыса, а таму і стомленасць здавалася шчасцем.

Толькі і выявіла ўсю сваю пяшчоту да сына тым, што правяла далонню па яго калючай пад вечар шчацэ. А ён узяў яе руку і прыціснуўся да яе вуснамі. Сыны не вызначаліся сентыментальнасцю, упершыню рукі ёй цалаваў Барыс, калі не лічыць маленства, нядаўна — па звароце з Афганістана. Ажно спалохаў такой праявай любові і вельмі расчуліў.

Убачыла, як сын цалуе руку маці, сваццця — Марыя Пятроўна; ёй таксама сын ніколі не цалаваў рукі, дзяўчаты не ў залік, у дзяўчат гэта атрымліваецца лёгка, асабліва ў рыжай лісічкі Тамары. Вядома, дзе пабываў Барыс, і яе кранула яго ласкавасць да маці. Калі Барыс выйшаў, Марыя Пятроўна падышла да сваццці і, па-сялянску нязвыклая да пяшчот, абняла яе.

5. Зак. 2388.

— Родная вы мая! Дзякуй вам!

— За што?

— Што вы такая, нашынская. Што сыны ў вас во **якія**! Знаю, як баліць ваша сэрца, калі думаеце, што ён там,— паказала вачамі ў неба.

— Там, Марыя Пятроўна, нічога, прывыкла, мільёны людзей лятаюць. Балела, калі ён быў **там**.

— Яшчэ раз не пагоняць?

— Ды не! Хопіць! І Барыс кажа: там можна быць толькі аднойчы. Як вы страшна сказалі — **пагоняць**.

— Ой, то выбачайце, калі што не так кажу. Я жынка простая — Пустаходзіха.

— Самая высокая мудрасць у прастаце, у мацярынскай прастаце. Няшчасце ў свеце ад таго, што мужчыны не разумеюць нас. Аднак гэта ўжо з кніжак, начыталася, у бібліятэцы раблю. Сыны вылецелі з хаты, муж вечна на рабоце — чым заняцца? Толькі і знаю, што чытаю. Пабыла я ў вас і пазайздросціла. У вас шырокі свет: унукі, гаспадарка, калгас...

Ускочыла Тамара, агледзела сталы, як галоўны кантралёр, бо была ў сервіроўцы доля і яе працы, а густу Лізы, якая заняла яе месца памочніцы гаспадыні, яна не вельмі верыла — залішне сялянскі густ. А Вольга Андрэеўна, пераканалася, чалавек далікатны — не скажа, не паправіць. Не, нічога, не напсавалі яе сёстры. Пацешылася тым, як размаўляюць паміж сабой сваццi.

А ў двары і перад домам, на вуліцы, шумелі госці, знаёміліся паміж сабой. Уладзімір Паўлавіч прадстаўляў сваіх саслужыўцаў, якія, уласна, і затрымлівалі вясельнае застолле: толькі скончыўся рабочы дзень, і жаночая частка занята самым цяжкім працэсам, як ён жартаваў,— тынкоўкай перад тым, як пайсці ў госці да самога гаспадара раёна.

— Сёння я нарэшце ўбачу сваіх падначаленых у поўнай красе.

Барыс — чалавек слова. Паабяцаў маці — ніякіх прыдзірак ні да каго і загадаў сабе: не звяртаць увагі на гэтага сакратарыка. Але лёгка сказаць: не звяртаць увагі. А ён усюдысны, Плечка гэты, торкае нос у любую кампанію, у жаночую так-

сама. І не мог не ўбачыць Барыс, што хлопец, да якога невядома з-за чаго ўзнікла непрыязь, завіхаецца каля Тамары, па-свойску, фамільярна шэпчацца з ёй. І ў дваццацівасьмігадовага капітана, як у дзесяцікласніка, да несвядомай чалавечай непрыязі далучылася свядомая злая рэўнасць. Змяшалася ўсё: крыўда на свой лёс, які абмяжоўваў яго сувязі з дзяўчатамі, хоць цалаваў ён іх нямала, і даўняя афіцэрская знявага да цывільных скакуноў, што маюць поўную волю...

«Лазіш, сволач, тут, што кот па гаршках, злізваеш смятанку, пакуль мы паміралі там. Каб не маміна просьба, я паказаў бы табе Вялікую Мядзведзіцу. Бачыў ты яе? Ты неба не бачыў. А я рукой зорак кранаюся. Але чорт з табой. Чапаць такое дзярмо — трэба не мець гонару».

Загадаў: не бачыць Плечку! І, аднак, увесь час ён трапляўся на вочы, асабліва тады, калі апынаўся блізка каля Тамары.

І за сталом селі насупраць адзін аднаго. І гэта таксама настроіла супраць Плечкі. Нават блізкія сваякі, нявесціны, селі на верандзе. А ён, Плечка, уціснуўся сярод самых блізкіх, побач са сталом «вясельнага прэзідыума», дзе сядзелі маладыя і іх бацькі. Тамара, сястра, і тая села ў самым канцы каля дзвярэй — каб памагаць парадкаваць на сталах.

Застолле было вясёлым. Многа тостаў, многа слоў — за маладых, за іх бацькоў. Многа «горка». Глеб цалаваўся сарамліва. Ірына — смела і весела, са смехам. Адзіная пацеха для маладых, бо яны не пілі і амаль не елі, слухалі пажаданні, сур'ёзныя і жартаўлівыя. Ім нават нельга рагатаць, калі рагоча ўсё застолле.

Плечка разы два працягваў чарку, каб чокнуцца з братам жаніха. Барыс зрабіў выгляд, што не бачыць яго дружалюбных жэстаў.

Барыс куляў чаркі да дна, палохаючы маці. Плечка толькі лізаў край чаркі. Капітан не глядзеў, але натрэніраваным вокам усё бачыў. Лічыў такое піццё крыўляннем, паказухай: я, маўляў, выконваю антыалкагольны закон, падаю прыклад. І яшчэ больш настройваў сябе супраць сакратара, пераносячы на яго, акрамя рэўнасці за Тамару, сваю непрыязь да

камсамольскіх начальнікаў, якія неаднойчы разбіралі яго і ў вучылішчы, і ў часці.

Сяргей Плечка пакрыўдзіўся на Барыса за яго бестактоўны выпад у загсе. Уласна кажучы, не за сябе пакрыўдзіўся — за Карла Маркса. Хіба можна так пра заснавальніка марксізму — «Во гэта барада!». І за камсамол. Чаму барада камсамольская? Але быў ён чалавек няпомслівы, адыходлівы, хоць і пыхлівы. Увогуле характар у яго мяккі, бязвольны, таму і быў ён падлізлівы, угодлівы, як усе бязвольныя. Плечка даравАў Барысу абразу Карла Маркса. Цяпер і не такія, як ён, замахваюцца на ўсе святыні. Мода. Яму нават хацелася пасябраваць з героем Афганістана і, калі ён прыехаў на колькі дзён, запрасіць яго на сустрэчу з моладдзю райцэнтра. Не дзеля галачкі — дзеля справы, патрыятычнага выхавання, а то ваенком з трывогай казаў на пленуме райкома партыі, што некаторыя прызыўнікі адкрыта заяўляюць, што ідуць у армію без жадання, з бояззю. А Барыс, сын старшыні райвыканкома, добраахвотна пайшоў у ваеннае вучылішча і во чаго дасягнуў: за шэсць гадоў вырас да капітана, два ордэны мае. Хіба не прыклад?

І Сяргей вылез з тостам. Не сказаць тост ён не мог, лічыў абавязкам сваім. Але каб не раптоўнае жаданне дагадзіць Барысу, уславіць яго перад гасцямі, тост яго быў бы іншага зместу — пра бацькоў маладых: пра вядомага ва ўсёй рэспубліцы старшыню калгаса, пра чалавека, які цягне цяжкі дзяржаўны воз, старшыню райвыканкома, ну, безумоўна, і пра жонак іх, пра матак, што нарадзілі і вырасцілі такога сына і такую дачку.

— Мой першы тост за вас, маладыя. За вас, Ірына. За цябе, Глеб, мой стары сябра. Я паднімаю гэты бурапенны бакал...

«Што ў яго пеніцца?» — хмыкнуў Барыс.

— ...за тое, каб у клопатах сямейных не згасаў ваш камсамольскі агонь. Наадварот, каб разгараўся ён. І гэта памагала табе, Глеб, даваць энергію будоўлям гераічнага часу перабудовы, а вам, Ірына, вяртаць людзям іх энергію. І каб добра зліваліся ваша энергія і давала плады... папаўненне акцябрат, піянераў...

Мабыць, энергія, ад якой з'яўляецца папаўненне, выклікала далікатны смяшок, які не збянтэжыў прамоўцу, а натхніў.

— Я рэзервірую за сабой слова пра бацькоў. А цяпер — тост за асаблівага чалавека, якім павінны ганарыцца не толькі бацькі, але і ўсе мы, уся камсамольская арганізацыя раёна. Я паднімаю бакал за брата жаніха. За цябе, Барыс Уладзіміравіч,— Плечка працягнуў бакал праз стол, але Барыс адкінуўся на спінку крэсла як бы далей ад небяспекі і напружыўся, што перад атакай.— Ты сумленна выканаў інтэрнацыянальны доўг. За ўсіх нас...

— Ты быў у Афганістане? — перапыніў тостагаварыцеля Барыс хрыплым голасам — як з-пад шлемафона.

Плечка сумеўся.

— Не быў. На жаль...

— То і заткніся! На жаль!.. Трапло! Яшчэ — на жаль...

— Барыс! — узлавана крыкнуў Уладзімір Паўлавіч.

Птушкай падляцела да сына маці.

— Бора! Барысок! Хіба можна так? Чалавек хацеў пахваліць цябе.

— Не трэба мяне хваліць. Абрыдла слухаць — доўг, доўг...— Ён стрымліваў сябе, каб не сарвацца на крык, падняўся і павярнуўся да бацькі і як бы даводзіў аднаму яму: — Нікому я там не быў павінен. І мне ніхто. І ні ад каго мне нічога не трэба. Не доўг я аддаваў. Я паліваў агнём... людзей! Пасля адной атакі я адмыць сябе не магу... дагэтуль... Дзіця баюся па галаве пагладзіць...

Змоўклі госці, хоць некаторыя і добра ўжо выпілі. Усхліпнула Марыя Пятроўна. І Уладзімір Паўлавіч не меў што сказаць, бо толькі цяпер да яго дайшла глыбіня трагедыі, якую перажыў сын. Толькі хіба маці даўно ведала гэта, убачыла, зразумела яшчэ ў першы яго прыезд. Не так гэта проста, як думаюць вось такія прапагандысты, як Плечка,— лятаў, бамбіў, страляў, выконваў доўг, зарабляў славу, ордэны.

Маці асцярожна гладзіла Барысу плячо.

— Супакойся, Барысок!

— Не бойся, мама. Я проста хачу, каб людзі зразумелі... даўгі нашы... І свае!

Падышла Ірына, абняла дзевера.

— Барыс! Ты хочаш сапсаваць нам свята?

— Што ты, Ірына! Я ляцеў, каб упрыгожыць ваша свята.

З кухні прыбегла Тамара.

— Хадзем мы з табой лепш прагуляемся. Вечар — казка і песня.

Ад жаночай увагі і ласкі Барыс размяк, засмяяўся. Узяў іх рукі, тры — матчыну, Ірыніну, Тамарыну,— і па чарзе цалаваў. І госці ажывіліся, зашумелі, зазваніў нажом па графіне сват — тамада.

Плечка сядзеў, уціснуўшы галаву ў плечы, бледны, абражаны, спалоханы.

Барыс, адпусціўшы жанчын, зірнуў на яго і, магчыма, пашкадаваў, ён быў добры, як усе Пыльчанкі.

— Не вешай нос, сакратар. Не быў ты ў гусарскіх баталіях! Нá маю лапу.

Плечка падняўся з выглядам глыбока пакрыўджанага, але руку працягнуў — зрабіў ласку.

Нехта з гасцей запляскаў поціску іх рук.

У перапынку, калі жанчыны прыбіралі са сталоў і рыхтавалі каравай, сталыя мужчыны курылі і гаварылі аб перабудове, моладзь танцавала. У двары. Двор прасторны. Вольга Андрэеўна, Ганна і Тамара прыбралі яго, падмялі. Уладзімір Паўлавіч нават здзівіўся — калі паспелі? Дарэмна, выходзіць, зайздросціў чысціні на двары ў свата. Але яшчэ больш здзівіўся, калі з франтона дома, ад хлеўчука і са слупа яго асвяцілі не ліхтары — пражэктары, як на стадыёне. Хоць чаму здзіўляцца — жаніх дыпламаваны энергетык. Трохі, праўда, непакоіла мора святла — такой ілюмінацыі ў гарадку і на свята не бывае. Кіўнуць яму нядобразычліўцы. Але тут жа ўпікнуў сябе: «Чаму азіраешся? Ты ж і ў даўні час умеў быць незалежным... Ад каго? Ад начальства? Ад грамадскасці? Не прыхарошвай сябе. Заўсёды ты адчуваў сябе залежным. Толькі хіба больш дзёрзкім, чым некаторыя іншыя».

Пыльчанка ведаў асаблівасць свайго характару: калі вып'е, то пачынае філасофстваваць, на некаторых чарка дзейнічае снатворна, яго ўзбуджае, здаралася, пасля вячэры ў кампаніі

калег, дзе заўсёды абмяркоўвалі мноства праблем, глабальных, агульнадзяржаўных і сваіх, мясцовых, ён не мог заснуць да раніцы. Часцей гэта здаралася перад абласнымі і рэспубліканскімі пленумамі, нарадамі, у гасцініцы, дзе і без таго дрэнна спіцца. А ўдзень на пасяджэнні пад манатоннае гаварэнне прамоўцаў неадольна хацелася спаць; прасіў суседзяў: «Засну — штурхай у бок».

Спрачаліся Пустаход і раённыя работнікі. Аб правах калгаса і правах раённых арганізацый. Асцярожны Іван Іванавіч, які заўсёды ставіўся да начальства з павагай, выказваўся ў падтрымку аднаго публіцыста, які нядаўна замахнуўся — дзе! у цэнтральнай газеце! — на ўсю аграпрамысловую надбудову, з раённага звяна да вяршыні піраміды. Яго, Пыльчанкава, намесніца, шумная і дзелавая «Кацярына другая» (так яе называлі, бо была раней сакратар райкома «Кацярына першая»), ажно кіпела супраць ліквідатарскіх тэндэнцый старшыні калгаса: усіх, маўляў, хоча разагнаць, адзін гатовы застацца.

— Уяўляю, у што вы ператварылі б калгас!

— У што ператварыў бы — яшчэ не ўяўляю, але прадукцыі даваў бы больш. Заліў бы нашу раённую сталіцу малаком і засыпаў бы памідорамі.

— Пагнаў бы на рынак?

— Няхай сабе і на рынак. Якая розніца, дзе вам купляць: у калгасным ларку ці райспажывецкім.

— Кулацкія ў вас тэндэнцыі, Іван Іванавіч.

— Не палохайце, Кацярына Панасаўна. Пачытайце, як яго рэабілітуюць, кулака. Яшчэ трохі, і ганаровае званне гэта будзе — кулак. У кніжкі «Памяці» заносіць будуць былых кулакоў. Глядзі, і я траплю.

— Уладзімір Паўлавіч! Паслухайце свайго свата! У кніжку яму захацелася!

Заняты ў спрэчках, асабліва пад чаркай, Пыльчанка, лагодны і добры, не лез у бойку. Яго здзіўляў Іван. Сур'ёзна ён гэта выказвае ці дражніць апаратчыцу? Каця, безумоўна, баіцца экстрэмісцкіх пражэктаў. І гэта забаўляла. Ён і сам любіў апошнім часам папалохаць сваіх намеснікаў і памочнікаў

скарачэннем з-за непатрэбнасці. Асабіста ў яго рэформы выклікалі двайстае пачуццё: ухваленне, таму што ўрэшце, здаецца, ацэньваеш эканоміку, перш-наперш сельскую гаспадарку, рэальна, і скепсіс да многіх абвешчаных перабудоў: былі яны і раней, розныя рэформы, ведае ён іх вынікі.

Настрой у гаспадара быў вясельны, таму цягнула пагарэзнічаць: падтрымаць свата і напалохаць намесніцу. Але Кацярына добра яму памагла ў арганізацыі вяселля, не яму — Вользе Андрэеўне, і з яго боку было б бестактоўна псаваць госці сваёй, што вядзе ўвесь рэй, добры гумор. Ды ўрэшце гэтыя бясконцыя спрэчкі не вельмі і цікавілі яго, прынамсі, тут, на вяселлі, абрыдлі на рабоце. Больш цікавіла моладзь. Вушамі лавіў спрэчку «гаспадароў жыцця», а вачэй не спускаў са «спажыўцоў», якія то вальсавалі ў сур'ёзных танцах, то выкручваліся, дрыгаліся ў сучасных, модных.

Ледзьве не праслязіўся ад замілавання, калі музыкі зайгралі стары вальс і на круг першымі выйшлі маладыя — Ірына і Глеб. Здзівіўся, што сын яго ўмее так танцаваць, не ведаў, выходзіць, усіх яго здольнасцей. Дарэчы, ён сам у маладосці быў нядрэнны танцор. А Вольга яго, дык тая рэдка, толькі ў дзявочай кампаніі, выходзіла на круг, а таму і не навучылася як мае быць; пасля шлюбу прызналася, што саромелася з-за беднага адзення свайго. За маладымі выйшлі Барыс і Тамара. Ім ажно запляскалі. Чаму? Ці не таму, што шмат хто падумаў пра тое, пра што і ён, бацька: «Харошая пара была б». Не ведаў, што гэтага яшчэ ўдзень пажадала і Вольга. Цікава, ці жадаюць гэтага Іван Іванавіч, Марыя Пятроўна? Але Іван Іванавіч — во цецярук! — так затакаваў, што яму не да моладзі, а маці Тамарына недзе парадак наводзіць і не бачыць, хто вядзе малодшую дачку, каму запляскалі госці.

Аднак хутка Уладзімір Паўлавіч пераканаўся, што сыны яго дылетанты ў танцах. Сяргей Плечка — во хто мастак і віртуоз. Ведаў даўно, што ўсе здольнасці ў камсамольскага сакратара ў нагах, аднак не мог не залюбавацца, калі той выйшаў спачатку з незнаёмай дзяўчынай, а пасля з той жа Тамарай. І што асабліва здзівіла: чартоўскі прыгожа выкручваліся яны і ў тым танцы, які ў іншых абставінах ён назваў бы крыўляннем.

Ды пільнае вока бацькі не ўбачыла, як на танец Сяргея і Тамары глядзеў Барыс, якімі вачамі. Не адчуў стары Пыльчанка набліжэння буры, не ўбачыў і не пачуў, як развіваліся падзеі. Тамара і Плечка станцавалі раз, другі. Калі Сяргей і трэці раз рушыў да дзяўчыны, Барыс загарадзіў яму дарогу, кляшчамі сціснуў руку вышэй локця, пакуль што мірна адвёў у бок ад гасцей.

— З Тамарай не танцуй!

Плечка звыкся, што танцаваць з ім дзяўчаты лічылі за гонар і ніколі ніхто з гарадскіх хлопцаў не сказаў яму такіх слоў, яго прымалі як настаўніка танцаў.

Хлопец здзівіўся:

— Чаму?

— Я не паўтараю двойчы. І не даю тлумачэнняў.

Нядобра — крыва, як бы грэбліва, іранічна пасміхнуўся Плечка, абразліва пасміхнуўся, як бы сказаў: «Які ж дзікун! А яшчэ капітан! Афганец!»

Барыс узарваўся. Але — надзіва самому сабе — стрымаў выбух гневу. Танцуючы пасля гэтага з Тамарай, ён адтаптаў ёй чаравікі, можа, таму яна з радасцю згадзілася на новае Сяргеева запрашэнне. Плечка меў дурную рысу — рабіць на злосць: ах, ты так, дык я вось гэтак! І ён, на злосць Барысу, пачаў запрашаць адну Тамару, хоць навокал нямала дзяўчат жадалі патанцаваць з такім майстрам.

П'янаватага Барыса такія яго паводзіны пасля папярэджання завялі на поўныя абароты. Выявіўся характар школьнага задзіры, забіякі — той характар, які прынёс нямала турбот, хваляванняў маці. Калі Барыс паступіў у ваеннае вучылішча, Вольга Андрэеўна неяк прызналася мужу: «Сумую я па Борку, але... можа, і нядобра гэта... сплю спакайней, чым тады, калі ён дапазна гуляў невядома дзе». Тады Пыльчанка працаваў у вялікім горадзе — Мазыры, і Барысавых прыгод баялася не адна маці, у бацькі складваліся цяжкія адносіны са старэйшым сынам. А бравага афіцэра Уладзімір Паўлавіч палюбіў. Калі Барыс прыязджаў на пабыўку, трохі непакоілі хіба яго легкадумныя адносіны з дзяўчатамі. Але помніў, што ў маладосці і сам, здаралася, назначаў па тры спатканні на

вечар, любіў разнастайнасць. «Афганскі ўзлёт» Барысаў — за паўтара года два званні, два ордэны — напоўніў бацькоўскае сэрца гонарам і радасцю. Ён быў проста ўлюбёны ў старэйшага сына і лічыў, што цяпер капітан Пыльчанка не можа зрабіць глупства, як ніколі не зрабіў і сам ён пасля таго, як вырас да інструктара райкома.

Па сабе мераў сына. Таму і не звярнуў увагі, што Барыс перастаў танцаваць, калі танцаваў Плечка. З Тамарай. Хадзіў вакол круга тых, хто танцаваў, што тыгр вакол статка антылоп,— насцярожаны, пільны.

Плечка адчуваў, як капітан сочыць за ім, і ў перапынках лоўчыўся знаходзіцца ў акружэнні моладзі. Гэта яму лёгка ўдавалася, бо, акрамя прыпяцкіх Глебавых сяброў, усе раённыя яго ведалі, калгасныя, можа, нават лепш, чым гарадскія.

Але ў адной паўзе Барыс усё ж злавіў Плечку каля плота, дзе той курыў — далей ад дзяўчат, далікатны хлопец.

— Я што табе сказаў?

— А што?

— Памяць адчопаў? З галавы ў задніцу вытрусіў?

— Навошта так некультурна?

— Ты хочаш вучыць мяне культуры? Кажу апошні раз: да Тамары не кранайся!

— Ха! Выходзіць, з Афганістана ты не ордэны прывёз, а душманскія манеры. Нахапаўся там, як сабака блох...

Не ведаў Плечка Барыса, не ведаў, што гэта не той чалавек, якому можна беспакарана сказаць абразлівае глупства. Хто разумнейшы мог бы з яго ўспышкі за сталом вывесці, як яму баліць гэты Афганістан, і не чапаць яго больш.

— Я табе, гніда, пакажу, чаго я хапнуў. Я цябе хапну!

І... хапнуў. Прыёмам каратэ падхапіў лёгкага танцора, перакуліў цераз галаву і, як мяшок, кінуў цераз плот на вуліцу, у канаву.

Некаторыя ахнулі, іншыя засмяяліся.

Тамара кінулася да Барыса, схапіла за рукі, як бы спалохаўшыся, што ён выкіне яшчэ кагосьці.

— Што ты робіш, дурань?!

Плечка нейкі момант не адзываўся — у шоку быў, ці што? — а потым заенчыў.

Уладзімір Паўлавіч не бачыў самой аперацыі. Пачуў енк. Яму растлумачыў сват, са смяшком нядобрым:

— Твой капітан выкінуў камсамол за пляцень.

Тамара настойліва цягнула крамольніка ў дом, яўна далей ад бацькі — пад матчыну абарону.

Пыльчанка ледзьве стрымаўся, каб не адвесіць сыну ляшча. На людзях. Не, менавіта людзі стрымалі. Працадзіў праз зубы:

— Ну, сыночак, любое свята ты ўмееш сапсаваць. Дзякуй табе, парадаваў.

Дзіўна — Барыс засмяяўся:

— Нічога не здарылася, бацька. Не перажывай,— і абняў Тамару за талію.

А Плечка енчыў. Яму аказвалі дапамогу: ён разбіў локаць.

## Раздзел 2

## Т*уман*

### I

Глеба разбудзіў равун буксіра. «Чаму разроўся, як на пажар? У такую рань».

Працягнуў руку да гадзінніка, ледзьве разгледзеў на электронным лічбы. Выходзіць, не так ужо рана — восьмая гадзіна, а здавалася, толькі развіднела, праз лёгкія шторы святло ледзьве цадзілася.

«Ну чаго ты разроўся? Няма на цябе інспекцыі»,— лаяў ён капітана. Ірына спала, салодка, па-дзіцячы сапучы носікам. З рассыпанымі на падушцы валасамі ў паўзмроку пакоя яна здавалася асабліва прыгожай. Ён прыпадняўся на локці і любаваўся жонкай, адчуваў сябе найшчаслівейшым чалавекам. Нахіліўся над ёй, жадаючы засланіць ад гэтага брыдкага гуку, які можа разбудзіць і яе, хоць, калі шчыра, хацелася, каб яна прачнулася і абвіла яго шыю гарачымі рукамі. Аднак

усё роўна пасылаў ледзьве не праклёны капітану буксіра. Галоўнае, не чуваць, каб баржы з крыварожскай рудой ці сілезскім вугалем аддаляліся, яўна стаяць на месцы крыху ніжэй па рацэ, дзесьці каля касы.

Сваю першую шлюбную ноч яны правялі ў рамантычным месцы, там, дзе і пазнаёміліся некалі,— на калгаснай пасецы над Прыпяццю. Але прыдумалі гэта не самі яны — Ліза. Бачылі, што Глебавай маці не вельмі падабалася, што маладыя намераны пасярод ночы ехаць за трыццаць вёрст. Але калі ніхто з іх не піў і абое водзяць машыну, то які страх! За сталом яны думалі, як бы хутчэй вырвацца з вяселля, хутчэй застацца адным. Памог Барыс. Нядобра ён абышоўся з Сяргеем, з якім у яго, Глеба, былі добрыя адносіны. Братаў учынак сапсаваў яму настрой гэтак жа, як маці і бацьку, асабліва пасля таго, калі госці, як бы спалоханыя, пачалі неўзабаве разыходзіцца, некаторыя і за сталы больш не селі. Не адбылося спектакля з дзялёжкай каравая, што, можа, якраз і добра.

Пяць гадоў назад, калі яны знаёміліся, на пасецы стаяла звычайная хаціна, якая на зіму станавілася імшанікам. А пасля хітры Пустаход збудаваў добрую гасцёўню з залай, спальнямі, лазняй. Сам тут не адпачываў — толькі дзеля гасцей. А госці — раённае начальства, ды і абласное,— любілі гэтую пасеку ў надпрыпяцкім лесе, побач з меданоснымі лугамі. Не пуставала яна ні ў вясновыя, ні ў летнія, ні ў асеннія і зімовыя выхадныя. Кожная пара года мае сваё хараство і свой занятак — лоўля рыбы, паляванне, проста сузіранне прыроды: і ў любое надвор'е, у цёплае і халоднае, у дождж і ў завею, кожнага чалавека парадуе бяседны стол, сустрэча з аднадумцамі.

Праўда, пасля антыалкагольнай пастановы Сінякоў, які і сам да таго заглядваў у гэты дом, разнёс на пленуме Пустаходаву гасцёўню — перабудаваўся на хаду. Ды Іван Іванавіч слухаў і пасміхаўся, трохі нават радаваўся: менш клопатаў, расходаў, прынамсі, гэты суровы крытык больш не пачастуецца. Але ў стайню дом, як гэта зрабілі іншыя, Пустаход не ператварыў, пакінуў такім жа, з той жа мэбляй, толькі дарогу на пасеку перакапаў, зрабіў тайны лясны аб'езд, і госці

там з'яўляліся цяпер не самі па сабе, а па яго запрашэнні, самыя патрэбныя — калгасу патрэбныя! — верныя і надзейныя. Начальству далажыў, што абсталюе дом пад калгасны прафілакторый, перавёўшы пасеку ў іншае месца. Пустаход быў з тых кіраўнікоў, які згаджаўся з усімі рашэннямі вышэйшых інстанцый, на словах падтрымліваў іх, а рабіў усё па-свойму, таму, пэўна, і калгаснікі былі задаволеныя сваім старшынёй.

Глеб доўга любаваўся жонкай, жадаючы, каб яна прачнулася, і баючыся разбудзіць. Асцярожна адсунуўся, пагразіў скрыпучаму ложку: «Цішэй ты!» — і падняўся. Надзеў піжаму і выйшаў на двор. Вельмі здзівіўся. У гадзіну, калі яны дабраліся сюды, стаяла сухая, не па-вясноваму цёплая зорная ноч. А цяпер усё ахутаў ненатуральна белы туман, такі густы, што, здавалася, працягні руку — і не ўбачыш уласных пальцаў. Сапраўды, старога дуба, што стаяў за нейкія тры метры ад ганка, зусім не было відаць — як растварыўся волат, не кажучы ўжо пра дальнія дрэвы, пра хату пасечніка, пра вуллі — усё з'еў туман. Такога Глеб не бачыў за ўсё сваё жыццё, хоць неаднойчы сустракаў світанні на балотах. Боязна стала спусціцца з ганка, бо наплыло ўяўленне: сіганеш у гэтае малако і — згінеш у ім, ператворышся ў тую пылінку, што лятае ў бездані космасу. Так падумаў, з гумарам, безумоўна. Але жарт жартам, а ў душы расло нейкае неасэнсаванае, незнаёмае адчуванне трывогі. Пачало дзерці ў горле. Ела вочы. Не, не звычайны гэта туман. Штосьці незвычайнае творыцца ў прыродзе. Што, аднак?

Зноў зароў буксір. Цяпер зразумела: дае папераджальны сігнал іншым суднам. А можа, людзі трапілі ў бяду? Можа, пажар на баржы з хімічнымі рэчывамі, ад таго і туман такі едкі?

Пайсці на равун? Ступіў з ганка, прайшоў колькі крокаў, азірнуўся — не ўбачыў дома. Пакінуць спячую Ірыну і адчыненыя дзверы? Не! Туман як туман! І равун звычайны, чуў яго неаднойчы. Ды і сціх ён. У такім тумане нікога не знойдзеш, нічога не ўбачыш.

Вярнуўся ў дом.

У зале на стале стаялі ярка-пунсовыя гваздзікі, аранжавыя апельсіны, чырвонае віно, залацісты напітак. Такі тонкі нацюрморт магла «напісаць» толькі Тамара, наўрад ці Ліза, даярка, паставіла б штосьці больш грунтоўнае, сялянскае. Стаіць, напэўна, і грунтоўнае — у халадзільніку. Адчыніў яго, пераканаўся, што палічкі халадзільніка запоўнены талеркамі з гатовымі закускамі. Вось гэта яўна Лізін клопат — сняданак, якога хапіла б на дзесятак добрых едакоў.

І Глеб адчуў, што яму хочацца есці. Узяў талерку з сялянскай каўбасой, адкаркаваў віно. Сёння можна і выпіць. Але не знайшоў хлеба ні на стале пад сурвэткай, ні ў серванце. Пайшоў на кухню. Ды хлеба і там не было. Гэта развесяліла. Во павойкаюць Марыя Пятроўна і Ліза. Усё прадугледзелі, усё зрабілі для маладых, шлюбнае ложа наладзілі. А пра хлеб забыліся. «Хлеб наш насущный, даждь нам днесь».

Увогуле вяселле ім запомніцца. Будзе што ўспамінаць праз усё жыццё. Нават учынкі брата — адзін, другі, трэці — паўсталі ў іншым святле. Учора ён перажываў разам з маці, што Барыс сапсаваў абедню. Супакоіла па дарозе сюды, на пасеку, Ірына: «Не стагні, Глеб. Нічога ён не сапсаваў. Наадварот, зрабіў запамінальным наша вяселле. Ён шчыры чалавек, Барыс. Без двайной філасофіі. Я палюбіла яго. Уяўляю, як цяжка ў арміі такому чалавеку, які не можа крывіць душой, што думае — тое гаворыць».

Глеб наліў віна ў бакал, уголас абвясціў тост:

— За тваё шчасце, Глеб. За тваё шчасце, Ірына.

— Ты што робіш тут?

Ён ажно ўздрыгануў — як захапілі за нечым непрыстойным.

У дзвярах стаяла Ірына ў незашпіленым халаце.

— Снедаю.

— Божа! Які эгаіст мой муж. Жонка памірае з голаду, а ён употай аплятае каўбасы. Не, праўда, чартоўскі хочацца есці, ажно смокча пад лыжачкай.

Яна падышла да стала, спахапіўшыся, захінула халат з прыемнай для Глеба цнатлівасцю. Села каля стала.

— Сёння і я дазволю сабе выпіць віна. Адзіны раз, апошні. Налівай, мой уладар. Перад тым як прачнуцца, я сніла ранальны сон. Гудзеў гудок, як у фільмах пра рабочы клас. Разумею, што ён будзіць мяне, што мне трэба на нейкую вельмі ж адказную работу, а прачнуцца ніяк не магу. А ўключыўся халадзільнік — і я прачнулася і пачула, як булькае віно. Ты ловіш розніцу — як булькае вада і як булькае віно?..

— Моцна ж ты спала. На Прыпяці раве буксір. Можа, паўгадзіны ўжо. На дварэ дзіўны туман. Такога туману я ніколі не бачыў. Ажно горла дзярэ. З ганка дуба не відаць.

— Над ракой часта бываюць туманы. Палескія туманы асаблівыя. Ты дрэнна ведаеш Палессе.

— Ты дрэнна ведаеш свайго мужа. Я вырас на Палессі.

Ірына засмяялася:

— Вырас, але не дарос. Ты «захварэў» Украінай, Кіевам.

— А што ты думаеш? Мяне цягне ў Кіеў. Заўтра ж паедзем туды ў наша вясельнае падарожжа.

— А мяне цягне ў Мінск.

— Добра, паедзем у Мінск, адтуль паляцім у Кіеў. На «Ракеце» вернемся дадому.

— Ты знаеш, са школьных гадоў у мяне такое адчуванне, што менавіта наша вёска — у цэнтры зямлі... Як табе гэта падабаецца? Твая жонка з цэнтра зямлі. А дзе твой хлеб, гаспадар?

— Хлеба няма.

— Як хлеба няма? У Пустахода няма хлеба? Ды ты што! Думаеш, што кажаш?

Пайшла сама на кухню шукаць. Не знайшла. Вярнулася іранічная, але трохі як бы збянтэжаная ці як бы пакрыўджаная на тых, хто рыхтаваў гасцёўню, іх шлюбную ноч.

— Хаця б сухар дзе застаўся ад чыноўных п'янюг. Вычысціла Ліза ўсё старое. А хлеб, відаць, паручыла Віктару. Маўчы, не кажы, а то яна плеш яму выстрыжа. На людзях. У Лізы гэта гульня. На людзях, пры нас, сёстрах, яна пілуе мужа ўздоўж і ўпоперак. А на самай справе найдабрэйшая жонка. О, няхай хто іншы скажа што благое пра яе Віцьку. Ого! Любіць мяне, бо я да яго заўсёды з павагай. Сварыцца

з Тамарай. Томка дражніцца з ім. Ліза на яе каршуном налятае. «Саплячка! Развяла панібрацтва. Ён па ўзросце — бацька твой. Вунь Ванька цябе даганяе, дурніцу!» А знаеш, Барыс шугануў гэтага... Плечку за плот за Тамару. Сястра мая — цаца, яна з усімі дражніцца. Як трэба было паступіць сур'ёзнай дзяўчыне? Убачыла, што да цябе заляцаецца сур'ёзны чалавек,— аддай увагу яму, не круці хвастом, як лісіца. Праўда? Ты хацеў бы, каб яны пажаніліся? Барыс і Тамара.

— А гэта можна? Па царкоўных законах?

Ірына адкінулася на спінку і звонка засмяялася:

— Жаніцца з сёстрамі? Насмяшыў, Глебчык! Ты ў лаўры не служыў?

Ірына выпіла віна і стала нязвыкла гаманкой, вясёлай. А можа, не ад віна. Хутчэй — ад шчасця. Што яна — законная жонка і яны ў першы дзень сумеснага жыцця вось так незвычайна снедаюць. У бацькавай гасцёўні. Без хлеба.

Елі многа, смачна, пакаштавалі ўсяго, што хаваў у сабе халадзільнік. І апельсіны пайшлі. Глеб гэтак па-майстэрску абдзіраў, што атрымліваліся розныя фігуры. Адна з такіх фігур насмяшыла медычку.

— Можна падумаць, што ты ў Іспаніі нарадзіўся. Гішпанскі гранд,— і зноў смяялася, забывалася на халат, расхінаўся ён, агаляліся грудзі.

Глеб любаваўся яе пякнотамі, Ірына цнатліва прыкрывалася.

А потым, апраўдваючыся туманам, яны зноў ляглі і праз пэўны час заснулі, п'яныя ад радасці.

Другі раз іх разбудзіў тэлефонны званок. Званіла Ліза:

— Вы што гэта, вырашылі рэкорд паставіць? Госці з'язджаюцца.

Туман рассеяўся, але сонца ўсё яшчэ не прабівалася да зямлі. Сонца яны ўбачылі, калі выехалі з лесу ў поле. У небе над густой азімінай звінелі жаўранкі.

У Лізіным гародзе, дзе паміж маладымі яблынямі і вішнямі стаялі сталы, гуляла ўжо нямала гасцей. Першымі прыехалі з горада Вольга Андрэеўна, Уладзімір Паўлавіч, яго намеснікі — сваты, Глебавы таварышы са станцыі, якія

начавалі ў гасцініцы. Барыса ўбачылі пазней, ён памагаў гаспадыням насіць з кухні стравы. Хацеў быць бліжэй да Тамары.

Маці ажно прыраўнавала трохі, сказала мужу:

— Глядзі, які хатні наш сын. А некалі талерку ленаваўся памыць.

— Армія навучыла,— з ухваленнем заўважыў Пыльчанка-старэйшы, аднак успомніў пра свой учарашні гнеў, які зрабіў для яго ноч амаль бяссоннай.— Розуму не навучыла. Спаднічнік! Гатовы шлейф за ёй насіць — за Тамарай,— чамусьці раздражнёнасць яго перакінулася і на дзяўчыну.— Гонару бракуе баявому афіцэру.

— Не заводзься, калі ласка.

— Я ўжо адвёўся. Кароткі мой завод. Вушы яму, паганцу, трэба надзерці.

— Не дацягнешся.

— У тым і бяда, што не дацягнуцца. Страціў уладу над дзяцьмі. Не набыў — над людзьмі.

— Мала табе ўлады?

— Улады, можа, і не мала, ды карысці ад яе мала. Людзям. Улада тая добрая, якая на карысць людзям. Праўда, сват? — звярнуўся да Пустахода, які наблізіўся да іх.— Жонка крытыкуе мяне за жаданне надзерці каму-нікаму вушы.

— Не трэба, Вольга Андрэеўна, крытыкаваць нас. Цяпер вакол нас крытыкі растуць, што грыбы пасля дажджу. Дэмакратыя!

— Толькі мухамораў многа,— сказала Кацярына Панасаўна.

— Во гэта вы праўду сказалі! — засмяяўся старшыня калгаса.— Глынеш такой крытыкі — што мухамор з'ясі.

Жанчыны замужнія сустрэлі маладых салёнымі жартамі. Глеб схаваўся ад жартаў у мужчынскую кампанію, у якой увага прысутных была скіравана не на шлюбную ноч — на палітыку. А ўрача нельга было засароміць, жанчыны адразу адчулі гэта і, прыняўшы маладую да сябе, абрынулі на яе скаргі на хваробы свае і дзяцей сваіх.

Ішла размова людзей, якія адпачываюць,— аб усім і, па сутнасці, ні аб чым. Запытай праз некаторы час, пра што

гаварылі,– хіба ўспомняць эпізод нейкі, смешны ці трагічны, або анекдот.

Навіну паведаміў старэйшы зяць Пустахода Віктар Ёрш, між іншым:

– Хлопцы ўкраінскія прыплылі, расказвалі: на станцыі пажар быў. Усе кіеўскія пажарныя там. І міліцыя з усёй вобласці.

Словы ўдарылі Глебу ў сэрца. Чамусьці спалохалі. Ні на міг не сумняваўся, што размова ідзе аб іх станцыі, але чамусьці спытаў:

– На якой станцыі?

– На якой! На тваёй! Якая не дыміць.

Сябры яго, інжынеры, стаялі ў іншай групе гасцей – сярод дзяўчат, Тамарыных сяброваk. Кажуць, знаёмствы на вяселлях даюць найбольшы працэнт шлюбаў, на вяселлях самыя зацятыя халасцякі трацяць сваю цвёрдасць, расслабляюцца.

Ніхто са сталых людзей – ні бацька, ні цесць – не выказалі трывогі, хоць з'яўленне ажно кіеўскіх пажарных дало падставу для разважанняў аб злой сіле агню, што выходзіць з-пад улады, але толькі адзін з гасцей успомніў пажар у шахце, астатнія – сваю мясцовую вогненную стыхію, даўні лясны пажар, на тушэнне якога паднялі ўвесь раён, вайсковыя часці выклікалі.

Глеб прымусіў сябе супакоіцца. Было і раней нямала розных загаранняў, пра якія ён толькі пасля таго, як іх тушылі, даведваўся. Ніколі яго, інжынера-энергетыка, ды і ўсіх іншых спецыялістаў не клікалі на пажар. Кожны займаецца сваёй справай – чаму навучылі. А цяпер у яго адпачынак на цэлы тыдзень – да трэцяга мая. Чалавек жэніцца.

Не, трывога не знікла і тады, калі мужчыны з пажараў перайшлі на іншую тэму, вясёлую,– як дзе змагаюцца з п'янствам. Яўна смакавалі блізкае частаванне. Сталы набылі выгляд, ад якога гнала сліну; стаяў поўдзень, а ніхто яшчэ не снедаў.

Выйшла ці не з апошнім падносам Ліза, вокам камандуючага акінула «поле бітвы», абышла яго, па-свойму

перастаўляючы «батарэі» — пляшкі, талеркі. Блізіцца запрашэнне сядаць за стол.

Глеб хацеў пажартаваць Лізе: «Хлеб не забудзь». Але і такі бяскрыўдны жарт здаўся недарэчным, быццам не вясельнае застолле рыхтавалася, а памінкі.

Адышоў убок, паклікаў сяброў:

— Дзяніс, Генадзь, Платон, Васіль! — не Дзена-Гена, як сябры жартаўліва рыфмавалі гэтыя два далёкія па гучанні імёны; гэтым поўным вымаўленнем адразу адарваў хлопцаў ад дзяўчат, наблізіліся трое, Васіль ужо прагульваўся з нейкай чараўніцай каля вясёлага ручая.

— Не чулі? У нас пажар.

— На станцыі?

— Так, украінцы перадалі.

— Трэба ехаць! — рашуча сказаў Дзяніс Гумноў, інжынер-фізік.

— Трэба ехаць,— згадзіўся Глеб.

— І табе? — здзівіўся Генадзь.

— Усім.

— Думаеш, без нас не патушаць?

— Без нас патушылі, не сумняваюся. Але каб станцыя не спынілася ці хутчэй аднавіла падачу энергіі, нам з табой трэба быць там. Шмат хто падаўся да цешчаў у перадсвяточныя дні. Не збярэш. А мы праз гадзіну будзем там. У Пустахода ёсць маторка.

— Не, паедзем на сваіх,— сказаў уладальнік «Жыгулёў» Гумноў.— Што нам круг, калі маем чатыры колы?

Глеб вярнуўся да мужчын, адклікаў убок бацьку і цесця.

— Нам трэба ехаць. Калі звестка пра пажар дайшла ў другую рэспубліку, значыцца, сур'ёзнае штосьці...

— Ды ты што, Глеб! — спалохаўся Пустаход.— Пакінуць вяселле? Адумайся! Што ты кажаш?

— Трэба ехаць,— ціха, але настойліва паўтарыў Глеб.

Уладзімір Паўлавіч маўчаў. Думаў: што зрабіў бы ён на месцы Глеба? Цяперашні Пыльчанка, безумоўна, паехаў бы без ваганняў. А той, даўні, малады,— уласнае вяселле пакінуў бы? Вяселле без жаніха — выпадак рэдкі, унікальны. Можна

зразумець спалох нявесцінага бацькі. Што яшчэ скажа Ірына? Але ён радаваўся за сына, ганарыўся ім. Ухваляў яго цвёрдасць. Ты глядзі, як раскрываецца блеклы ў параўнанні з братам малодшы яго сын! Нечакана. Ад Барыса ён усяго чакаў — і хуліганства, і гераізму. Ад Глеба — развагі, якой бракавала самому, сумленнасці, шчырасці, цнатлівасці — тых якасцей, якімі прырода надзяліла іхнюю маці.

Рашучасць зяця ўсхвалявала Пустахода. Столькі клопатаў, стаpанняў і — вяселле без жаніха. Павёў іх у дом — на сямейную раду.

Марыя Пятроўна спалохана завохала, быццам жаніх хоча ўцячы назаўсёды.

Ліза пачала папракаць, нават слязу пусціла:

— Што ж ты робіш з намі, зяцёк дарагі? На ўвесь раён хочаш абняславіць? Ты што — дырэктар гэтай станцыі? Колькі там такіх, як ты?

— Многа. Тысячы.

— Ну, во! Тысячы. Дык чаго ляцець? Хіба вы пажарнікі? Чым вы паможаце?

Неаспрэчная логіка: пажар ім тушыць не прыйдзецца. Аднак калі ўсе будуць так разважаць, могуць спыніцца сотні прадпрыемстваў. Туга будзе Кіеву, Чарнігаву, Мазыру. Ён добра ведаў долю сваёй станцыі ў балансе вялікага кальца. Разарвацца яму не дадуць, аднак усюды ўзнікне крызісная напружанасць. Хто іншы пачаў бы горача даводзіць жанчынам значэнне АЭС. Глеб не ўмеў гэтага ды і лічыў, што недарэчна тут красамоўства: знайшоў аўдыторыю! У людзей іншыя клопаты. Можна сказаць — эгаістычныя. Але ён разумеў і цесця, і цешчу, і жончыну сястру. І не вініў іх. На ўсе іх доказы, папрокі, на валідол, які цешча ўпотай паклала пад язык, на Лізіны лёгкія слёзы, на цесцевы пераходы ад сярдзітага хмыкання да лагоднага ўгаворвання адказваў адно:

— Трэба ехаць!

Бянтэжыла Глеба бацькава маўчанне. Заўсёды такі рашучы, звыклы да камандавання, да ўказанняў, ён раптам анямеў. Разгубіўся ў такой незвычайнай сітуацыі? Але яго маўчанне хіба здзіўляла і бянтэжыла. А вось матчына і жон-

чына маўчанне — палохала. Яны сядзелі побач — свякроў і нявестка, у нейкай дзіўнай, проста жалобнай паставе, і твары іх пабляднелі, выцягнуліся. Глеб ледзьве не сказаў ім: «Што вы такія? Усё роўна як у Афганістан мяне праводзіце». Але стрымаўся — сцяміў, што Афганістан можа яшчэ больш спалохаць іх.

Ускочыла ў дом Тамара, яна не прысутнічала на сямейным савеце.

Вольга Андрэеўна спытала:

— Тома, дзе Барыс?

— А хіба я пасу яго, вашага Барыса,— адказала раздражнёна, але тут жа спахапілася, што паводзіць сябе неінтэлігентна, звышдалікатна растлумачыла, выдаўшы прычыну сваёй дзёрзкасці: — Дзяўчат да ракі павёў.

— Знайдзі яго, калі ласка.

— Знайду, Вольга Андрэеўна.— Дзяўчына ахвотна кінулася выконваць просьбу.

Чамусьці Вользе Андрэеўне захацелася, каб пры размове, рашэнне якой, адчувала, будзе ўсё роўна адно і тое ж — Глебава,— прысутнічаў старэйшы сын. Можа, сэрцам адчувала, што той падкажа нешта асаблівае.

Усе чакалі яго. Ні слова — аб Глебавым ад'ездзе, гутарылі пра староннняе, нават не пра вяселле. Але і не пра пажар.

Хутка прыйшоў Барыс і сапраўды лёгка, адным махам, рассек гордзіеў вузел. Сказаў брату з неаспрэчнай рашучасцю:

— Не сеўшы за стол, нікуды ты не паедзеш! Вось так, малы! Пасядзім гадзіну-дзве, павесялеюць людзі, тады можаш разам з жонкай ціха вылезці з-за стала. Быў я на вяселлях, з якіх маладыя знікалі. Нядаўна на грузінскім быў. Знікайце і вы і каціцеся хоць на ўсе чатыры стараны свету! А мы будзем піць за ваша здароўе. І за тваю станцыю, раз яна даражэй табе за нас.

І ўсе павесялелі: усё мудрае — простае.

Ліза пацягнулася да дзевера:

— Дай я цябе пацалую, Барысок. Недарэмна ты бываеш бліжэй да Бога, чым мы, грэшныя,— і да Глеба: — Не крывіся, зяцёк. Віктар на маторцы дамчыць вас да Прыпяці за міг.

Усе павесялелі, акрамя Ірыны і маці. З маці Глеб не адважыўся гаварыць, матчынай логікі баяўся, маці ён ніколі не ўмеў запярэчыць і ў школьныя гады зайздросціў Барысу, які вёў цэлыя дыскусіі і нярэдка пераконваў маці, прымушаў капітуляваць перад яго доказамі. А жонцы сказаў гулліва:

— Чаму ты скісла, Іранё?

— Я баюся, Глеб,— сур'ёзна адказала яна.

— Чаго? — шчыра здзівіўся ён.

— Ты забываеш, што я ўрач. Я праслухала немалы курс аховы ад радыяцыі. І лячэння.

Глеб засмяяўся:

— Ды ну, глупства, мая каралева! Гэтага не можа быць таму, што гэтага не можа быць ніколі! За два гады я вывучыў рэактар. Надзейны, што бабулін чыгунок.

— Вас так пераканалі?

— Каб людзі баяліся, спыніўся б прагрэс. Ніхто не займаўся б фізікай, не рабіў бы на рэактарах. Палюбуйся лепш, які дзянёк. Цуд! Глядзі, як зазелянелі вербы. Вішні цвітуць. Ты казала, што любіш іх, вербы.

— Я ўсё тут люблю. Але я думаю пра ранішні туман... ён дзёр табе горла.

— Туман як туман,— адмахнуўся ад непрыемнай размовы, аднак адчуў: пачуццё трывогі, што з'явілася пры паведамленні аб пажары і якое адступіла пасля вясёлай братавай тырады, з якой вынікала, што ўсё вырашаецца проста, зноў падступала, як удушша. Падумаў пра Ірыну з ласкавасцю і з асуджэннем: «Яна — што мама мая: усяго баіцца».

— Прашу за сталы, дарагія госці! — гукаў Іван Іванавіч.

А малы Іванка, шасцікласнік, Лізін сын, пратрубіў на горне збор.

Гэта развесяліла ўсіх гасцей. Яны рушылі да сталоў, але не сядалі. Чакалі маладых. Першая гэта сцяміла Ірына. Узяла Глеба пад руку.

— Вышэй галаву, мой кароль! І — урачысты крок.

Баяніст зайграў марш. Госці запляскалі ў далоні. Свята працягвалася.

II

Плылі на маторцы — і спявалі песні. Усе добра выпілі. На гэты раз і Глеб не баставаў. Ірына здзівілася і па-жаночы насцярожылася, калі ён пачаў куляць чарку за чаркай; пяць гадоў, як кахаліся, лічыла, што ён не п'е, ды і сам Глеб прызнаваўся, што калі зрэдку з сябрамі і выпівае, задавальнення ад гэтага не мае, адну гаркату.

Але не толькі ад віна ўзняўся яго настрой. Ён як бы радаваўся, што вырваўся з тлумнага вяселля на рачны прастор. Сам сабе баяўся прызнацца ў гэтым, бо ведаў, што гэта абразіла б Ірыну: не паспеў ажаніцца — і радуецца, што ўцякае ад жонкі. Дзіўна і іншае: пажар цяпер не хваляваў так, як усхваляваў напачатку. Проста яны шчырыя работнікі, сумленна выконваюць свой абавязак. Ад гэтага, магчыма, і было весела — што яны вось такія: патрыёты сваёй станцыі. Але трывога за пажар адступіла. Сапраўды, на станцыі каля шасці тысяч персаналу, а ў Прыпяці — пяцьдзесят тысяч народу. І Кіеў блізка. У станцыі — асобы рэжым. На яе працуюць дзесяткі ўстаноў, службаў. Не толькі цывільных.

Хараша на рацэ! Сустрэчны паток паветра халадзіў разгарачаныя віном галовы, цела. Васіль і Генадзь распрануліся да трусоў, загаралі. Віктар, гаспадар маторкі, седзячы на рулі, рабіў рызыкоўныя віражы; пенны след на роўнядзі ракі меў п'яную форму.

— Выкупаеш ты нас, Віця.

— Я? Пагана ты мяне знаеш, сваяк! Мяне данясі да руля машыны ці маторкі, і я павяду так, што сам Бокша не ўбачыць, што за рулём чалавек, які хапіў літрагу «антыфрызу».

Гоп, мае грачанікі.
Гоп, мае смачны.
Чамусь мае грачанікі
Не ўдаліся ўдачны.

Усё цудоўна! Людзі яны добрыя. Рака — на радасць ім. І сонца. Вясна. Сады цвітуць у прыбярэжных вёсках, беларускіх, украінскіх. Трохі хіба грызла Глеба сумленне — вініўся Ірыне. Сказаў сябрам тое ж, што сказаў жонцы, бацькам сваім:

— Паглядзімо. Калі нічога сур'ёзнага не здарылася, тут жа вернемся назад. Вернемся, хлопцы?

— У мяне заўтра дзяжурства,— сказаў інжынер-вентылятаршчык Генадзь Несцярэнка.

— А я вярнуся,— адказаў Васіль Гмыр, дазіметрыст.

— Правільна, Вася! — крыкнуў праз шум матора і ажно драпаў босымі нагамі дно чоўна старэйшы зяць Пустахода; чалавеку пад сорак, а па характары — хлапчук. «І смех і грэх»,— казала пра мужа Ліза. Завадны Віцька нават захапіў пляшку гарэлкі, можа, і не адну, нават прапаноўваў выпіць пад шум матора і плёскат хваль, але Глеб рашуча запярэчыў і, баючыся, каб Віктар не набраўся, калі паплыве назад адзін, выпрасіў у яго паўлітэрку — пачаставаць сяброў па інтэрнаце.

— А ты нічога не захапіў? Лапух ты, а не жаніх! Такога трэба выкупаць! Не вучыся ў Пустаходаў. Усе яны скупярдзяі, таму і багатыя! Вучыся ў мяне. Ліза заве мяне матавілам,— дастаў пляшку з-пад сядзення, пацалаваў, працягнуў Глебу.

У адным месцы шаша блізка падступала да ракі, і па ёй прамільгнула чарада машын, больш, чым праходзіць тут у любы час — на гэтай не такой ужо бойкай дарозе на стыку дзвюх рэспублік.

На некаторых машынах узвышаліся пакункі на багажніках.

— Куды гэта іх столькі вырвалася сёння? На вяселле да Пустахода, ці што? — зубаскаліў Віктар.

— Да цешчаў перад святам. Па самагонку.

— Багата жывуць вашы атамшчыкі, многа машын маюць.

— У працэнтных адносінах... на сотню сямей у вас не менш.

— Не. Мала. Каб свабодна можна было купіць, то мелі б, канешне. Дык гэта ж у нас, Пустаход умее выбіць. А іншым цыркаюць па адной машыне ў год,— і Віктар заводзіў новую песню, але падобна, што спявак з кожнай песні ведаў па куплету:

Як была я маленька,
Калыхала мяне венька.
А як стала падрастаці,
Сталі хлопцы калыхаці...

— Я такі не сцямлю, што вас сарвала. Падумаеш — пажар! Ды каб гарэла мая хата, і то наўрад ці адарваўся б ад такога стала. Можа, пачакаць вас? І назад!

— Не. Пакуль мы знойдзем кожны свайго начальніка. Субота.

— А вось ён, Прыпяць ваш. Была яна, а цяпер ён. Не вельмі клеіцца,— углыбіўся ў лінгвістычныя разважанні Віктар і як бы пацвердзіў іх новым куплетам, сур'ёзным, сумным:

Калі разлучаюцца двое,
За рукі бяруцца яны...

З-за павароту ракі выглянула панарама горада, знаёмая, бачаная, можа, сто разоў. Глебам асабліва: у навігацыю часта дабіраўся на «Ракеце», не любіў аўтобуса, які нярэдка прастойваў на паромнай пераправе. Горад новенькі, чысценькі, бела-чырвоны, шэрасці мала, добра спланаваны, хораша азелянёны, за чвэрць стагоддзя пры добрым доглядзе ліпы і каштаны разрасліся, як у Кіеве. Горад расце сюды, на паўночны захад, у бок станцыі ходу яму няма. І дамы, якія яны ўбачылі з ракі, самыя новыя, некаторыя недабудаваныя з буслами-кранамі. І ўсё ззяла на сонцы — вокны, незакрытая арматура, стрэлы кранаў.

Не, не горад прымусіў іх замаўчаць. Бераг. Ішлі да станцыі. Віктар прыбавіў абароты. Ляцелі віхрам. Нязвыклы выгляд берага. Не было на ім рыбакоў, якіх у суботу там поўна. Ды ў такі спякотны дзень і раннія купальшчыкі маглі знайсціся, ёсць тут маржы, што ад лёду да лёду купаюцца. Зусім прыціхлі, калі адкрылася станцыя. Будынак станцыі. Дым над ёй не чорны, не жоўты, як над ТЭЦ, а нейкі як бы празрыста-блакітны. Глеб хіба трохі суцешыўся, што дым над чацвёртым блокам, не над яго, другім. Каля адваднога канала, праз які напаўнялася вадасховішча, замільгалі постаці міліцыянераў. Адзін, другі... Ніхто не адпачывае, а міліцыя ёсць. Моцна гэта насцярожыла. Усіх, акрамя хіба Віктара. У штучнай бухце — прычал, службовы, стаяць белыя катэры, чаўны. Віктар апісаў дугу і затармазіў не каля бетоннай сценкі, а збоку, на пясчанай водмелі. Не паспелі яны

ўтыкнуцца носам у пясок, як перад імі з'явіўся міліцыянер. Сурова загадаў:

— Не прычальваць! Прахадзіце міма!

Але хлопцы адзін за адным сіганулі на бераг. Глеб чарпнуў вясельнымі чаравікамі ваду.

— Мы работнікі станцыі. Нас выклікалі па трывозе.

— Дакументы!

У Васіля і Генадзя былі з сабой службовыя пропускі, Глебаў застаўся ў кішэні штодзённага касцюма. Генадзь браў міліцыянера незвычайнасцю сітуацыі, у якой яны апынуліся:

— З вяселля сарваліся. Чуеш — пад газам? Во жаніх. Не бачыш па ўбранні? Ад нявесты адарваўся, каб ратаваць свае шчыты.

Малады міліцыянер чухаў патыліцу.

— Адных выклікаюць, другіх не пускаюць. І — ніякіх указанняў. Ніхто нічога не ведае.

— А што здарылася?

— Думаеш, я знаю? Я тое бачу, што ўсе бачаць. Глядзі, як корпус раскроіла. Сілішча!

З маторкі яны ўбачылі дым. Адсюль, з вышыні бетоннага берага канала, добра відаць, як разбураны корпус чацвёртага блока. Просты пажар не мог так расшчапіць звыштрывалае збудаванне.

Генадзь і Глеб даводзілі міліцыянеру неабходнасць іх прысутнасці на станцыі:

— Ды ты знаеш, як у такой сітуацыі патрэбны інжынер па вентылятарах! А дзяжурны інжынер на размеркавальных шчытах? Спыніцца станцыя — замрэ жыццё ў Кіеве.

— Не замрэ. Ёсць іншыя станцыі.

— Ёсць, канешне. Але без нашай ім не пацягнуць усю нагрузку.

А Васіль Гмыр маўчаў. Стаяў збоку, глядзеў неадрыўна на станцыю, і выгляд яго, такі бадзёры колькі мінут назад, стаў як пасля дзікага перапою. Скіс чалавек, ажно пазелянеў.

Міліцыянера пераканалі. Амаль уподбег кінуліся ўздоўж канала да станцыі. Васіль неахвотна паплёўся за сябрамі, сапраўды ногі яго зapляталіся і падкошваліся, як у моцна п'янага.

На зялёнай траве валяліся чарнавугальныя стрыжні з абламанымі краямі.

– Што гэта?

Глеб спыніўся, падняў адзін такі стрыжань.

– Кінь! Кінь! – не сваім голасам закрычаў начальнік групы дазіметрыстаў, іх самы вясёлы сябра Вася Гмыр.

Глеб і Генадзь павярнуліся да яго. Васіль стаяў бледны, але надзвычай узбуджана махаў рукамі.

– Хіба не бачыце, што гэта такое? Атамшчыкі, такую вашу!.. Невукі! Графіт гэта! Графіт! Рэактарны. Вунь куды яго выплюнула! Вы ўяўляеце, што адбылося! Назад! Назад! Уцякайма, хлопцы! Калі жыццё не абрыдла...

– Ды вунь колькі там людзей!

– Міліцыя гэта! Міліцыя! Вам мала гэтага – што столькі міліцыі? Уцякайма!

– Уцякай, пацук карабельны! – узлавана мацюкнуўся Генадзь.

– Ідыёты! Вар'яты! – Васіль павярнуўся і кінуўся назад да ракі, сагнуўся, як пераадольваючы стометроўку.

Глебу нават смешна стала, што сябра гэтак уцякае. Ён не верыў у пагрозу. Не мог паверыць. Ён усё яшчэ верыў у надзейнасць рэактара.

– Панікёр няшчасны! – кляйміў Гмыра Несцярэнка.

– Не будзем асуджаць яго,– сказаў Глеб.– У страху вялікія вочы.

– Распускаем гуманныя соплі? Як на камсамольскіх сходах.

У Віктара заглух матор, і ён, не вельмі яшчэ працверазелы на рачным ветры, корпаўся ў ім. Але маторка адплыла ад берага сама па сабе – ад гойдання хваль; мацнеў гарачы паўднёвы вецер.

Васіль закрычаў з берага:

– Стой! Стой! Чакай!

У гэты міг завёўся матор. Але човен развярнула. Уцекачу здалося, што Віктар накіроваўся з затокі ў раку. І Васіль кінуўся ў ваду, паплыў наўздагон.

Здзіўлены Віктар развярнуў маторку і спрактыкавана, умела, як ратуюць тапельцаў, схапіў Гмыра за валасы, за каўнер пінжака, уцягнуў у човен.

Выплёўваючы акрываўленую ваду (кроў ішла з носа), Гмыр, лежачы на дне, хрыпеў, сцяўшы пасінелыя губы:

– Назад! Хутчэй назад!

– Куды?

– Усё роўна – куды. Далей адгэтуль! Як можна далей!

– А што здарылася?

– Я скажу табе – што...

Спалох перадаўся і Віктару, і ён прыбавіў газу. Маторка вылецела на прастор Прыпяці. Віктар крычаў праз роў матора:

– А хлопцы дзе?

– Яны... героі. А я не хачу быць героем. Я не хачу! – Васіль падняўся, учапіўшыся ў сядзенне, і таксама цяпер ужо крычаў у твар рулявому: – Я не хачу! Разумееш? Не хачу я ў героі! А яны... дурні яны!

Віктар нічога не разумеў і глядзеў на інжынера, як на хворага. А той размазваў мокрымі рукамі па твары кроў і слёзы. З адзення яго цякла вада.

А яны тым часам... Глеб і Генадзь набліжаліся да станцыі. На пляцоўцы стаяла многа машын. Станцыя ачэплена міліцыяй. Але ніхто іх больш не спыніў. Толькі знаёмы міліцыянер у прахадной здзівіўся іх адзенню:

– А вас адкуль сарвалі?

## III

А вяселле шумела і без жаніха. І без нявесты. Ірына таксама знікла.

Рэй вялі Пыльчанкі, стары і малады, як бы стараліся кампенсаваць адсутнасць сына і брата. Уладзімір Паўлавіч паказваў сваё мастацтва за сталом: перахапіў у сваіх намеснікаў ролю тамады і выконваў яе адменна – з жартаўлівымі беларускімі вясельнымі і грузінскімі – на любы выпадак – тостамі. Барыс верхаводзіў сярод моладзі, на танцах.

Трывога ў сувязі з нечаканым ад'ездам маладога трымалася толькі ў маці і жонкі. Між іншым, Вольгі Андрэеўны таксама не было за сталом. Яны пайшлі з Ірынай ажно да Прыпяці. Гулялі там, знешне спакойныя, амаль вясёлыя. Пра Глеба не гаварылі, але адчувалі, разумелі, што кожная з іх думае пра яго. І гэта іх збліжала.

Марыя Пятроўна пайшла па нейкай патрэбе ў сваю хату. Тут жа вярнулася. Сказала свату:

– Звоніць Мятліцкі. Пачула з двара: тэлефон ажно захліпаецца... Вельмі просіць вас, Уладзімір Паўлавіч.

– Што яму трэба? І тут знайшоў. Во званар. Без нянькі авёс пасеяць не можа,– асудзіў Пустаход, маючы на ўвазе свайго калегу.

А Пыльчанка адразу ўдакладніў:

– Які Мятліцкі? – У раёне было некалькі Мятліцкіх.

– Той, што школамі камандуе.

Невядома па якой логіцы Уладзімір Паўлавіч звязаў званок загадчыка райана з пажарам на станцыі, з ад'ездам Глеба і яго сяброў, і ў разгарачаную галаву ўдарыла халодная хваля трывогі, уміг выветрыла хмель. Пустаход і госці, якія чулі размову, здзівіліся, як паспешліва старшыня райвыканкома пайшоў дахаты на выклік падначаленага.

Уладзімір Паўлавіч узяў трубку. Але той, што званіў, не дачакаўся і паклаў яе, але не на рычаг – на стол, чуваць галасы, пераважна жаночыя, звычайныя, бадай, нават вясёлыя.

Прыйшлося доўга алёкаць. Урэшце трубку ўзяла нейкая гумарыстка, спытала:

– Хто там хукае?

– Дзе Мятліцкі? Пыльчанка.

– Ой, прабачце, Павел Пятровіч! Вас. Сам...

– Уладзімір Паўлавіч, прабачце, што патурбавалі. Разумеем...

– Што ў цябе гарыць?

– Ды нічога не гарыць. Але тут, можна сказаць, анекдатычны выпадак...– як бы разгублена і няўпэўнена цягнуў загадчык райана.

Пыльчанка ўзлаваўся: глупства нейкае паведаміць.

— Ты што, таксама на вяселлі?

— Ды не. Я са школы. З другой. Мне дырэктар далажыў. Пазваніла начальніца гэтага нашага пункта, што на Прыпяці, гідраметэа... што замярае ваду і паветра. Вы знаеце гэтую злую дзеўку. Помніце, як яна на камсамольскай канферэнцыі ўсіх разносіла за экалогію... На райком замахнулася. Ёй бы замуж. Без мужа жыве...

— Карацей можаш?

— Прыбор там у яе нейкі зашкаліла. У галаве ў яе зашкаліла, па-мойму... Дык яна звоніць у школы і загадвае... Не, праўда. Целеш так і кажа: загадала. Дзяцей на вуліцу не выпускаюць. У такі дзень! Як вам падабаецца? У нас ваенна-спартыўная гульня старшакласнікаў назначана... На Прыпяць выязджаем... Таму я і ў школе.

— Дык што ты хочаш ад мяне?

— Я? — Мятліцкі сумеўся.— Ды параіцца... Можа, вы што знаеце.

— Нічога я не знаю.

— Ну вось, я кажу... А Целеш тут панікуе. Хоча вучэнне адмяніць. Адмяняць?

— Хто кіруе школамі? Ты? Ці я?

— Дык выключны ж выпадак, Уладзімір Паўлавіч! Дзеўка гэтая... Рамейка ажно слінай пырскала, кажа Целеш. Такія страхі наганяла.

— Пазвані Пятру Міхайлавічу.

— Няма яго.

— У Гомель пазвані.

— Субота. Хто адзавецца?

— То вырашай сам. Хоць адзін раз.

— Слухаюся.

— Будзь здароў.

Пыльчанка паклаў трубку. Адчуў раздражнёнасць. Супраць каго — не разумеў. Не супраць жа Мятліцкага? А ўрэшце, можа, і супраць яго: кроку ступіць самастойна не могуць. Не злуй, Уладзімір Паўлавіч, на сябе — так прывучылі людзей. Пастаяў пасярод хаты, незнаёмай, хоць быў у ёй дзесяткі разоў — залішне прасторна. Не адразу сцяміў, што прастор

гэты ад таго, што няма стала, лавак, крэслаў: учора хата была цесная – ад сталоў, ад гасцей.

Неяк сама па сабе быццам запісаная на плёнку, «пракруцілася» размова з загадчыкам райана.

«Як ён сказаў... яна сказала? Зашкаліла? Прыбор? Які прыбор? Дазіметр? У яе ёсць дазіметр? А на станцыі пажар...– Ад стыкоўкі гэтых двух розных паведамленняў кінула ў жар.– Чорт вазьмі! Што гэта я раблю? Стары дурань!»

Кінуўся да тэлефона. Нумара школы не помніў. Набраў райвыканком.

Дзяжурны не адразу абазваўся.

– Капцюг? Ты што, спаў?

– Ды не, Уладзімір Паўлавіч. На балкон выйшаў. Дзянёк – душа радуецца.

– Якія навіны?

– Ніякіх.

– Ніхто не званіў?

– Званіла жанчына. Не назвалася. Пыталася, дзе вас знайсці. Я не сказаў...

– Месца знаходжання камандуючага невядома, так? Не гуляй у ваенныя гульні, Капцюг!

– Зразумеў.

– Тэлефон другой школы.

Інструктар доўга шукаў нумар гарадской школы. Пыльчанка ледзь стрымаўся, каб не вылаяць работніка, дзеці якога ходзяць у гэтую школу.

Раздражнёнасць яго пульсавала: уздым – спад. Нарэшце дазваніўся ў школу.

– Мятліцкі?

– Целеш.

– На АЭС пажар.

– Дзе?

– На атамнай.

– Матка мая родная! А хто гэта гаворыць?

– Пыльчанка.

– Прабачце, Уладзімір Паўлавіч, не пазнаў. Мятліцкі паехаў у першую школу.

— Пазваніць яму. Дзяцей у поле не вывозіць!

— Я адразу быў супраць. Але маёр з ваенкамата ціснe.

— Пашліце яго!..

— Ого, пашліце... А ён заўтра мяне на зборы...

— Целеш! Вам колькі гадоў?

— У тым і бяда, што мала. І я ўсяго лейтэнант.

Чалавек пашкадаваў, што яму мала гадоў,— гэта расслабіла да ўсмешкі. Спад... Але тут жа пульсар выкінуў новы зарад раздражнёнасці.

— Дзяцей не вывозіць! Вас што — агітаваць трэба?

— Слухаюся, таварыш старшыня.

— Вось так!

Вяртаўся да Лізінай хаты амаль задаволены: выканаў свой абавязак. Найбольш, напэўна, супакоіла паведамленне дзяжурнага, што званкоў ніадкуль не было. Значыцца, у свеце ціха, калі не лічыць шуму ад нашай перабудовы. Можна спакойна гуляць вяселле.

Заліваліся баяны. Кружыўся вялікі карагод. Гасцей прыбывала: моладзь ішла на танцы без запрашэння. Шчодрыя Пустаходы ўсіх частавалі.

Віктар хадзіў на маторцы ў гумавых ботах і ў старых залапленых джынсах. Назад, трохі спалоханы, добра працверазелы, выціскаў з матора ўсе сілы. Сустрэчная хваля апрыскала яго, і вясёлы зух ператварыўся ў мокрую курыцу. Хаваючыся ад гасцей, прашмыгнуў у хату, каб пераапрануцца. Пачаў з таго, што ўзнагародзіў і падбадзёрыў сябе шклянкай гарэлкі, дастаў пляшку са свайго тайніка — прыхаваў для апахмелля, бо ведаў, што ўсе банкетныя астаткі Ліза зачыніць на добры замок. Прыйдзецца ісці да цешчы, каб папраўляць «дурную галаву», што рабіў ужо неаднойчы, толькі цешча магла выручыць, калі Пустахода не было; той «частаваў» «дарагога зяця» добрай праборкай, і Віктар баяўся яго.

Ніводнай душы не было ў хаце, усе за сталамі, на танцах. Але ўсюдыісная жонка і тут высачыла. Толькі наліў у другую шклянку, так, слёзы сірочыя, як у адчыненае акно ўсунуліся яе рыжыя кучары.

— Віця! Ну і кот жа ты шкадлівы! Мала табе за сталом будзе?

— Бачыш, мокры ўвесь...

— Баўтануўся ў раку, ці што?

— Некаторыя баўтануліся. А я ляцеў на сваёй маторцы, ажно Прыпяць з берагоў выходзіла.

— Так спяшаўся да чаркі? Адвёз?

— Адвёз. Але.— Ён таямніча прылажыў палец да вуснаў.— Ша... Там штосьці робіцца — не для нашага розуму. Падвёз я іх да канала. А там — міліцыя. Пайшлі яны. Я адплыць не паспеў, матор заглух. І тут бяжыць назад адзін з іх, гэты белы... вясёлы, як яго? Васіль. Махае рукамі. «Стой! Стой!» Можа, падумаў, што я адплываю, матор завёўся. Кінуўся ў ваду. Уяўляеш? І сажонкамі да мяне. «Ты шчо?» — «Я табе раскажу шчо». Але нічога толкам не расказаў, у яго кроў з носа пайшла. Ну, гэта і ў мяне бывае, у душныя дні на камбайне дык часта. Адно сказаў: «Яны — героі. А я ў героі не хачу. Я ў героі не лезу». Высадзіўся на пустым беразе. Бутэльку папрасіў...

— А ты і туды захапіў? Во гарачка маё! Праглыне цябе Прыпяць. Дзяцей асіраціш.

— Ты знаеш, спужаў ён мяне. Як чокнуты. Вочы сталі што працітуманныя фары. Во! Не, не жоўтыя, зялёныя нейкія.

— Дай твой стакан.

— Вылыеш?

— Вылью.

— Чым дабру прападаць...— выплеснуў гарэлку ў рот.

— Нахіліся да мяне.

— Падстаў табе шчаку? А во! — паказаў жонцы дулю.

— Дурань. Калі ты сур'ёзным чалавекам станеш? Мне з табой пагаварыць трэба. Чакай. Я ў хату зайду.

Увайшла. Адразу знайшла тайнік, канфіскавала недапітак.

— Гэта такая сур'ёзная гаворка?

— Слухай, дабраверны мой! Пра гэта... як зайчык драпануў — нікому ні слова. Дайшло да цябе? А то прыпішуць табе выдачу ваеннай тайны...

— А ты думаеш — тайна?

— А чаму ж там міліцыя?

— Праўда твая. Маўчу, як рыба.

7. Зак. 2388.

— Не. Ідзі... гэтую ж мінуту, пакуль не развязло цябе... адзаві бацьку і свата і ўсё раскажы ім. Але Іры і свацці — не пікні. Не. Сядзі тут. Я сама пазаву іх.

Смяяўся баян. Жаночы голас весяліў наваколле гарэзлівай застольнай песняй:

А хто п'е, таму налівайце,
Хто не п'е, таму не давайце...

Смелы перад жонкай, хоць, здаралася, зарабляў ад яе і кухталёў, і качалкі па спіне, Віктар баяўся цесця. Здалося яму, што Іван Іванавіч з самага пачатку з недаверам паставіўся да яго шчырага расказу, таму, збянтэжаны, Віктар кляўся і бажыўся, што кажа святую праўду. Але — во загадка! — менавіта ад жадання расказаць так, каб яму паверылі, ён сачыняў, згушчаў фарбы. Бачыў дым над станцыяй, а з расказу вынікала, што ўсё там гарэла і трашчала, стаяла безліч пажарных машын і ўсё наваколле ачэплена міліцыяй. Таму, маўляў, і спалохаўся гэты «заяц белы» Васіль. А Глеб і Генадзь кінуліся ў самае пекла.

Віктара падбадзёрваў Пыльчанка: слухаў сур'ёзна, заклапочана, ажно лоб зморшчыўся. Але потым сыпануў мяшок пытанняў, на большасць з якіх відавочца адказаць не здолеў, каб сачыняць — не хапіла фантазіі, заліхвацкасць п'янага манюкі згасла: вельмі сур'ёзна дапытваўся старшыня райвыканкома, да драбніц дакопваўся, быццам даследаваў бяду ў сваім раёне.

Віктар правільна адчуў. Ва Уладзіміра Паўлавіча сапраўды з'явіліся цяжкае прадчуванне катастрофы, страх за сына, за людзей там, у Прыпяці, і за гэтых, што весела танцуюць. Але самае цяжкае было адчуванне ўласнай бездапаможнасці: а што ён можа зрабіць? Ёсць у яго права падаць хоць які сігнал трывогі? Ён здзівіў Віктара, калі загадаў гэтак жа, як і Ліза:

— Пакуль што нікому не расказвай. Сваім таксама. Ірыне... Ты знаеш жанчын...

— Ого! Яшчэ як знаю!

— Дзе ён вытрымае! У яго пад чаркай не язык, мянташка,— пакрыўдзіў цесць.

— Вы, бацька, дарэмна гэта. Вы мяне не цэніце. Я, можа, не такія сакрэты знаю!

— У тым і няшчасце, што многа знаеш! А галоснасць у цябе, што ў галасістага пеўня. Да людзей не хадзі! Пагуляў, папрацаваў і — сушы вёслы!

— Ёсць сушыць вёслы!

— Вось так.

Гаспадары выйшлі на двор.

— Што ты думаеш, Іван Іванавіч?

— А што мы з табой прыдумаем? Чыя бяда — той няхай і думае.

— Баюся, каб гэта не стала агульнай бядой,— і расказаў свату пра званок загадчыка райана.— Звяжы ў адзін вузел...

— Не хачу я вязаць, Уладзімір Паўлавіч. Хапае ў мяне сваіх вузлоў. Сяджу за сталом, а думкі на полі: як да Першага мая бульбу пасадзіць. І кукурузу трэба сеяць. Зямля перасыхае. А людзей не хапае. Адсмактала гэтая чортава станцыя ў мяне людзей. Механізатары ўплываюць. Гэтага завадзягу зяця свайго чуць утрымаў. А то ўжо быў і Лізу пераканаў, чарцяка. Прыйшлося мне паказаць бацькоўскую ўладу. Не думай. Хадзем апошні круг правядзём. У цябе гэта здорава выходзіць...

— Не. Паеду. Нікога з начальства не засталося. Ёсць хоць адзін цвярозы шафёр?

— Ёсць. Але разваліш ты мне вяселле.

— А я табе скажу, што пара і закругляцца. А то Сінякоў наставіць нам сінякоў. Яшчэ Барыс учора адмачыў... А потым гэтая з гідраметэапункта. Яна не дурная дзеўка. Дарэмна званіць не стала б. Можа, і праўда не трэба людзям пад адкрытым небам? Ды яшчэ пыл паднімаць гапаком.

— Трактары і сеялкі ў полі. Там пыл, а не на танцах.

— Мужыцкая ў цябе логіка.

— А хіба паганая?

— Ды не. Самая здаровая.

Вольга Андрэеўна здзівілася, што муж вырашыў так нечакана паспешліва паехаць. Сваццы і Ліза да слёз расстроіліся: мала што малады, дык і бацькі яго ламаюць вяселле.

Угаворвалі. Але Уладзімір Паўлавіч непахісна стаяў на сваім: ехаць!

Жонка ведала яго ўпартасць і зрабіла нечаканы ход:

— Трэба забраць Барыса. Без Барыса я не паеду.

— Так, летуна трэба забраць ад дзяўчат, а то доўга будзеш разбіраць яго віражы.

Аднак Барыса нялёгка было знайсці. Знайшлі на Прыпяці. Ці то ён катаў на чоўне дзяўчат, ці, хутчэй, дзяўчаты яго — выраслі на рацэ — русалкі.

На выклік бацькі з'явіўся, але заўпарціўся:

— Не паеду. Што вы нянчыце мяне, як малога? Я баявы афіцэр!

— Залішне баявы.

Бацька пачаў злаваць.

Маці слёзна прасіла:

— Сынок, дай мне адну ноч паспаць, я з ног валюся.

І тут выручыла «галубка міру» — Тамара. Пачула іх размову, на міг адлучылася і вярнулася з нечаканым рашэннем:

— Мы з Ірынай паедзем да вас.

Засмуцілі ўласную маці, але вельмі ўзрадавалі Вольгу Андрэеўну: нявестка едзе ў іх дом, назаўсёды. Як гэта хораша і разумна з яе боку: у той час, калі муж паехаў на станцыю, на пажар, дзе, можа, і небяспечна, яна едзе ў яго дом.

Седзячы паміж нявесткай і яе сястрой, адчувала цеплыню іх маладых, гарачых цел, цешыла сябе думкай, што, вельмі можа быць, набыла адразу дзвюх дачок, і радавалася. І было ёй спакойна і хораша. Следам за іх «Волгай» ішоў «жыгуль», у ім ехалі муж і сын.

Нізкае, не такое ўжо спякотнае сонца ласкава грэла праз адчыненыя шыбы. Пахла сасной — толькі што праехалі бор — і азонам. Азон адкуль у такую сухмень? Ад свежай раллі, што цягнулася паўз дарогу? Са знікненнем трывогі за Барыса (за Глеба асабліва не трывожылася) з'явілася прыемная ўзбуджанасць, як ад добрага віна, расло адчуванне спакою і шчасця. Гэткая ж узбуджаная была і Тамара, бясконца гаварыла і смяялася. А Ірына маўчала, засяроджаная, сур'ёзная.

«Я разумею цябе, дачка мая, усё пераэкыла сама. Але ты не хвалюйся. Глеб разумны хлопец. Глеб не палезе куды не трэба. Гэта не Барыс».

І было ў маці неадольнае жаданне пацалаваць нявестку, пацалаваць сястру яе, дай бог, яшчэ адну будучую нявестку. «Слаўныя вы мае». Але ўсё жыццё яна саромелася сентыментальнасці, сыноў, калі падраслі, рэдка цалавала. Адным выяўляла сваю радасць — смяялася з Тамарыных жартаў.

А ва Уладзіміра Паўлавіча адбываўся адваротны працэс: на пад'ездзе да цэнтра канчаткова выпарылася хмельная ўзбуджанасць, а прадчуванне катастрофы расло. Пасадзіў Барыса з сабой, хоць той ірваўся да Тамары, каб пагаварыць з ім, бо разумеў, што іншага часу не будзе. Меў намер па-бацькоўску патрабаваць, каб Барыс папрасіў у Плечкі прабачэння, а то, чаго добрага, фанабэрысты камсамолец яшчэ даложыць у часць. Але ўсё гэта здалося мізэрным, не вартым таго, каб траціць на нейкага Плечку энергію. Увогуле, усё паблякла, адступіла, усе справы, клопаты, нават Глебава жаніцьба; так, мабыць, было ў людзей у першы дзень вайны. Нешта казаў Барыс, штосьці вясёлае, але сынавы словы прасочваліся праз яго, як вада праз пясок, не затрымліваючыся, пакідаючы халодную вільгаць. Адказваў сыну банальнасцямі, што ляжалі на паверхні, бо глыбіні розуму і душы былі запоўнены іншым.

Выйшаў з машыны каля райвыканкома. У кабінеце сеў за вялікі рабочы стол, які заўсёды настройваў на актыўныя дзеянні. Званіць? Каму? Сядзеў у стане — як пасля цяжкага пахмелля; здараліся такія рабочыя дні пасля нядзельнага палявання.

Заходзіла сонца. Кабінет напаўняўся злавеснай чырванню, якая гусцела, цямнела, здавалася, вось-вось чырвань стане чарнатой, згасне святло і наступіць... Што наступіць? Працягнуў руку, націснуў на выключальнік настольнай лямпы. Загарэлася святло. Мала. Падняўся, уключыў люстру. Нічога не наступіць! Няхай будзе святло! І ёсць святло. З ім вярнулася жаданне дзейнічаць. Пазваніў у Гомель, на кватэру намесніка старшыні аблвыканкома, з якім некалі працаваў, але сяброўства з якім парушыла субардынацыя.

Той здзівіўся:

— Даўно ты мне не званіў на кватэру. Што здарылася?

— Я ў цябе хацеў узнаць навіны.

— А якія навіны? Гарым.

— Як гарым? Дзе?

— Зямля перасыхае. Лугі не залівала. Без кармоў будзем... У цябе тарфянікі не перасушыла? Бульбу садзіш?

Гаварылі мінут дзесяць. Карцела сказаць пра пажар на АЭС. Не сказаў. Ведаў характар кіраўніка: да лямпачкі яму пажар у другой рэспубліцы.

На нейкі момант супакоіла, што ў вобласці ціха. Але пачаў правяраць сваіх — пазваніў двум старшыням калгасаў, аднаму — сельсавета ў Прыпяцкай зоне. І гэтак жа: што новага? Як сяўба? Надоі не знізіліся? Са страхам чакаў, што хтосьскажа: «Якія надоі! Тут такое...»

Ніхто не сказаў. Адзін Лашук здзівіўся:

— Уладзімір Паўлавіч! У вас жа вяселле, а вы пра кароў. Неўгамонны вы чалавек! Віншую вас. Гэта той ажаніўся, што з нашай прыстані ездзіць на работу?

— Сёння «Ракеты» ішлі?

— Не быў на рацэ. У трэцяе аддзяленне ездзіў. А чаму ім не ісці?

Можна было б зусім супакоіцца: з аднаго ўрочышча гэтага калгаса відзён новы ўкраінскі горад, карпусы станцыі, з вёскі гэтай у Прыпяці робяць людзі.

Не, не супакоіўся. Пазваніў начальніку штаба і грамадзянскай абароны падпалкоўніку Пятрушкіну.

— Сяргей Дзям'янавіч! Чым заняты?

— «Час» гляджу.

— Давай зараз жа ў выканком.

— А што? Трывога?

— Трывога.

— Абласная? Рэспубліканская?

— Саюзная.

— Што вы кажаце? Вучэбная? Баявая? Што ж мой тэлефон маўчыць? Лячу! Маша! Форму! — сурова закамандаваў ваяка, хоць голас яго раптам асіп.

Прыляцеў праз сем мінут — Пыльчанка засек на насценным гадзінніку. Задыхаўся вельмі. Пабялеў.

— А што ж у нас так ціха?

— Не даляцелі ракеты.

— Не жартуйце, Уладзімір Паўлавіч. Вы ж сказалі: трывога. Самі хочаце абвясціць? Вось так — адразу? Якую мэту ставіце? — Падпалкоўнік выцер хусцінкай лысую галаву, кінуў на стол фуражку, сеў, яўна абураны такой гульнёй. Выходзіць, старшыня правярае аднаго яго. Чаму? У абласным цэнтры яго хваляць. Навошта ж такая несур'ёзная праверка? Выпіў на вяселлі і забаўляецца кіраўнік. Падпалкоўнік меў гарачы характар. Але выказацца ён не паспеў.

— Дазіметры ў цябе ёсць?

— Радыяцыйныя? Ёсць. ДП-5. Два. Але старыя, пяцьдзесят восьмага года.

— Якога? І калі ты ўключаў іх? — і раптам гнеўна загрымеў: — Гаўно мы, а не грамадзянская абарона!

— Вы — начальнік яе.

— І я такое ж дзярмо, як ты, як усе...

— Не разумею, што здарылася...

— Зразумееш. У панядзелак паедзеш у Гомель, у Мінск, хоць у Маскву. І без дазіметраў не вяртайся.

— Вы думаеце, так гэта проста: паехаў і ўзяў?

— Бардак! Дапрацаваліся! Дакамандаваліся! — і пачаў крыць мацюкамі невядома каго.

Ашаломлены Пятрушкін падняўся, надзеў фуражку, стаў «ва фрунт». Было жаданне сказаць такія ж гарачыя словы аб яго метадах кіраўніцтва абаронай: заўсёды адмахваўся — рабі, як інструкцыі патрабуюць. Але грубая бязадрасная лаянка старшыні стрымала: ці мала што ў чалавека магло здарыцца — на вяселлі!

— Мне можна ісці?

Пыльчанка асекся і нейкі момант глядзеў на памочніка няўцямна. Сорамна зрабілася за зрыў.

— Ідзіце!

Падпалкоўнік казырнуў... здзекліва.

## IV

Акадэміка Мартынюка тэлефон разбудзіў а шостай раніцы — у гасцініцы «Расія». Званіў намеснік па навуковай рабоце Кваша. Сам званок у такі час палохае, а тут яшчэ незвычайны голас звычайна спакойнага чалавека — спалоханы голас:

— Васіль Данілавіч! ЧП! «Танцуюць» прыборы. Змена падняла мяне з пасцелі. Некаторыя скакалі цераз плот.

— Дзе ўцечка?

— Няма нідзе. Праверыў. Усё ў норме. Усе прыборы даюць норму, акрамя дазіметраў.

— Дык у чым прычына?

— Не магу зразумець. Выклікаў ядзершчыкаў. Але ці прыедуць свяцілы з горада ў такую рань?

— У каго з суседзяў можа быць уцечка?

— У Мінску ні ў каго такіх доз не можа быць. Хіба ў ваенных, пра што нам не дакладваюць. Дарэмна. Па інструкцыі я павінен даць сігнал трывогі.

— Чакай. Шукайце прычыну ў сябе. Толькі калі знойдзеш прычыну, тады бі ў званы. А я пашукаю вакол. Дай мне тэлефон Гідрамета. Праз паўгадзіны пазвані.

Не пацэліў пальцам у шчыліну тэлефоннага дыска — дрыжала рука. Пачало зябіць. Спаў з адчыненай фрамугай. Падышоў, каб зачыніць яе. Акно выходзіць на Крэмль. Гараць залатыя званіцы, залітыя чырванню першых промняў сонца. Якое хараство! Гэта ж яму ні разу не пашчаслівіла палюбавацца вось так на Крэмль з дзесятага паверха, у такі час, у такую вясновую раніцу. Глядзеў удзень, увечары, уначы. А выходзіць, усё хараство і тварэнняў прыроды і тварэнняў чалавечага генія можна ўбачыць толькі ў хвіліны нараджэння новага дня. Аднак не да паэзіі, калі... калі цябе калоціць не ад холаду...

Дзяжурны ў Гідрамеце адказаў адразу, але голас яго быў заспаны, хрыплы.

— Гаворыць акадэмік... Беларускай акадэміі. Пры адсутнасці аварыйнай сітуацыі на нашым рэактары «заскакалі» дазіметры. Якая абстаноўка ў рэгіёне?

— Усё ў норме, таварыш.

Акадэміку захацелася ўжыць лексікон дворніка.

У дзяжурнага Міністэрства энергетыкі голас быў не начны — рабочы, ды і чуліся ў трубцы іншыя галасы. Недарэмна там людзі ў такую рань.

Прадставіўся. Назваў прычыну сваёй трывогі. Паўза. Загадкавая. Хвалюючая. Чалавек у кабінеце міністэрства яўна думае, што адказаць, значыць, ведае прычыну, значыцца, ёсць прычына. Што здарылася? Дзе?

— Пазваніце пасля дзевяці.

— Да дзевяці — тры гадзіны. І сёння субота.

— Сёння субота,— згадзіўся, здаецца, з расчараваннем, чалавек на другім канцы праваду.

— Хто там такі ранні? — прагудзеў голас воддаль ад трубкі. Той, што гаварыў, заціснуўшы мікрафон, тлумачыў — хто, ды адарваў далонь ад мікрафона.

— Парай яму займацца лепш навукай. Тэарэтыкі, маць іх!..

Мартынюк абурыўся і ледзьве ў сваю чаргу не выказаў добрую параду практыку. Але той, хто адказваў, надзвычай ветліва папрасіў пазваніць у дзевяць і палажыў трубку.

Пасля такой размовы ўжо не толькі ўстрывожаны, але і надзвычай зацікаўлены Васіль Данілавіч амаль без ваганняў адважыўся патурбаваць у такую рань свайго куратара — віцэ-прэзідэнта саюзнай акадэміі.

Не здзівіўся, што трубку ўзялі адразу. Жонка не выслухала, хто звоніць,— адразу паклікала мужа:

— Жэня! Цябе!

Павітаўся і, пачуўшы, што акадэмік нешта дажоўвае, не папрасіў прабачэння, што патурбаваў, сказаў з ходу, але чамусьці жартаўліва:

— У нас стрэлкі танцуюць гапака.

— Правільна яны ў вас танцуюць. Аварыя на Чарнобыльскай... Лячу. Дапіваю чай, каб не ўкачала ў самалёце. Што здарылася? Толькі што гаварыў са станцыяй. Уражанне такое, што там ніхто нічога не ведае. Прабачце. Спяшаюся.

8. Зак. 2388.

Машына ля пад'езда. Алё, алё! Вам як спецыялісту. Да высвятлення абставін – ніякай інфармацыі! Ніякай панікі!

– Але ж...

– Ніякіх «але»! Каманда зверху. Мне званіў член Палітбюро... Думаю, тлумачыць не трэба... Вы – чалавек дасведчаны. Нам з вамі даверваны дзяржаўныя тайны.

У трубцы – кароткія гудкі. Адбой.

Чаго не трэба тлумачыць? Вельмі нават трэба. Калі цябе, вучонага вяльможу, паднялі ў пяць раніцы, а можа, і раней... Калі не спяць члены Палітбюро... Тлумачыць можна, канешне,– пазней, высветліўшы абставіны. Але мы з табой, як ніхто, як ніводзін член Палітбюро, ведаем, што гэта такое... Калі заскакалі прыборы за чатырыста вёрст – у Мінску, то гэта... Васіль Данілавіч адчуў на спіне халодны пот, калі мількнула страшнае параўнанне, якое боязна было вымавіць.

– Гэта – Хірасіма.

Прычыніў дзверы ў калідорчык. Зазябіла, ажно ліхаманіла. Няўжо за ноч гэтак астыў моцна нагрэты ўдзень сонцам пакой? Накінуў на плечы пінжак.

«Народу можаш растлумачыць пазней, дарагі шэф. Але ад кіраўніцтва патрабуй сігналу трывогі, каб ратаваць людзей. Ты – найвышэйшы аўтарытэт. Ты знаеш, колькі мільёнаў бэр можа выплеснуць адзін рэактар. А іх там чатыры... Колькі Хірасім!»

Толькі ён, фізік, мог уявіць карціну разбурэння чатырох рэактараў. Ад такога і ў спёку заліхаманіць.

Зняў тэлефонную трубку. Набраць Мінск! Даць хаця б папярэджанне кіраўнікам рэспублікі. Але смешна ён будзе выглядаць са сваім званком, калі ім пазванілі ўжо не з гасцінічнага тэлефона – па ВЧ. Да таго ж успомніў, што тэлефоны гасцініцы не падключаны да аўтаматнай сувязі. Вылаяўся. Каменны век! З лепшай гасцініцы сталіцы краіны не можаш пазваніць у сталіцу рэспублікі. Мабыць, у папуасаў лепшая сувязь. Увечары каля трох гадзін чакаў размовы па талоне; а палове першай падняў жонку з ложка, напалохаў такім позним званком. А цяпер не мае магчымасці хаця б папярэдзіць: не ездзі на дачу, не вязі ўнукаў, не выпускай іх на

вецер. Бегчы на перагаворную? У вестыбюлі ёсць тэлефоны-аўтаматы. Але ж — ніякай інфармацыі! Ніякай панікі! Трэба чакаць другога званка намесніка. Інфармаваць яго, ён зразумее з паўслова.

Але даўно мінулі паўгадзіны. Крамлёўскія куранты прабілі шэсць. Павялічылася колькасць машын на мосце. А пешаходаў адзінкі — выхадны, спяць людзі, сняць вясновыя сны.

Не, на Краснай плошчы ля Маўзалея ўжо цэлая група. Во раннія! Усходнікі, безумоўна, прачнуліся з папраўкай на часавы пояс. Ці, можа, проста з поезда да Леніна.

Пачынаецца дзень. У такую цяплынь мільёны людзей шугануць у поле, у лес, на садовыя ўчасткі, дзяцей не ўтрымаеш пад дахамі. І ніхто не будзе знаць, што ў празрыстым паветры, у светлым небе плыве нябачнае воблака са смяртэльнай дозай у паўсотні Хірасім.

Божа! Які жах! Як жа могуць маўчаць людзі, якія ўжо ведаюць пра катастрофу? Як ён, фізік, камуніст, можа маўчаць? Сядзець вось так, глядзець на чырвоны апарат (чырвоны — як сігнал трывогі!), чакаць званка з Мінска. Але адтуль пазвоняць, каб даведацца штось у яго, спадзяюцца, што ён тут, у Маскве, атрымаў поўную інфармацыю. Наіўныя людзі! Добра, што ён паспеў перахапіць віцэ і хоць даведаўся адрас — адкуль яно плыве, воблака.

Не! Так сядзець немагчыма! Не ў яго сіле даць сігнал трывогі. Але сабраць больш поўную інфармацыю ён не толькі можа — абавязаны.

Спаласнуў твар, не пагаліўшыся; завязваў гальштук — убачыў у люстэрку, што дрыжаць рукі. Ад страху? Не ганебна прызнацца, што ад страху. Не за сябе ж.

Столькі мы гаварылі пра ядзерную катастрофу, столькі палохалі людзей бомбамі, якія могуць прынесці ракеты з-за акіяна. І ні разу не сказалі пра магчымасць вось такой катастрофы. З-за чаго? З-за адсталасці тэхнікі? З-за пралiку фізікаў? Ці, можа, з-за нашай безадказнасці, бязладдзя, бесталковасці? Усяго, на жаль, хапае.

Дзякуй Богу, што ліфт безадказны, хуткасны — імпартны. Імклівасць, з якой выходзіў жыхар, ажно прымусіла швейцара

падняцца перад ім і пажадаць шчаслівай дарогі. Куды? Толькі ў таксі Васіль Данілавіч сцяміў: швейцар палічыў, што чалавек яўна спазняецца на самалёт ці поезд.

Але толькі там, у таксі, калі трэба было сказаць шаферу, куды ехаць, акадэмік задумаўся: а куды, уласна, ён спяшаецца?

У якую ўстанову, да каго ехаць у такую рань? У высокую ўстанову яго не пусцяць... У акадэмічны інстытут? Хто там мог так аператыўна сабрацца? Ведае ён свайго брата. Не вельмі паварушацца, пакуль над імі не крапае.

У запісной кніжцы шукаў маскоўскія адрасы. Шафёр нецярпліва пазіраў на дзівакаватага пасажыра. Лічыльнік шалёна спяшаўся, выбіваючы капейкі. Можна было падумаць, што ён адлічвае апошнія секунды існавання свету. Ага, вось да каго трэба ехаць! Карапей Антон Пятровіч, зямляк, некалі жылі ў адным доме, зрэдку разам адзначалі святы, сыны вучыліся ў адным класе. Але, гэта той чалавек, які патрэбен у такой незвычайнай сітуацыі. Адказны работнік Дзяржплана Саюза. Ад яго лёгка званіць. І ён пазваніць можа даволі высока і атрымаць аб'ектыўную інфармацыю, яму дадуць.

Адчынілі не адразу. Жаночы голас дапытваўся: хто? Ён назваўся, прозвішча, імя дапоўніў тытулам. І, аднак, усё роўна жанчына даўгавата ўспаміналa. Няўжо забылася? Праўда, у гасцях у іх тут, у Маскве, ён не быў ні разу, але зрэдку званіў па старой памяці, і менавіта яна, гаспадыня, заўсёды запрашала яго ў госці.

Адчыніла. Здзівілася:

— Вы з поезда?

— Не. Я з гасцініцы «Расія». Антон Пятровіч дома?

Бадай спалохалася:

— Спіць яшчэ. Выхадны ж.

— Разбудзіце, калі ласка.

— А што здарылася?

— Я раскажу.

Планавік выйшаў у піжаме, ускудлачаны. Здзіўлення не выказаў. Павітаўся за руку, проста, па-свойску. У пакой не запрасіў. Тут жа ў прыхожай сеў у мяккае крэсла каля тэлефоннага століка.

— Дык што вас падняло ў такую рань?

Не прысядаючы, хоць стаяла другое крэсла, Васіль Данілавіч расказаў, што яго падняло.

Карапей пазяхнуў і непрыгожа, па-мужыцку, пачухаў ягадзіцу.

Акадэміка ашаламіла такая рэакцыя дзяржаўнага чалавека.

«Няўжо не разумее, што можа здарыцца? Растлумачыць!»

— Антон Пятровіч! Ды вы разумееце, калі гэта ўзрыў рэактараў!..

— Дык вы кажаце, што туды паляцеў ваш шэф. Яму — і карты ў рукі. А што я магу?

— Мне трэба інфармацыя аб ступені небяспекі. Вам дадуць.

— А хто мне дасць? Ох, цяжка з вамі, вучонымі. Вы павынаходзілі, а калі што не так — нам рассёрбваць...

— Пазваніце каму-небудзь з адказных работнікаў. Няўжо вам самому нецікава?

Карапей паглядзеў угору на электронны гадзіннік, на табло якога з незвычайнай хуткасцю выскоквалі зялёныя секунды. Зноў пашкроб мяккае месца — як дэманстраваў знявагу.

Васілю Данілавічу стала да слёз крыўдна. Не дурны ж, здаецца, быў чалавек і не атлусцеў тут, у высокіх кабінетах, наадварот, схуднеў, высах, пасівеў — не гультай на працы. А якая цвердаскурасць, як у бегемота. Такая катастрофа яго не ўсхвалявала. Не, відаць, не разумее. Трагедыя ў тым, што і наверсе не адразу могуць зразумець.

Карапей нехаця, з яўнай дэманстрацыяй — на, адчаплюся я ад цябе, няпрошанага госця,— набраў тэлефон. Ветліва павітаўся. Назваў сябе. Яму таксама назваліся, бо ўзрадаваўся чалавек, іншым голасам загаварыў:

— З добрым днём вас, Папік Гарагінавіч. Чаму званю? Ды тут цэлы раман. Зямляк мой, акадэмік, ні свет ні зара падняў мяне з цёплай пасцелі. Прысніў у гасцініцы, што ў Чарнобылі атамны рэактар узарваўся. А ён — фізік! Не лірык... Мы з вамі таксама не лірыкі. Але і не фізікі. Правільна. Матэматыкі. Самая дакладная навука. Лічым — не кавычым...

Хвілін колькі ўважліва слухаў, такаючы.

— Дзякую, Папік Гарагінавіч. Адлягло ў мяне. Адляжа ў яго. Фізік правільна разлічыў. У дзевяць змена? На дачу? А я — у Падольск, унукаў наведаем, засумавалі за тыдзень. Усяго добрага.

Паклаў трубку, падняў вочы, якія толькі цяпер, здалося, прачнуліся, прыветліва пасміхнуўся: нарэшце гаспадар узрадаваўся госцю.

— Ну, вось вам — поўная карціна,— кіўнуў на тэлефон.— Адказны дзяжурны Саўміна. На станцыі быў пажар. Дзесь гадзіны ў дзве ночы. Патушаны. Ніякіх узрываў не было. Навакол людзі спакойна даглядаюць сны...

— Але ж радыяцыя дайшла да Мінска. Калі гараць звычайныя матэрыялы...

Вочы ў Карапея патухлі.

— Не знаю, што там да вас дайшло. Не ўзнімайце панікі. Гэта не я кажу. Указанне з самага-самага,— паказаў вачамі ў столь.— Народ наэлектрызаваны... Дэмакратыя і галоснасць — рэчы добрыя, але не ўсе яшчэ навучыліся карыстацца імі. Рэчы вострыя. Не для дзяцей...

Выйшла з пакоя гаспадыня, прыбраная, прычасаная.

— Запрашай, Антон, госця ў залу. І ўмывайся. Будзем снедаць.

— Не, дзякую. Я палячу дадому. Заеду ў гасцініцу — і ў аэрапорт. У дзесяць — рэйс.

Карапей угаворваць не стаў.

— Але дазвольце, пазваніць у Мінск.

— Калі ласка,— амаль радасна сказала жанчына.

Гаспадар на гэты раз пачухаў жывот — даймала алергія.

Васіль Данілавіч набраў намесніка.

А той з папрокам:

— Божа! Нарэшце! Сказалі: пазвоніце праз паўгадзіны...

— Я сказаў? Я прасіў вас пазваніць. Вы ж ведаеце: з нашых гасцініц...

— Тройчы набіраў. Куды вы зніклі?

— Паднімаў начальства з пасцелі. Не скачыце там цераз плот. Супакойце людзей. Аварыя далёка — на Чарнобыльскай.

— Гэта вы называеце — далёка? Для нас Англія — за плотам.

— Гэта так. Для нашых часцін...

— Што ў іх там здарылася?

— Тут таварышы гавораць, што мы, фізікі, панікёры. Не панікуйце, але ў ЦК далажыце. І жонцы маёй пазваніце. Каб не везла ўнукаў на дачу.

Чамусьці размова перапынілася. Карапей паківаў дакорліва галавой:

— Дарэмна вы палохаеце людзей.

— Дай Бог, каб дарэмна. Дзякую вам...

— Няма за што.

Рукі на развітанне не падалі адзін аднаму.

Карапей асудзіў госця, калі той выйшаў:

— Вучоныя! Думаюць, што яны ратуюць чалавецтва. Яны вядуць яго да прорвы. Але, пакольці канец свету не наступіў, пайду я дасплю.— Падняўся і пачухаў спіну аб касяк дзвярэй.— Вейкі зліпаюцца. Ад дымедролу. Не люблю... І без яго не сплю. Во заразная хвароба.

— Можа, і нашым пазваніць, каб дзяцей не выпускалі? — нясмела спытала жонка.

— Ты што гэта! — начальніцкім голасам загрымеў Антон Пятровіч.— Во як паніка ўзнікае! Не хапае, каб яна ад нас пайшла,— і папярэдзіў своеасабліва, каб не ўздумала званіць: — Спаць я не буду. Заснеш з вамі... хіба вечным сном.

## V

На нядзелю прызначылі міжраённае футбольнае спаборніцтва. Адкрыццё сезона. Прыедуць каманды і госці з двух раёнаў, аднаго суседняга, другога дальняга — з палескай глыбінкі.

Уладзімір Паўлавіч успомніў учора і пра спартыўнае свята. І лішнюю гадзіну сядзеў у кабінеце над тэлефонамі. Цягнулася рука да апарата, каб даць адбой. Як даць? Пазваніць калегам, каб не прыязджалі? І што сказаць? Сам жа нічога не ведае.

Ніхто не ведае. Паспрабуй праяві ініцыятыву. Глупства — футбол. Але ж усе зацятыя балельшчыкі. Суседзі... Яны будуць высмейваць да пенсіі. А Пятро, таксама балельшчык, пасля такога канфузу і самаўпраўства можа паскорыць яго пераход на «ганаровую пасаду» кіраўніка таварыства цвярозасці. Знарок суне ў такую ці яшчэ горшую бяздзейную і бяспраўную арганізацыю. «Бацьку раёна», так даўно ахрысцілі яго маладыя паплечнікі. Але ж бацька і дзейнічаць павінен як бацька. А ён... многа ўчора думаў, нямала куды пазваніў. Але з якой мэтай? Прасвятліць. І нічога не прасвятліў. Інтуітыўна адчуваючы небяспеку, памыкаўся нешта зрабіць і... нічога не зрабіў. Не ўзгадніўшы — не лезь з ініцыятывай. Закон.

Пагасла ўся радасць ад вяселля. І была бяссонная ноч.

Пятру званіў у дванаццаць ночы — не вярнуўся. Напэўна, пазваніў бы на досвітку, але ў пакоі, дзе стаяў тэлефон, спалі госці — сястра, пляменніца. У Глебавым пакоі, на ложку, які спецыяльна купілі маладым — вясельны падарунак, спалі нявестка і яе сястра. Вольга Андрэеўна, паслаўшы ім, вельмі расхвалявалася: маладая на другую ноч засталася без мужа. Прыняўшы ўдзень спакойна ад'езд сына на станцыю, ухваліўшы — сам зрабіў бы не інакш,— уначы заразіўся жончынай трывогай, начныя страхі непараўнальныя з дзённымі, яны распалілі мозг да кіпення. Сітуацыя ўскладнялася тым, што і Вольга не спала, і кожны з іх прытвараўся, што спіць, каб не патрывожыць другога.

Сярод ночы пасварыліся.

— Ты заснеш ці не?

— А ты заснеш?

— Ды ну цябе!

Згроб падушку, пайшоў на веранду. Накрыўся кажухом, у якім ездзіў на паляванне.

Не дачакаўся, калі прачнуцца жанчыны. Непаголены, ледзьве прамыўшы вочы, пайшоў у выканком. На плошчы сустрэў Сінякова, той накіроўваўся ў райком. У такую рань? У нядзелю? Значыць, паднялі яго, далі сігнал бедства. Бедства ў такую цудоўную раніцу, калі празрыстае неба і паветра ажно звініць ад начной свежасці. Азонам пахне. Страх з начной

сілай ударыў у сэрца. І перад вачамі паўстаў Глеб — як у сне. Сон наяве! Насланнё. З пахмелля? Ад бяссонніцы?

Пятро пачакаў яго, але павітаўся вельмі непрыветліва. Глядзеў, як строгі настаўнік на вучня, што нашкодзіў.

— Ну, вызначыліся вы са сваім вяселлем. Прагрымелі на ўвесь раён. Яшчэ мяне цягнулі... Хапіла ў мяне розуму...

— Чым мы прагрымелі?

— Мала? У наш час! Дабіцца, каб пабіць сакратара райкома...

— Камсамола.

— Якая розніца — каго. У доме старшыні. У яго рука ў гіпсе. Жах! Што за норавы! Афіцэр, называецца. Герой Афганістана!.. Чорт знае што такое! Ганьба на ўвесь раён.

— Гэта ён вам паскардзіўся? Плечка? Пасярод ночы?

— Адказныя людзі далажылі.

— Людзі? Аператыўныя людзі.— І тут жа ліхаманкава закруцілася «вылічальная машына»: «Хто? Няўжо хтось з маіх намеснікаў? Дар'я? Не можа быць! Кацярына? Вясёлая свацця. Іосіф?»

— І ў Пустахода. Выконвалі антыалкагольную пастанову! Даём прыклад! Лічыць ваш сват, што яму ўсё дазволена!

«Значыць, Іосіф. Ён адзін там быў. Правільна разлічыў, намеснічак. Дай старому пад зад, выбі з крэсла — глядзі — сам у яго сядзеш. Але гэты чаму так узвінчаны? Сам, мабыць, учора перапіў — плямы на твары. Ды і ўвогуле — пра што яны ў такі час?»

— Глупства гэта, Пятро Міхайлавіч! Знайшоў праблему!..

— Глупства? — Першы ажно крутануўся, звіўся, як вуж.— Ды калі Плечка напіша ў абком, мы з вамі будзем стаяць на тым коўрыку, пра які анекдоты сачыняем. У часць напіша — і развянчаюць вашага героя.

— Ды пайшоў ён, твой Плечка! — і паслаў яго далёка-далёка.— Гліста! А разам з ім і стукач, які так паспяшаўся данесці табе. А ў цябе што — больш праблем няма? Ты нічога не чуў?

— А што?

— Пра станцыю.

— Пра якую станцыю?

— Дык слухай.

У нервовым узбуджэнні Пыльчанка перайшоў на «ты» — сам не заўважыў. На першага гэта моцна падзейнічала. Нагадала розніцу ва ўзросце, у вопыце работы. Але галоўнае — ашаламіла, што Пыльчанку не спалохалі яго пагрозы і праборкі і што гэта не гульня, што па ўсім відно, усе гэтыя вясельныя прыгоды, якія для яго, першага чалавека ў раёне, сталі «гваздзём дня» ледзьве не з досвітку, старшыню, віноўніка, мала турбуюць. І Пятру Міхайлавічу стала ніякавата: ці не прынізіў ён сябе, свой аўтарытэт непрадуманым наскокам?

Уважліва і сур'ёзна выслухаў расказ, як прыйшла звестка аб пажары, як пазваніў загадчык райана, што паведаміў Пустаходаў зяць, вярнуўшыся з Прыпяці. І пра яго, Пыльчанкавы, вячэрнія пошукі звестак.

— За паўсотню кіламетраў жывём — а як на іншай планеце. Тэлефоннай сувязі з суседзямі не маем. Брацкія рэспублікі! Людзі праз акіян проста перазваньваюцца, з вулічнага аўтамата. Пра галоснасць галосім. Якая к чорту галоснасць!

— А што вы хочаце — званіць на ўвесь свет пра такі аб'ект?

— Які аб'ект? Пятро Міхайлавіч! Амерыканцы не знаюць нашы атамныя станцыі? А калі вось з гэтага чыстага неба сыплецца... чорт знае што там можа сыпацца! Як яны называюцца — радыенукліды? Прафаны мы! Невукі! Я толькі ўчора ўвечары фізіку пачытаў... за дзесяты клас. Нарэшце дайшоў, што ж гэта за звяры — нукліды. На зборах па грамадзянскай абароне сядзеў — і мух лічыў ці пра надоі думаў...

— Каб што сыпалася — нам далі б сігнал.

— Ты ўпэўнены?

— Ёсць людзі, якія гэтым займаюцца.

— Усё ў нас ёсць! І людзі. І прыборы. Але людзі спяць, а прыборы — папсаваныя, трыццацігадовай даўнасці. Калі ўзарвалі першую бомбу, апраменілі людзей, жывёл — тады падумалі пра абарону. А цяпер — як перад Айчыннай. Былі танкі, была артылерыя, а немцы ішлі трыумфальным маршам...

– Што вы так узвінцілі сябе? Дзякуй Богу, ніхто не наступае.

– Не наступае? Невуцтва наступае! Разгільдзяйства! Безадказнасць! Самазаспакоенасць!

– Ну і ну, сапраўды не вясельны ў вас настрой. А з Плечкам уладзьце. Будзе скандал.

– Які скандал цябе хвалюе? Ды пляваў я на гэты скандал!

– М-да... Не выветрылася ў вас...

– Што ў мяне не выветрылася? Хмель? Пятро Міхайлавіч! За каго ты мяне лічыш?

– Я вас лічыў харошым работнікам.

Спыніліся перад ганкам райкома. Сакратар як бы даваў зразумець: усё, дайшлі, пагаварылі, хопіць, давай займацца кожны сваёй справай. Не, Пыльчанка не здаваўся:

– Пайшлі, пазвонім Аляксею! Не можа быць, каб ён нічога не знаў.

– Калі ён не звоніць, то і нам няма чаго барабаніць. Выхадны.

– Мы абавязаны інфармаваць.

– Пра што? Што ў суседа кабыла здохла?

Недарэчны жарт. Пыльчанку ён абурыў.

– Пятро!..

Першага спачатку збянтэжыла, здзівіла фамільярнасць старшыні. Цяпер пачала раздражняць, злаваць. Ён намагаўся вынайсці, як паставіць на сваё месца, падобна, сапраўды непрацверазелага «бацьку раёна». У чалавека яўна «пункцік» з'явіўся – боязь радыяцыі. Чытаў ён неяк, што ў Англіі, здаецца, урачы адкрылі і такое псіхічнае захворванне і нават назву яму прыдумалі адмысловую, якую і вымавіць цяжка. Можа, сказаць старому пра гэта – як бы жартам? Не зразумее ў такім стане. Пакрыўдзіцца. Далікатна нагадаў, каб вярнуць да субардынацыі, што ён не проста Пятро, а Пятро Міхайлавіч. У адказ пачуў рашучае:

– Трэба адмяніць свята!

– Якое?

– Футбол наш.

— Ды вы што? Панікёр вы, Уладзімір Паўлавіч. Вось вы хто! Ды нам голавы здымуць за такую паніку! А мне галава яшчэ патрэбна. Не знаю, як вам.

Выходзіць, і з «бацькам раёна» карысна пагаварыць вось так. Пыльчанка як звяў адразу. Вінавата — так, прынамсі, здалося Пятру Міхайлавічу — пераступіў з нагі на нагу, пастарэчы нязграбна павярнуўся і пайшоў пад каштанамі, што за адзін дзень зацянілі тратуар зялёнай кіпенню маладога лісця.

Партыйны кіраўнік, адказны за лёс людзей, глядзеў на ссутуленую спіну (не бачыў яго раней такім ссутуленым) таварыша па рабоце і ўпершыню падумаў: «Пастарэў... Куды б гэта яго перамясціць? Пасля свята параюся з Аляксеем Раманавічам».

Іншае Пятра Міхайлавіча не клапаціла ў тую чароўную раніцу.

На стадыёне сабралася паўгорада людзей, ніколі тут столькі не збіралася, лічылі вялікім поспехам раённага спорту, калі была якая тысяча. А сёння малеча — уся, не толькі хлопцы, але і дзяўчаткі, уся рабочая моладзь, ды і бацькоў нямала, нават пенсіянеры некаторыя прыпляліся, пра якіх Пыльчанка падумаў нядобразычліва:

«А гэтыя атопкі чаго не бачылі? Як два дзесяткі лайдакоў ганяюць адзін мяч?»

Увогуле збор людзей на спартыўнае свята яго трывожыў: «Як на бяду». Раздражняла, што першы, іншыя раённыя кіраўнікі радуюцца гэтаму. Няхай іншыя не ведаюць, а Пятру ж ён сказаў, але нічога, выходзіць, да яго не дайшло. Раз маўчыць абласное начальства — значыць, усё добра. А ён таксама не меў што сказаць, ніводнага новага факта ў яго не было. Перад футболам званіў на гідраметэапункт. Адказала тая ж флегматычная жанчына, што і ўчора ўвечары, якая, напэўна, і ўмела толькі запісаць замеры ўзроўню вады ў Прыпяці:

— Радыяцыя? А гэты прыбор, па-мойму, сапсаваўся. Стрэлка як застыла на чырвонай рысцы, так і не варушыцца.

— Работнічкі! Дзе Рамейка? Перадалі вы ёй, каб мне пазваніла? Чаму не звоніць?

– А яна дадому паехала. На кватэры сказалі...

– Куды дадому?

– А ў свой Мядзель. Змянілася раней, чым трэба, узяла малога і пакаціла. Сказала: маці захварэла.

Уладзімір Паўлавіч здагадаўся: Рамейка ратуе дзіця. Можна яе асуджаць за гэта? Не, ён не асудзіў. Не выбухнуў абурэннем супраць яе безадказнасці. Якая безадказнасць? Па сувязі гідрамета яна, безумоўна, даныя перадала. І зрабіла больш, чым ёй належала па інструкцыі,– пазваніла ў школу. А вы вырашайце – фізікі, урачы, начальнікі! Логіка бездакорная. І ніхто не асудзіць маці малога дзіцяці!

«Маці больш адукаваную, чым мы, невукі высока пастаўленыя»,– дакараў Уладзімір Паўлавіч сябе.

– Журнал дзяжурстваў у вас вядзецца?

– А як жа! Акуратненька.

– Што запісала Рамейка?

– Чакайце. Пагляджу... Во... Пятнаццаць нуль-нуль... Тэмпература. Вільготнасць. Вецер.

– Па радыяцыі...

– Па радыяцыі? Не разбяру. Нейкі зашкал. Што гэта такое? Зашкал ДП-5.

Пыльчанка абурыўся: што за кадры на гідраметэапастах! Але стрымаўся ад выказвання. Кадры розныя: была Рамейка-спецыяліст, ёсць гэтая, якая-небудзь мясцовая былая настаўніца, бухгалтарка ці работнік сувязі, якая пры доме зарабляе свае шэсцьдзесят рублёў пенсіі.

Для Рамейкі зашкал прыбора – сігнал прыбора. Якое яшчэ пацвярджэнне ёй трэба, калі побач атамная! Першнаперш спрацавала матчына пачуццё – пазваніла ў школу. А пасля хуценька змянілася, схапіла дзіця і паехала ў Мядзель.

Які максімум на ДП-5? У якіх адзінках? Які нармальны ўзровень радыяцыі? Усё трымае ў галаве: аналізы глебы па кожнай гаспадарцы, колькасць мікраэлементаў у кожнай культуры, план развіцця, фінансы, гандлёвы абарот... сотні іншых лічбаў, істотных і дробязных, патрэбных і непатрэбных. А самая галоўная – пры такім суседстве! – ніколі не зацікавіла, хоць пра радыяцыю ад атамнага выбуху талдычылі да

атупення. На кожных зборах меўся лектар па гэтай тэме. Ці ён не называў норму, канцэнтраваў увагу толькі на дозах прамянёвай хваробы (іх Пыльчанка помніць), ці ўсё гэта пралятала міма вушэй яго? Начальнік абароны! Камандуючы!

На стадыёне ўгледзеў санітарнага ўрача. Прабіўся да яго, калі матч пачаўся.

— Карповіч! У цябе дазіметр ёсць?

— Ха! Чаго захацелі! Таварыш Пыльчанка! Вы забыліся, колькі дакладных я вам напісаў. Ай-я-яй...

Урач з усімі іншымі гаварыў на чыстай мове, рускай, беларускай,— у залежнасці ад установы. Але з кіраўніцтвам чамусьці пераходзіў то на грузінскі, то на яўрэйскі акцэнт, то на палескі дыялект, бабскі, ляпаў рукамі па клубах: «Ай, матачка! Навошта ты мяне нарадзіла?»

— Які ў нас радыяцыйны фон? Норма. Максімальны ўзровень.

Карповіч задумаўся і сказаў натуральна:

— Дай Бог памяці. У межах 0,01—0,02. Але, гэта так! А навошта вам?

Навошта! Навокал людзі навастрылі вушы: пра што пытае старшыня? І тут жа, убачыў, страцілі цікавасць: не пра кілбасу, не пра гарэлку і не пра малако з кішэчнай палачкай — не забываўся эпізод двухгадовай даўнасці. Пра нейкую радыяцыю. Вузкапрафесійнае пытанне, нікога яно не цікавіла пакуль што.

Балельшчык Уладзімір Паўлавіч быў умераны, спакойны — да гульні саюзных каманд, да міжнародных чэмпіянатаў. Але поспехі раённай каманды яго хвалявалі, як і яго калег. Усе чакалі гульні сваёй каманды. Але першыя гулялі госці. З пераможцамі падужаюцца гаспадары. У гэтым сэнс свята.

Цікавая псіхалогія людзей: балеюць за далёкіх — за лельчыцкіх, і амаль варожа настроены супраць бліжэйшых суседзяў. Свішчуць, крычаць «партачы!».

Кіраўнікі раёна крыўдзяцца. З іх кпяць. Але і ўлагоджваюць — госці.

— А вашы летась як нашым свісталі?

— Дык вашы і праўда партачылі. Успомніце лік. А нашы вунь — чацвёрты мяч вядуць. Будзеце выбітыя. На сваім полі!

— Ну, і госцейкі пайшлі! Уладзімір Паўлавіч! Паслухай, як паводзіць сябе ваш калега. Прыйдзецца выстаўляць на мяжы кардон.

— Давайце, давайце. Калі мы ўвядзём пошліну, дык у вас штаноў не хопіць з намі разлічыцца.

Сядзяць на месцах, адведзеных для начальства,— у сёмым радзе. Даўнія дружбакі. Разам пілі гарэлку, калі можна было. Перажываюць сваю абразлівую боязь выпіць цяпер. Свята не ў свята. Таму вострацьязыкі, кпяць адзін з аднаго больш звычайнага. Раней першым вастрасловам у такіх кампаніях быў ён, Пыльчанка. Але сёння яму не да жартаў.

Гэта заўважылі і праязджаюцца па ім.

— Нешта Уладзімір Паўлавіч сёння не ў гуморы.

— Дык пасля ж вяселля. Які тут гумар! Радасць маладым, а бацьку адны страты.

— То-та ў неба пазірае. Расходы падлічваеш, Валодзя? Даход лічы! Даход! — гэта стары сябра, загадчык суседняга райспажыўсаюза Савіцкі.— У цябе — прыход. Вось у мяне ўбытак. План гарыць красавіцкі. Хацеў выцягнуць за кошт братоў-украінцаў — павярнулі машыны з таварамі назад...

— Калі павярнулі?

— Ды сёння. Міліцыю на дарозе выставілі. Гандлёвая вайна. Да міліцыі дайшло. Вось табе і дружба! Аддай выручку іх аддзяленню банка — тады прадавай. А мяне Пракоп Іванавіч з гузырамі з'есць, калі я грошы не ў свой банк вярну.

— І з'ем,— адгукнуўся калега Пыльчанкі, сусед.

А Уладзімір Паўлавіч думаў пра іншае:

«Во яшчэ адно пацвярджэнне, што там незвычайнае становішча. А ў нас глухата. Нічога не чуем. Ці не хочам чуць? А калі і пачуў хто, як я, то што?»

Сапраўды, не пачнеш жа крычаць на стадыёне. Нават суседзям няма як расказаць, бо ў патыліцу дыхаюць вушастыя хлопцы — навучэнцы прафесійнага вучылішча меліяратараў. Такія любы шэпт пачуюць.

А праўда, ён глядзеў у неба? Сам не заўважыў гэтага. Але, напэўна ж, пазіраў, бо думаў: што адтуль сыплецца на голыя галовы тысяч людзей? Як яны называюцца, гэтыя нябачныя часцінкі атамнага паліва? Нукліды, здаецца. А яшчэ думаў Уладзімір Паўлавіч пра дождж. Добра было б, каб пайшоў дождж, разагнаў людзей. Няхай бы паехалі балельшчыкі. Перажылі б. Дождж на пасевы патрэбны. Але... што лепш пры такой бядзе – сухмень ці дождж? Чытаў пра радыеактыўныя дажджы пасля выпрабавання атамных бомб. Але гэта было там – у іх. Далёка. Над акіянам.

З'явілася жаданне плюнуць на футбольнае свята. Сесці за руль «газіка» і паехаць да Прыпяці, паспрабаваць пераправіцца да ўкраінцаў, каб пабачыць уласнымі вачамі... ці пачуць... ці панюхаць хаця б... Заглянуць у Прыпяць, знайсці Глеба. Інжынер АЭС, безумоўна, ведае абстаноўку.

Дзіўнае, між іншым, у яго адчуванне: за ўсіх людзей ёсць трывога, вось за гэтых людзей, што сядзяць на стадыёне, а за сына, які там, на станцыі, няма, бо ёсць упэўненасць, што навучаны персанал мае ўсе сродкі аховы і добра ведае, як прыкрыцца ад небяспечных нуклідаў. Падаюць яны на голыя галовы хлопцаў, дзяўчат, на яго капялюш ці не падаюць? Хто можа сказаць пэўна? Ну і службы! Дзе гэты чортаў Пятрушкін? Звязваўся ён са сваім начальствам? Няўжо да яго не дайшло ўчора? Пакрыўдзіўся? Але ж не яго, гультая адстаўнога, ён мацюкнуў – усю службу, сябе ў першую чаргу – раённага начальніка гэтай бяздзейнай службы, у якой многа папер, а дазіметра няма.

Тут увага Уладзіміра Паўлавіча была пераключана. Не на футбол. З'явіўся Барыс. З Тамарай. Ішлі паўз бар'ер, што аддзяляе поле. Шукалі вольнае месца. Але дзе там! Не толькі дзятва, але і сталыя дзядзькі на зямлі сядзяць. Месцы ёсць на іх лаўцы – начальства сядзіць прасторна, і ніхто не адважваецца іх пацiснуць. Запрасіць сына сюды! Можна прадставіць калегам сваім і гасцям: «Мой сын, лётчык, капітан, афганец». Ёсць кім ганарыцца! Не запрасіў. Пабаяўся. Ганебна пабаяўся. Па дзвюх прычынах, узаемазвязаных. Ведаў, як уедліва адзываецца Барыс пра начальства –

і пра сваё армейскае, і яшчэ больш негатыўна пра цывільнае, да бацькі роднага не мае літасці. Ляпне штось такое. Не вытрымае, бо, безумоўна, пахмяліўся, развязаў язык. І пачуюць гэтае не толькі кіраўнікі, але і радавыя людзі, што сядзяць наперадзе і за спінай. Ды і сам факт, што сын старшыні прыйшоў на футбол на добрым падпітку... у той час, калі ў горадзе міліцыя хапае ледзьве не ўсіх. Праўда, ён, Пыльчанка, выступае супраць такіх крайнасцей, такога беззаконня – затрымліваць чалавека, які не парушае парадку. Але Пятро не хоча адстаць ад «прагрэсу» – так змагаюцца з алкаголем у сталіцах. Не можам мы адстаць. Не зразумее вышэйшае начальства такога лібералізму.

Барыс і Тамара знайшлі месца на другім баку поля: нехта са знаёмых паціснуўся, каб пасадзіць гасцей.

Можна пераключыць увагу, тым больш што госці-суседзі загаварылі пра паромную пераправу: учора парвала трос – высокая вада, імклівая плынь ракі, ледзьве бяды не нарабіла, добра, што людзі на пароме не разгубіліся.

– Андрэй! То дзе ж твае гандляры перапраўляліся? – спытаў Пыльчанка ў Савіцкага.

– На Камарын ехалі.

– Ганяе вас...

– Пагоніць да Адэсы, калі план трэба.

– Не план табе спаць не дае, а прэміі.

– А што? План – гэта прэміі.

І зноў – увага на іншае. На Сяргея Плечку. Той сядзеў у «начальніцкім» радзе воддаль – ля праходу, з перавязанай рукой. З яго кпілі: якія камсамолкі пакусалі руку?

Уладзімір Паўлавіч меў намер пагаварыць з ім па-добраму – каб улагодзіць, а то і праўда дурань можа нарабіць шуму. Шукаў зручнага выпадку. Ды тут убачыў, як Плечка раптам падхапіўся і пайшоў уніз да поля, потым да выхаду, дзе чарадой тоўпілася міліцыя. Нельга было манеўр яго не звязаць з прыходам Барыса. Малады інтрыганчык здольны на любую правакацыю – каб адпомсціць. Праўда, начальнік міліцыі побач, пад рукой, і ў яго, Пыльчанкі, ёсць магчымасць уміг прысекчы акцыю міліцыянераў, як толькі яны наблізяцца да

Барыса. Толькі не спускаць з іх вачэй — з сына і з ахоўнікаў Сапарадку. Не, так нельга! Ён ведае Барысаў характар. Самае ветлівае запрашэнне міліцыянераў пайсці за імі можа выклікаць такі ўзрыў, што ахне ўвесь стадыён, і ён, бацька, не паспее вокам міргнуць. Што ж рабіць? Пайсці да сына, да Тамары і сесці побач, яму месца знойдзецца!

Але ў гэты момант да іх праціснуўся Пятрушкін, задыханы, потны, у армейскай форме. Працягнуў лісток паперы не начальніку абароны — першаму сакратару.

— Што гэта? — спытаў Сінякоў.

— Да нас прыехалі з рэспубліканскага штаба. Робяць замеры.

— Замеры чаго?

— Радыяцыі.

— Па вашай часці, Уладзімір Паўлавіч,— глянуўшы ў паперу, Сінякоў перадаў яе Пыльчанку.

— Дзе яны? — спытаў старшыня.— Людзі вашы?

— У Прыпяцкай зоне.

— Хутка японскія агенты будуць рабіць замеры, а мы нічога не будзем ведаць. Парадачкі! — выказаў абурэнне Сінякоў.

— Нашы парадачкі,— сумна згадзіўся сакратар райкома суседняга раёна.

На паперы — дзесятак знаёмых населеных пунктаў, як у зводцы па закупу малака, і перад кожнай вёскай — трохзначныя лічбы, незнаёмыя, без указанняў іх назваў. Што гэта — рэнтгены, бэры, кюры? Мілі? Мікра? Кітайская грамата!

— Растлумач нам — што да чаго,— узлавана сказаў Пыльчанка.

Пятрушкін нахіліўся паміж першым сакратаром і старшынёй выканкома і прашаптаў, як вялікі сакрэт, каб, крый божа, не пачулі радавыя балельшчыкі:

— Спецыяліст сказаў: лічбы высокія. Таму я і прыехаў даложыць.

А навокал у гэты момант свісталі і крычалі:

— Суддзю на мыла! На мыла!

Крыважэрнасці ў ваяўнічым клічы не было — смех, весялосць.

Забаўляліся людзі.

— Што гэта за лічбы, ты мне скажы? — раздражняўся Пыльчанка.— Як яны называюцца?

— Мілірэнтгены.

— Без нуля?

— Без якога нуля? — паціснуў плячамі Пятрушкін.

— Без нуля наперадзе? Поўных чатырыста?

— Поўных, відаць...

— Відаць! А ты норму знаеш? — Пыльчанка дастаў з кішэні карандаш, размашыста напісаў 0,02.— У колькі гэта разоў, матэматык?

Пятрушкін не разумеў, лыпаў вачамі. Сінякоў заглянуў у паперку і таксама не сцяміў, што да чаго. А глянуў Савіцкі і пабялеў:

— Матка родная! Тут жа тысячы! Во гэта растрата!

— Твая на вяселле? — пажартаваў сусед-калега.

Пыльчанка падаў знак Савіцкаму маўчаць.

А Сінякоў раптам узлаваўся на начальніка абароны:

— У вас ёсць права ў незвычайных абставінах даваць любы сігнал. Давайце! А мы будзем выконваць! — сказаў на поўны голас, раздражнёна адмахнуўся ад падпалкоўніка: не перашкаджай глядзець футбол, не чуеш хіба, як гудзе стадыён!

Уладзімір Паўлавіч схаваў паперку ў кішэню. Але загадкавыя лічбы сядзелі ў галаве, што ржавыя цвікі. Каб яны высветлілі карціну, як лічбы па надоях, па сяўбе! Ён злаваў на сябе, на памочніка, што, займаючыся вышэйшай матэматыкай і філасофіяй, не вывучылі элементарную арыфметыку і азбуку. Рыхтаваліся да глабальнай катастрофы, спадзяваліся на сігналы зверху, а яно вось як можа быць — без бомбы і без грукату, без атамнага грыба. І што самае страшнае — без трывогі, нават без закрытай інфармацыі. Бяда, пэўна, у тым, што не толькі ён, а ўсе гэтыя людзі, што займаюць лаўку ад праходу да праходу,— кіраўнікі трох раёнаў, як і кіраўнікі ўсіх іншых раёнаў, затлумленыя гаспадарчай работай, даволі скептычна, несур'ёзна ставіліся да грамадзянскай абароны і спіхвалі свае камандныя абавязкі вось на такіх пятрушкіных, адстаўных ваенных, якім пагроза будучай вайны давала

прыварак да пенсіі. І ўсім было спакойна – абы пісаліся планы і справаздачы.

«Сын робіць на атамнай станцыі, а што я знаю пра яе? Ды і Глеб... прачытаў бы ён гэтыя лічбы? А Барыс? Сучасны вайсковец, не пенсіянер».

Успомніў Барыса, глянуў і не ўбачыў яго на трыбуне. Усхваляваўся. І тут жа, абдаўшы пахам духоў, маладым здаровым дыханнем, у вуха яму задыхана-ўсхвалявана зашаптала Тамара:

– Барыса забрала міліцыя.

Мабыць, нейкі жартаўнік пагладзіў яе клубы, калі дзяўчына нахілілася, бо яна павярнулася і гучна сказала:

– Дзядзька! Аплявуху меў перад усім народам? Дык заробіш!

Засмяяліся. Пасыпаліся жарты.

Але Пыльчанку было не да таго, каб разбіраць канфлікт Тамары з нахабнікам, які не мог не ведаць, што гаворыць дзяўчына са старшынёй райвыканкома. Ён хутка падняўся.

– Ты куды, Валодзя?

– Не ўцякай, усё роўна ў госці прыйдзем.

Крайні каля праходу сядзеў начальнік міліцыі Дунец – і на адпачынку, і на службе.

– Машына твая тут?

– Тут.

– Паехалі.

– Самы фінал.

– Не стагні. Нагледзішся яшчэ. Нахапаеш нуклідаў.

– Чаго?

Начальнік міліцыі, грузны чалавек, запыхаўся ад хуткай хады. Стадыён праводзіў іх зацікаўленымі позіркамі: што дзе здарылася?

Яны доўга працавалі разам, равеснікі, і пры неслужбовых адносінах, адзін на адзін, былі на «ты».

– Што здарылася, Уладзімір Паўлавіч? – спытаў начальнік.

– Твае архараўцы ўзялі майго сына.

– Ды ну? Во служба! Ацані. Жаніха?

— Ды не, старэйшага.
— А што ён — такое ягня?
— Наадварот — сарвігалава. Таму і баюся, каб не разнёс тваю міліцыю.
— За што яго маглі ўзяць?
— За што твае хапаюць? Пахне. Пасля вяселля чалавек. Спыні гэтую ганьбу — лавіць людзей па нюху!
— Ты кажаш — спыні. А Сінякоў загадаў: са стадыёна кожнага выводзіць, хто хоць на корак наступіў. А ў мяне такое ўражанне, што сёння паўстадыёна п'яных. Чуеш, як равуць? Як сто тысяч буйвалаў.
— Пабачыш, як заравуць, калі свае будуць гуляць. Людзі дзіўна ўзбуджаныя. Праўда, што п'яныя.
У аддзяленне Барыса не прыводзілі. Гэта яшчэ больш усхвалявала Уладзіміра Паўлавіча. Калі павялі ў паліклініку на абследаванне — будзе бяда: узбунтуецца хлопец, моцна ўзбунтуецца, цяжка нават адгадаць, што можа натварыць. Як пазаўчора з Плечкам. Вокам ніхто не паспеў міргнуць, як той быў выкінуты, што куль саломы, за плот. Аднак помслівы хлюст зацугляваўся, не баіцца і яго, старшыні, гатовы на любую нізасць, абы адпомсціць крыўдзіцелю. Падняў трубку тэлефона, спытаў у дзяжурнага нумар паліклінікі, а набраў чамусьці ўласны, хатні. Адказала жонка.
— Дзе Барыс?
— Дома.
— Дома?!
— Сядзіць з хлопцамі з міліцыі. Расказвае ім пра Афганістан.
Уладзімір Паўлавіч засмяяўся: ай ды Борка, ай ды зух!
— Што цябе развесяліла? — спытаў Дунец.— З кім ты?.. З нявесткай? Яна дзяжурыць? Значыць, мае селі ў лужыну? Ідыёты!
— Каці, Кузьма, на стадыён. Сачы за парадкам. Ды не хапайце вы людзей. А то і сам плюхнешся ў лужыну.
— З вамі плюхнешся. У вас заўсёды стрэлачнік вінаваты. Прыдумалі закон — для самагоншчыкаў. А мы цяпер — вылаўлівай іх. Паглядзіш, што будзе...

— Не скрыпі, а то на пенсію адашлюць. Прыходзь пасля футбола, размочым сухі закон. Сыноў мы з табой не часта жэнім. Жаніх, праўда, на работу паехаў— аварыя ў іх...

Аварыя Дунца не зацікавіла — спяшаўся на футбол; машына рванула ўсё роўна як на лоўлю банды.

Барыс з двума міліцыянерамі сядзелі на верандзе і пілі гарэлку.

Служкі падхапіліся пры з'яўленні старшыні райвыканкома, заплюскалі вачамі: вінаватыя. Яшчэ як вінаватыя — на дзяжурстве ж, лайдакі! Варта пакараць. Але ж госці, Барысавы госці. А гэтага чарцяку лепш не чапаць. Ды і радасць самога распірала, тая ж зухаватасць і задаволенасць сынам, захапленне ім: здолеў спакусіць нават міліцыянераў! Усё ўмее, самае неверагоднае!

Сяржант цяжкім языком дакладваў:

— Вінаватыя, таварыш старшыня. Але тут такая аперацыя... Начальнічак адзін...— паказаў узровень начальніка — па пояс,— даў нам каманду: узяць яго,— кіўнуў на Барыса,— маўляў, п'яны балельшчык. Думаў, мы дурні. Ды не... Зналі мы, чый гэта сын. І зналі, хто ён. Герой Афганістана! Капітан! Мы па «смірна» павінны перад ім стаяць. Вось так. Мы не пасмелі адмовіцца ад яго запрашэння. І выпілі за яго. А як не выпіць? Праўда, таварыш старшыня?

— Праўда! — пацвердзіў Барыс.— І за нашу доблесную міліцыю вып'ем.

— Добра. Сядайце. На стадыён вам нельга. Ахоўвайце капітана ваенна-паветраных сіл.

— Ёсць — ахоўваць капітана!

Пыльчанка весела думаў, як схаваць гэтых хлопцаў ад Дунца, які можа з'явіцца значна раней, чым скончыцца матч: начальнік слабы на зелле, як і яго падначаленыя. Трэба выдумаць ім заданне з выездам за горад. З Барысам. Што? Зрабіць разведку на Украіне? Ідэя! Не, нельга. Пасылаць людзей на такую справу на падпітку — вяршыня легкадумнасці.

Тут з'явілася Тамара. Адчыніла дзверы, убачыла Барыса і міліцыянераў — вельмі здзівілася. Ажно прысела, а потым зарагатала — ад радасці:

— Борка! Горка!

Міліцыянеры разгубіліся. А Барыс схапіў яе пад пашкі, як малую, пацалаваў у носік, пасадзіў за стол. Тамара выцірала слёзы смеху. Не вельмі прыстойна выхаванай дзяўчыне так рагатаць. Але Уладзімір Паўлавіч разумеў яе. Яму таксама хацелася смяяцца — упершыню з учарашняга дня.

## VI

З Масквы Васіль Данілавіч не паляцеў у Мінск — паляцеў у Кіеў. Дабраўся туды пад вечар. Горад жыў звычайным перадсвяточным жыццём. Наконт бяды — глуха. Знаёмыя калегі, якіх ён наведаў — званіць не стаў, толькі ад яго ўзнавалі непрыемную навіну, здзіўляліся, лаялі начальства: чаму маўчыць?

У нядзелю са сваім універсітэцкім таварышам, вядомым фізікам Чубакіным, на яго «Жыгулях» паехалі на станцыю. Ад Сухалучча падарожнікаў і рыбакоў паварочвалі назад. Толькі дзякуючы сваім дакументам, якія сведчылі іх прафесію, удалося прабіцца да Чарнобыля. Далей, у Прыпяць, не пусцілі і іх, не памагла і хітрасць прыладзіцца да маскоўскай групы. Усё гэта пацвярджала здагадкі Мартынюка, што аварыя сур'ёзная, непамерна больш небяспечная, чым гаварыў віцэ-прэзідэнт, дзяжурны Саўміна, чым гаварылі тыя кіяўляне, якія ўжо мелі хоць нейкую скупую інфармацыю.

Урэшце ім «пашанцавала» — сустрэць знаёмага з маскоўскай групы, які пабываў ужо на станцыі,— спецыяліста па рэактарах, праектанта Камуннікава.

Дзіўна загарэлы, ён у прыёмнай райкома глытаў ёдзісты калій і піў з бутэлькі кабернэ. Ён адзіны чалавек, які не азіраўся перад тым, як выказаць сваю думку, гаварыў скупа, але на поўны голас. Ён не толькі наведаў станцыю, ён абляцеў яе на верталёце. І ён сказаў ім без сумнення, з цвярозай разважлівасцю і будзённасцю, быццам здарылася штосьці звыклае:

— Рэактар разбураны.

Мартынюк і Чубакін пахаладзелі. Толькі яны, фізікі, маглі ўявіць, чым гэта пагражае.

Камуннікаў сказаў больш:

— Я схапіў рад пяцьсот, калі не ўсю тысячу.

— Ды ты што! — пабялеў Чубакін і мімаволі адступіў ад яго.

— Вось табе і што! — пасміхнуўся праектант.— Я глянуў у яго жэрала. Відовішча, я табе скажу! Ніхто не бачыў такога агню. Блакітнага. Сіняга... Чорт знае — якога. А гэтыя ідыёты,— кіўнуў ён на дзверы кабінета першага сакратара,— спрачаюцца: разбураны ці не разбураны? Пераканаць некаторых немагчыма. Я кажу ім: ды ён ужо выплюнуў намнога больш, чым хірасімская бомба. Закрываюцца рукамі, як ад зачумленага. Як мы ўмеем ад усяго закрыцца вось так... Памойму, гэта ілюзіённы эфект: авось нас не ўбачаць. Тут убачаць. І вас, тэарэтыкаў, і нас, практыкаў.

У прыёмнай было нямала людзей. Слухалі Камуннікава ўважліва, але з недаверам — як хворага.

Адзін так і сказаў:

— У бальніцу вам трэба.

Другі раздражнёна крыкнуў:

— Не разводзі дэмагогію! Панікёр!

— А ты закрыйся далонню. Менш страху будзе.

Мартынюк паверыў кожнаму слову Камуннікава, які добра разумеў, што з іх, праектантаў, спытаюць у першую чаргу.

Выехалі яны позна, доўга шукалі крыніцы інфармацыі. Атрымалі яе нямнога, калі не лічыць выказванне Камуннікава. І гэта пры тым, што разварушаны маляўнічы гарадок наваднілі не толькі міліцыя і ваенныя, што сведчыла аб сур'ёзнасці сітуацыі, але прыехала нямала і спецыялістаў — фізікаў, энергетыкаў. Больш выказвалі здагадак, прагнозаў. Мартынюк злаваўся: каб выказаць такое, не трэба было і прыязджаць сюды. Асабліва злавалі тыя, каму ўдалося ўбачыць разбураны блок. Суцяшэнне хіба адно — што разбураны адзін блок, чацвёрты, пра гэта сведчылі ўсе. Але, па сутнасці, адзін Камуннікаў быў цвёрда ўпэўнены, што ўзарваўся рэактар. Менавіта спецыялісты, фізікі ў першую чаргу, ставілі гэтую здагадку пад сумненне. Верыў у яе просты люд — тыя чарнобыльцы, што пачалі стыхійную эвакуацыю. Чубакін,

між іншым, таксама спачатку лічыў, што больш панікі, чым бяды. Яго і Камуннікаў не пераканаў: па мінулых сустрэчах, канфліктах тэарэтыкаў і практыкаў Чубакін не заносіў яго ў лік сур'ёзных і адказных спецыялістаў — крыкун, няўдачнік, больш траціць энергіі на бітву з начальствам, навуковымі апанентамі, чым на справу.

Але калі Мартынюк і яго сябра выбраліся з вішнёвай засені чарнобыльскіх вуліц і выехалі да магістралі, што звязвала сталіцу з галоўным энергагенератарам, то былі ашаломлены і ўражаны, як нічым іншым у той дзень. Па шашы, як кінуць вокам, ішлі аўтобусы. Сотні аўтобусаў з людзьмі. Як растлумачылі ім работнікі ДАІ, якія доўга не пускалі іх і яшчэ не адзін дзесятак «Жыгулёў» і «Масквічоў» уліцца ў гэтую жоўта-чырвона-сінюю раку вялікіх машын:

— Эвакуіруецца горад Прыпяць, увесь, падчыстую.

— Ну што скажаш, Максім? — як працяг спрэчкі, бадай, пераможна спытаў Васіль Данілавіч.

— Ды ўжо ж,— панура адклікнуўся ўкраінец і надоўга змоўк. Вычарпалася тэма для дыскусіі, для здагадак. Якое маюць значэнне навуковыя дэталі таго, што магло адбыцца на станцыі. Здарылася бяда для многіх тысяч (а можа, і мільёнаў?) людзей.

— Колькі ў Прыпяці народу?

— Тысяч пяцьдзесят.

— Ці даўно быў пасёлак?

— Ці даўно быў пасёлак,— паўтарыў Чубакін.— Калі ты быў тут апошні раз?

— Мы пачалі праектаваць станцыю пад Мінскам... Кіламетраў за дваццаць.

— Бліжэй трэба. Бліжэй! — са злосным сарказмам адказаў Чубакін.— І з гэтымі ж рэактарамі!..

Мартынюк зразумеў: б'е па ім, бо ён добры сябра аднаго з аўтараў атамных рэактараў чарнобыльскага тыпу.

Яны доўга маўчалі, праводзячы аўтобусы. Будзе ім канец ці не будзе?

Чубакін закрыў твар рукамі.

— Мільгае ў вачах. Галюцынацыі пачынаюцца. Не здолею весці машыну. Куды іх вязуць? Дзе іх размесцяць?

9. Зак. 2388.

Урэшце ўтварыўся невялікі разрыў, і яны ўціснуліся паміж аўтобусамі. Шматкіламетровы картэж машын вяла ДАІ. Павольна. Чубакін нерваваўся. Мартынюк зразумеў: сябра апанаваў страх. Чаго ён баіцца? Радыяцыі? І ён, добры фізік, не можа ўявіць памераў катастрофы. Хутка ён выказаў гэты страх і гэтую разгубленасць:

– А што, калі заўтра вось так прыйдзецца падняць Кіеў?

Васіль Данілавіч не адчуваў страху, ім валодала адно жаданне, навуковае,– усё ўбачыць і асэнсаваць так, каб мець здольнасць даць рэкамендацыі ўладам. Ён не падумаў пра такія маштабы, як Кіеў. Не мог падумаць. Яго разлікі, калі ён з расказу Камуннікава ўпэўніўся, што адкрыла адзін рэактар, не давалі велічынь да Кіева, да Мінска. Хоць практыка ведае толькі ўзрывы бомб – над Хірасімай, Нагасакі, выпрабаванні ў атмасферы, аварыя на Урале. Практыка можа абвергнуць разлікі тэарэтыкаў. Яны, тэарэтыкі, пераканалі сябе ў поўнай бяспецы атамнай энергетыкі. Сказаўшы Чубакіну пра Мінскую станцыю, ён думаў пра тое, што ні ў яго, ні ў калег яго, ні ў вышэйшых па аўтарытэту розумаў не ўзніклі сумненні наконт Мінскай станцыі, яе пасадкі ледзьве не ў межах горада, усе, каму належала, з лёгкай душой паставілі свае подпісы пад заключэннем, пад праектным заданнем. Цяпер акадэмік разумеў, якое недаравальнае глупства яны рабілі.

Сябраў страх за магчымую эвакуацыю Кіева абліў халодным потам і яго спіну, хоць кузаў машыны выпраменьваў набраную на стаянках цеплыню. Ці адну цеплыню?

Сустрэчнага руху амаль не было, прайшлі картэж урадавых машын ды калона ваенных грузавікоў. Аднак Чубакін не адважваўся выйсці на левую паласу, каб паспрабаваць абагнаць аўтобусы; не ўціснешся, калі насустрач рушыць гэткая ж калона ці будуць імчаць на шалёнай хуткасці міліцэйскія, санітарныя машыны.

Каля Дымера на бакавым з'ездзе стаялі дзве ваенныя машыны, афіцэры і салдаты рабілі замеры радыяцыі ў паветры і на зямлі. Рабілі прыборамі, якія мела толькі армія. Чубакін быў адным з аўтараў такога дазіметра. Таму, праскочыўшы з'езд, ён крута ўзяў на абочыну і спыніўся.

— Пагледзімо, што паказваюць нашы стрэлачкі.

Але ваенныя не толькі не паказалі ім «стрэлачак», а ўвогуле аднесліся падазрона.

— Паказваюць, што ёсць.

— А што ёсць?

— Грамадзяне, не перашкаджайце.

— Ён,— паказаў Мартынюк на сябра,— адзін з канструктараў гэтага прыбора. Пакажы, Максім, дакумент.

Дакумент ваенныя не сталі глядзець.

Па дарозе да машыны Васіль Данілавіч сказаў:

— Ты знаеш, што ў гэтай сітуацыі можа нарабіць найбольшай бяды? Сакрэтнасць. Наша неразумная сакрэтнасць.

Ён доўга развіваў гэтую тэму, бадай аж да Кіева. Чубакін маўкліва згаджаўся. Даволі гаманкі ўкраінец раптам сцяўся, змоўк, напэўна, аглушылі яго, пазбавілі мовы думкі пра эвакуацыю Кіева. Ёсць ад чаго анямець!

На нейкі момант Чубакіна «прарвала», і ён, захлынаючыся ад шчасця ці ад страху, пачаў расказваць пра свайго першага ўнука, якому ўсяго тры месяцы. Дзеці — у Белай Царкве, і яму трэба абавязкова сёння ж паехаць туды, толькі жонку захапіць...

Мартынюк разумеў яго.

Месцаў на самалёт не было. І ён увесь душны і трывожны вечар праштурхаўся на забітым людзьмі чыгуначным вакзале. Ішла самаэвакуацыя. З аглядкай перадавалі самыя неверагодныя чуткі — такія, што фізік здзіўляўся, як не ўзнікае паніка. Што думаюць улады?

Чаму ніякай інфармацыі? Хацелася пайсці ў радыёрубку вакзала і расказаць людзям, што здарылася, ва ўсякім разе, паспрабаваць пераканаць, што тагачаснай пагрозы пакуль што няма, можна не ўцякаць гэтак паспешліва, аднак... Аднак... На жаль, ніхто яго да мікрафона не пусціць, а каб і дабраўся туды, то нямнога б яму далі сказаць.

Месца за трайную цану купіў у праваднiка вагона, успомніў вопыт зяця, які ніколі не мае праблемы з білетамі, не ў прыклад цесцю.

Да загадчыка аддзела Мартынюк трапіў лёгка, да яго заходзіў, як кажуць, без стуку, бо загадчык — вучань яго.

Загадчык прачытаў яго дакладную, даволі падрабязную – з падлікамі, формуламі, тлумачэннямі, каб зразумелі недасведчаныя, і збялеў: ён, фізік, вычытаў больш, чым там было напісана.

– Вы сур'ёзна так лічыце?

– Вы думаеце, я лётаў у Кіеў, дабіраўся да станцыі, каб пажартаваць. Я напісаў мінімум, што трэба зрабіць.

– Добранькі мінімум – эвакуацыя са стокіламетровай зоны!

– Далажыце Лявонцію Мікалаевічу. Я абавязаны ўсё растлумачыць асабіста. У мяне было мала часу на дакладную, хоць пісаў яе, лічыце, суткі.

– Добра. Я далажу.

Аднак не працягнуў рукі да тэлефона, не падняўся, каб пайсці на паверх вышэй.

– Іван Міхайлавіч, я не пакіну гэты вялікі дом, пакуль не сустрэнуся з самім...

– Не думаў, што вы такі. Я лічыў вас спакойным, прабачце, нават флегматычным чалавекам. Далікатным...

– А я і раблю гэта далікатна, як бачыце. Не рвуся праз міліцэйскі пост...

Загадчык аддзела сціснуў галаву рукамі і зноў паглыбіўся ў чытанне дакладной.

Мартынюк не мог зразумець, чаму Іван Міхайлавіч не хоча хутчэй далажыць кіраўніку: не ардынарная ж справа. Вучонаму было няўцям, што дарослы чалавек, кандыдат навук, баіцца сунуцца з такой дакладной у высокі кабінет.

А між тым гэта было так. Іван баяўся Лявона, бо добра прадбачыў яго рэакцыю. Каб хоць акадэмік быў не яго падначалены. А так, напэўна, пачуеш: «Плады вашага кіраўніцтва! Свяцілы! Загналі навуку ў тупік».

І гэта будзе самае лёгкае, можна пачуць і больш суровыя і крыўдныя словы. А каму хочацца нарывацца на такое, калі мяркуецца скарачэнне штатаў?

Лявонція баяліся ўсе, людзі вышэйшыя рангам, чым загадчык аддзела, калаціліся перад тым, як увайсці ў яго кабінет з двайнымі дзвярамі. Паміж сабой называлі яго «Дырэктарам». Шпіёны данеслі Лявонцію пра гэта, і ён сказаў на нарадзе:

«Вы называеце мяне Дырэктарам. Думаеце, абражаеце гэтым? Не! Проста прызнаяце, што не ўмееце працаваць, не навучыліся, разбэсціліся, сталі гультаямі, і толькі добры дырэктар можа навучыць вас працаваць. Што я і раблю».

І гэта – усяму актыву, людзям, якія цягнулі воз не адзін дзесятак гадоў. А ён... ці даўно быў іх падначаленым, пакорлівым, старанным!

Але нават гэтую суровасць і патрабавальнасць не маглі яму дараваць. Часам проста збівалі з панталыку працавітасць яго і самаўпэўненасць у сваёй непагрэшнасці, у сваім уменні да ўсяго дайсці самому, усё ўзважыць на сваіх шалях і вырашыць аднаму, паправіць, выцягнуць, узняць.

Некаторыя сур'ёзна, некаторыя з гумарам захапляліся не толькі яго ўпэўненасцю, але і адкрытымі заявамі, што ён, адзіны ў рэспубліцы, ведае ўсё. А ведаў ён хіба прамысловасць. Сельскую гаспадарку – на ўзроўні свайго бацькі-селяніна, эканоміку – на ўзроўні сакратара райкома, бо нядоўгі час быў на гэтай пасадзе, навуку – па інстытуцкіх падручніках, літаратуру... яе ведаў не глыбей, чым сярэдні дзесяцікласнік, аднак гэта не перашкаджала яму выступаць перад пісьменнікамі і вучыць іх, недарэкаў, апалітычных людзей, гультаёў і п'янюг, як трэба пісаць, чаго патрабуе ад іх народ.

Аб'ектыўна кажучы, чалавек і кіраўнік Лявонцій Мікалаевіч быў даволі супярэчлівы. Прадуктам застойнага часу назваць яго нельга. Але кіраўніком новага тыпу... Хіба ў адным ён апярэдзіў перыяд развалу і стыхіі – у патрабаванні дысцыпліны. Ад усіх. Дзіўна, што разгул дэмакратыі і яго зрабіў бязвольным, разгубленым, аморфным. Не ўпраўляў ён жыццёва важнай галіной, якую яму даручылі ў гэты час. Куды дзяваліся яго самаўпэўненасць і ўсёведанне!

Бачачы разгубленасць загадчыка, Васіль Данілавіч проста маліў свайго вучня і кіраўніка:

– Іван Міхайлавіч, зрабіце, каб ён прыняў мяне. Вы ж разумееце, як гэта важна. У дакладной я не мог усяго напісаць, не хапіла часу. Звычайнаму чалавеку, нават інжынеру... не фізіку, трэба растлумачыць ядзерную азбуку. Вы ж гэта разумееце.

Іван Міхайлавіч пазваніў па «прамым тэлефоне», так ён называўся, але тут быў «крывы» — трубку ўзяў памочнік.

— Мне трэба тэрмінова да Лявонція Мікалаевіча.

Мартынюк не чуў, што тлумачыў памочнік.

З цяжкасцю малады вучоны-функцыянер адарваў сваё ацяжэлае ўжо цела ад крэсла, зачыніў сейф, даў акадэміку свежыя газеты.

— Пайду дзяжурыць пад дзвярамі. Інакш не праб'ешся. Цяпер у яго саюзны міністр, пасля — чэшская прафсаюзная дэлегацыя...

Дзяжурыць яму прыйшлося гадзіны паўтары, хоць вымушаў памочніка двойчы дакладваць.

Ветлівы з чужымі, са сваімі Дырэктар амаль ніколі не вітаўся за руку, нібы прысутнасць у адным будынку была раўназначнай прысутнасці ў адной зале.

— Ну, што ў вас гарыць? — каротка глянуўшы на чарговага наведвальніка і ўбачыўшы свайго, незадаволена спытаў Лявонцій Мікалаевіч.

— Дакладная акадэміка Мартынюка аб аварыі на атамнай станцыі...

— У нас ёсць атамная станцыя?

Івана Міхайлавіча абразіла гэтае пытанне: недарэчны сарказм!

— Гэтая станцыя за дзесяць кіламетраў ад нашай тэрыторыі...

— Вы прыйшлі вучыць мяне геаграфіі? — вельмі незадаволена спытаў гаспадар кабінета, глянуўшы на карту рэспублікі.

Загадчык ведаў, пад які ўдар траплялі людзі, якія мелі неасцярожнасць сказаць свайму кіраўніку агульнавядомую ісціну ці спрабавалі прасвяціць яго ў тым, што сам ён добра ведаў.

— Дзесяць кіламетраў для радыяцыі...

— Дзякуй. Вы прасвяцілі мяне,— уедліва і абразліва перапыніў Лявонцій Мікалаевіч і ашаламіў нечаканым пытаннем: — Вы доктарскую абаранілі?

— Не яшчэ.

— Старайцеся. Пакуль займаеце кабінет у гэтым доме, лягчэй будзе абараняцца.

Што ён мог адказаць на такое, мякка кажучы, хамства? Пракаўтнуць жабу... Але яна стаяла ў горле і ў грудзях — грудная жаба. Трэба валідол. Аднак паспрабуй тут, перад ім, пакласці таблетку ў рот — заўтра ж цябе «камісуюць». Каму трэба хворыя работнікі ў такой установе ў такі адказны час! Ідзе перабудова!

Магчыма, угледзеў Лявонцій Мікалаевіч, як счарнеў падначалены, бо сказаў лагодна:

— Давайце вашу дакладную.

— Яна не мая. Але я гатовы падпісаць яе.

— Хвалю за салідарнасць. Вы дастойны вучань. Марцінюк ваш навуковы кіраўнік? Я правільна інфармаваны?

Лявонцій Мікалаевіч меў яшчэ адну якасць, якую ў аднаго чалавека можна назваць выдатнай, у другога небяспечнай. Ён усё помніў аб людзях: хто калі ўзняўся, узнагародзіўся, хто дзе спатыкнуўся, у каго што запісана ва ўліковай картцы; ён, напрыклад, не ведаў жонак супрацоўнікаў у твар, але помніў іх імёны, імёны па бацьку і здзіўляў шмат каго, перадаючы прывітанні; яго мала цікавілі ўдачы, поспехі іх дзяцей, але калі хто з сыноў работнікаў вышэйшага эшалона насваволіў — напіўся, развёўся, ён пра гэта невядома праз якія каналы хутка ўзнаваў і доўга помніў.

— Інфармацыя ў вас выдатная.

Лявонцій Мікалаевіч пільна паглядзеў на падначаленага: сур'ёзна ён ці з падколкай?

Дакладную Лявонцій Мікалаевіч пагартаў — шэсць старонак на машынцы, і паклаў убок на стос іншых папер.

— Мартынюк просіць неадкладна прыняць яго. Чакае ў маім кабінеце.

— Неадкладна?

— Я прашу вас прачытаць дакладную зараз жа.

— Ну, калі вы просіце... Хіба магу адмовіць вам?..— гумар у яго нярэдка здзеклівы. Аднак пачаў чытаць.

Праз дзве-тры мінуты Іван Міхайлавіч угледзеў, як выцягнуўся твар у кіраўніка, на лбе — ніколі такога не бачыў — пачалі з'яўляцца адна за адной маршчыны: прачытаны абзац — маршчынка, абзац — маршчынка. Лысіна бялела,

а шыя пад вушамі бурэла, быццам кроў у артэрыях і венах запякалася. Івану Міхайлавічу ажно страшнавата стала — ведаў, што Лявонцій Мікалаевіч гіпертонік. Сапраўды спалохала, калі ён, не адрываючыся ад паперы, пачаў слепа мацаць рукой стол. Намацаў фламастэры, перабраў іх пальцамі, не гледзячы, выбраў чырвоны і размашыста паставіў на полі старонкі вялікі клічнік. Адгарнуў ліст назад і меншы клічнік напісаў на папярэдняй старонцы. Адарваўся ад тэксту, зняў акуляры, паглядзеў на загадчыка чырвонымі вачамі, быццам прачытаў не чатыры старонкі, а добрую сотню. Спытаў:

— У яго зігзагаў не было?

— Якіх зігзагаў?

— А вось гэтых,— красамоўна пакруціў пальцам каля скроні і ляпнуў далонямі па паперы, загрымеў: — Дык гэта ж чысцейшая шызафрэнія! Вы чыталі?

— Чытаў.

— І спакойна сядзіце? Без абурэння? Гатовыя падтакаваць вашаму свяцілу? Ды вы прачытайце, што ён прапаноўвае! Эвакуацыю са стокіламетровай зоны! Закрывай, значыцца, Мазыр, Хойнікі, Рэчыцу, а можа, і Гомель. Колькі там па прамой? Абсурд! Вы ўяўляеце, што гэта такое? І вы мне яшчэ даказваеце, што гэта здаровы чалавек, аўтарытэтны вучоны!.. Згаджуся з адным, што ўсе яны з заскокам, вучоныя вашы. На вас пакуль што не распаўсюджваю... Вы думаеце, нармальны чалавек пачаў бы расшчапляць атам, выпускаць такога джына?..

Падняўся, выйшаў з-за стала, прайшоўся па кабінеце і ўжо бадай спакойна, даверліва, што было неўласціва гэтаму чалавеку, які ў кожным з падначаленых бачыў свайго нядобразычліўца, сказаў незвычайную тыраду — філасофскі праклён навуцы.

Іван Міхайлавіч здзівіўся. Тут — і ў малой зале за сцяной, і ў вялікай унізе — ён чуў ад гэтага чалавека крытыку асобных вучоных, але вельмі высокую ацэнку ўсёй навуцы, гарачыя заклікі ўкараняць дасягненні навукова-тэхнічнага прагрэсу і бязлітасны разнос тых, хто не рабіў гэтага. І раптам — ана-

фема навуцы! Дзівак. Моцна ж зачапіла яго за жывое. Што? Сама аварыя? Ці Мартынюкова «трызненне»?

Аднак «філасофія» ўтаймавала яго. Сцерліся пісягі на лбе, паружавела шыя. Вочы, якія ў час тырады былі ў касмічнай далечы, вярнуліся ў кабінет, скіраваліся на субяседніка.

Іван Міхайлавіч узбадзёрыўся. Пры ўсім пры тым гэты чалавек умеў часам прымаць нечакана для ўсіх смелыя рашэнні. Можа, і зараз вось такім пакручастым шляхам ідзе да такога рашэння?

Лявонцій Мікалаевіч спыніўся каля дзвярэй у пакой для адпачынку і напалеонаўскім жэстам паказаў рукой на тэлефонны столік, дзе вакол вялікага селектарнага апарата з мноствам кнопак стаяла штук пяць дыскавых рознага колеру.

— Гэта што?

— Апараты,— незразумела пацiснуў плячамі Іван Міхайлавіч.

— Яны — што? Маўчаць! А каб хоць пятая частка было праўды ў тым, што напісаў ваш Мартынюк... Васіль Данілавіч, так? Каб было так страшна, як яму, запэўніваю вас — тэлефоны трашчалі б на ўвесь гэты будынак. Яны абарвалі б вушы... аглушылі б не толькі мяне, але і вас, кіраўніка навукі. А яны маўчаць. Быў мне званок з Масквы... з самага верху. Быў з Гомеля — даклад аб сітуацыі. Людзі спакойна працуюць. Ніхто не панікуе. Званіў я ў Кіеў. Урад Украіны прыняў усе меры... Акадэміку нашаму чамусьці здаецца, што ўсе спяць. Растлумачце яму, што ніхто не спіць... Палітбюро засядала... Аварыя... так мне далажылі... можна лічыць, ліквідавана. Радыяцыя? Пакуль што невядома, якая яна. Аднак падняты ўжо вайсковыя часці... хімічныя... для правядзення дэзактывацыі. Вы лепш за мяне павінны ведаць, як гэта робіцца.

— На жаль, не ведаю.

— Вось вам ваша навука!

— Што адказаць Мартынюку? Чалавек чакае.

Лявонцій Мікалаевіч вярнуўся ў сваё крэсла, толькі адтуль, з трыбуны, ён мог прымаць рашэнне. Пагартаў дакладную,

10. Зак. 2388.

на момант паглыбіўся ў адну старонку і напісаў на полі не пытальнік, нейкі адмысловы знак накшталт параграфа.

— Я прыму яго. Вашага брата нельга не прыняць.

Іван Міхайлавіч вярнуўся ў свой кабінет з вінаватым выглядам. Адвёў вочы ад пільнага чакальнага позірку свайго навуковага кіраўніка.

— Не прыме? — амаль спалохана спытаў акадэмік.

— Прыме. Чакайце.

— Выдатна. Не буду вам перашкаджаць. Пачакаю ў калідоры. Ці лепш пайсці ў прыёмную?

— Пагуляйце ў калідоры. Я папрашу, каб пазванілі мне.

Калі загадчык аддзела выйшаў, Лявонцій Мікалаевіч пазваніў старшыні камітэта народнага кантролю. З падначаленым ён рэдка вітаўся першы.

— Што там у нас за пісьмо было ў адносінах Мартынюка? Але, вучонага...

Старшыня ведаў здольнасці гэтага чалавека, яго нечаканыя звароты і пісьмы з яго рэзалюцыямі стараўся запамінаць. Растлумачыў. Была ананімка, што акадэмік пры будаўніцтве дачы забраў з інстытута жалезабетонныя пліты для перакрыцця. Устаноўлена праверкай: пліты бракаваныя, кінутыя будаўнікамі, праляжалі гадоў пятнаццаць, захламляючы двор, іх трэба было вывезці на звалку, крыміналу няма, справа закрыта.

Выслухаў Лявонцій Мікалаевіч тлумачэнне моўчкі. І раптам, як гром, заключэнне:

— Дрэнна мы правяраем.— І адбой.

Старшыня колькі хвілін сядзеў, слухаючы стук крыві ў скронях. Потым націснуў кнопку селектара.

— Генадзь Мікалаевіч! Знайдзіце пісьмо «акадэмікаў» на Мартынюка.

— Ды яно ў мяне. Збіраюся паехаць туды, пасароміць за такія ганебныя ананімкі. Чым людзі займаюцца?!

— Нікуды не ездзіце, прынясіце пісьмо мне.

Васіль Данілавіч гуляў па доўгіх калідорах гадзін шэсць, да канца работы. У той дзень яго не прынялі.

## VII

Быў вечар і была раніца: дзень трэці. Панядзелак. Цяжкі. Не, звычайны — для Уладзіміра Паўлавіча. Рабочы.

Першым аўтобусам, у шэсць раніцы, паехалі ў Гомель Барыс і Тамара. Барыс абліўся на двары халоднай вадой і як абнавіўся. Свежы, крамяны, падцягнуты і сур'ёзны, без дурносаў. Не, так змяніла яго форма — ваенная. Калі сын у форме, за яго можна не турбавацца, ды яшчэ з такой спадарожніцай, як Тамара.

Уладзімір Паўлавіч любаваўся сынам, праводзячы да вакзала. Дакладна адышоў аўтобус. Звыкла абуджаўся горад. Усё разам супакоіла, зняло ўчарашнюю трывогу. Падумаў, што страхі, надумлівасць раслі ад алкаголю, гэтую яго хваробу Вольга адкрыла, можа, яшчэ дваццаць гадоў назад.

І на рабоце... Каскад званкоў. Звычайных. Рабочых... Гомель знаў пра аварыю. Але ніхто не пазваніў з гэтай нагоды. Ніхто не ўзнімаў трывогі. І старшыня паехаў у калгасы паўночнай зоны, свае падшэфныя. Яны адставалі з пасадкай бульбы, ды і надоі ўпалі. Пыльчанка высмейваў гэтыя аўралы, калі пры падзенні надояў на паўлітра—літр увесь актыў рассылаўся ў гаспадаркі, быццам чыноўнікі павінны былі даіць, аднак, верны моцна ўкаранёнай практыцы, гнаў і сябе, і падначаленых сваіх — не толькі аграрнікаў, але і райана, банк, райфін, нафтабазу, каб мыліць галовы старшыням і ўзнімаць дух даярак.

Гэтаму, па сутнасці, і была прысвечана раніца, бо яшчэ за паўгадзіны да афіцыйнага пачатку рабочага дня пазваніў намеснік старшыні аблвыканкома, жартаваў, але і пагражаў: «Кульгава ідзе раён да свята працоўных. У абласныя колы палкі сунеце. З чым выйдзеце на дэманстрацыю?»

А між тым і дэманстрацыя — немалы клопат на яго плячах. Перад выездам правёў лятучую нараду з гарадскімі ўладамі, а пасля асобна «заводзіў» Кацярыну і Дар'ю: «Завіўкамі сваімі адказваеце за падрыхтоўку да Першамая. Калі што, пакудлачу — мужы не пазнаюць».

Сумавала ў сваёй бібліятэцы Вольга Андрэеўна. У першай палавіне дня дзеці рэдка прыходзілі сюды, хоць большасць з іх займаецца ў другую змену. Зімой бывае нямнога. А ў такую вясновую цяплынь хто іх пасадзіць за кнігу!

Маці думала пра сыноў. Са звыклай трывогай – за Барыса: небяспечная ў яго прафесія. Пра небяспеку Глеба не думала – не ведала яе, хоць і паехаў на пажар, не ўяўляла, што інжынеру-энергетыку можа пагражаць; ён расказваў пра сваю работу як зусім бясшкодную: сачы за аўтаматыкай, рэдка прыборы паказваюць непаладку. Думала з нязвыклай радасцю. За Глеба. Хораша ажаніўся сын. І вяселле прайшло добра, калі не лічыць Барысавай сутычкі з Плечкам. І за Барыса – за яго захапленне Тамарай. Во каб і ён ажаніўся! Дзяўчына падабалася ёй нават больш, чым яе старэйшая сястра, што ўжо стала нявесткай. Праўда, за такую думку ўпікнула сябе: Ірына – прыгожая і сур'ёзная, не такая рагатуха, як Тамара.

А Ірына думала пра мужа. Толькі пра яго. З крыўдай. Чаму не звоніць? У Мінску па два разы на тыдзень званіў. І сюды перад вяселлем – штодня, а то і двойчы, удзень – у паліклініку, а ўвечары – дадому, у сяло, куды ездзіла нанач.

Не ведала яна і не падумала нават, што ў недалёкай Прыпяці ўсе тэлефоны блакіраваны, хоць гэта была бяссэнсавая акцыя, бо ў горадзе з учарашняга вечара нікога не засталося.

Кабінет гінеколага не пуставаў. Пра маладога ўрача ішла добрая слава. Жанчыны ішлі, урэшце, можа, таму, што колькі месяцаў у паліклініцы не было такога спецыяліста, зрэдку неакуратна вёў прыём урач з бальніцы, цынічны і няўважлівы стары. Ведалі, што скальпелем ён валодае адменна, як да хірурга да яго рваліся, але на прафілактычныя агляды жанчыны да яго не хадзілі.

Ірына была ўважлівая. Ірына не проста працавала, яна паглыбляла свае веды, ні адзін раённы ўрач не меў столькі літаратуры і ў кабінеце, і дома. Але ў апошнія два тыдні асаблівую ўвагу яна аддавала цяжарным, збірала ў кожнай найпадрабязнейшы анамнез. Галоўурачу, між іншым, не вельмі падабаліся гісторыі, якія яна пісала,– залішне навуковыя.

«Часовы работнік,– сказаў ён калегам.– Збірае матэрыял на дысертацыю». Праўда, палагаднеў, палюбіў Ірыну, пачаў хваліць, калі даведаўся, што неўзабаче яна стане нявесткай Пыльчанкі.

І быў аўторак. Звычайны... Не, у бальніцы – сенсацыя. Раптоўна, без тлумачэнняў, разлічыўся і выехаў з усёй сям'ёй, з жонкай і двума сынамі, на ўласнай «Волзе» санітарны ўрач Карповіч. Невядома куды. Ад'езд чалавека, які добра абжыўся, больш чым каго, спалохаў Ірыну. Карповіч – адукаваны ўрач, хоць і балбатун, здавалася ёй, безадказны; яна, шчырая камсамолка, кіраўнік палітсемінара медсясцёр, назвала яго дысідэнтам, і мянушка гэтая прыліпла. Сустракаючы, ён грaзіў ёй пальцам, а ў прысутнасці ўрачоў казаў кампліменты, заляцаўся да маладой урачыхі, даючы ўласнай жонцы падставу раўнаваць, тая не хавала, што не любіць Ірыну, трохі падабрэла, як і галоўурач, калі пачула, што Пустаход у хуткім часе зменіць сваё прозвішча на Пыльчанка.

Трывога, якая тлела з моманту, калі Глеб з-за вясельнага стала паплыў на сваю станцыю, шуганула полымем, можа, не меншым за тое, што выбухнула на самой станцыі.

Ох, як моцна гараць у жаночым сэрцы і любоў, і ласка, і страх!

Пазваніла дадому. Гаварыла з маці. Дыктавала малаадукаванай жанчыне, якія кнігі ёй трэба перадаць, сёння ж, з першай машынай, якая пойдзе ў райцэнтр. Гэта былі кнігі па радыяцыйнай медыцыне, іх было нямнога, але маці ўсё роўна занепакоілася:

– Зноў кнігі. Дачушка! Ды не забівай ты сваю галоўку. Дай ёй прасвятлець. Сем гадоў набівала!

«Можа, не тым, мама, набівала, чым трэба. А вось што трэба, не знаю. Божа! Які жах! Ні сімптомаў хваробы, ні метадаў лячэння, ні рэцэптаў – нічога ў галаве няма. Як жа нас вучылі? Больш слоў было пра атамную вайну, чым справы».

У паліклініцы папаўзла чутка, з якой не жартавалі, як з ад'езду Карповіча,– аб выбуху на станцыі. Яе нібыта прывёз шафёр аўтабазы, украінец. Быў пажар, выбух. І ніякага

афіцыйнага паведамлення. Чаму маўчыць свёкар? Там яго сын. Не могуць райком і райвыканком нічога не ведаць. Узлавалася на старога Пыльчанку. Але менавіта таму, што ўзлавалася, пазваніла яму з кабінета загадчыцы паліклінікі, у прысутнасці калег. Сказала і пра Карповіча, і пра чуткі аб выбуху, прозвішча шафёра назвала, як бы падказваючы: паклічце яго, спытайце.

Уладзімір Паўлавіч выслухаў моўчкі, цярпліва. Сказаў пабацькоўску ласкава:

— Ірына, дзіця маё, ты ж у нас самая мудрая і спакойная. А раскаляеш дрот ад таго, што ўцёк адзін панікёр ці меле языком з перапою нейкі забулдыга. Я разумею тваю трывогу за Глеба. Але запэўніваю, што нічога страшнага не адбылося.

І яна паверыла, што свёкар гаворыць праўду. А Уладзімір Паўлавіч, паклаўшы трубку, пакутаваў, што сказаў блізкаму чалавеку, які перажывае за яго сына, як і сам ён, няпраўду. Ён знаў ненамнога больш, чым яна, але што не адбылося нічога страшнага — гэта падман і сябе і людзей.

Кнігі прывёз сам бацька. У канцы яе рабочага дня. А гэта было гадзіны ў тры. У кабінеце знаходзілася пацыентка, і ён не мог туды зайсці. Чакаць у яго не было часу; у бацькі, як помніла Ірына, заўсёды не хапала часу. Выклікаў яе праз сястру.

У паўцёмным калідоры перадаў кнігі і клунак ад мамы — адзенне і прысмакі.

Ірына заглянула ў клунак, засмяялася:

— Можна падумаць, я галадаю там, у свекрыві.

— Я казаў ёй. Ды хіба ты не знаеш маткі!

— Добра. Пачастую калег. Мне трэба іх пачаставаць. Але ж... не да святкавання неяк. Што чуваць, бацька? Вы там бліжэй...

— Да чаго? А-а, да етага. Дык нічога не чуваць. Нашы ездзяць на работу... А Глеб не званіў?

— Гэта мяне і непакоіць: чаму не звоніць? Дык, кажаце, нашы ездзяць, як ездзілі?

— Так, як ездзілі.

— На іх «Ракеце»?

— На іх «Ракеце».

У прыцемку Ірына не бачыла, што бацька адводзіць вочы. Тое, што людзі, якія робяць у Прыпяці, па-ранейшаму ездзяць на работу, заспакоіла яе, як нішто іншае. Не магла падумаць, што бацька сказаў няпраўду, бацька заўсёды гаварыў праўду. А між тым Пустаход стаіў тое, што знаў, а знаў ён больш за іншых. Учора на работу прапусцілі толькі тых, хто рабіў на станцыі, а будаўнікоў, афіцыянтак, санітарак вярнулі назад і загадалі да Прыпяці не дабірацца больш ні па рацэ, ні па шашы. Пустаход не мог паверыць, што горада не стала... учора не мог паверыць. Вялікага горада, бадай такога ж, як Мазыр. На картах, праўда, ён пазначаўся меншымі літарамі, чым суседнія сёлы, чым, напрыклад, Новашапелічы ці Машаны. Але ж ездзіў туды многа разоў і здзіўляўся: які горад! як хутка расце! Хоць чаму здзіўляцца! Пры такім волаце, як станцыя. Пяты блок будуюць.

Ад дачкі Іван Іванавіч паехаў да свата, у райвыканком. Але Пыльчанкі там не было – ішло бюро райкома. Пустаход пайшоў у райком і настойліва, нягледзячы на супраціўленне сакратаркі, патрабаваў выклікаць Уладзіміра Паўлавіча.

З вуліцы яшчэ пачуў, што ў кабінеце першага ідзе бурная размова. І праз дзверы чуў гудзенне галасоў.

Размова сапраўды была гарачая. І ўчыніў яе Пыльчанка, таму і не змог выйсці адразу, як толькі перад ім паклалі паперку: «Вас просіць Пустаход. Чакае ў прыёмнай».

Пры абмеркаванні пытання аб першамайскім свяце старшыня райвыканкома прапанаваў не выводзіць на дэманстрацыю дзяцей.

Сінякоў рашуча запярэчыў:

– Ды вы што, Уладзімір Паўлавіч! Хочаце падагрэць паніку? Ды нам абком галовы знясе. Якое свята без дзяцей!

– Без дзяцей – не свята,– падтрымаў сакратара пракурор Жылевіч, якому – даўно заўважыў Пыльчанка – не столькі ісціна патрэбна, колькі спектакль: сутычка паміж «старым зубрам» старшынёй і «маладым стаеннікам» першым сакратаром.

Спрэчка загарэлася. Сінякоў заўсёды баяўся застацца ў меншасці, хоць здаралася гэта вельмі рэдка, але і адзінкавыя

факты ён перажываў, як трагедыю асабістую. Тут ніхто не выказваўся пэўна — за ці супраць. Разважалі. Але так, што Пятро Міхайлавіч адчуў: думка Пыльчанкі перамагае. І — дзівосы! — упершыню ўзрадаваўся гэтаму, хоць працягваў супраціўляцца: няхай пераможа Пыльчанка, абы рашэнне было калегіяльнае.

Прыгадвалі ўсё, што дайшло да іх кружнымі шляхамі,— і легенды з паўднёвых вёсак, і факты, накшталт уцёкаў Карповіча.

Гумарыст Дунец, начальнік міліцыі, нават пажартаваў:

— Раней мы спявалі: «Повій, вітрэ, на Украіну». А цяпер трэба: «Не вей, вецер, з Украіны».

Але ніхто не засмяяўся: у жарце як бы абагульвалася тая пагроза, якая можа прыйсці. Легенды і чуткі без афіцыйнага паведамлення — гэта заўсёды народная творчасць, фантазія з вялікай гіпербалай, бо без яе не бывае творчасці. І на гэтае перабольшанне чутак, дзеля суцяшэння, рабілі папраўку. Штось, безумоўна, ёсць, але калі вышэйшыя ўлады маўчаць — значыць, нічога страшнага. Так і сказаў ён, Пыльчанка, нявестцы. Але гэта так ела яго душу, што і на бюро ўспомніў:

— Я нявестцы толькі што сказаў... сын жа на станцыі! — што нічога страшнага, як пракурор кажа. Але ж няпраўда гэта! Няпраўда! Сябе мы можам ашукваць. Не першы раз! Але людзей!..

— Што вы маеце на ўвазе — «не першы раз»? — спытаў пракурор.

— Скажу — справу не завядзеш?

— Таварышы, таварышы! — пакутуючы, як ад болю, бязвольна прасіў Сінякоў, які звычайна даволі крута ўмеў заклікаць да парадку.— Давайце па чарзе. У нас доўгая павестка, куча пытанняў.

Але пераходзіць да чарговага пытання ніхто не спяшаўся.

— Пазвані ў абком! — другі раз настойліва патрабаваў Пыльчанка.

— Ды званіў я! Адказалі: калі трэба будзе і што трэба — вам скажуць!

— Вялікія мудрацы там сядзяць. Апосталы святыя.

— Хто гэта апосталы? — зноў з уедлівым смяшком спытаў Жылевіч.

Пыльчанку захацелася паслаць яго да-алё-ёка, ды паважаў іншых людзей. Яны сур'ёзныя і заклапочаныя, не ў прыклад пракурору з яго патугамі на гумар. Знайшоў час, дурань!

Пустаход заглянуў у дзверы сам, даў сігнал свату.

Сінякоў запрасіў яго:

— Заходзьце, Іван Іванавіч.

Яму хацелася пачуць думку чалавека з нізоў, да таго ж з паўднёвай гаспадаркі. Ім там бліжэй. Але старшыня калгаса зачыніў дзверы, вельмі здзівіўшы гэтым сакратара. А Пыльчанку спалохаў, бо ўдарыла думка: «Ці не пра Глеба ён хоча штось паведаміць?»

Падхапіўся, выйшаў у прыёмную.

Пракурор зноў пажартаваў:

— Во як трэба бегчы, калі сват ківае пальцам...

— Што, Іван? — спытаў Уладзімір Паўлавіч, не павітаўшыся.

— Іх высяляюць.

— Каго?

— Суседзяў маіх — саўгас «Партызанскі».

У Пыльчанкі заняло дыханне.

Нейкі міг яны стаялі моўчкі і глядзелі адзін аднаму ў вочы. Разумелі, хто што думае. Хоць што разумець! Думалі два гаспадары, адказныя за людзей, адно і тое ж, толькі ў Пустахода было больш страху — у душы і ў вачах.

Не сцяміўшы, пра якое высяленне ідзе размова, здзіўлена глядзела на іх сакратарка.

— Пачакай мяне. Я паеду з табой.

Вярнуўся ў кабінет, прычыніў дзверы спіной, падпёр іх сабою, быццам не пускаючы кагосьці, хто можа пагражаць людзям, якія сядзяць за доўгім сталом. Што старшыня райвыканкома гэтак спыніўся, насцярожыла членаў бюро.

— Іх высяляюць.

— Каго?

— Украінскія вёскі.

— Не можа быць! — выгукнуў бадай спалохана пракурор, да таго гулліва настроены.

— Паеду пагляджу сваімі вачамі,— сказаў Пыльчанка. Падышоў да стала, сабраў у папку свае зводкі аб сяўбе і надоях.

Сінякоў павярнуўся да тэлефонаў, набраў шматлікавы нумар.

— Аляксей Раманавіч! Яшчэ раз Сінякоў. Толькі што прыехаў Пустаход, прывёз звестку: яго суседзяў-украінцаў высяляюць. Ды не, ніхто не панікуе. Мы спакойныя. Мы спакойныя больш чым трэба. Ды не... вы знаеце Пустахода. Перадаць-то перадам, але ці будзе яму ад гэтага лягчэй... Слухаюся... Слухаюся... А што з дзецьмі? З дэманстрацыяй? Дзякую. Пастараемся. Але ці ходзяць паромы? Уявіце — не знаем. Вам жа лягчэй узнаць — у вас прамы провад. Прабачце... Паедзе ў аб'езд. Думаю, на нашай тэрыторыі паром работае. Чаму думаю? Не мой жа раён. Зноў жа — вам прасцей... Ды не вучу я вас. Кажу, што ёсць. Прабачце. Буду, канешне, званіць.

Сінякоў паклаў трубку. На кончыку яго носа павісла кропля поту. У кабінеце душна — вокны зачынены. Сакратар шукаў у кішэнях хустку, знайшоў у пінжаку, што вісеў на спінцы крэсла за сталом. Выцершы твар, рашуча вымавіў:

— Дзяцей на дэманстрацыю не выводзім!

— Што яшчэ сказаў Аляксей?

— Пра дзяцей не ён сказаў, я кажу! Наша права! Сёння будзе ўрадавае паведамленне. І ўсё растлумачыць. Да нас паехаў Кахоўскі. Дунец! Забяспечце яму праезд на Чарнобыль.

— Кажуць, украінцы перакрылі дарогі.

Сінякоў узарваўся, такой злосці ад яго не чулі:

— Кажуць... Думаюць... Варожаць... Што ў нас за службы! Міліцыя, называецца! Якія ў вас сувязі? Ды вы павінны былі ўжо пяць разоў пабываць у Прыпяці, у Чарнобылі! А трэба — і ў Кіеве! Ахова парадку! Вы — унутраныя справы! Усе ўнутраныя справы! Ваеннае фарміраванне грамадзянскай абароны! А ў вас радыяцыйныя прыборы без батарэй. З гадзіннікаў выцягніце батарэі! Работнічкі!

Дунец падскочыў, стаяў навыцяжку, лыпаў вачыма, не разумеючы прычыны абурэння першага сакратара, звычайна стрыманага, ветлівага, інтэлігентнага.

А Пыльчанка разумеў: урэшце дайшла да Пятра трывога, сігнал якой ён падаў яшчэ ў нядзелю. Доўга ішла. Як да жырафы. Мабыць, яшчэ даўжэй яна будзе ісці да тых, хто на высокіх крэслах у Кіеве, у Мінску, у Маскве.

Аб гэтым ён сказаў свату, калі ехалі ў машыне. Адразу сказаў. І, можа, упершыню пры шафёру, пры старшыні калгаса асудзіў і Сінякова, і вышэйшых кіраўнікоў. Мацюкаў памужыцку.

Пустаход уздыхаў. Настрой яго выяўляўся на твары, непаголеным, пабурэлым, у постаці ўсёй, ссутуленай, кастлявай; Пыльчанку (сядзелі побач на заднім сядзенні) здавалася: дакраніся да свата — зачэпішся што за сук; за трое сутак пастарэў чалавек.

— Што звесіў галаву, Іван? — бадзёрыўся Уладзімір Паўлавіч.

— Гэта і мяне такі лёс чакае, як Дзенісенку?

— Да нас яшчэ не дайшло.

— Што не дайшло? Валодзя! Ты лаеш начальства, а сам — туды ж. Да цябе яшчэ не дайшло! Можа, у нас плот? Кітайская сцяна? А ў мяне перад вачыма хлопчык гэты, сын Дзенісенкі. І словы яго з пісьма,— дастаў з кішэні пісьмо.— Каротка піша Грыцко. «Іван! Нас высяляюць. Шлем да цябе Віталіка. Прымі яго і паберажы, пакуль я ўладкуюся. Дзе — не знаю». У яго маці ў бальніцы ў Кіеве. А Віталік дружыць з унукам маім Ванем, Лізіным. Аднак унікні, як піша чалавек. Як з вайны. Мне ажно ў сэрца ўдарыла. Паберажы... Сына... Іншага прытулку ён сыну не знайшоў. У яго брат у Кіеве. Здаецца чалавеку, як і табе, што мы адгароджаны сцяной... што гэта толькі іх бяда — украінская. А яна, брат, агульная, як і ў сорак першым. Слухай, гэта яна такая і будзе, вайна, супраць якой ваюем? Гахне Хірасімка пад Кіевам, пад Мінскам. Там спаліць людзей адразу. А мы ў сваіх балотах будзем паміраць павольна ад радыяцыі? Ціха. Без музыкі. Першых закапаем дзетак, яны слабейшыя...

— Іван Іванавіч! — замаліўся шафёр, бацька траіх дзяцей.— Без вашых слоў страху хапае.

— І ў цябе страх? — чамусьці ўзлаваўся Пыльчанка.— Слабакі вы! Панікёры!

— Думаеш, ты не панікуеш, калі хрысціш усіх?

— Я сябе хрышчу ў першую чаргу. Я, можа, першы атрымаў сігнал. І што? І... як кажуць, пшыкнуў.

Натуральна, што свякроў і нявестка прыглядаліся адна да аднае. Прыцiраліся. Яны былі разумныя жанчыны, навучаная жыццём Вольга Андрэеўна і выхаваная ў добрай сям'і, тэарэтычна «падкаваная» Ірына. Але яны былі сялянкі па паходжанні і псіхалогіі. А гэта трымаецца моцна. Ва ўсім. У жаданні падабацца адна адной. У адвечнай рэўнасці — з-за Глеба: хто яго любіць мацней? Гэта істотнае. Але і ў дробязях: кожная старалася паказаць сябе больш руплівай, больш старанней гаспадыняй, а таму рабілі лішняе, часам непатрэбнае для звыклага жыцця. У той жа час маці лічыла абавязкам сваім вызваліць набытую дачку ад дадатковай працы — у яе большая нагрузка ў паліклініцы, гэта ж не бібліятэка. А нявестка лавіла кожную задуму маці і ва ўсім хацела апярэдзіць, каб падабацца ініцыятывай.

Прайшло ўсяго тры дні сумеснага жыцця, а такі марафон, такая «гульня» стала бачна і Уладзіміру Паўлавічу, які назіраў за жонкай і нявесткай у кароткія ранішнія гадзіны, пакуль гатавалася снеданне, і адносіны іх забаўлялі яго, гумарыста па натуры.

Вольга Андрэеўна ў сваёй бібліятэцы пачула за той звычайны дзень менш размоў, чым Ірына, чым хто іншы. А каб і пачула... Калі не лічыць уцёкаў Карповіча, пра якога, дарэчы, яна пачула толькі ад Ірыны, то нішто не змяніла ўсталяванага парадку жыцця. Людзі працавалі, радаваліся вясне. Рыхтаваліся да свята. Да двух святаў — да Першага мая і да позняга ў гэтым годзе Вялікадня.

А вясна была незвычайная сваёй цеплынёй. Яна падганяла. І святы падганялі: кожнаму — і на шырокім калгасным

полі, і на сваім гародзе, на маленькіх гарадскіх градках — хацелася хутчэй завяршыць вясковыя работы, звыклыя і адначасова непаўторныя, як непаўторна нараджэнне кожнага дзіцяці.

Вольга Андрэеўна мела немалыя градкі: за домам сотак пяць ворыўнай зямлі, перамешанай з торфам, добра ўгноенай. Праўда, разрасліся яблыні, грушы, слівы, вішні, пасаджаныя яшчэ папярэднім гаспадаром, але хапала месца і для цыбулі, гуркоў, памідораў. Ураджай заўсёды быў багаты, высахнуць не магло — падведзены водаправод, вымакнуць таксама не магло — за гародамі, на саўгасным полі, пракладзены меліярацыйныя канавы.

Уладзімір Паўлавіч, абыякавы да гарода, пры ўсёй сваёй гаспадарлівасці, настроены супраць яго — што думаюць людзі, як корпаецца ў зямлі жонка старшыні? — часта кпіў:

«Зарабіла б ты больш, чым у сваёй бібліятэцы, каб вынесла сваю цыбулю на рынак. Хочаш, месца адвяду, ларок пастаўлю? Во бізнес! Во прагрымім з табой! На ўсю вобласць!»

Але разам з тым кранала яго, як ціха і непрыкметна жонка раздавала невядома каму плады сваёй руплівай працы, раздавала часам так, што ў зімовы час, калі гародніна знікала ў крамах райспажыўсаюза,— у доме не заставалася цыбуліны, зубка часнаку; праўда, квашанай капусты заўсёды хапала.

Вольга Андрэеўна вярнулася пад вечар з працы, пераапранулася — і на гарод. Яшчэ раніцою ўбачыла, як яна адстала ад суседак за час вясельнага тлуму, і ў бібліятэчнай бяздзейнасці ў яе свярбелі рукі ад жадання папрацаваць. А гэта хораша — у вячэрнім халадку рабіць у гародзе, пад вішнямі, што ў пене квецені! Які водар — ад вішань, ад маладой травы, якую нават шкада выпалваць, ад свежай зямлі! Нават ад гною, які ёй прывозіць райвыканкомаўскі шафёр з саўгаснага кароўніка, хоць грошы атрымоўвае для пакупкі яго ў прыватнікаў. Яна наіўна верыць, што гной з суседняй вёскі, ад шафёравага цесця.

Уладзімір Паўлавіч высмейвае яе наіўнасць, пагражае ёй і шафёру: зловіць — пасадзіць. Вользе Андрэеўне рабілася

весела ад уяўлення, як бы гэта родны муж судзіў яе, сваю жонку. За што? За гной. Смех, дый годзе!

Пазней прыйшла Ірына. Пасля прыёму хворых сядзела ў кабінеце, прачытала з іншай увагай, чым перад здачай экзаменаў, вялікі раздзел у падручніку пра ахову ад радыяцыі. Яшчэ больш трывожна ёй стала пасля чытання.

Убачыла Вольгу Андрэеўну ў гародзе і хацела крыкнуць: «Не трэба, мама!»

Але стрымала праклятая сялянская бабская боязь: як бы свякроў не падумала, што адрывае яе ад работы, палохае таму, што самой не хочацца парабіць — беларучка.

І забылася на прачытанае. Пераапранулася, надзела шаравары, спартыўную майку. І — у гарод.

— Што рабіць, мама?

Яна сказала свекрыві пасля загса мама, так навучыла родная маці, але ў наступныя дні, у размовах на розныя тэмы нярэдка звярталася па-інтэлігенцку — Вольга Андрэеўна. «Прывыкае»,— заключыў свёкар, пачуўшы чаргаванне розных зваротаў. Дарэчы, яму Ірына казала толькі Уладзімір Паўлавіч, і ён лічыў гэта натуральным, яго, напэўна, збянтэжыла б ласкавае тата, сыны называлі яго па-мужчынску: бацька.

— Гуркі трэба паліць. Толькі не са шланга, не халоднай вадой. З канаўкі, цёпленькай.

З канаўкі дык з канаўкі. Ірына схапіла вёдры, пабегла за гарод і набрала ў канаве чорнай, ажно густой, тарфяной вады. Наліла ў лейку і палівала і гуркі, толькі што пасаджаныя, і цыбулю, якая ўжо ўзыходзіла. Потым яшчэ штосьці рабіла. І яшчэ... І радасна ёй было памагаць маме. Яшчэ адной маме.

Калі зайшло ўжо сонца і над балотам паднімаўся туман, прыйшоў з райвыканкома Уладзімір Паўлавіч. Убачыў жанчын у гародзе, узлавана загрымеў на ўсю вуліцу:

— Вам што, рабіць няма чаго? Баб'ё бязмозглае!

Вользе Андрэеўне ледзьве блага не стала. Не, не мела яна слабыя нервы, тонкую скуру, за доўгае жыццё чула ад мужа і не такое. Але што ён вось так на нявестку — на чацвёрты

дзень пасля вяселля: «Баб'ё бязмозглае!» Жах! Кінулася да яго арліцай разгневанай, засланяючы дзіця.

— Валодзя! Як не сорамна!

— Не шыпі, як гуска, калі ні чорта не знаеш. Калонку запалі. Душ прыміце! І я прыму.

Ірына не пакрыўдзілася. Ірына ўхваліла камандную рашучасць свёкра і яго вельмі правільны загад: душ! Ці дадумалася б яна, доктар, да гэтага? Памыла б ногі — і ўсё.

Занятыя душам і вячэрай, жанчыны не бачылі, што сам гаспадар пераапранаўся пад дрывяной паветкай, у душавую прашмыгнуў у майцы і трусах, якія пасля мыцця вынес туды ж, пад паветку, у цэлафанавым мяшку. Узбуджанасць яго была агрэсіўная, і ён маўчаў, баючыся зноў сарвацца, хоць з Пустаходам дамовіліся, што пачнуць прасвятляць людзей, у першую чаргу, блізкіх сваіх.

Ірына расказвала пра падзею дня — нечаканы ад'езд Карповіча — і здзівілася, што свёкар не абурыўся яго ўчынкам. Змаўчаў. Абурылася Вольга Андрэеўна. Уладзімір Паўлавіч сказаў ёй са звыклым гумарам, які Ірыну забаўляў яшчэ да вяселля, калі яна пачала наведвацца да бацькоў жаніха:

— Правільная ты ў нас! Галоўны ідэолаг. Як Суслаў.

Але і жонка не лазіла па слова ў кішэню.

— І цяпер вы коўзаецеся і па Брэжневу і па Суславу. А ці даўно штудзіравалі кожнае іх выступленне? На сценах расклейвалі.

— Ды штудзіравалі.

— На Першае мая новых панесяце. Заходзіла я ў клуб — усё фае застаўлена. Павел смяецца,— растлумачыла Ірыне: — Мастак — нямы хлапчына. Паказаў мне, як малюе. Дваццаць мінут — і партрэт новага генія... новай эпохі. Як вы называеце яе? Эпоха паскарэння? Чаго? Паскарэння чаго?..

— Аднак язык у цябе, мая даражэнькая! Расце ён у цябе, раней карацейшы быў...

— Бо ўкарачалі.

— Скажу Кацярыне: распусціла яна свае кадры.

— Прышлі, прышлі сваю Кацьку, я пакажу плады вашай работы. А то вы з ёй баіцеся зайсці. А ў бібліятэцы... у

дзіцячай... у дзіцячай! вось-вось столь абваліцца. Задушыць тваю даражэнькую. Добра, калі адну мяне. А калі дзеткі там будуць?

— Год назад рамантавалі.

— Як? Як рамантавалі? Ты прыйшоў, паглядзеў? Кацярыну прыслаў. Балаболку. Сваху. У яе ва ўласным доме ніколі парадку не бывае. «Я не абкулачуюся». Во гультайка і раскідуха... Гаспадыня раённай культуры!

— Што гэта ты разышлася, як халодны самавар?

— Скажы дзякуй, што да цябе не дабралася. Мяне папракаеш за язык, а сам...

Уладзімір Паўлавіч пакорліва схіліў над сталом галаву.

— На, скубі апошнюю поўсць. Вучы нявестку.

Ірына засмяялася:

— Як скубці мужа — гэта мы ўмеем да замуства, Уладзімір Паўлавіч. Навука даўняя — ад Евы.

Пілі чай, глядзелі «Час».

І раптам у сярэдзіне перадачы паміж інфармацыяй па краіне, якая пралятала міма вушэй, выдзеліўся голас дыктара:

— «Ад Савета Міністраў СССР. На Чарнобыльскай атамнай электрастанцыі адбылася аварыя, пашкоджаны адзін з атамных рэактараў. Прымаюцца меры па ліквідацыі вынікаў аварыі. Пацярпеўшым аказваецца дапамога. Створана ўрадавая камісія».

Яны замерлі ў трывожнай напружанасці. Калі пайшоў наступны сюжэт, Уладзімір Паўлавіч неўразумела, здзіўлена, неяк па-дзіцячы, спытаў у тэлевізара:

— І ўсё?

А Ірына раптам узлавана выгукнула:

— Хлусы! Божа мой, якія хлусы!

— Хто?

— Усе!

— І я?

— Пра вас я не кажу. Я пра тых, што там...— кіўнула ўгору.

Уладзімір Паўлавіч падняўся, прайшоўся, пацёр далонямі скроні, сказаў бязлітасна да сябе:

— Не, і я. І я, дачка, калі па такой мерцы. І я цямніў... людзям... вам... Дзе я быў сёння! Мы з тваім бацькам толькі што ад суседа вашага, ад Дзенісенкі. Іх эвакуіравалі... Усіх. Я дзяцей хацеў забраць сюды... далей усё ж... пляменнікаў тваіх і сына Дзенісенкі. Маці твая не пусціла: як людзям — так і нам. Адвечная сялянская філасофія! І я, стары ідыёт, не праявіў улады. А цяпер вось каюся. Вас пужнуў з гарода, а праўду, усю праўду так і не сказаў. Ты пра Карповіча расказвала, а я думаў: праз дзень-два дзесяткі, а то і сотні кінуцца наўцёкі. І хто іх асудзіць? Каму трэба ахвярнасць? Не вайна ж.

— А Глеб там. Глеб там! — з болем і страхам вырвалася ў Ірыны.

— Глеб там,— шэптам, як баючыся, што пачуе тая сіла, што пагражае сыну, вымавіла Вольга Андрэеўна.

І крык сынавай жонкі, якая не пазнала яшчэ і радасцей мядовага часу, і шэпт маці скаланулі, спалохалі і пасаромілі Уладзіміра Паўлавіча: пра ўсё ён думаў, а пра сына менш за ўсё, быццам яму нічога і не пагражала. А ў гэты міг і яму страх ударыў у сэрца. Але хіба ён, муж, бацька, кіраўнік, мае права выдаваць свой страх? Яго страх даканае маці. І ён сказаў, нібы знаў пэўна,— каб заспакоіць іх:

— Заўтра Глеб прыедзе. Ад таго я і не расказваў вам, каб не палохаць. Але, бачыце, я не баюся. Дзе-дзе, а там радыяцыйная ахова — на ўзроўні.

— Ды ўжо ж! Аховай займаліся, таму чатыры дні не маглі паведаміць... А перадалі... Уладзімір Паўлавіч! Гэта ж ганьба! — абурылася Ірына.

— А яшчэ крычым пра галоснасць! — узлавана падтрымала яе свякроў.— Дзе яна, галоснасць ваша?

Нявестцы Уладзімір Паўлавіч гатовы быў падтакваць і нават спрэчныя яе выказванні выслухоўваў спакойна. А ўедлівая крытычнасць жонкі раздражняла больш, чым раней. Звычайна ён слухаў яе з цікавасцю, парыраваў з гумарам, але разумна прызнаваў, што яна, радавы бібліятэкар, лепш, чым усе памочнікі, большасць з якіх падхалімнічаюць, памагае вывучаць настрой людзей. Што чуе яна ад бацькоў і дзяцей, тое яму мог сказаць хіба што Пустаход, але ж які ні народнік

Іван, псіхалогія ў яго — кіраўніка, узняўся і ён над такімі, як Галя Быхоўская, уласны зяць, механізатар, крытыкуе яго і калгаснікі не ўсе задаволены ім.

Хацеў адказаць жонцы наконт галоснасці: маўляў, каму-каму, а табе яе хапае. Але адчуў, як устрывожыліся маці за сына ды і жонка за мужа, і стрымаў свой гумар, зразумеў, што не да месца ён тут, любое аспрэчванне іх — што соль на рану. Ды і што аспрэчваць! Сам ён, можа, горш думае пра некаторыя рэчы, больш бязлітасна, толькі яго навучылі маўчаць. А ім навошта маўчаць, жанчынам, ды яшчэ за сямейным сталом? Больш таго, пашкадаваў жонку: колькі яна правяла бяссонных начэй з-за Барыса, а цяпер яшчэ і Глеб, які ніколі не даваў падставы маці і бацьку для сур'ёзных хваляванняў. І вось далі абставіны. Д'ябальскія абставіны! Неспадзяваныя. Пра ўсё думалі, гаварылі, нават пра атамную вайну. А пра такую бяду ніхто ніколі слова не сказаў. Во навала, дык навала! І жанчыны маюць рацыю: самае цяжкае адчуванне ад таго, што нічога не ведаеш, у яго, гаспадара раёна, па сутнасці, ніякай інфармацыі. Маўчыць Гомель. Маўчыць Кіеў! А іх жа станцыя! Колькі ён патраціў энергіі, каб пераканаць Пятра і тых членаў бюро, якія глядзелі яму ў рот,— не выводзіць дзяцей на дэманстрацыю. І напэўна не пераканаў бы, каб не прыезд Пустахода з незвычайным паведамленнем, не дабро абкома. Значыць, сакратар абкома мае інфармацыю, калі не глыбейшую, то шырэйшую, чым маюць яны — усе тыя, хто пятыя суткі набірае рэнтгены, аднак нічога не сказаў на званок Сінякова, толькі даў згоду: школьнікаў не выводзіць. Злітаваўся. Ашчаслівіў. Без яго не маглі вырашыць меру аховы дзяцей! Асуджаюць Карповіча, а ён ухваляе рашучасць урача. Чалавек думаў пра дзяцей. Дрэнна, што толькі пра сваіх. Але і так падаў сігнал трывогі.

Каб ён выказаў усе тыя думкі ўстрывожаным жонцы і нявестцы! Здзівіліся б! Напэўна! А чаму не выказвае? Загадка загадак. Моцныя тармазы паставілі за чвэрць стагоддзя працы ў апараце? А можа, ёсць у гэтым і мудрасць — не выдаваць паведамленне аб няшчасці ўсё адразу, каб не абрушыць на людзей горны абвал. Не вытрымаюць людзі, захлынуцца

ў паніцы. Не для сваёй жа выгады не расказваў ён Вользе і Ірыне ў гэтыя дні ўсяго, што ведаў? Для іх спакою. Шкадаваў іх. Во зараз мусіў расказаць больш, чым, напэўна, расказаў бы, каб не было паведамлення па тэлебачанні, эвакуацыі суседзяў. А расказаў — і цяпер можна глянуць у іх вочы: колькі ў іх страху!

— Не панікуйце. Спіце спакойна. Заўтра я навяду даведкі.

Сам жахнуўся сваіх слоў: «Спіце спакойна». Як з развітальнай прамовы. Які там спакой!

Ноч была бяссонная. Маладая, можа, трохі і паспала, ва ўсялякім разе, не выдавала сябе: не рыпалі дзверы, не скрыпела падлога. А ім, старым, і таблеткі не памаглі. Злаваліся адно на аднаго: «Чаму не спіш?» — «А чаму ты не спіш?»

Але на работу пайшлі акуратна.

Для Уладзіміра Паўлавіча дзень быў шалёны. Пярэдадзень свята заўсёды марафон, самі яго наладжвалі. Акрамя перадсвяточных клопатаў, якіх хоць адбаўляй, праводзілі ўзаемаправерку гатоўнасці кормаўборачнай тэхнікі. Даўняя завядзёнка, якой ганарыліся: самі прыдумалі, ніхто не падказваў зверху. Але чаму перад Першамаем ці Днём Перамогі? Вострый на язык, Пыльчанка і раней жартаваў: усераённая п'янка! Хоць быў сааўтарам задумы. Сапраўды, камісіі тых гаспадарак, якія спаборнічалі, ехалі адзін да аднаго ахвотна, па-святочнаму апранутыя, да іх далучаліся работнікі аграпрамысловых службаў, аглядалі выстаўленую, як на парад, тэхніку, для формы прыдзіраліся, крытыкавалі, ставілі балы. А канчалася ўсё шумнымі застоллямі. Была прычына сустрэць свята. Так «правяралі» яшчэ ў мінулым годзе. Але так нельга сёлета, калі высокай пастановай загадана піць толькі чай. Які ж сэнс наладжваць яшчэ адну паказуху? Адмяніць — дэмаралізаваць людзей, выбіць з нармальнага рытму, нагадаць, што адбылося незвычайнае. А на гэта ніхто не даваў дазволу. Такая раздвоенасць, калі ў галаве зусім іншыя думкі, а займацца прыходзіцца непатрэбшчынай, раздражняла Уладзіміра Паўлавіча.

Ён не затрымліваўся на праверках, ездзіў з калгаса ў калгас, сам за рулём «газіка», вазіў з сабой Пятрушкіна з ДП-5.

Даручаў яму, пакуль прымалі тэхніку, выязджаць у поле, далей ад людскіх вачэй, і рабіць замеры. Зрабілі адкрыццё: вышэйшыя паказчыкі давала не паветра, давала зямля. Можна ўсцешыцца, што радыяцыя ў паветры паніжаецца. Але зямля... як набірае зямля! А што з гэтага вынікае, дык і бабулям, што грэюцца на прызбах, зразумела. Чым яе вымые з зямлі? Дажджамі? Куды?

Застаючыся ў машыне з адным Пятрушкіным, Пыльчанка даваў волю пачуццям і хрысціў на чым свет стаіць і сябе, сваю неадукаванасць, і ягоную, начальніка штаба, і вучоных, і ўсяго кіраўніцтва. Падпалкоўніка скразняком прадзімалі такія словы. Што стала з чалавекам?! Як з якара сарваўся. Панікуе? Баіцца? Ды не, не падобна.

Не вытлумачыўшы нічога таварышу па незвычайным падарожжы, Пыльчанка накіраваўся ў суседні раён, па палявых, балотных дарогах, ведаў мясціны, паляваў тут, выехаў у прырэчча, адкуль відаць станцыя, дзесятак кіламетраў да яе, не больш. Выскачыў з машыны, падняўся на ўзгорак. Вось яна — рукою падаць. Стаіць. Не дыміць. Не закапцела. Архітэктурай сваёй яна не захапляла ні здалёк, ні зблізку. Звычайны прамысловы аб'ект. Куды лепш глядзіцца горад, што вырас справа, кіламетры за тры. Горад, які яны часта лаялі — выцягвае рабочую сілу. Не станцыю лаялі — горад, бо большасць іх людзей робіць не на АЭС — у горадзе, у арганізацыях, якія абслугоўваюць станцыю, будуюць новую чаргу яе. Акрамя сына свайго, Уладзімір Паўлавіч не ведаў чалавека са свайго горада, з Пустаходавага калгаса, які рабіў бы непасрэдна вось у гэтых карпусах, высокіх і нізкіх. Глеб казаў, што ёсць такія, ездзяць разам з ім дадому.

Увагу прыцягнуў верталёт. Ён павіс над крайнім блокам станцыі. Пад верталётам гойдаўся пакет. Сарваўся, паляцеў уніз. За першым верталётам праз мінуты дзве-тры з'явіўся другі з такім жа пакетам, трэці...

Значна пазней Пыльчанка, як і ўсе іншыя, даведаецца, што верталёты кідалі ў жэрла разбуранага рэактара свінец і пясок. Дагэтуль многія вучоныя і тэхнікі сумняваюцца ў эфектыўнасці такога «тушэння» д'ябальскага агню. Раз-

бураючы ядзернае гаручае, цяжкія пакеты пяску і свінцу выплёсквалі ў атмасферу дадатковыя мільёны бэр.

Але ў той час наяўнасць верталётаў, іх метадычная руплівая праца заспакоіла Уладзіміра Паўлавіча — бацьку. За Глеба заспакоіла. Не адзін яго сын працуе там — сотні, тысячы людзей. Не сталі б іх там трымаць, каб пагражала небяспека. Лаючы кіраўніцтва за ўтойванне праўды, ён па-ранейшаму мераў гэтых людзей на свой аршын: і ён хаваў праўду нават ад жонкі і нявесткі. Але каб паслаць дзяцей на смерць... О не! На гэта не прымусілі б пад дулам аўтамата. Лягчэй памерці самому. Падумаў так — і яшчэ больш заспакоіў сябе. Нямала дрэнных кіраўнікоў, але, упэўнены быў, мала хто з самых забурэлых мог бы паслаць людзей на смерць. Урэшце, ёсць магутны інстынкт самааховы.

А Пятрушкіна ў гэты час кідала ў «газіку» ў жар і ў холад. Зашкаліла прыбор. І ён мог уявіць, які фон іх акружае. Чаго ён там не бачыў, гэты чортаў Пыльчанка? Вылез на бугор, як блыха на пуп. Во даў Бог начальнічка! Спадзяваўся, што пасля трыццаці гадоў блукання па свеце — ад Кубы да Курыл — урэшце знайшоў зацішны куток, спакойную работу. Нішто сабе зацішак! Горш за вайну. Там хоць ворага ведаеш. Плюнуць на ўсё? Ёсць жа пенсія. Не, не дазволіць афіцэрскі гонар, пачуццё грамадзянскага абавязку. Недарэмна і служба яго называецца грамадзянскай абаронай. Любіў службу сваю, а тут узненавідзеў — з-за яе бездапаможнасці. Правільна мацюкае яе Пыльчанка! Аднак як сказаць яму, што трэба хутчэй ад'язджаць? Каб не падумаў, што ён спалохаўся.

Вылез з машыны і, ступаючы так, быццам і зямля, і паветра замініраваныя, падняўся да старшыні, які стаяў над зялёнымі лазнякамі ў позе Напалеона.

— Уладзімір Паўлавіч, прыбор зашкаліла.

Адказ варты Напалеона:

— Гаўно прыбор, таму і зашкаліла.

Загадкавы чалавек, недаступны нармальнаму розуму! Далей ад яго!

І было Першае мая. Была дэманстрацыя. Значна больш шумная, чым у сталіцах. Вясёлыя святочныя калоны ішлі

міма чырвонай трыбуны, на якой стаялі раённыя правадыры, захоўваючы субардынацыю. Неслі партрэты высокіх правадыроў. З трыбуны ў калоны кідалі лозунгі. Дэманстранты адказвалі вясёлым «ура!».

У калонах яўна ішлі людзі на падпітку.

Сінякоў паклікаў старшыню райспажыўсаюза Калошу і прабіраў яго: чаму ўчора прадавалі гарэлку? Чаму не выканалі яго загад? Гандляр бажыўся, кляўся, што не прадалі ніводнай пляшкі. І маніў. Пыльчанка слухаў і думаў, як усе навучыліся маніць. Ён-то пэўна ведаў, што ва ўсіх крамах на сяле гарэлку прадавалі. Не прадавалі ў горадзе. У спецмагазіне. А ў рабочых пасёлках, напэўна, ішоў той жа гандаль.

Уладзімір Паўлавіч маўчаў — не падтрымліваў першага, што яму належала рабіць, не абараняў гандляра. Дунец паспрабаваў улезці ў размову, сказаў, што якраз пры радыяцыі рэкамендуецца прымаць гэтае зелле, і выклікаў агонь на сябе. Мусіў адступіць у тыл трыбуны, схавацца за жанчынамі, якіх толькі пазней, пад завяршэнне дэманстрацыі, правадыры па-джэнтльменску выставяць наперад, гэтых кіруючых дам, што на трэціх ролях у іерархіі. Вольга Андрэеўна высмейвала «джэнтльменства» кіруючай вярхушкі.

Але не пра гэтыя дробязі думаў Уладзімір Паўлавіч. Ён глядзеў не на калоны — за іх, на плошчу, на вуліцу. Столькі патраціў пораху, каб не выводзіць на дэманстрацыю дзяцей. А яны ўсе тут, абляпілі, як вераб'і, каштаны, ліпы. Арганізаваным, ім можна было б хоць папяровымі пілоткамі накрыць галовы. І яны не лазілі б па дрэвах, лісце якіх усмактала радыеактыўны ёд. Учора пасля яго вандравання па раёне, стомленаму, але душэўна ўзбуджанаму, аптымістычна настроенаму, Ірына прачытала цэлую лекцыю. Граматны доктар яго нявестка! І заспакоіла яго яшчэ больш: ёд распадаецца за дваццаць восем дзён. І зямля стане чыстая? Урэшце, гэта найгалоўнейшы клопат — ачысціць зямлю. Можна будзе яе ачысціць? Павінна ж навука нешта прыдумаць!

— З дзецьмі мы зрабілі не тое,— сказаў Сінякову, паказаўшы на дрэвы.

— А што я казаў! — самаўпэўнена выгукнуў Пятро Міхайлавіч.

— Іх трэба было сабраць і трымаць у школах.

— А як жа! Утрымалі б вы іх! — падключылася да размовы Кацярына Панасаўна, былая настаўніца; намесніца старшыні лічыла, што яе месца ў першым радзе — побач з другім сакратаром.

— І тое праўда — чорт іх утрымае! Ды і ў школу яны не пайшлі б — свята. Дэмакратыю гэтая публіка засвоіла, як ніхто. Аднак што рабіць з імі? З дзецьмі? — Уладзімір Паўлавіч пільна зазірнуў у вочы Сінякову.

Той адвярнуўся, выгукнуў лозунг:

— Працоўныя раёна! Скіруем усе сілы на перабудову!

«Няўжо праўда?» — думаў Пыльчанка з раздвоеным пачуццём, не вырашыўшы яшчэ, чаму даць перавагу — абурэнню ці разуменню і ўхваленню, калі далёкая, ажно мінская, чутка пацвердзіцца.

Перад дэманстрацыяй яго адвёў убок Дунец.

— Слухай, што я раскажу, Уладзімір Паўлавіч. Начаваў я сёння ў аддзяленні. На ўсялякі выпадак — бліжэй да пульта. Такая сітуацыя. Свята... І ў тры гадзіны... У тры ночы! Уяўляеш? Званок з Мінска. Намеснік міністра: якая абстаноўка? Далажыў. А ён: «А ці праўда, што ваш першы дзве гадзіны назад пасадзіў у машыну жонку, дзяцей і выехаў... не на поўдзень, канешне, дзе масты спаленыя?» — «Не знаю, таварыш генерал».— «А што вы знаеце?» Генеральская пстрычка ў нос начальніку аддзела. Думаеш, прыемна? Во што! Пасля такога хоць самому — на ўсе чатыры стараны. А як праверыць? Званіць на кватэру? Але што прыдумаць, каб падняць чалавека ў тры гадзіны? Нічога не мог прыдумаць. Паехаў у райком. Вартаўнік спіць. Спалохаў дзеда. «Машыны ўсе ў гаражы?» Не знае. Ніхто нічога не знае. Ды і я падумаў: дурнем трэба быць, каб для такой аперацыі браць службовую машыну. У яго брат у Мазыры. Словам, была ў мяне рабінавая ночка. Адлягло ад сэрца, калі ў сем гадзін убачыў Пятра на вуліцы, аглядаў гаспадар горад. Во народ! Хто мог пазваніць? Хто мог пазваніць ажно ў Мінск? Пасярод ночы! Дзеля чаго?

Узняць паніку? Ну, скажы, не га́ды хіба? Даў заданне следчаму праверыць на тэлефоннай станцыі: хто званіў? Сігнал ён даваў не міліцыі — у ЦК. Дзіўна, чаму адтуль не пазванілі на кватэру? Ці, думаеш, званілі? Спытай у Пятра.

— Сам далажы.

— Ды не... знаеш, няёмка неяк. Сапсуеш чалавеку святочны настрой.

— Ты сапсуеш. А я не сапсую?

— Пятро Міхайлавіч! А што Паліны Антонаўны не відаць?

— Маўчыце. Ледзьве ўгаварыў пасядзець дома, патрымаць хлопцаў. Каб не палезлі на дрэвы, як гэтыя.

Адказаў проста, не адводзячы вачэй. Праўду сказаў.

Пасля дэманстрацыі Уладзімір Паўлавіч расказаў Сінякову пра начную прыгоду. Пятро Міхайлавіч не засмяяўся, змяніўся з твару. Толькі стары дапытлівы і навучаны жыццём Пыльчанка мог здагадацца, чаму спалохаўся малады, адукаваны, самаўпэўнены сакратар: што там, наверсе, пра яго маглі вось так падумаць.

Запрасіў яго на абед.

— Ты ж не быў на вяселлі. Між іншым, мае хвалююцца, што Глеб не прыехаў на свята.

Сінякоў адмовіўся. Няўжо баіцца? Што ж гэта робіцца? Як мы жывём? Адзін аднаго баімося. У гады праклятага застою пасля такой дэманстрацыі «парэзвы вадзілі» — з кватэры ў кватэру, ад стала да стала. А сёння ніхто нікога не запрасіў. Можа, і збяруцца, але тайна, як падпольшчыкі.

Ад гэтага Уладзіміру Паўлавічу захацелася добра выпіць. А калі вярнуўся дадому, зазваніў тэлефон, «падліў масла» той жа начальнік міліцыі:

— Дык слухай, хто ўцёк. Твой баявы начальнік штаба — Пятрушкін. Рвануў з унукамі пасярод ночы.

Уладзімір Паўлавіч моцна вылаяўся, так, што пачулі на кухні жанчыны. Вольга Андрэеўна жахнулася, ёй стала сорамна перад нявесткай, ускочыла ў пакой, зачыніла дзверы, дакорліва і грэбліва — якая брыдота! — скрывілася:

— Валодзя!

Мацней захацелася напіцца. Але ж не аднаму.

З кім? Безумоўна, са сватам. На яго пасецы, дзе пяцьсот мілірэнтген. Чорт з імі, з рэнтгенамі, з бэрамі! Жыць дык жыць! Паміраць дык паміраць!

— Мама! Я паеду туды...

Вольга Андрэеўна замерла. Так, магчыма, замірае чалавек пад раптоўным ліўнем, калі адразу на яго абрушваюцца і радасць і навала, небяспека — ад удару бліскавіцы, ад вадаспаду. Радасць ад таго, што побач чалавек, жанчына, якая з такой жа любоўю, страхам, болем думае пра яе сына. Хіба не думала яна сама ўсю бяссонную ноч, што трэба паехаць туды, знайсці Глеба і пераканацца, што яму нічога не пагражае. Ірына думае пра гэта ж. Але ад таго, што і маладая жонка трывожыцца гэтак жа, падвоілася адчуванне небяспекі.

Падышла, абняла Ірыну, дагэтуль толькі ў загсе вось так абняла. Там пацалавала. Тут не пацалавала — не з тае нагоды.

— Не, дачка, паеду я.

— Вас не пусціць Уладзімір Паўлавіч.

— А цябе адну я не пушчу! Ірыначка, дзіцятка маё... Ніхто цябе адну не пусціць...

— Мама, я не магу чакаць. Не за гарамі ж гэта, не за морамі. За дзень дайсці можна... А мы нічога не знаем: што там? што з ім?

— Паедзем разам. Удзвюх.

— Мама!

— А як паедзем? Бацька кажа: паромныя пераправы блакіраваны, дарогі перакрытыя...

— Паедзем ад нашых. Ліза і Віктар... вы не знаеце, якія яны дзелавыя. Як бацька. Яны прыдумаюць. Яны ўсё ўмеюць. Віктар праз любыя кардоны правязе. З нашага сяла многа хлопцаў працуе там, усе дарогі знаюць... Я пазваню Віцю, каб прыехаў,— але тут жа ўздыхнула: — Не, Віця ўжо, канешне, цёпленькі.

— Не на ноч жа гледзячы, Ірыначка. Заўтра. Заўтра раніцою... Ды і здаецца мне: Глеб сёння прыедзе. Глеб прыедзе!

Раздзел 3

# Аўрал

## I

Лявонцій Мікалаевіч — вялікі працаўнік. Са студэнцкіх гадоў у яго быў суровы парадак — прачынацца не пазней шасці. Толькі тройчы за год ён дазваляў сабе паспаць пазней — першага студзеня, другога мая і восьмага лістапада. Адсыпаўся ледзьве не да абеду, набіраў сну на месяцы напружанай працы. У яго пурытанскім жыцці — не піў, не курыў, не гуляў ні ў карты, ні ў більярд, на лыжах, праўда, хадзіў — тры дні сну былі ўзнагародай не толькі самому сабе, але і ўзнагародай хатніх — жонкі, дачкі, унукаў: усе шанавалі і пільна ахоўвалі яго сон. Акрамя зяця. Той, няўдзячны свінтух, п'янюга, мог па-конску фыркаць у ванне, па-разбойніцку свістаць пад акном дачы. Любога іншага за такую непавагу Дырэктар расцёр бы ў парашок, а зяця не крані: жонка і дачка дзьмухаюць на яго, як на скулу,— не пакрыўдзіўся б Генадзічак; ад крыўды яго пакутавала хваравітая Тоня. Чуў, як за адчыненым акном зяць бухае валейбольным мячыкам. Чуў нават, як упрошвала дачка і павяла некуды ў лес ці на пляцоўку побач з дачай суседа. Няхай пабухаюць ля таго аматара паесці, выпіць і паспаць.

І Лявонцій Мікалаевіч зноў пагрузіўся ў салодкі сон. І сніў прыемнае — дзіцячую гульню.

Разбудзіла жонка, далікатна тузала за плячо.

— Лёня... Лёня, прачніся. Тэлефон. Ягор Кузьміч.

Напружыў сонную памяць, успамінаючы, хто з яго падначаленых Ягор Кузьміч, каб у думках пасладь яго... Але ўбачыў трубку, якую працягвала жонка,— пераключыла тэлефон на спальню; па колеры трубкі сцяміў, які Ягор звоніць. Адкінуў коўдру, падхапіўся з ложка, выцягнуўся ў пакамечанай піжаме ўсё роўна як у парадным мундзіры.

— Слухаю, Ягор Кузьміч.

— Са святам.

— Дзякую. І вас.

— Што ў вас робіцца ў сувязі з аварыяй?

— У нас? Паставілі жывёлу на стойлавае ўтрыманне. Учора на трыбуне на гэтай меры настойваў старшыня аграпрома.

— На якой адлегласці вы?

— Кіламетраў сорак—пяцьдзесят.

— Ды не. Мне далажылі: бліжэй.

— Вы маеце на ўвазе вёскі?

— Усё, дзе жывуць людзі.

— Вёскі бліжэй. Райцэнтры...

— Ёсць думка вучоных: эвакуіраваць з вашых сёл малых дзяцей і цяжарных жанчын. Не цягніце. Увечары засядае Палітбюро. Буду дакладваць.

— Слухаюся, Ягор Кузьміч.

Палажыўшы трубку, Лявонцій Мікалаевіч ажно застагнаў, спалохаўшы жонку.

— Што здарылася, Лёня?

— Нічога.

А перажываў ён з-за драбязы. Для каго іншага, можа, і драбяза, а для яго — аварыя. Не мог дараваць сабе. Навошта павялічыў адлегласць? З якой мэтай? І атрымаў моцную пстрычку па носе. Слёзы коцяцца. Каб жа не ведаў, то было б даравальна. Але ж добра ведаў, на якой адлегласці ад станцыі бліжэйшыя беларускія вёскі, назвы гэтых вёсак запомніў з тапаграфічнай карты — дакладваў начальнік грамадзянскай абароны. Але як дакладваў? Без трывогі. Во хто вінаваты — начальнік. І вучоныя. З іх трэба зняць стружку!

«Што ў вас робіцца?» А што ў нас робіцца?

Пазваніў загадчыку аддзела навукі. Падняў з ложка, як паднялі яго. Спытаў без вітання, без прэамбулы:

— Што ў нас робіцца па дакладной Мартынюка?

Іван Міхайлавіч засоп у нос. Што робіцца? Дакладная, пазначаная сінім і чырвоным фламастэрамі, была спушчана яму, але акрамя яго размашыста напісанага прозвішча, ніякай рэзалюцыі на ёй не было. Што ж можна было зрабіць?

— Выехала група з Гомельскага універсітэта.

— Медыкі выехалі?

— Гэта не па маёй часці.

Дырэктар вылаяўся:

— Дзеячы! Раздзялілі рэспубліку на дзялянкі. І самі не знаеце, дзе чыя частка. Я павінен паказаць вам. Чаму Мартынюк не дачакаўся прыёму?

Іван Міхайлавіч сціснуў трубку да болю ў пальцах і засоп мацней. Паспрабуй сказаць, што чакаў да шасці вечара. Немагчыма прадбачыць рэакцыі. Але пэўна адно: з памочнікам адносіны сапсуеш, бо віна будзе перанесена на яго, калі сказаць шэфу праўду, што званіў памочніку многа разоў у прысутнасці акадэміка. Сябе Дырэктар не абвінаваціць, не было такога яшчэ. Вінаватымі будуць яны, выканаўцы.

Уздыхнуў, сумна згадзіўшыся:

— Не дачакаўся.

— Ганарысты народ! Вучоныя! Анархісты. Пабылі б у нашай скуры. Знайдзіце Мартынюка. Зараз жа. І збярыце загадчыкаў і міністраў. Начальніка грамадзянскай абароны. Астатнім я пазваню сам. Праз гадзіну нарада... У зале пасяджэнняў...

Іван Міхайлавіч змоўчаў, у яго пасінелі не толькі пальцы рукі, што сціскала трубку, але і вушы.

— Вы ў арміі служылі?

— Служыў. Палітработнікам.

— Яно і відаць. Лічыце сябе мабілізаваным. Сітуацыя незвычайная. Задачу зразумелі?

— Так точна.

— Вось так. Дзейнічайце.

Івану Міхайлавічу хацелася завыць. Чаму Дырэктар наваліўся на яго? З-за Мартынюка? Быццам Васіль Данілавіч вінаваты ў аварыі. Сабраць за гадзіну загадчыкаў аддзелаў, міністраў... Усіх? Ды гэта ж семдзесят чалавек! Дзе іх знайсці ў святочны дзень? У прыёмнай, на тэлефонах,— адзін дзяжурны. Хто? Можа быць такі, што не вельмі і паслухаецца загадчыка аддзела. Ёсць жа вялікая арганізацыйная служба. Чаму не кіраўнікам гэтай службы даў шэф такое даручэнне, а яму? Помсціць вучоным? Ён не любіць іх. Але разважаць няма калі. Круці, Ваня, дыскі. Круціся, Ваня, сам!

Сабраліся са спазненнем на сорак мінут у палавінным саставе. Лявонцій Мікалаевіч увайшоў у залу з бакавых дзвярэй, паглядзеў на свой ручны гадзіннік, пасля на насценны, як бы звёрыў іх, і перавёў суровы позірк з-пад рудаватых, быц-

цам падпаленых броваў на Івана Міхайлавіча. Той, нябога, ажно ўціснуў галаву ў плечы. Але падняўся кіраўнік справамі і выручыў: смела растлумачыў, што астатніх людзей знайсці не ўдалося.

— Зашыліся ў падполле?

— Пад коўдры,— пажартаваў нехта пад лёгкі смяшок.

Лявонцій Мікалаевіч жарту не падтрымаў. Твар яго набыў звыклы выраз сур'ёзнай дзелавітасці. Цанілі яго за адно — доўгіх прамоў не любіў, асабліва ўступаў розных, браў быка за рогі адразу.

— Пытанне адно: што ў нас робіцца ў сувязі з аварыяй?

Прысутныя напружыліся і ажно пацягнуліся ў яго бок, наставілі вушы: кожнаму хацелася даведацца — а што ж робіцца? Нарэшце можна даведацца не ад шафёраў і цешч, а з вуснаў кіраўніка, які мог размаўляць з генеральным. Але не пачулі яны гэтага. Лявонцій Мікалаевіч падняў міністра аховы здароўя.

— Што робіць медыцына?

Міністр быў смелым чалавекам, калегі, праўда, спрошчана тлумачылі яго смеласць: мае вучоныя ступені і валодае прафесіяй, якая нядрэнна можа карміць,— добры хірург; такі можа і жарты дазволіць у адрас начальства.

— Мы не маем інфармацыі аб радыяцыйнай абстаноўцы, акрамя той, якую перадаў мне ўкраінскі калега і якую я атрымаў, калі пазаўчора наведаў Чарнобыль. Я дакладваў вам. На станцыю мяне не пусцілі...

— На станцыю і мяне не пусцілі,— сказаў Мартынюк.

— І вы былі ў Чарнобылі?

— Яшчэ дваццаць сёмага.

Лявонцій Мікалаевіч закрэсліў гераізм аднаго і другога ўедлівай заўвагай:

— Пабыць у Чарнобылі — усё роўна што пабыць у Брагіне.

Хтосьці з падхалімаў хіхікнуў.

Іншыя расчаравана панурыліся: выходзіць, і ён знае не больш таго, што вядома ім. У Лявонція Мікалаевіча на шыі, уніз ад вушэй, папаўзлі багровыя плямы.

— Грамадзянская абарона.

Генерал стукнуў абцасамі.

— Я не паспеў заехаць на работу. Дазвольце паехаць узяць даныя за ўчарашні дзень.

Прысутныя засмяяліся. Генерал спапяліў іх позіркам: о, каб гэтыя капітаны трапілі пад яго каманду! Ён быў у гэтай зале радзей, чым самыя «нековровые» — міністры фінансаў і сацыяльнага забеспячэння, і не ведаў прыкмет буры. Астатнія ведалі. Пабялелы лоб і цяжкая хада з сярэдзіны стала ў канец яго і назад да супрацьлеглага тарца, як бы развага перад доўгай прамовай, добра вядомыя сімптомы блізкага выбуху, калі Дырэктар «зрываўся з тармазоў», не падбіраў словы і наладжваў такі разнос вінаватаму, што таму месяц свярбела, калі ўвогуле тырада не канчалася аргвывадамі.

Але генерала ратаваў Мартынюк, які сціпла сядзеў у канцы залы за сталом для рэдактараў і карэспандэнтаў, яму патрэбны быў стол — на ім ляжаў расчынены дыпламат, поўны папер.

— Дазвольце мне.

Лявонцій Мікалаевіч ажно ўздрыгнуў, што хтось адважыўся перапыніць яго. Але, ацаніўшы сітуацыю, бадай узрадаваўся:

— Калі ласка,— аднак, цяжка сеўшы — не далі выпусціць пары, папярэдзіў: — Але прашу ўлічыць: слухаць лекцыю ў нас няма часу.

— Пяць мінут.

— Прашу.

Акадэмік гаварыў мінут дваццаць, бо пасыпаліся пытанні. Перадаў усе даныя, якія яму ўдалося атрымаць ад маскоўскіх, кіеўскіх калег, навуковыя разлікі, уласныя замеры, якія зрабіў у выніку пазаўчарашняй паездкі ў паўднёвыя раёны Гомельшчыны. Тое, што ён паспеў з'ездзіць і ў Чарнобыль і туды, зрабіла ўражанне і на кіраўніка, і на ўсіх удзельнікаў нарады.

— Вашы рэкамендацыі?

— Першачарговыя — кароткія: эвакуіраваць насельніцтва па меншай меры з пяцідзесяцікіламетровай зоны.

Лявонцій Мікалаевіч адзначыў, што вучоны зменшыў радыус, у дакладной было сто, але не нагадаў пра гэта — не

дыскусійная тэма. Не для таго сабраў кіраўнікоў ведамстваў, каб абмяркоўваць даклад акадэміка, для таго, каб выконваць указанне Ягора Кузьміча.

Паглядзеў на гадзіннік, зноў гэтак жа — на свой, ручны і на электронны насценны. Вымусіў шмат каго таксама засекчы час на сваіх швейцарскіх і японскіх.

— Усім...— падкрэсліў: — Усім! — Кіраўнікі насцярожыліся.— Праз гадзіну выехаць у раёны,— назваў пяць раёнаў.— Сёння да вечара з вёсак, якія будуць названы, вывезці малых дзяцей і цяжарных жанчын! Задача зразумелая?

Зразумелая. Але многім хацелася лезці пад стол: няма іх тут, не чулі яны.

— У дваццаць два нуль-нуль сустракаемся ў Гомельскім абкоме.

Хтосьці ціхенька ўхнуў: дабрацца за чатырыста вёрст, правесці такую работу і імчаць паўтары сотні кіламетраў з дакладам.

— Пытанні ёсць?

— А з транспартам як? — нясмела піскнуў міністр культуры.

— У вас што — няма транспарту?

— Вадзіцелі ўсе да цешч раз'ехаліся. Свята,— адказаў вядомы гумарыст — міністр лясной гаспадаркі.

— Памагчы вам сабраць вадзіцеляў? — саркастычна спытаў Лявонцій Мікалаевіч, але тут жа зліταваўся, загадаў свайму намесніку: — Арганізуйце авіярэйс на Мазыр.— Міністру аўтамабільнага: — Вышліце сорак аўтобусаў.

— Дзе ўзяць? — ахнуў міністр.

— Я падумаю за вас — дзе ўзяць.

Не, лепш думаць самому.

Спускаючыся па лесвіцы, кіраўнікі змрочна жартавалі:

— Вясёленькі Першамай.

— Першамай мінуў. Вялікдзень наступае.

— Яйкі сабраўся фарбаваць?

— Яны самі пасінелі.

Міністр культуры разгублена і спалохана звяртаўся да калег — як хлапчук:

— А мне навошта ехаць, таварышы? Не разумею. Мне — навошта?

— Глядзі! Не разумее чалавек. Дрэнна ты слухаў. А оперны тэатр хто павязе?

— Які тэатр? Навошта?

— Псалмы спяваць. За ўпакой раба божага Юрыя.

— Глядзіце, як бы не праспявалі за ўпакой рабоў божых.

— А дзе чортаў фізік? Навыдумлялі геніі! А як ахоўвацца ад радыяцыі? Слова не сказаў. Касцюмы хоць якія ў каго ёсць?

— Твае ж фабрыкі шыюць іх. І ты — кіраўнік грамадзянскай абароны ў сваёй парафіі. У каго пытаеш?

— У сябе пытаю! У сябе! Давайце спытаем у саміх сябе. Мякка ён з намі гаварыў...

— Чакай, ён табе падсцеле саломкі.

— Не мітынгуй. Вазьмі ў машыну. Я свайго Пецю не знайду.

— Думаеш, я знайду?

— Значыцца, самалётам?

— А там каму кланяцца?

— Аляксею, чалавеку божаму.

— Не, навошта мне ехаць? Таварышы!

— У каго ты пытаеш? У яго ідзі спытай.

Убаку:

— Мандражэ ўзяло скакунка нашага.

— Гэта яму не да актрыс лазіць.

— А праўда — што адзяваць?

— Саван. Менш клопату будзе.

— Гумар шыбеніка ў цябе, Сяргей Цімафеевіч.

— А табе што — Хазанава трэба?

— Хазанаў падыходзіў да ўчарашняга настрою. Хіба не праветрыўся яшчэ?

— Нічога, там праветрымся — на радыеактыўным скразняку.

— Жарты жартамі, а японцы ўцяклі яшчэ пазаўчора. Прафсаюзная дэлегацыя. Прыляцелі і — назад. «Карандашы» іх гвалт узнялі. Завылі, што пажарныя сірэны.

— Праўда? Ды выкінь ты свой д'ябальскі гумар! Знайшоў час для жартаў! Раскажы па-чалавечы.

— За што купіў — за тое прадаю. Ад прафсаюзнікаў пачуў. Пазвані ім — яны раскажуць. Толькі — спяць, заразы.

— Пазвані! Жонка на дачы. Ключы ад кватэры забыўся. Што адзяваць?

— Хадзем — дам рыбалоўную робу. Спяцоўка — што трэба.

— А гэта ідэя — парусіну нацягнуць.

— Прыляціць брыгада рыбаловаў.

— Лавіць рыбку ў мутнай вадзе.

У фае, дзе вартавалі міліцыянеры, міністры змоўклі, разбіралі з вешалкі капелюшы сур'ёзна і паважна.

Міністр культуры ўважліва паглядзеў у люстра, адзначыў, што змен у знешнім выглядзе не адбылося, мог бы парадавацца, але змрочна ўздыхнуў: пашкадаваў сябе, такога прыгожага.

## II

Неяк само сабою, без каманды, атрымалася, што ў тую ж раніцу другога мая райвыканком, у прыватнасці кабінет старшыні, ператварыўся ў штаб. Туды прыйшлі сакратары райкома, сабраліся кіраўнікі раённых службаў, хоць ніхто іх не клікаў. Але напэўна наступіў той крытычны момант, калі людзі не маглі знаходзіцца ў няведанні і бяздзейнасці, жыць чуткамі, зрэдку рэальнымі, а ў большасці — фантастычнымі, неверагоднымі.

«Што рабіць?» — ніхто не пытаўся, але пытанне вісела ў паветры. Запаўняла галовы. Да болю. Паводзілі сябе дэмакратычна — як на пахаванні: усе роўныя. Не пыталіся дазволу зайсці, сядзелі, слухалі размовы, каму колькі хацелася. І кожны выказваў любую думку, прапанову, часам слушную, у большасці выпадкаў нерэальную: цягнула на максімум.

Нечакана праявіў рашучасць і актыўнасць Сінякоў. Не прапанаваў — загадаў адсяліць з паўднёвых гаспадарак малых дзяцей і цяжарных жанчын. Яго аднадушна падтрымалі, бо ўсе разумелі, што нешта трэба рабіць.

Пыльчанка ў тую раніцу быў не самы дзейны, у яго трашчала галава, але ён без разваг дапоўніў:

— І з райцэнтра! У ім — канцэнтрацыя маладых жанчын, такую прамысловасць мы пасадзілі. У калгасах іх нямнога засталося.

Яшчэ раз здзівіў першы сакратар, які і на бюро і ўчора на трыбуне здаваўся разгубленым і бяздзейным, чакаў указанняў зверху. А высветлілася, што яшчэ ўчора, калі ён, Пыльчанка, магчыма, быў ужо на пасецы, Пятро Міхайлавіч даў каманду дырэктару аўтабазы сабраць шафёраў, трымаць транспарт у баявой гатоўнасці.

За лічаныя хвіліны распісалі, хто за якія населеныя пункты адказвае, і штаб апусцеў.

А гадзіны праз дзве паступіла дакладна такая ж каманда з абкома — тады, калі з бліжэйшых вёсак пачалі дакладваць аб ходзе эвакуацыі.

Сінякоў пазваніў з райкома, задаволены сабой:

— Правільныя мы рашэнні з вамі прымаем, Уладзімір Паўлавіч.

— А я на бюро яшчэ казаў пра наша права на самастойныя рашэнні. Нам пячэ, а не ім. Я даў каманду паставіць кароў на стойлавае ўтрыманне, на леташні корм. Жыта не касіць.

— Пакоцяцца ўніз надоі.

— Пра што мы думаем — пра надоі ці пра людзей? Мне толькі што званіў Пустаход. Малаказавод вярнуў частку яго малака — бруднае. Дык ён на мяне ціснe — убытак! Знаеш, куды я паслаў свайго дарагога свата? «Куды я дзену яго?» Закапаць,— сказаў я яму. Самлеў чалавек. «Малако закапаць?!!» Нават Іван не разумее.

— Вы праўда загадалі закапаць малако?

— А ты што зрабіў бы?

— Слухайце, не кажыце нікому. Да нас едзе начальства.

Вось так: толькі што чалавек праявіў смелую ініцыятыву і — зноў дрыжыць. Спалохаўся, што выльюць малако ў яму. Але парадокс яшчэ і ў тым, што не закапае Іван малако, пашкадуе — скорміць свінням. І — пацягнецца ланцужок. Ірына тлумачыла яму механізм дзеяння радыяцыі. Не ўсё ведала і яна. Але Пыльчанка падумаў: як мала ведае ён, кіраўнік, аграрнік! Чаму толькі яго не вучылі! І пра радыяцыю нямала

чыталі — у грамадзянскай абароне, на курсах у партшколе. Чаму ж так мала засталося ў галаве? Дрэнна чыталі? Ці так няўважліва яны слухалі? Не верылі, што спатрэбяцца ў рабоце гэтыя веды. Разважалі: калі яна ахне, атамная, то будзе не да аховы хлеба, а тым больш малака і мяса. Ратуй душы! Але ж не можа знікнуць жыццё. А пакуль чалавек жыве, яму трэба хлеб і малако.

Пачалі прыязджаць упаўнаважаныя з вобласці. Во калі аўрал! На сёмы дзень пасля аварыі! Але навошта іх гэтулькі? Чым ім заняцца?

Пыльчанка са змрочнай злараднасцю падумаў, што выдаўся, магчыма, адзіны унікальны выпадак, калі не начальства камандуе ім, а яму абставінамі дадзена права пакамандаваць сваімі начальнікамі. І ён не даваў ім сядзець у штабе, пад дахам, бесцырымонна выправаджваў у паўднёвыя вёскі, хоць і бачыў, як неахвотна некаторыя ехалі туды, а той-сёй, як пасля высветлілася, накіраваўся ў супрацьлеглы бок.

У другой палавіне дня адзін за адным, на ўзмыленых машынах, пад'язджалі «госці» з Мінска. Высокія госці — міністры, кіраўнікі рэспубліканскіх ведамстваў. Акрамя хіба аграпрама, некаторыя з іх упершыню наведаліся ў гэты глыбокі палескі раён. Во з якой нагоды ён апынуўся ў цэнтры ўвагі начальства! Як бы гасцей найлепшым чынам выкарыстаць? Пыльчанка шкадаваў, што не ведалі загадзя, хто прыедзе, і не падумалі, у каго што прасіць.

Пазваніў Сінякоў, бадай спалоханы, бо амаль усе пасланцы сталіцы пад'язджалі да райкома, адтуль ужо іх адсылалі на другі бок плошчы — у райвыканком.

Дзяжурны вартаўнік так проста і тлумачыў, сам дадумаўся, без інструкцый:

— Штаб там,— і паказваў рукой, куды чарговаму камандзіраванаму падавацца.

Сінякоў спытаў:

— Вы адзін?

Уладзімір Паўлавіч здагадаўся, што першы хоча шчыра выказацца наконт нашэсця кепак, усе прыязджалі ў кепках, не цяжка было зразумець — чаму: каб не шкада было выкінуць іх. Адказаў:

— Свае тут круцяцца,— і пажартаваў: — Свае ў дошку. Хлопцы — арлы! І кабеты — галубкі! — хоць у кабінеце было ажно трое міністраў, якіх толькі што дзяжурны райкома адаслаў сюды.

— Слухайце, вы мудры чалавек, растлумачце мне: навошта нам столькі «анёлаў»?

Пыльчанка засмяяўся.

Анёламі назвала Кацярына Панасаўна пасланцоў з вобласці:

«Глядзіце, колькі анёлаў злятаецца».

Яны глядзелі з акна ажно на чатыры машыны, што спыніліся ля райвыканкома.

Дунец тады пажартаваў:

«Па душы нашы».

Таму Пыльчанка адказаў сакратару з працягам жарту:

— Душы нашы цяжкія. Грахоў у нас многа. Аднаго мяне сем анёлаў не паднімуць.

— Вы яшчэ здольны жартаваць?

— Пятро Міхайлавіч! У нашай сітуацыі жарт лепш за ёдзісты калій і кабернэ.

— Куды вы іх дзенеце?

— Арганізую экскурсію ў Прыпяць. А што? Можа, зрабіць такую прапанову? Не, гэта я зраблю тады, калі прыедзе самае высокае. А цяпер рашаю іншую праблему — накарміць. Па колькі выставіць на нос? Свята ж!

— Зайздрошчу вашаму аптымізму.

— Як казаў Карповіч, дарога яму скацеркай, і вы называеце гэта аптымізмам?

Міністры глядзелі на гаспадара шырока расплюшчанымі вачамі. Па-першае, здзіўляла яго незалежнасць — ніякай ліслівасці перад наменклатурнымі тузамі. Праўда, яны не непасрэдныя яго начальнікі, але ж прывыклі, што на раённым узроўні іх сустракалі з сагнутымі шыямі. А потым яго паводзіны — быццам няма катастрофы. Ну, аптымізму можна і напусціць. Аднак упэўненасць, з якой аддае загады, распараджэнні,— не паказная, гэта трэба ўмець, выпрацаваць вопытам. Быццам праз усё жыццё толькі тым і займаўся,

што памагаў людзям пераадольваць вось такія незвычайныя абставіны.

Эвакуацыя дзяцей і жанчын ідзе поўным ходам. Зводкі паступаюць як данясенні з участкаў фронту. Прытым не ў наступленні, калі ўсе камандзіры спяшаюцца далажыць аб сваіх перамогах, а ў адступленні камандуючы да хрыпаты выбівае хоць якое данясенне і задыхаецца, панікуе ад няведання абстаноўкі.

Тут адступленне, аднак сувязі не парваныя, і камандуючы спакойна, нават з жартамі кіруе аперацыяй.

Высокія пасланцы не разумелі, навошта было так паспешліва іх кідаць сюды, калі каманду аб эвакуацыі перадалі па тэлефоне; не ведалі, што яна пачалася гадзіны за тры да званка з абкома. Аднак настрой у міністраў узнімаўся. Асабліва ў міністра культуры. Той ехаў са страхам, тым больш што страх падаграваў гаспадар машыны — міністр аховы здароўя. Расказваў такія жахі пра радыяцыю, што застывала кроў. Ды яшчэ і здзекаваўся, чортаў эскулап, высмейваў і гумавыя боты, і парусінавы касцюм, які вёз калега, падражніваўся, што ён апрануў асобую антырадыяцыйную бялізну, паказваў чырвоныя (як не паверыць?) шкарпэткі і сінія кальсоны. Во тып! А яшчэ ахова здароўя! Сам адзеўся, а яго вязе, лічы, голенькага пад рэнтгены. Добра, што не паддаўся на правакацыю — прапанову эскулапа пры пад'ездзе да гарадка надзець гумавыя боты і рыбалоўны касцюм. Як бы ён выглядаў, кіраўнік культуры, эстэт?

Падбадзёрыў выгляд райцэнтра. Нічога не змянілася. Вісяць сцягі, партрэты. Ніякай панікі. Спакойна гуляюць святочна адзетыя людзі. Ёсць п'яныя.

Трывогу ў вачах прахожых яны ўбачылі тады, калі насустрач ім прайшлі аўтобусы з дзецьмі. Але гэта іх, бадай, парадавала — што не трэба будзе пачынаць непрыемную работу. Зусім заспакоіла атмасфера ў кабінеце старшыні. Культуру нават развесяліла, якую пстрычку па носе даў гаспадар яго сябру — разумніку і хахмачу. Не падобна, што яны ў блізкіх адносінах, знаёмыя — не больш. Аднак Пыльчанка адразу пасля прывітання з фамільярнасцю, якая, бадай, шакіравала,— на «ты», патрабавальна спытаў:

— Ахова здароўя! Ты хоць дазіметр нашым медыкам прывёз?

Міністр развёў рукамі.

— На якога ж хрэна вы ехалі сюды? Якая ад вас карысць?

Культура хмыкнула. А медыцына адказала з самакрытычнай сур'ёзнасцю:

— Тут вы, таварыш Пыльчанка, пацэлілі, як кажуць, у яблычак. Але не ў мой. Не. У таго, хто вось так, па-пажарнаму, кінуў нас сюды. Дзе яго ўзяць, дазіметр? Зубную шчотку не паспеў захапіць.

— Чым жа вы нам паможаце?

— Падтрымаем маральна.

Пыльчанка паглядзеў на міністра: сур'ёзна ён ці жартуе? Здаецца, сур'ёзна.

— Дзякуй і за гэта.

Міністр культуры, назіраючы праз акно, як у скверы пад каштанамі цалуецца парачка — знайшлі час і месца! — засвістаў арыю тарэадора.

Пазваніла Дар'я Гаплік ледзьве не са слязамі і раздражнёна:

— Адмаўляецца яна выязджаць, ваша Быхоўская.

— Мая?

— І дзяцей не аддае. Яны там мітынгуюць, бабы. Патрабуюць, каб вы прыехалі.

Пыльчанка ўзлаваўся. Сакратар выканкома нядрэнны арганізатар, аднак нярэдка ў выніку сваёй бабскай логікі стварае праблемы.

— Ты, дарагуля, дзе ні з'яўляешся, дык абрастаеш мітынгамі, бо сама любіш памітынгаваць.

— А што, я пад канвоем яе павязу? Дайце міліцыю.

— Я табе дам міліцыю. Добра. Прыедзем. Папярэдзь жанчын — міністры едуць. Каб не вельмі яны там...

— Нам ехаць? — зноў спалохаўся міністр культуры.

— Хіба вам не хочацца пагаварыць з народам? Між іншым, культурны інтэрнат — фабрыкі музычных інструментаў.

— Гэта не мая фабрыка.

— Не твая — не мая. А чыя? Вось так і дзелім. А людзі нашы. І бяда наша!

— Паедзем, паедзем,— ахвотна згадзіўся міністр здароўя.

Пыльчанка сам трохі баяўся, што каля інтэрната сабраўся натоўп і мужчыны ўжо, безумоўна, пад градусам. Але, сустракаючы спачатку «штурхачоў» з вобласці і з Мінска з гумарам, ён паступова раздражняўся супраць іх: навошта едуць? Без інфармацыі, больш шырокай і глыбокай, чым тая, якой валодаюць яны, абарыгены, без інструкцый — што рабіць і як рабіць, без прыбораў і тэхнікі; хаця б лішні аўтобус падкінулі... Сваімі сродкамі прыходзіцца вывозіць дзяцей. І ён зларадна намерыўся кінуць гэтыя дзве высокія персоны ў натоўп — няхай пагавораць. Таму і запрасіў міністраў. Праўда, выпусціўшы іх з кабінета, пазваніў Дунцу, каб прыслаў нарад міліцыі на ўсялякі выпадак.

Але ніякага натоўпу ля барака не было. Дар'я згусціла фарбы. І яны ўвайшлі ў цёмны калідор змрочнай будыніны, архітэктурнага шэдэўра першых пасляваенных гадоў, струхнелай да таго, што і звонку на вуглах барак падпіралі слупы, а ў доўгім калідоры, як у забоі, стаялі стойкі, падтрымліваючы правіслую столь. На слупах гэтых, на цвіках і круках віселі рабочае адзенне і ўсялякі хлам — ад ночваў да дзіцячай каляскі. Густое паветра было напоўнена такой гамай пахаў, што любому парфумнаму дэгустатару забіла б нос на ўсё жыццё. Чым толькі там не пахла! Дзіцячымі пялёнкамі і пракіслай бражкай, памыямі і апетытнай смажанінай, бруднымі шкарпэткамі і духамі, няхай сабе і не вельмі тонкімі.

Пыльчанка наведваўся сюды і раней, у тым ліку да тае ж Галі, увогуле барак гэты нельга было абмінуць, тут жылі такія шумныя прасіцельніцы, што паднялі б самага зачарсцвелага бюракрата, а ён, на шчасце сваё, такім не зрабіўся, ён бачыў людскія беды, толькі сілы не меў памагчы ім.

Рашуча, праз пахі, пад жаночымі панталонамі ў калідоры, правёў міністраў у пакой мнагадзетнай сям'і. Карціна ім адкрылася жывапісная, такую не напісаў пэндзаль ніводнага генія-перадзвіжніка, а савецкі мастак і не мог напісаць: не тыпова для савецкай рэчаіснасці.

Пакой быў вялікі, інтэрнацкі, раней у ім жыло чалавек дзесяць дзяўчат, якія клеілі, наладжвалі вясёлыя гармонікі.

Пасярод стаялі дзве шахтныя стойкі — падпіралі столь,— абвешаныя, як і калідоры, адзеннем, пераважна дзіцячым.

Але не гэта ўразіла наведвальнікаў. Паміж стойкамі на вузлах сядзела мадонна з дзіцем на руках, паўтарагадовым хлопчыкам — анёлам, толькі што без крылаў. З бакоў да мамы туліліся яшчэ трое малых, дзве дзяўчынкі і хлопчык, самая старэйшая, школьніца пятага класа, стаяла каля акна з пакутлівым выглядам — нясцерпна сорамна было ёй, піянерцы, за ўсё, што тут адбываецца. Ёй, малой летуценніцы, якраз хацелася паехаць хоць куды — куды павязуць. А ў куце за сталом сядзелі трое мужчын і... пілі самагонку. Міністра культуры ўразіла, што ніхто тут не здзівіўся нечаканым няпрошаным гасцям і не збянтэжыўся, акрамя хіба школьніцы.

За спіной у Пыльчанкі невядома адкуль — з-за завалаў калідорных, ці што? — з'явілася Дар'я. Не даўшы павітацца як мае быць, абурана прадставіла:

— Во, Уладзімір Паўлавіч, палюбуйцеся на яе! Забастоўшчыца!

— Ты не будзеш забастоўшчыцай, бо купаешся як сыр у масле.

— Я купаюся?

— Ша! — па-бацькоўску супакоіў іх старшыня і да гаспадыні проста, лагодна, добразычліва: — Галя, трэба ехаць. Павер мне, сітуацыя такая, што дзяцей трэба вывезці пакуль што... пакуль ачысціцца... Ды і цябе... маці...

— Не паеду! — абняла дзяцей, прытуліла да сябе, як быццам іх гвалтоўна адбіралі, загаласіла: — Дзетачкі мае родныя... Во і дачакаліся мы хаткі! Во і пажылі ў ёй!

Уладзімір Паўлавіч узлаваўся:

— Не ламай камедыю! Не палохай дзяцей! Вузлы сабрала? Дар'я! Дзе аўтобус?

— Стаіць аўтобус. З дзецьмі. Пад сонцам пякуцца.

— Чула, колькі дзяцей цябе чакае?

— Не паеду! І дзяцей не пушчу. Не аддам! Знаю я вас! Вам хочацца вывезці нас, каб кватэры не даваць. А дзе хто нас чакае?

— Ды дам я табе кватэру. Прыйдзе ўсё ў норму...

— Вы да Першага мая абяцалі.

— Абяцаў. Але ж, бачыш, не да таго было.

— Вам не да таго. А мне да таго? Куды я дзенуся з дзецьмі? Няхай ужо лепш памруць ад етай праклятай радыяцыі,— і разжалобіла сябе — залілася слязамі, а за ёй і дзеці.

Старэйшая падышла, нясмела папрасіла:

— Ма-ма.

Дзіўныя былі паводзіны мужа: як і не было яго тут, як і не чуў ён нічога, ды і ўвогуле ўсе трое выпівак рабілі выгляд, што нічога з таго, што адбывалася ў пакоі, іх не датычыцца. Прапусціўшы па шклянцы мутнаватай вадкасці, смачна закусвалі салам і кілбасамі — у цэнтры стала стаяла ненатуральна вялікая патэльня з апетытнай смажанінай.

А між тым у пакой пачалі набівацца суседзі, пераважна жанчыны, хоць у калідоры чуліся і мужчынскія галасы, даляталі п'яныя жарты. Такой сітуацыі і ён, Пыльчанка, не мог прадбачыць. Дарэмна пацягнуў сюды сталічных гасцей. Узлаваны, хацеў паказаць ім барак. А паказвае сваю бездапаможнасць. Не, бездапаможным ён ніколі не быў ці, ва ўсякім разе, ніколі не адчуваў сябе такім! Азірнуўся. Дзесяткі пар вачэй глядзелі на яго па-рознаму: хто з чаканнем праўды, хто з насмешкай — мужчынскія, а хто і са злосцю.

— Дар'я!

— Ай!

— У каго ключ ад кватэры?

— Ад той?

— Ад той.

— У будаўнікоў ці ў гарсавеце.

— А той, што я табе перадаў?

— Дык я ж аддала...— і плюскала вачамі, каб ён — крый божа! — не прагаварыўся, каму яна аддала ключ ад новай кватэры.

— Хапай маю машыну і каб праз пяць мінут ключ быў у маіх руках. Я ўручу яго Галі перад усім народам. Чуеш, Галя?

— А ці спатрэбіцца яна, кватэра ваша? — раптам адгукнуўся голас ад стала.— Вунь Кіеў высяляюць. А дзе Кіеў, а дзе мы! Ад нас — рукой падаць...

— Ты што — ужо бачыш Кіеў? — адпарыраваў Пыльчанка.

За спіной засмяяліся:

— Ён і Маскву бачыць.

Дар'я нахілілася і па-змоўніцку зашаптала:

— А калі не аддасць?

— Слухай! Я што сказаў, чорт вазьмі! — загрымеў Пыльчанка.— Скажы тады яму... Паўтарыць, што ты павінна сказаць. Сама ведаеш? То дзейнічай! І далей... На гэтай жа машыне перавязеш Быхоўскіх у кватэру. Аўтобус адашлі. Зараз жа! І на гэтай жа машыне завязеш гэтую сям'ю... без бацькі!.. У Ягадны Бор. Там рыхтуюць пансіянат.

— Во. Без бацькі! Чулі, мужчыны?

— А ты што — у дзіцячы дом захацеў?

— Начальнікі! А з намі што будзе?

Галя маўчала. Галю скарыла яго рашучасць. І гэта астудзіла і самога старшыню. Але сур'ёзнае пытанне сталай жанчыны зноў завяло, і ён бязлітасна выставіў наперад упаўнаважаных — няхай не стаяць назіральнікамі ААН.

— А во тут міністр аховы здароўя. Ён вам растлумачыць.

Людзі хлынулі з калідора, абцяклі іх, што вясновая вада курган, запоўнілі пакой, засланіўшы і стол, і школьніцу, вочы якой адразу павесялелі, як толькі маці моўчкі згадзілася на выезд, а перад тым на пераезд на новую кватэру. Страшна было малой ад невядомасці і... радасна ад перамен, ад падарожжа.

Міністр спапяліў гаспадара позіркам, зразумеўшы, што той падстаўляе яго пад удар. Але ж не адступіш. Пачаў здалёк: што такое радыяцыя? За дні пасля аварыі грунтоўна паднавіў свае веды, са страхам выявіўшы, што нават у яго, прафесара, яны слабыя.

Спачатку слухалі ўважліва, нават п'янаватыя мужчыны. Ён меў багаты вопыт публічных выступленняў — ажно з вайны, калі, будучы палітруком, выступаў перад самымі нечаканымі аўдыторыямі, чужымі — перад палякамі, немцамі, ведаў псіхалогію людзей і добра зразумеў, чаго ад яго чакаюць. Не тэорыі. Практыкі. «Што з намі будзе?» А інфармацыя ў яго пра радыяцыйную абстаноўку ў раёне была мізэрная,

добра, што не патраціў дарэмна час і трохі напоўніў яе ад старшыні райвыканкома. Лічбы, названыя Пыльчанкам, не здаліся страшнымі. Міністр нават хітрымі акружнымі пытаннямі не мог сцяміць, што мясцоваму начальству выгадна — завысіць іх, гэтыя незвычайныя лічбы, ці занізіць. Ён добра ведаў тэхналогію маніпуляцый на ўсіх узроўнях з любымі паказчыкамі, сам грашыў гэтым, таму не верыў статыстыцы.

Дык што ж будзе з гэтымі людзьмі? Дала знаць дзесяцігоддзямі выпрацаваная тактыка падфарбаваць усё негатыўнае ў ружовы тон. А можа, уключыўся і механізм самаахові, бо была ж інструкцыя Дырэктара: папярэдзіць паніку! Паспрабуй не выканаць!

Прызнаўся, што ўсёй інфармацыяй аб радыяцыйным становішчы ў рэгіёне не валодае, але, калі меркаваць па тым, што далажыў яму Уладзімір Паўлавіч — зваліў на адказнасць гэтага мясцовага хітругана! — то асаблівай пагрозы няма, можна жыць і працаваць. Правільна, што адсяляем малых і будучых маці — перасцярога не пашкодзіць. Сітуацыя незвычайная, нікому невядомая. Нават у Хірасіме і Нагасакі яна была іншая.

Аднак супакоіўшы тэорыяй, устрывожыў людзей практыкай — прафілактычнымі мерамі, бо гаварыў пра іх, як належала спецыялісту. Не быць працяглы час на адкрытым паветры, пад чыстым небам. Не агаляць цела і галаву. Не ўздымаць пыл. А сярод мужчын былі будаўнікі і шафёры, якім заўтра трэба выходзіць на будоўлю хімічнага завода і ехаць па палявых дарогах.

Пыльчанка адразу ўбачыў скептычныя ўсмешкі гэтых мужчын і страх у вачах іх жонак.

— Не рабіць у гародах...

Усё правільна: ён таксама пагнаў Вольгу і Ірыну з гарода. Але ж...

— А дзе бульбу пасадзіць? Цыбулю?

— Чакаць, калі прывязуць з Польшчы? Абліжашся. Знаем, як возяць.

— Калі сваёй не будзе...

«Пачынаецца,— з неспакоем, аднак і з пэўнай злараднасцю падумаў Пыльчанка.— Пабачу, як ты выкруцішся».

Але міністр таксама цёрты, і хітрасці ў яго не менш. Не стаў адказваць. Спіхнуў пытанне Пыльчанку:

— А што з бульбай будзе, Уладзімір Паўлавіч? Пасяўная!

Сапраўды, што з бульбай, з гароднінай? Ніякіх інструкцый. Дзе гэтыя чортавыя вучоныя? Чаму маўчаць?

— Будзем садзіць.

— Якім метадам?

— У калгасе пасаджана ўжо. А на сваіх гародах — пачакаем дожджыку.

І сам жахнуўся: «Што я гараджу? Якога дожджыку? Разумны ж народ!»

— Правільна! Няхай растворыць ёд!

І тут жа пытанне сталае, сур'ёзнае:

— Палявыя работы ідуць ці спынены?

«Хто іх мог спыніць — мы з Сіняковым? Ды нас заўтра тут не было б».

— Ідуць.

— Дык як жа не паднімаць пыл?

«Шчаслівы міністр культуры — яму не трэба адказваць».

Міністр кінуўся на выручку — прадоўжыў парады, як ратавацца ад радыяцыі.

— Безумоўна, з адкрытых крыніц не піць...

Выручыў.

— Калодзежы накрываем,— сказаў Пыльчанка.— У вёсках. І тут, у горадзе, дзе водаправод не дайшоў.

Спалоханы жаночы голас:

— Ваня! Скокні да мамы, каб накрыла!

Аднак з такога загаду ніхто не засмяяўся. Усталяваліся ўвага і сур'ёзнасць. Разумелі: сваёй галавой і да простых мераў можна не дайсці.

— Рабочае адзенне скідаць і мыць. У канцы дня — абавязкова душ. Гарачы душ. З мылам...

Пыльчанка сцяўся. Няўжо пранясе? Сказана без пачуцця рэальнага. Які душ у гэтым бараку? Дзе ён тут? Ды і на фабрыцы яго няма. І на будоўлі...

Лазню на рамонт зачынілі — наступае лета, можна памыцца і ў рэчцы. «Лазню трэба заўтра ж пусціць!» — загадаў сабе Пыльчанка і запісаў у блакнот.

Не, з душам міністр прамахнуўся. Шуганула хваля гуллівасці, сарказму:

— Чулі, бабы? Часцей падмывайцеся!

— Во жытуха!

— Цьфу ў твае вочы! Палысееў, сын у арміі, а ты пра дурное.

— Пра якое дурное? Я — пра душ. Во дажылі! Падняўся — пад душ. У пасцельку сабраўся — пад душ. Давай, жонка, чыстыя прасцінкі. Курорт!

— А вы радыяцыі спалохаліся! Скажыце — дзякуй!

Уедлівы сарказм, бязлітасны.

Міністр адчуў, што плюхнуўся ў лужыну, і стараўся выбрацца адтуль сухім. Памагло рознагалоссе, рознасць інтарэсаў — кожнаму рупіла сваё.

З кутка прахрыпеў прапіты голас:

— А гарэлку піць можна?

І хітры прафесар тут жа сцяміў, што гэта тое, што дасць яму закончыць гутарку-інструктаж на высокай аптымістычнай ноце:

— Не толькі можна. Трэба. Але ў норме. Таварышы, папярэджваю: у норме. Цо задужэ, то не здровэ, як кажуць палякі.

«Заява для нашага часу»,— падумаў Пыльчанка.

А слухачы весела зашумелі:

— А якая яна, норма?

— Глыбока індывідуальная.

Рогат.

— А дзе яе ўзяць? Старшыня, забяспечыш? Медыцынская ж парада! Бяры за жабры спажыўсаюз!

Няхай выпускаюць пару!

Тым часам Дар'я прывезла ключ. І Уладзімір Паўлавіч урачыста ўручыў яго расчуленай Галі. Жыхары барака запляскалі ў далоні.

Што ж, бывае радасць і ў трагічны час! А калі гэта радасць за дзяцей, то яна двайная!

А ўрэшце, дзякуй Богу, што абышлося без эксцэсаў. Залатыя людзі! Любыя іншыя маглі б і ўзбунтавацца ад такой нашай... увагі да іх.

У штабе між тым іх чакалі новыя «царскія ганцы». Ажно з Масквы. Галоўны радыёлаг аграпрама з брыгадай спецыялістаў. На аўтобусе — лабараторыі. Многа гасцей для аднаго дня. Але што зробіш, па добрай дзедаўскай традыцыі будзем радавацца ім. Тым больш што брыгада гэтая здалася Пыльчанку значна больш сур'ёзнай, чым міністэрская: прыехалі не з голымі рукамі, тэхнічна ўзброеныя. Безумоўна, стомленыя, выехалі ў пяць раніцы і за дзесяць гадзін прагналі восемсот кіламетраў. Але не вялыя, не сонныя — узбуджаныя. Ад чаго? Ці не ад таго, што павышэнне радыяцыі замералі яшчэ ў Смаленскай вобласці, на подступах да Масквы. Між іншым, паведамленне гэтае ўстрывожыла і Пыльчанку, і Сінякова, і міністра аховы здароўя. Толькі міністр культуры пасля барака насвістваў арыю Ігара: «О, дайце, дайце мне свабоду...»

Трывогі ніхто з іх не выказаў — не панікёры, але Уладзімір Паўлавіч пачуў яе па той увазе, якую праявілі яго таварышы па няшчасці да аграпрамаўскай групы. Зусім іншая ўвага, чым да ўсіх папярэдніх гасцей.

Адзін толькі з іх не спадабаўся — нейкі нам. нач. пададдзела па жывёлагадоўлі. Ён з парога пачаў даваць рэкамендацыі, ставіць задачу: рабіць усё, каб не зніжаліся надоі.

— І куды гнаць гэтае малако? Малаказавод павярнуў ужо з аднаго калгаса.

— Перастрахоўка.

— Напішыце нам свае рэкамендацыі.

— Напішу.

Дамовіліся, што група праедзе па раёне, зробіць замеры, і ў сем вечара галоўны радыёлаг і іншыя спецыялісты выступяць перад раённым актывам.

Актыў сабраўся. Прыехалі старшыні калгасаў, сельсаветаў. Але масквічы не з'явіліся. Жоўты аўтобус іх як у Прыпяць кануў, хоць у бліжэйшых ад райцэнтра сёлах яго бачылі. Няўжо ўцяклі высокія госці? Пыльчанку такая здагадка абразіла. Яму было сорамна перад кіраўнікамі гаспадарак,

ведамстваў, якія змрочна пасміхаліся: «Да Масквы ўжо яны пад'язджаюць, вашы галоўныя радыёлагі». Прыйшлося нараду праводзіць самім. Нават міністры ўцяклі: сказалі, што ім загадана «вярхоўным» у дваццаць дзве быць у абкоме.

Нарада была шумная. Але Уладзіміра Паўлавіча зноў моцна ўразіла, што гаспадары, у тым ліку і Пустаход, больш ламалі коп'і пра тое, што рабіць з каровамі, а не пра тое, што рабіць з людзьмі. Быццам за людзей адказваў нехта іншы, у яго няхай і баліць галава, ён няхай дае каманду. А яны адказваюць за кароў, за надоі. Жах!

Сінякоў таксама абурыўся:

— Што вы пра кароў! Пра людзей давайце падумаем. Пра дзяцей.

Змоўклі як бы пасаромленыя. Але ненадоўга.

Той жа Пустаход узлавана спытаў:

— Дык што ж мы без малака будзем жыць? Ладна, я пражыву, а дзеці?

Пыльчанка ўрэшце не ўтрымаўся і выказаў і пра маскоўскую брыгаду, і пра сваіх родных міністраў такое, што ажно павесялелі сумныя вочы старшынь, дырэктараў, начальнікаў раённых службаў.

Тут дзяжурны і прынёс тэлефанаграму: у дзесяць вечара першаму і старшыні быць у абкоме!

Пыльчанка ўголас прачытаў загад, нявесела пажартаваў:

— На вайне як на вайне. Вы нас не чакайце. Але будзьце гатовыя, што можам падняць у тры-чатыры ночы. Гушча! Будуць перабоі з сувяззю — з'яўляйся з галавой пад пахай, бо ўсё роўна здымем.

Выйшлі ў двор, зайшлі перад дарогай у туалет.

Сінякоў, стогнучы, быццам ішлі камяні, сказаў:

— Вы яшчэ можаце жартаваць.

— А ты чаму расстагнаўся? Не падабаецца мне твой выгляд.

— Я пра дзяцей думаю.

— Пра сваіх?

— І пра сваіх.

— Куды ты іх адаслаў?

— Нікуды.

— Як нікуды? Чаму? — уражана здзівіўся Пыльчанка.

— А што скажуць? І так — чулі? — якія званкі, якія размовы? Між іншым, кажуць, што і ваша жонка і нявестка зніклі.

— Мае не зніклі! А дзяцей... дзяцей мы вывозім! Па загаду начальства, калі ты такі правільны. Што ж ты сваіх падстаўляеш пад нукліды? Трус! Няшчасны кар'ерыст. Свяцейшым за каго ты хочаш быць?

— Уладзімір Паўлавіч! Вы забываецеся...

— Я забываюся... Я такі забываюся. Але я — твой бацька па ўзросту. Паехалі!

— Думаю, нам лепш у розных машынах...

— Не! Мы паедзем у адной. У тваёй. А мая павязе тваю сям'ю!

Яны выйшлі з-за дашчанай перагародкі і ў вячэрнім паўзмроку глядзелі адзін на аднаго, як бы жадаючы пазнаць, хто яны — сябры, ворагі.

Пыльчанка сказаў:

— Прабач.

У Пятра Міхайлавіча набрынялі вільгаццю вочы.

— Уладзімір Паўлавіч...

— Пайшлі пазвонім Паліне Антонаўне. Дзе гэта яе бацькі?

— У Лепелі.

— Во і выдатна. Туды і адсылай яе. Можа, туды не дастала.

## III

На дальнім падыходзе да Прыпяці іх маторку затрымаў міліцэйскі катэр. Вылецеў з затокі наперарэз. У белых парусінавых робах, у рэспіратарах, адны фуражкі сведчылі аб іх прыналежнасці да аховы парадку, міліцыянеры мелі незвычайны, проста незямны выгляд. Не сказаць, што жанчыны спалохаліся іх, але рэспіратары, якія Вольга Андрэеўна бачыла ўпершыню, дадалі трывогі і ёй, і Ірыне — за становішча,

у якім знаходзіцца Глеб, і за тое, што прабіцца да яго нялёгка.

Паступіў сігнал «Глушы матор!» — добра знаёмы Віктару, які зрэдку, тайна ад цесця, браканьерстваў — дзеля забавы — і зрэдку хітра даваў міліцыі злавіць сябе з невялікім уловам.

Катэр падышоў ледзьве не ўпрытык, але міліцыянер гаварыў у рэспіратар, і голас яго страціў зямныя чалавечыя адценні, стаў механічным, як у робата ці як у прышэльца з космасу.

— Куды?

— Туды.

— Куды — туды?

— У Прыпяць. Там, на станцыі, сын яе і муж яе.— Віктар па чарзе паказаў на сваццю і на жончыну сястру.

— Адкуль?

Назвалі вёску.

— Паехаў хлопец у суботу, як пачуў пра пажар, і маўчыць. Што там з ім?

Міліцыянеры, трое, гойдаючыся на хвалі, пераглянуліся паміж сабой. Мабыць, не мелі інструкцый на кожны выпадак. Разумелі трывогу блізкіх, сустракаліся ўжо з такімі выпадкамі, калі людзі, шукаючы сваіх, прабіраліся ў эвакуіраваны горад. Але яшчэ часцей пралазілі туды марадзёры, бандыты радыяцыі не баяцца. Таму загад начальства строгі: нікога не пускаць.

Гэтым жанчынам нельга не верыць. Таму міліцыянер падняў рэспіратар і звычайным чалавечым голасам параіў:

— Вам трэба ў Чарнобыль. Там штаб. Але па вадзе нельга.

Вольга Андрэеўна пашкадавала, што не параілася з мужам, больш таго — збегла ўпотай, як дзяўчынка, пакінуўшы на стале запіску,— пабаялася, што ён рашуча запярэчыць і не пусціць, урэшце, яго воля заўсёды перамагала, гэта ён проста іграе, што ва ўсім падпарадкоўваецца ёй. Іван Іванавіч таксама занепакоіўся іх намерам плыць, адгаворваў: «Пачакайце. Мы з Уладзімірам Паўлавічам нешта прыдумаем». Спрабаваў сазваніцца са сватам. Але і ў таго, і ў другога хапала іншых клопатаў. Ад Ірынінага бацькі яны таксама, па

сутнасці, уцяклі. Паабяцалі чакаць: ён ведаў, што самі яны не паплывуць, а Віктара загрузіў тэрміновым заданнем. Але добры і паслужлівы Віктар па натуры быў авантурным, яму спадабалася ідэя жанчын, бо і самому хацелася пабачыць, што ж там робіцца. Недарэмна ён славіўся тым, што першы прыносіў механізатарам усе навіны — сусветныя, раённыя і калгасныя, гэта яму давалася без цяжкасці, маючы такога цесця, такую дасведчаную жонку і такіх адукаваных сваячак. Тамара жартавала: «Ты, Віця, што прарок!» Віктар з нейкім з шафёраў замяніўся без дазволу старшыні і паплыў з імі.

Вольга Андрэеўна ў думках згадзілася вярнуцца назад, павініцца перад мужам і папрасіць яго памагчы ім дабрацца да Чарнобыля. У добры час дабіраліся туды за нейкія дзве-тры гадзіны, прытым палавіну часу забіраў паром.

Але як толькі заплылі за паварот ракі, дзе іх не маглі ўбачыць з катэра, Ірына сказала:

— Пойдзем, мама. Па зямлі надзейней. Дойдзем.

Хіба яна, маці, магла запярэчыць жаданню нявесткі хутчэй знайсці свайго мужа — яе сына? Безумоўна, пойдзем!

Віктар не адразу знайшоў зручнае месца, каб прычаліць. Уткнуліся носам маторкі, здаецца, у сухі пясок. Але падманны ён вясной — паплыў пад нагамі ў жанчын, і яны чарпанулі чаравікамі пясчанай жыжкі і мусілі разувацца, вытрасаць пясок. Босыя, з чаравікамі ў руках, у Вольгі Андрэеўны быў яшчэ клуначак, зусім сялянскі — нешта загорнута ў хустку, яны падніmaліся на абрыў аднолькава цяжкаю хадою — старая і маладая. Ці даўно Ірына скакала, што каза,— спартсменка, валейбалістка!

І Віктару, які нічога не баяўся — ні цемры, ні дальняй дарогі, ні дурнога вока, ні зладзеяў, ні радыяцыі гэтай, нябачнай і нячутнай, раптам стала страшна за іх, бездапаможных жанчын. Адчуў нейкую асаблівую адказнасць перад усімі сваімі. Захацелася вярнуць іх. Але разумеў: не вернуцца. Знаў па Лізе сваёй: ва ўсім можа ўступіць, паслухацца і мужа, і маці, і бацьку, і сясцёр, але калі трэба знайсці яго, гуляку, рыбака, мысліўца, ні перад чым не спыніцца і ніхто яе не спыніць.

Крыкнуў:

— Абуйцеся ўсё ж!

Ірына павярнулася, падняла над галавой чаравікі.

— Віця! Ты там не палохай нашых.

— Не бойся. Сам знаю. Не дурны.

— Ён добры хлопец, Віця,— сказала Ірына свекрыві.— Але задужа кампанейскі. Ад гэтага Лізе цяжка з ім. Як малы. Куды ні паедзе, куды ні пойдзе — усюды з ім здараецца прыгода. Турыстам паехаў у Чэхаславакію і там надзівачыў. Так падружыўся з чэхамі, што адстаў ад аўтобуса. Ды яшчэ і грошы ўсе прагуляў. Давезлі яго чэхі да Прагі, да консульства нашага. Вярнуўся наш Віцька голенькі — без плашча, без чамаданчыка. А следам пісьмо з консульства і рахунак за добрыя паслугі. Бацька месяц стагнаў. А сяло рагатала. Добра, што ў Лізы вясёлы характар. Перахрысціла турыста дзеркачом, а пасля пачала смяяцца разам з усімі. Па-мойму, сама сачыняла многія дэталі «мужавай» прыгоды. Ліза ў нас сачыніцелька. Падабралася пара. Яна сачыняе — Віця здзяйсняе. Мама так і казала ёй: сама ж ты робіш падказкі яму. Мама за Ваню баіцца, каб не пайшоў у бацьку. Але Ваня... Ваня — мой хрэснік. Я вам прызнаюся. Вазіла яго на Украіну хрысціць. Употай ад дзеда. Ваню было годзікаў шэсць ужо. А я першы курс скончыла. Так навучалі яго, каб нікому ні слова. Але што вы хочаце — дзіця! Пахваліўся. Ох, было нам ад бацькі. Ох, было! І маме, і Лізе, і мне. Пагражаў Лізе выгнаць яе з партыі. Але, дзякуй Богу, да райкома не дайшло. Заглухла неяк. Можа, таму, што не адна Ліза, партыйная, так хрысціла... А мяне чаго пацягнула? З інстытута маглі выгнаць, каб хто напісаў. Я таксама як той Віця. Вы глядзіце за мной...

Ірына чапляла адно за другое — і ўсё пра сваю сям'ю: і смешнае, і сумнае. Куды дзяваліся яе паважнасць, сур'ёзнасць! Дзяўчынка.

Вольга Андрэеўна разумела, што нявестка стараецца адцягнуць яе ды і сябе — аднолькава яны думаюць! — ад змрочных, трывожных думак, скараціць незвычайную дарогу з пэўнай мэтай, але з поўнай невядомасцю — дзе, калі, чым яна скончыцца.

— Абуемся ўсё ж,— сказала Вольга Андрэеўна; на сонцы і ветры чаравікі іх высахлі.

Ірына адзначыла, што свякроў зрабіла гэта, калі цвёрдая травяністая сцежка вывела іх на палявую пыльную дарогу.

«Мама! Вы аберагаеце мяне? Ні я, ні вы не ведаем, дзе яе больш, радыяцыі. Але я, урач, лепш ведаю, чым яна пагражае. Мне. Але я не магу не ісці. Я не магу, мама. Як не можаце і вы не ісці. Я разумею вас, мама».

Яны трымаліся ракі. Але не маглі пятляць разам з ёю, перабірацца праз яры і раўчакі. І яны выйшлі ў поле. На захадзе яно замыкалася сасняком, на ўсходзе белымі садамі і зялёнымі вербамі вёскі. Але поле шырокае — з зялёным клінам азіміны побач, з шэрым ворывам ярыны ўдалечыні, там нічога яшчэ не ўзышло, але нешта ж пасеяна. Поле шырокае, ды не відаць на ім ніводнай жывой адмеціны — ні чалавека, ні жывёліны, ні трактара, ні сеялкі. Урэшце, гэта не адразу ўразіла: бывае такая бязлюднасць і на вельмі вялікім полі; Вольгу Андрэеўну некалі здзівіла такая пустэча ў паўднёваўкраінскім стэпе, дзе яны адпачывалі аднойчы: ёй, лесавічцы, гэта было нязвыкла. А хіба можна назваць пустой прастору, што з усіх бакоў аздоблена лесам? Ды і з неба лілося жыццё. Плылі па ім белыя воблачкі, што мяккія аўчынкі, лілося сонечнае цяпло, і адначасова прахалода — вецер дзьмуў з захаду ў спіны ім. Бывае ён нізкі, прызямны, той, што гоніць снежную пазёмку, а бывае верхні, што гоніць шумныя ліўні. Здараецца, што і ў сонечны дзень прахалода дыхае не ад зямлі — з неба. Такім быў той дзень — пасля доўгай парнай спёкі. Бадзёры дзень — на іх шчасце. Але асабліваe адчуванне жыцця дарыла неба спевам жаўранкаў. Хіба можа быць там, у небе, смерць, калі вісяць у ім жывыя, цёплыя, галасістыя камячкі!

— Мама, калі вы слухалі жаўранкаў? Каб вось так — легчы ў полі, глядзець у неба — і слухаць?

— Не помню, дзіця маё. Даўно.

— А мы з Глебам слухалі перад вяселлем.

Прызналася і... засаромелася, што мімаволі выдала тайну: ляжала з жаніхом да вяселля ў полі. Хоць што ў гэтым ганебнага? Хіба запіс у загсе робіць мужам і жонкаю?

Палявая дарога вывела на шашу. І яны ўзрадаваліся. Не можа быць, каб па такім угледжаным асфальце не прайшла ніводная машына. Не спынілася ж жыццё. А будзе машына — падвязе іх. Куды? У Прыпяць? Няхай. З кантрольнага пункта ля горада ніхто не паверне іх назад. У іх даволі настойлівасці, каб дасягнуць мэты.

Так гаварыла Ірына. Маці згаджалася з ёй. Безумоўна, няхай з неба сыплецца каменне, то і яно не можа перашкодзіць ёй дайсці да сына. Але ўпотай Вольга Андрэеўна трывожылася, бо адчула, што стамілася. Гэта яе амаль спалохала. Няўжо так засядзелася ў бібліятэцы, што развучылася хадзіць?

Увайшлі ў сяло і спыніліся, уражаныя і спалоханыя. Казаў Ірынін бацька, што ўкраінскія сёлы вакол станцыі эвакуіраваныя. Але неяк не ўнiклі яны ў сэнс слоў, у сутнасць іх, не здолелі, напэўна, уявіць, што ж гэта такое — населены пункт без насельніцтва, без адзінай жывой душы. У той міг і поле, якое яны перайшлі, раптам здалося страшным, небяспечным сваёй таямнічай невядомасцю, сваёй спустошанасцю, дзе будуць расці, спець жыта, ячмень і дзе ніхто не ступіць, каб скасіць іх.

А сяло... Такое і ў кіно не бачылі. Бачылі спаленыя вёскі, пустыя, адкуль людзі адыходзілі ў лясы ці іх выганялі гвалтоўна на смерць, на здзек, на доўгае падарожжа ў Германію. Але на ўсіх тых вёсках — у дакументальных хроніках і ў мастацкіх імітацыях — ляжаў след вайны, разбурэння. А тут жа ўсё дагледжанае і... усё нікому не патрэбнае. Сушацца на платах гладышкі, на гэтых жа платах і на вяроўках у дварах посцілкі, коўдры, андаракі, спадніцы, бялізна, многа добрага адзення — мылі, сушылі перад святамі. За шыбамі вокнаў гардзіны, квяцістыя фіранкі. У адной хаце акно засталося адчыненым, і вецер калыша фіранкі. Аганёк кветкамі-зорачкамі лапушыста лезе з акна, як бы хоча пацалавацца з бэзам. Як ён буйна цвіце, бэз, ледзьве не ў кожным агародчыку! І на вуліцы, і ў дварах. А кветнікі ўгледжаныя, густа ўзыходзяць у іх любісцік, герані. Адмыслова, у розныя колеры пафарбаваны штыкетнік — спаборнічалі сусед з суседам, рыхтаваліся да свят.

І гэтак пакінулі ўсё. Ніводнай душы.

Не, з'явілася жывая душа. Выскачыў з падваротні сабачка, цяўкнуў на жанчын і як бы засароме́ўся і прасіў прабачэння: лёг на пуза і поўз да іх, лісліва і радасна скуголячы і матляючы куцым хвастом.

— Пёсік, пёсік,— таксама ўзрадаваная, прысела Ірына і працягнула да сабачкі рукі.

— Не гладзь, Ірыначка,— сказала Вольга Андрэеўна.

Кранула маладую жанчыну гэтае ласкавае Ірыначка. Не, не слова само — папярэджанне, перасцярога матчына ёй, маладой. Праўда, у той міг адчула яна сябе маленькай і бездапаможнай на гэтай страшнай, пакінутай людзьмі зямлі. Да таго здавалася, што яна вядзе свякроў, яе ініцыятыва пайсці, а тут адчула, што толькі матчына прысутнасць дае ёй сілу, рашучасць, волю, смеласць. Не адчувала б сябе яна так ні са знаходлівым Віктарам, ні з практычнай Лізай. Так можна адчуць сябе толькі з маці.

Вольга Андрэеўна адламала ў вузельчыку кавалачак хатняй кілбасы, кінула сабачку. І ён, аблізваючыся, пайшоў следам за імі, гатовы служыць людзям усім, чым можа.

Яны ішлі па доўгай вуліцы, як праз могілкі. Ішлі моўчкі, быццам вакол было пахавана не нажытае людзьмі дабро, а стаялі дамавіны з самімі жыхарамі гэтых хат, гародаў і гародчыкаў.

Да першага сабакі далучыўся яшчэ адзін, вялікі і спалоханы, ён суправаджаў на адлегласці і, калі Ірына паварочвалася, адскокваў убок, спыняўся, відаць, людзі яго крыўдзілі, але жыць без іх ён не мог.

Дзіўна сябе паводзілі каты. Яны кідаліся на вербы, на стрэхі хлявоў — ад сабак ці ад людзей? — і адтуль галодна мяўкалі.

Адно выклікала ў жанчын сумную ўсмешку: пасярод вёскі ў двары бесклапотна і галасіста заспяваў певень. Гэтак жа жыццярадасна спявалі закаханыя шпакі. У канцы вёскі другі сабака адстаў, далей апошняй хаты не пайшоў — верны вартавы свайго кутка. А малы не здрадзіў людзям.

У другой вёсцы на вочапе старога калодзежнага жураўля разгойдвалася новенькае дубовае вядро, не пачарнелае яшчэ, клёпка ажно свяцілася, мабыць, добрая душа старога палескага бондара зрабіла да свята людзям падарунак. З такога вядра і без смагі хочацца напіцца. А іх страшэнна смажыла. Кожная ўпікала сябе, што не дадумалася ўзяць пляшку вады; спадзяваліся, што паплывуць па вадзе. А колькі той дарогі на маторцы!

— Я нап'юся, мама.

— Не пі, Ірыначка.

— Божа! Як у казцы. «Не пі, Іваначка».

— Як у казцы. Як у казцы, Ірыначка. У страшнай.

— А дзе ж нам напіцца?

— Пацярпі, дзіцятка. Можа, выйдзем да людзей.

— Я халадзею ад гэтых слоў. Я халадзею... «Можа, выйдзем да людзей». А можа здарыцца, што будзе блукаць чалавек... маці ці дзеці... во па такой апусцелай зямлі і не выйдуць да людзей, бо не застанецца іх, людзей.

— Не трэба такіх думак, Ірыначка.

— Вы верыце ў Бога?

— Я? — Вольга Андрэеўна збянтэжылася.— Чаму раптам такое пытанне?

— Уначы мне не спалася, і я думала... А калі гэта кара за тое, што мы мала ў што верым?

— Не, не, не! — рашуча запярэчыла сталая жанчына.— Хіба ты не верыш маці, бацьку, Глебу? Я верыла ў людзей. Я верыла людзям. Няпраўда, што мы паганыя. Няпраўда! Не могуць быць няверамі ўсе... увесь народ.

— Вы ідэалістка, мама. А я...

— Што ты? Ты слаўная, Ірына. У цябе добрае сэрца.

— Як мне хочацца піць! Толькі цяпер я разумею, што такое смага ў пустыні. Смага ў Палессі. Раней з гэтага пасмяяліся б. Чалавек памёр ад смагі над Прыпяццю... Балюча смяяцца. Патрэскаліся губы. А яшчэ я нацерла нагу. Скіну чаравікі...

— Не трэба, Ірына.

— Якія пакуты. Хоць раз прыйшло ў галаву, што я перажыву пакуты тых матак і дзяцей, што ўцякалі ад вайны? А

мы ж... Мы не ўцякаем... мы ідзём на яе... на вайну. Баляць не толькі губы. Баліць і язык. Патрэскаўся таксама? Гэта не апісана ні ў адной медыцынскай кнізе... такая смага, калі трэскаецца язык. А што потым? Аняменне? Раней, каючыся, людзі давалі зарок маўчання. Самая страшная кара – жыць сярод людзей і маўчаць. Праўда?

Вольгу Андрэеўну трывожыла гэтае Ірыніна жаданне гаварыць. Не ўласціва гэта ёй, стрыманай, сур'ёзнай. Такое бывае ад страху.

«О Божа! Злітуйся, не дай пасяліцца страху ў душы яе! Бо страх – смерць. Дзе б напаіць яе? Дарэмна не дала напіцца з калодзежа. Не насыпалася ж туды, у вузкую бетонную трубку, гэтых праклятых... як іх называюць?.. Нябачныя, нячутныя, без паху, яны навокал, гэтыя часцінкі матэрыі, і яны смерць».

Да людзей яны выйшлі. Неўзабаве. Мінулі сасняк, і перад імі адкрыўся горад – той, які называюць у зводках. Але Ірына добра ведала гэты горад, была неаднойчы, апошні раз – перад вяселлем. Горш ведала яго Вольга Андрэеўна, наведалася некалі аднойчы, даўно, зрабілі экскурсію, калі пусцілі станцыю, а горада, па сутнасці, яшчэ не існавала. Але не горад прыцягнуў іх увагу, які страшыў, хоць і імкнуліся туды,– ведалі, што ён пусты, без людзей, і што туды не пускаюць. Але ж недзе жывуць тыя, што робяць на станцыі. У Чарнобылі – сказалі міліцыянеры. Як гэта далёка! Трэба мінуць горад, названы па рацэ, і ісці яшчэ бясконцыя дваццаць вёрст. Каля вады без вады.

Шаша вяла ў горад. Але побач недалёка ад яе – чыгунка. Яны збочылі на палявую сцежку і выйшлі да чыгункі, узышлі на насып, ад якога востра пахла нагрэтымі на сонцы пяском, шпаламі, металам, мазутам. Рэйкі блішчалі. І з'явілася адчуванне адлегласці і хуткасці, якое заўсёды бывае на чыгунцы.

Яны глядзелі ўперад: там, ля горада, рэйкі разыходзіліся на многа пуцей, зіхацелі шыбамі станцыйныя пабудовы. Але там было пуста – ні вагонаў, ні людзей.

Іх спадарожнік пёсік, мабыць, першы ўгледзеў людзей – гаўкнуў у другі бок, на захад. Яны павярнуліся і ўбачылі там,

за які кіламетр-паўтара, таварны састаў і людзей, што снавалі, як мурашы, выгружаючы скрынкі ці штосьці іншае — нават Ірына разгледзець не магла. Людзі выглядалі што прывіды — у белым адзенні. Але гэта былі людзі. І жанчыны пайшлі да іх.

На пераездзе іх затрымалі. Салдаты. Здзівіліся:

— Вы адтуль? — паказалі на горад.

— Не, мы адтуль,— кіўнула Вольга Андрэеўна на захад і пачала хутка тлумачыць, як яны трапілі сюды.

Вартавы не стаў слухаць — не яго справа, паклікаў з будкі камандзіра.

Старшы лейтэнант выйшаў непрычасаны, непадпяразаны, увогуле нейкі пакамечаны, як з пахмелля. Але ўбачыў жанчын — падцягнуўся, падперазаў рэмень, прыгладзіў далонямі непакорлівыя віхрастыя валасы. Слухаў іх уважліва. Асабліва ажывіўся, калі Ірына, ад якой ён не адводзіў вачэй, перапыніўшы свякроў, аслабелым голасам, аблізнуўшы патрэсканыя губы, спытала:

— У вас ёсць вада?

— Піць?

— Піць.

Старшы лейтэнант кінуўся ў будку, вынес няпоўную скрынку пляшак з міргарадскай, мінеральнай.

У Ірыны ажно закружылася галава, а ў перасохлым горле і страўніку пачаліся спазмы.

Камандзір адкаркаваў пляшку зубамі, ды тут жа збянтэжыўся, пляснуў ваду на зямлю.

— Вы прабачце... Я другую...

— Не, не...

Аднак ён ускочыў у будку і вярнуўся са шклянкай.

— Вы сядайце.

Спаласнуў шклянку вадой з адкрытай бутэлькі. Ірына ледзьве не закрычала, што ён вылівае ваду на зямлю. Пухіры газу лопаліся, стралялі. Яна на адлегласці лавіла засмяглым ротам іх жыццятворную вільгаць. Баялася, што страціць прытомнасць раней, чым нап'ецца. Другую пляшку афіцэр адкрыў «культурна» — пятаком. Наліў поўную шклянку, але на

міг завагаўся: каму першай падаць ваду – старой, маладой? Перамагла выхаванасць ці, можа, тое, што Вольга Андрэеўна паведаміла, хто яны. Працягнуў шклянку ёй. Але маці тут жа перадала яе нявестцы.

– На, Ірыначка.

Тая працягнула руку, і... паплыло неба, свякроў, калыхнулася мора вады і абрынулася на яе. Упала б яна на жорсткі і гарачы пясок, але салдат, што стаяў далей, чым Вольга Андрэеўна і афіцэр, спрытна падхапіў маладую жанчыну, падняў і паклаў на лаўку.

Вольга Андрэеўна спалохана закрычала. Разгубіўся афіцэр. А салдат узяў з яго рук пляшку, набраў вады ў рот, пырскнуў Ірыне ў твар, паднёс да вуснаў шклянку. Праз міг яна прагна пачала каўтаць кіслую ад газу ваду. Прытомнасць вярнулася да яе. Яна вінавата ўсміхалася свекрыві і вайскоўцам, што завіхаліся побач.

– Божа, як ты напалохала мяне, дзіця маё.

– Нічога. Гэта бывае. Гэта і з намі здараецца, з мужчынамі,– разважліва казаў малады, але вопытны салдат.

Ірына прагна піла ваду, і з кожным глытком да яе вярталіся сілы, дужасць. Яна паднялася. Але Вольга Андрэеўна і афіцэр падтрымалі яе.

– Нельга вам на сонцы. Хадземце ў будку. Там прахалода.

– Не, не. Нам трэба ісці.

– Куды вы пойдзеце?

– Міліцыянеры сказалі – трэба ў Чарнобыль.

Афіцэр ціха свіснуў:

– Ды вы што! Праз горад, міма станцыі машыны не пускаюць. Вунь які круг робім,– ён паказаў рукой на поўдзень, у палявую прастору, што танула ў паўднёвай смузе, задумаўся, уздыхнуў: – Бачу, назад вас не адашлеш. Добра, я давязу вас на першай жа машыне. А цяпер адпачніце. Але хвілiначку...

Кінуўся ў будку; трэба было перад тым, як запрасіць жанчын, прыбраць сляды мужчынскай неахайнасці.

Яны паверылі яго абяцанню і паслухмяна ўвайшлі ў чыгуначную будку, дзе была прахалода, але паветра вільготнае і цяжкае, ударыла ў насы пракіслаю стравою, відаць, яшчэ ад былых гаспадароў – сям'і будачніка, потнымі анучамі, газаю.

— Прабачце, кісла тут у нас. Але мы не праветрываем. Замяралі тут нашы. У памяшканні ўсё ж фон ніжэйшы. Шкарпэткі нашы менш небяспечныя, чым... азон гэты. Азон! — хмыкнуў на нечаканае вызначэнне.

— А які ён тут, фон? — спыталася Ірына.

— Самы розны,— ухіліўся старшы лейтэнант ад канкрэтнага адказу.— Калі не грэбуеце, лажыцеся на нашы коўдры,— паказаў на канапу і на ложак.— Жылі тут людзі бедныя ці сквапныя, нічога з пасцелі не засталося. У Прыпяці багацця навалам. Ды я забараніў сваім. А некаторыя марадзёрствуюць.

— Як ваша імя? — спытала Вольга Андрэеўна.

— Павел. Павел Шышко. Я ваш, віцебскі... быў проста Шышка. Невялікая шышка — гузачок. Начальнік шпалаўкладчыка чыгуначных войск. Наліха яго прыгналі сюды, укладчык наш?! І пераварылі нас у ахову. Ніхто не знае, што тут трэба. А хто мог знаць? Кажуць, першая такая аварыя ў свеце. На нашу долю выпала ўзбагаціць чалавецтва вопытам,— крыва ўсміхнуўся і як бы схамянуўся, што нагаварыў лішняе, на што не мае права, папрасіў прабачэння: — Адпачывайце, а я пайду лавіць машыну.

— Які слаўны,— сказала Ірына.

— Дзеці-дзеці,— уздыхнула Вольга Андрэеўна.

— Я нап'юся яшчэ, мама. Можна? — Паказала Ірына на скрынку з пляшкамі міргарадскай.

— Ірына, ты як маленькая. Я малюся Богу, што ён даў мне розум не пусціць цябе адну. Не палохай мяне.

— Не буду больш. Ніколі не спалохаю вас. Ніколі.

— На, пі.— Вольга Андрэеўна адкаркавала пляшку нажом.

Ірына піла нагбом з бутэлькі, і з вачэй яе каціліся слёзы. Ад вады, ад газу? Не, ад замілавання да свекрыві, удзячнасці ёй, ад таго, што сустрэча з афіцэрам, з салдатамі зняла боль страху, з якім яна ішла па апусцелай зямлі. Уявіла, як бы адчувала сябе, каб пайшла адна. Не пайшла б, не пусціў бы Віктар. Хоць мог бы і пусціць: адчайная галава, сам ён нічога не баіцца — ні агню, ні вады, ні ДАІ, ні рыбінспекцыі. Ды і Ліза часам падбівала мужа на авантурныя ўчынкі. А мама

дрыжала за іх: «Чортаў Ёрш!» Прозвішча ў Віктара чаго вартае — Ёрш! А чым лепшае — Пустаход? А Пыльчанка? Ірына падумала пра гэта, пакруціла пляшку перад тварам, выганяючы газ, адпіла глыток, успомніла іншае і засмяялася, здзівіўшы, але і ўзрадаваўшы Вольгу Андрэеўну.

— У нашай студэнцкай сталоўцы часта была гэтая вада, і хлопцы жартавалі: з тае гогалеўскай лужыны, дзе купалася свіння. Я не любіла яе, піла салодкую. Божа, ніколі не думала, што яна такая смачная. Не давайце мне больш, я нап'юся да вадзянкі. Выходзіць, я, доктар, не знала, што такое смага. А мне ўсё трэба знаць — усе болі чалавечыя.

— Не трэба, дачка. Не трэба знаць усе болі. Гэта страшна — калі баліць.

— Страшна.

Ірына скінула чаравікі і легла на ложак на грубую шэрую салдацкую коўдру. Пацягнула паветра носам.

— А яна прыемна пахне, іх коўдра. Шпаламі... Чыгункай... Вы панюхайце...

І заснула, неяк вельмі ж па-дзіцячы, на паўслове.

Вольга Андрэеўна сядзела каля стала і любоўна глядзела на сонную нявестку. І зноў прашаптала:

— Дзеці-дзеці...

Заўсёды яна паводзіла сябе як інтэлігентка, не падраблялася пад простанароддзе, хоць розумам адчувала, што па псіхалогіі сваёй застаецца сялянкай, і гэтай яе рысай Валодзя часам захапляўся, а часам і абураўся — пад настрой. Але як усялякая інтэлігентная жанчына, яна ў пяцьдзесят гадоў не лічыла сябе старой, наадварот, маладзілася: «У мяне сыны нежанатыя. Во калі стану бабуляй...» А тут раптам у гэтай будцы, у гэтай незвычайнай сітуацыі, яна адчула сябе старой-старой, ведала такіх мудрых бабуль, у якіх застаецца адна ўвага, адзін клопат — унукі і праўнукі. Але ж у яе няма ўнукаў. І ўдарыў балюча страх: «А што, калі праўда яна цяжарная? І ў гэтым азоне...» Здагадку такую ўраніў Уладзімір Паўлавіч у ноч пасля вяселля. Яна рашуча аспрэчыла. Прызнавала, што ганебнага ў гэтым у наш час няма. Але здалося тады: такія падазрэнні на вяселлі абражаюць і нявестку і сына.

«Божа мой! А калі праўда? Што ж я раблю? Куды вяду яе?»

Карыла сябе і пранікалася такой пяшчотай, што замірала сэрца. Гатова была жыццём сваім засланіць яе ад бяды.

«Дзіцятка маё роднае. Паспі. Паспі».

І ажно замахала рукамі, калі за сценамі камяніцы загурчаў матор грузавіка. Загучалі галасы. Ды цішэй вы! Не разбудзіце! Дзіця не разбудзіце. Але ў дзверы прасунулася галава салдата, і ён крыкнуў, як пабудку:

— Паехалі!

Аднак Ірына не прачнулася. Давялося будзіць:

— Паехалі, Ірына.

Прачыналася па-дзіцячы, пацягваючыся.

— Я сніла сон... У небе лcraталі блакітныя гарады. Цэлыя гарады. Якія прыгожыя!

— Паехалі. Нас клічуць.

Ірына села і шукала нагамі чаравікі.

...— Нэ палэзу!

— Я памагу табе падняцца. Высока магу падняць,— казаў Павел Шышко чалавеку, што сядзеў у кабіне ваеннага грузавіка на месцы пасажыра.

Чалавек быў у сінім камбінезоне, у рэспіратары, вышэй якога пад казырком афіцэрскай фуражкі блішчалі чорныя мангольскія вочы. Відаць, дыялог паміж імі зацягваўся. Убачыўшы жанчын, старшы лейтэнант панізіў голас, але ў гучанні яго зазвінела сталь:

— Вызвалі месца жанчыне! Джэнтльмен! — і лагодна, ласкава, але ўедліва: — Я сам паеду з вамі ў кузаве. Каб далажыць твайму начальству, які ты герой. Пра цябе песні будуць складаць...

І сіні камбінезон нехаця вылез з кабіны і, магчыма, пасаромлены, схаваўся за кузавам.

Павел Шышко шырэй адчыніў дзверцы кабіны.

— Сядайце, Ірына.

— Не! Мама!

— Што ты, Ірына! Табе толькі што было блага.

— Мне добра ўжо. Мне добра! Я напілася вады, паспала... Мама! Як вы не разумееце? Я не дарую сабе, калі вы палезеце ў кузаў.

І са спартыўнай спрытнасцю, стаўшы на кола, ускочыла ў высокі кузаў на жоўтыя скрынкі.

— Сядайце, мама,— афіцэр адчуваў няёмкасць, што першай прапанаваў маладой, і гэтак жа хутка ўскочыў у кузаў.

Вайсковец у сінім камбінезоне ляжаў на скрынках, накрыўшыся плашч-палаткай.

Павел Шышко крыкнуў свайму падначаленаму, які адкрываў шлагбаум:

— Кузняцоў! Плашч-палаткі!

Накрыў палаткай Ірыну, расправіў капюшон на яе галаве. Накрыўся сам. Яны сталі ў шчыліну паміж скрынкамі і кабінай, трымаліся за нагрэтую кабіну. Машына рушыла. І тады пратрубіў у рэспіратар голас:

— Нэ станавітэсь там! Затармазыт — груз прытыснэ вас.

— А што ж ты не замацаваў? Лапух!

— Ты нэ лапух, да? Ты нэ лапух? Ты мэеш звёзды. А нада мной хто? Болшыя звёзды. А я — лычкі. Куды ты хочаш падняць мяне?

— Ладна. Не крыўдуй. Будзь чалавекам. Наша місія — памагчы людзям у бядзе. Лажыцеся, Ірына, на скрынкі. Што ў цябе ў скрынках, генерал?

— Нэ бойся! Нэ атамная бомба.

— Толькі яе не хапае, бо мала з нас адной. Хімчасць? Дэзактыватар?

— Усё табе знаць, да?

— Я ж не скрываю, што мы чыгуначныя войскі.

— То — смалі свае шпалы.

Старшы лейтэнант засмяяўся.

— Харошы ты службіст. Узбек? Казах?

— Салдат Савецкай Арміі.

— Дастойны адказ. Значыцца, інтэрнацыяналіст. А вось мы з Ірынай беларусы. Сваякі,— і праспяваў: — Беларус-беларус — бела світка, рыжы вус.

Ірыне рабілася весела ад прысутнасці такога земляка.

Яны ляжалі на рабрыстых скрынках ніцма, накрытыя плашч-палаткамі. Не ад сонца. Не ад ветру. Ад нуклідаў. Наіўная ахова. І ўсё ж.

Машына набірала хуткасць.

Павел працягнуў руку і абняў жанчыну за плечы. Ірына перасмыкнулася, адсунулася.

— Я мушу трымаць вас. Каб на павароце не здзьмула. Я адказваю за вас,— зняў руку.— Трымайцеся за той рад скрынак. Не шкадуйце манікюрных пазногцяў.

— Вы бачылі ў мяне манікюр?

— Бачу, што яго няма. Думаеце, мне да жаночых рук. Ды яшчэ ў той час, калі вы трацілі прытомнасць. Вада ў цябе ёсць, сяржант?

— У нас всо ест.

— Малайчына! А я — лапух. На ваду забыўся. А раптам ты высадзіш нас пасярод поля.

— Высаджу.

— Ну-ну! Не палохай. У нас слабыя нервы.

Ехалі па вузкай, дзе асфальтаванай, дзе гравійнай, шашы на поўдзень. Праз зялёныя палі, дубовы гай. Праз пустыя сёлы. Даўно знік за ўзлескамі апусцелы горад. Зрэдку насустрач праходзілі вайсковыя грузавікі. Самыя непрыемныя сустрэчы з імі былі на гравійцы: абдавала воблакам пылу. І ўсе яны ведалі, наколькі ён небяспечны, пыл гэты. Усе трое нацягвалі палаткі. Сяржант падаў старшаму лейтэнанту і Ірыне тампоны марлі, сухія, але смярдзючыя ад нейкай зялёнай вадкасці.

— Дыхайце,— і асудзіў: — Старшой! Чаму нэт рэспіратараў?

— У нас начальства эканомнае.

Нечакана крута павярнулі на ўсход, на павароце гэтым стаяў ваенны рэгуліроўшчык, без рэспіратара. А ў хуткім часе яшчэ адзін паварот — на поўнач. Так аб'ехалі эпіцэнтр радыяцыі — зразумела Ірына з новым прыступам сардэчнага холаду. «А Глеб там — у цэнтры». Хто з гэтых людзей можа знаць становішча на станцыі? Павел? Казах? Будка тая і раз'езд, адкуль яны едуць, за якія пяць-шэсць кіламетраў

ад станцыі. Але боязна было распытваць, боязна пачуць, што там нікога няма. Дзе ж тады Глеб? Чаму маўчыць? Пра гэта ж, безумоўна, думае і мама, гледзячы з кабіны на апусцелыя сёлы, разумеючы сэнс аб'езду, крутых паваротаў з рэгуліроўшчыкамі ў чорных камбінезонах.

Неўзабаве выскачылі на шырокую шашу. Па ёй на захад і на ўсход імчала нямала машын — больш грузавікоў, ваенных, але зрэдку прашмыгвалі і чорныя «Волгі», блакітныя і чырвоныя «рафікі», у іх сядзелі людзі ў камбінезонах. Палівальная машына мыла шашу зялёным растворам.

Такі жвавы рух паміж станцыяй і Чарнобылем, Кіевам супакоіў Ірыну. Не, не пуста там, не адзін там Глеб — з мноствам людзей, таварышаў, з вучонымі, спецыялістамі, з салдатамі, афіцэрамі. Яны змагаюцца з бядой. Такі іх абавязак. Хіба яна, каб успыхнула эпідэмія, не была б у цэнтры яе, не дапамагала б людзям? Безумоўна, усе гэтыя людзі, як сяржант, што ляжыць перад імі ўпоперак скрынак, узброеныя правіламі бяспекі, спецыяльным адзеннем, рэспіратарамі. Побач жа вучоныя, многа вучоных... І яе калегі. Многа ўрачоў.

Хораша, калі прыходзіць хоць маленькае заспакаенне. Перадаць бы свае думкі маме, няхай бы і яна супакоілася.

Ды новая карціна ўдарыла ў сэрца трывогай — за людзей. Паабапал шашы працавалі салдаты. Некаторыя агаленыя да пояса, без мацерчатых шлемаў нават. Бронзавыя — як модніцы на крымскіх пляжах.

— Што яны робяць? — крыкнула Ірына.

Павел скрыгатнуў зубамі.

— Ідыятызм! Каго-небудзь будуць судзіць за гэта? Судзіць каго будуць? — крыкнуў ён.— Знаеце, які тут фон? Добрая паўсотня рэнтген!..

— Мілі...

— Якога чорта, сказалі — мілі! Поўненькіх, кругленькіх...

У Ірыны заняло голас, рэбры скрынкі балюча ўпіліся ў грудзі.

— Вы ўяўляеце, што гэта такое? — не сваім голасам спытала яна, і голас для яе самой аддаўся пагрозлівым рэхам, сто разоў паўтораным у шуме машын, у свісце ветру.

— А вы ўяўляеце? — злосна крыкнуў афіцэр.

— Я — урач.

Павел павярнуўся на бок, тварам да яе. Здзіўлена свіснуў:

— Прабачце.

— Завошта, родны мой? Але ведайце: у гэтых хлопчыкаў радыяцыйны загар. Ра-ды-я-цыйны! Скажыце ім! Скажыце!

— Зачэм пугаеш? — закрычаў сяржант, падняўшы рэспіратар.— Зачэм пугаеш?

— Табе чаго баяцца, жырны кот?

— Зачэм аскарбляеш? Зачэм? Раз твой старшой, то всо можна? Да?

— Не шумі, кіргіз.

— Адкуда всо знаеш? Адкуда всо знаеш?

Каля наступнай групы салдат, што працавалі каля шашы, грузавік прытармазіў, цераз разбіты кювет выбраўся на палявую дарогу паміж зялёнага жыта, стаптанага машынамі і людзьмі.

— Дык гэта твае тут? Скажы камандзіру: я наб'ю яму морду.

— Такой смелы, да? Такой смелы! Ай-вай!

Павел першы скочыў на зямлю, працягнуў рукі, пад пашкі зняў збянтэжаную Ірыну з кузава, патрымаў, як бы шукаючы месца, куды паставіць такую каштоўнасць. Ды ўсюды было аднолькава небяспечна — і на пыльнай дарозе, і ў зялёным жыце.

— Я іх навучу — салдата любіць!

Сапсаваў бы, напэўна, старшы лейтэнант Шышко сваю ваенную кар'еру, ды, на шчасце, камандзір гэтага ўзвода ці роты аказаўся разумнейшы — ніхто з салдат не рабіў раздзетым.

Скрынкі разгрузілі ўміг — як згаладалыя харч, мабыць, верылі ў эфектыўнасць гэтага грузу.

— Падкінеш да Чарнобыля? — спытаў Шышко ў камандзіра машыны, які даволі ўвішна дапамагаў у разгрузцы — спяшаўся. Аднак салдаты працавалі без рэспіратараў, а ён у рэспіратары, таму нездарова задыхаўся.

— Нэ магу. Нэ маю права. Я нэ самы балшой камандзір.

14. Зак. 2388.

— Чорт з табой. Адгэтуль мы даедзем.

Ірына працягнула сяржанту руку:

— Дзякую вам. І мама дзякуе.

Ён разгубіўся, не адразу адважыўся паціснуць яе руку, а калі ўзяў у сваю шурпатую далонь, то доўга не адпускаў, і чорныя вочы яго над рэспіратарам, пад казырком фуражкі зрабіліся вільготныя. Палічыў неабходным адрэкамендавацца, каб не застацца безыменным:

— Я — уйгур. Уйгур.

— Будзь здаровы, уйгур,— весела гукнуў старшы лейтэнант.— І не бойся. Не калаціся. Бог не выдасць — атам не праб'е.

Сапраўды, іх падабраў першы ж «КамАЗ», не маглі на такой трасе не ўзяць жанчын і вайскоўца, тут адразу пачалі дзейнічаць законы ваеннай узаемавыручкі.

Шафёр гасцінна запрасіў да сябе Вольгу Андрэеўну і Ірыну — кабіна вялікая.

Агледзеў іх, лёгка адзетых, з асуджэннем; чалавек сталы, з бацькоўскай разважлівасцю:

— Адкуль вы такія лёгкія?

Сказалі — адкуль.

Уздыхнуў спачувальна, але асудзіў Глеба:

— Што ж гэта ён, тэлеграмкі не мог адбіць, сынок дарагі? Хоць якое там! Я сваім таксама — ні слова. У Чарнігаў. Чаго добрага, і мая старая прымчыць. Дарога роўная. Накатаная.

— А вы што возіце? Калі не сакрэт? — спытала Ірына.

— Які сакрэт! Усе сакрэты чмыхнулі ў неба. Кажуць, да Швецыі даляцелі. Карбід важу.

— Карбід? Навошта?

— З верталётаў жэрла ім затыкаюць.

— Жэрла рэактара?

— Ды яго ж, чорта. Толькі ці заткнуць? Вучоным відней. Але, як на мой розум: легкаплаўкі матэрыял. Бетону б туды больш! Ды як зальеш яго? Не навучыліся яшчэ ліць з неба.

Аднак разважлівы спакой гэтага чалавека хораша дзейнічаў на жанчын — гэтак жа, як спакой, уважлівасць і нават усплёскі

то паказной строгасці, то весялосці земляка-афіцэра, што працягваў суправаджаць іх у пустым доўгім кузаве.

Ішлі яны праз пустыя сёлы, ехалі праз іх, перажылі, здаецца, усю гаму незвычайных уражанняў — і страх, і здзіўленне, і заспакаенне, якое, напрыклад, ішло ад Паўлавага аптымізму. Жывыя яшчэ вуліцы зялёнага, белага — у кіпені садоў, утульнага гарадка проста ўзрадавалі. Дзякуй Богу, жыццё працягваецца.

Выехалі на плошчу, дзе стаяла многа розных машын і шпарка хадзілі людзі ў цывільным, у вайсковым, у камбінезонах, у рэспіратарах і без іх.

Шафёр пажадаў ім шчасця.

— Не хвалюйцеся. Усё будзе добра.

Верылі людзі, што такой талакой, грамадою любую бяду адужаць можна. І гэтую таксама. Не разумелі яшчэ глабальнасці катастрофы — ні высокія кіраўнікі, ні радавыя выканаўцы. Не разумелі, што справіцца з такой бядой вельмі складана.

— Во і давёз я вас,— сказаў старшы лейтэнант бадай са смуткам, што скончыўся яго абавязак, які ён рабіў па добрай волі, з ахвотай.

— Дзякую, Паша. Добры ты чалавек,— сказала Вольга Андрэеўна па-мацярынску і не магла не ўспомніць Барыса.— У мяне сын капітан. Лётчык.

— У Афганістане ваяваў,— паведаміла Ірына.

Яшчэ больш зразумелымі сталі і страх і мужнасць маці. Ён прапанаваў:

— Памагчы вам знайсці Глеба?

— Дзякуем. Тут мы самі. У вас служба.

— У штабе знойдуць. Інжынера знойдуць. А я да сваіх. Назад па гэтай дарозе не вяртайцеся. Раю: праз Чарнігаў і Гомель хутчэй даберацеся.

На плошчы было многа машын, але нямнога людзей, яны паводзілі сябе як у дождж — хутчэй пад дах. Сапраўды, Вольгу Андрэеўну і Ірыну здзівіла мнагалюднасць у будынку райкома: у фае, у калідорах, у пакоях на абодвух паверхах — усюды людзі. І людзі гэтыя дадалі заспакаення. Нават тыя з іх, што

сядзелі на крэслах, на падлозе, не рабілі ўражання вакзала, эвакапункта. Нават тыя, хто драмаў, здаваліся занятымі, як пасланцы пры штабе — гатовы ў любую хвіліну на баявое заданне.

Хоць траляліся сярод прысутных у райкоме і жанчыны, але з'яўленне гэтых дзвюх не тое што здзівіла — зацікавіла. Па адзенні, па паводзінах відаць, што неарганізавана, стыхійна заляцелі гэтыя птушкі, старая і маладая. Не цяжка здагадацца і пра мэту іх прылёту. Ды і яны адразу, у фае, дзе дзяжурыў міліцыянер, выказалі гэтую мэту. І самыя змораныя, самыя абыякавыя да ўсяго, акрамя ўласнай задачы, пачалі добразычліва даваць ім парады — куды звярнуцца. Спрачаліся, дзе тая служба, тыя людзі, якія знойдуць іх сына і мужа,— тут ці побач, у ПТВ, дзе атабарылася ўпраўленне станцыі. Большасць згадзілася, што трэба зайсці вось сюды, у пакой з шыльдай «Бібліятэка» — там скажуць пэўна.

У даўгім вузкім пакоі з апусцелымі кніжнымі паліцамі за бібліятэчнымі сталамі сядзелі работнікі невядомай службы, каля кожнага тоўпіліся людзі; пакой угары перапляталі правады палявых тэлефонаў — у штабе як у штабе.

Вольга Андрэеўна і Ірына, агледзеўшыся, падышлі да крайняга, каля акна, стала, за якім працавала адзіная жанчына. Гэтая акалічнасць ці тое, што каля яе было менш прасіцеляў — чалавекі чатыры, абумовілі выбар. У немаладой жанчыны былі ўскудлачаныя валасы і чырвоныя ад недасыпання вочы.

Выслухала іх, не паднімаючы галавы, і асудзіла Глеба:

— Парасё! Пяшком мог бы схадзіць.

Гэта іх уразіла, больш таго — яны абразіліся за Глеба: не ведае, што з ім, а гэтак сурова асуджае!

— Відаць жа, не мог.

— Усе яны не могуць,— крыкнула: — Гаманок! Во табе яшчэ адзін прыклад нашай сувязі. Дазваніцца з суседняга беларускага раёна нам нельга. І ад нас нельга, раз не пазваніў хлопец свайм.

— З Кіевам мы наладзілі...

— З Кіевам... Работнікі ўсёмагутнай абароны!

— Піліпаўна, дакуль ты будзеш шпіляць нашу абарону? Увесь толк з яе выбіла.

— Клапоў з вас хіба можна выбіць...

Наведвальнікі засмяяліся.

Карак падпалкоўніка за суседнім сталом наліўся чырванню.

— Некарэктны вы чалавек, Таццяна Піліпаўна.

— Генерал! Ты хочаш яшчэ карэктнасці ў такой сітуацыі? Накарэктнічалі — ажно крэкчам,— і крыкнула праз пакой, за кніжныя паліцы: — Вася! Дзе ў нас інжынеры станцыі?

— Інжынеры? У ПТВ. З другога блока? Відаць, у бальніцы.

— У бальніцы? — пабялела Вольга Андрэеўна.

— Не палохайцеся. Мы эвакуіравалі дзіцячае аддзяленне. А ў палатах пасялілі аварыйшчыкаў: ёсць нейкія ўмовы для дэзактывацыі. Хоць халодны душ. Бялізна. Медыцына побач. Бальніцу вам пакажуць...

Але трапілі яны ў аддзяленне бальніцы — у «Хуткую дапамогу». Стаялі ў гатоўнасці санітарныя машыны, хадзілі ўрачы і сёстры. Увогуле добразычлівыя людзі: ахвотна расказвалі, дзе знайсці інжынера. Але як толькі Ірына, выяўляючы прафесійныя веды, пачала распытваць, што ж тут адбываецца — якая радыяцыя? якія паражэнні? ці ёсць смяротныя выпадкі? — мужныя людзі гэтыя, падзвіжнікі, адразу як у шкарлупіну залезлі: такой інфармацыі яны не маюць.

— Калегі дарагія, як жа вы можаце без ведання ўзроўню радыяцыі аказваць дапамогу?

Такое Ірыніна пытанне разагнала шасцярых людзей у белых халатах, якія было праявілі цікавасць да беларусак, што прыйшлі за пяцьдзесят вёрст, каб знайсці сына і мужа. Уміг ва ўсіх з'явіліся неадкладныя справы, хоць адзін прагаварыўся, што хворых у іх тут няма, хворых — з радыяцыйным паражэннем — яны тут жа адсылаюць такіх у Кіеў. Засталася адна пажылая жанчына — ці не санітарка? — добрая ўкраінка, якая расказала, дзе шукаць Глеба.

Ірына расхвалявалася.

— Мама! Ім забаранілі даваць даныя. Чаму? Няхай мы там нічога не ведаем. Але тут... каля самай станцыі... людзям, якія затыкаюць жэрла, як сказаў шафёр. Павел абураўся, што салдаты голыя. Сказаў: па паўсотні рэнтген яны хапаюць. Вы ўяўляеце, што такое столькі рэнтген? Калі ён завысіў у пяць разоў, то і такая доза вельмі небяспечная. Што мы робім? Мама! Што робяць людзі, якія кіруюць гэтым? Гэта ж забойства!

Ад нервовага ўзбуджэння Ірыну нават трэсла. Вольга Андрэеўна маўчала, яна са страхам чакала сустрэчы з сынам. А калі яна адбудзецца? Калі ён там, на станцыі? Ірына не думала, які страх яна наганяла на маці сваім абурэннем. А свякроў перажывала і за яе: ёй, можа, яшчэ страшней — ад таго, што яна ведае характар небяспекі, тэорыю.

Яны заглядвалі ў палаты. Адна, другая — пустыя, але з прыкметамі, што тут жывуць людзі, з мужчынскім беспарадкам. У трэцяй палаце двое спалі. Нездаровы сон — потныя і загарэлыя — адзначыла Ірына. О, гэты загар! Ён асабліва страшыў яе — не быў бы такім Глеб!

У наступнай палаце цэлая кампанія абедала. Па-халасцяцку — кансервамі. Але на століку стаяла цэлая батарэя пляшак кабернэ. Хлопцы не збянтэжыліся. І не здзівіліся.

— Пыльчанка? Глеб? А ён у кабінеце загадчыка аддзялення. У канцы калідора.

За дзвярамі кабінета гучала прыглушаная вясёлая музыка, аперэтачная. Здзівіла яна жанчын, нават спалохала — вельмі ж здалася недарэчнай. Але тут жа разважылі. А чаму недарэчная? Яўна тэлевізар. Глеб са школьных гадоў — вялікі аматар тэлевізара, не адарваць ад экрана. Калі прыязджаў з інстытута, лепш за раённых майстроў умеў адрамантаваць любы радыёпрыёмнік, тэлевізар. «Во тэхнар!» — захапляўся бацька.

Колькі хвілін стаялі перад дзвярамі, не адважваючыся адчыніць, баючыся нават глядзець адна на адну, своеасаблівай жаночай інтуіцыяй чуючы, што там ён.

Ціхенька прыадчынілі дзверы і сапраўды ўбачылі Глеба, яго спіну, яго патыліцу, такую родную. Двое іх сядзелі перад

тэлевізарам і глядзелі музыкальны фільм. Як толькі жанчыны не самлелі: такая ідылія!

Доўга не ведалі, як паклікаць яго, як адарваць ад экрана. Ды пэўна ж ёсць біятокі. Пачуў Глеб іх. Павярнуўся. Спалохаўся:

— Мама! Іра! Вы? Якім чынам?

Вольга Андрэеўна кінулася першая, абняла, потым узяла ў далоні яго бялявую галаву і глядзела ў твар, у вочы. Ірына стаяла збоку, чакала сваёй чаргі абняць мужа. Закахана глядзела на яго і да галавакружэння ўслухоўвалася, як растае айсберг яе страху, растае падводная яго частка, скрытая ад самой сябе, ад маці: Глеб не загарэў, наадварот, за гэты тыдзень твар яго паблядпеў. Добры сімптом. Значыць, ахоўваўся.

Таварыш Глеба выключыў тэлевізар і далікатна выйшаў.

Маці пацалавала сына ў шчокі.

— Ірыначка, на ж тваю радасць. Цалуй яго, цалуй. Глебчык! Што ж ты рабіў з намі?

— Як жа вы? Сюды не ўсіх пускаюць.

— Сыне, хіба могуць не пусціць маці, жонку?

Ірына трохі сарамліва цалавала мужа і дакарала:

— Не мог пазваніць...

— Ірыначка! Пасля эвакуацыі Прыпяці тут усё было блакіравана. Але я даваў тэлеграмы. Я паслаў вам тры тэлеграмы.

— Ніводнай не атрымалі.

— Фантастычная сувязь!

— У нас усё фантастычнае.

— Як ты тут, сыне?

— Ды нічога, мама. Жывём, як на курорце.

— Ты робішся падобным на брата. Гэта ў Барыса ніколі не было сур'ёзнасці. Ён у Афганістане прыгожых афганак з неба выглядаў, калі верыць яго расказам.

— Праўда, мама! Бачыш, як жывём? Бясплатна кормяць... колькі хочаш. А працуем... адну гадзіну ў дзень. З дарогай туды і назад — дзве.

Маці ўспомнілася наконт адной гадзіны: зноў жартуе. А Ірына насцярожылася, бо падумала, пры якой жа радыяцыі працуюць людзі, калі іх трымаюць там усяго адну гадзіну.

— Што ж вы робіце?

— Кансервіруем станцыю... тры ўцалелыя блокі. На нейкі час. А вы думаеце — гэта проста? Націснуў кнопку — і спыніў. О не! Лічаць, што аварыя на чацвёртым адбылася ад парушэння рэжыму выбегу ротара генератара... спынялі турбаагрэгат на прафілактычны рамонт. Валяць віну на маіх калег-энергетыкаў, хоць адзін Бог ведае, што там здарылася, хто вінаваты. Хлопцаў...— і асекся.

Чаму — маці не зразумела, Ірына здагадалася: хлопцаў няма ў жывых. У сэрца яе зноў ударыў страх. Карцела спытаць, колькі загінула людзей, але баялася, што Глеб па прастаце сваёй скажа праўду і моцна спалохае маці.

— Яго можна патушыць?

— Рэактар? Патушыць? Ірына! Ты ж вучыла фізіку! Яго глушаць... у двукоссі. Расхалоджваюць. Аўтаматычна апускаюць графітавыя стрыжні. Гэта робяць зараз рэактарнікі на іншых блоках, а мы кансервіруем свае сістэмы... іх жа сотні... сепаратараў, трубаправодаў, генератараў, помпаў, размеркавальных шчытоў. І ўсё гэта павінна спыніцца ў такім стане, каб, калі трэба будзе пусціць, зноў не было нечаканасцей...

Глеб захапіўся расказам. Забываўся — заглыбляўся ў незнаёмую для іх тэрміналогію, спахопліваўся — стараўся расказаць ім, недасведчаным, даступна, але гэта было цяжэй, нязвыкла — нікому так не расказваў, бо даваў падпіску аб захаванні тайны; на атамнай было засакрэчана нават тое, што ў інстытутах вучылі студэнты з усяго свету, з усімі колерамі скуры.

Маці і жонка слухалі яго, здавалася, вельмі ўважліва, глядзелі ў вочы, у рот, але тэхналагічныя прамудрасці іх мала цікавілі, яны думалі пра сваё, чалавечае, жаночае, мацярынскае.

Глеб спахапіўся:

— Чым жа мне накарміць вас? Мы толькі паабедалі. Пабягу да нашых на кухню, гэта побач з ПТВ.

— Не трэба, сынок. Мы не галодныя. Цешча твая дала і нам... і табе... велікодных прысмакаў.

Змаўчалі, як змовіліся, што кілбасы хатнія Ірына скарміла ласкаваму сабачку, што суправаджаў іх з украінскай вёскі да будкі і застаўся там з салдатамі. Ірына нават свекрыві не рас-

казала, не таму, што не было калі, а каб не палохаць, як Павел Шышко сказаў у кузаве, з болем, калі яны ад'ехалі ад пераезда і пёсік кінуўся за імі: «Сабачку прыйдзецца застрэліць — многа ён набраў у сваю поўсць».

Тады яна прыняла гэта спакойна. А тут падумала, што сабачка ўжо мёртвы, валяецца ў зарасцях акацыі каля чыгункі, і зрабілася ёй балюча і страшна: а што з людзьмі, якія «многа набралі»?

Вольга Андрэеўна асцярожна і далікатна спытала ў сына:

— Глеб, а трэба табе заставацца тут?

— Мама! Я сакратар камсамольскай арганізацыі. Дэзерціраў без мяне хапае. Разбягаліся, што зайцы. Як Вася Гмыр, дружок мой на вяселлі. Я так не магу. Чаго баяцца? Я ж не адзін тут. Нас тысячы. Бачылі, колькі салдат? Генералы. Чым яны горшыя? Многія ўцяклі. Але колькі просіцца сюды!

— А што кажуць вучоныя? Тут жа, перадавалі, сам Велехаў...— спытала Ірына.

— Чай я з ім не піў. Але выступалі перад намі фізікі і твае калегі, маскоўскія і кіеўскія прафесары. Канешне, выплюнуў рэактар трохі... Меры перасцярогі трэба. Дык ёсць жа яны! Ёсць! У нас асвінцаваныя камбінезоны, рэспіратары...

Ён казаў маці і жонцы тыя словы, якія казалі яму. Ён не верыў ім, як і большасць яго таварышаў, што добраахвотна пайшлі... штодня, няхай і па гадзіне, ідуць на ўтаймаванне атамнай стыхіі. Але словы гэтыя мелі магічную сілу — што заклінанне, што гіпноз. Імі можна супакоіць людзей, народ. І імі карысталіся палітыкі, вучоныя. Імі карыстаўся і Глеб. Але ж яму трэба супакоіць блізкіх людзей — маці, жонку. Можна ўявіць, як яны спалохаліся там, калі дабраліся да яго праз усе перашкоды. Прагаварыліся, што пайшлі тайна ад бацькі. І яшчэ больш кранулі гэтым.

Але ён супакоіў іх і ўзрадаваў іншым, не гіпнатычнымі словамі:

— Я працую ўначы. Папрашуся ў начальніка змены даць мне адпачынак. Хлопцам з трэцяга блока ўчора далі па два тыдні. Загад міністра.

## IV

Вярнуўшыся з Гомеля гадзіны ў тры ночы, Уладзімір Паўлавіч здзівіўся, што дом пусты, запіску на стале пад шклянкай знайшоў не адразу. Іншым была занята галава. Абураны, узбуджаны, стомлены, ён колькі хвілін то кідаўся па пакоі, то соваўся старэчай паходкай, то стаяў, утаропіўшыся ў буфет, забыўшыся, што хацеў знайсці там – выпіць, з'есці? Толькі халодны душ, узбадзёрыўшы фізічна, супакоіў душэўна. А можа, струмень моцных слоў, які ён выпусціў у адрас высокага кіраўніка, што праводзіў начную нараду. Дзеля чаго было гнаць людзей – і раённых і прыкамандзіраваных – за сотню, паўтары сотні вёрст, каб сказаць агульныя словы, нічога канкрэтнага, нічога такога, што хаця б прасвятліла агульную абстаноўку. Тое, што сказана, можна было перадаць па селектары. Сакрэты? Якія да д'ябла сакрэты, калі і сам гэты Лявонцій, падобна, ні д'ябла не ведае, ва ўсякім разе, не больш, чым яны, грэшныя. Але ўладу паказаў. І першым пад удар трапіў ён, Пыльчанка.

Да Лявонція дайшло, што аўтобусы з дзецьмі з іх раёна пайшлі без вады і дзеці плакалі ад смагі і страху. Нехта капнуў з добрых суседзяў. Лявонцій праявіў кранальны клопат пра дзяцей, калі гаварыў, ажно вочы вільготныя сталі, і разнёс іх, раённых кіраўнікоў, за бяздушнасць і чэрствасць. Безумоўна, з тых, хто непасрэдна займаўся эвакуацыяй, варта зняць стружку. Але Пыльчанку не спадабаліся тон і выразы высокага кіраўніка. Ды і не гэта галоўнае! Не вада і не яда. Ад гэтага дзеці будуць цэлыя.

– Хто адказваў за вываз дзяцей?

Сінякоў не падняўся.

Ён, прасцяк, узяў на сябе.

– Я.

– У вас дзеці ёсць? У вас унукі павінны быць! Сівы чалавек.

І ён не вытрымаў, ён выпаліў тое, што думаў увесь мінулы тыдзень:

— Дзяцей трэба было вывезці дваццаць сёмага — дваццаць восьмага! А мы цяпер вадой заліваем сваю бяздзейнасць.

Сур'ёзны папрок усім інстанцыям — ад Палітбюро да райкомаў, так гэта і зразумелі ўсе. І стаіліся. Бо перш-наперш яму, Лявонцію, не ў брыво, а ў вока. Такое яму даўно ніхто не адважваўся кідаць. О, як гэта яго ўзарвала! Твар не пачырванеў — пабурэў. Не, голасу ён не павысіў, наадварот, панізіў ледзьве не да шэпту. Але які гэта быў грамавы шэпт! У слабанервовых і палахлівых халадзелі спіны.

— ЦК і ўрад ведаюць, што рабіць! І не вам указваць! Ваша справа выконваць! А вы і гэтаму не навучыліся. Галава сівая, а розуму мала.

З двух бакоў, з аднаго — Сінякоў, з другога — сакратар райкома з суседняга раёна, самага блізкага да станцыі, тузалі яго за калашыны, як хлапчука, ледзьве не сцягнулі штаны,— каб ён маўчаў, не выклікаў агонь на сябе, бо пад агонь гэты трапляюць усе яны. Ды і час... Хутчэй бы вярнуцца дадому, гадзіну-другую паспаць.

Пыльчанка змоўчаў. Але ўсё роўна на працягу двухгадзіннай нарады Лявонцій неаднойчы вяртаўся да яго, праўда, не так ужо злосна, паблажліва, нават як бы з прабачэннем, з напамінкам, што крытыка ўсім нам памагае працаваць лепш і што ў той сітуацыі, якая ўзнікла, трэба не толькі франтавая аператыўнасць, але і вайсковая дысцыпліна.

Абстаноўку ў раёне дакладваў Сінякоў. Не вельмі дасведчана. Пыльчанка кіпеў і супраць свайго сакратара, але маўчаў. Сарваўся ў дарозе, у машыне. Выдаў такое ўсяму начальству — ад Масквы да Гомеля, што Сінякову, які не вельмі верыў свайму шаферу, стала страшнавата. Павярнуўся з пярэдняга сядзення, узяў старшыню за штрыфель пінжака, шморгаў, разгублена і жаласліва прасіў:

— Уладзімір Паўлавіч... Уладзімір Паўлавіч,— маўляў, пашкадуй мяне, калі сябе не шкадуеш.

Замёрзлы ад халоднай вады, нацягнуў на голае цела світэр, але застаўся ў трусах, не трапілі на вочы шаравары. Выпіў каля буфета чарку гарэлкі — для сугрэву цела і душы.

Калі ставіў хлебніцу на стол, убачыў запіску: «Мы паехалі да Глеба».

Не адразу сэнс слоў дайшоў да яго разгарачаных мазгоў, спачатку нават заспакоіўся — адышла трывога за начную адсутнасць жанчын. Не сумняваўся, што Вольга суправаджае Ірыну да яе бацькоў. Аднак жа ніколі не было, каб пакідала вось так дом без прыгляду, і гэта здзівіла і абурыла. Няўжо так прывязалася да Ірыны, што не можа і дня пражыць без яе? Само па сабе гэта добра, што свякроў і нявестка так паразумеліся, так пасябравалі. Вольга дзесяць гадоў бядуе, што не нарадзіла дачку. Набыла дачку — цешыцца.

Толькі калі адчыніў на кухні дзверцы халадзільніка, ударыла, што токам: яны паехалі да Глеба! І ён закрычаў на ўвесь апусцелы дом:

— Ды вы што? Адурэлі? Вар'яткі! Бязмозглыя дурніцы! Куды вы палезлі? Ну, я вам пакажу, хто ў доме камандзір! Я вас навучу дысцыпліне!

Але выпіў адну чарку — трохі супакоіўся. Заснуў.

Разбудзіў тэлефонны званок. Званіў Сінякоў:

— Толькі што паступіў загад выселіць людзей з трыццацікіламетровай зоны.

— З якой зоны?

— У радыусе ад станцыі... Трапляе чвэрць раёна, два дзесяткі вёсак. Да нас вылецела на верталёце абласное начальства.

Пыльчанка вылаяўся. Са ўчарашняга дня як прарвала — хацелася «хрысціць» у бога і душу ўвесь свет, начальства, вучоных, сябе, блізкіх сваіх — баб дурных, якія невядома дзе блукаюць; не хапала яшчэ трывогі за іх!

— Яны што — учора не маглі сказаць? Паразумнелі за ноч? — і зноў вырвалася ўчарашняе абурэнне: — Больш у яго праблем не было, як вада. Які добранькі! Вадалей!

У кабінеце першага ўжо сабралася ўсё раённае кіраўніцтва. Па адным прыязджалі старшыні калгасаў і сельсаветаў, якія падлягалі эвакуацыі. Засядаў штаб. Выпрацоўвалі аперацыю. Спрачаліся. Крычалі, забываючыся на субардынацыю, на этыкет. Званілі ў вобласць, у Мінск. Што рабіць з жывёлай?

Ніхто не даваў канкрэтных указанняў. Гнаць за сабой? У аднаго Целеша – дванаццаць тысяч бычкоў. Трымалі іх у хлявах гэтыя дні, набралі бэр нямнога, можна гнаць. А свіней? Калгасных. Прыватных. Вывозіць? Куды? На чым? Званілі на мясакамбінаты, паўночным суседзям: памажыце з транспартам. Добра, што збожжа мала засталося – пасеялі. А ці добра? Пасеялі. А ці прыйдзецца жаць?

Прыляцелі з абкома, аблвыканкома, начальнік абласной грамадзянскай абароны, вайскоўцы. На іх карце населеных пунктаў аказалася менш.

Пыльчанка высмеяў чырвоны круг, вычарчаны цыркулем.

– Нукліды якраз жа леглі па цыркулі грамадзянскай абароны.

Ён на начной нарадзе бязлітасна крытыкаваў гэтую службу. Аднак амбіцыйны генерал чуў, як яго, Пыльчанку, таптаў партыйны маршал, і лічыў, што яго песенька спета, а таму ігнараваў выказванне гаспадара раёна, які лепш чым хто ведаў і людзей, і гаспадаркі, і радыяцыйную абстаноўку, і транспартныя магчымасці.

Спачатку Уладзімір Паўлавіч успыліў, потым махнуў рукой: няхай вырашаюць што хочуць – выконваць будзе ён. Няхай яго пасля судзяць за адступленне ад іх плана. Паперка для бытавой патрэбы – во што іх план, які яны сачыняюць з такімі сур'ёзнымі выглядамі.

– Вы дайце мне прыборы, каб я ведаў, якую жывёлу можна гнаць на мясакамбінат, а якую трэба закапваць у зоне.

– Як закапваць? – спалохаўся намеснік старшыні аблвыканкома.– Хто вам дасць права закапваць?

– Ты будзеш жраць гэтае мяса?

Абласны кіраўнік да павышэння быў калегам, сябрам, сабутэльнікам Пыльчанкі, тады яны не выбіралі далікатных выразаў. І цяпер абразіла не грубасць падначаленага – жраць! – а першае ўсведамленне, што можа здарыцца, калі ён і яго сям'я з'ядуць кілбасы ці катлеты з забруджанага мяса; тады яшчэ ніхто з іх не ведаў механізма паражэння, тэорыю накаплення бэраў.

Простая, хоць трохі і грубая заўвага, а скаланула ўсіх. Ажно змоўклі, прытаіліся, і ўсе павярнуліся да міністра аховы здароўя, які начаваў у Гомелі і прыляцеў разам з дэлегацыяй на верталёце. Чакалі яго тлумачэнняў. Але тлумачэнні нікога не задаволілі. Галоўнае — іх нельга падшыць. Трэба інструкцыі. Зноў званілі ў Гомель, у Мінск, выбівалі інструкцыі, прыборы.

— Дзень канчаецца, стратэгі!

Не, ён быў немагчымы, Пыльчанка. Сінякоў стагнаў ад яго саркастычнасці, калючасці, задзірыстасці. Навошта ён заядаецца з усімі? З'явілася нечаканая думка: «Хоча, каб яго выгналі адгэтуль. Хітруган стары!» — і сакратар настроіўся супраць свайго старшыні, з якім разам атрымоўвалі і ўзнагароды, і «ўколы», з якім, спадзяваўся, разам будуць несці і гэты цяжкі крыж, хацеў несці толькі з ім, дзелавым, разумным.

Пазней за іншых з'явіўся Пустаход, бледны, разгублены,— ведаў прычыну.

Пыльчанка і свата тут жа загнаў у куток кабінета, у якім тоўпілася два дзесяткі чалавек.

— Ты знаеш, дзе Іра, дзе жонка мая?

— Паехалі... пайшлі да Глеба.

— Ад цябе?

— Хацелі плыць...

— Збіраліся пры табе?! Боўдзіла стары! Як ты мог адпусціць! — і гэта такім голасам, што ўсе пачулі, адарваліся ад гарачых планаў, зацікаўлена павярнуліся да іх. Хто знаў, што тыдзень назад яны сталі сватамі, тыя пасміхнуліся з вясёлай злараднасцю.

Распісалі, хто куды едзе. Пачалі разыходзіцца. Міністр іраваўся ў гарачую кропку — у сяло, з якога відаць станцыя. Можна пахваліць франтавую смеласць прафесара. Не тое што ўчарашнія маскоўскія вучоныя, якія вынырнулі на нарадзе ў абкоме і на якіх ва Уладзіміра Паўлавіча гарэў зуб. Толькі нечаканы наскок Вадалея (так ён цяпер называў высокага кіраўніка), сутычка з ім перашкодзілі сцёбнуць па сталічных свяцілах. Пасля нарады яны ліслівілі перад ім і Сіняковым, абяцалі «шырокае навуковае забеспячэнне ліквідацыі вынікаў аварыі».

Але і на парыў міністра Пыльчанка адрэагаваў зусім нечакана:

– А вам што рабіць там? Няма работы ў міністэрстве? Вашых інструкцый чакае ўся рэспубліка.

«Сабачае жыццё,– пакрыўджана падумаў міністр.– З Мінска гоніць высокае начальства. З раёна – раённае. Сапраўды, боўтаемся...» – і, не развітаўшыся, скіраваў узрадаванага вадзіцеля ў зваротны шлях; калега яго і спадарожнік – «творца культуры», пакінуў яго яшчэ ўчора ў Гомелі, прысуседзіўся да некага са світы Дырэктара.

Калі ўсе разышліся, Сінякоў затрымаў Уладзіміра Паўлавіча. Яшчэ да свята ўзнікла неабходнасць непрыемнай размовы, але не стаў псаваць старэйшаму таварышу настрой ды і сабе таксама. Акрамя таго, спадзяваўся, што чарнобыльская падзея закрэсліць дробныя чалавечыя канфлікты. Але Плечка заяву не забіраў, наадварот (дайшло праз людзей), пагражаў, што будзе пісаць у абком. Але чаму Сінякоў пагаварыць пра гэта выбраў такі момант? Несумяшчальныя падзеі. Разумеў, што Пыльчанка пры яго «заведзенасці» можа адказаць больш чым нетактоўна. Але Пятро Міхайлавіч у сваю чаргу завёўся супраць старшыні. За яго «выбрыкі» ў абкоме і тут, на гэтай адказнай нарадзе, дзе старшыня не мінаў нікога, ні чужых, ні сваіх, «кожнаму дзіцёнку выдаў па лапцёнку». Але найбольш яго, маладога, асцярожнага, абурыла думка-падазрэнне – з якой мэтай Пыльчанка гэта робіць. Нават клопат пра яго ных дзяцей – машыну сваю аддаў – Сінякоў тлумачыў зусім па-іншаму, без учарашняй удзячнасці. Чалавек ён быў не сапсаваны, але тое кола, у якім круціўся, паступова рабіла яго падазроным і падводзіла да непрыемнай думкі: і добрую справу людзі робяць з выгадай для сябе, без выгады ніхто нічога не робіць. Пыльчанка надумаў навастрыць лыжы – таму і праявіў такі кранальны клопат пра яго дзяцей.

Аднак адчуваў сябе сакратар няёмка, бо разумеў: не да месца размова, не да часу.

Стаялі пасярод кабінета. Вочы Сінякоў узнімаў не вышэй ніжняга гузіка Пыльчанкавай сіняй сарочкі.

— Прабачце, Уладзімір Паўлавіч... ёсць размова, узнікла яшчэ да Першага мая, але я не дазволіў сабе перад святам... Гэта наконт вашага вяселля. Плечка напісаў заяву на імя бюро райкома... Распісвае, што вы наладзілі грандыёзную п'янку... калі ўся краіна змагаецца...

— З чым?

— З п'янствам.

— Не смяшы!

— Я знаю вашу думку. Але вы знаеце, як да гэтага ставяцца там,— тыцнуў пальцам у столь.— Мы таксама выключылі, вымовы запісалі. Зразумейце маё становішча... Уладзімір Паўлавіч... Справа не ў вяселлі. Плечку пабілі ў вас...

— Слаба.

— Уладзімір Паўлавіч!

— Пятро Міхайлавіч! Табе няма чаго рабіць? Табе трэба ехаць у Высокі Гай, прыняць людзей, якіх я прышлю. Прыняць Пустахода. Цэлы калгас!

— Але заява...

— Схадзі ты з ёй... за дуб.

Сінякоў цяжка ўздыхнуў:

— Мне перадалі: ён пагражае перадаць у абком. І ў часць, дзе служыць ваш сын.

— Сукін сын ён, ваш Плечка! Ён шукае прычыну ўцячы з раёна. Подлы трус! Хай уцякае. А нам з табой трэба людзей ратаваць, а не глупствам займацца!

Сказаў гэта з такім запалам, з такім пачуццём адказнасці, што Сінякоў падумаў:

«Не, гэты нікуды не пабяжыць. Не той чалавек!» — і пранікся да яго павагай, прыязнасцю, як да вернага таварыша ў баі.

— Аднак наліха нам такі канфлікт! Размова на ўсю вобласць. Пагаварыце вы з гэтым... свістуном. Па-бацькоўску. Угаварыце забраць заяву.

— Я? З Плечкам? Ды раней рак свісне ў тым рэактары!

Да Пустахода Уладзімір Паўлавіч паехаў з першым эшалонам аўтобусаў. Спадзяваўся, што з ходу пагрузіць старых, школьнікаў у машыны і вывезе на поўнач раёна, за паўсотню

кіламетраў. Праўда, на нарадзе ў райкоме ён пляснуў па абласным начальстве: не туды эвакуіруем людзей, з паўночных сельсаветаў паступалі трывожныя звесткі аб павышэнні фону. Але ніхто не даў пунктаў размяшчэння эвакуіраваных у далёкіх раёнах — некалькі вёсак у самым блізкім, суседнім. Усяго. Туды вывозілі найбліжэйшыя ад станцыі вёскі. Усім астатнім — манеўр у межах свайго раёна. Дало нарэшце начальства ініцыятыву: вы гаспадары, вы і плануйце — каго куды. Дзіўна, што ўсе, нават ён, Пыльчанка, верылі: эвакуацыя ненадоўга; на станцыі і вакол тысячы вайскоўцаў вядуць дэзактывацыю, вайскоўцы пачалі прыбываць і ў суседні раён. На нарадзе ўсіх ашаламіў начальнік міліцыі Дунец, ён сказаў, цяжка ўздыхнуўшы: «Эвакуацыя навечна».

На яго замахалі рукамі: знайшоўся вялікі фізік!

Але ва Уладзіміра Паўлавіча словы Дунца заселі ў мазгах, што ржавы цвік. Ды гэтак жа, з другога боку, сядзеў разнос Вадалея. І ўвогуле раздражняла бесталковасць каманд, што паступалі зверху. А тут яшчэ Сінякоў з гэтым дурнем Плечкам. Знайшоў час! Ашчаджаў мяне на свята. Кранальна да слёз. «Пайшлі вы ўсе, дабрадзеі!» Настрой быў сабачы.

А прыехаў да Пустахода і... збялеў ад злосці. Дамаўляліся, што да прыходу аўтобусаў людзей з малых вёсак звязуць на калгасным транспарце на цэнтральную сядзібу, дзе ўсе будуць сабраны ў клуб, у кантору калгаса, у сельсавет. Мала што зроблена. Але асабліва абурыла бяздзейнасць свата. Лепшы старшыня, якога любіў за розум, ініцыятыўнасць, ператварыўся ў старога разгубленага таптуна: нібыта нешта і рабіў, кідаўся ў розныя бакі, праўда, не сварыўся — прасіў, маліў, але ўсё гэта — што хада па замкнутым крузе ці таптанне на месцы.

— Ты чаму не сабраў людзей?

— Не хочуць.

— Што значыцца — не хочуць? Ды ты растлумачыў сітуацыю? Дзе твой актыў?

— Пытаюць: а жывёлу куды?

— Якую жывёлу? Ты пра каго думаеш — пра людзей ці пра свіней? Табе сказалі, куды жывёлу.

— Калгасную я эвакуірую. А людскую — куды?

Па дарозе сюды Пыльчанка з горкім болем бачыў, як гналі вялізныя статкі кароў, цялушак, бычкоў. Адзін такі статак узняў пыл на гравійцы, перагарадзіў дарогу машынам. Ён, Пыльчанка, крычаў на пагоншчыкаў:

– Па зелені... па зелені ганіце! Па жытах! Па лугах! А не па дарозе!

– Дык шкада ж, таварыш старшыня.

Шкада... А яму хіба не шкада? Сэрца крывёю абліваецца ад такой патравы і ад думкі, што заўтра гэты дойны статак не дасць малака. Ды і ці можна спажыць будзе гэтае малако? Куды ж дзяваць столькі кароў? Яшчэ не паспелі накарміць народ – і на табе! З болем думаў: «Сорак першы... Паўтараецца сорак першы... Што ж гэта за напасць на мой няшчасны народ?»

Сем гадоў яму было, а ён добра помніць, як праз сяло іх цягнуліся вось такія статкі жывёлы; ішлі то натоўпам, то па адной з цяжкімі клункамі за плячамі змораныя жанчыны, несучы, ведучы за рукі знясіленых дзяцей. Ішлі з Гомеля на Навазыбкаў, на Бранск, на Маскву, верачы, што толькі там ратунак, што толькі туды не дасягне вораг. А на якіх рубяжах спыніцца гэтая бяда? Учора ў абкоме нехта сказаў, што першымі засеклі павышэнне радыяцыі шведы. Жах!

Разумеў усю складанасць эвакуацыі лепш, чым тыя з абласных і сваіх мудрацоў, што ў райкоме так доўга планавалі яе. Але толькі тут, у Пустахода, зразумеў яшчэ адну асаблівасць незвычайнасці яе, зразумеў, калі прайшоў па хатах. Яна заключалася ў самім дні. Была перадвелікодная субота. Пасярод дня паліліся печы. Пякліся пасхі, як тут называюць велікодныя калачы. Смажыліся кілбасы. Запякаліся кумпякі. Фарбавалі цыбульным шалупіннем яйкі. Гналі самагонку амаль адкрыта – у хатах, на гародах, самыя асцярожныя – у прырэчных кустах. Пахла святам. І вялікай бядой, трывогай. У адной хаце старыя бабулі перад абразамі спявалі псалмы, здалося, не велікодныя, не гімны ўваскрэсенню, а стагнанне па распяцці. Душу разануў гэты спеў. Прыкаваў Уладзіміра Паўлавіча да вушака дзвярэй. Тысяча спраў, клопатаў, а ён, камандуючы, стаяў і слухаў жаночае галашэнне. Не зварухнуўся

і тады, калі жанчыны гэтыя пачалі здымаць са сцяны ікону Багародзіцы, цалавалі яе і абгортвалі ручнікамі — паедуць з родных хат толькі з ёй, заступніцай выгнаных.

У наступнай хаце пераканаўся, як мяняюцца людзі ў незвычайных сітуацыях. Свацця, ціхая, пакорлівая Мар'я Пятроўна, рабіла тое, што належала рабіць яе мужу і ўсяму актыву — калгасным гаварунам: спакойна і пераканаўча ўгаворвала людзей хутчэй сабрацца ў дарогу.

— Людцы добрыя, пра здароўечка дзяцей падумайце. Зараза гэтая нябачная, але страшная.

— Мар'ечка, дык пасачкі ж не спякліся. І кабанчыка не разабралі. Хоць сальца возьмем з сабой.

На гародзе смалілі парсюка. У суседзяў завішчаў і змоўк падсвінак — закалолі. І нязменнае пытанне, як у Пустахода:

— А куды жывёлу дзяваць, старшыня?

На нарадзе дамовіліся, што райспажыўсаюз мабілізуе грузавы транспарт і арганізуе закуп у насельніцтва, якое высяляюць, кароў, цялят, свіней. Абавязалі ўпраўляючага банкам выдаць грошы, каб разлічвацца наяўнымі, у такой сітуацыі не кожны паверыць дагаворам з любымі гербавымі пячаткамі. Але ніводнай нарыхтоўчай машыны не прыйшло. І людзей патрэбных не было, хоць упаўнаважаных з розных іншых арганізацый прыехала нямала. Што рабіць, напрыклад, сельгасхіміі? Дэзактываваць не ўмеюць, ды і сродкаў ніякіх не маюць. Сноўдаўся пад нагамі прадстаўнік абласнога аграпрама. Яго задача: зрабіць усё, каб не знізіліся надоі. Наказ маскоўскай групы, якая ўчора ганебна ўцякла. Пыльчанка паслаў яго... Якія надоі! Заатэхнік? Суправаджай тры тысячы галоў буйной рагатай у паўночныя калгасы. Пратупай паўсотні вёрст, паначуй у полі. Уцёк спецыяліст. Можна і не падначаліцца — ён абласны.

Сваіх Пыльчанка пагнаў з аўтобусамі ў суседнія вёскі сабраць хутчэй людзей.

Кінуўся да тэлефона. Доўга шукаў па раёне Калошу, старшыню райспажыўсаюза. Знайшоў не ў паўднёвым — у паўночным «чыстым» калгасе. Абурыўся страшэнна і выдаў тыраду мацнейшую за начную, што выплеснулася ў машыне:

— Слухай ты, гандляр няшчасны! Калоша стаптаная. Дэзерцір! Трус! Ты што там робіш? На вайне я цябе расстраляў бы даўно. Калі праз гадзіну не прыедуць нарыхтоўшчыкі, заўтра на работу не выходзь. Дзе я?! У Пустахода я!

І тут жа праз акно ўбачыў, што людзі, якія сабраліся ўжо ў клубе, чэрпаюць ваду з адкрытага калодзежа. І зноў загрымеў:

— Чакай! Не кладзі трубку! Вада ў цябе ёсць?

— Якая вада?

— Мінеральная.

— Выпілі за свята.

— Хто яе піў, брахун? У горадзе пляшкі нідзе не было! Паднімі сваіх гультаёў. Забяры ў рэстаране, у сталоўцы. І — сюды! Не, не сюды! Вывозь у Бабры, у дарожны буфет. Калона забярэ ваду там... па дарозе...

— З камфортам хочаш ехаць, Уладзімір Паўлавіч. Можа, гарэлачкі падкінуць, вінца?

Пыльчанка аслупянеў: Калоша, які згінаўся перад ім, праяўляе такое нахабства! Развал! Людзі выходзяць з-пад улады... гэта ён заўважыў па сваіх работніках, якія прыехалі, каб памагаць яму. А хіба сам ён не выйшаў з-пад улады, калі кіраўніку намнога рангаў вышэйшаму адказаў учора яшчэ больш дзёрзка? Мімаволі паўтарыў яго і... атрымаў плявок. Знайшоў праблему! Аднак ёсць праблема! Ёсць. І не ў тым яна, што дзеці плакалі, просячы вады. Хіба ў суседзяў, што прымалі дзяцей, не хапае вады? Праблема во дзе, пра яе Вадалей не падумаў: людзі тыдзень п'юць з адкрытых калодзежаў! Той «усявышні» далёка — у Мінску. А яны чаму не падумалі? Пустаход чаму не падумаў? Лепшы гаспадар! Пяць гадоў праводзяць водаправод. Абівалі ўсе парогі і старшыня калгаса, і ён, старшыня райвыканкома, малілі, прасілі, хабар падсоўвалі — дайце трубы! Дулю атрымалі.

Сцёбаў сябе, выплёскваў злосць на разгубленага свата:

— Мы з табой пра калодзежы гаварылі? Калі да ўкраінцаў ездзілі?

— Не да калодзежаў было.

— А да чаго табе было? Не да дачкі, не да сваццi. У пекла адпусціў...

— Уладзімір Паўлавіч, не раздзірай сэрца, яно і без таго абліваецца крывёю.

Разумеў, што абліваецца, таму адступіў, палагаднеў.

— На ферме — скважына?

— Скважына.

— Добрая вада?

— Сляза.

— Сляза салёная і горкая.

— Артэзіянская вада.

— Дабрадзеі! Гуманісты! Пра бычкоў думалі. Пра людзей не падумалі. Накіруй машыну і напоўні малочныя бітоны. Людзі хоць і пасцяць, але іх смажыць. Пячэ і сонца, і радыяцыя...

— І эвакуацыя. Можа, найгорш.

— Думаеш, я не разумею. Ох, Іван, Іван! Сніў хоць хто з нас такую бяду?

І спахапіўся: навокал людзі, галоўным чынам жанчыны, бухгалтары, эканамісты, забіраюць касу, пакуюць архіў, кожнаму здаецца, што яго дакументы самыя важныя, што ў іх калгасныя сакрэты, а можа, і дзяржаўныя. Людзі глядзелі на яго, як на архангела, які мог пратрубіць любы заклік, павесці за сабой. Ён супакойваў іх, што эвакуацыя ненадоўга. Але без замераў, без вучоных і ваенных, толькі паназіраўшы на тых жанчын, што здымалі са сцяны Багародзіцу, прыйшоў да вельмі сумнай думкі, што Дунец сказаў праўду: калі і не навечна, то на час, працягласць якога ніхто сёння не можа вызначыць. І ад гэтага, як і ў Пустахода, як, напэўна, і ў кожнага, сэрца аблівалася крывёю. У нейкі момант адчуў тую ж разгубленасць, што і ў свата, але разумеў, што яму паддавацца слабасці нельга. Трэба кіраваць эвакуацыяй. А гэта не так проста, як здавалася некаторым «стратэгам» на нарадзе ў райкоме.

Далажылі, што Азар Шуба наадрэз адмовіўся выязджаць. Пыльчанка ведаў гэтага чалавека. Пенсійнага ўзросту, але старым, дзедам ніхто яго не называў. Мацак. Лепшы паляўнічы. Цясляр. Доўга рабіў леснікам. Цяпер вартуе кароўнік і

канюшню. Здаралася, што разам палявалі, выпадкова неяк сустрэліся ў лесе і, здалося, спадабаліся адзін аднаму. Але калі другім разам Уладзімір Паўлавіч хацеў узяць старога кансультантам для вялікай кампаніі «вяльможных мысліўцаў», Шуба адмовіўся, ды яшчэ (як перадаў неразумны пасланец) паслаў начальства ў далікатнае месца.

Разумеў, што Азара ніхто іншы не ўгаворыць, таму пайшоў сам.

Стары, мабыць, чакаў прыходу начальства, бо наўрад ці бачыў яго хто за жыццё ў такой паставе. Сядзеў на вуліцы перад хатай не на прызбе — у новенькім, плеценым з лазы крэсле, у новай кашулі, але босы, з голай лысай галавой. Леў Талстой. Філосаф. Абыякавы да ўсіх мітрэнг свету.

«Артыст»,— узлаваўся Пыльчанка.

— Лысіну накрый.

— А навошта?

— Нукліды сядуць.

— А што гэта за храновіна?

— Нябачныя часціцы, што вылецелі з атамнага рэактара і гоняць адгэтуль людзей.

— Як ты назваў? Нукліды? Прыгожа.

— Прыгожа, каб не было так сумна.

— Перажывем, Паўлавіч.

— Перажывем, канешне. Але даўно народ сказаў: беражонага Бог беражэ. Трэба ехаць.

— Я не паеду.

— Азар Філімонавіч, не рабі спектакля. Хапае ў нас клопатаў без цябе. Я адказваю за людзей.

— Мяне выкраслі са свайго спісачка. Я сам па сабе.

— Слухай! Сказаў бы я табе, каб на паляванні. А тут пасада мая не дазваляе.

— Кажы. Людзей няма.

— Што ты хочаш даказаць тым, што застанешся?

— Нічога. Бачыў я, Паўлавіч, смерць на вайне, у лесе, у вадзе, у агні, у мяккай пасцелі. Хачу і на гэтую паглядзець — ад атама. Якая яна? Смерці розныя...

— Як ты паглядзіш? На каго?

— На сябе.

— І што ты ўбачыш? Нічога ты не ўбачыш. Нажывеш рак крыві, рак печані і прыпаўзеш да людзей, калі здолееш. Скуголіць будзеш, як пёс. Ды позна.

— Скуголіць я не буду.

— Ды каму гэта трэба?

— Навуцы.

— Ха! Ашчаслівіш навуку! Ёй толькі і не хапала тваёй задубелай скуры і прапітых шлункаў. Жыццё трэба аддаваць з карысцю для людзей. Як тыя пажарнікі. Чуў?

— Я блакнот у канторы ўзяў. Запісваць буду.

— Скажы, калі ласка, які прафесар! Збірайся. У мяне няма часу палітграмату табе чытаць.

— Не паеду!

— Слухай! Міліцыю паклікаць? Ёсць яна тут.

— Кліч. А што мне міліцыя зробіць? Вывезе ў Высокі Гай ці Прысяддзе? А я заўтра вярнуся. Разорыцца міліцыя вазіць мяне кожны дзень.

Пыльчанка мацюкнуўся.

— Во гэта мужчынскі разгавор.

— Павер, шкадую, што не магу... не да цябе, а то я наладзіў бы спектакль лепшы, чым ты наладжваеш. Што ты выставіўся? Публікі ж няма. Уся ўжо ў клубе.

— Ды не, во ідуць.

Па апусцелай вуліцы ішлі дзве бабулі ў даўніх палескіх строях — у клятчастых андараках, у квяцістых хустках, з вузялкамі з белых хусцін, у выпукласцях якіх, акрамя мяккіх рэчаў, вырысоўваліся велікодныя калачы, яйкі. Ішлі яны павольна, здавалася, свабодныя ад усіх турбот свету гэтага; адна моцна кульгала, абапіраючыся на кіёк.

У Пыльчанкі ад гэтага шэсця перахапіла дыханне і горкасалёны клубок падкаціўся да горла.

Бабулі ішлі па другім баку вуліцы. Але пакланіліся, моўчкі, паважна. Каму? Шубе? Яму, начальніку?

Азар Філімонавіч падняўся з крэсла, пакланіўся ў адказ. І ён, Пыльчанка, пакланіўся.

Пажартаваў Шуба ціха, нявесела:

— Дарэмна ад'язджаюць. Такія нявесты! Весялей было б паміраць.

Пыльчанка ўзлаваўся на старога блазна яшчэ больш. Аднак стрымаўся. Толькі сказаў строга, афіцыйна, па-начальніцку загадна:

— Лысіну накрый! Абуйся! Па лесе не бадзяйся. Вады з ракі, з раўчакоў не пі ды і з адкрытых калодзежаў. Ёсць жа ў суседзяў закрытыя... калонкі. Імі карыстайся. Шчаўя і смарчкоў не збірай. Есці можна толькі тое, што стаяла ў кублах, у пограбе. Смерці не бойся.

— А я і не баюся.

— Пры такіх дозах у Хірасіме дагэтуль жывуць.

— Дык на храна ж ты высяляеш нас?

— Сказаў: беражонага... Японцы лячыць умеюць.

— Маць іх за нагу, японцаў тых, усё яны ўмеюць. А нашы? Твая нявестка... Пустаходава... не ўмее? Гаўно, значыцца, нашы лекары.

Нагадаў пра Ірыну і — ударыла ў сэрца: дзе яны? Ніхто не ведае поўнага набору яго трывог!

— Будзь здаровы, Азар Філімонавіч. Пасядзі. Падумай. Я прыеду па цябе.

— Не турбуйся, Паўлавіч. Трэба будзе — сам прыйду. Пакуль ногі носяць. Да Берліна дайшоў.

Без слёз эвакуіраваных, з трагічным маўчаннем, што горш за слёзы, праводзілі першую партыю аўтобусаў — жыхароў суседняй вёскі, надпрыпяцкай. Людзі гэтыя заўсёды жылі адасоблена, бо большасць старых і сталых былі баптыстамі; вясёлыя бязбожныя палешукі не любілі гэтых святых. Можа, таму мала хто выйшаў з клуба, з канторы следам за імі.

А пайшлі поўныя аўтобусы, на іх месца падалі пустыя — і натоўп высыпаў на вуліцу. Не, заняць месца ў аўтобусах не спяшаліся. Першыя выйшлі старыя, разгарнулі Багародзіцу і запелі малітву. Вось табе і бязбожныя! Малодшыя стаялі за агароджай канторскага двара, як бы адмежаваліся, але стаялі моўчкі, слухалі паважліва, журботна. Не ў старых, што маліліся, а менавіта ў маладых, у жанчын асабліва, вочы набрынялі слязамі. Ды і ў Пыльчанкі зноў жа салёны камяк

падкаціўся да горла і ажно душыў. І Пустаход выцер вочы рукавом.

Садзілася сонца. Завалаквалася нейкай імжой і ад гэтага рабілася жоўтым. З ракі пацягнула вільгаццю.

«Адтуль цягне»,– падумаў Пыльчанка. Пэўна, і Пустаход думаў пра гэта, бо нечакана, упершыню за час гэтых незвычайных збораў, выказаў ініцыятыву:

– Даю каманду, Паўлавіч!

– Усе сабраліся?

– Хіба падлічыш? Некаторыя паехалі ў госці. Да сыноў. Да зяцёў. Свята. Трэба ў Гомелі, у Мазыры ды і ў нас па радыё перадаць, куды ім вяртацца, дзе шукаць сваіх. Ох, Бог мой!

Пыльчанка запісаў гэтую слушную думку ў блакнот.

– Цярэшка Шкот, чортаў шкод, яўна браканьерствуе, нідзе не знайшлі.

– Гэта дрэнна.

– Дрэнна. Хлопец з ім, Якуціхін. Рыхтуе сабе, зладзюга, змену.

– Заўтра прыедзеш і ўсіх падбярэш. І Шубу.

– Тых забяру. А Шубу не падніму.

– Слабы ты старшыня.

– А хто выдумаў, што я дужы? Вы ж і выдумалі.

– Не апускай рукі, Іван!

– Самі апускаюцца.

Падышла Паша, дачка Пустахода, сказала вельмі коратка:

– Бацька, Ліза...

Што з Лізай – ніхто пэўна не здагадаўся. І Пыльчанка таксама. Але ён даўно заўважыў, што самую ціхую нешматслоўную дачку сваю бацькі разумелі з паўслова.

І тут Пустаход адразу ахнуў:

– Ах, Бог мой! – і пайшоў да сваёй сядзібы.

Хапала ў Пыльчанкі спраў, вось-вось трэба грузіць асноўную масу сяльчан у аўтобусы, а аўтобусаў яўна не хапае, трэба званіць Сінякову, які застаўся галоўным каардынатарам, і прасіць... Прасіць? Не, сёння ён самога Пана Бога, якому моляцца жанчыны, не стане прасіць. Сёння любому, хто не падаў аўтобусы, не прыслаў нарыхтоўшчыкаў, не прывёз

мінеральную ваду, настойку ёду, ён можа сказаць толькі такія словы, якія толькі што сказаў старшыні райспажыўсаюза,– гарачыя, радыеактыўныя, як сама атмасфера. Любому: Сінякову, Аляксею, Вадалею... Аднак не вытрымаў, каб не пайсці за сватам: устрывожыла і яго – што з Лізай?

Ліза ляжала на ўсходцах ганка, раскінуўшы рукі на ўсю яго шырыню, і як расплылася на ім: мажная жанчына здалася худой і плоскай. Можа, таму, што і ў галаве яе, і па баках, і ў нагах горамі ўзвышаліся вузлы дабра. Над ёй бездапаможна стаялі маці і муж. Галаву не падняла, але, мабыць, пачула, што падышоў бацька.

Загаласіла:

– Ай, хатачка мая, ай, родная! А колькі ж я ў цябе ўклала сілачкі! А каму ж я цябе пакіну? Сірацінaчка ты мая! Згінеш ты без мяне... Спаляць цябе людзі злыя...

Іван Іванавіч разгублена і жаласліва папрасіў:

– Ліза, супакойся... Не адны мы... усе пакідаюць...

А Пыльчанку апанавала злосць, магчыма, што прычынай яе сталі гэтыя тоўстыя клункі, бо падумаў: «Во на што ішла яе праца!»

Сказаў з уедлівым сарказмам:

– Слухай! Шкада, часу няма, а то я расказаў бы табе, колькі з дня аварыі бачыў спектакляў... трагедый, камедый. А ў цябе... хіба гэта спектакль? Фарс. Во Шуба толькі што іграў... Качалаў! А галоўнае: праўдзіва, паверыў я...

Ліза крута павярнулася, села на ўсходцах, запусціла пальцы ў косы, разбурыла куксу, валасы пасыпаліся на плечы, на твар.

Уладзімір Паўлавіч скалануўся. Не, не фарс гэта – трагедыя: у жанчыны страшныя вочы, непрытомныя, несвядомыя. Такіх вачэй ён не бачыў. Бачыў страх. Але гэта не страх ці не проста страх, тут такое пачуццё, якому, напэўна, няма вызначэння і ў псіхіятраў. А самае дзіўнае, што людзі, якія былі моцнымі ў рабоце, у бядзе паказваюць сябе слабымі.

– Не магу я жыць без яе! Не хачу! Спалю! Лепш спалю! – закрычала Ліза.– Мне лягчэй будзе...

— Запалкі даць? — але тут жа сцяміў, што не да месца тут яго іронія, так гаварыць можна было з Шубам, і ўзлаваўся ўжо не толькі на Лізу — на сябе, на Пустахода, на ўвесь свет, сарваўся на крык: — Дурніца! Спаліць яна! Праз тыдзень-два вернешся... Ты думаеш, жыццё канчаецца? Дэзактывацыю правядзём — будзем жыць!

Але страшнае было ў тым, што Уладзімір Паўлавіч не верыў у свае пераконанні, мазгі, што дзяцел дрэва, дзяўбло кароткае слова: «Навечна». Здаралася, што яму прыходзілася гаварыць людзям словы, у якія сам не верыў, але там было зусім іншае, там сказаў — і забыўся, ці зрабіў інакш, не па словах, ды і людзі часцей за ўсё білі не па яго словах. А тут што скажаш? Ад таго, што мусіш гаварыць суцяшальную няпраўду, пячэ цябе злосць, і няма ёй выйсця ні ў лаянцы, ні ў ласкавасці. Так і кідаешся з адной крайнасці ў другую. Сказаў ласкава:

— Паехалі, Лізавета Іванаўна. Бліжэй будзеш да сыноў.

Тады Ліза зноў упала на ганак, моўчкі ўжо — як цалавала нядаўна пафарбаваную падлогу.

Марыя Пятроўна і Віктар паднялі яе, як паднімаюць асірацелую маці ці ўдаву з магілы. Ліза не супраціўлялася, паслухмяна села ў «Жыгулі» і была зусім абыякавая да клункаў, якія Віктар засоўваў у багажнік, валіў у прычэп уласнай канструкцыі. Віктар усё рабіў весела і любіў падарожжа. І верыў, што едуць ненадоўга. Адзін ён верыў.

Пыльчанка адышоў — няхай збіраецца сям'я. Але невядомая сіла — зморанасць ці, можа, прыгажосць — кіпела над галавой буйной квеценню груша — спыніла яго. Стаяў, пакуль «Жыгулі» не крануліся, не выехалі праз асобыя, Лізіны, «вароты ў крэпасці» па мастку цераз раўчак на палявую дарогу, узнялі там шлейф залатога пылу. Небяспечнага. Пыл стаяў і ўдалечыні — пагналі статак.

Устрывожыліся ў шпакоўнях на грушы шпачаняты. «Вас забраць я не магу»,— павініўся Уладзімір Паўлавіч перад птушкамі.

Падышоў змрочны Пустаход.

— Пайшлі, Іван, узначалім шэсце... велікоднае.

## V

Высадзіліся на бераг на захадзе сонца.

Ірына, падняўшыся ад прычала, дзе плёскаліся хвалі, узнятыя катэрам, на абрыў, з якога тысячы разоў збягала, сотні разоў скочвалася, адразу паглядзела на сонца. Кладучыся спаць у блізкім лесе — так некалі здавалася ёй, малой, сонца часта рабілася такім — як вялікі разрэзаны кавун. Сорамна яму было, што пакідае людзей, таму чырванее, думала некалі дзяўчынка. На яго нельга было не глядзець. Але не ласкава-сарамлівым, як некалі, здалося яно, а злавесным, што вялікі пажар. А яшчэ чамусьці здалося, што сонца адарвалася ад неба, а зямля не прымае яго, і яно павісла. І гэтак будзе вісець. І не здолее ўзысці, страціўшы сілу.

Нечаканая дзіўная фантазія, ніколі такое не прыходзіла. Павярнулася, каб сказаць пра сваё дзіцячае адчуванне Глебу і Вользе Андрэеўне, якія няспешна паднімаліся па спадзістай коннай дарозе, і замерла, сцялася, бо пачула незнаёмую, нязвыклую цішыню, якой не чула ў роднай вёсцы ў вячэрні час ні разу за ўсё жыццё сваё.

Адышоў катэр. Матор яго стукаў недзе за паваротам ракі, але гэты чужы непатрэбны гук яшчэ больш вылучыў страшную цішыню наваколля. У такі вясновы вячэрні час вёска поўніцца гукамі: звіняць дзіцячыя галасы — тут мода гуляць у клёка, рыкаюць каровы, брэшуць сабакі, стукае рухавік на ферме, трашчаць матыцыклы. І — пыл, у такі сухі вечар пыл на вуліцы, на выганах. А тут — хоць бы адзін знаёмы гук. І не залаціцца пыл у промнях стомленага сонца. Не залаціцца дым над комінамі. Выгляд яе спалохаў Вольгу Андрэеўну.

— Што з табой, Ірыначка?

Такі матчын зварот да яго жонкі — як да малой — не пераставаў кранаць Глеба.

— Іх няма.

— Каго няма?

— Нікога няма. Як там, ва ўчарашніх вёсках.

Яны стаялі побач з ёй, Глеб і маці, і ўміг пераканаліся, што гэта так — вялікае прыпяцкае сяло апусцела. Калі? Учора, калі

яны ішлі з Віктарам да затокі, дзе стаяць чаўны і ён пацеў пад цяжарам матора, іх даганялі самыя розныя гукі чалавечай дзейнасці. І вось — усё вымерла. Куды яны паехалі, людзі?

Ірына прытулілася да Глеба і заплакала, уткнуўшыся тварам у яго плячо. Зусім як малая.

— Ты чаго, Іра?

— Мне страшна, Глеб.

— Ішла ў Прыпяць, у Чарнобыль — не баялася.

— Не баялася.

— А вярнулася дадому...

— Вярнулася? Да чаго вярнулася, Глеб? Да каго?

— Кінь ты наганяць паніку... Ну, эвакуіравалі іх. І правільна зрабілі. Трэба было раней, у той жа дзень, як наш горад. Ты знаеш, колькі там народу паднялі. За паўсотню тысяч. А ў вас?

— Глеб! Ты забываешся, што яна тут нарадзілася, вырасла,— сказала Вольга Андрэеўна.

— Маё гняздо. Мой родны кут. Уяўляю, як яны пакідалі яго. Мама. Ліза...

— Не навечна ж,— суцешыла Вольга Андрэеўна.

Глеб змоўчаў. Ён адзін лепш, чым бацька яго, ведаў, што калі і не навечна, то вельмі надоўга. Вельмі.

Дунцу такі вывад падказаў практычны розум. Ён, інжынер станцыі, чуў яго ад вучоных, разам з якімі апошнія дні працаваў і жыў.

Нейкі момант яны стаялі моўчкі, на беразе праслаўленай у тысячагоддзях ракі, у якую выліта нямала і крыві, і слёз, і поту, над якой спявалі і стагналі.

— Куды ж мы цяпер? — бездапаможна сказала Ірына.— У мяне няма сіл ісці...

— Да бацькавай хаты дойдзеш?

— Да бацькавай?

— А куды ж! Тут фон не вышэй, чым у Чарнобылі.

— Так, так, у нашу хату. У нашу хату! — амаль па-дзіцячы ўзрадавалася Ірына.— Я знаю: мама павесіла ключ там жа, пад ліштву. Ты знаеш, якая гэта даўняя завядзёнка? Бацька кажа: ад дзядоў, толькі замок быў іншы, зубчастая засоўка. Аднойчы

да нас залезлі зладзеі. Свае — зналі, дзе ключ. А ўсё роўна і пасля таго ключ вешалі на тое ж месца. Пад тую ж ліштву. Смяяліся з маці: «Іншай схованкі не прыдумаеш?»

Ірына павесялела, разгаварылася — і ім таксама стала весялей.

Бадай бадзёра закрочылі па сцежцы ўздоўж раўчака наўпрасцяк да лепшага дома — Лізінага, самага высокага, з мансардай, бляшаны дах ззяў. Адзін Глеб падумаў: «Колькі ён набраў, такі дах?»

Ля дома гэтага спыніліся на момант, здзіўленыя: пад паветкай застаўся вісець вэнджаны кумпяк. Навошта яго там павесілі? Чаму не забралі? Забыліся? Ці пабаяліся спажываць?

Пракаўтнулі сліну.

Ключ быў на месцы, пад ліштвай, не ўзяла яго з сабой Марыя Пятроўна — Ірына не памылілася.

У хаце было душна, па-святочнаму прыбрана — ніякіх слядоў раптоўнага выезду гаспадароў. Смачна пахла булкамі і смажанінай. На стале пад абрусам ляжала вялікая пшанічная буханка з бліскучай скарыначкай і пафарбаваныя яйкі. Каму пакідаліся велікодныя прысмакі?

— Нам,— сказала Ірына.— Мама верыла, што мы вернемся па той жа дарозе, па якой пайшлі. Мамачка! Ты нават прыбрала ў хаце. Як я хачу есці! Але спачатку мы памыемся. Прапалім лазню.

Яны не елі цэлы дзень.

Шукалі машыну спачатку на самы блізкі маршрут — на Лоеў, але ім сказалі, што пераправа цераз Прыпяць закрыта. Пасля — на Чарнігаў. Іх было сотні машын, самых розных, ды ўсе ішлі на Кіеў. Але ўрэшце ім моцна пашанцавала: у інтэрнаце, дзе каго толькі не было, выпадкова наскочылі на гідраметэаролагаў, яны збіраліся ісці ўверх па Прыпяці рабіць замеры радыяцыі паветра, вады, доннага грунту. Начальнік экспедыцыі не адразу згадзіўся ўзяць пасажыраў, але перад просьбамі Ірыны і Вольгі Андрэеўны не ўстаяў. Аднак паколькі не было лішняга спецадзення, рэспіратараў, то бязлітасна загнаў іх у салон з задраенымі ілюмінатарамі. Са-

лон катэра быў ператвораны ў захламлены склад, з мноствам рознай, хутчэй за ўсё непатрэбнай апаратуры; у ім моцна пахла дызельным палівам і хімічнымі рэчывамі. Але смярдзючае паветра гэтае было менш небяспечнае, чым рачное, лугавое, звонкае і чыстае на смак і нюх, з сустрэчным ветрыкам. Хуткі катэр поўз што чарапаха. Толькі АЭС праскочылі на гранічнай хуткасці, на гэтым участку самі вучоныя спусціліся ў салон. А да станцыі і пасля спыняліся, можа, праз кіламетр, кідалі якар і часам стаялі бясконца доўга. Сонца так награвала металічны корпус, што не было чым дыхаць. Глеб дазваляў сабе падняцца на палубу. Ірына і маці пратэставалі: ім не падабаўся яго кашаль, сухі, кароткі і часты — «авечы», як ён жартаваў. Але Глеба цікавілі замеры. Даведаўшыся, што ён інжынер станцыі, гідраметэаролагі паказвалі яму табліцу замераў. Вада адносна чыстая — цячэ з чыстага краю. І дно пакуль яшчэ чыстае. А паветра... На станцыі фон намнога вышэйшы. Але там не было маці і Ірыны. Не выпускалі іх на палубу!

Толькі жанчыны маглі вытрымаць пакуты ў душным труме. Гаспадары забыліся накарміць сваіх гасцей: не разлічвалі ці спадзяваліся, што маюць свой харч. Глеб выпрасіў у іх дзве пляшкі мінеральнай вады, пілі яе, як у пустыні, кожны стараўся глытнуць менш, каб засталося бліжняму.

Так яны правялі дзень.

І вось родная Ірыніна хата, пакінутая бацькамі. І булка на стале. Радавацца? Плакаць? У Вольгі Андрэеўны балюча сціснулася сэрца. А Глеб, здаецца, радаваўся. Засмуціўся хіба, калі праверыў, што святло адключана. А тэлефон адразу ж праверыла маці: няхай Пыльчанка прыедзе, забярэ іх. Але — дзіўна — і тэлефон адсеклі. Няўжо не засталося паста міліцыі, ніякай варты? Жах! Глеб не вытрымаў — адламаў ад булкі акрайчык, укінуў у рот.

— Хрыстос васкрэс! Якая смаката!

— У лазню! — камандавала Ірына.

Яна паводзіла сябе ўвішнай гаспадыняй. Знайшла свечкі, бялізну, верхнюю напратку. Злазіла ў пограб і вярнулася адтуль, бадай, спалоханая: усё засталося, усе маміны саленні

і варэнні. Яны ж чыстыя ў бляшанках. Чаму не забралі? Не паспелі? Куды эвакуіравалі сяло?

Пасля яны палілі лазню, збудаваную каля Лізінага дома. Ліза будавала з размахам. Ліза працавала апантана, але і жыла шыкоўна, багацце не таіла, наадварот, любіла выставіць яго напаказ. Зайздросцяць людзі? Няхай зайзросцяць. Не ўкрала. Хоць некаторыя лічылі інакш: лёгка нажываць, будаваць, маючы такога бацьку.

Качалі ў калонцы ваду; шланг ад калонкі працягнуты да лазні. Насілі дровы — з-пад бацькавай паветкі, хоць гэта і далей. Існаваў нейкі няпісаны закон у падзеле дабра паміж бацькамі і дачкой, які ніхто не мог растлумачыць, нават дасціпная Тамара. Больш істотнае было агульнае, а дровы, грады, чаўны, веласіпеды — у кожнага свае.

Працавалі, мыліся і... цалаваліся. Каля калонкі, пад паветкай, у лазні. Хто іх мог асудзіць? Пасля вяселля адну толькі ноч правялі разам. У Чарнобылі месца не знайшлося, каб адасобіцца. І ім было радасна, весела. Яны забыліся на бяду. На нейкі час. Хоць, як ні дзіўна, у Глеба толькі тут, у гэтым пустым сяле, з'явілася адчуванне маштабнасці яе. А там, нават пры эвакуацыі Прыпяці,— толькі ўсведамленне вялікай аварыі, якую, не сумняваўся, людзі ліквідуюць. Чаго не бывае! Землятрусы. Звяржэнне вулканаў. Цунамі. У яго сяброўатамшчыкаў ёсць нават філасофія: калі чалавецтва вынайшла такую сілу, то павінна быць гатовым, што час ад часу яна можа вырывацца з-пад яго ўлады. Лаялі толькі начальства і сябе, што гатоўнасці гэтай не аказалася амаль зусім. Ды гэта ўжо вынік нашай бязладнасці.

А Вольга Андрэеўна сядзела ля стала ў дзіўным стане, які спалучаў і смяртэльную стомленасць, і душэўную ўзбуджанасць. Глядзела на пасху з нейкім зусім незнаёмым адчуваннем. Есці хацелася. Але яна не магла дакрануцца да гэтага хлеба. Не наступіў Вялікдзень. Ці верыла яна ў Бога? Не адказала б яна на гэтае пытанне. Яна верыла ў традыцыі, трымалася іх. Большасць царкоўных свят, дат іх, не ведала. Але ў тыя дні, якія ведала ці пра якія выпадкова ўзнавала,

не мыла бялізны, не рабіла ў гародзе. Перад Калядамі варыла куццю, перад Вялікаднем фарбавала яйкі і ў суботу велікодную поставала, адзін дзень за год «ідэйнага посту», як называў яго Уладзімір Паўлавіч. Ён незласліва кпіў з жончыных маленькіх забабонаў, але не перашкаджаў ёй трымацца традыцый. Вольга хоча жыць, як большасць людзей,— калі ласка, на здароўе. Урэшце, яе народнасць у нечым памагала і яму; у няёмкае становішча яна ні разу не паставіла яго, як некаторыя неразумныя жонкі.

На стале гарэў кароткі агарак свечкі, пастаўлены ў чарку. Свечка з натуральнага воску. І пах яго нагадваў нешта вельмі даўняе, а што — успомніць і зразумець не магла. Знаёмае, многа разоў чутае — пах смерці, пахавання, жалобы. Такая асацыяцыя ў такі дзень, у такі вечар, у такім становішчы пры трапяткім святле свечкі наганяла жахлівыя ўяўленні — апакаліпсічныя. І Вользе Андрэеўне захацелася памаліцца. Але ніводнай малітвы не ведала і ўпершыню пакутліва перажыла гэты прабел свайго выхавання. Быў у яе час і магчымасць, седзячы ў бібліятэцы, вывучыць і гэта. Хіба мала яна ўсяго вучыла, часам непатрэбнага! А тое, што для душы, заўсёды можа спатрэбіцца, калі не табе, то людзям. Не, былі малітвы, ёй сачынёныя, яна шаптала іх бяссоннымі начамі, калі Барыс ваяваў у Афганістане.

Але воск пахне і жыццём, радасцю, полем, кветкамі, звонам пчол, сонцам, ветрыкам. Гэта яе ратавала праз усё жыццё — што ў душы яе жыла паэзія, і ёй, нярэдка з пакутамі, з трудом, удавалася змрочныя думкі, уяўленні адціснуць светлымі, радаснымі, прадчуванне бяды — прадчуваннем шчасця. І тут яна зрабіла намаганні і — з магільнай ямы ўзнялася на светлую зямлю. Памог пах воску? Не, смех дзяцей. Ірына і Глеб смяяліся ў цёмных сенцах. Яны прыйшлі запрасіць маці мыцца: лазня гатова. Мыюцца ў чысты чацвер. У суботу хіба купаюць малых дзяцей. Але ім трэба змыць пыл дарогі, больш небяспечнай, чым ваенная. Дык хіба яна магла дазволіць сабе мыцца першай! Не, першымі павінны змыць з сябе гэты страшны пыл дзеці!

Пакуль яны мыліся, Вольга Андрэеўна шукала ў сваццi велікодныя прысмакі. Знайшла не ў халадзільніку – у гарачай яшчэ печы. Накрыла стол.

Ірына і Глеб вярнуліся чырвоныя, разамлелыя ад пары і вады. Шчаслівыя, нягледзячы ні на што. Маладосць! І Вольга Андрэеўна парадавалася, гледзячы на іх. Знала, што яны галодныя, але збянтэжана папрасіла, паказваючы на стол:

– Пачакаем Вялікадня, дзеці.

Дзіўна: іх, маладых, кранула гэта. Ці проста ім хацелася гульні, маленькага спектакля? Не, Глеба нечаканая матчына набожнасць настроіла на гэткую ж сур'ёзнасць. Шмат якія эпізоды сваёй чарнобыльскай эпапеі ён расказваў з гумарам, каб пераканаць маці і Ірыну, што жылі інжынеры і рабочыя весела, без страху, бо асаблівай небяспекі няма на іх рабоце; забываўся на прызнанне, што працавалі яны ўсяго па адной гадзіне. А тут успомніў яшчэ адзін эпізод.

– А ў нас там дзівак адзін ёсць. Фізік, а чытае Біблію. Дык ён вычытаў. Ты паслухай, я запісаў,– дастаў з кішэні пінжака блакноцік, прачытаў: – «Трэці Анёл пратрубіў, і ўпала з неба вялікая зорка, якая гарэла падобна свяцільніку, і пала на трэцюю частку рэк і на крыніцы вод. Імя той зорцы – палын...» Разумееш сэнс? Чарнобыль – палын. Дык вось... «і трэцяя частка вод зрабілася палыном, і многія з людзей памерлі ад вод, таму што яны сталі горкія». Праўду казалі старыя: у Бібліі можна знайсці прароцтвы на ўсе выпадкі жыцця. Хітрая кніга!

Расказаў і пашкадаваў, бо вясёлая, калі палілі лазню і мыліся, Ірына зрабілася сур'ёзная, задумлівая. Хадзіла па хаце са свечкай, як шукала чагосьці. І знайшла...

З вялікіх рэчаў бацькі забралі толькі тэлевізар і лепшае адзенне. Халадзільнік пакінулі. І ўсё іншае. Увесь транспарт быў кінуты на вываз калгаснага дабра.

У шафе, дзе засталося горшае адзенне, знайшла Ірына магнітафон «Вясна», Тамарын, які тая купіла за грошы, зарobленыя на зборы вінаграду ў Малдавіі. Ірына з трывогай падумала: як жа паспешліва збіраліся бацькі, калі нават на такую рэч забыліся.

Успомніла, што выдумшчыца Тамара рыхтавала сюрпрыз — велікодны, хацела здзівіць і маці і старых бабуль, якія наўрад ці чулі такую музыку, хіба толькі тыя, хто ездзіў у Кіеў на богаслужэнне ва Уладзімірскі сабор. Сапраўды, у магнітафоне стаяла касета з рахманінаўскім «Всенощным бдением».

Маці вярнулася, калі час блізіўся да поўначы. І калі стрэлкі на насценным гадзінніку — і яго не забралі! — сышліся ў вертыкалі, Ірына націснула клавішу магнітафона, які паставіла на лаўку за сталом. І хату напоўніла дзівосная музыка — шматгалосы магутны хор выконваў «Приидите, поклонимся».

Вольга Андрэеўна спачатку спалохалася, твар яе, пачырванелы ў лазні, спалатнеў. Што гэта? Адкуль? Як з неба. Яна не разбірала словы. Але музыка... Хіба не бажэсцвенная? Музыка — усе тыя яе думкі, што пасля ліхаманкавага віхру выстраіліся вось тут за сталом, калі яна глядзела на полымя свечкі і на водбліскі на бліскучай скарынцы велікоднага хлеба. Там хацелася плакаць — ад гора і ад радасці. І тут яна заплакала. Стаяла пасярод хаты, і з вачэй яе сыпаліся буйныя чыстыя слёзы.

Магчыма, Глебу стала ніякавата за маці — за такую яе чуласць. Ён наблізіўся да яе, вінавата паклікаў:

— Мама...

— Не трэба, Глеб,— сказала Ірына.

І яны доўга стаялі, як у храме, і слухалі «Благослови, душе моя», «Свете тихий», «Богородице дева, радуйся». У асобных месцах выразна гучэлі словы:

Богородице дева, радуйся,
Благодатная Мария, Господь с тобою.
Благословена ты в женах,
И благословен Плод чрева твоего,
Яко Спаса родила, яко Спаса родила...
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
Воскресение Христово видевши,
Поклонимся Святому Господу Иисусу,
Единому безгрешному.

## VI

У Мінску, як і ў Кіеве, як ва ўсіх гарадах паміж гэтымі сталіцамі, людзі жылі аварыяй. Размовы толькі пра яе — на рабоце, у метро, трамваях, тралейбусах. Афіцыйная інфармацыя была вельмі скупая, і натуральна, што хадзілі самыя розныя чуткі, неверагодныя. На Камароўскім рынку да створанага дазіметрычнага пункта стаяла даўжэзная чарга. Такія ж чэргі выцягваліся ў нямногіх паліклініках, дзе паставілі радыяцыйна-вымяральныя прыборы. Кожны, хто прыязджаў у горад, лічыў неабходным праверыць сябе, адзенне, абутак.

Ва ўрадавым дачным пасёлку каля кожнага катэджа былі добра ўгледжаныя грады з клубніцамі, цыбуляй, салатай. Нават у самага высокага начальства. Жонкі іх — пажылыя, былыя сялянкі, не адарваліся яшчэ зусім ад зямлі. Ды і ўсе, акрамя маладых, што ганялі мячы, круцілі педалі і займаліся каханнем, былі медыцынскі адукаваныя — разумелі карыснасць фізічнай працы. А дзе яшчэ можна папрацаваць фізічна пасля доўгага сядзення ў кабінеце, як не на ўласным гародзе! Пасаджаны на натуральным угнаенні, паліты і прапалаты ўласнымі рукамі, гурочак і на зубах хрумсціць смачней. Асалода ад яго большая. І небяспека меншая — без нітратаў.

Жонка аднаго кіраўніка, найлепшая з гаспадынь, у якой да мая выраслі пад плёнкай цыбуля і радыска, занепакоеная, што ў тыя спякотныя дні цяплічкі былі адкрытыя, занесла гародніну для праверкі ў спецпаліклініку, дзе чэргі не збіраліся. Закусь «засвяціла». У пасёлку пачаўся перапалох. Устрывожыліся не толькі жонкі. Адважыліся далажыць Лявонцію Мікалаевічу. Ён тут жа даў даручэнне вучоным праверыць. Мартынюк паслаў маладых хлопцаў. Рабілі яны сумленна, але не стрымаліся ад спакусы трохі папалохаць начальства. Лічбы спалохалі і самога Лявонція Мікалаевіча, які да таго ўжо трохі адукаваў сябе па часці радыяцыі. І меліся ўжо рэкамендацыі вучоных аб метадах дэзактывацыі глебы. Самы просты і эфектыўны: зняць верхні пласт і насыпаць новы, такім чынам можна нават палепшыць урадлівасць поля.

Зусім проста! Як чалавецтва не дадумалася да гэтага раней?! Але дачныя грады — не сотні тысяч гектараў. Па тры-чатыры сотачкі на сям'ю — глупства.

З'явіліся скрэперы, зграблі з градак верхні пласт разам з буйна распушанай — во расце, як на дражджах! — гароднінай. З'явілася калона самазвалаў, пагрузіла гэтую добра ўгноеную за многія гады зямлю і вывезла на паляну ў лес недалёка ад вадасховішча. Свяці, зямелька, у ягадзіцы тым, хто з пляжа забіраецца ў гушчар дзеля грэшнай справы! Куды вазілі, дзе звалілі — ніхто не глядзеў. А вось за тым, каб самазвалы памылі, прасачыў адказны гаспадарнік. Паліўныя машыны вазілі ваду ў далёкі ад сталіцы, але блізкі ад Заслаўя кар'ер, дзе праходзіла аперацыя мыцця. Пасля гэтыя ж самазвалы зайшлі ў старыя саўгасныя кароўнікі, дзе жывёла ўтрымлівалася па-дзедаўску — без бетоннай падлогі, і выграблі шматгадовы гной для рэканструкцыі «жыццёва неабходнай пасяўной плошчы».

Адзін толькі дачнік, пенсіянер, былы партызан, не даў разбурыць свае грады, якія сам урабіў, бо жонка хварэла. Гэты вясёлы чалавек займаўся любімай справай: прачышчаў вакольныя хвойнікі, звозіў сасонкі, сам піліў, калоў і... аддаваў дровы тым, хто паліў печы, у тым ліку навакольным дачнікам. Да яго прыходзілі жаночыя дэлегацыі, каб вымусіць яго зрабіць тое ж, што ўсе.

— З вашых град пыл паляціць на нашы.

— Абяцаю вам, што не буду палоць у ветраную пагоду.

Вяльможныя дамы сінелі ад яго жартаў. І ад паводзін. На іх вачах ірваў цыбулю, выціраў аб парусінавыя, прапітаныя смалой штаны і апетытна хрумстаў.

— Хто цыбулькі хоча, бабачкі?

Адышоўшы, «бабачкі» пляваліся і лаялі старога блазена:

— Яму што! Яму даўно за семдзесят. Можна ўжо і Богу маліцца. А ў нас унукі.— Хоць у таго таксама былі ўнукі.

За першым пасёлкам падобную дэзактывацыю пачаў праводзіць другі пасёлак, з другога боку горада, хоць забруджанасці там не выявілі. Але ж нельга адставаць ад начальства. Ды адпачывалі там кіраўнікі рангам ніжэйшыя. І Лявонцій Мікалаевіч цыкнуў на іх:

— Што пра вас падумае народ! Панікёры! Няма ў Мінскай вобласці ніводнай плямы,— пра дачны пасёлак змаўчаў.— А вы сееце паніку. Закапваеце ў зямлю народныя грошы. Хто даў права? З партыі будзем выключаць за такія дзеянні. У Брагіне трэба рабіць! А не на сваіх гародах. Аграрнікамі ўсе парабіліся! Арганізуйце з іх, Міхаіл Іванавіч, брыгаду. І — у калгасы! У калгасы! У зону! Не ад «галасоў» з-за бугра, ад мудрых кіраўнікоў, якія ратуюць свае грады, разыходзяцца, што кругі па вадзе, дурныя чуткі, недарэчныя выдумкі. Трэба спыніць! Якім чынам?

— Выступіць вам па тэлебачанні,— падказаў адзін з падхалімаў, упэўнены, што заробіць ачкі за такую падказку.

Але Лявонцій Мікалаевіч нядобра бліснуў у яго бок вачамі. А для ўсіх — глыбока задумаўся.

— Мне? Можа, і мне. Але лепш... спецыялістам. Міністр аховы народнага здароўя! Трэба супакоіць людзей.

Міністр па-вайсковаму падняўся:

— Якім чынам, Лявонцій Мікалаевіч?

— Хто мае вучоныя званні? Вы ці я? Навука ў наш час павінна ўсё магчы!

— Знішчыць на зямлі ўсё жывое яна можа. А насмарк вылечыць не можа,— іранічна кінуў адзін з незалежных намеснікаў Дырэктара, якога чамусьці завочна падначаленыя называлі АТК — аддзел тэхнічнага кантролю пры Дырэктару.

Міністр пісаў выступленне двое сутак. Ён не быў радыёлагам, і яму прыйшлося збіраць розных спецыялістаў, каб атрымаць іх парады, якія былі вельмі супярэчлівыя. Даручыць гэтую работу памочнікам, разумеючы яе адказнасць, не мог, пасля дзённых няспынных пасяджэнняў пісаў уначы — да бяссонніцы, да спазмаў сасудаў. Яшчэ дзень абмяркоўваў выступленне з калегамі, і, каб улічыў іх заўвагі, работы хапіла б яшчэ не на адну ноч. А яго падганялі: дзе выступленне? Аднак ніхто не патрабаваў яго візаваць: кажы што хочаш. І міністр сунуўся на тэлестудыю. Але там таксама сядзелі людзі, якія трымаліся за свае крэслы — жадаючых выбіць іх хапае, праца няпыльная. Выступленне пайшло ў высокі дом. Чыталі інструктары, намеснікі, загадчыкі, але амаль усе яны

вучылі фізіку толькі ў школе і даўно забыліся, а медыцыну ведалі па сваіх радыкулітах і гемароях. Урэшце адважыліся пакласці выступленне на стол самому Дырэктару.

Ён праявіў надзвычайную аператыўнасць: праз гадзіну міністр стаяў у яго кабінеце.

Лявонцій Мікалаевіч быў як ніколі добры і неафіцыйны. Падняўся з рабочага месца, прайшоўся да доўгага стала.

– А я трохі паправіў ваш тэкст. Прабачце. Але цяпер гэта тое, што трэба... народу.

Падаў лісты.

Міністр гартануў іх, і кроў ударыла яму ў патыліцу. Старонкі машынапіснага тэксту размалёваныя сінім алоўкам, выкраслены цэлыя абзацы, паміж радкамі напісаны новы тэкст. Адразу ўбачыў: і ад навукі, і ад яго трывогі нічога не засталося. Супакаенне і бадзёрства. Прапаганда па даўно штампаваных узорах.

– Я не магу вылазіць... з такім тэкстам,– упалым, ахрыплым голасам сказаў бясстрашны некалі разведчык.

Уміг спагадлівы кіраўнік ператварыўся ў суровага Дырэктара. Пабурэла шыя і пабялела лысіна.

– У такім разе вам прыйдзецца сачыняць больш кароткі дакумент.

– Зрабіць гэта зараз, у прыёмнай? – смела, рашуча, з выклікам спытаў міністр.

Такога павароту Лявонцій Мікалаевіч не чакаў і адчуў сябе бадай жа ў тупіку. З кім іншым размова на гэтым і скончылася б, хіба коратка прадоўжылася б праз два-тры дні... праз тыдзень, не больш, за сцяной, у зале пасяджэнняў. Але з гэтым вучоным чортам так нельга, гэтаму ён зрабіў бы вялікую паслугу. Гэты перадаў бы сутнасць канфлікту ўсяму актыву і... узняў бы свае акцыі. А яго аўтарытэт упаў бы.

Часам трэба ўмець адступіць, быць дыпламатам.

– Хочаце збегчы ў нялёгкі час?

– Бегчы мне няма куды... акрамя аперацыйнай...

І Лявонцій Мікалаевіч звярнуўся да АТК, якога прадбачліва запрасіў на размову з міністрам:

— Аляксандр Тарасавіч, дапамажы таварышу... Выведзі яго ў эфір — твая парафія. Сёння ў найлепшы вячэрні час.

АТК — душа чалавек: з усімі на «ты», усім сябра.

І ён мудра параіў:

— Коля! А ты не вылазь з гэтым,— кіўнуў ён на паперы, што прыкметна трымцелі ў руках, у якіх ніколі не здрыгнуўся скальпель.— Ты без папер скажы народу праўду. Пара нам вучыцца гаварыць без паперы.

Лявонцію Мікалаевічу не спадабалася ігнараванне яго папраўак. Але ён добра ведаў АТК, зразумеў яго хітрасць: за такі кароткі час новую канцэпцыю не збудуеш і мусіш без тэксту выступаць па тэксту... па папраўленаму, будзеш акцэнтаваць на спецыфічна медыцынскія аспекты і не палезеш са сваімі ацэнкамі агульнай сітуацыі.

Калі міністр выйшаў, АТК весела сказаў: хацеў разрадзіць атмасферу:

— Калі ў нас распухнуць прастаты, а да гэтага нядоўга, ён будзе выразаць іх.

Лявонцій Мікалаевіч адчуў боль у ніжняй частцы жывата. Болі такія зрэдку з'яўляліся і раней, але тэрапеўт супакойваў: каліт. Уролагу ён не паказваўся. Напамінак пра магчымасць старэчай хваробы спалохаў і ўзлаваў — узлаваў напамінкам пра гады: падбіраецца пенсійны ўзрост. І ён нечакана для сябе, а яшчэ больш для АТК, спагнаў злосць на намесніку:

— У вас дурацкія жарты! Менш расказвайце анекдоты! Распусцілі языкі! Балбатуны, а не ідэолагі! Работаць трэба! А не пра яйцы свае думаць! Вакол — адны правалы.

АТК ведаў свайго шэфа, ведаў, што, калі той «сарваўся», ратунак адзін — хутчэй знікнуць. І яго як ветрам здзьмула. Сакратарка і тыя, што сядзелі ў прыёмнай, свае, па выглядзе трэцяга чалавека ў іерархіі ўстановы сцямілі, што ў кабінеце бура, і паспяшаліся за ім: пачакаюць самыя неадкладныя справы, наліха ім падстаўляць свае галовы. Няхай сціхне тайфун. Тут ён больш небяспечны, чым чарнобыльскі.

Лявонцій Мікалаевіч разумеў, што яму трэба наведаць зону бедства.

Але жонка і дачка, ды і памочнікі некаторыя, што клапаціліся пра яго, як пра бацьку роднага, адгаворвалі ад паспешлівай паездкі.

– Хіба мала ў цябе памочнікаў, якім па абавязку службоваму трэба знаходзіцца там? Іх нагружай. А ты ўсё сам,– пераконвала анёл-ахоўнік – жонка.

– Ды сам,– з жалем да сябе згаджаўся Лявонцій Мікалаевіч, бо сапраўды рабіў, не шкадуючы часу. Рэдка калі вяртаўся на дачу раней дзевяці вечара. Выхадных не меў.

Ды, урэшце, меў і маральнае апраўданне, каб адкладваць паездку: адным з першых наведаў Гомель, Першамайскімі святамі ахвяраваў. Правёў абласную нараду. Кіраўнікі раёнаў, што пацярпелі ад аварыі, з першых вуснаў атрымалі ўказанні. Няхай выконваюць! Працаваць трэба!

Не пазбаўлены чалавек быў сіндрому даўняй хваробы кіраўнікоў высокіх – пераконанасці: без яго ўказанняў Пыльчанка і яму падобныя не могуць ведаць, што ім рабіць. Не могуць ведаць. І не ведаюць. Кацяняты сляпыя. Тыцкаюцца мордачкамі ў мамін жывот, шукаючы саскі.

Станцыю наведалі члены Палітбюро. Далей адкладваць паездку нельга было, гэта зразумела нават жонка.

Сам Лявонцій Мікалаевіч не збіраўся ў дарогу, такой прозай не займаўся даўно. Ведаў, што яго збяруць у любую паездку, дальнюю і бліжнюю, у Пухавічы і ў Японію.

І яго збіралі. Цэлы дзень. Хатнія і гаспадарчае ўпраўленне. Кіраўнік гэтага ўпраўлення і раней часам званіў Ніне Паўлаўне: што трэба? А ў той дзень званіў неаднойчы. І яна яму званіла. А як жа інакш? **Сам** едзе ў небяспечную зону! Што туды трэба? Чаго нельга забыць, думаючы пра бяспеку **яго**?

З сабой у вялікую чорную машыну Лявонцій Мікалаевіч узяў старшыню аграпрама – каб не гнаць лішні транспарт, не спынялі барацьбы за эканомную эканоміку.

Старшыня з'явіўся дакладна, мінута ў мінуту, але з адным тонкім «дыпламатам», у якім маглі змясціцца хіба паперы ды мыла. Гэта здзівіла: чалавек ужо двойчы ездзіў у зону.

Лявонцій Мікалаевіч не прынізіўся да праверкі свайго багажу, але па зборах і размовах жонкі, дачкі, унукаў ведаў,

што багажу таго нямала. Хатнія радыёлагі яму прадпісвалі: як можна хутчэй змяніць трусы, майку, шкарпэткі, сарочку, штаны, чаравікі. Адным словам, поўнае абнаўленне амуніцыі. А куды забруджаную? Ды і дзе пераадзецца? У машыне? У лесе? На людзях? Наіўныя жанчыны. У гасцініцы. Якая мудрасць! Без іх ён не дадумаўся б! Але начаваць ён мае намер у Гомелі. А дабярэцца туды хіба апоўначы. Там, канешне, змые нукліды і ляжа ў чысты ложак у чыстай бялізне.

Тое, што аграрнік з'явіўся бадай што без зменных майкі і трусоў, супакоіла — сам жа ён даказваў, што небяспекі няма, і ў выступленні міністра выкрасліў усе перасцярогі, але абудзіла і раздражнёнасць, што ён усё ж паддаваўся агульнай паніцы і з градамі, і з гэтым пакункам бялізны на два дні камандзіроўкі. Раздражніўся супраць звышасцярожнай жонкі, супраць падхалімаў-памочнікаў і супраць вось гэтага піжона з тонкім «дыпламацікам», старшыню не любіў, бо той часта дазваляў сабе не згаджацца з яго ўказаннямі, як больш вырасціць хлеба і надаіць малака.

У машыне гаварылі аб перапрацоўцы забруджаных (у дазволеных навукай дозах) прадуктаў раслінаводства і жывёлагадоўлі. Менш за ўсё застаецца радыяцыі ў лёгкіх фракцыях, практыкай праверылі,— у масле, у спірце.

— Спірт выключаецца,— сказаў Лявонцій Мікалаевіч.— Не будзем спайваць народ.

— Ён сам сап'ецца. Ад нашага глупства. Вёска гоніць самагон — дым каромыслам стаіць. У горадзе выпілі адэкалон, ласьёны, дабіраюцца да лакаў і... да ваксы.

— Да чаго?

— Да ваксы. Для ботаў.

— Не збірайце анекдоты. Народ мастак сачыняць іх. Але кіраўніку вашага рангу ганебна паўтараць фантазіі алкаголікаў.

Не любіў Лявонцій Мікалаевіч вось такіх разумнікаў з іх гульнёй у самакрытычнасць — «ад нашага глупства», «ад нашай бяздзейнасці». Кажа ад нашай, а мае на ўвазе ад вашай, сябе з дурняў, безумоўна, выключае. Во як пад'язджае.

— А з мясам што рабіць?

Данеслі яму аб супрацiўленнi гэтага беларускага татарына, хітругана, і некаторых іншых ва ўрадзе ягонай згодзе з рэкамендацыяй маскоўскіх вучоных: завозіць мяса з зоны на дальнія камбінаты і невялікую частку, да дзесяці працэнтаў, дадаваць у кілбасы, у кансервы з чыстага мяса.

— Вы гэта пытаеце ў мяне? Я ў вас павінен спытаць. Вы спецыяліст і кіраўнік.

— З рэкамендацыяй Ільіна і Кандрусевіча нельга згадзіцца. Гэта авантура. Дзяржаўнай тайны з мяса не зробіш, народ узнае — і будзе скандал. Больш таго... думка фізікаў. Мартынюка. Абсталяванне... метал і пры малых дозах будзе накапліваць радыяцыю і, накапіўшы, забруджваць чыстую прадукцыю.

— Хто сапраўдны авантурыст, дык гэта ваш Мартынюк. Кантроль выводзіць гэтых вялікіх фізікаў на чыстую ваду. Яны выкачалі ад Міністэрства абароны сотні мільёнаў рублёў і вынайшлі... пшык, як той гора-каваль. А ў амерыканцаў падобныя ўстаноўкі працуюць.

— Я заўсёды кажу: самае таннае — украсці.

Не любіў Лявонцій Мікалаевіч спасылак на народ, хоць сам часта спасылаўся. І вось такіх жартаў не любіў: думае іншы, што дасціпна, а на самай справе — дурнота, студэнцкая балбатня.

Знешне размова як размова, асобныя павароты яе зацікавілі нават шафёра, які ўсё чуў і ўсё ведаў, можа, больш, чым само начальства.

Часам маўчалі. Драмалі. Гаварылі пра старонкія рэчы, пра міжнародныя навіны. Зноў вярталіся да аварыі, да сухой вясны, да стану пасеваў. Чатыры гадзіны дарогі — вечнасць. Даўно нехта заўважыў, што бег часу ў дарозе адваротна прапарцыянальны хуткасці руху. Добра, што касманаўты не адчуваюць сваёй хуткасці.

Жоўтая «міргалка» расчышчала дарогу «ЗІМу». Адсталі дзве «Волгі» суправаджэння. Але і на такой хуткасці машына награвалася.

Спыніліся напіцца. Шафёр адкрыў багажнік, каб дастаць з паходнай «маразілкі» баржомі. І Лявонцій Мікалаевіч убачыў,

што багажнік забіты скрынкамі, пакункамі. Але найбольш уразіла, што багаж убачыў аграпрам і красамоўна ўедліва пасміхнуўся.

— Што гэта? — строга спытаў гаспадар у шафёра.

— Абед.

— Каму?

— Вам,— шчыра і наіўна адказаў стары служка.

— І дзе ж мы з табой будзем яго есці? Забяромся ў кусты? — І знаёма для абодвух памочнікаў узлавана грымнуў: — Дурні! Падхалімы! Аддаць гэта,— хацеў сказаць — дзіцячаму дому, але ўспомніў, што дзяцей эвакуіравалі, і на міг задумаўся, каму аддаць.— У бальніцу!

Але дурнямі былі б памочнікі, шафёры, маёр ДАІ, каб аддалі камусьці такія прысмакі. Ікорка чорная і чырвоная, балычок, паляўнічыя сасіскі, загорнутыя ў фольгу... А як жа! Атрымаюць гэта хворыя — аблізнуцца... Як толькі **Сам** падняўся ў райком, скрынкі перакачавалі ў іншыя машыны, у багажніку засталіся толькі бутэлькі баржомі.

Для паездкі па раёне Лявонцій Мікалаевіч «карэктна» высадзіў з «ЗІМа» свайго мінскага спадарожніка — запрасіў да сябе сакратара абкома і Пыльчанку. Сакратара — па рангу. А Пыльчанку — за яго нечуваную дзёрзкасць. Бадай, ніхто яшчэ з адказных работнікаў не кідаў вось так галосна, на нарадзе, папрок кіраўніцтву рэспублікі, вобласці ў бяздзейнасці — «заліваем бяздзейнасць вадой». Нахабнік? Трэба прыглядзецца да яго, панюхаць, чым пахне. Пакідаць на пасту ці выгнаць? Месца тут сёння не святое, аднак пустым не будзе, любому прапануем — не адмовіцца. Але калі гэты Пыльчанка з галавой, то лепш, як кажуць, на пераправе не мяняць, няхай цягне да чыстага часу.

Такім чынам Уладзімір Паўлавіч апынуўся ў машыне, у якой, між іншым, ні разу яшчэ не ездзіў, здзіўлены такой увагай да сваёй персоны. Сінякоў прасіў яго перад візітам «не лезці ў бутэльку». Ён паабяцаў, хоць ведаў, што моўчкі за спінамі абласной світы стаяць не будзе. І іншы час Сінякоў, безумоўна, прыраўнаваў бы да свайго старшыні — не па рангу «палез у салон», а цяпер нават парадаваўся, што не яму трэба

рабіць даклад начальству. Баяўся хіба трохі, што стары выкіне фартэль. Але ж, можа, не патрабуюць з сакратара адказнасці за вальнадумнасць старшыні райвыканкома.

Пыльчанка атрымаў права вызначыць маршрут інспекцыйнай паездкі. І ён павёз кіраўніцтва адразу ў Бабіна — у сяло, якое, лічыў, трэба дадаткова адсяліць, хоць яно ў трыццацікіламетровую зону не ўваходзіць. Высокая забруджанасць глебы. Мусілі спыніць палявыя работы.

— Хто спыніў?

Рашэнне прымала бюро райкома. Уладзімір Паўлавіч узяў на сябе:

— Я.

— Хто ацэньваў абстаноўку?

— Вучоныя. Ваенныя.

Ён называў лічбы, элементы, якія выпалі. Лявонцію Мікалаевічу падабалася дасведчанасць старшыні. Вось так папулярна пра забруджванне, тэрміны распаду розных рэчываў, механізм цыркуляцыі нуклідаў з зямлі ў расліны, з раслін у арганізм жывёлы, ступень рызыкі для людзей, якія застануцца тут жыць,— не расказаў яшчэ ні адзін вучоны. Доказна, пераканаўча, без апакаліпсічных жахаў, але і без заспакаення.

«Не, такімі кадрамі раскідвацца нельга»,— настроіўся на аб'ектыўнасць Дырэктар.

Але Пыльчанка палез з просьбай: трэба дазіметры, многа дазіметраў, узброіць аграномаў, медпункты, школы. Гэтую песню Лявонцій Мікалаевіч чуў ад таго ж Мартынюка, ад міністра, ад старшыні аграпрама. Яна гучала як дакор і раздражняла. А цяпер і гэты ж туды!

— Навошта вам гэтулькі дазіметраў? У вас пастаянна будуць вучоныя. Зробяць замеры і, што трэба, скажуць вам.

— Лявонцій Мікалаевіч! Я рэаліст. Я знаю, як працуюць вучоныя. Пастаянна яны ў нас не будуць... А нам жыць і працаваць! `А забруджанасць... яна вельмі няроўная... стракатая... Суседнія палі, а розны ўзровень, і розніца — у два-тры разы. Не толькі кожны кіраўнік... кожны чалавек... настаўнік, школьнік, нарэшце, павінен ведаць, дзе можна рабіць,

гуляць, вырваць кветку, ягаду... Калі заставацца людзям... А Бабіна трэба высяляць!

Па такіх канкрэтных пытаннях Лявонцій Мікалаевіч ніколі не выказваўся — пакуль не падрыхтуюцца эксперты. А сакратар абкома, хоць меў уладу проста загадаць: пытанне здымаецца! — пачаў дэмакратычна аспрэчваць:

— У вас ёсць сродкі?

— Сродкі павінен даць урад.

— Вы думаеце, ва ўрада мала дзірак? Вы ведаеце, колькі каштавала эвакуацыя з зоны?

— У нас — зона бедства. Людзі трапілі ў бяду. Усё іншае можа пачакаць!

— Месніцкая ў вас псіхалогія, Пыльчанка. Нізкая вышка, з якой вы глядзіце,— сказаў сакратар абкома.

— У мяне вышка раённая. У вас — абласная. У Лявонція Мікалаевіча — рэспубліканская. У Генсека — саюзная. Але што Бабіна... ды і ўсяго раёна, то мая вышка сёння самая высокая...

— Во як! — здзівіўся Лявонцій Мікалаевіч.— Можна пазайздросціць вашай самаўпэўненасці.

— Не лічу сябе самаўпэўненым. І ніхто не лічыў, уласная жонка... Усё жыццё сумняваўся. Ва ўсім...

— У савецкай уладзе не сумняваўся,— павучальна сказаў сакратар абкома.

— У савецкай уладзе не сумняваюся.

— Дзякуй Богу.

Ніхто ў сяло не званіў. Прыехалі знянацку. Але каля праўлення калгаса тоўпіліся людзі. Мужчыны. Механізатары. Спынілі ж палявыя работы. Некаторыя былі «пад газам» ужо — абедзенны час.

— Ну, як жывецца, таварышы?

Машына выдала, што начальства высокае, і механізатары праявілі цікавасць, тыя, што ляжалі на зямлі, гулялі ў карты, падняліся, памкнуліся насустрач гасцям. Але першае ж пытанне ўзлавала мужчын. Твары пахмурнелі.

— Дрэнна жывём.

— Чаму так?

Сакратар абкома паспяшаўся прадставіць высокага госця — можа, палагаднеюць. Не, наадварот, глядзець пачалі спадылба, як валы з-пад ярма.

— А што гэта за жыццё? Кажуць: цыбулі не есці, яйкі не есці, малака не піць. А ў магазіне — хіба пацукі адны.

— І радыяцыя іх не бярэ! — падключыўся мясцовы гумарыст.

— Хаця б барматухі якой закінулі. Кажуць, памагае ад гэтай заразы,— паказаў немалады трактарыст вачамі ў неба.

— Хаця б кансерваў якіх.

Лявонцій Мікалаевіч строга спытаў:

— Чаму людзей не забяспечваюць прадуктамі?

«Гэта я ў вас павінен спытаць»,— падумаў Уладзімір Паўлавіч, але адказаў пачціва, хоць з сарказмам, які знаёмы быў сакратару абкома:

— Бамбім тэлеграмамі аблспажыўсаюз, Белкаапсаюз. І ўсіх, чый адрас знаем. Просім, молім, пагражаем... Прыміце нашу скаргу.

— Аляксей Раманавіч! Разабрацца! — і свайму памочніку: — Вернемся ў райцэнтр — звяжыце мяне са старшынёй Белкаапсаюза. Скажам яму пару ласкавых слоў.— Павярнуўся да механізатараў, жанчын-праўленцаў, што высыпалі з памяшкання: — Прадукты будуць, таварышы!

Твары ў людзей пацяплелі; верылі: калі сказаў такі высокі начальнік...

— Кажуць, нас высяляць будуць? Куды? — спытала жанчына.

— Хто вам сказаў пра гэта? — спытаў Лявонцій Мікалаевіч.

— Я сказаў... па рэкамендацыі вучоных,— Пыльчанка пайшоў напралом, бо зразумеў з размовы ў машыне, што Вадалей (сам выдумаў мянушку, і яна прыжылася ў яго лексіконе, хоць Сінякоў і папярэджваў: «Уліпнеце») таксама супраць расшырэння зоны эвакуацыі.

У рэспубліканскіх органах разважалі: Палітбюро і саюзны ўрад вызначылі радыус у трыццаць кіламетраў — ведалі, што рабілі. Усе іншыя пражэкты з арсенала Мартынюка.

— То растлумачце людзям — куды вы іх хочаце вывезці,— загадаў Пыльчанку Дырэктар.

— У нашым раёне — няма куды. Баюся, як бы і тыя, паўночныя, вёскі не прыйшлося эвакуіраваць, куды мы адсялялі.

— Панікёр вы, Пыльчанка! — узлаваўся Аляксей Раманавіч.— Во што я вам скажу.

— Можа, і панікёр. Але... Бабіна трэба высяляць!

— Куды? — адразу гукнулі некалькі галасоў.

— Каб я вырашаў, то далей... на Віцебшчыну, напрыклад...

— Ку-у-ды? — ажно падскочыў сакратар абкома.— Не патрыёт вы, Пыльчанка, сваёй вобласці. У нас і без таго людзей не хапае.

— На Віцебшчыну мы не паедзем,— сказаў старшыня калгаса Каляга, які да таго быў саюзнікам Пыльчанкі.

— Не паедзем,— не вельмі дружна пацвердзіў натоўп.

— Чулі? — ажно ўзрадаваўся Аляксей Раманавіч.

Чуў. Але не лічыў гэта сваім паражэннем. Гэтак жа спытаў праз пэўны час у машыне Лявонцій Мікалаевіч — не без іроніі:

— Чулі голас народа?

Пыльчанка не здаваўся, ён разгарачыўся:

— Людзі проста не знаюць, што іх чакае. Хто ім даў інфармацыю? Тэлевізар, газеты? Выступленне міністраў? Слухалі мы і свайго, і ўкраінскага, Кіеў больш балакае...

— А вы знаеце... што вас чакае?

Начальніцкая іронія да прызнанага гумарыста гэтым разам не дайшла.

— І я не знаю.

— Во гэта самакрытычна. Многа вы бераце на сябе, Пыльчанка.

— Залішне многа,— больш выразна пагразіў сакратар абкома.

— Разумею, Аляксей Раманавіч, што можна інакш... як некаторыя вашы... Але праўду кажу — не магу.

Лявонцій Мікалаевіч нечакана засмяяўся, упершыню бадай.

— Ну, стрэмка! — і падумаў: «Не, такога выганяць адгэтуль нельга».

— Прабачце, Уладзімір Паўлавіч, але вам што, шляя пад хвост папала. Вы ж спакойны чалавек... былі...

— Быў.

Пыльчанка вызначыў далейшы маршрут, сказаў Дунцу, які ехаў у машыне суправаджэння: уздоўж агароджы з калючага дроту, яе ўзводзілі сапёрныя часці.

Павярнулі на палявую дарогу. Праехалі апусцелы вайсковы лагер — палатачны гарадок, дзе гаспадарылі кашавары, дымілі кухні.

Раніцою прайшоў дождж. У любы іншы час майскаму дажджу радаваліся б, недарма жартуюць суседзі — гаспадары чарназёмаў: «Два дажджы ў маю — і ўсю агратэхніку...» А яны сёння ўсю раніцу высвятлялі, адкуль ішла хмара. Дажылі!

Пыльчанка спадзяваўся, што зямля яшчэ не высахла. Сапраўды, у сасняку дарога была мокрая. А выехалі ў поле... Які ячмень паабапал! Які ячмень ідзе! Уладзімір Паўлавіч цяжка ўздыхнуў. Магчыма, начальства зразумела яго смутак, боль.

Дарога запыліла. А шафёр — стары дурань! — як баяўся адстаць ад міліцыі. Трымаўся правіла, ці што?

— Браток,— звярнуўся да яго Пыльчанка.— Адстань... Не трэба нам удыхаць міліцэйскі пыл. Вунь задняя... яны разумныя... адсталі. Нават начальніцкі пыл не хочуць глытаць.

«Здзекуецца? Ці сур'ёзна думае пра бяспеку? Цікавы чалавек. Загадкавы».— І Лявонцій Мікалаевіч пахваліў сябе за праніклівасць: сакратар гэтак не паводзіў бы сябе і такія вось звесткі аб сітуацыі, настроі людзей ад яго наўрад ці атрымалі б. Аднак дазваляе сабе сапраўды лішняе. Трэба асекчы. Дзе? Калі?

Выехалі на асфальт. Дарога вяла ў зону. Вароты ў агароджы адчыненыя, каля іх міліцэйскі пост, ажно тры чалавекі.

Спыніліся перад варотамі. Папярэджаны экіпажам машыны суправаджэння, начальнік паста, старшы лейтэнант, далажыў па ўсёй форме, стукнуўшы абцасамі:

— Таварыш...— пасада, орган, поўная назва рэспублікі.— Пост міліцыі Аршанскага аддзялення нясе ахову зоны павышанай радыяцыі.

— Праедзем у зону? — спытаў Пыльчанка ў высокага госця.

«Правярае, ці не баюся»,— падумаў Лявонцій Мікалаевіч. Азірнуўся. Падышлі машыны абласныя, раённыя. Высыпала чалавек пятнаццаць кіраўнікоў усіх рангаў. Гэтыя ўмеюць разнесці і добрую і дурную славу.

«Ну і тып, гэты Пыльчанка!»

— А што там глядзець?

— Тры кіламетры — вялікае сяло. Лепшы калгас. Быў. Вы знаеце, гэта ўражвае: сяло без людзей. Такое і ў Бібліі не апісана. Пакажу сляды марадзёрства. Зладзюгі нічога не баяцца. Вычысцілі восем тон пасяўной грэчкі ў першую ноч.

— Бо вы варон лавілі.

— А вы нам далі дастаткова транспарту, Аляксей Раманавіч? Думалі: пад дахам грэчка будзе цалейшая.

Уладзімір Паўлавіч бачыў, як Дунец шаптаў начальніку паста, здагадаўся — што, і ажно кракнуў: «Я ж табе дам, чортаў мільтон!»

— Паехалі! — вырашыў Лявонцій Мікалаевіч і палез у машыну.

Ды начальнік паста спыніў яго:

— Дазвольце сказаць? Папярэдзіць...

— Аб чым?

— Шкада мне вашай машыны.

— Чаму машыны? — не толькі здзівіўся — бадай, спалохаўся адважны кіраўнік.

— Набярэ яна рэнтгены і... будзе «свяціць». Метал не адмываецца. Калі не спісаць, забрудзіць гараж...

Плаксівым голасам заенчыў шафёр:

— Дык што ж гэта мы думаем сабе, Лявонцій Мікалаевіч! Такую машыну гробім. З-за чаго? Каб глянуць на пустое сяло?

Дырэктар успомніў расказ генерала паветранай арміі, які вадзіў на АЭС эскадрыллю верталётаў: некаторыя машыны, з

якіх кідалі пясок, набралі столькі, што іх прыйшлося спісаць і закапаць глыбока ў зямлю.

Лявонція Мікалаевіча перасмыкнула. Мокрая ад поту сарочка зрабілася халоднай. «Метал можна закапаць. А людзей?»

І ён рашуча загадаў ахове:

— У зону нікога не пускаць!

Узлаваны на свайго начальніка міліцыі, Пыльчанка ў сваю чаргу загадаў таму — няхай пакруціцца:

— Дунец! Чуў? У зону нікога не пускаць! Сваіх! А ўсе гідраметы — чорт з імі!

— А як жа з бычкамі?

— З якімі бычкамі? — У сакратара абкома вочы палезлі на лоб.

— У нас там засталася ферма бычкоў.

— Чаму не эвакуіравалі?

Урэшце і Сінякоў развязаў рот — пайшоў на выручку свайму старшыні:

— Па плану ферма не трапляла ў зону. Ваенныя выпрамілі — не маглі пракладваць агароджу па балоце. Ды і ўказанне: мінімальна...

— Якое ўказанне? Чыё ўказанне? — ажно пасінеў Аляксей Раманавіч.— Ніякіх указанняў на гэты конт не было. Быў план, зацверджаны.

Сінякоў схаваўся за спіны абласных калег — далей ад начальніцкага гневу. Вылез, называецца, сабе на бяду!

А Пыльчанка раптам сцяміў, што выпала магчымасць выказаць сваё крэда з той завостранасцю думкі, на якую наўрад ці адважышся на афіцыйнай нарадзе.

— Што з бычкамі? Папросім ваенных. Няхай дадуць аўтаматчыкаў. Пастраляем і... закапаем.

Бачыў, што ўсіх здзівіў: шафёраў, міліцыянераў — такой прапановай. Аляксей Раманавіч ажно крутнуўся на адной назе.

— Ды вы што? Дурныя жарты!

— Ніякія не жарты.

А Дырэктар не здзівіўся, адзін з усіх. Слухаў моўчкі. Даваў ім права вырашыць самім унутраныя справы, каб ніхто з іх

пасля не спасылаўся на яго. Не, не даў ён мусоліць гэтую тэму.

— Паехалі! — нырнуў у машыну.

Шафёр з радасцю і надзвычайнай лёгкасцю развярнуў доўгі лімузін ад «варот у пекла».

Сакратар абкома ніяк не мог супакоіцца:

— Ну, жартачкі ў вас, Пыльчанка. Колькі там бычкоў?

— Шэсцьсот трыццаць галоў.

— Ко-о-ль-кі? Вы што, у сваім розуме? Ну, мяснік! Ну, багач!

— А вы будзеце есці гэтае мяса? — злосна агрызнуўся Уладзімір Паўлавіч, прымусіўшы сакратара пракаўтнуць язык.— Яны тры тыдні вольна гуляюць на ячмянях. Набралі вагу — блішчаць. Але набралі і нукліды ёду, цэзію... Учора я вазіў да іх радыёбіёлагаў... Памералі — пабялелі. Ад бычкоў «свецяць» не мікра і не мілі, а поўныя кругленькія бэры. А вы іх хочаце на біфштэксы...

— Я нічога не хачу. Але я разважаю як гаспадар.

— А я — як хто?

Лявонцій Мікалаевіч зноў прамаўчаў, але падумаў мякка, са шкадаваннем: «Работнік з галавой. Але прыйдзецца перамяшчаць — будзе ствараць праблемы».

— Трэба рэкамендацыя вучоных, Лявонцій Мікалаевіч,— выкруціўся сакратар абкома.

— Але, усё будзем рабіць паводле рэкамендацыі вучоных,— глыбакадумна згадзіўся Вярхоўны.

А Пыльчанка паводзіў сябе што разгарачаны стаеннік — не мог спыніцца:

— Прапаную іншы варыянт. Пакінуць іх там да зімы... бычкоў. Для эксперыменту. Няхай вучоныя даследуюць, калі і ад якіх доз яны пачнуць дохнуць.

Лявонцій Мікалаевіч раптам як ператварыўся ў таго Дырэктара, які лічыў, што толькі яго думкі, вывады, рашэнні — адзіна правільныя. Сказаў жорстка, неаспрэчна:

— Яны пражывуць да сваёй бычынай старасці, калі іх карміць. Здохнуць з голаду. Зімой.

Так сказаў, што ў Пыльчанкі скавала язык: знікла жаданне развіваць свае «фантазіі», ды і канкрэтныя просьбы зменшыліся неяк самі сабою. І пачцівасці да начальства стала больш. У далейшай інспекцыйнай паездцы па раёне ён падабаўся Лявонцію Мікалаевічу, абласны лідэр хіба касавурыўся — не мог дараваць яму выдачы мясцовых пралікаў. А ў каго іх не бывае ў звычайных умовах? А тут экстрэмальныя.

Лявонцій Мікалаевіч сам здзівіўся: ніколі ён так не вагаўся ў вызначэнні лёсу работніка, звычайна сказаў — адрэзаў. А тут: зняць — не знімаць. Канчатковае рашэнне: «Няхай праявіць сябе ў гэтых умовах». Але праз паўгадзіны зноў узлаваўся. З'явілася патрэба спыніцца. І Пыльчанка выбраў месца — каля самай шыльдачкі: «На ўзбочыну не сходзіць». Яўна тыцкае носам у пагрозу, палохае, чортаў хітруган. Але ж за гэта не вымавіш, не прабярэш.

Памылі рукі ў вычышчаным да бляску туалеце, так ён вычышчаўся толькі год назад да прыезду чэшскай дэлегацыі. Стаялі ў рэстаране, на другім паверсе, каля акна. Лявонцію Мікалаевічу захацелася есці: снедаў вельмі рана. Быў задаволены сабой. Адвагай сваёй. Нават тым, што абедаць будзе вось тут, у агульным рэстаране. Пасмяецца з жонкі, з дачкі, з іх страхаў, з падхалімаў гаспадарнікаў. Няхай даведаюцца, што ён аддаў іх абед хворым. Няхай ведаюць, што ён не баязлівец і не скнара. Яшчэ раз у думках пахваліў Пыльчанку: яўна ён — аўтар маршрута паездкі. Безумоўна, увечары ў Гомелі ўсё адзенне і абутак прыйдзецца змяніць. Але гэта не яго і не жончына прыдумка — настойлівая парада дактароў.

Разважліва, дэмакратычна гаварыў гаспадарам раёна:

— Падкінем вам некалькі мільёнаў. Будаўнічую арганізацыю. Ваенныя памогуць. Пачысціце, памыйце, памяняйце дахі, заасфальтуйце вуліцы. Добры шанц маеце зрабіць з горада ляльку. Толькі не зявайце.

«Навошта? Дзеля каго?» — хацелася закрычаць Уладзіміру Паўлавічу. Але... не здолеў, сапраўды, як скавала нешта. Слухаў пачціва, згаджаўся, пацвярджаў дробныя просьбы сакратара райкома.

А пасля абеду на нарадзе актыву зноў не вытрымаў – уступіў у канфлікт з «богам Саваофам». Дакладваў Сінякоў. Не сказаў і палавіны таго, што Лявонцій Мікалаевіч пачуў у машыне. І ён у прамове сваёй заключнай біў райкомаўца пачутымі ад Пыльчанкі аргументамі, безумоўна, у сваёй інтэрпрэтацыі. Здзіўляў і захапляў наіўных дасведчанасцю, эрудзіраванасцю.

Сінякоў паскардзіўся, што многа людзей выязджае, асабліва з інтэлігенцыі.

Дырэктар лёгка параіў:

– Дэзерціраў, членаў партыі, з уліку не здымаць. Не падпарадкоўваюцца дысцыпліне – выключаць. Такія байцы нам не трэба!

Вось гэта і прымусіла Пыльчанку вылезці зноў і горача, амаль абурана аспрэчыць:

– А завошта выключаць, Лявонцій Мікалаевіч? Выязджаюць, як правіла, маладыя. У каго дзеці. Ратуюць дзяцей. Завошта выключаць?

Адказ быў суровы і абразлівы:

– Вам хочацца выехаць? Можам памагчы!

– Не... мне пакуль што не хочацца.

– Пакуль што... Захочацца – скажыце... вось Аляксею Раманавічу.

– У мяне сын на станцыі. І сёння там...

Пасля не мог зразумець, чаму выставіў такі нечаканы аргумент, і не мог дараваць сабе – усё роўна як спалохаўся!

У абарону яго кінулася рашучая Кацярына Панасаўна, таксама з дзіўным аргументам:

– А другі ваюе ў Афганістане!

«Ваяваў»,– хацеў паправіць Уладзімір Паўлавіч і чамусьці не здолеў, вяла апусціўся ў крэсла. У сэрца ўдарыла тая трывога, якая часам сціскала тады, калі Барыс лятаў там. Раптам успомнілася папярэджанне Сінякова аб Плечкавай пагрозе напісаць у Барысаву часць. А ён не толькі не пагаварыў вунь з тым дурнем, што сядзіць у першым радзе і глядзіць у рот начальству, але і Вользе нічога не сказаў. Да трывогі дадалося пачуццё віны перад Вольгай. Перад сынамі. Перад людзьмі.

Усё іншае, што гаварылася на нарадзе, ён слухаў як з сапсаванага рэпрадуктара: чужыя галасы і яго ўнутраны голас, які вяшчаў пра іншае, накладваліся адзін на другі, ірваліся прыступамі душэўнага болю.

Праз тры дні вобласць прыслала калону грузавікоў — па бычкоў. Без папярэджання.

Уладзімір Паўлавіч сыпаў грамы і маланкі, памкнуўся паслаць Вадалею (інакш цяпер не называў рэспубліканскага кіраўніка) злую тэлеграму. Ды Сінякоў умаліў яго не рабіць гэтага, не ствараць праблемы. Ад стомленасці, ці што, у яго гэта нярэдка цяпер здаралася — успыхваў што порах і тут жа патухаў, ён і тут скіс. Пасля сам з сябе здзекаваўся: «Толькі смуроду нарабіў».

Адкормленыя бычкі паехалі на мясакамбінат. Але калі праз колькі дзён старшыня калгаса паскардзіўся, што за бычкоў заплацілі па чацвёртай катэгорыі — як за самую худую гавяду, Уладзіміра Паўлавіча апанаваў да непрыстойнасці істэрычны смех:

— Памагаюць нам у бядзе! Памагаюць! Рабуюць пагарэльцаў! Во дабрадзеі!

Сінякову ажно страшна стала за старшыню. У самога нервы што струны, рабіў і баяўся, што вось-вось лопне нейкая з напятых струн. У Пыльчанкі пакуль што не самае горшае: мацюканне ці вось гэткі смех. А што будзе ў яго?

## Раздзел 4

## *Нуклідная зона*

### I

Ірыне зрабілася блага ў часе аперацыі. Сястра падхапіла яе, падтрымала, вывела з аперацыйнай. У суседнім кабінеце ёй далі панюхаць нашатыр, паілі вадой, націралі скроні, укалолі. А на стале засталася акрываўленая пацыентка. Выдалены плод, але не скончана вычыстка.

Хірург-мужчына, які лёгка, з жартачкамі, выразаў апендыцыты, сам ледзьве не самлеў, калі галоўурач прапанаваў яму скончыць аперацыю: крый бог! ніколі не рабіў абортаў і не стане рабіць!

Ірына апрытомнела і дайшла да сэнсу трывогі медперсаналу.

— Я сама... Дайце яшчэ пяць мінут... Падтрымайце яе... каб не спалохалася. І калі крывацячэнне...

Аперацыю яна скончыла сама. Праўда, асісціравалі і галоўурач, і яго намеснік, і той жа хірург.

Ірыну адпусцілі дадому — не работнік. Даручылі сястры праводзіць.

Ірына адмовілася:

— Дзякую. Не трэба. Я блізка... У бібліятэку... да свекрыві.

Вольга Андрэеўна акуратна хадзіла на працу. У пустую бібліятэку. Маладыя памочніцы яе не з'яўляліся: няма чаго рабіць, няма чытачоў. Горад застаўся без дзяцей. Гэта жудасна — горад без дзяцей. Людзей, можа, стала нават больш: ваенныя, вучоныя, камісіі... Але без дзяцей горад усё роўна пусты. Аднак старэйшая бібліятэкарка сядзела з раніцы да канца рабочага дня. Жыла з кнігамі. Рабіла перарэгістрацыю фонду. Але як! Тое, што раней магла зрабіць за гадзіну-другую, цяпер расцягвала на дзень-два. Выцірала з кніг пыл, падклейвала, нават пераплётам занялася і маляваннем — пісала на новых пераплётах не толькі аўтараў і назвы, але і простыя карцінкі малявала — з тых, што былі раней на друкарскіх вокладках. Як развітвалася з кнігамі. Але не ад кніг у яе быў засмучаны выгляд. Каб хто паназіраў, то ўбачыў бы, што гадзінамі яна сядзела за сталом, заваленым кнігамі, у глыбокай задуме. Яна думала пра сыноў. І чым больш думала, тым мацней апаноўваў яе страх. Яна ведала гэты страх. За Барыса перажывала ўжо колькі гадоў — з таго дня, калі ён паступіў у лётную школу. Прывыкла, а сын апынуўся ў Афганістане. Божа, колькі яна перажыла за тыя паўтара года, пакуль Барыс ваяваў там! А ў дзень вялікай радасці, калі жаніўся Глеб, калі прыехаў Барыс,— вось гэтая бяда. І ў акрываўленым сэрцы яе — новы

страх, цяпер ужо за Глеба. Каб з неба сыпаліся не нябачныя радыечасціцы, а каменне, яна ўсё роўна пайшла б да сына. Добра, што другая душа цяпер побач, якая дзеліць з ёй страх за Глеба,– Ірына. Яна думала пра іх паход у Чарнобыль і з незвычайнай ласкавасцю і ўдзячнасцю ўспамінала лейтэнанта Паўла Шышко. Ён пераканаў яе ў тым, у што яна верыла ўсё жыццё, за што муж часам кпіў з яе: як многа ў свеце добрых людзей! Дакарала сябе, што не ўзяла яго адрас. Эгаістка! Якое пісьмо яна напісала б яму, седзячы тут, у бібліятэцы! А пасля і маці яго на недалёкую Віцебшчыну – з падзякай за сынаву дабрыню.

А тыдзень назад, калі Глеб зноў паехаў да атамнага катла, што выйшаў з-пад улады (бацька пасадзіў яго ў Лоеве на кіеўскую «Ракету»), да страху за яго зноў далучыўся новы страх за Барыса. Уладзімір Паўлавіч сказаў каротка, як бы між іншым, пры Ірыне:

«Пагавары ты з гэтым дурнем... з Плечкам. Пятро кажа, што ён хоча напісаць у часць на Барыса. Драбяза, канешне, глупства. Але калі ў палітаддзеле фармалісты, якія змагаюцца з чаркай, як мы, могуць запісаць хлопцу».

Для бацькі з яго задубелай скурай, як ён сам кажа, усё драбяза. Зайздросціла мужу. А яна не спала ўсю ноч, уяўляючы самыя неверагодныя кары, якія могуць напаткаць старэйшага сына.

Раніцою пабегла ў райком камсамола.

Сяргей Плечка быў прыветлівы, добры. Супакоіў яе:

«Што вы, Вольга Андрэеўна! За каго вы мяне лічыце? Хіба я не разумею! Кірую камсамолам! Чаго не бывае паміж маладымі людзьмі! Я ж разумею: Барыс прыраўнаваў мяне да Тамары. А Тамара гэтая ўмее закружыць галаву любому. Яна ў нас членам райкома была, калі піянерважатай рабіла ў школе».

Сапраўды, выйшла заспакоеная, па-мацярынску сардэчна падзякаваўшы хлопцу. А пасля ў бібліятэчнай цішыні прыгадала, што Плечка неяк хітра адводзіў вочы, усё роўна як баяўся, каб яна не заглянула ў іх. І страх за Барыса загарэўся з новай сілай. Штодня пісала сыну пісьмы. Не кожнае адсылала. І ў той дзень пісала павольна. Пра Плечку ні разу не

17. Зак. 2388.

напісала. І пра аварыю ўсяго, што знала, не пісала. Больш успаміналa вясёлыя эпізоды з яго, з Глебавага, а часам са свайго і бацькавага маленства.

Грымнулі дзверы — Вольга Андрэеўна накрыла пісьмо кнігамі.

Увайшла Ірына.

Свякроў глянула на яе і ледзьве не самлела: нявестка была вельмі бледная. Запаволена, як на шмат гадоў пастарэлая, Вольга Андрэеўна паднялася Ірыне насустрач. Але Ірына імкліва кінулася да свекрыві, моцна абняла, прытулілася тварам да грудзей, яшчэ больш напалохаўшы.

— Мама! Мамачка! Я не магу! Не магу! Я не магу выкідваць іх у памыйнае вядро.

— Каго? — не адразу сцяміла Вольга Андрэеўна.

— Дзяцей. Дзяцей! Мамачка! Я сёння зрабіла пяць аперацый. Хто гэта выдумаў... рэкамендаваць аборты? Чаму нас было не вывезці ў першыя ж дні?

І як бы сцяміўшы, што прагаварылася — нас, змоўкла. Стаілася, мацней прыціснулася да грудзей, слухаючы частыя ўдары матчынага сэрца.

— Дзіцятка маё роднае! Што гэта яшчэ на нас? За якія грахі нам такая кара?

Праз момант Ірына адарвалася ад яе, выйшла са стану маленькай, бездапаможнай, што шукала абароны ў маці. Вочы яе былі сухія, і твар паружавеў. Яна ўміг стала сур'ёзнай жанчынай, урачом. Сказала без сарамлівасці:

— Мама! Ува мне расце дзіця. Наша з Глебам. Яму чацвёрты месяц. Але я не магу пайсці на аборт. Не магу! Мама! Я лепш памру... Я звар'яцею. Каб маё дзіця — у вядро! Мама! Вы не знаеце, які гэта жах! Я самлела каля стала...

Ірыну заліхаманіла.

Вольга Андрэеўна абняла яе, моцна сціснула, каб сагрэць.

— Супакойся, дзіцятка. Я знаю. Я ўсё знаю.

Халадзеючы, прыгадала даўні-даўні адзіны аборт, які зрабіла. Зацяжарала, калі Глебу было месяцаў дзесяць, Бору чатыры годзікі. Жылі на прыватнай кватэры, Валодзя вучыўся ў партшколе — адна стыпендыя. І чорт падбухторыў

яе. Жахлівая сама аперацыя. Але страшнейшыя пакуты пасля перажыла. Усё жыццё сніла дзяўчынку, дачку сваю. Дзіця глядзела на яе з нямым дакорам. Вольга прачыналася, аблітая халодным потам, нярэдка з крыкам. І ні разу мужу не расказала свае сны. «Што ты сніла?» – «Не помню».

Падняла Ірыну да канапкі, пасадзіла і ўпершыню ёй расказала пра сны свае. Выраслі сыны, пастарэла, а той даўні боль, жудасць, віна перад дзіцем, што не ўбачыла свет, і дагэтуль, хоць і рэдка ўжо, прабіваецца з-пад гары жыццёвых напластаванняў, іншых боляў, страхаў, згрызот сумлення надзіва рэалістычнымі, але страшнымі снамі.

Ірына слухала свякроў, перажываючы свае пакуты. Да гэтага расказу яна, можа, не ўяўляла, як гэта праявіцца, але адчувала, разумела, што проста так гэта не пройдзе. Цяпер падумала, што ёй можа быць яшчэ горш, чым маці, яна будзе сніць не толькі сваё дзіця, але і ўсіх чужых, усіх тых, якіх выкінула... Яе ліхаманіла.

– Супакойся, Ірыначка. Я цябе накрыю плашчом.

– Не, не адыходзьце ад мяне,– і зноў абняла свякроў.– Мне спакайней з вамі, мама. Урачу не дазволена так раскісаць. Я самлела ў часе аперацыі, і жанчына засталася на стале. Але ж я чалавек, мамачка. Я маці. Буду маці!

– Будзеш, будзеш, Ірыначка.

Можа, гэтыя словы, як нішто іншае, супакоілі маладую жанчыну. Яна сціхла і на хвіліну якую быццам заснула, па-дзіцячы паклаўшы галоўку на матчына плячо. Потым страсянула галавой, падстрыжанымі валасамі, якія Вользе Андрэеўне пахлі ранішняй свежасцю, маладосцю, здароўем, пахлі... сынам яе. Сама ацаніла свой стан:

– Ну, во і ўсё. Усё. Прабачце. Напалохала я вас. Са мной гэтага ніколі не было. На першай хірургічнай практыцы яшчэ на другім курсе дзяўчатам нашым... шмат каму блага стала. А я лезла вачамі ў распаласаваны жывот. Прафесар сказаў тады: «Во хірург расце». Не, хірургам я не хацела. Я выбрала спецыялізацыю, каб памагаць нараджэнню жыцця... Божа мой! Хіба я думала калі? Пяць забойстваў за дзень... Мама! Я ж забойца! Забойца дзяцей.

– Не трэба, Ірына! Не смей! Ты ўрач!

Ірына з паслухмянасцю малой змоўкла.

Вольга Андрэеўна з жаночай мацярынскай далікатнасцю і ласкавасцю пагладзіла яе жывот.

– Як жа ты такая магла пайсці туды?

Ірына ўстрапянулася:

– А каб з Глебам што, хіба я перажыла б...

О, як парадніла іх такая Ірыніна трывога за сына яе! Такой была і яна, і Валодзева маці адчула гэта ў першы ж іх прыезд да яе і палюбіла нявестку.

Вольга Андрэеўна ледзьве не задыхнулася... ад шчасця, удзячнасці, ад любові незвычайнай да набытай дачкі. Спазм сціснуў горла, заняло дыханне, ажно сэрца на міг спынілася. Не адразу і вымавіць здолела:

– Дачушка мая родная! Радасць мая!

– Ах, мама! Якая радасць! Дзе яна, тая радасць?

На здзіўленне работнікаў выканкома, Вольга Андрэеўна чакала мужа ў прыёмнай. Баялася: з'явіцца і, як звычайна, не заходзячы дадому, зноў знікне да позняй ночы. Можна было папрасіць сакратарку, каб пазваніла, калі ён з'явіцца, але, па-першае, ведала мужаву няўважлівасць да тых яе просьбаў, якія перадавала праз яго памочнікаў, а па-другое, не хацелася весці размову гэтую дома пры Ірыне; не будзе чуць, але ўсё роўна здагадаецца, калі яны адасобяцца, выйдуць у сад.

Уладзімір Паўлавіч здзівіўся, убачыўшы жонку:

– А ты чаму тут?

– Да цябе... на прыём.

– А я не прыму.

Насмяшыў сваіх памочніц.

Прапусціўшы жонку ў кабінет, шчыльна зачыніў дзверы, ведаючы залішнюю цікаўнасць і Кацярыны, і Дар'і, і Зоі.

– Ну, што ў цябе гарыць?

– Усё гарыць.

– Не палохай мяне. Усе мяне палохаюць. Калгаснікі толькі што... Вадалей...

– Хто?

— Доўга расказваць. Давай і твой страх. Бачу ж па вачах, што нешта здарылася. З кім?

Вольга Андрэеўна расказала каротка, стрымана, без дэталяў, якія не варта знаць мужчыне, нават пра тое, што Ірына самлела на аперацыі, не сказала і пра жахлівую карціну, якая так узрушыла яе: дзяцей — у памыйнае вядро.

Не чакала ад мужа такой рэакцыі. Баялася недарэчнага гумару. Не. Слухаў — чарнеў. І выбухнуў абурэннем, што для яе звыкла і чаго яна не баялася:

— Дурні!

— Хто?

— Я! Я! І ты! Няхай яна маладая, дурная, недапечаны ўрач... Але ты... ты! Куды глядзела? Я яшчэ на вяселлі заўважыў, што яна...

— Ты ў нас усёвідушчы. Чаму ж ты маўчаў, разумнік? А цяпер гатовы ўсіх вінаваціць...

— Які чорт панёс вас у самае пекла?

— Табе гэтага не зразумець.

— Вядома! Куды мне!

— Валодзя! Ты развучыўся па-чалавечы гаварыць. Навошта гэтыя папрокі? Які сэнс?

— Які сэнс ва ўсім, што мы робім? — Ён усхвалявана хадзіў па кабінеце, кудлачыў свае сівыя валасы.

Вользе Андрэеўне раптам стала шкада яго, яна добра ўяўляла яго цяперашнюю працу, усё на нервах, кожную раніцу стаяла над ім, глядзела на спакутаваны, схуднелы, непаголены твар і шкадавала будзіць: няхай паспіць лішнюю хвіліну.

Муж спыніўся перад ёй, глыбока зазірнуў у вочы, разануў па сэрцы прызнаннем:

— Я трачу яго, сэнс, Оля,— і як бы спалохаўся самога сябе, зноў прайшоўся да дзвярэй, зноў прыціснуў іх, нібы яны адыходзілі ад касякоў.— Аднак... што рабіць?

— З Ірай? Ёй трэба паехаць адгэтуль. Заўтра ж.

— Што ты кажаш! Усе ўрачы разбягаюцца. А людзі застаюцца. Хто іх лячыць будзе?

— Валодзя! Пра што ты думаеш? Затрымаць Ірыну?!

— Так, так... На гэты раз праўда твая. А куды ёй паехаць? Не да сваіх жа! У Высокім Гаі не намнога лепш...

— За гэтым я і прыйшла да цябе. Куды?

Не адказаўшы жонцы, Уладзімір Паўлавіч імкліва прайшоў да стала, сеў да тэлефонаў. Папрасіў тэлефаністку тэрмінова звязаць яго з Баранавічамі. Званіў даўняму таварышу, з якім разам працавалі яшчэ ў камсамоле,— Кірылу Яшчуку. Дазваніўся. Не па-тэлефоннаму даўгавата выяўлялі сяброўскія пачуцці, выказвалі папрокі адзін аднаму і кожны сабе, што нават пазваніць не могуць. А потым — пра аварыю.

— Ну, як там у вас? — Пытанне, якое Пыльчанка чуў ужо сотні разоў, якое стала шаблонным.

Такі ж і адказ:

— Ды нічога, як бачыш, жывыя. Да вас не дастала?

— Ды як кажа наша набожная шляхта: Матка Боска літасцівая.

— А чаму палякі крычаць на ўвесь свет, што іх накрыла? Малако ў ямы выліваюць...

— Палякам — абы зачэпка для крыку. Кажуць, хочуць рахунак прад'явіць за гэтае малако.

Пыльчанка вылаяўся:

— Па законах міласэрнасці добрыя людзі памагаюць у бядзе. Мы ўсяму свету памагаем. Тым, дзе трусіць, сушыць, залівае...

— Ды то ж мы! Мы багатыя і добрыя. Палякі бедныя.

— Па-мойму, пачынаем нарэшце прызнаваць, што мы не такія багатыя.— Але тэлефонны час — не толькі грошы, іншыя нормы вымушаюць да лаканічнасці самых гаварлівых.

— Слухай, Кірыла, як у цябе з урачамі?

— Маем ужо, маем загад паслаць вам на два тыдні брыгаду, але не табе — суседу твайму. Знаеш, як цяжка іх паднімаць, гуманістаў гэтых, такую іх... Гарздраў пішчыць.

— Вазьмі ў мяне ўрача.

— Ды ты што! Ты такі багаты на ўрачоў?

— Гэта мая нявестка.

Яшчук свіснуў так гучна, што пачула Вольга Андрэеўна, якая прысела з другога боку стала і слухала размову старых сяброў, падказвала:

— Яніне прывет. Не забудзь. І ад мяне.

— Значыцца, хочаш нявестачку далей ад радыяцыі? Гэта жонка таго, што лётае?

— Не. Таго, што на станцыі.

— Там?

— Там.

Яшчук зноў свіснуў:

— А не баішся, што табе запішуць за такі клопат пра роднага чалавека? Ды і мне кіўнуць. За кампанію.

— Яна цяжарная.

На нейкі момант усталявалася паўза. Уладзімір Паўлавіч нават хукнуў у трубку, алёкнуў — ці не перапынілася сувязь? Не. У адказ — брыдкі смяшок:

— Хе, Валодзя! Шукаеш ты дурняў? Я вазьму яе, прапішу, а яна праз два месяцы пойдзе ў дэкрэт. Дзякую. Такіх у мяне хапае.

Уладзімір Паўлавіч злосна мацюкнуўся і кінуў трубку.

Вольга Андрэеўна жахнулася:

— Валодзя! Як можна?

— Што можна? Што можна? Ты яшчэ мне пачнеш чытаць правілы паводзін! — загрымеў так, што, мабыць, чуваць было праз двайныя дзверы. Выскачыў з-за стала, гайсануў па кабінеце, як раз'юшаны звер па клетцы.— Ды такіх гадаў страляць трэба, а не мацюком сцёбаць! Дружок! Памог у бядзе! Сукін сын!

— Супакойся, калі ласка.

— Супакоюся, канешне. Але помніць буду.

Доўга хадзіў па кабінеце. Жонка маўчала, не чапала яго: няхай падумае, утаймуе гнеў, набудзе душэўную раўнавагу.

Аднак з Ірынай трэба вырашаць, і неадкладна. Вольга Андрэеўна не перашкаджала мужу думаць, разумела, як нялёгка яму нешта прыдумаць. Мог бы лёгка ўладзіць у суседнім раёне, паўночным, у Гомелі, але не вельмі верыў афіцыйным паведамленням, што там «фон у межах нормы». Ведаў ён

гэтыя «межы» па сваім раёне: кожная новая група вучоных з Масквы і з Мінска ад розных міністэрстваў і навуковых устаноў намярала свае межы. Верыў толькі ўласным замерам, якія рабіў з камандзірам хімчасці. Здзіўляўся надзвычайнай стракатасці: выявілі амаль чыстыя палеткі ў зоне і высокую забруджанасць у паўночных сельсаветах, куды адсялілі людзей. Вунь якія межы!

Пагойсаўшы па кабінеце, Уладзімір Паўлавіч прысеў на крэсла ў кутку каля акна, як нясмелы, сціплы прасіцель. Пачаў разважаць:

— Ірына хапіла больш, чым трэба. Па тваёй дурноце,— зноў вініў, але Вольга Андрэеўна не пакрыўдзілася, змоўчала — няхай гаворыць, што хоча, абы знайшоў рашэнне.— Але ніхто не знае ні доз, ні механізма паражэння. Толькі і ўстанавілі, што набірае шчытавідка. Але я ведаю без вучоных: Ірыне трэба чысціня! Каб нарадзіць нам унука... нармальнага... Ах, Оля! Думаеш, я не марыў аб гэтай радасці — дачакацца першага ўнука? І калі яна так хоча — малайчына! — нарадзіць яго, то мы з табой пад шкляны каўпак павінны пасадзіць яе.

— Пад каўпак не пасадзіш.

— Не пасадзіш. А куды? Да сястры тваёй вельмі блізка. Да брата майго ў Цюмень — не паедзе. Дзе хто ёсць з Пустаходавай радні?

— А калі Рамана папрасіць? — асцярожна спытала Вольга Андрэеўна.

— Каго? Атрашэўскага?

Чакала грому. Не. Толькі дзіўна хмыкнуў.

Атрашэўскі — першы сакратар таго паўночнага раёна вобласці, дзе пяць гадоў назад ён, Пыльчанка, рабіў другім сакратаром. Спачатку ладзілі, пасля разышліся: розныя характары, розныя стылі, розныя погляды на жыццё. Іх развялі вось так: яго — сюды, на пасаду старшыні. Сустракаліся на пленумах, нарадах, інтэлігентна віталіся, нават зрэдку абедалі разам, аднак асколкі сяброўства не склейваліся, крыўду таілі. Але ў бядзе і да ворага звернешся.

Уладзімір Паўлавіч разумеў жончыну логіку: знаёмы горад, добры горад, новы, знаёмыя людзі, яна сама павязе Ірыну і,

безумоўна, уладзіць, кватэру знойдзе ў добрых людзей, прыстойную, з выгодамі камунальнымі, якія вельмі неабходныя ў такім стане і асабліва калі з'явіцца дзіця. Да бацькоў ёй ехаць нельга — блізка іх адсялілі!

Нялёгка было звярнуцца да Атрашэўскага яшчэ і таму, што ў адной з сутычак і пасля на бюро абкома ён папракнуў першага, што той акружыў сябе сваякамі. Цэлы клан Атрашэўскіх.

Вольга Андрэеўна ўсё гэта ведала і разумела мужа. Не націскала. Калі не абурыўся, то здасца. Шукае, пэўна, формы размовы. Знайшоў:

— Добра. Я набяру яго. Але прасіць будзеш ты. Сама. Табе ён не адмовіць.

— Раман не адмовіць.

Такая яе ўпэўненасць здалася высокай атэстацыяй непрыяцелю, і Уладзімір Паўлавіч незадаволена кракнуў.

Атрашэўскага не было ў гаркоме, але сакратарка сказала, што Раман Пятровіч паехаў на завод. Пыльчанку падганялі справы, і ён адаслаў жонку да Дар'і.

— Няхай табе памагае кабінетная дама.— Убачыў жончына здзіўленне, лагодна растлумачыў: — Ды добрая, добрая яна памочніца. Але аварыя выбіла яе з сядла. Поля і лесу баіцца як чорт ладана. Здаецца ёй, што радыяцыя сцеражэ яе за кожным пнём, ці што? З мільярда часціц чалавеку трэба адна, «гарачая», тая, што пацэліць у ядро клеткі і выведзе са строю цэлы вузел біялагічнага механізму. Бачыш, які я адукаваны раблюся?

Разоў шэсць Вольга Андрэеўна з дапамогай Дар'і набірала тэлефон Атрашэўскага. Гадзіны дзве чакала яго звароту.

Па голасе пачула, што Раман здзівіўся, калі яна назвала сябе. Без прадмоў, заікаючыся ад хвалявання, выказала сваю просьбу. Спалохалася паўзы.

— Раман Пятровіч...

— Прывозь сваю нявестку. Урачы нам трэба. Але... Сама прывязі. Задзіру свайго не пасылай — пасварымся.

18. Зак. 2388.

## II

Афіцэры лётнага саставу не любілі тэорыю, хоць апошнім часам і любоў да палётаў у іх знізілася. А новы камандзір дывізіі, саракагадовы генерал,— вялікі тэарэтык. Ледзьве не штодня сам праводзіў заняткі. На полі. У спякоту. Пад калхідскім небам. Мазгі растаюць, а ён цісне на вышэйшую матэматыку, балістыку, заводзіць у такія вучоныя нетры, што некаторыя асы блукаюць там, як у цёмным лесе.

Барыс Пыльчанка, найвялікшы мастак па частцы сімуляцыі заняткаў, некалі выдумаў, што генерал не ўмее лятаць, таму так любіць тэорыю. Да генерала дайшло, і ён паляцеў з капітанам, прымусіў рашыць пару такіх баявых задач, што герой Афгана, любімец публікі, завадатар «нявінных гульняў», балбатун і насмешнік, быў пасаромлены. Пацішэў. А пасля паездкі ў кароткачасовы адпачынак — на вяселле брата — чалавека як замянілі. Пыльчанка стаў «лепшым вучнем у тэарэтычным класе», начамі сядзеў над кнігамі. Генерал здзівіўся. І сябры здзіўляліся:

— Што, Барыс, агітнулі цябе продкі падацца ў акадэмію?

— А што яму? Дзверы адчыненыя ўдзельніку вайны.

— Не адгадалі. Ажаніцца хачу.

Рагаталі жартаўнікі:

— Баішся, што без тэорыі не справішся з жонкай? Там не генеральская навука трэба — твая, ранейшая, лейтэнанцкая. У Нанашвілі павучыся: за тры гады — трое дзяцей.

Але штодзённыя пісьмы ад Тамары і яго штодзённае сапенне над адказамі, сачыняў — ажно язык высалупліваў, а раней справаздачу аб палёце ленаваўся напісаць,— пераконвалі афіцэраў, што сябра іх настроены не на акадэмію, больш мяккі хамут хоча надзець на сябе. Але загадка: навошта для жаніцьбы формулы па дынаміцы кручэння?

Карацей кажучы, раптоўная перамена ў паводзінах капітана Пыльчанкі стала сенсацыяй калі не ў дывізіі, то ў палку напэўна.

Афіцэры адпачывалі ў кароткім перапынку: з расшпіленымі каўнярамі і распаразанымі рамянямі ляжалі на траве ў цяні

платана. «Здавалі экзамен» генералу па анекдотах на адну тэму — антыалкагольную.

Генерал рагатаў і дакараў:

— Ну, лайдакі! Тэорыю палёту ведалі б так!

З'явіўся маладзенькі пасыльны. Разгубіўся, нябога. Як звяртацца да афіцэраў, якія ляжаць? Пашукаў вачамі старэйшага, убачыў генеральскія пагоны — зусім самлеў. Генерал з цікавасцю назіраў за салдатам. Зразумеў, што не да яго пасланы. Успомніў, што дваццаць гадоў назад сам быў такім — заўсёды губляўся, калі трэба было звярнуцца да начальніка ў прысутнасці старэйшага па званні, ва ўчылішчы да таго ж нярэдкія выпадкі, калі ніжэйшы па званні — вышэйшы па пасадзе. Ды і тут, у лётчыкаў, гэта ёсць.

Хлопец лыпаў вачамі. Генералу стала шкада яго; сярод лётнага саставу фармалісты накшталт штабістаў — з'ява рэдкая.

— Звяртайся, брат, напрамую. Тут не разбярэшся, хто генерал, хто радавы... па часці анекдотаў.

Пасыльны ажыў, ляпнуў абцасамі і зухавата казырнуў:

— Таварыш капітан Пыльчанка! Вас выклікае начальнік палітаддзела палкоўнік Жыгуноў.

Барыс нехаця падняўся, падперазаў рэмень:

— Дазвольце, таварыш генерал.

— Ляці, што «грак». Вывучай палітыку з такім жа стараннем.

Страявік не любіў палітработнікаў, але, аднойчы навучаны ў маладосці, ніколі з імі не канфліктаваў, уступаў не толькі начальніку палітаддзела — яго памочніку па камсамоле.

Барыс ішоў без жадання, хоць многія з яго сяброў парадаваліся б выпадку, каб знікнуць з «генеральскага палігона». Ён ведаў мэту выкліку. Да Афганістана яму запісалі не адну вымову. Усе яны закрэслены яго баявымі дзеяннямі. І яго цяпер агітуюць уступаць у партыю — з камсамола выйшаў. Гаварылі з ім і парторг эскадрыллі і парторг палка. Цяпер сам начальнік палітаддзела будзе агітаваць. А яму чамусьці не хочацца. Сказаў пра гэта дома бацьку. Той назваў яго дурнем і не тое што параіў — загадаў хутчэй афармляцца. «Бацькаў загад

трэба выканаць. Ён вышэйшы за генеральскі»,— пасміхнуўся Барыс, вырашыўшы парадаваць начальніка палітаддзела.

Палкоўнік Жыгуноў нечым нагадваў старога Пыльчанку — такі ж рухавы, вясёлы, ненамнога маладзейшы. Афіцэры яго любілі: дэмакрат.

Барыс далажыў па форме:

— Таварыш палкоўнік, па вашаму загаду капітан Пыльчанка з'явіўся.

Жыгуноў не падняўся, не павітаўся за руку, што рабіў звычайна, калі запрашаў на душэўную размову. Глянуў спадылба, буркнуў:

— Сядайце, капітан.

«Э-е, нешта не тое»,— Барыс здзівіўся, што ўсхваляваўся — ажно памакрэлі далоні. А ён ганарыўся, што далоні яго заўсюды сухія і там, у небе, на штурвале, і тут, у «калхідскай лазні», яго нервам зайздросцілі, мала што ў шалёным свеце, на касмічных хуткасцях і люцыфераўскай блытаніне адносін людзей яго выводзіла з раўнавагі; часам магла ўзвінціць драбяза, але гэта ён не залічваў сабе, ачкоў не набіраў — як, напрыклад, за смешны эпізод з Плечкам.

Не спадабалася, што палкоўнік выпрабоўвае яго цярпенне — чытае нейкую паперу, перагарнуў туды, назад, падкрэсліў нешта алоўкам. Да яго прыходу не мог прачытаць?

Працягнуў паперу:

— Чытайце, капітан!

Барыс яшчэ ў школе здзіўляў і сяброў і настаўнікаў хуткасцю чытання; дайце яму адну мінуту, і ён мог расказаць змест цэлай старонкі. Так жа хутка ён прачытаў і гэтае пісьмо на бланку райкома камсамола роднага горада, граматна адрасаванае: «Начальніку палітаддзела часці № ...» Подпісы другога сакратара райкома, якога не ведаў, і членаў бюро — чатырох. Распісвалі хлопцы з чужога голасу, як ганебна афіцэр паводзіў сябе на вяселлі брата — напіваўся да чорцікаў, буяніў, абражаў дзяўчат, пабіў першага сакратара райкома камсамола.

Барыс з палёгкай уздыхнуў — драбяза! Упікнуў сябе за слабасць — што ўсхваляваўся: было з-за чаго! Палажыў пісьмо на стол.

— Прачытаў? — здзівіўся палкоўнік хуткасці.
— А што тут чытаць?
— Праўда?
— Не, няпраўда.
— Няпраўда?! — Жыгунову нават лягчэй зрабілася, ведаў, што гэты афіцэр ніколі не маніў, каб выгарадзіць сябе, калі рабіў праступкі; сяброў выгароджваў.
— Адно хіба праўда. Я выкінуў яго за плот са свайго двара.
— Каго?
— Сакратара.
— Завошта?
— Мне здалося: лішні ён на вяселлі майго брата.
Палкоўнік абурана ляпнуў далонямі па стале. Падхапіўся, закрочыў па кабінеце, загрымеў па-камандзірску:
— Чорт ведае, што такое! Што ты за чалавек, Пыльчанка! Цябе ж нельга выпускаць за распалажэнне часці.
Барыс таксама падняўся, стаяў на «смірна», пакорлівы, маўклівы, засвоіў, як паводзіць сябе з начальствам, калі яно ў гневе.
— Толькі ў неба. У небе ты — герой. А на зямлі... мая пасада не дазваляе мне сказаць, хто ты на зямлі...
— Чалавек.
— Чалавек-то чалавек. Але які? Які! Ніводная твая паездка ў Кутаісі, у Сухумі не канчалася без скандалу. Залезці ў дзявочы інтэрнат на чацвёрты паверх па трубе! Звесці з пляжа чужую жонку... На вяселле брата паехаў і там чорт ведае што натварыў.— Жыгуноў схапіў са стала пісьмо, патрос паперай перад Барысавым тварам: — Я ім веру! Ім! Усё бюро піша.
— Дурні! Яны былі там?
— Маўчаць! Мала таго што вы прызналі? Выкінуць за плот сакратара райкома...
— Камсамола.
Палкоўнік спыніўся, ашаломлены.
— Ты яшчэ здзекуешся? — пагразіў пальцам.— Я знаю твае адносіны да камсамола! Зубаскал няшчасны! Во, як яны

праявіліся! Хуліганствам, за якое судзіць трэба! Чаму мы цябе вучылі столькі гадоў?

— Лятаць, ваяваць.

Жыгуноў асекся, доўга глядзеў на капітана, у яго вочы, думаў угледзець там здзеклівых чорцікаў, во тады даў бы яшчэ волю эмоцыям. Але на шчасце — на чыё шчасце? — яны там не скакалі; вочы былі сур'ёзныя, бадай сумныя.

І палкоўнік спытаў:

— А я, значыцца, цябе нічаму не навучыў? І бацька? У цябе ж бацька партработнік.

Ад такога сумнага вываду адчуў стомленасць, увогуле ў гэтай праклятай парылцы з трапічнымі ліўнямі ён дрэнна сябе адчуваў — узрост. Вярнуўся за стол, сеў у крэсла, выцер хусцінкай успацелую лысіну, выбіў пальцамі сумны такт. З лагоднай заклапочанасцю спытаў:

— Што мне рабіць з табой?

— Пашліце мяне ў Афганістан.

Палкоўнік ажно здрыгануўся, адкінуўся на спінку крэсла, шырока расплюшчанымі вачамі глядзеў на Барыса. Складаныя пачуцці, думкі вірыліся ў яго сэрцы, у галаве. Ёсць загад — змяніць полк, які знаходзіцца **там**. Сёння раніцою гаварылі на гэтую тэму — камандзір, ён, начальнік палітаддзела, начальнік штаба. Неафіцыйна дамовіліся: паўторна нікога з лётчыкаў не пасылаць. Згадзіліся з бацькоўскай разважлівасцю начальніка штаба: «Не будзем прымушаць дзяцей нашых двойчы выпрабоўваць свой лёс». Але ж... просіцца чалавек. Як гэта выйгрышна для палітданясення: герой Афганістана паўторна папрасіўся туды. Во якіх арлоў выхавалі! Аднак ад думкі пра магчымасць гібелі такога хлопца — вайна ёсць вайна, асабліва цяпер, калі ў маджахедаў з'явіліся «стынгеры», — у яго балюча сціснулася сэрца і вочы ледзьве не набрынялі слязамі.

Але пры ўсёй складанасці пачуццяў хітраваў палкоўнік. Сам з сабою. Ціснула на яго яшчэ адна патаемная прычына, у поўным сэнсе бацькоўская. Але пра гэта ён уласнай жонцы не скажа.

Сын яго лётчык, і яму, бацьку, удавалася трымаць хлопца ў сваёй дывізіі. Пакуль што. Але Валерый даводзіць і маці, і

жонку да сардэчных прыступаў пагрозамі, што папросіцца ў Афганістан. Жыгуноў-старэйшы адносіцца да гэтага спакойна, бо ўпэўнены: не папросіцца. Не Пыльчанка, на жаль. Мамчын сынок. Аднак у такой сітуацыі — лепш хутчэй скамплектаваць лётны састаў палка «СУ-25», які праз тры дні возьме курс на Кабул.

Прыняў рашэнне — і пранікся такой замілаванасцю да Барыса, што хацелася абняць яго і заплакаць, прытуліўшыся тварам да капітанскага пагона.

«Хлопчык мой! Мы назначым цябе камандзірам эскадрыллі. А дурня таго, упэўнены, ты правільна выкінуў. Я адкажу яму. Я так адкажу, што сорамна яму будзе перад унукамі будучымі. На каго пішаш, чарвяк балотны?»

Хаваючы вочы, пакорпаўся ў шуфлядзе стала, доўга шукаў штосьці, а знайшоў чысты аркуш паперы. Працягнуў Барысу:

— Пішы рапарт.

І сам выйшаў з кабінета.

## III

Пыльчанка намерваўся выбраць Пустахода старшынёй у Высокім Гаі. Малады Дзяніс Карака хоць і рабіў у калгасе ўжо дзесятак гадоў аграномам, галоўным аграномам, і нядрэнным, здаецца, быў спецыялістам, кіраўніком гаспадаркі не цягнуў, той думкі трымаліся ўсе раённыя службы аграпрама. Не сучаснымі метадамі працаваў малады чалавек. Ад бацькі навучыўся ці не? Бацька яго ў пасляваеннае дзесяцігоддзе быў брыгадзірам, заганяў на працу ледзьве не бізуном, здаралася, што і рукам волю даваў. І сын паводзіў уладаром, падабраў пад сябе і сельсавет, і сельпо, і лясніцтва, і школу. З калгаснікамі гуляў у дэмакратыю — іншы час. Але вяльможнасць адчувалася і тут; хітрэйшыя выкарыстоўвалі яго слабасці на карысць сабе, а незалежныя, свабодалюбівыя людзі канфліктавалі са старшынёй, скардзіліся ў вышэйшыя інстанцыі. Наяўнасць апазіцыі зрабіла Караку падазроным да хваравітасці: у

кожным, хто не ліслівіў яму, не кланяўся, бачыў патэнцыяльнага непрыяцеля, які рана ці позна абавязкова зробіць яму зло. Ад такой падазронасці зрабіўся па-фарысейску зласлівым, на адкрытую барацьбу мала з кім выходзіў, але гадасці ўмеў рабіць, часам даволі ўмела, хітра, так што і не прычэпішся, ён, маўляў, і ведаць нічога не ведае.

Перасяленне пустаходаўскага калгаса ў іх сельсавет моцна не спадабалася Караку не толькі лішнімі клопатамі. Але не запярэчыш жа — бяда! Прыняў Івана Пустахода і яго калгас, як добрых гасцей. Сам нібыта жартам, але не без хітрасці, для праверачкі, прапанаваў:

— Прымай, Іван Іванавіч, калгас, вызвалі ад гэтай ношкі няўдзячнай. Колькі ні працуй — начальству не дагодзіш.

— Што ты, Дзяніс Міхеевіч! У мае гады пасля такой аварыі! Падумай, што гэта такое! Усё, што нажывалася не гадамі, лічы, стагоддзямі — зямля, сенажаці! — усё страціць за адзін дзень... На вайне такога не было! Адзенне, якое было на нас той тыдзень, і тое рэкамендуюць замяніць. Раздзенься і стой голы. Дзякую, што прытулілі людзі добрыя пагарэльцаў без падсмаленых аглобляў. А ты — калгас! Два! Не па кані ўжо, брат, такі воз. Не пацягну.

Супакоіў. Але ненадоўга. Пыльчанка прымусіў назначыць Пустахода загадчыкам малочнай фермы. І ўся сям'я яго пайшла на ферму — не толькі прафесар даення Ліза, але і Марыя Пятроўна, і Паша, і Віктар — вазіў кармы. За тыдзень-два на ферме адбыліся прыкметныя змены. Галоўнае — рэзка падскочылі надоі. У вёсцы загаварылі пра пустаходаўскае чарадзейства. «Слова знаюць»,— заключылі бабулі.

Добры гаспадар павінен быў парадавацца, у раёне націскалі на тых, хто мог даць адносна чыстае малако, папоўніць страты, што дала эвакуацыя амаль трэці гаспадарак. Але Карака не ўмеў радавацца. Як усе людзі яго складу, ён ва ўсім бачыў падкоп пад сваю пасаду, пад сваё становішча. Скептычна хмыкаючы, казаў і сваім і ўпаўнаважаным з раёна, з вобласці, з Мінска (цэлыя дэсанты высаджваліся не толькі ў райцэнтры, але і ў яго, дзе на лясных дарогах не стаялі шыльды «На ўзбочыну не сыходзіць!», «У лес не хадзіць!»):

– У такі час і мы гналі малако. Травішчы колькі нарасло! Зялёнай масы навалам! Падвозчык свой. Лішняе не пакурыць. Малайчына! – хваліў Пустаходавага зяця – не загадчыка фермы.

Пустаходу зайздросціў Карака даўно, калі яшчэ ездзілі на семінары ў яго калгас. І не адзін ён. «Мультымільянеру» Целешу не зайздросцілі: яго метады былі відавочныя і для астатніх, грэшных радавых, недасягальныя, як метады Старавойтава, Ралько... Пустаходу, безумоўна, да іх далёка. Але яму зайздросцілі менавіта таму, што ён – «высокі серадняк», якіх сотні, якія, па сутнасці, кормяць народ. Але Караку раздражняла, што ніякіх асобых метадаў у Пустахода ён не мог пераняць, што сам ён, здавалася яму, працуе лепш, хітрэй, з большым прымяненнем рэкамендацый вучоных, а вынікі не тыя. Падазраваў, што немнагаслоўны Іван Іванавіч ад таго і гаворыць мала, каб скрыць самае істотнае на семінарах. А ўрэшце хіба толькі дурань не бачыць прычыну яго поспеху – дружба з начальствам. Карака ажно зайздросна «каракнуў», калі даведаўся, што Пыльчанка і Пустаход пажанілі дзяцей, парадніліся.

І вось аварыя падкінула яму рабочую сілу, якой не хапала. Давай разгортвайся, пакуль зямля чыстая. Але і падкінула прэтэндэнта на яго месца, мала што сам ён адмаўляецца. Пакуль што, можа, і шчыра адмаўляецца. Пакуль што... Недарэмна зачасціў Пыльчанка і кожны раз, раней чым заглянуць у праўленне, пашукаць старшыню, заглядвае да сваякоў на ферму. Спрабаваў Карака падаслаць сваіх даярак: пра што сваты гавораць паміж сабой? Ды хіба такія вароны здольныя выведаць штось, падслухаць сакрэты! Ды і гэтыя зубры два былі б дурнямі, каб ровам на ўсю ферму выкладвалі свае патаемныя думкі і планы.

Насцярожвала не толькі работа Пустаходаў на ферме. Большасць эвакуіраваных чакалі, калі ім дзяржава пабудуе дамы. У калгасе працавала ПМК ажно са Светлагорска, пачалі будаўніцтва двухсот дамоў. Пачалі... але калі скончаць? Дзіцяці зразумела, што так нельга распыляцца. Але такія планы надзвычайных камісій, саюзнай, рэспубліканскай, абласной,

раённай, па ліквідацыі аварыі. Усе спяшаюцца, верхнія падганяюць ніжніх. Аўрал. Усенародая праява клопатаў аб пацярпелых. Пустаходы ж будуюцца самі. І не ў пасёлку, дзе ПМК заклала падмуркі шчытавых дамоў, а пасярод сяла, насупраць калгаснай канторы. Выбралі пустую сядзібу — гаспадары перабраліся ў горад, такіх тут добрыя дзесяткі два, купілі старую хату, што каторы год стаяла з забітымі вокнамі, зашклілі, паднавілі, перабраліся ў яе ўсёй сям'ёй і побач, на месцы хлява, узводзяць вялікі рублены дом. І расце ён, як кажуць, не па днях, а па гадзінах. Бо акрамя двух наёмных цесляроў, што робяць цэлы дзень, па вечарах працуе вялікая талака — дзесятка паўтара людзей.

Карака здзіўляўся: няўжо столькі сваякоў маюць? Ды не ж, калгаснікі робяць, памагаюць. Чужыя людзі. Але не забароніш жа ім.

Грунтоўна Пустаход будуецца. Надоўга. Навечна. Дурнем трэба быць, каб не разумець, на што разлічвае. Сам, можа, і не праяўляў бы такой актыўнасці, ды яўна Пыльчанка падштурхоўвае.

І Карака пачаў употайкі тыцкаць ім у колы кіёчкі, пакуль што тоненькія, так, драбяза, але, глядзіш, і вылеціць нейкая спіца ў коле. Найперш прыціснуў Віктара з машынай — каб ніякіх безнарадных паездак. Ды Пустаходу светлагорцы пачалі памагаць. Завошта ж? Не за добрыя вочы. Не планавы ж аб'ект. «Хабарчык умее падсунуць»,— заключыў Карака.

Пустаходы не толькі будаваліся — думалі пра будучыню, пра восень і зіму, жылі, як належыць сялянам. Урабілі задзірванелую сядзібу. Пасадзілі гародніну, бульбу. Позна. Але вясна цёплая, дажджы прайшлі. Усё расло як на дражджах.

Бульбу і там, дома, апрацоўвалі па старой методзе: як толькі пачала ўзыходзіць — паскарадзіць драўлянай бараной, выбраць пустазелле, якое расло хутчэй.

Займалася гэтым няўрымслівая Ліза. Як бы больш за ўсіх ёй трэба. Плакала па доме ў родным сяле і з апантанасцю будавала новы на чужой сядзібе. І грады яна садзіла і палола ў перапынках паміж даеннем кароў. Маці ашчаджалі — у яе ціск. Ды і бацька хіба што кіраваў хатнімі справамі, адной

фермы яму не хапала для дзейнасці, чалавек прызвычаіўся да шырокага фронту работ. Віктар на машыне, на трактары, на камбайне мог усё зрабіць, дзень і ноч працаваць, але капаніцу – ці браў у рукі? Ды і на конях любіў хіба вярхом праехаць, лічыў, што ў цяперашні час конь павінен служыць для прыгажосці, для спорту, а не ў хамуце, які націрае яму карак, хадзіць.

Паміма волі Пустахода пры эвакуацыі ўсіх коней калгаса, а там іх была сотня, пагналі на мясакамбінат. Плакаць хацелася старому старшыні.

Тут, у Высокім Гаі, коней засталося нямнога, хоць калгас меў невысокую механізацыю. Коні вясной былі на расхоп, і імі распараджаўся сам Карака. Новыя калгаснікі, прыпяцкія, як іх назвалі, не адразу сцямілі, што коні ўмацоўвалі ўладу старшыні над людзьмі. Іх гэта здзіўляла. Там, дома, не толькі Пустаход не займаўся конямі, але і ніводзін брыгадзір; трэба табе конь – вазьмі ў бухгалтэрыі квіток з сімвалічнай аплатай – ад колькіх капеек да двух рублёў – у залежнасці ад работы, і ідзі да конюха. А тут трэба пакланіцца. Як пасля вайны. Толькі што самагонкі ўдовы не прыносяць. А можа, і прыносяць падчас пасяўной, калі дарагі кожны дзень.

Меўся пастаянны конь пры ферме – для падвозкі і адвозкі дробных грузаў. Але дні два назад Карака крычаў на возчыка, глуханямога хлапчыну, што той робіць «налева». Яўна Пустаходам крычаў, бо бралі яны разы два каня гэтага на будоўлю – жэрдкі з лесу прывозілі, гліну з кар'ера...

Віктар прывёз аднекуль барану з драўлянымі зубамі. Ліза загадзя напярэдадні прынесла ад лесніка, што жыў у вёсцы, хамут, пастромкі, ведала, што збруі на ўсіх коней не хапае.

Пасля ранішняй дойкі, калі на траве ляжала яшчэ раса, Ліза пабегла ў праўленне – захапіць старшыню, пакуль не паехаў у брыгады ці ў райцэнтр. Весела далажыла пра ўчарашні надой, ён не проста вырас – падскочыў. Карака, схаваўшы рэўнасць да поспехаў сям'і Пустаходавай, пахваліў асабіста яе; такую жанчыну нельга не пахваліць.

– Дзяніс Міхеевіч, бульбу трэба паскарадзіць, конь трэба.

Не, вачэй ён не адвёў, не схаваў, наадварот, глядзеў ва ўпор, але вочы яго звузіліся.

— Няма коней. Няма... сёння, Лізавета Іванаўна. Усіх раздаў.

«Калі? Каму? — хацелася крыкнуць Лізе.— Ды пасуцца яны на поплаве за фермай».

Безумоўна, Карака даў бы каня, каб яна папрасіла, як просяць жанчыны, уніжана: «Старшынька, родненькі...»

Але Ліза не магла прасіць. Ёй і ў галаву не магло прыйсці, што можна адмовіць у такой дробязі. Ёй, адной з лепшых даярак у раёне. Ды што па працы, яна бацьку роднага не прасіла — патрабавала. Многа гадоў яна бачыла павагу, чула пахвалу не ад такіх людзей, як гэта Карака-паскарака. Безумоўна, гэта песціла яе самалюбства. Маючы характар, яна ўладарыла не толькі ў сваёй сям'і, але і ў бацькавай — сёстрамі Ірынай і Тамарай кіравала больш рашуча, чым маці... Пра ферму і казаць няма чаго — там яе аўтарытэт быў непахісны не таму, што яна дачка старшыні, не, з-за працы яе і з-за ўмення сябраваць з людзьмі, са сталымі жанчынамі і маладымі дзяўчатамі.

І раптам ёй адмовілі... У чым! Каня яна не зарабіла, не заслужыла!..

Абраза, крыўда болем і гневам ударылі ў патыліцу, у сэрца. Ажно зялёныя мухі зароіліся ў вачах.

Паўтарэння просьбы Карака не дачакаўся. Ліза моўчкі павярнулася, пайшла да дзвярэй.

— Заўтра прыходзь! — весела паабяцаў ёй услед старшыня.

Па вуліцы яна ішла і не бачыла людзей, якія віталіся з ёй.

Пастромкі да гужоў прывязвала доўга, прысеўшы на барану. Магчыма, яна вагалася, ёй хацелася супакоіцца. Не, не супакоілася. Страшэнная крыўда і абраза душылі яе, гордую, незалежную, можа, і спешчаную ўвагай і любоўю, але сумленную ў галоўным — у працы. Іншая жанчына магла б паплакаць — і ёй стала б лягчэй. Ліза доўгі час плакала хіба ад радасці: ад замілавання дзецьмі, светам, выцірала слёзы

смеху ад Віктаравых п'яных, але бяскрыўдных дзівацтваў. Ад гора, бяды яна ўпершыню рыдала месяц назад, калі пакідала родную хату, ёй ажно блага зрабілася, калі ўпала на калені на ганку. Плакала і тут па начах, успамінаючы былое жыццё. Але маці, бацька, Віктар суцяшалі яе: «Ну, чаго ты, дурніца! Што людзям — тое і нам. Дзякуй Богу, усе жывыя і здаровыя».

Расла новая хата, радаваў вока гарод — не горшы, чым у людзей, хоць і позна пасаджаны; і Ліза весялела, зазвінеў яе смех, загучэў загадна голас у старэнькай, але па-пустаходаўску дагледжанай хаціне.

Нікога не было побач, хто мог бы ласкава ці строга сказаць: «Спыніся, Ліза. Глупства ўсё гэта. Каму ты што дакажаш?»

Сапраўды, што яна хацела даказаць? Таямніца — учынкі чалавека ў стрэсавым стане.

Ліза надзела хамут на плечы, гукнула, каб пачулі людзі:

— Но-о, кабыла! — і пацягнула барану.

Рабіла суседка ў гародзе. Спынілася, глядзела, здзіўленая, зацікаўленая, не дапяўшы сваім розумам, што да чаго, ды і трохі зларадніча́ючы, бо зайзросціла таму, як хутка гэтыя «авакураныя» будуюцца побач. Пайшла паклікала яшчэ адну суседку:

— Ідзі паглядзі, суседачка, на шпіктакль. Што авакураная вытварае.

І трэцяя далучылася да іх. І ніхто не спыняў. Ажно пакуль не выйшла з хаты насупраць дзяўчына з партфелем, вучаніца старэйшага класа.

Пачула галёканне:

— Но-о, кабылка!

Убачыла, што адбываецца на суседнім гародзе, і, напэўна, зразумела, ад якой роспачы чалавек можа пайсці на такое. Закрычала:

— Людцы! Спыніце яе!

Але бабулі не кранулiся. І Ліза не спынілася, а толькі паскорыла хаду, абліваючыся потам, разадраўшы на грудзях кофтачку.

Тады дзяўчына, што ёсць маладога спрыту, праз гароды кінулася на ферму. Убачыла Марыю Пятроўну пад паветкай – адпачывалі даяркі, памыўшы бітоны.

– Цётачка! Там ваша Ліза! Скародзіць!

Выгляд дзяўчыны спалохаў маці, хоць не адразу сцяміла, чаму школьніца такая ўсхваляваная; ведала, што таму Ліза і пайшла раней, каб паскародзіць бульбу. Нязвыклая для яе работа, ці што?

– Сама! – задыхалася дзяўчына, не знаходзячы тлумачэння.– На сабе!

Вось тады Марыя Пятроўна ахнула і апусцілася на лаўку, бо ўміг уявіла, што адбылося, на які пратэст пайшла дачка. І Паша зразумела. І бягом кінулася ў вёску, за ёй – маладыя даяркі.

Калі яны прыбеглі, Ліза ляжала ў разоры пасярод гарода. Старыя суседкі знялі з яе хамут, паілі вадой і цяпер ужо нарэшце спачувальна дакаралі:

– Во дурная, во дурная! Што надумала! Караку ты хацела даказаць! Ды яго абухом не праб'еш.

Раённая «хуткая», якая прыехала гадзіны праз дзве, да бальніцы хворую не давезла. У дарозе канстатавалі смерць. Інфаркт.

Смерць Лізы вельмі балюча ўразіла не толькі бацькоў, сясцёр, але і Уладзіміра Паўлавіча, Вольгу Андрэеўну. Глеб па тэлеграме прыляцеў у той жа дзень – падкінулі верталётчыкі. Панура, са страхам сядзеў на аўтобуснай станцыі, чакаючы Ірыну. Ёй пазваніла Вольга Андрэеўна, але сказала адно:

– Ірыначка, прыязджай, дзіцятка, сёння ж.

– Глеб? – у роспачы крыкнула яна.

– Не. Не.

– Мама? – прашаптала баязліва.

– Не, дзіцятка. Не. Не палохайся. Але прыязджай.

У Пыльчанкі-старэйшага дрыжэлі рукі, яму ўвесь час хацелася плакаць. Ніводная смерць блізкіх, сяброў не даводзіла да такога стану. Але акрамя жалобы, гора з'явілася яшчэ адно пачуццё – страх. Страх – што Ліза пачала лік ахвяр ад катастрофы. Ніякі следчы не звязваў бы яе смерць з

аварыяй. Маўляў, вельмі ўскосная сувязь. А для яго прамая. Дагэтуль ахвяр не было. Паміралі людзі — старыя, хворыя. У аварыю трапіла машына, загінуў чалавек. І хоць было гэта ў часе эвакуацыі, тую смерць чамусьці не звязваў з аварыяй на станцыі. А Лізу звязаў да таго яшчэ, як даведаўся падрабязнасці. З жахам думаў: хто наступны? Страшная гэта думка. Таму, можа, і плакаць хацелася — не толькі па Лізе, па будучых невядомых ахвярах. Чаму невядомых? Вельмі вядомых.

Раней чым ён сабраўся ў Высокі Гай, прыехаў счарнелы Іван Іванавіч. Абняліся. Паплакалі на плячы адзін у аднаго. Па тэлефоне паведамілі: скарадзіла бульбу — і памерла. Бацька расказаў, як скарадзіла. Уладзімір Паўлавіч адразу зразумеў, што адбылося: не даў Карака каня. Уявіў пачуцці вясёлай, шумнай, ганарыстай Лізы, ён любіў гэтую працаўніцу і за яе працу, і за яе слабасці. Некалі, калі пазнаёміўся з ёй, на ферме, паслухаў яе крытыку начальства — пра Пустахода інакш падумаў. І пасябраваў з ім, з сям'ёй яго.

Абурэнне Каракам вырвалася такім крыкам, што ў дзверы заглянула спалоханая сакратарка.

— Ану, паехалі!

— Не трэба, Валодзя, табе ехаць сёння. Беражы, брат, сябе. Ты нам патрэбны. Тут узнікла праблема, якую толькі ты можаш вырашыць. Маша хоча, каб пахавалі дачушку на родных могілках... Не там жа хаваць яе,— Іван Іванавіч закрыў твар далонямі, застагнаў: — Ах, Ліза, Ліза!.. Што ты нарабіла?

Пыльчанка спыніўся пасярод невялікага новага кабінета свайго ўражаны. Натуральнае матчына жаданне. Яго нельга не выканаць. Але і гэтае жаданне — дзе пахаваць чалавека — стала праблемай. Не ўсё так проста, як думаецца Івану. «Толькі ты можаш вырашыць». Служба аховы зоны падпарадкавана МУС рэспублікі. Праўда, ахоўваецца яна так, што марадзёры, напрыклад, лёгка праходзяць і нават праязджаюць на машынах. Ды і выселеныя ходзяць па набытак свой — не спыніш людзей, якія з маленства ведаюць усе сцежкі. Калючы дрот парэзаны знізу на кожнай палявой дарозе — тымі, хто ходзіць па сваё, а ў лесе і на балоце — невядома кім.

Міліцыі не да гэтага, яна пільная, але спытай у іх, што яны тут ахоўваюць. Калючы дрот? зямлю? паветра? нукліды? Усё так. Але пахавальная працэсія... У зону! Тут пры мнагаўладдзі, якое ўтварылася ў раёне, пры бюракратыі, якая пры надзвычайным становішчы становіцца непрабіўной, патрабуецца не адно ўзгадненне. Але справа не толькі ў гэтым. Пакутліва разважаў Уладзімір Паўлавіч над іншым. Тры дні назад рэзка падскочыла фонавая радыяцыя[1]. Чаму? З якой прычыны? У штаб, які ўзначальваў рэспубліканскі кіраўнік, часам паступала інфармацыя з Штаба ліквідацыі аварыі ў Чарнобылі. Але значнае павышэнне радыяцыі ніхто не растлумачыў. Больш таго, складвалася ўражанне, што яго хочуць скрыць. Начальнік штаба, напэўна, за сваё запытанне атрымаў па носе, бо, звычайна далікатны, спакойны, узлаваўся на яго, Пыльчанкавы, дамаганні, назваў яго панікёрам і наладзіў разнос службам, якія вялі дазіметрычныя замеры. Але Пыльчанка не столькі верыў сваім службам, колькі верыў ваенным, якія мелі больш дасканалую апаратуру і з якімі ў старшыні меўся добры кантакт, з камандзірам хімпалка пасябраваў.

Дык ці мае ён права падвяргаць дадатковай рызыцы блізкіх людзей? На могілкі паедуць усе Пустаходавы і ўсе яго — Вольга, Глеб, Ірына, цяпер Ірыну далучаў да сваіх блізкіх.

Хадзіў па цеснай клетцы, стараўся не сустракацца вачамі з Іванавым позіркам, але адчуваў кожным нервам, як сват глядзіць на яго — з чаканнем, надзеяй. Выказаў яму свае сумненні:

— А трэба рызыкаваць, Іван?

— А дзе ж пахаваць нашу Лізачку, Валодзя? — прашаптаў, а здалося, што закрычаў у страшэннай роспачы бацькоўскай — і пахаваць няма дзе! — Якая рызыка, Уладзімір Паўлавіч? Глу-

---

[1] Як вядома зараз, 2 чэрвеня 1986 года пад цяжарам пяці тысяч тон пяску, свінцу, якімі спрабавалі патушыць рэактар, правалілася шахта і ў атмасферу «выплеснулася» новая порцыя пясчанага, графітнага, свінцовага пылу — мільёны бэр. Быў хмурны дзень, з Польшчы на Маскву плылі воблакі. Радыенукліды аселі на ўсходнія раёны Гомельскай вобласці, на Магілёўшчыну, на Браншчыну.

мачыш, як малому... З гэтага боку дроту мы яе не набіраем, радыяцыі гэтай праклятай? А як пярэйдзем за дрот, так і схопім смяртэльную дозу? Глупства!

Безумоўна, глупства. Сам ён, Пыльчанка, матляючыся па раёне, нярэдка наведваецца і ў зону і добра ведае, што з гэтага боку, дзе засталіся жыць людзі, ёсць «малыя зоны» з больш шчыльнай забруджанасцю.

Раніцою адбылося пасяджэнне штаба, на якім ён ледзьве стрымаўся, каб не пакрыць усіх «стратэгаў» шматпавярховым. Даказваў жа яшчэ месяц назад, што нельга пачынаць будаўніцтва дамоў для адселеных у Высокім Гаі, у Лядах, у іншых сёлах свайго раёна. Будаўніцтва спынілі, закапаўшы ў зямлю не адну сотню тысяч. Цяпер само сабой вынікае, што людзей трэба адсяляць за межы раёна. Куды? Зноў будуць вырашаць не толькі без яго, але і не спытаўшыся ў людзей. Які-небудзь Вадалей тыцкае пальцам у карту вобласці: во сюды! І зноў нават не замераюць там радыяцыю. Чорт яе знае, як яна разлятаецца і дзе яна сядзе. Тут, пад бокам у станцыі, і то стракатасць — розуму недаступная. «Мудры Аляксей» даў яму праборку за падказку людзям з Бабіна — паехаць на Віцебшчыну. Кіпеў: «Не патрыёт ты, Пыльчанка! А свая вобласць з кім застанецца? Без людзей?»

ПМК знялі ў Гаі без Пыльчанкі — па тэлефоне начальства кіруе аператыўна. На яго долю дасталася больш цяжкая задача, яго, асабістая: сказаць Пустаходу, каб спыніў будаўніцтва дома. Лаяў сябе апошнімі словамі, што не толькі не адгаварыў ад будаўніцтва, але не выказаў сумнення ў неабходнасці такой спешкі, нават заахвоціў, памагаў і маральна і матэрыяльна, маючы намер выбраць Івана старшынёй калгаса, у якім падвоілася людзей. Перажываў, што мусіць выканаць яшчэ і такую місію. Ажно во як яно павярнулася. Іван прыехаў сам з непамерным горам сваім, з просьбай пахаваць дачку ў родным сяле.

Пра Караку няшчасны бацька не сказаў ні слова. Пыльчанку калаціла, калі пры самых нечаканых паваротах думка набліжалася да віноўніка недарэчнай да пякучага болю смерці Чалавека, Маці, Працаўніцы.

— Добра, Іван. Зробім усё, як просіць Марыя Пятроўна. Матчына воля — закон.

— І бацькава.

— І бацькава.

Пустаход цяжка падняўся:

— Пайду. А то зойдзецца Маша ад слёз у бальніцы.

— Яна адна там?

— Хіба адну я пакінуў бы яе! І Паша. І Віктар. Як унукаў прывезці з лагера? З Нарачы. Бацьку баюся пасылаць.

— А можа, не трэба... дзяцей сюды?

— Не развітаюцца з маці? Не даруюць яны нам...

Пыльчанка на міг акамянеў: што сказаць на гэта?

— Іван! Што ж гэта такое? — Закрыў твар рукамі, і плечы яго перасмыкнуліся ад кароткага мужчынскага плачу, але тут жа выцер вочы далонямі.— Я пашлю сваю машыну. Не турбуйся. Не бяры на сябе. Яго не прасі ні аб чым! — Не мог вымавіць прозвішча Каракі, але Пустаход зразумеў, змоўчаў і яшчэ больш ссутуліўся.— Я ўсё закажу... дамавіну, вянкі, машыны...

Старшыня ўрадавай камісіі знаходзіўся ў Мінску, там, у сталіцы, лягчэй вырашаць аварыйныя праблемы, а іх безліч. Там, у раёне, яго замяшчаў начальнік штаба, кіраўнік абласны, той былы Пыльчанкаў калега, якому званіў у дзень аварыі,— Рыгор Хвядосавіч.

Пераканаў Сінякова — дзе хаваць. Пятро зразумеў адразу. Да аварыі ён паказваў свой характар, пасля аварыі цалкам згаджаўся са сваім старшынёй райвыканкома, адмовіўся ад свайго пяршынства. У такой экстрэмальнай сітуацыі, пры кіраўніцтве ўсіх вышэйшых органаў, яно, пяршынства ў прыняцці рашэнняў, якім ніхто не вучыў ні ў якой партшколе і якія ніхто дагэтуль не прымаў, было без патрэбы, толькі папсуеш нервы. Але далёка не ўсе разважалі так, як Сінякоў.

Разам прыйшлі да Рыгора. Той адразу на дыбкі. Безумоўна, ашчэрыўся на Пыльчанку: яго сват, яго фантазія.

— Ды ты знаеш, чым гэта пахне — такое парушэнне рэжыму?

— Ты позна пачаў думаць аб рэжыме. Дзе вы былі ў першыя дні? Дзіву даюся, чаму ты ўсяго баішся? Нахапаемся тут радыяцыі — і нічога не будзем баяцца. Складзем лапкі...

Рыгор Хвядосавіч ажно падскочыў, адначасова і пачырванеў і пабялеў — карак наліўся, а лоб і нос як абяскровіліся. Пыльчанка ўдарыў у балючыя мясціны: сам Рыгор прызнаваў сваю нерашучасць у прыняцці рашэнняў і амаль не таіў свой страх перад радыяцыяй.

— Што ў цябе за ідыёцкая манера ўсіх палохаць! З табой працаваць немагчыма. Цябе людзі пачалі баяцца. Цябе паслухаеш — дык усе мы памрэм.

— Канешне, памрэм.

— З такім настроем мы людзей не супакоім.

— А навошта іх супакойваць? Закалыхвалі мы з табой іх — дай Бог, калыханачкі пелі, а будзілі бадзёрымі маршамі. Цяпер не закалышам. А калі хто закалышацца — таго не разбудзім.

— Пятро Міхайлавіч! Калі вы не дадзіце палітычнай ацэнкі такім афарызмам, я буду пісаць...

— Таварышы, таварышы дарагія! — прасіў Сінякоў.— З-за чаго вы? Старыя дружбакі! А пісаць... Рыгор Хвядосавіч! Мала нас вымушае пісаць бяда гэтая?

Пыльчанка наблізіўся да начальніка штаба, загадаў:

— Ану, уступі месца!

У таго вочы палезлі на лоб. Але ведаў Пыльчанкавы жарты, таму вырашыў і гэты яго бестактоўны выбрык звесці на жарт.

— Табе хочацца заняць маё месца? Калі ласка, з радасцю ўступаю. І ў Гомелі магу ўступіць.

— Які добранькі ты стаў! Пяткі падмазаў? Куды павярнуў хадулі свае? А чуў, што сказаў Вадалей?

— Хто-о?

Сінякоў маргаў Пыльчанку — прасіў: не выдавай хоць мянушак прыдуманых, наклічаш бяду на сваю галаву.

«Баішся, што не толькі на сваю, але і на тваю?» — падумаў Пыльчанка і адказаў Рыгору загадкавасцю:

— Хтокала — штокала.

Заняў крэсла, у якім сядзеў пяць гадоў, павярнуўся да тэлефонаў, апаратаў тут прыбавілася: наладзілі прамую ўрадавую сувязь з Мінскам, стаялі палявыя апараты сувязі з вайсковымі часцямі. Крутнуўшы разы чатыры дыск, Пыльчанка адразу набраў старшыню камісіі. Чалавек гэта быў добры, мяккі, але рашучасці і яму бракавала. З'яўляючыся тут, у гэтым кабінеце, у прыватных гутарках і на пасяджэннях камісіі, ён больш уважліва, чым да каго іншага, прыслухоўваўся да Пыльчанкі і, як адзначыў Сінякоў, у пэўным сэнсе пабойваўся, напэўна, адчуваючы яго перавагу ў самым неабходным для яго становішчы, роўнага ваеннаму,— у рашучасці.

Намеснікі старшыні камісіі ставіліся да такой яго ўвагі да радавога члена раўніва — не любяць чыноўнікі, калі ніжэйшы па рангу лезе наперад і засланяе вышэйшых. Але, паколькі некаторыя прапановы значылі «вылезці на лінію агню» — трывалі, не абрывалі, не ставілі ў дальні кут: няхай вылазіць, чорт з ім. На фронце такіх любяць. Такой тактыкі ў адносінах Пыльчанкі трымаўся і Рыгор Хвядосавіч: ён амаль узрадаваўся, што той пазваніў цёзку свайму. Вырашайце, святыя Уладзіміры!

Старшыня камісіі выслухаў уважліва, зразумеў бяду сям'і і ў кантэксце народнай бяды адказаў з разважлівай мудрасцю:

— Глядзіце самі. Вам там відней.

— А што гаворыць Масква аб прычыне павышэння радыяцыі?

Кіраўнік з вялікага дома ўздыхнуў у трубку: Масква маўчала.

Пустаходы адмовіліся ад прапановы парторга паставіць труну ў калгасным клубе — Каракава дабрыня. Паставілі ў сваім ненакрытым зрубе — у сваёй хаце, на сваёй зямлі, палітай і Лізіным потам, бо ў перапынках паміж дойкамі рабіла яна тут з цеслярамі за двух мужчын.

На лаўках паўз сцены сядзелі сваякі. Многа сваякоў, блізкіх і далёкіх.

Дзень быў хмарны. Імжыў дробны дождж. Над нябожчыцай напялі плёнку. Непакрытыя галовы тых, хто сядзеў

і стаяў, мачыў радыеактыўны дождж. А стаяла многа. На вуліцы, у двары. Развітацца з Лізай прыйшлі нават тыя, хто яшчэ і пазнаёміцца з ёй не паспеў,— не толькі гаеўцы, але і з навакольных вёсак.

Пыльчанку крануў такі збор. Ён прайшоў паміж людзей, паслухаў размовы, пачуў, што атмасфера напружана абурэннем — супраць Каракі. Папракнуў сябе, што раней рэдка сюды заглядваў і не ведаў, што людзі настроены супраць старшыні не толькі за сваю беднасць.

— Ды хіба ён лічыўся калі з чалавекам? — выгукнуў малады мужчына.

У любы іншы момант ён напэўна выкарыстаў бы такі стыхійны мітынг, каб з трэскам выгнаць Караку. Адчуваў: даволі яго слова — і яно спрацуе што дэтанатар. Але ж не зробіш гэта на пахаванні.

Панурыўшыся, разам з чарговай групай людзей увайшоў у зруб. Спыніўся ля труны. На твары нябожчыцы застыў страх. Вельмі можа быць, што на апошніх уздыхах яна думала пра дзяцей.

Яны сядзелі тут жа, на лаўцы, Лізіны дзеці,— дванаццацігадовы Ваня і сямігадовая Томачка, маленькія мокрыя спалоханыя птушаняткі, пасінелыя, з чырвонымі вачаняткамі. Магчыма, убачыўшы дзеда Валодзю, які ведаў, любіў яго маці, Ванечка заплакаў наўзрыд. Томачка з матчынай сталасцю абняла яго, сушыла губамі яго шчокі, гучна супакойвала:

— Ваня, не плач. Не плач, Ванечка. Не паможаш жа. Не паможаш...

Тады заплакалі дарослыя — усе, хто сядзеў і хто стаяў. Свае і чужыя. І Пыльчанка таксама не вытрымаў — заплакаў толькі што не наўзрыд, але рукавом пінжака выціраў свае слёзы і не саромеўся іх.

— Ах, Ліза, Ліза! Каму ты хацела даказаць? Каму! Чалавеку з валасатым сэрцам?

— Валодзя! — дакарала яго Вольга Андрэеўна.

Ён змоўк.

Дзеці сядзелі паміж Ірынай і Вольгай Андрэеўнай. Ірына з учарашняга вечара, як прыехала, не адступала ад дзяцей, усю

бяссонную ноч трымала іх за ручкі, накрывала і цалавала, калі яны ўскрыквалі і плакалі ў сне. Снілі маму, галубяткі. Ірына прыціскала да сябе Ваню, як бы жадаючы засланіць ад дажджу, ад сіроцтва, ад радыяцыі — ад усіх бед.

Віктар не мог сядзець, ён стаяў ля праёма дальняга акна і ўпотай, з рукава, курыў, захлынаючыся дымам. Старыя жанчыны асуджалі яго за гэта, падказвалі, каб выйшаў. Але і выйсці ён не мог.

Гэтую дзіўную сілу, якая не давала адарвацца ад нябожчыцы, адчуў і Уладзімір Паўлавіч амаль са страхам. Колькі хаваў блізкіх, сяброў — такога не было. Але ў яго з'явіўся іншы клопат. Пра жывых. Пра дзяцей. Менавіта таму — што пра дзяцей, хапіла сілы праціснуцца праз шчыльную купку гаеўцаў і выйсці. Вярнуўся з вайсковымі накідкамі. Прайшоў праз сцяну, стаў за плячамі ў жонкі, сказаў:

— Накрыйце дзяцей,— але накрыў сам; пад зялёнымі камуфляжнымі накідкамі дзеці сталі што грыбкі пад лісточкамі.

Пастаяў зноў з тым жа страшным адчуваннем — не адарваць вачэй ад твару нябожчыцы. Падумаў: калі, як, з якой апошняй думкай ён сустрэне свой смяротны міг? Чым для яго кончыцца гэтае бравадна смелае прабыванне ў забруджаных нуклідамі многіх элементаў палях і лясах? Апошнім часам, да нядаўняй успышкі, ён не кожны нават дзень прымаў душ, мяняў адзенне. Не было калі, валіўся ад стомленасці. Сказаў амаль уголас:

— Ірына! Я адашлю цябе дадому. З дзяцьмі. І з Глебам. Хопіць з вас тых доз, што набралі. А дзецям увогуле...

— Не магу, Уладзімір Паўлавіч. Не магу. Я правяду Лізу.

Да Пыльчанкі павярнулася Марыя Пятроўна, чорная пад чорнай хусцінай, але з сухімі вачамі, у поўнай свядомасці, да яе ўжо колькі разоў падыходзіў брат, старэйшы ў пахавальнай камандзе, і яны па-дзелавому раіліся.

— Угаварыце яе, Уладзімір Паўлавіч. Угаварыце. Мы са сваццяй з раніцы цвярдзім... і ўсе нашы... Падумай пра...— як захлынулася ўнутранымі слязамі, але тут жа пракаўтнула іх.— Пра дзяцей падумай, Ірыначка! Туды іх нельга браць.

– Не, мы паедзем з мамай! – голасна і сярдзіта сказала малая.

– Томачка, нельга так, нельга,– прыціснула да сябе грыбок Ірына.– Шэптам кажы.

У любых іншых умовах з падтрымкай свацці і жонкі ён пераканаў бы нявестку. Ды проста загадаў бы – у яго і права бацькі і права кіраўніка, які лепш, чым хто, ведае сітуацыю. Але не адкрыеш жа дыскусію каля труны, дзе гавораць толькі шэптам. Узлаванасць на неразумную жаночую ўпартасць – адукаваны ж чалавек! – памагла яму адарвацца ад нябожчыцы, адагнаць думкі пра смерць – сваю смерць, заняцца жывымі клопатамі не толькі пра незвычайнае пахаванне.

Глеб стаяў на вуліцы. Яму было блага, каля труны рабілася млосна. Уладзімір Паўлавіч не ўгледзеўся ў сынаў стан, загадаў амаль узлавана:

– Забяры Ірыну і дзяцей.

– Забярэш яе!

– Дрэнны ты муж.

– А ты, бацька, хочаш, каб з вопытам у два тыдні я быў добрым мужам?

Пыльчанку не спадабалася, што сын намагаецца жартаваць. Жартаўнік з яго ў радасныя хвіліны быў не лепшы, гэта – не Барыс, якога, бывала, спыніць немагчыма: фантан дасціпных слоў, жартаў, гарэзлівых прыдумак, амаль заўсёды з пераборам.

На бярвенні сядзеў, панурыўшыся, Іван Іванавіч. Мокрыя сівыя валасы яго звіслі на лоб, закрывалі вочы. Няшчасны бацька не папраўляў іх, не хацелася яму глядзець на свет белы, на людзей. Ці не таму, што побач стаялі працаўнікі гаспадаркі, якой таксама не стала, якая наўрад ці адновіцца, і глядзелі на яго са спачуваннем і, можа, з надзеяй.

«Не, Іван, на людзей глядзі. Глядзі на людзей! У гэтым – ратунак»,– падумаў Пыльчанка.

Трэба пасядзець са сватам, вось такое маўклівае сядзенне побач – лепшае спачуванне. І словы сказаць. Не свату. Яму сказаў. Людзям, якія вымушаны былі пакінуць родныя вёскі, родныя хаты. Бачыць па выгляду іх, што яны чакаюць ад яго

калі не суцяшэння, то спачування. Што сталі бяздомныя. І што страцілі, бадай жа, усім блізкага чалавека. Але не было ў Пыльчанкі такіх слоў. Месяц назад, калі эвакуіраваліся, ён суцяшаў: ненадоўга. Бадзёрыў і сам тады яшчэ верыў у гэта. Цяпер не верыць, што ненадоўга. Дунец сказаў: навечна. Ён тады абурыўся. А цяпер сам схіляецца да такой думкі. Сказаць ім пра гэта? У такі момант? Жах! Бо прыйдзецца гаварыць усё. Наўрад гэта яшчэ тайна — што будаўніцтва тут, у Высокім Гаі, спыняецца, і ўсе яны вымушаны будуць ехаць у чужы далёкі раён. Але вось гэтага ён, мужны чалавек, і не мог сказаць. Асобна гэтым людзям, у полі ці на ферме, не каля труны першай ахвяры, можа, і сказаў бы. Івану сказаць не мог. Скажа, напэўна, сёння ж пасля пахавання. Але ў той міг не мог.

Два гады, як кінуў курыць. Зрэдку закурваў — толькі ў добрым настроі, у кампаніі, пасля чаркі. Нехта курыў пад страхой старой хаты, цягнула добрым мірным дымком, і Уладзіміру Паўлавічу нясцерпна, да спазмаў у слінных залозах, захацелася закурыць.

— Хлопцы! Дайце хто закурыць.

Працягнулася дзесятак маладых рук з пачкамі танных цыгарэт і адна, старэчая, маршчыністая,— з зашмальцаваным скураным кісетам.

— Самасад, дзед?

— Свой, Паўлавіч! З зямелькі прыпяцкай. Калі вернешся туды, Паўлавіч?

О, ты мудры, дзед! Ты знаеш, як прымусіць гаварыць! Але нельга, каб гора на гора! Схіліўся, быццам бы закрываючы паперу для цыгаркі — каб не размокла, сказаў у зямлю, сеючы на яе самасад:

— Вернемся, дзед. Вернемся. Хімчасці паработаюць...

— Ды не работаюць яны ў нас! — бадай абурана запярэчыў малады голас.— Крыж на нас паставілі!

— Я табе дам крыж! Я табе дам! — пагразіў яму Пыльчанка і звярнуўся да свата, каб не працягваць размову з усімі, бо адчуваў — не стрымаецца, скажа праўду, а для Пустахода гэта сапраўды гора на гора.

— Іван, угавары дзяцей, што нельга ім туды. Ірыну ўгавары, каб ехала з імі дадому...

Іван Іванавіч рэзка падняў галаву — так, што рухам гэтым адкінуў з вачэй, з ілба мокрыя валасы. Яго скаланула гэтае **дадому**. Да якога дому? Да чыйго? Няма ў дзяцей дому! Няма маці! Пыльчанка ў вачах яго прачытаў: пра гэта сват падумаў. І не даў яму адказаць — амаль крыкнуў сыну:

— І ты, Глеб! Ды будзь ты мужчынам! Загадай жонцы... Я пайшоў пазваніць...

Адышоўшы, сцяміў: нечакана, у парыве, ён сказаў людзям усю праўду. Нядобра сказаў, не падумаўшы. Пра начальства і без таго гавораць многа ўсялякай небылі, а ён як пацвердзіў адну з псіхалагічных легенд: пра **сваіх** падумаў, **сваіх** трымае далей ад гэтай праклятай зоны, а **ім**, прастакам, абяцае хуткае вяртанне. Неабачліва і неразумна да крыўднага. Якраз ён адзін з тых, хто змагаецца з бяздумнымі аптымістамі, што абяцаюць эвакуіраваным хуткі зварот у родныя сёлы.

На падыходзе да будынка праўлення ўбачыў праз адчыненыя шырокія вокны — у кабінетах замітусіліся людзі. Як хавалі штось ці кагосьці. Ці не Караку? Адчуў страх ад магчымай сустрэчы з ім.

Праўленцы сустрэлі старшыню райвыканкома пачціва і баязліва. Ён ведаў: Карака не ўмеў добра гаспадарыць, але каманду сабе падабраць умеў, на гэта людзі яго тыпу маюць асаблівы талент. Бухгалтараў гэтых, планавікоў, аграномаў, заатэхнікаў ён, Пыльчанка, неаднойчы лавіў на прыпісках, для ўласнай выгады яны моцна спаяныя і спетыя. Але пакуль моцна трымаецца патрон. Карака ўмеў трымацца. Самакрытыкавацца ўмеў. За гэта ці невядома за што яго падтрымлівалі. Лаялі і выручалі. Гэтак, між іншым, рабіў і ён, Пыльчанка. Ліслівасць Каракавай каманды сведчыла, што кіраўніка свайго яны ўжо спісалі. І гэта Уладзіміра Паўлавіча абурыла таксама. Ён адчуў глыбокую знявагу да іх, мабыць, у жыцці яшчэ не было, каб ён зняважаў адразу цэлую групу, добры тузін людзей. Выявіў гэтую знявагу тым, што аб справах, сельскагаспадарчых, будаўнічых, ні з кім з іх — ні з намеснікам, ні з галоўным аграномам — гаварыць не стаў, хоць

меў намер крута пагаварыць. І не спытаў нават: дзе Карака? Поўная знявага. Пазваніў — і пайшоў не развітаўшыся.

Ірына, дзеці паехалі, ніхто іх не ўгаварыў. Скарыўшыся, Уладзімір Паўлавіч уціснуў іх разам са сваццяй і Вольгай Андрэеўнай у сваю машыну.

Варта была папярэджана, але загадзя вароты чамусьці не адчыніла.

Пахавальны картэж спыніўся перад калючым дротам. І тады збялелая Ірына сказала свекрыві:

— Мама, мы паедзем дадому. Паедзем, дзеткі?

Яна ўпершыню ўбачыла дрот. Спалохалася? Не. Пра радыяцыю яна ведала больш, чым любы з прысутных. Баязлівай не была. Калі і спалохалася, то за дзяцей — за сірат сестрыных і... за свайго. Дзіўна, што і дзеці, якія так упарціліся, тут, перад дротам, моўчкі згадзіліся паехаць з цёткай у горад. Але развітанне іх з маці акрываўніла бабулям і дзядам, ды і ўсім астатнім, сэрцы. Такога развітання, можа, не было яшчэ на зямлі — такой невядомасці не толькі таго свету, куды пераселіцца маці, але і гэтага, дзе пачыналі жыццё яны, малыя, дзе ім трэба жыць. Што іх чакае?

Падсаджаная ў кузаў Тома з крыкам упала маці на грудзі:

— Мамачка! Забяры мяне! Я не хачу! Не хачу! Не хачу!

Цяпер ужо Ванечка, стоячы ў кузаве каля труны і рыдаючы, прасіў сястру:

— Томачка! Томачка! Ну, не трэба... не трэба так.

Плакалі ўсе. Не плакала адна Ірына. Развітаўшыся з сястрой, яна рашуча ссадзіла дзяцей з кузава, запіхнула ў «Волгу».

Пыльчанка махнуў шафёру, і машына крута развярнулася.

Паставы адчыніў вароты.

## IV

Дзіўна змяніўся Сінякоў: у прысутнасці Пыльчанкі ні ў чым не выяўляў сваёй улады, давяраў і давяраўся цалкам яму, старэйшаму па ўзросце. І клапаціўся, як добры сын пра

бацьку: ці паеў, ці адпачыў? З'явіліся пытанні, якія да аварыі здаліся б іранічна-смешнымі: ці памыўся, ці пераадзеўся? Пасля наведвання «гарачых кропак», таго ж Бабіна, дзе зямля «свяціла» на дзевяноста кюры. Уласна кажучы, гэтыя пытанні пайшлі ад яго, ад Пыльчанкі; ён першы, яшчэ ў першамайскія дні, калі маўчалі вучоныя і ўлады, задаў іх блізкім, сябрам. Дунца, які на свята аб'ехаў увесь раён, вельмі здзівіў, калі спытаў: «Памыўся?» Напэўна, гэта было ў «чысты чацвер», бо Дунец засмяяўся. Пакуль не дайшло да яго. А Сінякоў цяпер, заўважыў Пыльчанка, перш за ўсё ў яго пытае пра гэта – пасля кожнай паездкі. Не забыўся спытаць і пасля пахавання Лізы.

Спачатку Уладзімір Паўлавіч скептычна і недаверліва паставіўся да такой увагі і клапатлівасці чалавека, які да таго залішне дбаў пра сваю ролю першай асобы. А потым сцяміў: змены з людзьмі адбываюцца, як на вайне, на перадавой, дзе кожны разумны малады камандзір адкідае амбіцыі і давяраецца больш вопытнаму, старэйшаму, абстралянаму. Абстрэл нуклідамі ў іх быў аднолькавы. «Абстрэл» начальствам быў розны па часе і інтэнсіўнасці – Пыльчанку заўсёды даставалася больш.

На клопат Пыльчанка адказаў клопатам. Яны пасябравалі – праз два гады сумеснай працы. Бяда з'яднала. Сінякоў жыў без сям'і. Сумаваў. Вольга Андрэеўна па-мацярынску апякала яго. Разам праводзілі кароткія адпачынкі: вячэралі ў Пыльчанкі. У адну нядзелю нават дазволілі сабе паехаць на раку. Не на Прыпяць. На Дняпро, кіламетраў за сто, у тое казачнае месца, дзе Бяроза ўпадае ў Славуціч. Радаваліся, што дзеці, калі намералі амаль нармальны фон. Засталіся чыстыя мясціны! Мелі сакрэтную інфармацыю, што за дзвесце з гакам вёрст – на ўсходняй мяжы Беларусі, і за мяжой яе, узровень радыяцыі вышэйшы, чым у іх гарадку,– як у Бабіне.

Сінякоў спытаў зноў жа заклапочана:

– Уладзімір Паўлавіч, вытрымаеце разбор Каракі?

Пыльчанка задумаўся:

– Соплі ліберальныя не распусціце? Не пашкадуеце?

Раней сакратар, напэўна, амбіцыйна пакрыўдзіўся б, а цяпер засмяяўся:

— Аднак якой вы думкі пра нас.

— Даўно вывучаю псіхалогію суддзяў. Вельмі ж пакручастая ў іх логіка. Бываюць строгія і гуманныя там, дзе не трэба.

— Не бойцеся, не пашкадуем. Такога не пашкадуем.

— Выганяйце без мяне. Ды так, каб на ўсё жыццё запомніў. Не хачу бачыць яго паганую морду. Паеду лепш у калгас, назначу в. а. Пакуль Іван акрыяе.

Усе згадзіліся, бадай, яшчэ да няшчасця з Лізай, што выбіраць старшынёй у Гаі трэба Пустахода. Лепшай кандыдатуры не знайсці. Ды, уласна кажучы, ніхто і не здымаў яго: дзве трэці калгаса перасялілі туды. Але пасля адцягвалі, давалі чалавеку ачуняць ад гора; бачачы, як ён здаў, не адважваліся гаварыць з ім аб такім цяжары. Не адважваліся Сінякоў і старшыня РАПА. Спадзяваліся на Пыльчанку, маўляў, яму прасцей. А Уладзімір Паўлавіч не гаварыў па іншай прычыне. Якія выбары, калі спынена будаўніцтва дамоў? Дзе людзі жыць будуць? Прыйдзецца ехаць пустаходцам далей на поўнач, на чыстыя землі. Але час ішоў, а каманда не паступала. Ён «браў за горла» старшыню камісіі, абласное начальства. Глуха.

Іван Іванавіч прыехаў сам, яшчэ больш счарнелы, схуданы, з сівой барадой — хутка яна адрасла. Пыльчанка прыезду яго не ўзрадаваўся: прыйдзецца ўсё ж гаварыць. І не вельмі шчыра. Нават з Іванам не вельмі шчыра. Праўда, тут, у цесным кабінеце, усё ж неяк лягчэй гаварыць, чым там, у калгасе, дзе і хаты ў чалавека няма,— у кароўніку ці ў полі на нуклідным ветры трэба гаварыць. Спытаў ледзьве не з прывітання:

— Ну, Іван, гатовы калгас прыняць?

— Які калгас?

— Ды свой! Свой! Твае ж людзі там. Калі і далей прыйдзецца ім ехаць,— сказаў-такі праўду! — затрымліваць цябе не будзем.

Пустаход доўга сядзеў, сагнуўшыся, упёршыся далонямі ў калені. Цяжка ўздыхнуў:

— Не, Уладзімір Паўлавіч. Які з мяне цяпер камандзір?

Паснедаць забываюся. Паеду я адзін. З сям'ёй, канешне. Не магу я тут. І Маша не можа.

— Куды ты паедзеш?

— У Віктара брат працуе механікам у Бабруйскім раёне, у саўгасе. Віктар туды вырашыў падацца. А мы хіба можам жыць без унукаў? Ад бацькі іх не забярэш. І мачысе Маша не аддасць. Цяпер толькі ўнукі і будуць трымаць яе на гэтым свеце. Дай Бог, у Ірачкі ўсё будзе добра...

— Дай Бог. Вось так і ў Бога паверым, Іван. Па-мойму, Вольга ў царкву хадзіла. Дадуць мне па шапцы, калі так. А забараніць ёй не магу. Тут, брат, самому часам хочацца памаліцца. Накрычышся, намацюкаешся з дурнямі — што брудам сябе заляпаеш. Радыяцыю вадой змываем... яна нябачная і не брыдкая... А гэты бруд чым змыць? Не змываецца нічым. Шклянку гарэлкі хіба хапнеш — чысцейшым быццам бы адчуваеш. Але і ад гэтага радасці няма. Не размовы гэта з людзьмі, не адпачынак. А як дэзінфекцыя на вакзале. Ад заразы. На ўзбочыну нельга з'ехаць. На палянку. На асфальце п'ем, пасярод поля. Каб ніхто не захапіў знянацку. А дзе яшчэ? У лесе, на лузе — радыяцыя, у сталоўках — даносчыкі. Вялікі закон! Што начальства парушае яго — тут жа напішуць. Не знаю, як хто, а я лічыў бы вялікім уніжэннем даваць тлумачэнне за тое, дзе што я выпіў — атручаную нуклідамі ваду ці чыстае кабернэ. Дурны закон! Колькі дурнога робім, Іван! Разумеем, што не трэба таго і гэтага рабіць, а робім. Мяне чуць не з'елі, калі я выступіў супраць, каб будаваць пасёлкі для адселеных у нашым жа раёне. А цяпер... вінаватых няма. А калі пачнуць шукаць іх, то мяне і знойдуць. За ўсё адкажу я, стрэлачнік.

Іван Іванавіч здзівіўся, што старшыня райвыканкома гаворыць пра ўсё, але не пра яго намер. Чуў жа на нядаўняй нарадзе строгае ўказанне «вярхоўнага»: з партыі выключаць таго, хто пакіне раён стыхійна. Не баяўся. Цяпер ён нічога не баяўся. Аднак падумаў: не падвесці б Валодзю, з яго спытаюць.

Уладзімір Паўлавіч, наадварот, здзівіўся маўчанню свата, спыніўся перад ім:

— Чаму маўчыш, Іван?

— А што гаварыць, Уладзімір?

— Пекані ты мяне такімі словамі, каб я тыдзень не спаў.

— Няма ў мяне такіх слоў. Не падвяду цябе?

— Ты пра што? А-а, пра таго — Вадалея. Цяпер ён, думаю, рады будзе, каб ніхто не напомніў пра яго дурны загад. Аляксею я далажу. А Сінякоў... ён стаў маім ценем. Не асуджаю і не радуюся. Калі думаеш адбыць?

— Ужо, лічы, звязалі вузлы. Пазвані ахове, каб прапусціла нас з Машай на Лізіну магілу. І дазволь у тваім доме сорак дзён адзначыць. Усё ж бліжэй да яе, Валодзя! Састарыла яна нас, гаваруння наша, пявуння. З малых гадоў шумела на ўсё сяло...

Памаўчалі ў жалобе. Пыльчанка падсунуў крэсла, сеў побач са сватам — як перад дарогай.

— Адзінока мне будзе без цябе, Іван.

Пустаход адказаў не адразу:

— Во... чуць-чуць не сказаў табе: а ты плюнь на ўсё. Злавіў сябе за язык. Не! Нельга табе! Трэба ты тут. Людзям трэба. Хацеў я, друг ты мой, быць табе памочнікам, ды — што зробіш... Не маю сілы. Слухай... Зруб можна забраць? Як бы гэта праверыць: ці будзе бярвенне «свяціць»? Дзеці ж будуць жыць! Трудоў шкада. Ліза больш, чым хто з нас, старалася...

— Праверым, Іван. Вайскоўцаў прышлю. І сваіх... абарону нашу, якая толькі цяпер заварушылася.

Зруб Пустаходы забралі з сабой. Адзінае багацце.

Ляцела лета. З дажджамі. Навальніцамі. Збожжавыя, гародніна, травы — усё расло, асабліва ў зоне, дзе вольна хадзілі толькі ласі і дзікі. І было крыўдна і балюча за такі ўраджай.

Кіраўнікі раёна, усіх службаў — ад аграпрама да камунальнай гаспадаркі, працавалі з двайной, трайной нагрузкай. А навошта? — нярэдка пытаўся Пыльчанка не толькі ў самога сябе, але і ў калег. Злавеснае пытанне — што гамлетаўскае: «Быць ці не быць?» Уласна кажучы, так і трэба было пытаць: быць ці не быць? Раёну. Гораду. Не, на такое пытанне ніхто не адважваўся. Усе працавалі на — **быць**! Працы было

многа не толькі ад незвычайнасці становішча, але, нарэшце, і ад таго, што ад'язджалі людзі, спецыялісты, інтэлігенцыя – урачы, інжынеры, настаўнікі. Начальства не проста патрабавала, крычала: не адпускаць, затрымаць! А як затрымаеш? І зноў-такі навошта? Для Пыльчанкі гэта было самае супярэчлівае, самае пакутлівае пытанне.

Старшыня аблвыканкома наскочыў на яго за Пустахода: хто адпусціў? Але, мабыць, убачыў, як яго перасмыкнула, і змоўк. Баяліся яго і шматлікія рэспубліканскія камісіі, і абласное начальства, бо ведалі, што ў запале словы Пыльчанка не падбірае, не далікатнічае, саломкі не падсцілае і прабачэння рэдка просіць.

Усё парадаксальна. Людзі выязджалі. Але ў горадзе людзей не стала менш, наадварот, ледзьве не падвоілася, ніхто не перапісваў. Не толькі новая гасцініца, але і два інтэрнаты меліярацыйнага вучылішча, прыватныя дамы, не дамы – паветкі, дрывотні – былі напакаваны людзьмі. Вайскоўцы стаялі ў наваколлі ў палатачных лагерах. Чамусьці ўсе надзвычайна клапаціліся пра горад. Замянілі палавіну дахаў. Астатнія памылі, неаднойчы. Асфальтавалі вуліцы. Усе. Мара раённых кіраўнікоў! Радуйцеся! З бюджэтам такога горада да гэтых вуліц не дабраліся б яшчэ паўсотні гадоў, а то ўсё стагоддзе. Ажыццяўлялася абяцанне Лявонція Мікалаевіча.

Але радасці ў Пыльчанкі не было. Косткай у горле стаяла ўсё тое ж праклятае пытанне: а навошта? Парадокс заключаўся яшчэ і ў тым, што ў той час, калі ўкладваліся мільёны ў дэзактывацыю, у дахі, у асфальт, па-ранейшаму прыйшлося ехаць ажно ў Мінск і абіваць парогі, каб выдрапаць прымітыўнае абсталяванне і паўтары тысячы метраў труб для рамонту сваёй «магутнай» ТЭЦ і цеплатрасы.

А то дахі памылі, а прыйшла б зіма – і людзі замярзалі б. Радаваліся – і ён, Пыльчанка, радаваўся – што ім «пайшлі насустрач», хоць ведалі, что нехта недзе праклінае іх, называе хапугамі, якія спекулююць на аварыі. Адзін калега ў вочы сказаў такое. Не быў Уладзімір Паўлавіч ніколі нагаворшчыкам, ненавідзеў тых, хто скардзіўся на таварыша начальству. Але тут не вытрымаў, папярэдзіў Аляксея Раманавіча:

«Пачую яшчэ раз такое – прыйдзецца вам ставіць мяне на кавёр за мардабой».

І кіраўнік вобласці зразумеў, што гэта не жарт: Пыльчанка здольны на самыя нечаканыя выхадкі.

«Радыяцыя на яго так дзейнічае, ці што?» – неяк сумна пажартаваў адзін з сакратароў абкома.

А ўвогуле горад Уладзіміра Паўлавіча так не клапаціў, як сяло. Населены чужымі, горад як бы зрабіўся чужым. Не радавалі ні новыя дахі, ні асфальт. Для горада ён рабіў па службовым абавязку, для сяла – па закліку сэрца. Увогуле ён заўсёды быў селянінам, аграрнікам. А цяпер на першае месца выйшлі не ўраджай і надоі, хоць іх патрабавалі па-ранейшаму, без скідак, нават больш, каб папоўніць страты ад эвакуацыі. Ён думаў: як жыць людзям? У першы месяц-два дапякала тое ж неадчэпнае фатальнае пытанне: «Быць ці не быць?» А навошта? Навошта ім жыць тут? З-за яго, гэтага пытання, ён нямала папсаваў крыві і свайму начальству, і сваім калегам, і самому сабе, нажыў непрыхільнікаў угары, якія ў іншых абставінах даўно знайшлі б яму месца дзе-небудзь у прафсаюзах, ва ўпраўленні па ахове прыроды ці ў Фондзе міру.

Пазней яго пераканалі, што можна жыць. Людзям можна жыць. А калі людзям можна, то яму **трэба**. Вучоным паверыў. Ці сам сябе пераканаў? Страшна было падумаць, што палавіну ўсходняга Палесся трэба ператварыць у мёртвую зону. Папаўзлі чуткі, што МАГАТЭ прапануе стварыць міжнародны палігон. Абурыліся людзі. Усе – і кіраўнікі раёна і калгаснікі. Значыць, хочуць жыць.

Вучоныя даказалі на малацэ. З некаторых калгасаў яно ішло забруджаным настолькі, што нават паслухмяная санінспекцыя ўзбунтавалася. А масла з гэтага малака не «свяціла». Сыры перасталі выпускаць, радыеактыўны адгон вылівалі ў ямы, а масла адсылалі па ранейшых адрасах, хадзілі чуткі, праверыць якія на іх узроўні немагчыма было, што толькі Масква і замежныя імпарцёры адмовіліся ад палескага масла. А каб гнаць масла, трэба павышаць надоі. І прыйшла новая «мудрая рэкамендацыя», якая пярэчыла ўказанню «нікога ў зону не пускаць»,– скасіць там на зялёны падкорм, на сілас кукурузу,

зноў-такі вучоныя даказалі, што нібыта кукуруза, адна з зерневых, не набірае радыенукліды з глебы.

Пыльчанка сам выехаў са спецыялістамі ў зону. Абкладваў прыборы кукурузнай масай. Сапраўды паказанні лепшыя, чым у травах на тарфяніках. Не ўсюды, але нямала дзе скасілі.

Паспела збожжа – і новая каманда: убраць у зоне жыта і ячмень. Маўляў, зерне пойдзе на спірт, тэхнічны (сарамліва дадавалі), бо ішла барацьба з п'янствам. А дзе хаваць гэтае збожжа? Куды вазіць? На той жа элеватар? Тут Пыльчанка стаў на дыбкі. Вучні разумеюць, што ад радыяцыі не адгароджваюць ніякія перагародкі, хіба толькі свінцовыя. А стракатасць на палях здзіўляе: пяць гектараў амаль чыстыя, а побач цэлы масіў забруджаны да небяспечнага ўзроўню.

Не пераканаўшы старшыню камісіі, абласное кіраўніцтва, Уладзімір Паўлавіч паехаў да Лявонція Мікалаевіча, помнячы яго загад – у зону нікога не пускаць. Дырэктар не прыняў яго. Між іншым, у сталіцы даведаўся, што ў «вялікім доме» кіраўнік мае больш ёмкую, дакладную і разам з тым не абразлівую мянушку – Дырэктар. Пыльчанка не пакрыўдзіўся – разумеў занятасць кіраўніка такога рангу ў гарачы час уборкі, тым больш што ўвогуле перад самім Пыльчанкам дзверы адчыняліся лёгка на ўсіх узроўнях.

Скарыстаўшы нагоду, наведаў у прыгарадным санаторыі адселеных жанчын з дзецьмі. Здзівіўся: за лічаныя хвіліны запоўнілася кіназала, як толькі пайшла чутка, што прыехаў старшыня іх райвыканкома. Цяклі, як ручаі, з усіх бакоў. І здзівілі Уладзіміра Паўлавіча злоснай агрэсіўнасцю. Жанчыны нікому не верылі. Тыдні два назад дэлегацыя іх паехала ў Мінск на прыём да першых асоб. З імі пагаварылі намы намаў, супакоілі – усё будзе добра! – пасадзілі ў камфартабельны аўтобус і адвезлі назад у санаторый – да дзетак сваіх.

Першае ж надзвычай простае пытанне ашаламіла шматвопытнага старшыню, які ўмеў гаварыць з людзьмі:

– Што з намі будзе?

Паспрабуй адкажы! Што з імі будзе? Адказ пры яго становішчы мог быць толькі афіцыйны.

— Адпачылі — паедзем дадому. Дэзактывацыю мы правялі — не пазнаеце,— стараўся гаварыць лёгка, жартаўліва, а выклікаў абурэнне.

— Ведаем мы вашу дэзактывацыю. Расказвалі мужы. Ля Бабіна зямлю знялі і насыпалі гару за паўкіламетра ад школы.

— Не паедзем!

— Дзе дзецям вучыцца? У радыяцыі?

— Колькі мужы нашы нахапалі гэтай заразы? Чаму скрываеце?

— Можа, з якім і цалавацца ўжо нельга! Заразны.

— Галоднай куме куцця на вуме.

— Бабы! Бабы! Паслухайце!

— А што яго слухаць? Ён не бядуе.

— Дзе вашы дзеці?

— Ха! Не ведаеце! Нявестачку вон куды паслаў — дзе чыста. Напрацавала доктарка! Наклала кату на хвост.

«А сын мой дзе? У пекле!» — хацелася крыкнуць у адказ, але стрымаўся, даваў ім «выпусціць пару», бо добра ведаў псіхалогію натоўпу.

Але найбольш зацятыя крыкунні распаляліся, не спыняліся перад абразай:

— Бач, ражку наеў. Да Чарнобыля такой не меў.

Крыўдна было слухаць такое. Поўны ён быў і да аварыі — узрост. Нездаровая паўната. Раней не адчуваў яе, цяпер пачуў — сэрца сігналіла. Ад «спакойнага» жыцця. Ад ненармальнага харчавання: часта няма калі паабедаць, а вячэрае ў дванаццаць ночы. Ад таго, што пехатой няма калі пахадзіць. Ды і няма дзе. «На ўзбочыну не сыходзіць!»

Але крыўдаваць на гэтых жанчын нельга. Канешне, паводзяць сябе некарэктна, неінтэлігентна, але трэба іх зразумець. Наша віна: недасведчаныя, неінфармаваныя, жывуць легендамі і страхамі, якіх тут, у Мінску, больш, чым там, у раёне. А ўрэшце, па яго разуменні становішча — дык не так многа ў іх і перабольшання. Каб ён расказаў ім тое, што ведае сам, што пачуў ад сур'ёзных вучоных... Але непадрыхтаваным людзям... жанчынам, маткам не ўсё можна расказаць: не зра-

зумеюць, вытлумачаць па-свойму, і ён зробіцца мімавольным распаўсюджвальнікам чутак і легенд, якія начальства называе плёткамі, ды яшчэ і варожымі.

Агрэсіўнай была група самых маладых, трымаліся яны разам, бліжэй да сцэны, задавалі тон, накалялі атмасферу.

Выручыла Уладзіміра Паўлавіча Галя Быхоўская. Крыкнула маладухам:

— А чаго ета вы раскрычаліся, што наседкі? Дрэнна вам жывецца тут? Кормяць да адвалу. Дзяцей уложыце — на танцы ляціце... А з танцаў некаторыя... куды? Гаварыць сорамна, а то сказала б...

У задніх радах засмяяліся — тыя, што не ходзяць на танцы. Маладыя абурана зашумелі. Адна накінулася на Галю:

— А сама ты... Можа, не любіш работы етай? Нараджала цэлы ўзвод! А што! І падгульваем. Скажы, старшыня, там нашым мужам. А што нам засталося? Кажуць, дома і пад куст нельга легчы. Засталося нам, бабачкі, толькі здыхаць...

Аднак — во дзівосы! — сціхлі маладзіцы, можа, праўда спалохаліся, што Пыльчанка абвясціць там, у раёне, мужам, як паводзяць сябе іх жонкі ў санаторыях.

Далі яму цэлыя дзве гадзіны пагаварыць. Слухалі ўважліва. Ён расказаў ім пра становішча ва ўсіх населеных пунктах, адкуль маглі быць гэтыя жанчыны, і сказаў суровую праўду аб неабходнасці паўторнага адсялення — у чыстыя раёны. І навуку аб радыяцыі вылажыў — усю, якую паспеў засвоіць сам за тры месяцы, галоўным чынам, ад вучоных, недахопу ў якіх не было; пераконваўся, праўда, што блытанікі вучоныя вялікія, асабліва ў практыцы, якая абвяргала тэорыю.

Атрымаў ад жанчын найвышэйшую пахвалу:

— Во, даўно б так! А то ў Мінску гэтых вучоных як сабак, а ні адзін вачэй не паказваў. Нам жа жыць там. Дык трэба ж знаць...

У гэтым «Нам жа жыць там» кранула змірэнне з асуджанасцю. Але кранула і іншае — у спакойнай размове, у пытаннях — жаночая, мацярынская заклапочанасць, трывога, можа, пра самае складанае: як вучыць дзяцей? Набліжаецца навучальны год. Яны, айцы народа, шмат над чым ламалі

дзяржаўныя галовы, а вось пра тыя аспекты, пра якія гаварылі маладасведчаныя жанчыны, не думалі. Маці і настаўніцы даходзілі да ўсяго. Да драбніц, мог бы сказаць бюракрат. Але хіба ёсць драбніцы ў тым, што датычыць здароўя дзяцей!

Вярнуўшыся дадому, Уладзімір Паўлавіч у тую ж ноч напісаў дакладную запіску ЦК і ўраду аб школах. Ставіў праблемы. Рабіў прапановы. Выпрацоўваў мінімальную і максімальную праграмы. Надзіва хутка атрымалі пастанову — час падганяў усіх: школы адкрыць, дзяцей трымаць ад цямна да цямна ў школе, тройчы карміць, у лес, у поле не выводзіць, фізкультурай пад адкрытым небам не займацца — у зоне жорсткага кантролю, з'явіўся і такі тэрмін. А што было мяккае ў іх жыцці?

Усё нібыта правільна. Праявы клопату! Дзяржава брала на свае схуднелыя плечы ўсе расходы. Але... А навошта? Навошта такое навучанне? Пытанне, на якое ніхто не даваў адказу. І пачаўся новы марафон. Пастанова ёсць, а пад пастанову — кукіш. Ні катлоў, ні сталоў, ні посуду. Ні кухараў. Ды і ліміты на харч значыліся на паперы, а ў натуры чысты, не свой, прывезены харч, заставаўся праблемай. Выбівай, галава савецкай улады! І ператварыўся Уладзімір Паўлавіч у забеспячэнца, намеснікі былі стараннымі памочнікамі, але на ролі выбівалаў не цягнулі. А можа, нехта, напрыклад, штатнікі той жа камісіі, што прэтэндавалі на поўную ўладу ў раёне, зацікаўленыя былі, каб ён, парушальнік спакою і ладу, часцей ад'язджаў у Гомель, у Мінск, у Маскву, у Кіеў, а менш, нахабнік гэткі, «хапаў загрудкі іх», высокіх упаўнаважаных партыі і ўрада.

## V

Перабудова не кранула яшчэ форм кіраўніцтва, усталяваных за многія дзесяцігоддзі панавання сістэмы, якую ахрысцілі ў той год адміністрацыйна-камандная. Але тэхнічныя сродкі і незвычайная абстаноўка ўносілі пэўныя карэктывы ў гэтыя формы. Было тэлефоннае кіраўніцтва — з'явілася верталёт-

нае. Начальства глядзела з неба — не з умоўнай вышыні, а з канкрэтнай, матэрыяльнай — і лічыла, што ўсё бачыць. Нічога не схаваеш.

Адзін з абласных кіраўнікоў пры чарговым аблёце раёна бедства ўбачыў з неба — о жах! — што ў зоне нейкі злодзей косіць жыта касою. Раздзьмуў гэты факт да касмічных памераў, тыцкаў ім Пыльчанку ў нос: калгасныя камбайны ён не пускае, збірае падтрымку ў вучоных, піша ў высокія інстанцыі, а тым часам зладзеі ўбіраюць багаты калгасны ўраджай на сваю патрэбу — радыяцыі не баяцца.

Кіраўніка асабліва злавала, што Пыльчанка паставіўся да гэтай крамолы з гумарам. Так, ён лічыў, што падзея не вартая выедзенага яйка, бо адзіночная яна, абагульненне адмёў адразу, вымусіў абласнога лідэра прызнаць, што бачыў той аднаго чалавека. Уладзімір Паўлавіч добра ведаў, хто косіць. Азар Шуба. Але сказаць, што ў зоне жыве чалавек і ён, старшыня, ведае пра гэта — тут жа апынешся на бюро абкома ці на пасяджэнні аблвыканкома. А там умеюць ударыць у званы. Прагрыміш на ўсю рэспубліку. Наклеяць такія ярлыкі, якія і ў кашмарных снах не сніў. Чаго добрага, чалавеказабойства прыпішуць. У начальства дзіўная логіка: раз яно паставіла калючы дрот, то там, за дротам,— смяртэльная небяспека, а з гэтага боку — усё нармальна, жыві і радуйся, дзетак у школу пасылай паўз гэты дрот. Логіка такая часта даводзіла Пыльчанку да шаленства.

Паляцела начальства — сеў за руль «газіка» і паехаў у зону. У яго і вароты свае былі — на лясной дарозе, зробленыя Дунцом нібыта дзеля таго, каб лягчэй было раённай міліцыі «накрываць» марадзёраў.

Дзесяціна жыта скошана каля самай дарогі, не хаваўся чалавек. Мэндлікі стаялі, як у сівую даўніну. Здзівіла Пыльчанку толькі, калі па зярнятах на асфальце вызначыў, што снапы вазілі ці насілі не ў сяло, а ў супрацьлеглы бок — у лес. Прайшоўся да паваротні знаёмай і там сцяміў — куды: на Пустаходаву пасеку. Можна не здзіўляцца. Дурань быў бы Шуба, каб не выкарыстаў такую мясціну, такія пабудовы. Спыніў машыну на пад'ездзе да пасекі. Пайшоў пехатою. Выйшаў

на знаёмую паляну — пачуў даўно забыты гук: удары цэпа. У імшаніку. На жардзінах вакол будыніны сушыліся і без таго сухія — пераспела збажына — снапы. Там жа, каля імшаніка, стаяў воз. Але каня і збруі нідзе не было відаць.

Сціхлі ўдары цэпа — усталявалася цішыня. Як да стварэння свету, падумаў Пыльчанка. Ці як пасля гібелі яго. Бязветрана. Нямы жнівеньскі лес. У полі хоць жыравалі чароды шпакоў, збіраючыся ў вырай. Пыльчанка яшчэ падумаў там: пакальцаваць бы іх, ці прыляцяць назад? А тут і цілікання сініцы не чуваць. І ніякага гуку: ні чалавечага голасу, ні машыны, хаця б далёкай. Такая цішыня дзіўна зачароўвае. Уладзімір Паўлавіч доўга слухаў яе.

Але мякка ўдарыў у снапы цэп, гахнуў чалавек, праз адчыненае акно вылецеў шызы пылок — і ўсё ажыло. Лес. Вуллі на паляне. Пчол угледзеў — міма праляцелі. Гукі далі жыццё. Не, можа, у большай ступені пах збажыны, данесла праз акно, быццам дыхнула ветрам. І стала Уладзіміру Паўлавічу амаль радасна — што хоць маленькая часцінка хлеба даводзіцца чалавекам да ладу. Сумна і балюча было, калі глядзеў на вялікія плошчы пераспелага жыта, ячменю, аўса, якія палеглі ўжо, дажджы ўваб'юць зерне ў зямлю, яно прарасце. Азіміна закалосіцца і на наступнае лета. І няхай! Сэрца балела, разрывалася на часткі за дабро, а ён ваяваў з «рупліўцамі» супраць таго, каб убіраць гэтыя палі. Бітву гэтую ён прайграў. Касілі ў суседніх раёнах. Касілі свае старшыні — тыя, у каго калючы дрот абрэзаў частку зямлі. Пераканаць і абвінаваціць іх нельга было, бо асаблівую розніцу ў дозах вучоныя не намералі. Касілі «нічыйныя» палі — павышалі ўраджайнасць сваіх. Чуў ён і злосныя выказванні:

«Мы будзем жыць тут і ўсё будзем жраць, што вырасла. Дык што ж стане з тымі, хто з чыстым з'есць дзесятую, сотую долю нячыстай? Чым яны лепшыя за нас?»

Страшная філасофія! Але аргументы яго былі слабыя. Ён здаваўся і ў бітве з начальствам, і ў сутычках з падначаленымі, і ў зацятым змаганні з самім сабою. За ўсё ён хапаецца, да ўсяго стараецца дайсці калі не розумам — не хапае яго, то сэрцам, але не па яго сіле ўсё давесці да ладу. Ці не таму за-

карцела глянуць на Шубу, які жыве іншым жыццём, па іншай філасофіі?

Увайшоў у імшанік.

Драўляная падлога прасторнай будыніны, дзе на зіму змяшчалася сотня вулляў, заслана снапамі. Шуба, босы, у палатняных споднiках, у чорнай паркалёвай кашулі, стаяў спіною да яго і малаціў. Біў цэпам не на поўную сілу — не давала размаху нізкая столь. Чалавек, які прывык да адзіноцтва, патыліцай пачуў прысутнасць староннягa. З апушчаным цэпам азірнуўся. Не здзівіўся.

— А-а, ты?

І прайшоў рад ад сцяны да сцяны. Паставіў цэп у кут — тады павітаўся:

— Ну, здарова, начальнік.

— Здароў, бог Саваоф. Як жывеш?

— А жыву — як Бог. Бачыш — па запавету. У поце зарабляю хлеб свой. Хлеб наш дай жа днесь. Не да месца, відаць. Дастаў бы ты мне Біблію, Паўлавіч. Кніжак розных у хатах хапае. А Біблію ні ў каго не знайшоў. Можа, яна мне штосьці расталкавала б?

— А што ты яшчэ пазнаць хочаш?

— А што — няма чаго пазнаваць ужо? Дапазнаваліся, так?

— Ды не. Пазнаваць ёсць што.

Выйшлі з цемнаватага імшаніка. Селі на лаўку. Раней Шуба барады не насіў. А цяпер адрасла яна шырокая, на ўсе грудзі, густая і чырвоная, як у жраца, мага — хной пафарбаваная. Золатам блішчэла на вячэрнім сонцы.

— А конь дзе твой?

— А хіба я не конь?

— На сабе возіш?

— А хіба многа мне трэба? Дзесяціну скасіў, менш не мог, рукі свярбелі... пудоў дзвесце намалачу. Ураджай, я табе скажу! Куды ён дзяецца, такі хлеб? Мне, напрыклад... без малака і мяса... навошта мне столькі? Ад самагонкі, брат, і ад тое чамусьці адвярнула. Перасядае. Больш скажу... адкрыццё цэлае — не хмялееш, калі адзін п’еш. Не, брашу... з капытоў, канешне, валіць. Але не той гэта хмель, не людскі...

— А ўвогуле як жывеш? Чым жывеш? Калі мець на ўвазе, што не хлебам адзіным жыве чалавек.

— А я табе сказаў: як Бог. Хоць ніхто не знае, як жыве Бог. Дрэнна яму жывецца, думаю. Як і царам. Сталінам усялякім. Клопатаў у іх многа. А я... Ты знаеш, я таксама па натуры ўладар. Ад таго і быў валацугам усё жыццё. Паляўнічым. Рыбаком. Уладарыць над прыродай хацеў. Над людзьмі не хацеў. Во які ўладар! Жонка мяне гультаём называла. Ды і людзі... Не, я не гультай! А грамацёнкі мне не далі, каб стаць Пушкіным ці Шаўчэнкам. Як думаеш?

— А так і думаю, як ты.

— Дзіўнае, брат, маё жаданне ўладарыць. Толькі і там мне волі не давалі. Усюды людзі наставілі знакаў: «Стоп!», «Забаронена!». І во дабраўся да ўлады. Знаеш, якую волю пачуў? Ніякіх табе «стоп!». Адзіны ўладар над такім прасторам палёў, лясоў, рэчак, балот! Вунь колькі яе, зямлі нашай, украінскай! І ты адзін на ёй, як Бог! Куды таму цару! Гаўно ён у параўнанні са мной. Каб пажыць так хоць адзін дзень, можна было рызыкнуць. Як думаеш?

— Во тут так не думаю.

— Бо табе хочацца адной улады — над людзьмі. А я іх не любіў, людзей. Паганыя яны звяры. Ніводзін звер не есць сабе падобнага, хіба з вялікага голаду. Людзі ж сытыя, а ядуць адзін аднаго. Усё ім мала. Зямлі. Вады. Паветра. Хлеба. Улады. Чаго там яшчэ? Вунь той наш уладар... з кашлатымі брывамі. Колькі ён сабе ордэнаў пачапіў? Навошта? А хоць — чорт яго знае... Мо́жа, толькі гэта і меў чалавек ад улады сваёй — што мог начапіць сабе, награбці пад сябе. Чым жа ён лепшы за мяне, уладар той? Мне адной дзесяціны хлеба многа. А прасторы мала. Дай мне як можна больш зямлі, каб без «стопаў». Каб ішоў па ёй тыдзень, месяц...

— Год? І каб без людзей?

— А на храна яны?

— Ну, знаеш, Азар Халімонавіч. Мне хочацца адсунуцца ад цябе.— Пыльчанка зрабіў жэст, што адсоўваецца.

Шуба засмяяўся:

— Не бойся. За ўсё жыццё нікога не ўкусіў. Брахаць брахаў. Калі пра каго можна сказаць «вялікі брахун» — то гэта пра

мяне. І табе я набрахаў. Не, не ўсё. Першыя дні я, праўда, пачуваў сябе так — вольным уладаром. Думаў, хоць тыдзень, хоць два пажыву, як ніхто не жыў. Цар царом. Хачу — у сваёй хаце. Хачу — у лесе. Хачу — у сельсавеце...

— Пячаткі сельсаветчыкі там не забыліся?

— Пячаткі? — здзівіўся Шуба.— А нашто пячатка?

— А я ўявіў, як ты сядзеў там з пячаткай у руках. І ўяўляў сябе царом Палесся.

Азар засмяяўся:

— Не верыш ты мне. Правільна, не вер. Але тут я праўду кажу. Раскашаваў я першыя дні. Во сюды на пасеку забраўся. На двухспальным ложку спаў. Пан панам. Усё роўна — як ты. Стол сабе па-панску накрываў... з чарак панскіх піў. З усіх па чарзе, ад маленькай да вялікай...

Цяпер ужо Пыльчанка пасміхнуўся, уявіўшы дзіцячыя гульні старога дзівака. Фантазёр!

— Але ж ты браў чужое. А гэта, знаеш, як называецца?

— Тое, што браў, нічыйным стала. Як жыта гэтае. Хочаш і тут «стоп» паставіць?

— Ды не. Жыта касі.

— Чужое я не браў. А што ўзяў — павінюся. Не на гэтым, дык на тым свеце. Ну... слухай далей. Пажыў — ёсць што ўспомніць. Але думаў: на тыдзень, на два. А там лапкі адкіну... А тут і месяц праходзіць і два. І ніякая зараза мяне не бярэ. Падужэў ажно. І тады абрыдла жыццё і царскае, і панскае. Адно хіба засталося — адчуванне ўладарства над прасторам гэтым,— развёў рукамі, паказваючы на лес.— Вольнасць... Але знаеш, што прыйшло? Тут я табе не свішчу, праўду кажу. Вольнасць-то вольнасць, якой хацелася... Але, выходзіць, непатрэбная яна... Не любіў я людзей... уцякаў ад іх у лес, на рэчку... А тут прыйшло: а без людзей і жыццё нечалавечае. Калі ні жонка на цябе не накрычыць, ні сусед не мацюкнецца, ні дзіця не заплача на вуліцы. Па-воўчы выць захацелася. Во тады і папрасіў у цябе радыё.

— Працуе транзістар?

— А я беражна слухаю. Порцыямі. Як лекі прымаю. Каўтнуў кропелек...

— Батарэйкі я табе прывязу... Хоць стоп! Ні храна я табе не прывязу. Паспытаў вольнага жыцця?

— Паспытаў.

— Хопіць! Выхадзі! Эксперымент скончаны! Цябе з верталёта засяклі. Пытаюцца ў мяне: хто там жыта косіць? Мяне ў турму пасадзяць за цябе, уладар!

Задумаўся Шуба на момант, калупаючы счарнелым пальцам босай нагі куст травы.

— Не, Паўлавіч, ад надуманага не адступаў. Буду жыць. Як яно там? Не паміраюць людзі ад гэтага? — кіўнуў у неба.

— У нас — не... пакуль што.

— Ну, во! Дык чаго ж ты баішся за мяне? Мяне яшчэ, як звера заморскага, у клетцы будуць вазіць і людзям паказваць: во, маўляў, экземпляр, ніякая радыяцыя яго не ўзяла. Вучоныя труды пісаць будуць. Не, брат, жыву да перамогі. Ці яна мяне, ці я — яе...

— Ты чым яе возьмеш, радыяцыю?

— А самагонкай. Слухай, давай вып'ем.

Пыльчанка засмяяўся:

— Я — за рулём.

— Баішся? Чаго баішся? Сваёй міліцыі? Ці радыяцыі?

— А што ў цябе — самагонка?

— Вот тут я грэшны. Узяў чужое. Пустаходаў тайнік знайшоў,— паказаў на гасцінны дом.— Скажы Івану: жывы буду — аддам. Таму, можа, і цябе хачу пачаставаць, каб не было зладзействам — сам з'еў, ні з кім не падзяліўся. Хочаш — гарэлачкі «Сталічнай». Хочаш — каньячок армянскі.

Уладзімір Паўлавіч падняўся, як збіраючыся адыходзіць. Дагаварыліся, як кажуць, да кропкі. Шуба лёгка падхапіўся следам, загарадзіў дарогу, заглянуў у вочы:

— Зрабі ласку, Паўлавіч. Свята мне зрабі. Я, можа, імяніннік сёння. А заўтра нябожчыкам буду. Уваж старога дурня.

Хіба можна было адмовіць чалавеку ў такой сітуацыі? І смешна. І горка.

Стол накрывалі пад паветкай, пад якой неаднойчы балявалі ў летні час. Апанавалі ўспаміны аб тым добрым,

што перажылі. Толькі аб добрым. Бо навокал усё пахла па-ранейшаму — мірам і жыццём: хвояй, жытам, чаборам, мёдам...

Шуба надзеў штаны, каб не заставацца ў споднiках, і зялёную кашулю, даволі чыстую. Адкуль узяў? Завіхаўся ён, як добрая гаспадыня, радая гасцям.

У Пустаходавым тайніку – у яме ў пограбе, замаскаванай бочкамі, акрамя напіткаў захоўваліся кансервы, мёд — што магло доўга захоўвацца. «А гэта з НЗ грамадзянскай абароны»,— успомніў Пыльчанка жартаўлівыя Іванавы словы.

Шуба першы нецярпліва, але, адзначыў Пыльчанка, цвёрда, рука не дрыжэла, падняў чарку.

– Ну, Паўлавіч, за людзей, каб ім добра ікнулася, усім адразу,– выпіў, кракнуў, панюхаў скарынку духмянага хлеба – сам выпек у сялянскай печы.– Як гэта прыемна – выпіць з добрым чалавекам! Знаеш, як брыдка аднаму браць гэтую заразу. А тут,– пагладзіў па грудзях,– мёдам разлілася па жылачках. Дык што там, Паўлавіч? Заткнулі яму зяпу, етаму змею атамнаму? Як ён называецца – што над ім будуецца?

– Саркафаг.

– Во! Саркафаг! А я ніяк не мог успомніць. А потым, паверыш, у кнізе вычытаў. Аказваецца, егіпцяне сваім царам такія будавалі. З павагай мы яго хочам пахаваць. Замуруем?

– Замураваць замуруем. Але лягчэй нам не скора стане. Зямля забруджаная. А з зямлі – усё ў травы, у збожжа, адтуль – жывёлам. А нашы жываты просяць хлеба і малака...

– Скажы ты, якая кругаверць! А што дактары кажуць: памагае етая вадзічка святая?

– Па-рознаму кажуць.

– Во-во! Што ні чалавек – то розум. І ў вучонага. І невучонага. Дзякую табе, Паўлавіч. Для мяне, праўда, свята ты зрабіў. То давай яшчэ па адной. За тваё здароўе.

...Калі Уладзімір Паўлавіч прызнаўся жонцы, дзе начаваў, чаму заначаваў, Вольга Андрэеўна і жахнулася і абурылася – ажно застагнала:

– О, Божа! Калі гэты чалавек угамоніцца! Вар'ят! Самагубца!

## VI

Жонка знайшла Уладзіміра Паўлавіча ў дальнім калгасе, у канторы. Ішоў ён да тэлефона са страхам, разумеў, што толькі незвычайнае здарэнне магло прымусіць гэтак шукаць яго. Пасля смерці Лізы ён жыў пад прэсам страху, які таіў, ад Вольгі — асабліва.

— Валодзя! Глеб у бальніцы...— Ці то сувязь была паганая, ці то голас устрывожанай маці рваўся ад хвалявання.

— Дзе?

— Што — дзе?

— У бальніцы — дзе?

— У Кіеве ажно.

— Чаму ажно? Да Кіева ад станцыі гадзіна язды. Хто табе паведаміў?

— Глеб сам пазваніў.

Звярыныя кіпцюры, што сціснулі сэрца, аслаблі. Уздыхнуў з палёгкай:

— Калі сам званіў, то чаму ты заікаешся?

— Валодзя! Паедзем.

— Калі?

— Зараз жа.

— На ноч гледзячы? — здзівіўся ён.

— Валодзя! Я прашу цябе...— І па тэлефоне голас яе быў такі трапяткі, што адмовіць ён не адважыўся.

Добра ведаў сваю жонку. Страх за сына і яго адмова паехаць так раняць яе сэрца — што, не дай божа, не здарылася б за гэтую бяссонную ноч чаго нядобрага. А пераўжыве ноч — заўтра не давязём яе: самлее ў машыне на спякоце. Лепш ужо ўначы ехаць. Не будуць бачыць адно аднаго. І будуць маўчаць. За вадзіцеля, праўда, страшнавата: не заснуў бы. Не, не засне, бо не заснуць яны, пасажыры, Вольга — напэўна.

Некалі Уладзімір Паўлавіч незадаволены быў сваім шафёрам — Змітром Кнышам: маўчун, сумна з ім ездзіць. А за аварыйныя месяцы высока ацаніў яго. Безадказны чалавек. Цягучы. Смелы. У зону — дык у зону. У Кіеў — дык у Кіеў.

З калгаса пазваніў Сінякову. А то заўтра хопяцца старшыні — і тут жа, што кругі па вадзе, пойдуць легенды: уцёк.

Пятро шчыра ўстрывожыўся:

— А што, так блага Глебу?

Гэта кранула.

— Ды не, не думаю. Сам званіў. Але ты не знаеш маёй жонкі. Ёй будзе дрэнна, калі я адкладу паездку на заўтра.

— Я разумею Вольгу Андрэеўну,— спачувальна сказаў Сінякоў.

Ехалі праз Мазыр, Оўруч, Корасцень. Немалая пятля. Змітро выконваў наказ Уладзіміра Паўлавіча, які сказаў яму яшчэ да таго, як у машыну села Вольга:

— Не гані. Будзе адольваць сон — на ўзбочыну. Паспім.

Ды і Вольга Андрэеўна ні разу не падагнала ні мужа, ні шафёра, сцішана сядзела на заднім сядзенні, і дыхання яе не чуваць было.

Уладзімір Паўлавіч перажываў чарговы прыступ жалю да жонкі. І віны сваёй перад ёй. За ўсё. За тое, што ў маладосці не заўсёды ўважлівы быў да яе ў той час, калі яна жыла дзеля дзяцей, дзеля яго. Ды і цяпер... Як яна жыве цяпер? Адна, што ўдава, пры жывым мужу. Са страхам. За сыноў. За дзяцей увогуле. Аварыя адняла ў яе апошнюю радасць — дзяцей, чытачоў яе. Але... чытачы вернуцца. Хоць... навошта? Не, была канкрэтная, блізкая прычына для адчування сваёй віны перад ёй. Два тыдні ўжо ён мае ад яе тайну. І не можа сказаць. Шкадуе яе, баіцца за яе. Але ад гэтага пакутуе сам. Не, нічога страшнага не здарылася. Перажылі яны ўжо гэта, паўтара года жылі ў трывозе. Але калі адно да аднаго, то гэта ўжо замнога для матчынага сэрца.

Прыехала да іх Тамара. Нічога дзіўнага: пацягнула дзяўчыну на радзіму. Вольгу Андрэеўну ўзрадаваў яе прыезд, яна званіла мужу ў выканком:

«Прыходзь хутчэй вячэраць. У нас госця. Не, не Ірына. Не адгадаеш».

Прыйшоў — Тамара! Схуднелая. Уладзімір Паўлавіч ледзьве стаіў слёзы, калі вітаўся. Моцна перажыла дзяўчына смерць

сястры. Ды і эвакуацыю таксама. Папярэдзіў яе — каб не ўздумала сама прабірацца туды, і каб хоць чым усцешыць:

«Сяло тваё роднае я пакажу табе толькі з верталёта. Заўтра камісія будзе мець верталёт».

Але за вячэрай яна сказала, што ляцець ёй няма як, трэба ехаць да сваіх, што заглянула на вечарок пабачыць іх.

«Дзякуем табе, Томачка».

Але не Вольга, а ён, мужчына, прыкмеціў, што дзяўчына прыкметна хвалюецца. І яшчэ адно насцярожыла: ні слова не сказала пра Барыса. Суцяшала думка, што яна хоча зрабіць ім, бацькам, сюрпрыз: дамовіліся з Барысам пажаніцца, і яна прыехала да іх з гэтай навіной. Вельмі хацелася Уладзіміру Паўлавічу, каб Тамара сказала менавіта гэта. Не сказала. Але Уладзіміру Паўлавічу здалося, што хочацца ёй пагаварыць з ім адзін на адзін. Але Вольга Андрэеўна як бы адчувала гэта і ні на хвіліначку не пакідала іх адных. Так і палеглі спаць кожны са сваімі тайнамі, са сваімі думкамі.

Прачнуўся Уладзімір Паўлавіч, як заўсёды, рана, але не раней за жонку, якая ўжо корпалася ў двары. Тамара спала: маладая.

Ён у піжаме ўвайшоў у пакой, дзе спала Тамара. Ціха паклікаў: «Тома!»

Яна спалохана падхапілася. Убачыла яго — сарамліва закрыла грудзі коўдрай.

«Я пайшоў, Тамара, і не ўбачу цябе. Але ўчора мне здалося, што ты хацела нешта мне сказаць».

Яна падкурчыла ногі, паклала на калені падбародак і нейкі момант маўчала. Узняла галаву — вочы яе, шырока расплюшчаныя, былі напоўнены ці то страхам, ці то радасцю — не разгледзеў у зацянёным шторамі пакоі стары Пыльчанка.

«Я лятала ў Кутаісі».

У сэрца ўдарыла цёплая хваля замілавання да дзяўчыны: значыцца, дамовіліся! І ў яго... у іх будзе яшчэ адна дачка! Што ж ты не радуеш маці, дурненькая? Але Тамара зноў апусціла галаву на калені, усё роўна як захацела заплакаць. Што ж, ад такой радасці можна і заплакаць — дзяўчыне!

«Барыса няма там».

Уладзімір Паўлавіч уздрыгануўся.

«Дзяжурны на прахадной званіў некуды і сказаў, што ён на заданні. Але я прыходзіла пяць дзён, і кожны раз мне адказвалі, без званкоў, адразу, што ён на заданні. На яго самалёце за пяць дзён можна пяць разоў абляцець усю зямлю. Я помніла прозвішча яго сябра... Генадзя Круглова і выклікала яго... Ён баяўся глядзець мне ў вочы і таксама сказаў, што Барыс на заданні, і пачаў заспакойваць... Не бойся, кажа, Тома. Я не называлася, а ён ведаў мяне. Нічога страшнага — заданне мірнае, усе мы такое выконваем. Няпраўда гэта! Вы здагадваецеся, дзе ён?»

Пыльчанка не адказаў, бо сэрца паднялося да горла і не давала вымавіць слова.

«Барыс **там**! Там! Уладзімір Паўлавіч!»

«Цішэй, дзіця маё».

«Але Вользе Андрэеўне не кажыце. Гэта ён для маці зрабіў тайну. Вы знаеце, чаму я паляцела? Я атрымала пісьмо, напісанае ў той жа дзень, калі атрымала. Я ў Гомелі была, на станцыі біялагічнай рабіла. Спачатку думала, што сам Барыс ці хтось з сяброў прылятаў у Гомель. Што ім з іх хуткасцямі! А потым цюкнула мне. Я перачытала яго пісьмы, ён спачатку часта пісаў... І ўгледзела, знаеце, выпадкова неяк, што ў двух апошніх і ў гэтым, трэцім, пераламваўся канверт. Разумееце? Вось так... каб палажыць у другі канверт. **Адтуль** ён прысылаў пісьмы ў сваю часць сябру, а той — мне... і вам. Канешне, і вам...»

Тамару ажно закалаціла.

Уладзімір Паўлавіч пагладзіў яе па галаве — як малую:

«Супакойся. Барыс — вопытны лётчык. У душманаў няма самалётаў. Там няма паветраных баёў».

Сказаў гэта не толькі для яе заспакаення — для свайго таксама.

Заехаў дадому ўдзень, калі Вольга была на рабоце, перачытаў Барысавы пісьмы. Іх было нямнога за тры месяцы пасля пабыўкі, бацькам ён пісаў не так часта, як нявесце. Вясёлыя пісьмы з грузінскімі анекдотамі. Аднак і пасля доўгага ляжання бачна было, што канверт апошняга пісьма згінаўся.

О, дзявочая ўважлівасць і пільнасць! Яны зарчэй за матчыну.

...Промні фар разразалі жнівеньскую ноч. Незвычайную. Рабінавую. Неба на захадзе паласавалі частыя бліскавіцы. Як успышкі далёкіх гарматных стрэлаў. Усё роўна што набліжаўся фронт. Зарніцы гэтыя і страшылі і зачароўвалі. Ноч незвычайна пахла хлебам і палыном. Ніколі не чуў такога вострага палыновага паху. Збожжам ночы пахла кожнае лета. Ці гэта ў душы такая горыч? Ад трывогі за сыноў. Ад тайны, якую мусіць скрываць ад Вольгі, баючыся за яе здароўе. Ад болю. Ён напісаў начальніку палітаддзела часці. Неразумна напісаў, ад жадання прымусіць вайскоўца хаця б на ўскоснае прызнанне. Паскардзіўся, што Барыс не піша і яны, бацькі, хвалююцца. Цяпер перажываў. Навошта напісаў няпраўду? Кінуў цень на сына. Але сам Барыс піша, часта піша — Тамары. То навошта паніка, домыслы?! Сорамна сталаму чалавеку. Нервы здаюць?

— Ты што сказаў?

— Я? Не. Я задрамаў. Ты не спіш?

— Каб я магла заснуць.

— Не рабі трагедыі, калі ласка. Звычайная прафілактыка. Абследаванне.

— Вернецца — не пушчу назад на гэтую праклятую станцыю.

— Так гэта проста: узяла і не пусціла дарослага чалавека. Мяне не пусці... у Бабіна...

— Паедзеш яшчэ раз да старога вар'ята — узніму гвалт, скандал. Патрабую, каб гвалтам яго адтуль забралі. І табе запісалі...

— Ты бачыш, як бліскае? Ты падобная на тую бліскавіцу.

— Не суцяшай сябе. Я бліжэй. Магу апячы.

Засмяяўся Змітро:

— З вамі не заснеш.

— А мы знарок цябе весялім, каб не спаў. Ты чуеш, як пахне палын?

— Палын? — здзівілася Вольга Андрэеўна.— Табе пахне палын?

– А што? Тут палыновы стэп. Быў калісь. Можа, з тых казакаў я, што гулялі тут. Пыль-чан-ка! І ўзнімаў пыл, і глытаў яго. Можа, у генах маіх закладзена чуць тое, чаго не чуюць іншыя?

Вольга Андрэеўна слухала мужа моўчкі, сур'ёзна, без ценю ўсмешкі.

Змітро смяяўся:

– Вясёлы вы чалавек, Уладзімір Паўлавіч.

– Ад весялосці, брат, і памру. Яна – што алкаголь: умераная доза – лякарства, а многа яго – атрута.

– Ад весялосці ніхто не памёр.

– Гледзячы ад якой. Ад той, што ў мяне, паміраюць.

Лёгкая дарожная мянта, на якую звычайна ніхто не звяртае ўвагі – абы скараціць час. Але Вользе Андрэеўне раптам захацелася заплакаць – ад жалю да мужа: урэшце, пры ўсім асуджэнні яго ўчынкаў і слоў яна адна ведала, што цяпер у яго сапраўды тая весялосць, ад якой паміраюць,– палыновая.

Шафёр знямогся за Корасценем, калі павярнулі на ўсход.

– Стоп, Змітро! У святле фар я ўбачыў завею. Значыцца, заснуў. На міг.

З'ехалі на палявую дарогу, пад акацыі. І ў цішыні заснулі ўсе трое. Гадзіны тры спалі – ажно пакуль не разбудзіла сонца.

У Кіеў прыехалі перад пачаткам рабочага дня.

У бальніцу іх не пусцілі. Сястра дзяжурная замахала рукамі:

– Шчо вы, люды добрыя! Хто цэ відвідуе ў такую рань! Нэ можу! Нэ можу.

Як ні прасілі, ні малілі, як ні даказвалі, адкуль ехалі, усю ноч ехалі, што работа бацькі хворага не дазваляе затрымлівацца,– нішто не памагала. Флегматычная ўкраінка ведала адно: «Нэ можу!» – і ўсё.

Уладзімір Паўлавіч пайшоў шукаць начальства бальнічнае. Вольга Андрэеўна, верачы ў чалавечую дабрыню, у тое, што самая зачарсцвелая душа не можа ўстаяць перад матчынымі просьбамі, засталася пераконваць дзяжурную.

Ды раптам радасны і здзіўлены родны голас:

— Мама! Ты на якіх крыллях?

Вольга Андрэеўна ажно спалохалася ў першы міг, а пасля захлынулася радасцю: во ён, яе Глеб, здаровы, ружовы, загарэлы, праўда, задыханы! Трое маладых хлопцаў у аднолькавых шэрых бальнічных піжамах, дрэнна адпрасаваных пасля мыцця, увайшлі ў прыёмны пакой знадворку, і Глеб першы ўбачыў маці. Першы і абняў яе, разгубленую ад нечаканасці і радасці.

— Глебушка, хлопчык мой! Што ты так дыхаеш?

— А мы прабежку зрабілі па парку.

Тут увайшоў Пыльчанка-старэйшы, пачуў гэта і ажно кракнуў ад прыкрасці. Моцна ўзлаваўся на жонку. З-за чаго ўзняла паніку? Прымусіла ехаць на ноч гледзячы? Так і вымавіў ёй, калі выйшлі ў бальнічны сад, каб пачакаць Глеба, які пайшоў прымаць працэдуру.

Вольга Андрэеўна не злавала на мужа, лёгка ўпікала яго:

— Дурань ты стары! Чаго разбурчаўся? Радуйся, што здаровы ён, Глеб, і сябры яго здаровыя. Работа... Не вол твая работа — не ўцячэ. Там у вас начальства сабралася больш, чым тых, што робяць з дэзактыватарам, брандспойтам, лапатай...

А Уладзімір Паўлавіч не мог супакоіцца. Ён разумеў жонку і ў душы не так ужо асуджаў яе: маці ёсць маці. Але цяпер ён раўніва думаў, што яе дарожная ноч была лягчэйшая. Яна не таіла свой страх. А сам Пыльчанка маўчаў. У яго ўсё гарэла ўнутраным агнём, самым пякучым, бо не мог ён дазволіць трывогам сваім вырвацца вонку, ён ашчаджаў маці, разумеючы, як глыбока раніла б яе Барысава тайна; у праўдападобнасці Тамарынай здагадкі яна, канешне, не ўсумнілася б.

Уладзімір Паўлавіч адчуваў сябе стомленым, разбітым. І шафёр стомлены. А трэба ехаць назад — рабіць тут няма чаго. Прыляцелі за трыста вёрст глянуць, як сын бегае па дарожках. Злаваўся нават на Глеба: не мог супакоіць маці, калі званіў!

Глеб сказаў тое, што сказаў маці ўчора ўвечары: прывезлі іх сюды на абследаванне, усіх возяць, хто працуе на станцыі, у зоне. Глеб для спакою бацькоў стаіў, што не па графіку абследавання, якое пачалі ўводзіць, яго адаслалі ў Кіеў, а

прывезлі на «хуткай» з дзяжурства: ён страціў прытомнасць у турбіннай зале свайго другога блока станцыі. Праўда, не ён першы. Медыкі лічылі, што млеюць людзі ад таго, што ледзьве не замураваныя ад вонкавай радыяцыі, а кіслародам памяшканне насычалася слаба.

Уладзімір Паўлавіч па-сапраўднаму ўзлаваўся тады, калі жонка абвясціла, што застаецца ў Кіеве.

– Хоць яблычкі Глебу буду насіць.

– Якія яблычкі? Радыеактыўныя?

– На рынак не пускаюць з паўночных раёнаў. Толькі з паўднёвых. І дазіметрычны кантроль строгі,– сказаў Глеб.

Бацька і на яго ўзлаваўся:

«Мужчына называецца! Мамачку яму дай!»

– Адрас Галін хоць помніш? – У Кіеве жыла яго, Пыльчанкі, пляменніца.

– Адрас я ўзяла,– як бы пацвярджаючы гэта, Вольга Андрэеўна заглянула ў сумачку, хоць добра помніла гэты адрас.

Уладзімір Паўлавіч кіпеў:

«Значыць, вырашыла яшчэ ўчора застацца тут. На якое ж ліха было гэтак па-пажарнаму паднімаць мяне? Паехала б сама, без спешкі».

Холадна развітаўшыся з сынам, не стаўшы слухаць жончыны настаўленні, як жыць аднаму, пайшоў да машыны.

Паехаў назад адразу ж, толькі паснедалі са Змітром у кафэ. Паехалі на Чарнігаў, Гомель. Заўтра ўсё роўна трэба быць у Гомелі. Чарговая нарада. Па сяўбе азімых. Вось ужо і азімыя трэба сеяць. Нельга не сеяць. А навошта? Па дзедаўскай мудрасці: паміраць збірайся, а жыта сей?

Каля двух тыдняў жыў адзін, з кожным днём усё вастрэй адчуваючы, як яму не хапае жонкі, не толькі з-за бытавой няўладжанасці – павячэраць часта няма чаго, але для душы – пагаварыць, параіцца. Каму яшчэ даверыш патаемныя думкі! А яны ў яго робяцца ўсё больш «крамольнымі».

Жонка сустрэла яго з вясёлым тварам. Такі яе твар ён бачыў апошні раз хіба чатыры месяцы назад – на вяселлі. Ды і то не ў сувязі з жаніцьбай Глеба, а з прылётам Барыса.

Таму ва Уладзіміра Паўлавіча радасна ёкнула сэрца ад думкі: «Барыс! Званіў ці, можа, прыляцеў?»

Хаваючы свае пачуцці, буркнуў са сваёй звыклай для ўсіх ironій:

— Ты сёння — што подмаз з’ела.

— Дык радасць жа, Валодзя! Званіў Глеб. Ад Ірыны. Ён ужо там! Разлічыўся на сваёй чортавай станцыі. І будзе працаваць у Светлагорску. Ужо дамовіўся.

Безумоўна, радасць: ён лепш за Вольгу ведаў, якая небяспека пагражае сыну, калі той надоўга застанецца на АЭС. Менш будзе трывогі. Цяпер уводзіць у бяссонніцу тайная, маўклівая трывога за Барыса і адкрытая, пра якую ён штодня крычыць,— за школьнікаў, што вяртаюцца з дальніх піянерскіх лагераў, санаторыяў у свае школы. Але не масліць жа яму фізіяномію перад жонкаю.

— Парасё твой Глеб. Мінуў бацькоў і паехаў да жонкі.

— Валодзя! А што яму рабіць тут? Радуйся, што ён там. А сам ты хіба не праязджаў міма бацькоў, калі ехаў да мяне? Яшчэ да жаніцьбы.

— Прыраўняла.

Вольга Андрэеўна засмяялася і пацалавала мужа.

І ў тую ноч, упершыню за колькі месяцаў спала нармальна, нічога кашмарнага не сніла. Уладзіміра Паўлавіча ажно будзіла яе нязвыкла роўнае дыханне. Божа! Да чаго дажыўся! Пачаў трывожыць спакой блізкага чалавека! Бо падманны ён. Маці не ведае таго, што ведае ён. Як жа доўга гэта будзе працягвацца — яўныя і тайныя трывогі, што сушаць сэрца страшней за хваробу.

І ў Сінякова — выгляд хворага чалавека. І боязна спытаць: як ты, Пятро, адчуваеш сябе? Не хапае духу параіць: схадзі, Пятро, да ўрачоў, праверся. Спалохаць чалавека можна, бо ва ўсіх зараз анкалафобія. Кожны ўпотай мацае раніцамі сваю печань: ці не баліць? ці на месцы — не спаўзла?

Аднак спытаў — з даварыйнай лёгкасцю:

— Ты што, Пятро, змарнелы нейкі, схуднеў. Па-мойму, ты галадаеш. Я тыдні два пажыў без жонкі — застагнаў. Прыходзь да нас вячэраць. Вольга цябе адкорміць. Глядзі, які я

карак маю.– Хоць і ў самога каўнерыкі сталі свабодныя – сушыла тайна.

Пятро Міхайлавіч не прыняў яго лёгкасці, як раней падхопліваў жарты «старога». У незвычайна сур'ёзнай, запаволенай для яго характару задуме прайшоўся па кабінеце. Прызнаўся шчыра, па-брацку, без гульні ў аптымізм:

– Дрэнныя мае справы, Уладзімір Паўлавіч. Безвыходнае становішча...

– А што? – сапраўды ўжо ўстрывожана спытаў Пыльчанка, палохаючыся неадчэпнай думкі: «Няўжо рак?»

– Катэгарычна адмовілася мая Паліна вяртацца сюды. І слухаць не хоча. «Каб я павезла ў твой рэактар дзяцей?» Развесціся гатова.

– Пятро! І гэта ўвесь твой клопат? Ха! Развесяліў ты мяне.

– Вам смешна. А мне... для мяне гэта канец кар'еры. Столькі вучыўся! Так стараўся! Хто паверыць, што я ўласную жонку не магу пераканаць? Кожны з іх падумае: знайшоў прычыну, каб уцячы. Адпусцяць, канешне. Але куды? На якую пасаду?

– Хочаш, пагавару з Аляксеем? Я пераканаю яго.

«Узрадаваўся. Ёсць магчымасць заняць маю пасаду. А прыкідваўся святым»,– падумаў самалюбівы малады сакратар, які толькі пазнаў смак улады. І стала яму да болю шкада сябе. Сам сябе асудзіў, аднак усё роўна адчуў непрыязь да гэтага старога зубра, які лёгка вырашае ўсе праблемы і любую працу робіць як бы жартуючы. Але выйсця не было. Перагаворы з жонкай – апошні месяц кожную нядзелю ездзіў у Лепель – не далі вынікаў. На размову з Аляксеем не хапала пораху: баяўся страшнага слова «дэзерцір» і вельмі нізкай пасады, ды і тую дадуць у якой-небудзь Карме, дзе выяўлена не меншая радыяцыя; начальства, калі незадаволена, умее рабіць каварныя хады. Таму пры ўсёй складанасці пачуццяў да Пыльчанкі згадзіўся на яго дапамогу.

Уладзімір Паўлавіч паверыў Пятру, бо ведаў Паліну, яе характар, разумеў псіхалогію маці малых дзяцей, ды яшчэ пры яе ўмовах – ёсць добры бацькоўскі дом у бяспечным месцы, і

з усёй сяброўскай шчырасцю пачаў памагаць свайму партыйнаму кіраўніку.

Горача даказваў Аляксею Раманавічу, што хлопец марнее, бо разводам пахне, і трэба пайсці яму насустрач – перавесці ў чысты раён.

Сакратар слухаў уважліва, але нахмурана. І ашаламіў пытаннем:

– Прызнайся! Табе хочацца заняць яго пасаду?

– Мне? – Уладзімір Паўлавіч засмяяўся ад нечаканасці.– Позна. Мне пара ўступаць сваю.

Аляксей Раманавіч пагразіў пальцам:

– Гэта вы мне кіньце. Разбягаецеся, як з карабля. Панікёры! Карабель не тоне. І не патоне!

– Мы – панікёры? Вы нас крыўдзіце. Дзе гэта вы бачылі ў мяне паніку?

– Ладна, не крыўдуй. Не пра цябе размова. Але Сіняковых многа.

Начальства ў час перабудовы спешна набывала дэмакратычнасць, хоць Аляксей і раней не паводзіў сябе бюракратам. Да іх жа, кіраўнікоў пацярпелых раёнаў, праяўляў асаблівую ўвагу і клопат. Строгім, але добрым быў. Стараўся заахвоціць і словам, і хоць якімі прывілеямі. Выкарыстоўваў кожны выпадак пагаварыць не толькі пра справы – пра дэзактывацыю і ўборку хлеба, але і пра самаадчуванне, пра сям'ю, у душу заглядваў. Падбадзёрыць людзей трэба! Навука даўняя, простая, але не кожнаму яна даецца. Іншы ведае не толькі арыфметыку – вышэйшую матэматыку гэтае навукі, а ў яго ўсё роўна не выходзіць, не атрымліваецца сардэчны кантакт з падначаленымі, самі людзі трымаюць дыстанцыю. А другі, здаецца, не вельмі і стараецца і пашумець можа, а адносіны яго шчырыя і натуральныя, без «ігры на публіку». Да якой катэгорыі далучыць Аляксея – Пыльчанка наўрад ці адказаў бы адназначна. А можа, чалавек і павінен быць такім – гнуткім, шматгранным, супярэчлівым? Добра было ўжо тое, што з Аляксеем усё ж можна было пагаварыць. Нават аспрэчыць яго дазвалялася. Ён даказваў свае думкі горача, часам раздражнёна, але, здаючыся, не «меў зуб» на апанента.

Паспрабаваў бы нехта гэтак непачціва «пабіць», напрыклад, таго ж Лявонція! Ого! Калі яго нават у більярд абыгрывалі, ён чырванеў і кідаў гульню і пасля з такім непачцівым падначаленым ніколі не ўзнаўляў яе.

Аднак кожны начальнік любіць паапякаць і выдаць аванс у той ці іншай форме: помні, маўляў, маю дабрыню.

Па такой схеме будавалася іх размова. Аляксей Раманавіч падняўся з-за стала, закурыў:

— Куры. Прабач. Забыўся. Ты ж не курыш. Правільна. Доўга пражывеш.

— Пражыву. Насычуся нуклідамі... і буду жыць, як Мафусаіл — дзевяцьсот гадоў.

Сакратар паглядзеў у акно. З вышыні адкрываўся маляўнічы від на парк, раку, зарэчныя прасторы.

Уладзімір Паўлавіч усцешыўся за Сінякова. Не адбіў Аляксей з ходу яго просьбу — значыць, прыняў сур'ёзна і задумаўся, куды перавесці чалавека. Але сакратар сказаў не пра Сінякова — пра яго, Пыльчанку:

— Хацеў я цябе падняць. Трэба мне такі памочнік. З вопытам. Але... там не згадзіліся,— паказаў вачамі ў столь, хоць вышэй паверха, на якім яны знаходзіліся, нікога не было.

Пыльчанка весела кракнуў:

— Хто? Дырэктар?

Аляксей Раманавіч крута павярнуўся, змераў старшыню райвыканкома строгім, асуджальным паглядам.

— Усё ты знаеш. У гэтым твая бяда. Не, не ў гэтым. Знаць можна... Язык не ўмееш трымаць за зубамі. Язык твой — вораг твой.

— Во гэта праўда! — ахвотна згадзіўся Пыльчанка.

— Непачціва ты гаварыў з ім, калі ездзілі.

— Гаварыў — як вымушалі абставіны. Дыпламатам не быў. Ды і не да месца яна, дыпламатыя, у нашай сітуацыі.

— Тэлеграмамі злоўжываеш.

— Каб мог да яго дазваніцца, то не загружаў бы тэлеграф.

— Мне цяжка дазваніцца?

— Вам? — Пыльчанка асекся; не, яму дазваніцца не цяжка, з ім звязваюць у любы час, нават калі ён на кватэры, на дачы.

Але ж... Тонка пад'ехаў, Алёша, дарагі наш шэф! Зачапіла цябе, што я разоў колькі «пераскочыў» цераз абласныя кабінеты. Але ты ў пачатку аварыйнай эпапеі сам заклікаў: «Нікому не давайце спакою – ні Мінску, ні Маскве». Няўжо кіўнулі табе зверху? Во табе і перабудова! Паскорана рухаемся – у які бок? Адчуў – падступае злосць. Спаўзае павольна з мяккіх тармазоў, якія трымалі яго, пакуль стараўся памагчы таварышу. Спалохаўся магчымай успышкі, языка свайго спалохаўся. Таму адказаў з пачцівай пакорлівасцю: – Я думаў, што памагаю вам.

– Памагаў, пакуль мы не валодалі сітуацыяй.

– А цяпер вы валодаеце ёй?

– А ты – не?

– Я? Вы знаеце, я ніяк не магу вырашыць, да каго належу – да песімістаў ці да аптымістаў. Там у нас працуе генерал Волкаў з картаграфічнага ўпраўлення Міністэрства абароны. У вас не быў? З дапамогай навейшай тэхнікі робяць карты радыеактыўных раёнаў з дакладным вызначэннем забруджанасці. Во нам бы атрымаць гэтыя карты! Але пра гэта я напісаў запіску вам. Пра карты я – між іншым. Я – пра генерала. І пра сябе – хто я? Аптыміст, песіміст? Дні тры назад Волкаў гэты кажа мне, цікавая ў нас размова была. «Праз пяцьдзесят гадоў,– кідае ён што бомбу,– увесь палескі генафонд вымра». Мяне апаліла проста. Помню, спытаў, як школьнік: «Што значыць генафонд?» – «Людзі, жывёлы...» Во так! Галавасты генерал. Разбіраецца не ў адной картаграфіі. Але знаеце, што я сказаў яму? «Слухай, генерал, кажу, калі даведаюся, што ты ўводзіш гэта ў вушы людзям – не пагляджу на тваё званне. Вазьму нарад міліцыі, яна падначалена мне, вывезу... не, не за межы раёна – за межы рэспублікі і сам дам каленкам пад зад».

Аляксей Раманавіч адкінуўся на падаконнік і весела засмяяўся, разганяючы далонямі дым, каб не глытаць яго, смеючыся.

– Правільна сказаў.

– Правільна? Сказаў, можа, і правільна, а сам хілюся да яго... да генеральскага вываду.

— Ну, гэта ты мне кінь!

— А вы кажаце: валодаю сітуацыяй. Хто ёю валодае?

Сакратар нахмурыўся і пайшоў за рабочы стол, даўшы зразумець, што аўдыенцыя закончана. Да размовы пра Сінякова не вярнуўся. Нічога не паабяцаў. І Уладзімір Паўлавіч вяртаўся ў раён засмучаны: што сказаць Пятру? Паабяцаў, балбатун самаўпэўнены, што прывязе яму назначэнне ў чысты раён. Прывёз!

Аднак праз месяц, у верасні, Сінякоў пераехаў у Віцебскую вобласць — у органы ўнутраных спраў.

Развітанне было... ніякае, ні халоднае, ні гарачае. Пятро сабраў апарат райкома, запрасіў членаў бюро. Можа, чалавеку хацелася пачуць падзяку за работу сваю. Падзякі ніхто не выказаў. Гаварылі пажаданні. Але і пры добрых словах людзі як бы саромеліся глядзець Сінякову ў вочы. Нерваваўся Пятро. Чакаў, што скажа стары. Пыльчанка змоўчаў, хоць не сумняваўся, што яго размова з Аляксеем памагла Сінякову выехаць, можна лічыць, з гонарам, без трэску. Пыльчанка адчуў настрой райкомаўцаў: як бы ні абстаўляўся пераезд, усё ж элемент дэзерцірства ёсць. У душы пратэставаў супраць такога стаўлення да чалавека, які выязджаў дзеля дзяцей. Але перамагчы сябе не мог. Як людзі — так і ён.

Сінякоў чакаў, што адзін на адзін Уладзімір Паўлавіч усё ж скажа нешта такое, што здыме цяжар з душы.

Сказаў:

— Не забывай!

Магчыма, і гэтыя кароткія словы ўзрадавалі ўцекача, бо доўга не выпускаў руку старшыні, глядзеў на яго вачамі, у якіх, здалося, таялі льдзінкі.

— Не забуду. Хіба гэта можна забыць?!

Сапраўды, забыць гэта нельга, думаў Уладзімір Паўлавіч, едучы ў Бабіна, адкуль у той дзень трэба было праводзіць няхай і недалёка — за сотню вёрст — не аднаго — паўтысячы людзей. О, наколькі цяжэй ім адарвацца ад гэтай забруджанай, але роднай зямлі!

## Раздзел 5

## *«Гракі» не прыляцелі*

### I

У кастрычніку Ірына нарадзіла хлопчыка. Усю радасць бацькоў яе, ды і сваю ўласную, Вольга Андрэеўна прачытала ў кароткай тэлеграме, якую, напэўна, паслала ўсхваляваная Мар'я Пятроўна, бо звярталася да яе адной і зусім нетэлеграфна:

«Сваціейка Ірыначка падарыла нам унука Віншую».

Без подпісу – хіба невядома, ад каго?

Уладзімір Паўлавіч ажно прыраўнаваў:

– А мне, выходзіць, і радавацца не трэба? Ну, сваццця!

Было чаму парадавацца. Але радасць азмрочвалася тым, што бацька народжанага зноў знаходзіўся ў бальніцы, на гэты раз у Мінску. Вольга Андрэеўна ездзіла да яго трохі хіба не так паспешліва, як у Кіеў, і мужа не прасіла – да Мінска штодня хадзіў аўтобус. Зноў яна знайшла сына знешне здаровым. Але цяпер менавіта гэта і спалохала: што яго адсылаюць у рэспубліканскую бальніцу без бачных звычайнаму чалавеку прыкмет захворвання. Не, адзін сімптом угледзела і яна – Глеб паказаў: павялічана шчытападобная залоза.

– Небяспечна гэта?

– Мама! Хіба забылася? Яна ў мяне малога распухала.

Гэта праўда: чым толькі ў маленстве ні хварэў яе малодшы сын, здаецца, да яго ліплі ўсе хваробы. Ад гэтага Глеб быў кволы і надумлівы – баяўся хвароб, з кожным прышчыкам бег да маці, не тое што Барыс, таго і з тэмпературай трыццаць дзевяць у ложку нельга было ўтрымаць.

Уладзімір Паўлавіч чакаў, што жонка на другі ж дзень паляціць глядзець унука. Не, не спяшалася. Не адразу сцяміў – чаму. Зразумеў, калі захапіў яе за швейнай машынкай. Бабуля шыла ўнуку «пасаг». І не толькі шыла. Купляла – падарункі Ірыне, малому, сватам. Здаецца, да вяселля так не старалася. Не саромелася і яму даць даручэнне: купіць Ірыне футра, не больш і не менш. Бадай усе зберажэнні свае, што засталіся

пасля вяселля, зняла з кніжкі. Ды і ён праяўляў шчодрасць, якая самога здзіўляла, бо хоць і не быў скупы, але сялянскую ашчаднасць меў. Каб Вольга папрасіла купіць такое дарагое футра ёй (яна ні разу за ўсё жыццё не дазваляла сабе такія траты), ён, напэўна, не толькі здзівіўся б, але і абурыўся: падумаеш, чаго захацела, пані! А для Ірыны лічыў гэта нармальным. Маладая маці, урач, павінна апрануцца і цёпла і прыгожа.

Нягледзячы на сваю занятасць, з задавальненнем выконваў жончына заданне: акрамя футра патрэбна яшчэ ўсялякая жаночая і дзіцячая драбяза.

Нялёгка было паклікаць старшыню райспажыўсаюза Яфрэма Калошу і звярнуцца да яго з асабістай просьбай. Адносіны ў іх былі складаныя. Пыльчанка разумеў, што не ўсё залежыць ва ўмовах вострага дэфіцыту ад гандлёвага кіраўніка, аднак нярэдка да чырвані распякаў Калошу за забеспячэнне раёна чыстым харчам, спецадзеннем, бялізнай. Той аднойчы не вытрымаў — сарваўся на пасяджэнні выканкома:

— Ды гары яна гарам, такая работа! Лепш у Цюмень паеду, лес валіць.

— Дэзерціра мы і там знойдзем. Рашэнне наша аб выключэнні цябе з партыі знойдзе.

Прыціх чалавек: лес валіць не хацелася, кіраваць хацелася.

З такім «сябрам» прыйшлося гаварыць на інтымную тэму.

— Слухай, Яфрэм. Ты з-пад зямлі дастаць можаш?

— Раней мог. Цяпер — не.

— Дрэнна. Па-навуковаму гэта называецца дэ-гра-да-цыя.

— У народзе гэта прасцей называецца: гаўно дзела.

— Чыё?

— Наша з вамі.

— Ну, тваё — не знаю. А маё — як мае быць. Глядзі, якія рэчы ты павінен дастаць мне,— і падаў спісачак, сачынёны Вольгай.

Калоша глянуў на назву першай пакупкі «футра мутонавае» і лёгенька свіснуў, але вырашыў калупнуць свайго нядаўняга бязлітаснага прабіралу:

— Значыцца, Сінякоў — у Віцебск. А вы куды навастрылі лыжы — у Варкуту ці ў Цюмень, што футра запасці вырашылі?

Пыльчанка не пакрыўдзіўся, засмяяўся — любіў людзей дасціпных і смелых.

— Лапух ты, Яфрэм. І шпільнуць добра не ўмееш. Прачытаў бы далей і варухнуў мазгаўнёй. Дзіцячыя пялёнкі для чаго мне патрэбныя? Нукліды выцерці? Ці на анучы байкавыя? Унук у мяне нарадзіўся! Першы! Знаеш ты, што гэта такое,— першы ўнук?

Ведаў старшыня райспажыўсаюза, бо меў ужо ўнукаў — і першага і другога.

— Ну, калі так, то і з-пад зямлі дастанем. Віншую. Шчыра. Бо веру: цяпер вы падабрэеце.

— Не падхалімнічай. І слухай. Ты ўжо хапаў за парушэнне правіл радыяцыйнай санітарыі. Пастарайся ўзяць на рэспубліканскай базе. Запакуй — хоць у свінец. Але каб стэрыльная чысціня. Усіх тавараў. А то рассцелеш тут перад сваімі бабамі... на нуклідным скразняку... Другая ж месяц спаць не будзе, калі не паглядзіць, што прывезлі для Пыльчанкі. Праверу дазіметрам, будуць брудныя — спішу за твой кошт.

— Добры вы свёкар.

— Не хітруй. Лаўлю я, які ты сэнс укладаеш — свёкар. Сам ты ў якім званні?

— Цесць.

— Цесць, які ўмее грэбсць.

— Куды?

— Не куды, а пад каго. Пад сябе — у першую чаргу.

— Невысокай вы думкі пра нашага брата. Крыўдна.

— Пра цябе высокай. Самай высокай. Не пратрымаўся б ты ў нас дзесяць гадоў. І ордэн табе не павесілі б. Атрымаеш і другі, калі забяспечыш школы чыстым харчам. За школы на

літасць не спадзявайся. Не запісваць будзем – спісваць, без доўгіх ушчуванняў.

Калоша цяжка ўздыхнуў:

– Гэта я разумею. Сваіх двое вучняў, у восьмым і дзесятым. А ўнукаў адашлю. Карайце – не карайце... Хоць і настаўніца дачка...

Пыльчанка ўважліва паглядзеў на свайго памочніка ў вельмі цяжкай працы па забеспячэнні раёна прадуктамі, таварамі. Уздыхнуў, успомніўшы, колькі не хапае іх, настаўнікаў:

– Унукаў адсылай. Не пакараем.

Калоша шчыра ўзрадаваўся:

– Во за гэта дзякуй, Уладзімір Паўлавіч. За гэта я такія падарункі нявестцы вашай дастану! З-пад зямлі. Няхай носіць на здароўе.

У хаце горача. Ажно ў нос ударыла духмяная сухмень пасля асенняга халоднага дажджу, які суправаджаў усю дарогу. Сцены яшчэ не атынкованыя, і на суках у бярвенні выступілі слёзы жывіцы. Пахла расплаўленай смалой, пахла свежай сасной – дашчаныя перагародкі, што адгароджвалі кухню і спальні, не паспелі пажаўцець, збудаваныя, можа, тыдзень-два назад. Нагрэтая сасна аддавала ўвесь свой водар. Яшчэ пахла мохам і глінай, пэўна, і грубка не зусім высахла. Хату прывялі да добрага жылога ладу, калі Ірына была ўжо ў раддоме.

Уладзімір Паўлавіч тут жа ацаніў і якасць цяслярскай работы, нават з пэўнай рэўнасцю: ёсць і тут, на Бабруйшчыне, майстры, зроблена не цяп-ляп, па-пустаходаўску, за кароткі і нялёгкі час – у разгар летне-асенняга прыпару. Малайчына Іван.

Іншае пачула Вольга Андрэеўна: адвечна хвалююць мацярынскую душу ў любым узросце пахі народжанага дзіцяці – пахі жыцця і радасці. Задняя палавіна хаты з рускай печчу, куды яны ўвайшлі па-сялянску без стуку, завешаная пялёнкамі, прасцінкамі, коўдрачкамі. І свякроў парадавалася, што бацька падрыхтаваў Ірыне такія ўмовы. З лёгкім смуткам прыгадала,

як нялёгка прыходзілася ёй, калі нарадзіўся Барыс, і яны жылі на прыватнай кватэры ў малюсенькім пакойчыку, і не было нават дзе пасушыць пялёнкі — адна вузенькая батарэя, ледзь цёплая.

Іх ніхто не сустрэў. Але за перагародкай чуліся галасы — Ірынін і Марыі Пятроўны. Не, яны не размаўлялі паміж сабою. Яны размаўлялі з ім — з новым чалавекам. Адвечнае буркаванне галубак над галубяткам. Словы — што песня, у іх мала сэнсу, але многа хвалюючай музыкі. І радасці, і трывогі.

Вользе Андрэеўне нясцерпна захацелася далучыцца да гэтае песні. Уладзімір Паўлавіч кашлянуў; нядобра падслухоўваць нават песню, калі яе спяваюць не табе.

Марыя Пятроўна выглянула з дзвярэй. Не здзівілася — узрадавалася шчыра:

— Якія госці!

Але пацалавалася толькі са сваццяй. На свата як забылася — і рукі не падала. Уладзіміра Паўлавіча гэта развесяліла: разумеў — не ад крыўды гэта і не ад разгубленасці. Ад пачуццяў.

Марыя Пятроўна мітусілася, спяшалася, быццам госці спазніліся.

— Распранайцеся ж, распранайцеся.

І гукала:

— Ірачка! Паглядзі, якія госці да нас!

— Мама! Я ж спавіваю.

— Спавівай, спавівай, дачушка. Свякроў твая...

— Я чую. Добры дзень, мама. Добры дзень, Уладзімір Паўлавіч.

— Віншуем цябе, Ірына! — весела гукнуў свёкар.

— Дзякую. І вас віншую... І вас.

Павесілі паліто на цвікі, убітыя ў бярвенне. Увайшлі ў залу — у самы вялікі пакой, самы абжыты. Пасярод стаяў круглы стол, які рассоўваўся: сям'я — дзевяць душ! У кутку — тэлевізар. Над ім, у прасценку — вялікі Лізін партрэт, каляровы,— як ікона. Партрэт гэты на нейкі час азмрочыў Уладзіміру Паўлавічу радасць... вярнуў туды, дзе адбылася трагедыя і дзе, ведаў, адбудзецца не адна яшчэ. Заселі ў

галаве словы аб палескім генафондзе. Ніхто яшчэ, нават з зацятых песімістаў, гэтак не выказваўся, як той чортаў генерал. Успамінаў яго — злосна мацюкаў. Згаджаўся з ім і адмаўляў. Ёсць рэчы, якія лепш не ведаць ці лепш не чуць ад аўтарытэтаў. Прасцей было б, каб сказаў гэта любы балбатун, выказванні такіх жывуць, што матылькі-аднадзёнкі. А ёсць словы, кінутыя часам між іншым, мімаходам, а ляжаць яны пасля цяжкім валуном, калі ніхто больш не чуў іх. А даходзяць да людзей — робяцца крылатымі, і тады ад іх або дабро, або вялікая бяда. Не дай божа, каб паляцелі словы аб генафондзе. Ён баіцца іх паўтараць. Здаецца, толькі Пятру ды Аляксею сказаў. Жонцы не расказаў пра сваю размову з Волкавым.

Добра, што Вольгу, здаецца, не скалануў так Лізін партрэт, як яго. Вольга яўна рыхтуецца ўзяць на рукі першага ўнука: абняла грубку, грэла рукі і грудзі.

Немаўля за перагародкай закугакала. Звычайна, як усе дзеці. Але нават яму, дзеду, скептычна настроенаму да жаночых пяшчот, здалося, што голас унука незвычайны. Засмяяўся:

— Басок мужчынскі. Шаляпінскі. Якое імя дамо?

— Ужо далі,— сказала свацця, задаволеная, што паведаміць прыемнасць, зрабіла паўзу, углядаючыся, з якой увагай чакаюць сваты.— Уладзімір. Па дзеду. Каб быў — як дзед.

Уладзімір Паўлавіч здзівіўся, што яго гэта расчуліла і збянтэжыла.

— Ну, дзед Амерыкі не адкрыў. Можа, хіба свой раён закрыць.

— Закрыць? — У дзвярах з'явілася Ірына, трымаючы на выцягнутых руках спавітую ляльку. Бледнасць на твары яе трымалася, пэўна, яшчэ ад родаў.

А Уладзіміру Паўлавічу здалося, што яна пабляднела ад яго слоў пра раён. Супакоіў:

— Ды не, ніхто яго не закрые, дачка,— і да жонкі: — Прымай, бабуля, скарб.

Вольга Андрэеўна ўмела ўзяла дзіця, пацалавала ў шапачку, прыціснула лялечку да шчакі сваёй. З вачэй яе капнулі на блакітную коўдрачку буйныя, як боб, слёзы.

— А Глеб не бачыў...

— Пабачыць, мама, пабачыць,— упэўнена і бадзёра адказала Ірына, забіраючы малога.

Свёкру не перадала, ды ён, напэўна, і пабаяўся б узяць. Дзіця перахапіла Марыя Пятроўна і панесла ў спальню.

Знаёмства з новым чалавекам скончылася. Наступіла чарга ўручэння падарункаў.

Футра Ірыне паднёс сам Уладзімір Паўлавіч. Распакавалі ў задняй палавіне хаты. Унёс на растапыраных руках, як добры кравец, і артыстычна, быццам усё жыццё апранаў жанчын у футры, накінуў яго на плечы нявесткі.

Ірына бадай спалохалася:

— Мне?

— Табе, табе, Ірачка.— Вольга Андрэеўна заваліла стол падарункамі народжанаму, свацці, Лізіным сіроткам, добра, што дзяцей не было дома, а так напэўна б не абышлося без слёз.

— Мама! Мне! — ужо зусім па-жаночы радавалася Ірына.— Ой, дзякую, мама, Уладзімір Паўлавіч... Такую і не кожная міністэрша мае.

Знікла ў спальні, скінула там халат, надзела спадніцу, кофтачку, абула чаравікі на высокіх абцасах і выйшла хадою манекеншчыцы з салона мод. Тэатральна абышла вакол стала, як бы пытаючыся: «Ну, як я?» Жанчына ёсць жанчына! А ў Ірыны занадта было трывогі, каб дазволіць сабе радасць хоць на міг.

Марыя Пятроўна пляснула ў далоні:

— Дачушка ты мая!

Зноў праслязілася Вольга Андрэеўна, ажно муж у думках асудзіў яе:

«Здае мая Вольга — плаксай робіцца».

Сам ён па-мужчынску залюбаваўся нявесткай: «Харошанькая маладзічка! А як яшчэ пахарашэе, калі ачуняе пасля родаў». Але адначасова адчуў і трывогу, боль, своеасаблівую рэўнасць — за сына. Ці прынясе прыгажосць, вось такія жаночыя жэсты, што могуць зачараваць любога мужчыну, радасць хвораму Глебу? Узнікне рэўнасць, няхай і беспадстаўная,

і атруціць хлопцу жыццё; нукліды падазронасці, рэўнасці страшнейшыя за нукліды ёду і цэзію. І сам на сябе ўзлаваўся, што клюнуў на жаданне жонкі зрабіць такі дарагі падарунак, што ганарыста цешыцца ім і ўвогуле займаецца не мужчынскай справай — разбірае з бабамі анучы.

— Ну, ты, жонка, тут цешся ўнукам. А я паеду Івана знайду. Дзе яго шукаць?

Пустахода знайшоў лёгка — ферма здалёк відаць. На самой ферме ўжо прыйшлося спытаць, дзе загадчык. Паказалі беспамылкова: у аддзяленні племянных кароў-галандак.

Іван, яшчэ больш схудалы, нядобра згорблены, але чыста паголены, у бялюткім халаце — як стары прафесар. Узрадаваўся прыезду свата. Але ж першае пытанне:

— Ірыначку бачыў?

— І ўнука бачыў.

— Як яна перадрыжала, небарака, і мы ўсе разам з ёй. У Томачкі ажно тэмпература падскочыла, калі цётку павезлі ў раддом. Якое яно народзіцца, дзіцятка? У цябе не з'ўлялася жаданне маліцца? А мне захацелася... Мы з Машай у прыёмным пакоі да поўначы сядзелі. Нас выганялі. І раптам выйшла пажылая сястра: «Пустаходы? Унук у вас. Харошанькі хлопчык. Чатыры дзвесце. Можаце ехаць дадому...» Ты знаеш, колькі сваіх нарадзілася... шасцёра! Ніколі не пераждываў такога. Маша плакала ад радасці. Во як яно бывае, Валодзя!

«Радуйся, Іван. Пра словы Волкава я табе не скажу. Пайшоў ён к чорту, генерал. Калі яму паверыць — жыць не трэба...»

Іван Іванавіч вадзіў госця па кароўніку, не без гонару паказваў багацце племяннога саўгаса.

— Мы з Віктарам хацелі цёлак у арэнду ўзяць... гэтых, племянных... Ды Маша паглядзела, замахала рукамі: не, не, не выцягнеце вы без Лізачкі. Так яна і жыве з намі — суддзёй усяму, што робім. Сіроткам сваім прыклад,— і спыніўся, высока ўзняў галаву, глянуў свату ў вочы.— Валодзя! Вернемся мы да... яе магілы?

— Да магілы, Іван, можна вярнуцца. Да жыцця нельга! Дзецям яе! Нельга, Іван!

— Ніколі?

— Ды яны, калі вырастуць, вывучацца,— самі не захочуць.

— Ды я не пра іх. Пра сябе.

— Не спяшайся, Іван. Не спяшайся.

— Ды ты хоць надзею дай.

— Я не Бог, Іван. Нават не акадэмік-атамнік.

— Сам ты не тамашні, а нікуды не выязджаеш.

— І не выеду. Мне можна. Трэба. З людзьмі трэба быць. Выедуць людзі — выеду і я. А табе нельга. У цябе — дзеці. Лізіны.

— Бачыў такі халадзільнік? Шведскі,— нечакана крута павярнуў Пустаход размову на гаспадарку.

Перад вячэрай купалі Воўку. Першы раз. Падзея! Купанне, і не першае, заўсёды падзея, цэлы рытуал. Звычайная працэдура ператвараецца ў свяшчэннадзейства. Дзіця голенькае хаваюць ад чужых — баяцца дурнога вока. А сваім можна глядзець. Ды і куды дзенешся ў сялянскай хаце? Пустаходава хата перагароджана. Аднак ні маці, ні бабулі не выставілі мужчын у заднюю палавіну. Адзін Віктар выйшаў. А так сабралася ўся сям'я.

Стол рассунулі. На адным краі паставілі ванначку, на другім паслалі коўдрачку, пялёнкі. Жанчыны чарадзейнічалі над вадой. Меўся ў Ірыны градуснік. Але яму не верылі. Марыя Пятроўна і Вольга Андрэеўна мацалі ваду даўнім сялянскім спосабам — локцямі, кісці рук у ваду ніколі не апускалі, толькі локці. Гігіена? Ці проста загрубелая ад працы адкрытая рука не мела той адчувальнасці, што закрыты локаць?

Следам за бабулямі гэтак жа памацала ваду Тома і аўтарытэтна сказала:

— Трэба падліць цёплай.

Дзяўчынка ажно расчырванелася ад узбуджанасці. Гэтае капіраванне маленькай жанчынкай дзеянняў дарослых кранала старых мужчын. А Ваня прыкідваўся, што яго, мужчыну, мала цікавіць бабская справа, нібыта ўткнуўся ў тэлевізар, гук якога прыглушылі, аднак кожную хвілінку знаходзіў прычыну азірнуцца. А дзяды, хоць іх упачатку і адціснулі ў куты, глядзелі з радасцю і цікавасцю малой Томы.

Ірына і маці яе паспрачаліся, каму распавіць малога, каму апусціць у ванначку. Але і гэта, бадай, адвечная ігра паміж маці, што вырасціла вунь колькіх — сваіх, унукаў, і дачкой, якая мала што адукаваная, а азбуку догляду дзіцяці толькі пазнае.

Безумоўна, Марыя Пятроўна разгарнула дзіця, узяла на рукі, пад попку і пад галоўку, у пялёначцы, у якой належала апусціць яго ў ваду. Але неяк ссунула пялёначку на спінку і паказала маленькага ружовенькага яшчэ чалавечка ва ўсёй яго чароўнай прыгажосці.

— Паглядзі ж, сваток, на ўнучачка,— заўсёды звярталася на «вы», а тут забылася на ўмоўнасці.— Паглядзі, які ён харошанькі! І ўсё ў яго на месцы. Ручачкі, ножачкі... Носік, вушкі — бацькавы. А вочкі — маміны. І пупок адваліўся. Таму купаем Вовачку.

Уладзіміру Паўлавічу ажно заняло дыханне. Толькі, можа, у той міг да яго дайшла глыбіня страху, якую перажылі гэтыя блізкія яму людзі. Ён, магчыма, менш, чым кожны з іх, думаў пра гэта, хоць таксама часам халадзеў ад такіх думак. А цяпер падумаў, як і належала яму па праву і абавязку: і такі страх будуць перажываць тысячы людзей перад тым, як нарадзіць на свет дзяцей сваіх. І колькі гэта можа працягвацца? Не год, не два, не пяць. Пяцьдзесят? Сто? Ідзі скажы людзям, што яны будуць жыць пад такім страхам стагоддзе!

«Не, Волкаў, людзі — не генафонд! Генафонд — у свірне. Яго можна не сеяць. А людзі будуць сеяць. І будуць жаць!»

— Глядзі ж, сваток, якога багатыра мы табе падарылі!

— Мама! Што вы яго выставілі, як на вітрыну? Прастудзіце.

— Вовачку купанькі будзем. Купанькі майго саколіка.

Спачатку памачыла ў ванначцы ножкі хлопчыкавы. Потым, гушкаючы, апусціла ў ваду. Дзіця закугакала.

— Спужаўся, галубчык мой. Не бойся, саколічак. Не бойся. Скора ты палюбіш вадзічку. Ой, як палюбіш! З вадзічкай сілу набіраць будзем, расці. Вялікі, вялікі Вовачка вырасце!

Дзяды, абодва, наблізіліся да стала, схіліліся над купеллю.

Бабуля асцярожна плёскала ваду паміж ножак дзіцяці, абмываючы магчымыя апрэласці.

Іван Іванавіч расчуліўся да слёз і, каб неяк прагнаць гэтую бабскую чуллівасць, запознена грубавата пажартаваў:

— Ты глядзі на мужчынскі інструмент: на месцы ён — значыцца ўсё нармальна.

Засмяяўся адзін Ваня — быццам бы ад тэлеперадачы.

Пасміхнулася Марыя Пятроўна:

— Радуйся, дзед, радуйся. А ты, дачка, не ўздыхай. Наўздыхалася.

— Ах, мама. Я супакоюся тады, калі Валодзька жэніцца і ў яго народзіцца нармальнае дзіця.

Марыя Пятроўна сярдзіта цыкнула на дачку:

— Не гняві Бога, Ірына!

— Ён даўно разгневаны.

Уладзіміру Паўлавічу таксама не спадабалася такое філасофстваванне над купеллю дзіцяці.

Ён строга сказаў:

— За падобныя размовы я генерала аднаго выставіў з раёна. Не наганяй людзям страху!

— Во і я кажу так,— падтрымаў Іван Іванавіч.— Мы яшчэ дадому вернемся.

І гэтым нагнаў смутак на жонку. Марыя Пятроўна змоўкла, сцяла вусны, сцерла радасную ўсмешку з твару і як бы адхілілася ад усіх, акрамя дзіцяці — яму ўся ўвага і ўсе ласкавыя словы.

А Вольга Андрэеўна любавалася дзіцяткам, давала кароткія парады са свайго мацярынскага вопыту. Але радасць яе была азмрочана. Ёй здалося яшчэ да купання, яшчэ тады, калі муж аглядаў гаспадарку, а яна памагала нявестцы і сваццi гатаваць вячэру, што яны як бы пазбягаюць размовы пра Глеба. Дапускала, што робяць гэта менавіта таму, каб не азмрочваць і сваю і яе радасць. Але ж калі гэта так, то гэта страшна: лічаць яго безнадзейна хворым. Дапускала свой мацярынскі эгаізм, калі хочацца, каб усе размовы ішлі толькі пра яе дзяцей. Але ж хіба маленькі Валодзька не яе дзіця, не часцінка Глеба,

гэтакая ж дарагая, як і сам Глеб! Прызнавала, што аварыя зрабіла яе хваравіта надумлівай. І аднак... Калі ў часе купання гаварылі пра дзіця, пра маці, радуючыся і нават жартуючы, і зноў ніхто не ўспомніў пра бацьку, на душы ў маці стала вельмі цяжка. Кропля, якая перапоўніла чашу яе гора, упала ў часе вячэры. Сказалі першы тост за Валодзьку, стрыманы, але самы радасны.

Другі тост за маму — натуральна. І раптам Іван Іванавіч, стары, мудры чалавек, якога Вольга паважала, прапусціўшы бацьку, прапанаваў тост:

— А цяпер за бабуль — за Вольгу і Машу. Вы, Вольга Андрэеўна, яшчэ не знаеце, што такое — быць бабуляй. Колькі радасці і колькі клопату!

І бабуля, якая павінна была найбольш радавацца,— першы ўнук, не вытрымала і заплакала. Сапсавала вячэру. Усе вельмі ўстрывожыліся — Ірына, дзеці, Іван Іванавіч, Віктар, Поля,— абходжвалі яе, паілі валяр'янкай.

Уладзімір Паўлавіч прыкметна злаваўся, але токі яго незадаволенасці перадаваліся толькі ёй, і гэта перашкаджала Вользе Андрэеўне супакоіцца.

Адна Марыя Пятроўна, магчыма, усё зразумела:

— Нічога, нічога. Гэта бывае, бывае. Дайце ёй паплакаць. Паплач, свацейка, паплач. Не саромейся — усе свае.

Яна выцерла слёзы, рашуча ўзняла чарку:

— Вып'ем за Глеба!

— Канешне, вып'ем. Яшчэ як вып'ем! — схамянуўся, папраўляючы памылку, Іван Іванавіч.

А потым напіўся Віктар і таксама плакаў. Па Лізе. Разжалобіў дзяцей. Заплакала наўзрыд Томачка. Як ні трымалася — не ўтрымалася маці.

— Падсаліла ты вячэру,— незадаволена буркнуў Пыльчанка, калі ўкладаліся спаць.

Ён хутка заснуў, хроп. А Вольга Андрэеўна не спала ўсю ноч. Думала пра сыноў. Усё цяжэйшым і цяжэйшым рабіўся камень, што даўно ляжаў на мацярынскім сэрцы. Рос, ператвараўся ў цэлую гару, якая вось-вось сплюшчыць трапяткое сэрца.

Вользе Андрэеўне стала трошкі лягчэй, калі вельмі рана — яшчэ не праспявалі трэція пэўні — пачула яна, як падняліся, што па камандзе, Ірына і сваццця, хоць яны і да таго падымаліся разы два — на плач дзіцяці. У начной цішыні пачула, пра што яны шэпчуцца — што згатаваць Глебу, каб давезці гарачанькае да бальніцы. І шэпт гэты — што бальзам, цудадзейна гаіў раны матчынай душы, якія яна сама ж, не хто іншы, развярэдзіла ўвечары, калі ў кубку яе змяшалася і салодкая радасць, і горкае гора.

Супакоіў шэпт нявесткі з маці — пра яго, пра Глеба, у Ірачкі клопат! — і яна, знядужаная перажываннямі, заснула і паспала гадзіны тры. Нават зборы на працу свата, Віктара, Полі, дзяцей — у школу, трэск дроў у печы, поранне гаспадынь не пабудзілі яе. Разбудзіў знаёмы шум электрабрытвы. Галіўся муж. Ёй ажно няёмка стала.

— Божа! Якая я соня! Як маладуха.

А развітанне зусім зняло ўсю надумлівасць, усю яе падазронасць.

Ірына ў гарачым парыве моцна абняла яе, пацалавала.

— Мамачка! Пацалуйце Глебушку за мяне і за Валодзьку. Я хутка прыеду. Толькі трошачкі ачуняю. І скажыце: я люблю яго. Я вельмі люблю яго.

І не трэба было маці іншай радасці, як гэтыя нявестчыны словы.

У машыне Уладзімір Паўлавіч пахваліў яе:

— Малайчына ты ў мяне сёння! Выспалася. Ты добра спала. А мне не спалася.

Вольга Андрэеўна моўчкі пасміхалася.

## II

Яна ўвайшла ў палату... і ледзьве не самлела. Не, нічога страшнага там не было. Двое хворых сядзелі на засланых коўдрай ложку і гулялі ў шашкі. Адзін з іх Глеб. З твару, з постаці ён не змяніўся. Але за няпоўны месяц, як наведвала яго, ён... палысеў. Жах! Нялёгка ўявіць, што перажыла маці, убачыўшы дваццаціпяцігадовага сына палыселым.

Глеб узрадаваўся маці. Праўда, ён ніколі не выяўляў сваіх пачуццяў, як Барыс. Ён і цяпер, дарослы, нечым нагадваў таго піянера, які саромеўся, калі ў лагер да яго прыязджала маці з торбай прысмакаў; ён саромеўся, што яго бацькі мелі магчымасць прывозіць лепшыя гасцінцы, чым вазілі іншым, і аднойчы папрасіў іх не вазіць нічога.

Глеб сказаў радасна, але як бы здзіўлена:

— Мама!

Падняўся, ступіў да яе. Але ён ніколі не цалаваў першы. А Вольга Андрэеўна таксама разгубілася: яна баялася яго абняць — баялася, што заплача; у бальніцы яна ні разу не заплакала, ні ў Кіеве, ні тут, у Мінску. Так нейкі момант яны стаялі адно перад адным, не ведаючы, што рабіць. Аднапалатнікі (трэці сядзеў з кнігай каля акна) трохі здзіўлена глядзелі на іх.

Урэшце абняла яго, асцярожна, як цяжкахворага. Вельмі хацелася прытуліць яго галаву да грудзей, пацалаваць і сагрэць гэтую страшную лысіну дыханнем, цеплынёй сваёй. Так і падумала — што Глебавай галаве нязвыкла холадна; лысіна ўяўлялася ёй незакрытай ранай.

Знайшла ход: адступіла на крок і сказала гучна, бадзёра — як здолела:

— Ой, я ж не з таго пачынаю. Віншую цябе з сынам, Глебушка. Які хлопчык! Які хлопчык! Каб ты пабачыў. Учора мы пакупалі яго першы раз.

І зноў абняла сына. Пацалавала ў лоб, у адну шчаку, у другую — як перахрысціла.

— Як? У цябе нарадзіўся сын? І ты маўчыш? — весела выгукнуў таварыш па няшчасці, з якім Глеб гуляў у шашкі.— Ну, жмінда! У дзве гадзіны пашлём Насцю па каньяк. Яна дастане!

— А вам... можна? — наіўна спытала Вольга Андрэеўна.

— Нам, маці, усё можна. Мы геніяльныя сімулянты, як назваў нас адзін вясёлы прафесар. Нашы хваробы не апісаны ні ў якіх трудах. Не дайшла навука да нашых хвароб.

Хлопцы далікатна выйшлі, каб даць маці і сыну пагаварыць сам-насам. Выйсці было куды: паспешліва створанае

радыелагічнае аддзяленне размясцілі ў філіяле рэспубліканскай бальніцы, які будавалі і абсталёўвалі для самых выбраных несмяротных. Мармуровыя холы. Нават зімовы сад. Ідэя філіяла належала Дырэктару, і ён не шкадаваў грошай. Але ён жа і зрабіў шырокі жэст: узваліўшы віну за раскошу на «стрэлачнікаў», аддаў філіял пад лячэбніцу для тых, хто ў зоне аварыі набраў лішнія бэры.

Глеб павесялеў, застаўшыся з маці, староннія людзі яго заўсёды бянтэжылі.

— Як там Ірына?

— Усё нармальна, сынок. Усё нармальна. Ніякіх асладжненняў. Загадала моцна-моцна цалаваць цябе. Ад сябе. І ад Валодзькі.

— Гэта я напісаў, каб дала імя такое. Дзе ён, бацька наш? Выбівае дазіметры? — іранічна пасміхнуўся.— Быццам у дазіметрах ратунак.

— Ён скора прыйдзе. Да прафесара паехаў.

— На чорта мне той прафесар! Ты не знаеш, колькі іх тут было, прафесараў. Нашых, з Масквы. Аўстрыец быў... Колькі іх на нас абароніць дысертацыю!

Вольга Андрэеўна выкарыстала размову пра прафесараў, каб перавесці размову на яго самаадчуванне, пра што хацела спытаць у пачатку сустрэчы, але вырашыла перш-наперш падарыць яму радасць — віншаванне з сынам, Ірыніны пацалункі.

— Ну, як ты, сынок?

— Нічога, мама. Толькі вось,— і пагладзіў лысіну.— Іра не пазнае.

— Ад чаго гэта, Глебушка?

— А хто знае! Навука не дайшла, як кажа Павел Целеш. Ён з нашага раёна, трактарыст з «Партз'езда». Сеяў у той дзень. І на другі. І на трэці. Гналі план да Мая. Вось так і гналі планы,— Глеб як адводзіў размову ад сябе.

Але маці вяртала да таго, што, разумела, яму баліць, трывожыць.

— А пра Ірыну не думай так. Ірына — ты знаеш, якая яна! Праводзіла мяне — абняла і кажа: «Перадайце Глебу, што я вельмі-вельмі люблю яго». Яна прыедзе да цябе...

– Дзіця кіне...– шчыра запярэчыў малады бацька.

– Нічога дзіцяці не здарыцца з такой бабуляй, як Мар'я Пятроўна. Не на тыдзень. З Віктарам на «Жыгулях» яго – паўдня адлучкі. Дай ёй толькі трошкі акрыяць. Напішы, каб грудзі закрывала. Каб мастыт не нажыла.

Хораша было з маці. Шырокай паводкай плыла размова. Лёгка пераходзілі з тэмы на тэму. Успаміналі толькі даўняе, былое – радаснае, вясёлае.

Глеб ажыў.

Страх смерці, моцны, стрэсавы, ён пераажыў аднойчы, калі там, на станцыі, страціў прытомнасць і апрытомнеў у машыне «хуткай дапамогі». Вось там і ўдарыў ён, гэты страх, так, што ўспамін пра яго вострым болем адгукаецца ў галаве і цяпер. Але, дзякуй Богу, гэта здараецца рэдка, часам у бяссонныя ночы. Пераехаўшы ў чысты горад, жывучы бадай што ў шчасці – з маладой жонкай, якая чакала дзіця, ён пачуваў сябе нармальна. Пакуль зноў не самлеў на нарадзе ў дырэктара цеплацэнтралі. На гэты раз не спалохаўся, Ірыне не прызнаўся, але параду свайго ўрача выканаў: тэрмінова ехаць у Мінск, у радыелагічны цэнтр. Думаў, на тыдзень-два, як у Кіеве. Валяецца паўтара месяца. Сумуе ад бяздзейнасці. Ад яе ж, пэўна, слабее і фізічна, пагружаецца, як у сон, у нейкую брыдкую апатыю, калі мала што цікавіць. Паспаў, паеў, схадзіў на працэдуры, пагуляў... Мімаволі робішся хворым, хронікам.

Іншыя шумелі, лаялі начальства, выказвалі прэтэнзіі ўрачам, сварыліся з сёстрамі. Глеб ні на кога злосці не меў. Ён заўсёды быў добры. А тут, у бальніцы, яшчэ больш падабрэў. Сябры па няшчасці лаялі яго за такую дабрадушнасць, лагоднасць – за талстоўства, як сказаў адзін інтэлектуал. Добра яшчэ, што ніхто з іх не думаў, што ён прытворшчык, сімулянт; адукаваныя парабіліся, разумелі, што радыяцыя дае самыя загадкавыя сімптомы сапраўды, можа, нявывучаных хвароб. Адзін зрабіўся буйны, агрэсіўны, ударыў сястру, яго ізалявалі. А Пыльчанка вось такі: усё больш ляжыць, глядзіць у столь, пагаварыць лішне лянуецца, пагуляць у шашкі – не падняць.

Каб Вольга Андрэеўна ведала, як Глеб змяніўся з яе прыездам,— во парадавалася б!

Уладзімір Паўлавіч яшчэ з дому пазваніў былому міністру аховы здароўя, доктару медыцыны, які ў першыя пасляаварыйныя тыдні тройчы наведваў раён і з якім ён амаль пасябраваў; было штосьці агульнае ў іх характарах. Папрасіў: калі не сам ён, то няхай хтось з яго калег, блізкіх да лячэння падобнага захворвання, паглядзіць Глеба і скажа — не хвораму! — яму, бацьку, усю праўду, нават калі яна і жорсткая.

— Прыязджай, штось прыдумаем,— паабяцаў прафесар.

Абяцанне выканаў. Прывёз з сабою ажно двух спецыялістаў.

У палату ўваліўся цэлы натоўп: трое прафесараў, галоўурач, лечачы ўрач, дзяжурная сястра, Пыльчанка. Занялі свае месца хворыя — ляглі на ложкі. З суседніх палат ціснуліся паслухаць такі прадстаўнічы кансіліум, але перад імі зачынілі дзверы. І хворыя ў калідоры выказваліся аб прафесарах не вельмі пахвальна. Асабліва чамусьці не любілі анколага — сівую жанчыну, якая часта наведвалася сюды. Да характару яе прэтэнзій не мелі — бабуля як бабуля, не любілі, пэўна, з-за страху перад хваробай, бо ўсе лічылі, што апрамяненне абавязкова канчаецца ракам, а гэтую заразу лячыць не ўмеюць; таму і не любілі прафесаршу, што перакананы былі — і яна не ўмее.

Вольга Андрэеўна ведала, што муж паехаў па прафесара, але столькі ўрачоў спалохала яе. І Глеб, яе ціхоня Глеб, які заўсёды вызначаўся далікатнасцю ў адносінах з людзьмі, быў незадаволены. Адразу вызначыў, хто старэйшы ў кансіліуме, і сказаў Мікалаю Яўменавічу:

— Вам не здаецца, прафесар, што вы ператвараеце нас у паддоследных трусоў?

— А ты хочаш быць толькі героем? Не, брат, пабудзь і трусікам. Героем ты ўжо быў.

— Які я герой!

Гісторыю хваробы праглядалі ўсе трое, ссунуўшы ў букет тры белыя шапачкі.

Першым круціў Глеба ўролаг, мацаў і стаячага і ляжачага, стукаў кулакамі ў ныркі.

– Баліць?

– Не.

– Герой!

Пры гэтым проста непрыстойна дапытваўся:

– Мочышся без болю?

– Нармальна.

– Жонку сніш?

Добра, што выручыў жартаўнік Павел Целеш:

– Доктар! Вы думаеце: на здароўе, калі сніш уласную жонку? Не-е! Во калі чужых баб сніш – гэта на здароўе. Як сасніў – лічы, ачуняў, уцякай з бальніцы.

Рассмяшыў нават прафесара-анколага, якая наўрад ці калі ўсміхнулася пры хворых.

– Ты кім рабіў?

– Трактарыстам.

– У калгасе?

– Ага.

– Моцна ты, відаць, весяліў там у сябе дзяўчат?

– Ого, яшчэ як! Але не дзяўчат – больш маладзіц.

– І як рэагавала на тваю весялосць жонка?

– Дык вось жа... ад чаго лысею. Выскубла ўсе валасы. Жонкі, яны такія! Я тут Глеба вучу... Няздольны вучань! Культуры многа.

– Культура, па-твойму, шкодная?

– Што вы! Ад чаго ўсе беды – аварыі такія, хваробы нашы? Ад культуры.

– Не ад культуры. Ад цывілізацыі,– сур'ёзна сказаў хударлявы неўрапатолаг.– Культура можа быць і ў непісьменных, а ў тых, хто ўзброены камп'ютэрамі,– бескультур'е. Во гэта бяда нашага часу.

Неўрапатолаг яшчэ даўжэй выстукваў сваім малаточкам, прымушаў высоўваць язык, ашчэрваць зубы, прысядаць, згінаць рукі, ногі. Усё гэта рабілася ў той жа паслядоўнасці многа разоў. Запісвалі ў гісторыю і нічога не казалі. І гэта Глеба асабліва раздражняла. Астатнія спецыялісты хоць разважалі

ўголас, аналізы паведамлялі. Неўрапатолаг і псіхіятр глыбакадумна маўчалі. Ад гэтага здавалася, што толькі яны выявілі галоўную хваробу — такую, пра якую і гаварыць страшна нават паміж сабой, у сваім асяроддзі.

Пракансультавалі Глебавых суседзяў — нельга ж было аднаго яго. Павел разумеў, што іх — за кампанію, і адкрыта кпіў, праўда, у межах прыстойнасці, з прафесарскай глыбакадумнасці. Ён не верыў ім. Верыў аднаму ўрачу — які лячыў, Наталлі Генадзеўне, бо даўно адкрыў: што яна запісала ў першы дзень лячэння, тое паўтаралі ўсе кансультанты.

Анколаг сціла вусны. Неўрапатолаг дакорліва ківаў галавой. Толькі экс-міністр і Пыльчанка падтрымлівалі Паўлавы жарты. Вольгу Андрэеўну абурала перш за ўсё мужава несур'ёзнасць: знайшоў дзе блазнаваць! Сама яна з хваляваннем, ад чаго ажно перасохла ў роце, і з асаблівай увагай лавіла кожнае слова дактароў навук не толькі тады, калі яны варажылі над Глебам, але, можа, з яшчэ большай увагай — калі выслухоўвалі і мацалі іншых. Ёй здавалася, што нехта з іх расслабіцца і міжволі выкажа тое, чаго не выказаў наконт хвароб яе сына. Яе спалохала, што Глеб пасля аптымістычных заключэнняў уролага звяў. Ляжаў, падсунуўшы рукі пад палыселую галаву, і быў абыякавы да таго, што рабілася навокал, наўрад ці слухаў, пра што гаварылі і ўрачы і сябры яго.

Размову вялі ў кабінеце галоўнага ўрача. Але без маці. Чаму ніхто не запрасіў маці? Звычайная няўважлівасць, якая стала нормай? Прафесары больш уважліва чыталі гісторыю, перакідваліся спецыяльнымі тэрмінамі. Зрабілі ў тоўстай гісторыі запіс, усе трое паставілі свае подпісы. Выканалі прафесійны абавязак.

Вясёлы ўролаг на гэты раз сур'ёзна і паважліва сказаў Пыльчанку:

— Ну, што мы вам, Уладзімір Паўлавіч, мусім сказаць? З поўнай згоды ўсіх,— іранічна пасміхнуўся,— што нячаста бывае. Адно цвёрда можна сказаць, суцяшальнае: анкалагічнага захворвання няма. І хворыя і блізкія іх перш за ўсё баяцца гэтага. Іх можна зразумець, хоць у цэлым страхі перабольшаны...

– Дык мала ж часу прайшло,– сказаў Пыльчанка.

– Я не пра аварыю. Пра анкалогію ўвогуле. Я дам статыстыку, колькі мы вылечваем. А там, на захадзе, працэнт удвая большы. Праклятыя буржуі абганяюць нас.

– Мяне цікавіць мой сын.

– Разумею. Адкіньце страх! Той, найбольшы.

Тут Уладзімір Паўлавіч падумаў, што дарэмна не ўзяў жонку.

– Але разам з тым не будзем таіць праўды. Хвароб у хлопца букет. Ці ўсе з'яўляюцца вынікам апрамянення – я не адважыўся б сцвярджаць.

– Хлопец рабіў на станцыі.

– Хапіў ён дозу немалую – гэта так. Але ў анамнезе запісана, што ў маленстве ён перанёс нямала хвароб. Так? Так. Паталогія была.– Прафесар звярнуўся да калег.– Мы зараз многа ломім коп'яў, але ў адным згаджаемся: апрамяненне перш за ўсё парушае імунную сістэму. Зніжае ахоўныя функцыі. Во гэта, мажа, самае страшнае. Шумы ў сэрцы ў яго маглі быць і раней. І кішэчнік. І ныркі,– прафесар зазірнуў у гісторыю хваробы.– Зніжаны зрок. Але калі ён правяраў вочы? Зніжэнне зроку – хвароба большасці людзей. Вось так і іншае,– галоўнаму ўрачу: – Трэба сабраць усе гісторыі хвароб гэтых людзей.

– На Пыльчанку запыталі Кіеў, Чарнобыль – пакуль што ніякага адказу.

– Наш стыль! – хмыкнуў неўрапатолаг.

– Скажыце там у сваёй акадэміі! На хворых такіх патрабуецца поўная інфармацыя. Так нельга працаваць! – амаль узлавана кінуў уролаг акадэміку.

– Чаму ён палысеў? – спытаў Уладзімір Паўлавіч, бо тое, што Глеб страціў валасы, і яго моцна ўразіла і спалохала.

– Гэта карціна знаёмая. І гэта не самае страшнае.

– Целеш схапіў не менш. Аднак у яго вунь якая чупрына. Лічыць: толькі і страты – што жонка выскубла.

– Палысець чалавек можа ад стрэсу,– сказала анколаг.

– Ну, гэта праблематычна,– не згадзіўся акадэмік.

— Валасы адрастуць,— запэўніў уролаг.— Увогуле, Уладзімір Паўлавіч, скажу вам яшчэ адно для заспакаення: крызісны перыяд мінуў. Невылечных паражэнняў не адбылося. Але мушу сказаць і суровую праўду: лячыцца Глебу прыйдзецца доўга. Будзе трымацца астэнія — павышаная стамляльнасць. Небяспечная ўспрымальнасць да інфекцый. Карацей кажучы, пэўны час бацьку сямейства трэба будзе берагчыся, як малому дзіцяці. Добра, што ў яго жонка ўрач. У Светлагорску? Во там няхай і сядзіць, калі выпішацца адгэтуль. У ваш «праслаўлены» раён няхай наведваецца як можна радзей. Што хочуць дадаць мае калегі?

Калегі дадалі нямала, асабліва неўрапатолаг, па частцы радыяцыйнай медыцыны, дыягназу Глебавых хвароб, прагнозаў яго і ўвогуле прагнозаў здароўя людзей.

Яны былі нібыта і суцяшальныя, прагнозы. Уладзімір Паўлавіч падзякаваў медыкам. Але ўвогуле размова зрабіла на яго цяжкае ўражанне. Не разумеў, не ўмеў растлумачыць — чаму? Не прафан ён у радыяцыі. За паўгода многа пазнаў — прачытаў, паслухаў спецыялістаў многіх галін навукі — фізікаў, біёлагаў, медыкаў... І аднак... Ніякія веды не ратуюць ад душэўных пакут, калі хварэе **тваё** дзіця. Тут ён разумеў маці і падумаў ужо інакш: добра, што не прысутнічае Вольга. Няхай лепш даўжэй пабудзе з сынам, аптыміст Павел Целеш заспакоіць яе лепш, чым пяць урачоў.

## III

Вылятаалі «гракі» часта. Але палёты кароткія. На такой хуткасці можна за дзве гадзіны ў Ташкент злётаць. А радыус іх зоны дзеяння абмяжоўваецца сотняй кіламетраў, рэдка кідалі далей — для масіраваных удараў па скапленні маджахедаў. Але ў тым і бяда, што скапліваліся яны хіба для штурму гарадоў і, у выпадку няўдачы, разляталіся, што ўзняты смерчам пясок. Няўлоўныя.

Кароткія вылеты пілотаў не радавалі. Пра гэта апошнім часам не баяліся гаварыць начальству. Лічылі прыніжэннем

на такой машыне ганяцца за дзесяткам апранутых у лахманы, барадатых людзей, хоць і ўзброеных самымі новымі англійскімі аўтаматамі.

Больш ахвотна выляталі на разведку, тут хоць «прагон» большы – «начарціць сетку». І работа – фотаздымкі.

З азартам выконвалі хіба адно баявое заданне – падавіць ракетныя ўстаноўкі маджахедаў. На гэтую сучасную зброю мелі злосць. Ракеты неаднойчы абстрэльвалі іх схаваны паміж гор у вузкай даліне аэрадром. Загінулі таварышы. Ракетамі бамбяць Кабул, іншыя гарады. Гінуць дзеці, жанчыны.

«Стынгеры» збіваюць часам не толькі транспартнікаў, але і «СУ» і «МіГі». Толькі зяўні, не зрабі належны манеўр – і гэтая змяя выйдзе на твой цеплавы след і будзе ісці па ім, пакуль не дагоніць. І тады нішто ўжо цябе не ўратуе. Катапультавацца не паспееш.

У палку лічылі: толькі адзін чалавек – старшы лейтэнант Леанід Сушко – жыве тут поўным жыццём. Усе іншыя лётчыкі, тэхнікі, салдаты аховы паміраюць ад нуды. Сушко пісаў карціны. Маляваў, як называлі яго занятак, па-простаму. Нехта «мудры» ў часе баявога дзяжурства забараніў гульню ў карты, у даміно. Пячыся на сонцы, замярзай у холад, але не расслабляйся – чакай сігналу трывогі. У гэтым, магчыма, была б логіка, каб пагражаў бамбардзіровачны ці штурмавы ўдар з неба. Але, на шчасце, душманы не маюць авіяцыі. І, дзякуй Богу, не дайшло яшчэ ні да аднаго штабіста – забараніць чытаць газету, кнігу і... маляваць.

Чытаць тут не было чаго – усё перачытана. І вакол Сушко, яго мальберта збіралася ўся дзяжурная змена. Ганарыліся, даведаўшыся, што яго пейзажы суровых афганскіх гор упрыгожваюць не толькі іх дашчаную сталоўку і штабныя бліндажы, але і будынак штаба арміі ў Кабуле. Абураліся тым, што калі ён хацеў адаслаць колькі карцін на радзіму сям'і, іх таможня ў Ташкенце канфіскавала: ваенная тайна – горы. Сушко прыдумаў забаўку: пачынаў пейзаж, а закончыць яго дазваляў каму-небудзь са сваіх сяброў. У большасці атрымлівалася такое бясформеннае, беззмястоўнае пэцканне, што рабілася прычынай смеху – таксама набытак людзей, якія млелі ад

бяздзейнасці і смутку. У некаторых нешта вырысоўвалася. Зноў здзіўляў Сушко, калі некалькімі мазкамі пэндзля надаваў гэтаму даволі невыразнаму «нешта» змест, форму, прыгажосць.

Здзівіў свайго падначаленага, сяброў Барыс Пыльчанка. І сам здзівіўся. Не ведаў, што і ў яго нешта атрымаецца. Маляваў некалі ў школе, але ўжо ў старэйшых класах астыў да гэтага дзіцячага занятку. Як, між іншым, і да музыкі, мучылі яго бацькі гады тры — вучылі на баяне, а ён даводзіў свайго настаўніка да белага калення.

І раптам — на табе! — прарэзалася. Не толькі здзівіўся — узрадаваўся. Больш таго: душэўна перамяніўся. Жыццё, небяспечнае, але аднастайнае, набыло іншы сэнс. Раскрываў мальберт, браўся за пэндзаль з асаблівым, нязведаным, чыстым і прыгожым хваляваннем, якое можна было параўнаць хіба з тымі пачуццямі, якія з'яўляліся, калі ён думаў пра будучую сустрэчу з Тамарай. Хваляванне гэтае асабліва стала моцным і сапраўды ўзвышаным пасля таго, як Тамара напісала, што лётала ў Кутаісі, не знайшла яго там, здагадалася — дзе ён. І пісала: «Барысок, сакалок ты мой! Ад сябе прашу і ад мамы тваёй, ад якой ты скрываеш месца свайго знаходжання: не рабі ты глупства, як з тым дурнем Плечкам. Ці не праз яго ты паляцеў на другі круг?»

Праз яго, Тома, праз яго. Але я не шкадую. А пачаў маляваць — проста ўзрадаваўся, што апынуўся ў гэтай чужой даліне.

Некалькі чалавек, у якіх бліснула іскра, утварылі «палявую студыю», якую з энтузіязмам ухваліў нампаліт і нават распісаў у дакладной на ўсю армію: лётчыкі малююць жыццё!

Нудныя дзяжурствы павесялелі. Цяпер на краі лётнага поля стаяў не адзін мальберт — ажно шэсць. Ёсць на што паглядзець. Ёсць каму даць параду. А збоку — усе Рэпіны.

Барыс, бадай, стаў першым вучнем, і вучоба яго так захапіла, што часам на будзённыя справы эскадрыллі забываўся. Але ў яго было іншае амплуа. Сушко пісаў пейзажы. А яго цягнула пісаць людзей і самалёты. Машыны пісаць проста. Людзей цяжэй. Па людзях і Сушко аказаўся ня-

лепшы настаўнік. Барыс асвойваў тэхналогію сам. Радаваўся, што дзіця, калі хлопцы прызналі партрэт каларытнага прапаршчыка-вусача: «Падобны! Купляй, Пятро, і пасылай жонцы! Давай, Барыс, малюй партрэты. Во будзеш мець бізнес! З мяшком афгані прыляціш». Не атрымліваліся людзі ў руху, у дынаміцы. Разгадаў слабасць настаўніка: застылы пейзаж у Сушко. А трэба, каб і пейзаж быў у дынаміцы, у руху. У часе і ў прасторы. Паспрабуй перадай снег на гары і зялянiну тут, у даліне. І гэты дзень з ірванай воблачнасцю. Воблакі сёння, як там у нас, у Беларусі, рэдка такія тут бываюць.

Пачаў з самалётаў — прасцей. Каторы дзень пісаў карціну: адзін «грак» вырулiў на бакавую дарожку, застыў, яго сустракаюць тэхнікі, другі вынырнуў з-за гары, ідзе на паласу. Не, не ідзе — павіс. У гэтым пралік. Няма ні адчування яго імклівасці, ні адчування патушанай хуткасці, каб добры пілот не сказаў: «Гэты чмякнецца» ці «Гэты праскочыць паласу». Во каб ён дайшоў да гэтага майстэрства — перадаць мiг руху!

Але ў цэлым праца ўласная яму падабалася. Пашкадаваў, што такую карціну нельга паслаць Тамары: затрымае ваенная цэнзура. Во яшчэ дурнота: пакістанцы і амерыканцы разабралі па вінціку не адну такую машыну, а сваім людзям і на карціне нельга ўбачыць! І ўсім, хто «хварэў» за мастака, карціна падабалася. Хвалілі. Падышоў інжынер — капітан Котаў.

— Пыльчанка! Пляшку віскі паставіш — назву карціне дам.

— Стаўлю.

— «Гракі прыляцелі».

— Во хітруган — капітан! За плагіят хоча ганарар злупіць.

Барыс не засмяяўся. Выцер пэндзаль фланелькай. Адышоў ад мальберта. Задумаўся.

— А што! Гэта ідэя. Усё геніяльнае — простае. Не карціна геніяльная — назва. І гэта не плагіят, хлопцы. Не. Гэта ход па спіралі. З пад'ёмам. «Гракі прыляцелі». Гэта ж таксама радасць... вясна — што яны прыляцелі. Нашы гракі.

— Штосьці цябе на філасофію пацягнула.

— А мы тут усе становімся філосафамі,— сказаў сяржант Васіль Гаркуша.

Тэхніка гэтага некаторыя пабойваліся: ён залішне смела для свайго звання выказваўся супраць нашага ўдзелу ў гэтай вайне, называў яе бруднай. Нехта «стукнуў» на яго, і з ім мелі размову і ў палітаддзеле, і ў асобым аддзеле. Ды Гаркуша пасля таго не змоўк. І баявыя лётчыкі, якія не баяліся ніякіх аддзелаў, да яго цягнуліся. У гарачых спрэчках пазнавалі ісціну. Зерне Гаркушавага адмаўлення вайны падала на ўгноеную зямлю, бо і на Радзіме ў прэсе пачалі прабівацца галасы супраць вайны; гэта прывяло ў збянтэжанасць «зацятых патрыётаў», змяніўся тон палітгутарак, прыціхлі асабісты — перасталі вынюхваць ворагаў сярод сваіх.

Пад абед недзе, калі Барысу ўдалося нарэшце знайсці «граку» ў паветры такое месца, каб у вопытных пілотаў не з'яўлялася адчуванне, што самалёт не далятае або пералятае паласу, у палатцы дзяжурнага зазумерыў палявы тэлефон. Салдат, не кладучы трубку, гукнуў:

— Камандзіра трэцяй — да камандзіра палка. Капітан Пыльчанка! І старшы лейтэнант Сушко!

— Чую, чую, брат.

Барысу не хацелася адрывацца ад мальберта. Нават калі выклік на атрыманне задання на вылет. Ці не пад уплывам земляка атамана Гаркушы яго адварочвае не толькі ад баявых дзеянняў, але і ад разведпалётаў?

Сушко папрасіў таго ж Гаркушу:

— Вася! Прыбяры нашы неўміручыя палотны. Ад сонца і ветру схавай, пакуль не высахнуць.

У прасторным, абвешаным дыванамі кабінеце камандзіра назойліва гудзеў кандыцыянер. Палкоўнік Шувалаў, нізкі ростам, хударлявы — што хлапчук,— нячутна, як кот, хадзіў па мяккім дыване, кудлачыў пасівелыя валасы — знаёмая ўсяму палку поза: напружанне перад тым, як паставіць экіпажам баявую задачу.

Даклад Барысаў «Па вашаму загаду...» не стаў слухаць, хоць звычайна перад гасцямі любаваўся выпраўкай сваіх афіцэраў;

у другіх часцях пілоты — вышэйшы клас! — трымаюцца перад старэйшымі ўразвалачку. У яго — дысцыпліна! Але тут было не да паказухі, хоць за сталом сядзеў госць — маёр афганскай арміі. У куце стаяў свой — лейтэнант Ніязі, перакладчык. На ўсю шырыню стала разгорнута карта. Падрабязнейшая карта гор, каляровая, але колеры прыглушаныя, з адценнямі — белыя снежныя вяршыні, карычневыя скалы, шэрыя цясніны, адметнага колеру, якому і назвы няма, вадаспады, блакітная плынь рэчак у зялёных далінах... Россып надпісаў па-англійску — ажно ў вачах рабаціць. Карціна аэрафотаздымкі — самай новай, камп'ютэрнай.

Карты такія не любілі. Іх цяжка чыталі не толькі лётчыкі, але і сам камандзір палка, штабісты, штурманы самалётаў-разведчыкаў. Найлепш у іх разбіраўся Леанід Сушко. Вока мастака схоплівала пейзаж не ў дэталях — у цэласнасці, мысленне мастака ператварала здымкі ў натуру. Ён адразу пазнаваў гару, даліну, цясніну.

Палкоўнік узмахам рукі — як хацеў абняць іх — запрасіў да стала. Афганец падняўся, пацiснуў рукі. І адразу пачаў гаварыць, напеўна, але выразна вымаўляючы кожнае слова.

Ніязі перакладаў:

— Маджахеды пралажылі новую дарогу. Во адгэтуль.— Маёр начарціў ярка-чырвоным фламастэрам кароткую стрэлку праз пункцір дзяржаўнай граніцы.— Во сюды,— перакінуў фламастэр сантыметраў на дваццаць угару.— Тут не праходзілі вярблюды і коні. Толькі пешаходныя сцежкі. Яны выбілі дарогу вось так,— правёў звілістую дугу па схіле гары.— Як прамаргала наша разведка? Баялася блізкасці граніцы, ці што? Але яшчэ больш дзіўнае. Трэба аддаць даніну інжынернай смеласці іх шэфаў. За такі кароткі час яны збудавалі мост цераз цясніну. Падвясны. На канатах. Во тут! — умела нарысаваў тапаграфічны знак моста.— Караваны праходзяць мост, спускаюцца вось тут у цясніну, дзе ёсць старая дарога, і выходзяць на аператыўны прастор. Вязуць не толькі аўтаматы, кулямёты, але і ракеты, якімі абстрэльваюць Кабул, аэрадромы, збіваюць самалёты.

Маёр змоўк, паглядзеў на Шувалава. Але той маўчаў, бо Леанід Сушко, а за ім і Пыльчанка схіліліся над картай, уважліва вывучалі яе.

— Разабраліся? — спытаў палкоўнік.

— Знойдзем,— упэўнена сказаў Сушко.— Мост — не іголка.

Ніязі пераклаў маёру.

Той уздыхнуў:

— Знайсці, можа, і няцяжка, ударыць па ім цяжка. Во тут, на схіле, ракетныя ўстаноўкі,— паставіў тры знакі баявых кропак.

— Зойдзем адгэтуль.— Барыс зрабіў віраж пальцам.

— Не размахвайся! — папярэдзіў яго Шувалаў нібыта строга, але са смяшынкай у вачах.— Зойдзеш у Пакістан — паляцяць пратэсты. І нам зноў будзе накачка.

— Ім можна, нам — нельга! — Барыс вылаяўся моцна, па-руску.

Маёр гэтыя словы ведаў — засмяяўся.

— Ты дрэнны палітык, капітан,— лагодна сказаў Шувалаў і павярнуў карту да сябе.— Лішніх слоў задача не патрабуе. Маёр яе выказаў: мост знішчыць! Ракетным ударам! Проста, але нялёгка. Разумныя сапёры яго будавалі: разлічылі, як цяжка да яго падысці. Па такой цясніне «гракі» не праляцяць. Не кідайцеся стрымгалоў. На першы раз хопіць і разведкі. Падумаем. У нашых сяброў зямная разведка дзейнічае. Выявім устаноўкі. Перакладзі, лейтэнант.

Маёр згадзіўся:

— О так, так.

— Сушко! Карту табе. Ты вядзеш.

— Ёсць — вясці.

— Ну, хлопцы, як гэта кажуць у нас...

— Таварыш палкоўнік, не прымушайце нас паслаць вас...

— А вы пашліце, пашліце. У думках.

Ніязі пераклаў:

— Ігра слоў. Не перакладаецца.

— О, разумею.

— Дазвольце выконваць?

— З Богам. І з Алахам.

— О, з Алахам!

Казырнулі, мільганулі рукі, запэцканыя фарбай, стукнулі абцасамі.

Павярнуліся. Прыгожа, артыстычна.

За чвэрць гадзіны былі над раёнам, паказаным афганскім маёрам на карце. Маланкамі праляцелі над адной цяснінай, над другой, напаўняючы іх такім громам, што абвальваліся камяні. Дзе ж ён, гэты чортаў мост?

— Зойдзем ад караваннага шляху. Глядзі новую дарогу,— перадаў сябру Барыс.

З вышыні ўбачылі пакістанскі пагранічны пост.

— Пост! Бачыш? Ёсць на карце! — чытаў Сушко.

— Да граніцы не набліжайся. Наробім шуму.

Рэзкі паварот. «Гракі» пайшлі цераз перавал.

— Ёсць дарога,— далажыў вядучы.

— Бачу! — адказаў Барыс. І тут жа пачуў у шлемафоне:

— Ёсць мост! Во мастакі! Не мы з табою. Во распісалі! Жывая скала і жывая вада. Празрысты ён, ці што?

Барыс моста не ўбачыў. Сказалі дзесятак слоў — а машыны ўжо апынуліся над голымі гарамі, за многа кіламетраў ад цясніны з горнай рэчкай.

— Атакую! Заходжу з усходу.

— Цэлі не ўбачыў! Іду за табою.

Барыс «сядзеў на хвасце» ў сябра. Убачыў, як з яго «грака» пайшлі ракеты. Адна. Другая. З рэчкі шуганулі фантаны полымя і вады. І адразу вызначыўся мост — негатыў на фотаплёнцы, быццам выбухі праявілі яго. Барыс злавіў у аптычны прыцэл незвычайнае ажурнае збудаванне, што вісела над цяснінай, як павуціна.

Пуск.

Вызваліўшыся ад ракеты, машына ўзнеслася ўгору. Ёсць пападанне? Не?

Сушко заходзіў з поўдня, ад граніцы.

Барыс пераключыў апаратуру аэраздымкі на шырокі дыяпазон, каб зняць вынікі атакі панарамна.

Самалёты збавілі хуткасць — ішлі на разведку.

І раптам у шлемафоне зазумерыла — пі-пі-пі — сістэма апавяшчэння «Пуск варожай ракеты».

Дзе яна? На каго ідзе? На яго? На Лёню? Амаль інстынктыўна кінуў машыну ўгору. Так адыходзіў ужо неаднойчы ад гэтай «цеплавой нахабніцы». Ракета праходзіла пад ім, камп'ютэр не паспяваў трываць яе па вертыкальным курсе.

І тут убачыў яе вогненны след. Ракета ішла за «граком» Сушко. Ірвануў на перахоп, гатовы падставіць сябе, хоць разумеў, што позна ўжо. Націснуў кнопку сістэмы цеплавога адбівання — пусціў гарачыя шары ў яе бок. Не памагло. Хітрая істота, як жывы пёс, ужо ўнюхала след Сушковага самалёта, ідзе за ім, даганяе.

Паспеў крыкнуць:

«Лёня! «Стынг»! Ухадзі!»

Дзіўна, чаму Сушко ідзе па прамой? Не спрацавала яго сістэма трывогі?

Ратунку няма. Міг — і магутная ўспышка ў небе, як узрыў суперзоркі ў Сусвеце.

— Лёня!.. Лёня!.. Друг ты мой!

Барыс пракусіў у роспачы пальчатку, палец. Зняўшы хуткасць да гранічнай, зрабіў круг над месцам гібелі сябра. Адны абломкі ўпалі імкліва, узняўшы на зямлі пыл. І са скалы можна выбіць пыл. Нешта лёгкае, абшыўка ці астаткі Лёневай вопраткі, кружылася ў паветры, ветрам адносілася на поўдзень — на радасць ворагам, якія стаіліся, схаваліся пад скаламі, пад каменнем, у кустах.

Вылі, свісталі турбіны. Крычаў Барыс — плакаў, мацюкаўся, ненавідзячы ўвесь свет — усіх, хто давёў да гэтага — вось да такой смерці. «Да лёгкай смерці», як горка жартуюць пілоты. Калі нікому ніякіх турбот на пахаванні. І — ніякага следу ад чалавека на зямлі. Пылінкай узнёсся ў космас.

— Не, Лёня, твой след застанецца! Застанецца!

Паміма паралізаванай волі пілота, па камандзе камп'ютэра «СУ-25» імчаў на поўнач на небяспечнай вышыні: трохі вышэйшая гара — і такі ж пыл, як ад узрыву «стынгера». Імклівае

набліжэнне снежнай вяршыні апрытомніла Барыса. Ірвануў рычаг вышыні. Самалёт штопарам узвіўся ў неба.

– Не, Леанід! Так я не палячу да нашых. Не! Атрымаецца, што я пакінуў цябе. А я не пакіну цябе! Ім не пакіну! Я знаю, дзе яна, гэтая праклятая ўстаноўка. Яны святкуюць перамогу. Яны расслабіліся. А ў мяне ракеты і кулямёты. У мяне – кулямёты! Буйнакаліберныя! Леанід!

«Грак», апісаўшы вертыкальную дугу, павярнуў назад.

Яны сапраўды расслабіліся, маджахеды і іх саветнікі, гаспадары ракетнай устаноўкі. Яны радаваліся. Адны маліліся Алаху. Другія славілі Хрыста шклянкамі з віскі.

Кара абрушылася на іх з хуткасцю маланкі. Удары ракет і град свінцовых куль.

Але не бачыў капітан Пыльчанка, што ў тым баку, куды ён павярнуў, на вяршыні перавала стаялі хуткастрэльныя зенітныя гарматы – прыкрывалі мост. Не з аднымі аўтаматамі ваююць маджахеды!

І цяпер не ўбачыў гармат, іх чэргаў. Толькі раптам адчуў, што машына выйшла з-пад яго ўлады. Не, самалёт яшчэ трымаўся ў паветры. Але чужая сіла як бы разлучыла іх – пілота і машыну. А Барыс даволі вопытны, каб не зразумець, што гэта значыць. Чым яны ўдарылі, сволачы? Лазерам, ці што? Працягнуць бы яшчэ мінуту-дзве, каб выйсці з варожай зоны, падляцець бліжэй да сваіх. Цягні, цягні, «грачок»! Не. Натужліва завыла турбіна, як бы захлыналася без паліва ці без паветра. Самалёт пахіліўся на бок. «Адкіне лапкі ўгору – не катапульціруешся».

Барыс націснуў кнопку катапульты. Хапіла б толькі вышыні для раскрыцця парашута! На шчасце, яго выкінула ў міжгор'е! Вышыні хапіла. Метраў за сто ад зямлі парашут мякка саспружыніў.

За гарой грымнуў выбух. Далёка ж праляцеў яго нябога-«грак». Вечная памяць табе, мой верны конь!

На зямлі дзьмуў моцны вецер. Барыса працягнула па каменні, ударыў калена. Абрэзаў стропы фінкай. Камуфляжнае квадратнае шаўковае палотнішча вецер скамечыў і пакаціў па даліне. Барыс не стаў яго даганяць. Так, можа,

лепш. Парашут у небе маглі засекчы. Будуць шукаць. Чым далей ён апынецца ад парашута, а парашут ад яго, тым цяжэй стане яго лаўцам.

Праверыў пісталет. У кішэні курткі быў усяго адзін запасны «стручок». Папракнуў сябе:

— Бесклапотна мы вылятаем. Не думаем, што можам спешыцца. Зямля — яна мае сілу прыцяжэння, дарагія таварышы. Вось так, Шувалаў! Ні пуха ні пяра. Пайшоў к чорту! Ці пацэлілі хоць у мост? Дарагую ж цану заплацілі...

Адно ён убачыў пэўна: у ракетную ўстаноўку пацэліў. Калі іх пачнуць шукаць, а шукаць будуць верталёты, заўсёды шукалі верталёты, з гэтай устаноўкі пуску не будзе. Наўрад ці ёсць у іх другая для «стынгераў». Гэта ўсё ж не чушкі «зямля—зямля», якія можна запусціць з драўляных козлаў. Але... адыходзіць. Хутчэй адыходзіць!

Ён умеў добра лятаць. Умеў хадзіць па роўнай палескай зямлі. Ён не навучыўся хадзіць па гарах. Па Каўказскіх. Кароткая паўза была паміж камандзіроўкамі сюды, у чужыя горы.

Напрасцяк лез на даволі крутую гару, трымаючы на поўнач. У спіну яму свяціла сонца. Па схілах гор плылі цені ад хмар. Злавесныя, як звяры. Сонца гарачае. А вецер халодны. Зняў куртку — вецер ледзяніў успацелую спіну.

Гадзіны праз дзве такой нязвыклай хады знясілеў; не дапамагла слава лепшага валейбольнага іграка — за дывізію гуляў.

— Слабак! Слабак! — узлавана дакараў сябе.

Перасохла ў горле. Пакутліва смажыла. І — хаця б які раўчачок. Хаця б са скалы ці з неба ўпала кропля вады. Пажухлая трава. Голыя кусты.

— І за зямлю гэтую льецца столькі крыві!

Ён гаварыў... не сам з сабою. З Леанідам. Ён усё яшчэ адчуваў яго прысутнасць. Жывога. Здавалася, што Сушко прыкрывае яго. Як у палёце. Азіраўся і бачыў яго — унізе, у міжгор'і, дзе, здавалася, струменіць вада. Разумеў, што гэта ўжо галюцынацыі. Ранавата.

— Слабак! Слабак!

З'еў нейкія ярка-чырвоныя горкія ягады – каб прагнаць смагу, падмацаваць сілы. Але ад іх, што ад чачы, закружылася галава. Сеў. Прыціснуўся захаладалай спіной да нагрэтай сонцам скалы. Накрыў грудзі курткай. Стала хораша, утульна, толькі балелі палец, што пракусіў, не даваў ні на міг забыцца пра Лёню, і калена. Калена трывожыла: разбаліцца так, што не здолее ісці, тады выйсце адно – куля... Але думкі такой выракалася ўся яго істота. Не, змагацца да канца! Паўзці на жываце. Колькі паўзці? Куды? Добра ведаў, што гэты пагранічны раён пад уладай душманаў. Сустрэць можна толькі іх. І літасці ад іх не чакай.

Парадаваўся, што падняўся высока. Нямнога засталося да пакатай вяршыні, да перавалу. Што там за перавалам? Можа, даліна? Чалавечае жытло? Няўбраная кукуруза. Яна смачная і сырая. У часці даўно паабедалі! Набліжаецца вячэра...

Барыс пракаўтнуў горкую сліну.

– Хто шукае нас? Сам Шувалаў? Крык мой па Лёню пачуў і зразумеў... Для яго гэта ўдар, якога даўно не было,– адразу страціць дзве машыны. Чалавека, Шувалаў! Чалавека! Ах, Лёня, Лёня! Дрэнь ты, маёр! Ці не служыш двум гаспадарам? Чаго варты твае разведданыя? Мост і дурань мог выявіць. А чым яго прыкрываюць? Не. Нейкія знакі ён рысаваў. Але ці лёгка на такой хуткасці ўсё ўбачыць, усё засекчы! Абрыдла ўсё да д'ябла. Чаму я павінен забіваць? У імя чаго? Каму я павінен? Што? Чаму мне трэба паміраць? За што?

Ціўкнула куля.

Барысу здалося, што ён заснуў. Але інстынкт самааховы прымусіў паваліцца на бок, прыціснуцца да зямлі. Ціўкнула другая. Са скалы над ім пырснулі каменныя асколкі. Яго засеклі! Пагоня! А было ж адчуванне, што навокал на многа вёрст – ніводнай жывой душы. Калі засеклі тыя, хто шукае яго, хто атрымаў загад па рацыі... радыёсувяззю маджахеды забяспечаны лепш, чым афганскія ўрадавыя войскі, багатых апекуноў маюць,– шанцы яго на ўратаванне ўпалі да нулявой адзнакі, як на шкале гаручага.

Пачакаўшы трэцяй кулі, якая, аднак, не ціўкнула, Барыс перапоўз на бліжэйшы валун. Добра, што далёкі землятрус

навярнуў іх тут! Пакуль не дабраўся да расколіны, поўз па-пластунску; вучылі некалі на страявой і гэтаму. Вучылі шмат чаму, што здавалася будучым лётчыкам непатрэбным. Выходзіць, усё можа спатрэбіцца! Бацька скардзіцца, што яму не хапае ведаў па фізіцы і медыцыне — пасля аварыі. Ах, бацька! Мама! Не даведаецеся вы, як я памру! Адно ведайце: жывым не здамся.

Перамяшчэнне па-пластунску знясіліла зусім. Больш таго, гэтае прыпадабненне паўзуну забірала апошнюю надзею на ўратаванне. Колькі ён можа прапаўзці? А паўзці трэба ўгору. Толькі ўгору!

— Не! Не буду я, бандзюгі, перад вамі поўзаць! Не дачакаецеся!

Падняўся на поўны рост, махнуў курткай, як бы даючы сігнал — вось дзе я! Лавіце. Апрануў куртку. Узвёў пісталет — не той выпадак, калі яны знянацку з'явяцца перад ім.

— Жывым не здамся! І мёртвага задарма не возьмеце! Прыйдзецца вам заплаціць.

І зноў палез на гару, але не так ужо проста, як упачатку,— па серпанціне, так пракладваюць горныя дарогі.

Сонца села за гару і на схіл, па якім Барыс паднімаўся, упаў цень. Вельмі можа быць, што гэта яго ратавала.

Паўднёвая асенняя ноч наступіла раптоўна — як толькі на ўсходзе перастала іскрыцца снежная вяршыня далёкай гары.

Барыс спрабаваў ісці ў змроку, але спатыкнуўся, ударыў калена, ажно з вачэй пасыпаліся слёзы. І не здолеў падняцца. Нягледзячы на боль, праваліўся ў глыбокі сон імгненна, так засынаюць цяжка змораныя і пакрыўджаныя дзеці, наплакаўшыся.

Прачнуўся ад холаду — моцна змерзлі ногі. Яшчэ адзін пралік — ад самаўпэўненасці. Куртку апрануў, а боты на унты не памяняў. Унты ніхто не абуваў. На вышыні тут не хадзілі, паветраных баёў не вялі, хадзілі паміж гор, касілі душманскія калоны з кулямётаў, бамбілі іх базы.

Якое, аднак, усё кантрастнае! Удзень млелі на лётным полі, уначы дрыжэлі ў палатках. Дык гэта ж там, у даліне, на вышыні нейкіх чатырохсот метраў над узроўнем мора.

А тут ён на якой вышыні? Тут кастрычніцкая ноч прынесла зіму. Ажно знямела калена. Замарозілася. Пашкадаваў, што кінуў парашут, можна было б загарнуцца ў яго. Не. Парашут нялёгкі. Несці яго ўгору не хапіла б сілы.

– Слабак! Слабак! А казырыўся. Гусара іграў.

Больш не заснуў – баяўся абмарозіць ногі. Грэў ногі хадою – у поўнай цемры лез на гару. Ажно пакуль не спужаў, напэўна, горнага казла. Сам спужаўся. Жывёліна выскачыла з-пад чорнай скалы, ледзьве не збіла з ног, дыхнула ў самы твар цеплынёй. Цеплыня навяла на думку, што казёл спаў ва ўкрыцці. Памацаў скалу і знайшоў звярынае лежбішча – вузкую пячору. У ёй непрыемна пахла, але трымалася цеплыня, быццам за тысячы гадоў казлы нагрэлі скалу, і яна не астывала і ў зімовую сцюжу.

І Барыс заснуў у гэтым хляве. Сон быў цяжкі, як пад наркозам. Адчуваў боль – і не мог прачнуцца. Сніў страшнае: пагоню барадатых душманаў, яны даганялі яго, а ён не мог бегчы з-за болю ў назе; паражыў дзікі страх.

Праспаў ён доўга, выпаўз з пячоры – светла. Гадзіннік яго паказваў палову дзесятай па кабульскім часе. Разгар дня. Але дзень быў змрочны. Хмарны. І хмары плылі з захаду. А ўчора вецер дзьмуў з усходу. Тут нячаста бываюць такія змены надвор'я. Але ж восень. Дзіўна: сонечныя дні тут мала падобныя на нашы, а ў хмарных ёсць нешта агульнае, таму і абвастраецца ў такія дні настальгія па разанскіх ды смаленскіх, па палескіх воблаках.

Балела нага. Аднак хацелася есці. Ад голаду – у кішэчніку цэлы аркестр. Мільганула думка: перачакаць у гэтай бярлозе, пакуль трохі не атухне боль. Але менавіта голад адагнаў такую думку: а жыць чым? Святым духам? Малітвамі Алаху? О, каб багі маглі карміць, то людзі не ваявалі б!

Пакульгаў далей. З натугай пераадольваў боль у калене. Хутка лёс узнагародзіў яго. У цясніне натрапіў на кусты з ягадамі накшталт нашай крушыны – такія ж на выгляд і на смак. Цэлая града кустоў. Ёсць расліннасць, і немалая – ёсць блізка вада. Не, вада тут была хіба вясной. Але і ягады – набытак. Падмарожаныя, яны ўтрымлівалі халодную

вільгаць і праганялі смагу. І пэўным чынам насычалі галодны страўнік. У жываце забурчэла лагодна, без болю. Прыкметна прыбавілася сілы.

Барыс загадаў сабе есці нямнога. Але набіў ягадамі ўсе кішэні. І выразаў кій, крывы, сукаваты. Калі абапёрся на яго, не так балела калена.

Хутка дасягнуў вяршыні. Але гэта не парадавала. Не было перавалу. Не было за пераваламі спуску ў даліну з рэчкай, полем, населеным пунктам – з жыццём. На многа кіламетраў рассцілалася выпаленае сонцам горнае плато з асобнымі пакатымі скаламі, аблізанымі вятрамі. На даляглядзе ўзнімаліся невысокія шэрыя горы. Толькі на ўсходзе, як бы вянчаючы граду гэтых гор, узвышалася тая снежная вяршыня, якая была ім арыенцірам яшчэ пры атрыманні задання, якую бачылі ў палёце.

– Дзе яна, тая гара, пад якой вада? Пад якой павінна быць вада. Дзе б яна ні была, мне да яе не дайсці.

Хмары то закрываюць снежную шапку, то адкрываюць. Ненадзейны арыенцір! Трэба мець іншы, бліжэйшы. Выбраў граду скал, недалёкую. Але як дайсці да яе?

– Няўжо хмары не прыносяць сюды дажджу? Праклятыя Богам мясціны. І за іх льецца кроў людская. Пашлі хоць кроплю, хмара! Я злаўлю яе языком. Жменяй. Для чаго ты нарадзілася? Каб несці дождж! Дзе ж твой дождж?

Так ён гаварыў. Сам з сабою. З кіем. З валунамі. З ягадамі, якія ашчадна кідаў у рот, і яны раставалі там смакатой, якой не ведаў ні ад якіх прысмакаў, ні ад якіх він. І яны сапраўды давалі сілу. Цудадзейныя ягады!

Замёр на месцы, бо ўбачыў перад сабою жывую істоту. Сусліка. Ён стаяў на задніх лапках і абгрызаў нейкі злак. Абпаліла галодная думка: здабыча! Барыс асцярожна дастаў з кішэні пісталет. Узняў яго, убачыў, што рука дрыжыць. Ды не гэта яго спыніла – думка, што калі і заб'е звярка, то мусіць есці яго сырым. Запалак не было. Ён яшчэ ўчора пасля прызямлення, правёўшы рэвізію кішэняў, здзівіўся і расстроіўся, што не аказалася запальнічкі. Калі і куды знікла? Дзіўна. Цы-

гарэты ёсць, а запальнічкі няма, ніколі такога не здаралася. Уяўленне, што суслік — той жа палявы пацук, грызун, пацягнула на рвоту, але ванітаваць не было чым, і балючы спазм скурчыў яго. Апусціў пісталет у кішэню. А суслік не баяўся чалавека, мабыць, рэдка бачыў яго. Падпусціў зусім блізка. Вочкі яго свяціліся, што бруснічкі.

Барыс гаварыў з суслікам, амаль узрадаваны, што не забіў яго. Ды і звярок знік як прывід — уміг, і норкі яго не знайсці.

А калена балела ўсё мацней. Калена распухала, распірала штаніну.

Нарэшце пайшоў дождж. Дробны, імжысты — асенні. Выходзіць, і тут ён бывае. Але вада нідзе не збіралася. Шлем, які ён наставіў, убіраў кроплі дажджу і заставаўся сухім. Барыс прагна аблізваў рукі свае, рукавы курткі. Пасля дастаў пісталет, толькі на ім, у насечках ручкі, збіралася сапраўдная вада. Але хутка знайшоў камень, у якім было заглыбленне ў выглядзе чашы. Вакол каменя — птушыны памёт. Мабыць, з гэтай чашы пілі арлы. Ён цярпліва чакаў, пакуль збярэцца ў заглыбленні хоць лыжка вады, і вылізваў яе.

Але трэба ісці. Куды? Да каго ён прыйдзе? Наступала страшная абыякавасць — усё роўна куды, да каго. Да душманаў? Няхай да душманаў. Але тут жа гатовы быў разбіць галаву аб камень.

— Слабак! Ах, які я слабак! Герой вайны. Пасаромейся. Не прайшло і сутак, не пайшоў добры дождж — а ты ўжо размяк, як дзярмо...

Упарта ішоў далей, перамагаючы боль. Ягад засталася маленькая жменька, і ён не адважваўся іх есці; на гэтым выпаленым сонцам плато наўрад ці знойдзе яшчэ штосьці, што можа падтрымаць сілы. Што грыз суслік? Нешта ж грыз. Але раслінкі той, як і норкі, не знайшоў. Калена не давала нізка нахіляцца. Шукаў камяні, на якіх магла б сабрацца вада. Але, як на бяду, усе камяні — што абточаныя. Ветрам. Ды і дождж хутка перастаў, але імжа згусцілася — быццам з камяністай зямлі ўзнімалася пара.

Наперадзе ў імжы вырысоўвалася постаць. Чалавек! Чалавек! Жаночая постаць. Не, гэта не афганка ў чорным адзенні. Жанчына ў белым. Як у вясельнай фаце... Гэта...

— Ма-ма!

Закрычаў і тады толькі сцяміў, што гэта галюцынацыя. Аднак — дзіўна! — не спалохаўся свайго хворага стану.

Праз нейкі час жанчына зноў прымроілася.

— Мама! Ты вядзеш мяне. Цяпер я нічога не баюся. Я знаю: ты выведзеш мяне. Помніш, як мы заблудзіліся ў лесе. Я плакаў. Слабак! Немалы ўжо ж быў. А ты была спакойная... Ты заўсёды спакойная, мама.

Не, гэта не маці. Маці не знае, дзе ён. Гэта Тамара. Тамара знае. Яна пісала:

«Барысок, саколе мой! Я знаю, дзе ты. Не называю гэтай зямлі, гэтага краю, бо ніхто з нашых не славіць яго. Я прымхлівая і баязлівая. Але я лятала на Каўказ. Ты здагадваешся, дзе я была. І я ўсё знаю. Тваім не скажу... Сабе не кажу — я прымхлівая, пачынаю верыць у зоркі, у лёс і ў Бога».

— Вядзі мяне, Тома! Вядзі! Але ты не ідзеш. Ты ляціш, як вецер. Глядзі, як развяваецца тваё плацце. Я не магу так хутка. У мяне баліць нага. Боль страляе ў сэрца, у мозг...

Урэшце, знясілены, Барыс упаў на мокры граніт і заснуў. Адпачывала натруджаная нага, арганізм выпрацоўваў выратавальны наркоз. І ён доўга праспаў.

Прачнуўся пад вечар. Рассеялася імжа. З-за парваных хмар выглядвала сонца. Грэла ў спіну. Ён ляжаў тварам на ўсход. Чаму не на поўнач, куды ішоў? Урэшце, у сне мог павярнуцца.

Падняўся, абапіраючыся на кій, і здзівіўся. Перад ім унізе рассцілалася даліна, амаль зялёная яшчэ — прывабна зялёная. Ён выйшаў на край плато. Во цуд!

Заваражаны, забыўшыся на боль, выйшаў на абрыў. Тут быў абрыў. Але ўдалечыні, з бакоў, ёсць і пакатыя схілы. Спакуслівa вабіла даліна. Там — жыццё. Але ці трэба спускацца яму туды? Яму трэба ісці на поўнач. А там — усход. Але да каго прывядзе дарога на поўнач? Маджахеды — усюды. Вакол Кабула. І на таджыкскай граніцы. Нядаўна было па-

ведамленне, што яны абстралялі савецкія пагранічныя пасты. Куды ж ісці? Але галоўнае – сон не вярнуў сілы, хоць боль у калене прытупіўся, знямеў. Вочы не адпускаюць ад даліны. Там маглі застацца пачаткі кукурузы, буракі. Што ў іх яшчэ расце? Дыні! Якія дыні нярэдка падаюць у палкавой сталоўцы! Рот напоўніўся салодкай слінай. Над ім плыў цень. А даліна залітая вячэрнім сонцам. І здавалася, што ён бачыць іх, жоўтыя дыні.

– Слабак! – Але злосць на ўласную слабасць прыкметна палагаднела. Адчуваў, што даліна не адпусціць. Але хутка зойдзе сонца, адразу наступіць цемра. А спускацца няпроста. З хворай нагой. Спуск цяжэй, чым пад'ём, больш небяспечны.

Сеў над самым абрывам, прытуліўшыся да каменя, і глядзеў, не адрываючыся, на даліну. Адтуль, знізу – і гэта не ўяўлялася – плылі цеплыня і пахі зямлі, пахі ўсяго таго, што дае жыццё. Здавалася нават, што пахне дымам і свежым хлебам, хоць нідзе, ні блізка пад гарой, ні ў далёкай шызай смузе, не бачыў ні сялення, ні рухомай кропкі – машыны ці чалавека.

Зайшло сонца. Пагаслі фарбы ў даліне, пагасла снежная шапка. І густы змрок упаў з неба. Там, дома, акрамя хіба Каўказа, змрок узнімаецца з зямлі, а тут цемру пасылае неба, нават поўня месяца і буйныя зоркі не разрэджваюць гушчыню ночы.

Але... што гэта? Далёка ўнізе бліснулі агні. Уміг – доўгі ланцужок агнёў.

Барыс падумаў, што зноў галюцынацыя – як прывід жаночы. Не. Адвярнуўся, паглядзеў у ноч, павярнуўся назад – агні іскрыліся. Працёр вочы – агні расплыліся, але тут жа зноў выстраіліся ў роўную градку. Але ж тут, у Афганістане, нідзе не гараць такія мірныя агні. Вайна. Яны гараць у Пакістане. Бачыў іх з вышыні ў часе начных палётаў. Перад вачамі паўстала карта з зігзагам граніцы. Карту граніцы яны вывучалі пільна – каб не рабіць парушэнняў.

Барыс доўга заварожана глядзеў на гэтыя цудадзейныя агні. І бачыў жыццё і... мір. Мірнае жыццё, дзе не трэба пускаць ракеты, бамбіць, страчыць з кулямётаў.

Цяжкі нямы роздум выліўся радасным гучным голасам:

— Мама! Тома! Я прыйду да вас. Я прыйду. Цераз Пакістан, Аравію, Амерыку, Швейцарыю. Свет абагну. Але прыйду! Мама! — Але тут жа мацюкнуў сябе: — Слабак! Гаўнюк! Здраднік! Ты хочаш здацца? Ворагу?

Скакаў на адной назе, як ад моцнага болю, і лаяўся, лаяўся самымі адменнымі словамі, якія, бадай, ніколі не ўжываў у самай страшнай злосці. На сябе лаяўся. Не толькі на сябе...

Спыніўся. Знайшоў на поўначы нізкую Палярную зорку, крыкнуў ёй:

— А каму патрэбны нашы смерці? Сушкова смерць! Варанкова! Мая! Маткам нашым? Жонкам? Нявестам? Завошта мы павінны паміраць?

Гэта былі не яго словы. Але ён сказаў іх яшчэ паўгода назад, калі яму не пагражала больш такая смерць. Бацьку сказаў, спрачаючыся з ім пасля добрай чаркі. А тут чуў гэтыя словы неаднойчы ад Гаркушы. І не аспрэчваў. І ніхто з лётнага саставу не аспрэчваў. Адзін хіба прапагандыст палітаддзела, ды і той хутчэй рабіў гэта па абавязку службы сваёй.

— Дык каму ж я магу здрадзіць? Табе, мама? Табе, Тома?

...У трывожным сне ён бачыў вялікія гарады — як Масква, як Нью-Йорк,— залітыя яркім агнём ліхтароў. І на шырокіх вуліцах, на плошчах — мора людзей. І ён як бы ўзвышаўся над імі і бачыў у гэтым моры родныя постаці — то маці, то Тамары, бацькі, Глеба, Ірыны, Леаніда, Шувалава... Імкнуўся дагнаць іх, клікаў. Але яны не разумелі яго, мовы не разумелі, жадання. Глядзелі здзіўлена: чаго хоча гэты ўсхваляваны чалавек? Як ім растлумачыць, што ён хоча аднаго, самага простага: дайсці да блізкіх людзей. І каб яны зразумелі яго. Ён паўтараў ім слова «маці» на дзевяці мовах. Людзі смяяліся. З чаго? Што ён шукае сваіх? Ён так даўно ішоў да іх! Свет абышоў. У яго баляць ногі. Моцна баляць.

Пачаў спускацца ў даліну з першымі промнямі сонца. Неба ачысцілася ад хмар, што вымылася, і сонца свяціла ярка, сляпіла вочы. Не адразу знайшоў спуск — авечую сцежку. Яна была крутая і слізкая ад учарашняга дажджу. Колькі разоў упаў,

каціўся, крычаў ад болю — не баяўся, не саромеўся. Аднак тут жа паднімаўся і ішоў уніз з адчайнай рашучасцю; кароткі кій мала памагаў, на яго можна абаперціся хіба на раўніне.

Блізка дол, а спуск доўгі. Паднялося сонца. І — о, дзіва прыроды! — чым ніжэй ён спускаўся, тым гарачэйшымі рабіліся яго промні. А з даліны ўзнімалася ўгору, плыло густое, цёплае і пахучае паветра. Вадой і дынямі пахла яно. І Барыс верыў, што гэта не падманная галюцынацыя. І не памыліўся. Вось апошні спуск — і ён на роўнай мяккай... дзівосна мяккай зямлі. Лягчэй стала ісці, добра служыў кій, і калена не так востра балела, з такім болем можна ісці, далёка можна ісці.

Куртку ён зняў яшчэ на гары. Але пры спуску яна замінала, там трэба свабодныя рукі — пры падзенні. З'яўлялася нават жаданне кінуць яе. Але падумаў, што ў палоне яна можа вельмі спатрэбіцца, невядома, дзе яго будуць трымаць, а ўсё-такі восень, халодныя ночы.

У даліне яна асабліва не замінала — вісела на руцэ. Скінуў і шлем, засунуў у рукаў. І так ішоў — хутка і бадзёра. Як прагульваўся. У палявой форме, з мяккімі пагонамі, без шапкі, з расшпіленым каўняром. Акрамя болю адчуваў адзін дыскамфорт, які як бы кампраметаваў яго званне, яго гонар: ступаў па вільготнай зямлі ледзьве не голай нагой. За два дні горнага паходу працерлася падэшва бота.

Весела вылаяў інтэндантаў:

— Лайдакі! У гэтай краіне, дзе столькі гэтай скуры, не можаце пашыць чалавечыя боты!

Здзіўляўся сваёй рашучасці, з якой ішоў у палон. Мабыць, ніводзін салдат не ішоў гэтак у палон. Калі прачынаўся ўначы, успамінаў сны, у якіх шукаў сваіх,— раздзірала душу сумненне: а ці тое ён надумаў? Ці не ад ганебнай баязлівасці ён здаецца? Але ж не ворагу свайго народа ён здаецца!

У даліне сумненне змоўкла. Усё перамагла прага жыцця, пераконанасць у сваім праве на жыццё. Не толькі ж дзеля сябе ён гэта робіць — дзеля маці, дзеля маці будучых дзяцей сваіх. І дзеля іх, дзяцей!



24. Зак. 2388.

— І дзеля цябе, мая Радзіма! Хіба патрэбна камусьці мая смерць? Ворагам. Але я не дам ім гэтай радасці.

І вось узнагарода за яго пакуты! Вада! Арык. Вада ў ім мутная, жоўтая. Але ён упаў перад ёй, як перад святыняй, забыўшыся на калена. Набраў у насоўку і праз паркаль цадзіў у рот. Вада цякла па барадзе, па шыі, за каўнер гімнасцёркі, але гэта было як ніколі прыемна — як святое прычасце.

Угледзеў, што за арыкам бахча, зелянела яшчэ і лапушылася вялікае зелле. Дыні! Канешне, яны былі прыбраныя ўжо, вывезеныя. Але Барыс знайшоў дыню. Не адну. Ад пераспеласці яны распаўзаліся ў руках, п'янілі духмянасцю, вінным водарам падгніласці. Але з якой асалодай ён еў... не, піў гэтую пахучую мякаць, што раставала ў роце. Дыня і накарміла і напаіла. Ніколі ў жыцці ні ад якога хмельнага і бясхмельнага пітва, ні ад якога самага тонкага і смачнага харчу так хутка не прыбывалі сілы. Там, за святочнымі сталамі, наадварот, цяжэеш. А гэтая гнілаватая дыня ўлівала сілы, што жыццятворны бальзам. Падскочыць і галёкнуць хацелася.

Наперадзе — града акацый, чуць ужо абпаленых восенню, дзе-нідзе пажаўцелых, але з густой яшчэ кронай. Ахоўная лясная паласа — ад усходніх сухавеяў; дбайныя гаспадары ўрабляюць даліну. Чыя яна? Афганская? Ці пакістанская ўжо? Граніца магла прайсці ў гарах. Мала дзе яе тут пазначаюць.

Але ў цяні акацый адпачываць сабе не дазволіў. Не прысеў, не прылёг, хоць прахалода спакусліва цягнула на зямлю. Пастаяў у цяні, абапёршыся аб калючы ствол таўсцейшага дрэва. Падзівіўся, што зноў прыступ сумлення, якое, здавалася, ужо змоўкла, кальнуў у сэрца.

— Што ты трапечашся, дурное? Хіба не бачыш, што іншай дарогі ў мяне няма? У жыццё — гэта адзіная. Усе іншыя — у смерць.

Прадзёрся праз калючы хмызняк, выйшаў з-пад акацый і ўбачыў яе — граніцу. Паласаты слуп — шырокія зялёныя і вузкія белыя палосы, зверху на зялёным фоне — белы серп месячыка. А побач са слупам — лабасты бункер. Блізка — метраў за трыста. З палёгкай уздыхнуў:

– Ну, вось і ўсё, капітан Пыльчанка.

Памацаў зорачкі на пагонах. Ганьбіць ён іх? Не. І зорачкі няхай застаюцца. І пасведчанне ў кішэні. Да афіцэра павінна быць іншае стаўленне.

– Аднак рыхтуйся да допыту. Могуць і катаваць.

Пра гэта ён думаў з учарашняга вечара. Адабраў сапраўдныя сакрэты, якія не могуць выбіць ніякім катаваннем, і тое, што, ведаў, хаваецца ад сваіх, але даўно не з'яўляецца сакрэтам для такіх разведак, як амерыканская і англійская. Няхай пакістанцы парадуюцца гэтым «сакрэтам», пакуль шэфы не тыцнуць іх носам. Тым часам яго перададуць больш цывілізаваным службам.

Глыбока ўдыхнуўшы, як бы сабраўся нырнуць, пабрыў да бункера. Ішоў павольна, прыкметна кульгаючы, абапіраючыся на кій. Гэта не быў прыём – паказаць сябе інвалідам, калена сапраўды забалела гэтак жа моцна, як пры спуску з гары. У вачах свяціла не адно яркае сонца, а часам два-тры, жоўтых, расплылых, што жаўткі на скавародцы. Такое адчуванне спалохала горш за галюцынацыі. Але слуп бачыў выразна, колеры яго, гэта супакоіла. Ганебна было б самлець перад чужымі салдатамі.

З-за каўпака бункера падняліся дзве постаці. Вайскоўцы. Пагранічнікі.

Барыс махнуў ім курткай – як вітаў. Спачатку яны глядзелі на яго моўчкі, безумоўна, здзіўленыя: адкуль узяўся? Потым адзін крыкнуў, здалося, пагрозліва. Барыс дастаў з кішэні пісталет, паказаў ім і кінуў у бацвінне, ішоў па бураковым полі.

Крыкнулі зноў.

Ён кінуў і куртку. Сабе пакінуў кій, баяўся, што без яго не ступіць.

Пагранічнікі сціхлі. І раптам, што механічныя, паваліліся ў зямлю. У адзін міг. Як у прыгодніцкім кіно.

Барыс няўцямна спыніўся: чаму схаваліся? Ды тут нейкім унутраным чуццём пачуў, што на яго глядзяць ззаду. Рэзка павярнуўся.

Іх стаяла двое, воддаль адзін ад аднаго, усё роўна як узялі яго ў вілку. У цывільным. Барадатыя. У белых чалмах. З аўтаматамі на грудзях.

Барыс сумна ўсміхнуўся. Без страху. Сказаў сам сабе голасам палкоўніка Шувалава:

— Штурвал і зброю не кідай да апошняга дыхання.

Словы гэтыя прымусілі ступіць у той бок, куды кінуў пісталет.

Маджахеды ўзнялі аўтаматы.

## IV

З Мінска выехалі рана. Стаяў густы асенні туман. Выйшаўшы на аднапалоску, шафёр вёў асцярожна, засяроджана. Маўчаў, бо адразу адчуў: гаспадарам не да размоў аб магазінах сталічных і аб цэнах на рынку.

Вольга Андрэеўна і Уладзімір Паўлавіч бадай жа не спалі ўсю ноч, хоць і былі смяртэльна стомленыя. Яна двойчы наведвалася да Глеба і з пасляабедзеннага ціхага часу сядзела там да вечара, пакуль яе далікатна не папрасілі. Ён абіваў парогі высокіх кантор, не было часу паабедаць. Вярнуўся ў гасцініцу перад праграмай «Час». Вольга не пайшла вячэраць: з'ела, маўляў, тое, што вярнуў Глеб. Уладзімір Паўлавіч спусціўся ў буфет, выпіў чаю. Вярнуўся ў нумар стомлены, злосны: мала што выбіў. У жонкі — апухлы ад слёз твар. Ён ласкава абняў яе:

— Не трэба, калі ласка. Прашу цябе. Што ты даводзіш сябе? Усё будзе добра. Нічога страшнага няма. Прафесары пацвердзілі.

Яна сцялася, сумна паківала галавой.

— Ты верыш прафесарам? Памрэ Глеб,— і зарыдала.

Уладзімір Паўлавіч, спалоханы,— упершыню яна вымавіла гэтыя страшныя словы,— доўга нязграбна, няўпэўнена, сам адчуваў гэта, супакойваў жонку. Але калі яна сказала пра смерць паўторна, сарваўся, кінуў узлавана:

— Што ты каркаеш, як старая варона!

Вольга не пакрыўдзілася, разумела, што і бацьку баліць, і ў яго трывожна на душы. А ён дакараў сябе, папрасіў прабачэння. І калі яна заплакала зноў, таксама праслязіўся і засаромеўся сваёй слабасці.

Ён засынаў, але часта прачынаўся і чуў, што Вольга не спіць, хоць тая і стойвалася. Спачуваў ёй: во пакутніца!

У машыне пад мяккае гойданне, пад шум матора Уладзімір Паўлавіч заснуў. Заваліўся на клунак на заднім сядзенні, ажно пахрапваў; Вольга азірнулася на яго, як на малога – з усмешкай. Яна сядзела наперадзе. Нярэдка ў далёкай дарозе яе закалыхвала. Муж і шафёр ведалі гэта і садзілі яе так, каб яна глядзела на дарогу.

Яна раней кпіла: як можна спаць у машыне? Ніколі не засынала. А ў тую туманную раніцу ў лесе пад Лапічамі, магчыма, на нейкі міг заснула. Ці проста заплюшчыла вочы і ў думках была далёка. Ці глядзела ў туман і ўбачыла... Сама не помніла, у якім стане была. Але раптам страшна закрычала – так, што шафёр спалохана крутнуў баранку, ледзьве не апынуўся ў кювеце, падхапіўся Уладзімір Паўлавіч.

– Што такое?

– О, Божа! Забілі... Забілі... Барыса забілі! – крыкнула ў смяртэльнай роспачы і... самлела.

Спынілася машына. Змітро, менш разгублены, вынес Вольгу Андрэеўну з кабіны ў лес, палажыў на мокрае лісце. Адкаркаваў пляшку баржомі, асцярожна паіў.

Спалоханы, як ні пры якой іншай падзеі, Уладзімір Паўлавіч стаяў перад жонкай на каленях.

– Оля! Оля! Ну, што ты, дурненькая? Што надумала?

Яна расплюшчыла вочы.

– Ну, во, ну, во... Ты сасніла... Што толькі не сніш! Прайшоў насустрач грузавік, грымнуў... Мяне разбудзіў... А табе прыснілася...

– Не, Валодзя, не. Не сасніла. Бачыла я, бачыла, як яны стрэлілі ў Барыса. Двое, барадатыя...

– Хто стрэліў? Дзе? Што ты вярзеш, Оля! Барыс лётае на самалёце. На Каўказе...

— На Каўказе? — дзіўным голасам, з запытальным сумненнем, паўтарыла яна.

— Мы вам валакардзінчыку накапаем, Вольга Андрэеўна,— сказаў Змітро.

— Я табе седуксен дам. Суняць твае страхі.

— Суняла іх... Суняла... Усё пагашана, Валодзя...

Яна паспрабавала падняцца — і не здолела. Гэта спалохала ўжо не толькі мужа, але і Змітрака, які махаў рукою нават на радыяцыю: «Будзем жывыя — не памрэм».

— Можа, «хуткую» з бліжэйшага тэлефона, Уладзімір Паўлавіч? — прапанаваў няўпэўнена.

Вольга Андрэеўна пачула, слабым голасам, але рашуча запярэчыла:

— Не, не... Дадому... дадому!

— Паляжы трошачкі, адпачні. Трэба ж так узвінціць свае нервы!

— Не, Валодзя, гэта не нервы. Не нервы. Гэта матчына сэрца. Яно ўсё бачыць... далёка бачыць...

— Ну, ладна, ладна. Не завадзіся.

Змітро падаслаў брызент. Далі ёй з паўгадзіны паляжаць. Потым перанеслі на задняе сядзенне, палажылі там.

— У Бабруйск! У бальніцу! — закамандаваў Пыльчанка.

— Не, Валодзя! Прашу цябе — не трэба! Выканай маю апошнюю просьбу. Дадому.

«Апошнюю» — гэта аглушыла Уладзіміра Паўлавіча.

Машына рванула ў туман з недазволенай хуткасцю.

Вольга Андрэеўна сцішана маўчала. Не плакала. Не стагнала. Уладзімір Паўлавіч раз-пораз паварочваўся да яе; калі бачыў расплюшчаныя вочы, поўныя болю, пакуты, асцярожна пытаўся:

— Як ты?

— Нічога. Дадому едзем?

— Дадому.

— А мне здалося, мы павярнулі. Не трэба ў Мінск, Валодзя. Нікуды не трэба.

Але дома яна не здолела выйсці з машыны. Вывелі пад рукі. Урачы не маглі паставіць дыягназ. Забралі ў бальніцу. У

сваю, раённую. Ды і туды ледзьве ўгаварылі. Ні кардыяграмы, ні аналізы не паказвалі ніякай вядомай хваробы.

Уладзімір Паўлавіч запрашаў прафесараў, тых, каго ведаў, і праз медыцынскія інстанцыі. Цяпер яны прыязджалі. Праз паўгода пасля аварыі не баяліся. Камандзіроўкі ім давалі ахвотна. Запісвалі сабе ў актыў і кіраўнікі і выканаўцы: наведалі зону Чарнобыльскай АЭС, вывучылі, пракансультавалі, памаглі. Разумелі, што гэта будзе ацэнена, калі не цяпер, то ў будучым.

Вользе Андрэеўне напісалі том заключэнняў, хоць ніводнаму ўрачу, ніводнаму прафесару яна ні на што не паскардзілася, ні на якія болі. Загадкавая хворая. Разумныя прафесары не супакойвалі яе – дарэмна! – і разводзілі рукамі перад Пыльчанкам. Ён, наведваючыся штодня, бачыў, што Вольга растае як свечка. Яна амаль не гаварыла пра смерць Барыса, не адразу Уладзімір Паўлавіч сцяміў, што шкадуе яго, мужа.

Аднойчы сказала:

– Думаеш, я не здагадвалася, што ён **там**? Калі прыехала Тамара і не адразу сказала, што была на Каўказе... Гуляла пасля смерці Лізы? Не, не тая дзяўчына. Была – і не ўбачыла Барыса? Не навучылася маніць. А потым... як вы глядзелі адно на аднаго, калі яна ад'язджала. Табе яна сказала, а ты скрываў ад мяне. Навошта, Валодзя? Хіба гэта не наш боль? Наш з табой...

– Я нічога не скрываў...

– А потым ты разглядваў канверт. Я не адразу зразумела, чаму ты яго так разглядваў. А пасля сама адкрыла: гнуліся яны, канверцікі. Перасылаліся з нашым адрасам у Кутаісі... Шкадаваў ён нас з табой, сыночак наш...– Яна закрыла твар рукамі, але не заплакала.

– Во і давяла ты сябе... канверцікамі... Бог ведае да якіх прывідаў.

Да таго дня Уладзімір Паўлавіч яшчэ спадзяваўся, што жончына дарожнае ўяўленне – вынік яе хваробы. Паслаў тэлеграму ў часць – адказу не атрымаў. Папрасіў камандуючага арміі, што базіравалася недалёка і памагала ў ліквідацыі

вынікаў аварыі, звярнуцца ў штаб паветраных сіл – адказалі тое, што ён ведаў: сын яго ў Афганістане. Пасля прызнання жончынага, што і яна ведала пра гэта, паверыў у яе страшнае прадчуванне: Барыс загінуў. Працаваў па-ранейшаму. Але познімі вечарамі, уначы, выпіўшы з гора, не плакаў – выў, скуголіў у пустым доме.

Праз два тыдні Вольга Андрэеўна памерла. У поўнай свядомасці, нікога не патурбаваўшы. Пасярод дня.

Пыльчанку пазваніў галоўны ўрач:

– Уладзімір Паўлавіч, прыходзьце...– і асекся, больш нічога не сказаў.

Ён доўга трымаў трубку, якая піпікала каля вуха. Асцярожна паклаў нарэшце. Асцярожна, ледзьве не на дыбачках, дайшоў да дзвярэй, павярнуў зашчэпку замка. Адышоў у кут. Уткнуўся тварам у сцяну і нема заплакаў.

Ішоў да бальніцы пехатою. На вуліцы, як заўсёды, яго спынялі, нешта дакладвалі, прасілі, раілі. Ён адказваў, абяцаў, назначаў сустрэчы. Але ні адзін чалавек не змеціў ненатуральнасці яго паводзін ці, можа, выдумалі пасля, калі стала вядома, з якім горам ішоў чалавек.

Вольга Андрэеўна ляжала на кушэтцы ў рэнтгенаўскім кабінеце, пад пушкай; іншага месца не знайшлі: у змрочны морг не спусцілі. Накрытая белым.

Уладзімір Паўлавіч баяўся, што смерць вельмі змяніла роднае аблічча. Уразіўся, убачыўшы яе твар гэткім жа спакойным, якім бачыў, калі яна спала. Толькі вусны – не яе, такога выразу іх ніколі не бачыў: як бы хацела ўсміхнуцца, але было вельмі балюча, і яна не здолела гэтага зрабіць, і застыла на вуснах незнаёмая пакутлівая грымаса. З-пад губы блішчэў залаты зуб, які прыгожыў яе, жывую, асабліва калі ўсміхалася, і які здаваўся да абразлівага ненатуральным у мёртвай.

Ён нахіліўся і пацалаваў яе ў лоб і таксама ўразіўся, што лоб не здаўся халодным, як у іншых нябожчыкаў, якіх ён цалаваў, развітваючыся. Яе лоб быў цёплы.

Слоў у яго не было. Вочы набрынялі слязамі. Пашукаў у кішэні насоўку і не знайшоў, без Вольгі не было і хусцінкі.

У калідоры выстраіліся паўз сцены ўрачы, сёстры, хворыя: так выказвалі яму сваё спачуванне, моўчкі, панурыўшыся.

Галоўурач у сваім кабінеце памагаў апрануць паліто, і ўсё роўна ён ніяк не мог патрапіць у левы рукаў. Сказаў:

– Пазваніце Дар'і Селівонаўне. Няхай рыхтуе, што трэба.

Урача здзівіла і трохі ўстрывожыла такое даручэнне: а сам ён куды? Хоча пабыць адзін?

Не, ён не хацеў заставацца ў адзіноце. Не мог пайсці дадому. Але не ішоў і ў выканком, баяўся, што, калі пачнуць спачуваць, расплачацца.

Спустошана блукаў па падноўленых вуліцах. І зноў яго спынялі. Здзіўляліся, што адказваў старшыня неўпапад. Чужому – начальніку дэзактывацыйнага атрада, сутнасць просьбы яго ніяк не мог уцяміць, вінавата прызнаўся:

– У мяне памерла жонка.

– Сёння? О, прабачце,– і чалавек спалохана адступіў і панёс чутку па горадзе.

Апынуўся перад поштай. Спыніўся. Ведаў, што яму трэба сюды. Не адразу ўспомніў – навошта. Тэлеграмы! Паслаць тэлеграмы! Увайшоў у залу. Каля тэлеграфнага аддзела тоўпіліся маладыя людзі, будаўнікі з іншых гарадоў, слалі віншаванні блізкім, быў пярэдадзень свята.

Уладзімір Паўлавіч узяў бланк і доўга не мог нідзе прымасціцца – усе месцы за сталом, ля стойкі і на падаконніку былі занятыя. Нарэшце на рагу стала напісаў на бланку, без адраса: «Памерла маці». Напісаныя словы набылі злавесную рэальнасць, і ён доўга не мог напісаць адрас, не адразу ўспомніў назву вуліцы, на якой размешчана бальніца.

Каму яшчэ слаць? Пустаходам? Цвёрда вырашыў: нельга – з-за Ірыны, з-за ўнука, бо раптам адчуў, што ён, гэты малюсенькі, як ніхто іншы, звязвае яго з жыццём. Дзеля малога трэба жыць! Вользінай сястры? Не мог успомніць нумар дома, у якім быў сто разоў.

Падышоў да стойкі, праз шкляны бар'ер працягнуў адзіную тэлеграму. Малады нахабнік штурхнуў яго плячом:

– Дзядзька, стань у чаргу!

Мабыць, некаторыя ведалі яго, бо засмяяліся.

Прыёмшчыца тэлеграм, сталая поўная жанчына, суседка па вуліцы, убачыла старшыню райвыканкома, ахнула, цыкнула на хлопцаў.

— Прабачце, Уладзімір Паўлавіч. Чаму вы самі? Давайце вашу тэлеграму.

Прачытала — жахнулася:

— Памерла Вольга Андрэеўна? О, Божа мой! Што ж гэта такое?

Чарга прыціхла, адступіла ад акенца, даючы Уладзіміру Паўлавічу месца. Ён абапёрся локцямі на бар'ер, убачыў, як у тэлеграфісткі закапалі на бланк слёзы.

— А Барысу? — спытала яна.

Уладзімір Паўлавіч адчуў, як з-пад ног яго паплыла падлога — адарвалася зямля. Вісеў на хісткай стойцы. Не адразу адказаў, прашаптаў, як сакрэт:

— Барысу? Барыс... у Афганістане.

— Зноў? Другі раз? Бога на іх няма, на камандзіраў такіх! Усё роўна на пахаванне маці павінны адпусціць.

І тут успомнілася ўчарашняя Вользіна просьба — апошняя і самая страшная. Не плакала яна ўжо колькі дзён. І ўчора была спакойная, нават па-жаночы дзелавая: давала яму гаспадарчыя парады — дзе што ляжыць, што перадаць Глебу, што — Ірыне. І раптам: «Валодзя! А цяпер просьба да цябе. Пакляніся, што выканаеш яе».— «Оля, хіба я магу не выканаць!» — «Прывязі Бору адтуль... другіх жа прывозяць... сыноў... І пахавай побач са мной».

Агромністы горкі камяк распёр горла, і ён не мог вымавіць слова. Але яна і не чакала адказу, убачыла па ім: выканае. І загаварыла пра штосьці другараднае.

Просьба яе гэтая не пакідала ні на момант і рвала сэрца на крывавыя шматкі. Самае страшнае, што такая матчына пераконанасць — неаспрэчнае пацвярджэнне, што Барыс загінуў. Цяпер ужо і ў яго не засталося ні кроплі надзеі.

Пытаннем сваім тэлеграфістка як бы прарвала глухую плаціну яго болю.

Уладзімір Паўлавіч закрыў твар далонямі і глуха зарыдаў.

Чарга маладых хлопцаў знямела: не кожнаму з іх давялося бачыць, каб гэтак плакаў мужчына.

Але тэлеграфістка здагадалася, што чалавек плача не па адной жонцы, але і па сыну... па сынах... І таксама заплакала.

Вольгу Андрэеўну хавалі шостага лістапада.

Горад, вымыты, адрамантаваны, заасфальтаваны, быў расквечаны чырванню сцягоў і транспарантаў, але выглядалі яны не святочнымі – жалобнымі.

Мноства людзей праводзілі нябожчыцу да могілак. Усе, нават тыя, хто даведаўся пра смерць Барыса, зналі пра хваробу Глеба, усё роўна лічылі, што маці – ахвяра радыяцыі.

Памочніцы Уладзіміра Паўлавіча ўсё зрабілі па-хрысціянску. У доме быў памінальны абед. І на памінкі з'явілася многа людзей. Доўга не сядзелі, выпівалі па тры чаркі і вызвалялі месцы для іншых. Прамоў не гаварылі. Каротка сказала Дар'я. Ды, выпіўшы, доўга гаварыў Пустаход. Іван і Марыя Пятроўна прыехалі – па іх заехаў Глеб.

Уладзімір Паўлавіч даў ім машыну, каб яны адразу ж, з абеду, вярнуліся да Ірыны, да маленькага Воўкі. Гэта быў адзіны клопат, пра які ён не забываўся. Доўга і настойліва прасіў іх не затрымлівацца. Ды і Глеба адпусцілі з бальніцы ўсяго на два дні.

Жанчыны засталіся ў доме прыбіраць. А ён пайшоў у райвыканком. Заўтра свята. Дэманстрацыі не будзе. Але клопатаў перадсвяточных нямала.

Ды ў будынак Уладзімір Паўлавіч не ўвайшоў. Убачыў у двары «газік», пастаяў каля яго ў глыбокай задуме. Запасныя ключы якраз ён насіў ад «газіка», сам, без шафёра, ездзіў пераважна на гэтым усюдыходзе – надзейна на палявых дарогах.

Завёў машыну, асцярожна выехаў на вуліцу. Хуткасць набраў за горадам. Пад'ехаў да дроту. Адчыніў вароты. Паехаў далей. Звярнуў з асфальту на прасёлак. А пасля – у поле, дзе на колы наматвалася высахлая салома нязжатага жыта. Пасля ехаў па лузе; першы мароз скаваў зямлю, трашчаў лёд на лужынах.

Выехаў на знаёмае месца пад дубам, дзе ў мінулыя добрыя вёсны і леты неаднойчы адпачывалі, любуючыся ракой і блізкім новым горадам.

Выйшаў з машыны.

Сцямнела. Ні горада, ні станцыі не было відаць. Але на саркафагу і на дзеючых блоках гарэлі яркія чырвоныя сігналы. Як сігналы трывогі. Стоп-сігналы: спыніся, чалавецтва!

Уладзімір Паўлавіч узняў над сабою сціснутыя кулакі:

— Стаіш? Свеціш? Паліш людзей? Спалі мяне! Не можаш? Не па зубах я табе? Скура ў мяне задубянелая! Свінцовая! Чуеш? У мяне свінцовая скура стала! — і павольна апусціўся на калені, ударыў кулакамі ў зямлю, крыкнуў ёй: — А ты чаму анямела, сціхла? Уздрыганіся!

Чалавек крычаў — зямля маўчала.

*1991*